Драматычныя творы лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі пісьменніка Васіля Ткачова шырока вядомы не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Спектаклі па ягоных творах ставяць прафесійныя і самадзейныя тэатры. У апошні час сцэнічнае жыццё набылі п'есы “Без Ягора будзе гора”, “Белы ліст”(“Апошні”), “Лялькі”, “Пераправа на Казанціп”, “Жаночы вулей” і іншыя. Творы напісаны жывой і вобразнай мовай, яны ўзнімаюць надзённыя пытанні нашага жыцця, вызначаюцца цікавымі сюжэтамі.

# Б Е Л Ы   Л І С Т

## (А П О Ш Н І)

***П’еса  ў дзвюх дзеях***

Д з е й н ы я   а с о б ы:

А с о к і н  Іван Мітрафанавіч – франтавік.

В і к т а р – сын Асокіна.

Н а т а л л я – жонка Віктара.

І в а н н а – праўнучка Асокіна.

К у л а к о ў Сяргей Дзям’янавіч – старшыня райвыканкама.

З і м і н а  Вера Міхайлаўна – чыноўнік райвыканкама.

Р а б о ч ы я (двое).

*Горад. Нашы дні.*

*Месца дзеі – кватэра; кабінет старшыні райвыканкама.*

### Д з е я   п е р ш а я

1.

*Пакой у кватэры Асокіна. Усё тут у стылі рэтра. Халадзільнік, шафа, кніжная палічка, стол… На відным месцы вялікі партрэт Марыі.*

*Асокін у прыўзнятым настроі. Ён некуды збіраецца. Чысціць абутак, прыбірае на стале. І паглядае раз-пораз на партрэт Марыі..*

А с о к і н. Што – здзіўляешся? Вось так і жыву, Марыя, як бачыш. Мітусня на мітусні. Здавалася б, што табе яшчэ, старому карчу, трэба? Сядзі і не рыпайся. Пенсія ёсць, хапае... Дык не ж – зрываюся іншы раз і бягу кудысьці, галаву задраўшы. Ну, у краму... справа зразумелая. Трэба. Але ж і далей яе, бывае, ногі занясуць... То на выставу якую, то яшчэ куды... Ты маеш рацыю, Марыя, цалкам згодны: жыццё – у руху. Вось і рухаюся. Варушуся. Але ж! Ледзь не забыўся! Я ж сабе новы касцюм справіў. Штаны на мне. Вось яны. Ну, як? *(Дэманструе).* А пінжак... Дзе ж пінжак? Зараз, зараз пакажу. *(Узяў у шафе пінжак з узнагародамі на лацкане, змахвае пылінкі).* Прыгажосць, а! Цуд! І ўсе мае ордэны і медалі хораша пасуюць да гэтага касцюма. А, як, Марыя?! А ты казала: схавай падалей узнагароды, а то ўкрадуць... па тэлевізары вунь паказваюць... У каго гэта ўкрадуць – у мяне, у Івана? Як бы не так! Была сітуацыя, калі Радзіму цалкам хацелі ў мяне увесці з-пад носу – а што атрымалася? Рукі абламалі... Усё, усё пры мне, дарагая. І там, наверсе, помняць!.. *(Тыцнуў пальцам угору).* Заўваж: так, так!.. Не забылі... Па сакрэту табе скажу: сёння чагосьці выклікаюць... Сам кіраўнік раёна... А? То-та ж! *(Накінуў пінжак на спінку стула).* Вось так, Марыя. *(І толькі цяпер звярнуў увагу, што на рукаве сарочкі боўтаецца на нітцы гузік).* Ніяк падрыхтаваўся адарвацца гэты нядобры гузік? Падобна на тое. Галоўнае – своечасова заўважыць... Дзе гэта ў мяне была іголка з ніткай? Зараз, зараз мы яго, гузік, прыхопім... мёртва... *(Начапіў акуляры. Стараецца прышыць гузік, не знімаючы сарочку: не атрымліваецца).* Ведаю, ведаю, калі б ты ўсё гэта бачыла, Марыя, то абавязкова сказала б: znімі, знімі сарочку, Іван: нельга на сабе прышываць гузік – памяць зашыеш. Ты, як заўсёды, маеш рацыю – маю памяць, Марыя, нельга, нельга зашываць... Ніяк нельга... Яна заўсёды са мной павінна быць, мая памяць... Без памяці мы ніхто... Аднак за мяне не хвалюйся – сваю памяць я ніколі не зашыю... хоць і лянуюся сарочку зняць...

Ну, халера! Не слухаецца іголка... не трапляю, куды трэба... Здаецца, прыцэліўся... Ты б яго, Марыя, гузік гэты хуценька б прышпандорыла... Рукі ў цябе спрытныя... Але абавязкова ўпікнула б, вялікую лекцыю прачытала б пра малюпасенькі гузік: як ты носіш сарочку, што ў цябе вечна гузім адрываецца? Акуратней трэба насіць. А вось у цябе нічога і ніколі не адрывалася, можна падумаць. Трэба ж! Усё ў мяне ды ў мяне. Гэта калі б дочкі блізка жылі – тыя б пастараліся па частцы кройкі і шыцця. На нявестку не спадзявайся. Ну ды і добра. А як нашы дзеці жывуць, пытаеш? Калі зачапіў – адкажу. Ды нармальна жывуць, нармальна. Не, зніму... *(Зняў сарочку).* Клава і Вера па-ранейшаму ў Карэліі... У Клаўкі, праўда, муж памёр... Недаперапіў... Нядоўга працягне і ў Веры – таксама п’е без меры... які ж арганізм вытрымае? Цябе б, Марыя, на іх наслаць, у цябе б яны, зяцькі, і вады хрэна з два выпілі. Колька наш, слава Богу, жыве добра... у яго ўжо ўнучка, відаць, сёлета медінстытут

заканчвае там жа, у Іжэўску… Віцька? Віцька ў мяне навідавоку. Ну, здаецца, парадак. *(Надзеў сарочку. Апрануў пінжак. Потым паставіў на стол пачатую бутэльку гарэлкі, чарку).* Такія вось справы, Марыя. Зараз хлопну чарачку. *(Прынёс з кухні яблык, пакрамсаў яго на долькі, напоўніў чарку, падняў).* Яблычкам закушу. І патупаем… А была б ты дома, абавязкова б бурчэла. Хрэна з два б выпіў. Ведаю цябе. “Навошта п’еш, Іван? *(Напоўніў чарку, падняў).* Табе што, свайго здароўя не шкада? Ну тады маё пашкадуй.” Што, скажаш, не казала так?  Не аднеквайся, не адпірайся, не трэба. Не будзем варушыць мінулае…  Тэ-тэ-тэ-тэ-тэ-э! Не тарахці! Заўсёды ты пад руку тарахціш, смала.  Ну і што гэта ў вас, у баб, за характар? Ні сабе, ні мужыку… Адкуль такі? *(Паднёс чарку да роту, затрымаў погляд на партрэце).* Што, зноў за сваё? *(Выходзячы з сябе).*  Ды ты можаш мне даць выпіць ці не?! Бачыш жа, не спіўся? Бачыш? Ну, канечне! Калі б я яшчэ не піў і не курыў, я б і зусім ніколі не памёр. Ведаеш, колькі мне ўжо? А вазьмі ды падлічы… я і сам забыўся – колькі… *(Прымірэнча).* Ну добра, добра, не крыўдуй, Марыя. Ну, а цяпер хоць, калі я сам гузік прышыў, можна мне чарачку хлопнуць? За цябе ж прышыў, між іншым, тваю работу выканаў. Улічы! А то б ты мне не дазволіла! Так я і паслухаўся б!.. Ну, з Богам… *(Толькі сабраўся выпіць, як дзынкнуў званок).* Каго яшчэ там прынесла нялёгкая? А-а, ты? *(Упусціў Віктара).*

В і к т а р. Я, я.

А с о к і н. Праходзь, праходзь, блудны сын. Дзе гэта цябе насіла?

В і к т а р *(амаль раўнадушна).* Свята, бачу? *(Адчыніў халадзільнік).*

А с о к і н. Не працуе… Усё яшчэ!

В і к т а р. Ды бачу, што не працуе. І ў мяне ўсё часу не хапае ўзяцца за яго: то адно, то ішнае… Як ты тут, бацька?

А с о к і н. Як бачыш. Чаму не заходзіш?

В і к т  а р. Звані, калі што. Тэлефон жа ёсць.

А с о к і н. Па тэлефоне гарбаты не пап’еш…

В і к т а р. Суп жа сам гатуеш?

А с о к і н. Даўно не ем супа.

В і к т а р *(абразліва).*  Халадзільнік… канешне… ніякі…Металалом. Друз.

А с о к і н *(рашуча).*  А я сабе новы куплю!  Ёсць трохі на кніжцы грошай…Вазьму, і куплю.

В і к т а р. Не хвалюйся ты, ды адрамантую я табе халадзільнік. Не трацься. І кафлю пакладу, дзе трэба.

А с о к і н. Кафлю мне сусед абяцаў…

В і к т а р. Ды кінь ты дурное – "сусед". Самі з вусамі. Чуеш? Дай трохі разгрэбсціся на рабоце…

А с о к і н. Ты гэта…усё папытаць у цябе мушу, але забываю… адзін жывеш… як і я?

В і к т р а. Ну, ты, бацька, даеш! Як гэта я адзін?! Ты што? Ужо трыццаць пяць год з Натахай! Ты што такое кажаш!? З чаго гэта ты ўзяў, а? "Адзін".

А с о к і н. Не чуў даўно тваёй Натахі і не бачыў, вось і падумаў. Мо памёрла, падумаў грэшнай справай…

В і к т а р. Не смяшы людзей. *(Узяў бутэльку, пакруціў у руках).* Што ў цябе тут за свята, пытаюся? А? *(Паставіў).*

А с о к і н. Свята, свята, сын.

В і к т а р. Ну, ну.

А с о к і н. У райвыканкам выклікалі. Сам старшыня патрабуе, каб прыбыў да яго. Тэрмінова. Неадкладна. Уласнай, так сказаць, персонай.

В і к т а р. Цікава, цікава. Навошта ж ты ім так тэрмінова спатрэбіўся?

А с о к і н. Там ведаюць. *(Сабраўся піць).*

В і к т а р *(рашуча прытрымаў бацьку за руку).* Ты што?! Бацька! Нельга ж піць, калі да начальства ідзеш. Яшчэ вазьмі цыбулінай закусі.

А с о к і н. Не вучы, сынок, татку кашляць. Кхе-кхе.

В і к т а р. Пахнуць жа будзе з роту.

А с о к і н. Абы з іншага месца не пахла. У бой іду. Зразумеў? Перад боем на вайне давалі па сто грамаў… За ўладу! *(Выпіў, закусвае скрылькам яблыка).*

В і к т а р. Што, у цябе і зукусіць няма чым? Толькі яблык?

А с о к і н. Харчы, разумееш ты, маюць адну кепскую прывычку – псавацца без халадзільніка. А халадзільнік ты мне ўжо больш года раматнуеш… Купіў – з'еў… Крам цяпер багата. На кожнага жыхара нашага гарадка, мусіць, ці не па адной.

В і к т а р. Добра, заўтра-паслязаўтра здам у рамонт твой халадзільнік. Так і быць. Кіну ўсё, і здам.

А с о к і н. Здай.

*Віктар хоча нешта сказаць, аднак не рашаецца.*

А с о к і н. Вось іду да старшыні райвыканкама, і хвалююся. Рукі ў мяне і так ужо трымцяць, а тут – такое... Падзея, можна сказаць. Падасці мне руку старшыня, а гэта ён зробіць абавязкова, а я вазьму ды і ад хвалявання не пападу ў яго руку сваёй пяцярней... размінуся.  А? Кеміш?

В і к т а р. Тады выпі яшчэ.

А с о к і н. Не, норма. Душа маладая, а для арганізму – хопіць. Доза. А ты ж чаго? Капні і сабе.

В і к т а р *( нервуецца).*  Ды не за гэтым я прыйшоў, бацька... Мне Натаха ўжо, між іншым, капнула дома. У сваім стылі.

А с о к і н. Што такое?

В і к т а р *(вагаецца).*  Маўчу!..

А с о к і н. Як хек...

В і к т а р *(думаючы пра сваё).* Які...хек?

А с о к і н. Рыба такая ёсць, сынок.

В і к т а р. А-а, зразумеў.

А с о к і н. У маладыя гады, калі толькі жыць пачыналі разам з мамай, яна мне сказала неяк... хоць і адзін раз усяго... сама ідылія сямейнага жыцця: ідзі, Вані, выпі сто грамаў... А я ёй: пачакай, любая, толькі вось падлогу дамыю... Прыемна ўспомніць.

В і к т а р. То ж мама, а гэта – жонка... розніца ёсць.

А с о к і н. Так! Мала часу застаецца. Магу спазніцца. Разбягаемся!

*Услед за Віктарам, абапіраючыся на кавеньку, выйшаў і Асокін.*

2.

*Кабінет старшыні райвыканкама. Традыцыйная абстаноўка.*

*Кулакоў  праціраe насоўкай акуляры.  Перад ім стаіць  Зіміна.*

К у л а к о ў *( у руху, раз-пораз заглядвае ў газету).* На першай паласе пачатак, на другой заканчэнне… І фота калі ласка табе! Ды бачыў, бачыў я гэтага чалавека! Знаёмы твар. Канечне, бачыў! *(Глядзіць на здымак у газеце).* “А-пош-ні”. І назва матэрыяла ў дзесятку. Рэспубліканская, між іншым, газета… Прыязджаў хіба калі-небудзь карэспандэнт, а, Вера Міхайлаўна?

З і м і н а. Быў. *(Падсоўвае паперку на подпіс).* Падпішыце вось тут…

К у л а к о ў. Падпішам, усё падпішам. Калі ласка. Выклікалі яго? Ідзе?

З і м і н а. Так.

К у л а к о ў *(памяркоўна-летуценна).* Што ж атрымліваецца, а? Заўтра ў вобласці… паслязаўтра ў краіне застанецца адзін… А сапраўды, а сапраўды, шаноўная Вера Міхайлаўна, гэты ж час павіненен некалі наступіць… калі будзе апошні франтавік і ў краіне… А мы жывём і не думаем пра гэта…Думаем пра малако, пра мяса, пра новы дом… пра трактары і камбайны…

З і м і н а. Мне можна ісці?

К у л а к о ў *(як і не чуе, узнёсла).* Падзея! Лёс! Калі яшчэ ён так, лёс, павернецца да цябе тварам? А, Вера Міхайлаўна?

З і м і н а. Вы аб чым?

К у л а к о ў. Галоўнае аказацца своечасова і ў патрэбным месцы! *(Паляпаў па свам крэсле).*

З і м і н а. Я свабодная?

К у л а к о ў. Шанц! А што б і сапраўды мы маглі зрабіць для яго такое, каб ён быў на сёмым небе ад шчасця? Зіміна? Вера Міхайлаўна? Апошні!.. У нас!.. *(Вытрымаўшы паўзу).* Не, не падумайце нічога благога – я не пра сябе думаю… Але ж бываюць, надараюцца ў жыцці моманты, калі ты можаш зрабіць для іншага чалавека нешта радаснае, значнае, чорт пабяры!…

З і м і н а *(нецярпліва).* Да мяне там прыйшлі людзі…

К у л а к о ў. А? Што мы можам для яго?… Каб здзівіць не толькі Асокіна – усіх каб здзівіць!.. А?.. Лаві момант, Кулакоў!

З і м і н а. Грашовую дамапогу акажыце…

К у л а ко ў *(здзіўлена-роспачна).* Многа грошай не дасі, мала – сорамна…

З і м і н а. Грамату выпішам давайце…А што мы яшчэ можам, Сяргей Дзям'янавіч, з нашым-та бюджэтам? .

К у л а к о ў. Ды гэта я разумею. Хаця адшчыпнуць на гэтую справу знойдзем што. І адкуль. *(Спахапіўся).* А бізнес?! Дарэчы!.. Бізнес – што, не павінен яму, Асокіну?

З і м і н а. У нас такі бізнес… Адна назва… Туалет на вакзале платны …

К у л а к о ў. Цяпер толькі і чакай карэспандэнтаў… з газет і тэлебачання… Першы званочак празвінеў… *(Патрос газетай).* На кватэру да яго прыйдуць. Гэта абавязкова. А ў яго, магчыма, тэлевізар лямпавы, шпалеры на сценах старэнькія, мухі ногі выцiралі…

З і м і н а. …лапкі.

К у л а к о ў. …пліта газавая першага выпуску… хай сабе і лапкі… І на экран і старонкі газет усё гэта выплюхнуць!.. Як, па-вашаму? І як мы будзем тады ўсім у вочы глядзець? Цяміце?

*Паўза.*

З і м і н а. Цямлю. Можа, я пайду?

К у л а к о ў. Апошні ветэран павінен нас запомніць на ўсё застаўшаеся жыццё…

Г о л а с с а к р а т а р к і *(па праводнай сувязі).* Сяргей Дзям'янавіч, да вас наведвальнік. Сяргей Дзям'янавіч! Асокін!..

К у л а к о ў. Чакаю! *(Зімінай).* Ззатрымайцеся!

*Заходзіць Асокін.*

А с о к і н *(прыняў стойку "смірна").* Здравія жалаю!

К у л а к о ў *(надта ветліва).* Добры дзень, добры дзень, Іван Мітрафанавіч! Праходзьце, родны вы наш! Праходзьце! *(Ідзе насустрач, злёгку абдымае Асокіна, перад гэтым патрос ягоную руку).* Даўно чакаю. А вы недзе затаіліся, а, Іван Мітрафанавіч? Нядобра так. Не партызан быццам бы, а? Ці былі і ў партызанах?..

А с о к і н. Хварэў…

К у л а к о ў. Вядома, вядома. Разумею: узрост. Нам бы, як кажуць, да вашых… Але трымайцеся, трымайцеся, Іван Мітрафанавіч! Мужайцеся! Вы нам яшчэ патрэбны! Ого як патрэбны!.. *(Дапамог Асокіну сесці, а потым заняў сваё месца за сталом. Учэпісты позірк на госця).* Слухаю вас, Іван Мітрафанавіч.

А с о к і н *(крыху разгубіўшыся).* А я ішоў вас… прабачце… слухаць… Выклікалі? Вы выклікалі мяне? Ці, можа, розыгрыш які?..

К у л а к о ў. Сапраўды, што ж я?.. Выклікалі, як гэта не, як гэта не!.. Дзеці ж – пішуць?

А с о к і н. Больш не тэлефоне…

К у л а к о ў. Так, так: хто цяпер, і сапраўды, піша? Не той час. Ну, пра жыццё мы потым пагамонім. У нас яшчэ будзе, спадзяюся, час. А пакуль прыступім адразу да справы. Што ж мы будзем, як кажуць, вала за хвост цягнуць, а?

А с о к і н *( злёгку ўсміхнуўшыся).* Паспрабуй яго пацягнуць, вала таго? Ён каго хочаш выцягне, а сам, калі загрузне, бедалага, выбрацца з багны не здолее.

К у л а к о ў. Вось як!.. Канешне, канешне: цэнтнеры! Якраз тыя цэнтнеры, якіх нам, кіраўнікам раёна, заўсёды не хапае да плана. І куды яны, валы тыя, падзеліся?

А с о к і н *(устаў, прапанаваў Зіміной сваё месца).* Вы прысядзьце, жанчына.

З і м і н а. Дзя… дзякуй.

К у л а к о ў. Ёсць, ёсць жа куды сесці. *(З дакорам).* Вера Міхайлаўна!

З і м і н а. Так-так, канечне. (С*ела).*

А с о к і н *(сеў).* На вайне здарылася… Перапраўляліся праз балота… Іншага шляху не было… Немец дапякаў… І наша гармата правалілася разам з канём… Ну, куды там каню?.. А ў вёсцы, што побач, вол у аднаго гаспадара меўся…не паспелі немцы з’есці, відаць… Вось ён і выцягнуў нашу гармату, вол…

*Паўза.*

К у л а к о ў.Шаноўны Іван Мітрафанавіч! Мы вось тут, у нашым цесным і вузкім коле, параіліся і рашылі… Вось вам чысты белы ліст паперы. Вось вам ручка. *(Паклаў паперу і ручку перад госцем).* І напішыце, што вам патрэбна…

А с о к і н. Не разумею…

К у л а к о ў. А што тут разумець, Іван Мітрафанавіч? Вы ж ваявалі?

А с о к і н. Ну, было… Не курэй жа шчупаў…

К у л а  к о ў. Вось і напішыце, што вам, франтавіку, трэба… Смялей, смялей! Вы маеце права…

А с о к і н. А, здаецца, зразумеў…

К у л а к о ў. Ну, вось і малайчына! Я ж ведаю, у вас светлая галава, Іван Мітрафанавіч. Чуў, як вы перад моладдзю выступалі… Пішыце, пішыце. Не саромцеся.

А с о  к і н. Здароў'е… трэба, здаецца?

К у л а к о ў.  Ну канечне! У першую, як кажуць, чаргу… Так-так… Помнім пра гэта, помнім. Санаторыямі ж не грэбуеце?

А с о к і н. Даўно быў…

К у л а к о ў. А дарэмна! Дарэмна, Іван Мітрафанавіч! Ну, ды гэта, як кажуць, ваша асабістая справа. Прапаноўваюць жа? Не адмаўляюць?

А с о к і н. Ды гэта так…

К у л а к о ў. Хай бы адмовілі толькі!.. Ну, ну!..

А с о к і н. Але ж далёка яны, санаторыі тыя, ад нас… Цяжка дабірацца… Дзякуй.

К у л а к о ў. Гэта вам дзякуй трэба сказаць, Іван Мітрафанавіч. Чаму не пішаце? Я ў вас пытаю: чаму марудзіце, чаму не пішаце?

А с о к і н. А што яшчэ можа быць мне патрэбна, акрамя яго, здароўя?

К у л а к о ў. Са здароўем мы разабраліся?

А с о к і н. Быццам. Хоць, адчуваю, ад таго, што мы пагаварылі, яго не прыбавілася.

К у л а к о ў. Газету ж выпісваюць?

А с о к і н. Цяпер туалетнай паперы хапае…

К у л а к о ў *(адчуў няёмкасць).* Цаню ваш гумар. Вам яшчэ, як кажуць, палец у рот не кладзі. А давайце мы зараз вось што зробім…пойдзем прасцейшым шляхам… Забярыце з сабой лісток, ручку таксама… *(Сілком усучвае паперу і ручку Асокіну.).* Дома спакойна сядзеце за стол, усё добранька ўзважыце, абмазгуеце, і напішаце…Не спяшаючыся… Не будзем гнаць коней. *(У селектар).* Машыну на выезд!.. Адвезці Івана Мітрафанавіча дадому!*(Збіраецца).*

Г о л а с  с а к р а т а р к і. Я вас зразумела, Сяргей Дзям'янавіч!

К у л а к о ў *(пакідаючы кабінет, дапамагае выйсці Асокіну).* Першы раз сустракаю чалавека, якому нічога не трэба. Ну, вядома, акрамя здароўя. А жыллё? Вы бачылі, якое сёння жыллё будуем? А, не? Шкада, шкада. А транспарт? А тая ж пральная сучасная… звышсучасная пральная машына хоць бы, а, Іван Мітрафанавіч?… Ды багата чаго трэба, багата, Іван Мітрафанавіч!.. Тэлевізар новы!… Халадзільнік!.. Камп'ютэр!.. Пішыце ўсё, выканаем!..

А с о к і н *(затрымаў хаду, затрымаў і позірк на старшыні райвыканкама. Крыху з іроніяй).* Акрамя, мусіць, касмічнага карабля?

К у л а к о ў. Ну, гэта пакуль, даруйце, не ў нашых сілах… *(Смяецца).* Але– пакуль, Іван Мітрафанвіч!.. Пакуль, шаноўны мой!..

*Асокін выходзіць.*

З і м і н а. Навошта вы так авантурыстычна з ім?

К у л а к о ў. Нічога не разумею. Аб чым вы?

З і м і н а. А калі ён і сапраўды складзе спіс, што яму патрэбна… Куды хавацца будзем? У нас, даруйце, бомбасховішча ў горадзе няма.

К у л а к о ў. А нікуды хавацца не будзем.

З і м і н а. Думаеце?

К у л а к о ў. Думаю.

З і м і н а. Смелы вы чалавек, Сяргей Дзям'янавіч.

К у л а к о ў. Наколькі я разумею, вы не хацелі б, каб Асокін скарыстаў той чысты лісток паперы?

З і м і н а. Вядома ж, не. Тут і не можа быць іншага адказу. А вы самі, Сяргей Дзям'янавіч, што – хацелі б хіба? Нешта я вас не магу зразумець.

К у л а к о ў. Шчыра?

З і м і н а. А інакш і нельга…

К у л а к о ў. Хацеў бы.

З і м і н а. Тады вам давядзецца аддаць сваю кватэру… халадзільнік… камп'ютэр… На тэлевізар, спадзяюся, нашкрабем агульнымі намаганнямі…

К у л а к о ў. Яму, Івану Мітрафанавічу, аддаў бы… Чалавек заслужыў…

З і м і н а. Мне увогуле не падабаецца ваш жэст. Авантурызм гэта ўсё. Чалавек што, на вуліцы жыве, пад голым небам? На раскладушцы спіць? Можна, я усё ж пайду? *(Выходзіць).*

К у л а к о ў. А як хочацца і на самой справе іншы раз адчуць сябе Богам! А няхай бы напісаў!..

*Кулакоў сабраўся некаму тэлефанаваць.*

3.

*Віктар і Наталля ў сваёй кватэры.*

Н а т а л л я *(злосна).* Тады чаго ты хадзіў, калі пабаяўся нават рот раскрыць, час бавіў?

В і к т а р. А што, проста так да бацькі і зайсці нельга? Паглядзець, як ён жыве? Нельга, так?

Н а т а л л я. Ай, ды што з табой гаварыць, размазня і ёсць размазня!

В і к т а р. Твае ж калі жылі, ты ж у іх і прападала.

Н а т а л л я *( вокрыкам).* Што ты прычапіўся да маіх бацькоў?! Дай ім хоць спакойна на тым свеце ляжаць! Адстань ад іх, карнік! Божа, і з кім я жыву? Госпадзі!..

В і к т а р. Не змог я пачаць з бацькам размову... Ну, не змог... Верыш? Не хапіла духу...

Н а т а л л я. Што, мне самой пайсці да яго?

В і к т а р. Ідзі. Ідзі, ідзі.

Н а т а л л я. Не гані. Тут ты герой! Ажно некуды!.. Пецька на прыватнай кватэры з Валькай і двума дзецьмі жыве, а дзед наш адзін сядзіць у двух пакоях! Як пан! Ці алігарх той! Бачылі такое? Які ж гэта дзед, калі здзекуецца над маладымі, адымае ў іх радасць жыцця? Апошні свежы глыток паветра?.. Ён стаў чужым не толькі для іх, адчуваю, але і для мяне.

В і к т а р. Замаўчы ж ты нарэшце! Суціхні!

Н а т а л л я. Бі! На! Удар! *(Наступае на мужа, той адштурхнуў яе).* Людзі! Людзі! Забі зусім!.. Чаго ж ты? Забівай!.. Давай!.. Да канца!.. У цябе хопіць на гэта розуму і сілы!..

В і к т а р. Дурніца ты.

Н а т а л л я. Затое з разумным жыву! На дваццаці квадратных метрах!

*Паўза.*

В і к т а р. Ён ужо адзін раз унука выручыў – хопіць.

Н а т а л л я. Толькі я нешта не чула, каб хоць каму ён памог, бацька твой? Усё пад сябе і пад сябе, як курыца тая, грабе. Дзе, калі ён памог унуку, Пецьку нашаму? Што ты вярзеш?

В і к т а р. Раней было… пры дэфіцыце… што, не помніш хіба, калі на аптэцы аб’яўка вісела: “Прэзерватывы прадаюцца толькі ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны”?

Н а т а л л я. Які бацька, такі і сын. Аднаго поля ягада.

В і к т а р. Схадзіў, прынёс. Чаго ж ты? Ці не было? Пецька наш рады быў… Асабліва Валька… Яго, між іншым, сёння улада выклікала.

Н а т а л л я. Ты пра каго гэта?

В і к т а р. Не пра цябе ж!

Н а т а л л я. А, пра татку, пра каго ж яшчэ? А я, дурніца, пытаюся. Капейку грошай ён хоць раз даў табе? Даў?

В і к т а р. А я што, не зарабляю?!

Н а т а л л я. А куды тады ён сваю пенсію дзявае? Кольку адсылае, мабыць. У таго і так з роту валіцца. Ці ў Карэлію дочкам. А сыну, які побач, – во! *(Паказала кукіш).* Таму што ён цябе за чалавека не лічыць. А тыя і раскашуюць! Запанелі, што і не едуць!.. Жываты ўжо, відаць, у дзверы таго поезда не ўціснуцца…

В і к т а р. Былі ж, як матка памерла…

Н а т а л л я. Прыедуць, не пярэчу, як і бацька памрэ. Толькі пакуль яны збяруцца, усё ляжа на нашы плечы… На гатовенькае і прыедуць! Радуйся!

*Паўза.*

В і к т а р. Ну што, супакоілася? Усё ў цябе?

Н а т а л л я. Быццам… Ты ж мяне ведаеш… мне тады лягчэй робіцца, калі трохі глотку падзяру…

В і к т а р. А што да бацькі, то я сам чуў, як мама, паміраючы, сказала яму:”Жыві, Іван, адзін… Няхай не крыўдуюць дзеці, але і і да іх не ідзі, і іх

не бяры да сябе, пакуль трохі ногі цягаеш, і кватэру не дзялі… Нам яна, кватэра гэтая, дужа цяжка дасталася… Я б вельмі хацела, каб і твая труна стаяла ў нашай кватэрцы… Дай мне слова, Іван… Тады я спакойна памру…” Бацька даў слова. Я чуў іх апошнюю развітальную размову. Так што, Наталля, прабач…

Н а т а л я. Яна так і сказала?

В і к т а р. Так.

Н а т а л л я. Ты нешта ўтойваеш? Яна так і сказала?

В і к т а р. А што яна яшчэ магла сказаць, калі за той час, які мы жылі разам, ты двойчы маю маму даводзіла да інфаркту…

Н а т а л л я *(нервова).* Ну вось – зноў я крайняя! Павешуся!..

В і к т а р. Крыўдзіла ты маму… За ўсё трэба плаціць…

Н а т а л л я *(мяняе тэму размовы).* Ну добра, добра. Паслухай, Віктар, а навошта яго ўлада выклікала, а?

4.

*У кватэру вяртаецца Асокін.*

А с о к і н. Добры дзень, маё разбітае карыта! Залатая рыбка, ты дзе-е? Падплывай, падплывай да мяне, будзем разам кумекаць, што нам трэба… *(Стомлена сеў на табурэт. Потым адразу ж устаў, узяў ручку, ліст паперы, разгладзіў яго на стале. Нарэшцераспрануўся, пінжак павесіў у шафе, прыбраў са стала пачатую бутэльку, чарку).* Ну дзе ты, рыбка? Ага, з’явілася! Сяджу, як бачыш, перад разбітым карытам… А ты, кажуць, можаш мне нават Палац прыпаднесці… Давай, давай, нешта ты задумалася? Прыпаднось. Чакаю. А рыбка, падобна на тое, вільнула хвосцікам, знікла? І канец казцы – так атрыліваецца? *(Раптам парваў лісток, кінуў шматкі на стол. Мітусіцца. Сеў. Устаў. Згроб шматкі паперы, вынес. Узяў новы лісток, пакруціў у руках, паглядзеў праз яго на свет).* Белы… Чысты… Але – не празрысты: нічога не відаць…. Цемра толькі… Ну, і што далей, Асокін? Што гэта з табой? Ніяк разгубіўся, здрэйфіў, а, Іван? Што гэта – і рукі дрыжаць? *(Выцягнуў рукі).* Дрыжаць… ёсць крышку. Вось як бывае – на вайне ўцалеў, а перад нейкім чыстым лістом паперы паў смерцю храбрых, атрымліваецца… Бывае… Усё бывае ў гэтым жыцці… Прадчуваю лабавую атаку… Ці знайду чым адбіцца? Ці нашкрабу сіл?..

*Званок.*

Іду! *(Упускае Віктара. Той з барсеткай).*

В і к т а р. Я за халадзільнікам. Дамовіўся з суседам. Зараз і адвязём. Унізе чакае. Ды ты яго ведаеш – Хмыкін… Якраз падвярнулася магчымасць… Ну, што там у цябе? У райвыканкаме? Чаго выклікалі? *(Паклаў барсетку на табурэт).*

А с о к і н. Прысядзь.

В і к т а р. Ды няма калі рассядацца. Дапамажы лепш халадзільнік на плечы ўзяць.*(Прымяраецца да халадзільніка).*

А с о к і н. Прысядзь. А суседу дай каманду, каб ехаў па сваіх справах.

В і к т а р *(здзіўлена).* А што такое?

А с о к і н. Рабі так, як я гавару. Ну, давай, давай.

В і к т а р. Дык… а з халадзільнікам як быць? Потым зноў будзеш мяне папракаць.

А с о к і н. Не буду.

В і к т а р. Ну, глядзі сам. Каб не было потым лішніх размоў… *(Выходзіць).*

А с о к і н *(набірае нумар на тэлефоне).* Добры дзень. Кватэра Тарасавых? Пазавіце, калі ласка, Якава Іванавіча? Што…што?! Ён памёр?! А чаму ж я не ведаў? Хіба далёка жыву? Бывайце… *(Паклаў трубку, потом зноў набірае нумар).* Кватэра Данілавых? Яўгена Юр'евіча, калі ласка, паклічце. Як? Што, і яго няма ўжо? Два гады як?.. *(Павольна паклаў трубку. Потом зноў набірае нумар).* Куды я трапіў? Так, так, правільна: я і тэлефаную Касаковым… унучачка мая дарагая… А дзядуля твой дома? Няма? Дзядулю ў ямку закапалі? Пад дрэвам?.. *(Паклаў трубку, затым парваў паперу на шматкі і падкінуў іх над сабой. Атрымаўся феерверк. Падышоў да акна)*. Паехаў… Хай бы адвёз халадзільнік у рамонт…*(Узяў у куфры пачатую бутэльку, чаркі, напоўніў тры і чацвёртую для сябе, зноў парэзаў яблык).* Што ж вы, хлопцы, так, а? Пайшлі ў свае баявыя палкі, а я і не ведаю. Што ж гэта за дзеці ў нас такія?! Каго вырасцілі?! Што, хіба цяжка было паведаміць? У адным жа горадзе жывём…Ці баяліся, можа, што аб'ядом, абап'ем, а?.. Хутчэй закапаць у зямлю, і гара з плеч!.. Хай пухам будзе зямля вам, салдаты… *(Выпіў. Стаіць, схіліўшы галаву, перад сталом).* Ды я сам, сам вінаваты, што ўсё так атрымалася, канечне ж!… Навошта кагосьці вінаваціць? Сам, сам вінаваты!..

*Вяртаецца Віктар.*

В і к т а р. Барсетку забыўся. А там у мяне і праязны, і цыгарэты, і запальнічка. Усё там. Зноў на стале чаркі, бутэлька? Што з табой, пахан? А на падлозе… як зразумець? Нібы восенню ў парку лісця… Толькі ж што нічога не было… Які дакумент парваў? Ці пісьмо, мо, ад каго атрымаў гнеўнае, а, тата? *(Падняў некалькі паперак, разглядвае).* Чыстыя быццам кавалачкі… белыя… Нічога не зразумею. Навошта рваць трэба было і смеціць у пакоі?

А с о к і н *(роздумна).* Тарасаў… Данілаў… Касакоў… Няма хлопцаў, усе памёрлі, а мяне нявбляць паперу пісаць… Хацеў даведацца, ці давалі ім такія чыстыя лісты, аднак не паспеў…

В і к т а р. Што сёння за дзень! Узяў адгул, і кату пад хвост…. Там – Натаха, тут – ты!.. Ты можаш мне сказаць урэшце рэшт, што з табой робіцца?!

А с о к і н. У райвыканкаме сам Кулакоў даў мне чысты ліст паперы…

В і к т а р. Даў ліст… І што далей?

А с о к і н. А далей пайшла нейкая… як бы табе больш правільна сказаць…пайшла гульня …як у той казцы пра старога Хатабыча: загадай любое жаданне, і ўсё, што табе хочацца, атрымаеш…

В і к т а р. Даруй, тата, але я усё роўна нічога не разумею.

А с о б і н. І я.

В і к т а р. Што, улады ніяк абяцалі, здагадваюся, выканаць тваю любую просьбу?

А с о к і н. Ну, гэта ты мелка капаеш. Бяры глыбей.

В і к т а р. Дзве… просьбы? Тры?

А с о к і н. Капай на поўны заступ, сын!

В і к т а р *(энергічна).* Я за паперай! Ці ў самога ёсць?

А с о к і н. Здагадлівы ты, Віцька, хоць і двоечнікам быў. Не, няма. Я нікому не пішу, ніхто мне не піша.

В і к т а р. Дык а парваў навошта?

А с о к і н. Несправядлівасць ухіляў… даў пад дых ёй…

В і к т а р. Сяду. *(Сеў).* Давай па парадку. Табе далі ліст, каб ты напісаў заяву з просьбай нешта табе, як франтавіку, выдзеліць. Так?

А с о к і н. Каб жа! Ого, каб толькі “нешта”. Прасі, кажа сам Кулакоў, што хочаш. Усё, кажа, дадзім. І вокам не міргнем. І тэлевізар самы новы, і пральную машынку, і камп’ютэр… трасцы  б ён мне здаўся…

В і к т а р. Пецька, Пецька хоча камп’ютэр!

А с о к і н. І кватэру, кажа, дадзім. Новы праект. Прымушаў у сваім кабінеце пералічыць, што мне трэба,  але я разгубіўся неяк зусім… раскіс…як стары грыб… язык праглынуў усё адно як…нічога не зразумею… што ён хоча ад мяне. На вуліцы толькі ачомаўся крыху. А зусім прыйшоў у сябе, калі вось пазваніў ім, хлопцам, сваім франтавым дружкам…

В і к т а р  *(устаў).* Я прынясу табе чысты ліст паперы, бацька! Гэта ж шанц! Сядзі дома і чакай мяне! *(Таропка накіраваўся да дзвярэй).*

А с о к і н.  Нічога я пісаць не буду. Не старайся дарэмна. Не трэба.

В і к т а р. Чаму?

А с о к і н. Акрамя спакусы, я ў гэтым нічога больш не бачу…

В і к т а р. Ты дзікі чалавек,  бацька! Выкапень!..

А с о к і н. Які ёсць ужо, даруйце. *(Вытрымаўшы паўзу).* Другі раз у мяне такое вось у жыцці… калі проста так… на табе, і ніякіх пытанняў… Раніла мяне тады… Ляжу на плашч-накідцы, уся яна крывёю заліта… маёй… А пяхота наступае… І байцы, праходзячы каля мяне, кідаюць мне хто што… хто залаты пярсцёнак… хто гадзінннік… хто грошы…. Не верылі, што вернуцца… Ішлі на смерць… А табе, маўляў, артылерыст, пасля шпіталя спатрэбіцца…

В і к т а р. Але ўсё ж тое ты тады  ўзяў, відаць?

А с о к і н. А ты б бачыў вочы тых байцоў!  Як было не ўзяць – столькі ў іх вачах было ўсяго адразу… і мальбы, і жалобы, і надзеі… Гэта я пазней зразумеў: тады я для іх, салдат, быў намнога вышэй, а не такі, як яны самі… Можа нават яны на мяне маліліся, як на ікону… як на святое нешта…  Выратуй і зберажы… Зберажы і выратуй…

*Віктар рашуча выходзіць.*

5.

*Кватэра Асокіна. З’яўляецца  Наталля. У руках – па сумцы, набітай падзавязку.*

Н а т а л л я *(энергічна).* Дзе вы тут, Іван Мітрафанавіч? Ку-ку. Дзіўна – дзверы адчынены… *(Паставіла сумкі).* Фу-у, ледзь дапёрла. *(Гукае).* Гаспадар! Мітрафанавіч!

*З'яўляецца Асокін. Здзіўлена глядзіць на Наталлю.*

Н а т а л л я. Добры дзень, кажу!

А с о к і н. Добры…

Н а т а л л я. Што ж вы не заходзіце, Іван Мітрафанавіч? Нядобра так. Ну, ды і ладна. Гэта паправімая справа…Не ў розных жа гарадах жывем, так? *(Выкладвае з сумкі пакункі, распіхвае іх па розных палічках, нешта пакладзе і ў халадзільнік).* Не ідзе гара к Магамеду, Магамед сам ідзе к гарэ. Цукар. Каўбаска. Кансерва. Цюлькі. Алей. Вы елі сёння што з раніцы ці так… свежым паветрам абыходзіцеся, а, Іван Мітрафанавіч?

*Асокін не адказвае.*

Паешце каўбаскі. Свежанькая. Ажно з Ваўкавыска прывезлі да нас… Нож? Ага, вось ён. Зараз мы, зараз… *(Спрытна рэжа каўбасу, хлеб).* Пакуль перакусіце, Іван Мітрафанавіч, а пазней я вам боршч прыгатую. Ці супчык. Падсілкуйцеся. Што гэта я вас сёння не пазнаю? Есці пададзена! Калі ласка! А я прыбяруся трошкі. *(Праціраe пыл, падмятае; не ведае, за што ўхапіцца).* Цёпла сёння. Плюс дваццаць пяць. Калі не хочаце есці, пагуляйце. Паветра пахне водарам кветак… Пылу набралася – божа!.. Так і здаецца, што тут ніхто ніколі і не праціраў, і не падмятаў. Было б добра, калі б я памылілася.

А с о к і н *(надзіва спакойна).* Вы – хто?

Н а т а л л я *(аслупянела).* Паўтарыце, што сказалі.

А с о к і н. Вы – хто?

Н а т а л л я. Ой, прыкідваецеся? Дык жа Натаха я, Віцькава жонка.

А с о к і н. Не можа быць!

Н а т а л л я. Каб ведала, пашпарт прыхапіла б. Хто ж думаў, што свёкар нявестку не прызнае?

А с о к і н. Натаха – не такая. Не кажыце мне глупстваў.

Н а т а л л я. А якая ж яна? З рагамі? Дык я ж не мужчына. Х-хі-хі!..

А с о к і н. Не прыкідвайцеся. Натаха ніколі нічога не прыносіла, ніколі нічога не праціраала і ніводнага разу не брала ў мяне венік у рукі… Што вы такое гаворыце, жанчына?!

Н а т а л л я. У вас, часам, Іван Мітрафанавіч, з галавой усё ў парадку?

А с о к і н. Забірайце сваю каўбасу, алей з цукрам, цюлькі – і ачысціце пакой!.. Я зразумела сказаў?

Н а т а л л я. Тады пароль… Вось, вазьміце. *(Дастала з сумкі пачак паперы).* Папера. Віктар прасіў прынесці вам адзін лісточак, але па адным лісточку не прадаецца…На жаль. Магчыма, спатрэбіцца. Бярыце, бярыце. На добрае дзела не шкада. Можна патраціцца, калі яно спаўна акупіцца.

А с о к і н. Вы пра што гэта, спадарыня?

Н а т а л л я *(паклала пачак паперы на стол).* Я вам, так і быць, дапамагу. *(Выцягнула з пачкі некалькі лісткоў).* Віктар сказаў, што ручка ў вас ёсць. Ручку не купляла.

А с о к і н. Дзе ён сам, блазнюк?

Н а т а л л я. Вы хіба свайго сына не ведаеце? За дзвярыма стаіць… А мо пад куст схаваўся… Трус ён! Заяц у параўнанні з ім – тыгр!..

А с о к і н. Што табе трэба ад мяне, Натаха?

Н а т а л л я *(усміхаецца, лагодна).* Вось гэта іншая размова. Мяту далей. *(Падмятае).*

А с о к і н. Чыста ж… Я сам, дарэчы, сёння ўсё працёр, падлогу падмёў.

Н а т а л л я. Няўжо?

А с о к і н. Так-так.

Н а т а л л я. А я і не разгледзела. Што значыць без акуляраў жанчына! *(Прыгледзелася да падлогі, прайшлася пальцамі па рэчах).* Сапраўды, чыста.

А с о к і н. Так што дарэмна старалася, Натаха!

Н а т а л л я. Хто сказаў?

А с о к і н. Я.

Н а т а л л я. Кіньце прыкідвацца, Іван Мітрафанавіч, ягнём. Вы ж усё разумееце. Ці не?

А с о к і н. Гаварыце, гаварыце. Прыемна паслухаць.. разумнага чалавека..

Н а т а л л я. Акадэміяў я, як вы ведаеце, не заканчвала… Згодна. Тут вы трапна. Аднак у тым-сім разбіраюся. Валаку. Ваш сын, дарэчы, таксама слесар… Гэта між іншым. Што ж тычыць перспектывы, то я не для

таго патраціла пятнаццаць тысяч рублёў з-за аднаго лісціка, каб вы адразу ж станавіліся на дыбкі…

А с о к і н. Улаўліваю. Ну,ну.

Н а т а л л я. Пішыце. Бярыце ручку і пішыце. Калі вам нічога не трэба, то трэба нам. Нам, разумееце? Такую магчымасць нельга упускаць. Ні ў якім разе. Нас жа дурнямі палічаць. Ідыётамі.

А с о к і н. А пры чым тут вы? Вы пры чым тут, а?

Н а т а л л я. А пры тым, што я вам не чужы чалавек.

А с о к і н. З якога гэта часу не чужы?

Н а т а л л я. Я нарадзіла вам унука Пецьку. Я гатую есці вашаму сыну…стараюся, каб у чыстым спаў і хадзіў… Гэтага мала?

А с о к і н. Ведаеш, што?..Пакінь мяне!..

Н а т а л л я. Што, парожні рэйс?

А с о к і н. Пусты… можна і так сказаць. Нам няма больш аб чым гаварыць.

Н а т а л л я. Як гэта няма? Бач ты яго – “пакіньце мяне!”Ні-за-што! Сяду. *(Села).* Не скрануся з гэтага месца, пакуль не напішаце на чыстым лістку, што нам трэба… Мне, Віцьку-дуралею, Пецьку. Не сыйду!

*Асокін выходзіць.*

Пасядзіце. Так-так, і падумайце. Усе добрыя думкі звычайна прыходзяць іменна там… у прыбіральні. А чаго ж я сяджу? Дзе папера? *(Села за стол, падрыхтавалася пісаць).* Іван Мітрафанавіч! Не адцягваю ўвагу? А? Маўчыць. Мы і самі з вусамі. Так, што нам трэба? Новую пральную машыну – раз… Не-не! Спярша кватэру ў самым прэстыжным раёне. Ці няхай нам гэтую аддае… Мы потым дамовімся, было б што мяняць…

*Званок у дзверы.*

*(Падбягае да дзвярэй).* Хто там?

Г о л а с. Вам тэлеграма. Прыміце і распішыцеся.

Н а т а л л я *(ручка аказалася ў яе).* Давайце. *(Адчыніла дзверы, узяла тэлеграму).*

Г о л а с. А вы хто будзеце? Тут жа ўказаны канкрэтны адрас: Асокіну.

Н а т а л л я. Не бойцеся, чужыя тут не ходзяць… *(Вярнулася да стала, чытае тэлеграму).* “Дзядуля… сустракай… прыязджаю сёння… Іванна”. А ёй яшчэ што тут трэба, Іванне? Так-так… Пачынаю здагадвацца… Вось чаму ён не хоча нічога пісаць…Зразумела. Спецыяльна для гэтага, значыць, выклікаў праўнучку. Што ж я адразу не здагадалася, а? Цяпер чакай усіх… наляцяць, як мухі на мёд. І ўнукі, і праўнукі…І як гэта мы зусім ўпусцілі гэты момант?

*Шум вады зліўнога бачка.*

*(Хавае тэлеграму пад адзенне).* Не атрымаецца!

*З’яўляецца Асокін.*

*(Лісліва).* З аблягчэннем вас, Іван Мітрафанавіч.

А с о к і н. Гэта хто прыходзіў?

Н а т а л л я. Адрасам памыліліся. Можа, збегаць у краму?

А с о к і н. Навошта?

Н а т а л л я. Прынесці чаго-небудзь…

А с о к і н. Магу пачаставаць.

Н а т а л л я. Дык у чым справа, Мітрафанавіч!

*Асокін ставіць на стол графінчык, келіх.*

Вось гэта іншая размова! Гэта па-нашаму. А чаму адзін келішак? Вы што, мяне не ўлічваеце, за чалавека зусім не лічыце?

А с о к і н *(напоўніў келіх).* Калі ласка. Бяры, Натаха.

Н а т а л л я. А-а, усё ж прызналі. А куды вы дзенецеся, Іван Мітрафанавіч? Супраць фактаў не папрэш. Я, я!.. Ну дык што, так і будзем?..

А с о к і н. Не разумею…

Н а т а л л я. У кошкі-мышкі гуляць?

А с о к і н. Шкадую, што ўзяў той чысты лісток паперы. Не трэба было гэтага рабіць.

Н а т а л л я. Вы… прабачце, дзікі чалавек, Іван Мітрафанавіч! *(Перакульвае келіх).* Закусіць! Я згодна з Віцькам. А нясмачная!.. *(Закусвае).*

А с о к і н. Які ўжо ёсць. Тут нічога не паробіш. Паўтару гэта яшчэ раз.

Н а т а л л я. А можна!.. А можна парабіць!.. Вам падвярнуўся шанц хоць раз у жыцці дапамагчы сваім дзецям, а вы яго ўпускаеце. Вы ж потым сабе не даруеце за гэта, увесь час дакараць сябе будзеце. Локці кусаць…Вы паглядзіце, што вакол робіцца? Чые дзеці брукаванку кладуць, аптэкі адчыняюць, прэстыжныя крамы? Адкуль у іх, малакасосаў, такія магчымасці?

А с о к і н . Не мая справа.

Н а т а л л я. Вось гэта і кепска, што не ваша. А вы б хоць раз задумаліся. Пашурупілі б хоць раз…Бярыце прыклад з бацькоў якраз вось тых аптэкараў. Ды і ў параўнанні з імі вы – дробязь. Даруйце, не у тым плане… Не як чалавек, а як – спонсар… Яшчэ вып’ю. *(Выпівае).* Добра пайшла. Давайце дзейнічаць, Іван Мітрафанавіч. Што вам каштуе напісаць некалькі слоў дзеля нашага з вамі дабрабыту? А? Іван Мітрафанавіч! Ну родненькі, ну міленькі!.. Вось ручка, вось папера… А паперы ў нас – можам раман напісаць. Агату за пояс заціснем. *(Села за стол).* Дыктуйце.

А с о к і н. Я не настаўнік.

Н а т а л л я. Што ж гэта атрымліваецца? “Я не настаўнік”. А хто ж тады вы, Іван Мітрафанавіч? Хто? Кожны бацька для сваіх дзетак настаўнік, у некалькі разоў вышэй за таго, якога вы маеце на ўвазе – вышэй за школьнага настаўніка. Так і быць: я ўсё сама напішу, а вы падпішацеся.

А с о к і н. Не смець! *(Стараецца выхапіць лісток паперы).*

Н а т а л л я. Не аддам! Я купляла!

А с о к і н. Забірай усё, што прынесла, і к чортавай матары!.. Ну,каму сказаў? Ачысці пакой і маю душу.

Н а т а л л я. Ну, я правільна сказала: дзікун. Вас у музей трэба здаць. Каб усе прыходзілі і дзівіліся.

А с о к і н. Марш! Прэч!..

Н а т а л л я. Усё, развод! Хопіць жыць з сынам дурнога бацькі! Надакучыла! Абрыдла!

А с о к і н. Твая справа. Ніхто яшчэ пасля скасавання шлюбу не памёр.

Н а т а л л я. Няпраўда. Былі выпадкі. Вып’ю яшчэ… на дурніцу. Не так выпіць хачу, як хочацца мне хоць кавалачак нечага ўзяць у вас…адшчыпнуць.. Хоць гэтых пяцьдзесят грамаў – і тое, глядзіш, нешта перапала ад бацькі… ад свёкра… *(Выпівае).* А гэтая пайшла яшчэ лепш. Фу! Ну дык што глядзіце на мяне так, Іван Мітрафанавіч, быццам Ленін на буржуазію?

А с о к і н. Здаўся табе Ленін. Багата ты ведаеш пра яго.

Н а т а л л я. Раз-вод. Тады я пагляджу, як запяе Лазара твой сынуля.

А с о к і н. Усё ў цябе?

Н а т а л л я. Каб жа! Я больш скажу вам, шаноўны татуля і дзядуля. Пецька, твой унук, – зусім табе і не ўнук... *(Рагоча).* Дакладваю!.. Як на духу!.. Я нарадзіла яго не ад Віктара... каб ведаў і асабліва хвост не петушыў, дзядуля!.. Хопіць? Ці яшчэ што сказаць?

А с о к і н. Ну і дура!

Н а т а л л я. Якая ёсць. З кім павядзешся... Не радуецеся, бачу, навіне?

*Асокін спакойна узяў "трывожны" чамаданчык, выняў адтуль белы ліст паперы, парваў яго, затым кінуў кавалачкі на стол.*

Што, што гэта, Іван Мітрафанавіч? А? Што гэта? Што? Што, а? *(Похапкам разграбае кавалачкі, складвае тэкст, Асокін тым часам выходзіць).* "Даравальная на кватэру...унуку... Пятру Асокіну..." *(Услед Асокіну).* Іван Мітрафанавіч! Вярніцеся! Іван Мітрафанавіч!.. Родненькі!.. Куды ж вы, шаноўненькі мой? Я ж... я ж... нагаварыла на сябе... ўсяго-наўсяго... А ён і паверыў...Нагаварыла я!.. Нагаварыла!... Ну, і чаго я дабілася, дурніца?! Божа! Што я нарабіла?!.. *(Выходзіць).*

6.

*У кватэры адзін Асокін. Перад партрэтам жонкі.*

А с о к і н. Чуеш мяне, Марыя? А хто ж яшчэ, калі не ты, мяне пачуе. Тут такая катавасія атрымліваецца... Усё сапсаваў той злашчасны белы ліст паперы... Перакуліў жыццё ён... Хаця гэта яшчэ паўбяды – асірацеў я...Зусім адзін застаўся... Хлопцы мае пайшлі адзін за адным...Дзеці іх, ты чуй-ка, нават не паведамілі... у газеце таксама не сустракаў спачування нябожчыкам... Міма мяне прайшло ўсё гэта... Міма... Хаця я і сам вінаваты: усё збіраўся патэлефанаваць, пацікавіцца, як жывуць яны, сябры мае... ды адкладваў раз-пораз... Думаў, зраблю гэта заўтра, а заўтра – паслязаўтра...Эх, ды што там!.. Мог бы і насцярожыцца: а чаму гэта яны маўчаць? Мог бы, а не зрабіў... не насцярожыўся... Кулакоў вось выклікаў... Прасі, што хочаш... Пішы... Хоць кватэру, хоць халадзільнік, хоць што прасі... Бач, якая ўвага! А тут разабраўся – аднаму мне яна прадназначаецца... Так не сумленна, так не шчыра... Ваявалі, немцам мырмалку цёрлі разам, а белы ліст запаўняй адзін... Э не!.. Ты, канечне, скажаш: а чаму б, узяў і напісаў бы...і папрасіў...І ты, бачу, за іх? Пакуль

трымаю абарону... Там – перамог, а ці ўстаю тут – пакуль не ведаю. Але буду змагацца да апошняга!

Рашай сам, кажаш, Іван? Ты заўсёды прымала верныя рашэнні... І калі пасля вайны горад выбіралі, дзе жыць... І калі разам пайшлі працаваць, дзе можна было хутчэй кватэру атрымаць... Помніш, як жылі?

Хто ж не будзе помніць?..

А тады да цябе начальнік мой пачаў заляцацца... будзь маёй каханкай, кажа, кватэру хутчэй атрымаеце... Усё зраблю, каб атрымалі, толькі будзь...

А ты мне пра тое расказала... Прыйшла дамоў, і расказала... Не помню толькі, што я зрабіў тады з тым начальнікам...

І ты забылася. Гэта добра, што ўсё кепскае некалі забываецца...

Віцька ідзе – яго крокі за дзвярыма чуваць, кашаль яго... Чуеш?

*Чуваць кашаль. Званок. Асокін адчыняе дзверы. Уваходзіць Віктар. Ён на- падпітку.*

В і к т а р. Ну, прывітанне, ці што? *(Сядае на табурэт).* Ты сёння ў нас самы вялікі начальнік! Пасля Прэзідэнта, чуеш?

А с о к і н. Дзе гэта ты так?..

В і к т а р. У цябе свой райвыканкам, у мяне – свой. Трымай паперу. Натаха тут усё запісала каліграфічным почыркам...Сямнаццаць пунктаў... Сямнаццаць імгненняў вясны, адным словам... Чытай. І падпісвай. Табе не трэба нічога пісаць – усё напісана... Застаецца толькі заверыць. Налятай на гатовенькае. Бацька, ратуй! Трымай, кажу, паперу! *(Прыпячатаў яе да стала).* Чаму маўчыш? А-а, цябе ўзяло за жывое, мабыць, што сын твой сёння – як цюцька... Згодны! Так і ёсць... Цюцька я. Хутка гаўкаць пачну. На ўвесь белы свет... Няўжо ты мяне зразумець не можаш? Мне ж Натаха жыцця не дае!

А с о к і н. А навошта ты язык распусціў?!

В і к т а р. А сам? А навошта ты мне ляпнуў?.. Навошта? Жылі сабе і жылі. Як усе нармальныя людзі. Ціха-мірна. Дык не – падавай рай!.. Засвярбела!.. Зачасалася!.. Чуеш, бацька? Падпісвай паперку, і тады яна стане дакументам. Натаха сама аднясе ў выканкам. Яна для храбрасці нават мне бутэльку гарэлкі паставіла... Што, дарэмна? Яна спытае справаздачу.

А с о к і н. Не магу, я ж сказаў табе. Прычыну ты ведаеш. Растлумач і жонцы.

В і к т а р. Жонцы? Не ўспамінай мне пра яе – так лепей будзе!.. Не падпішаш – развод!.. І кропка, кажа. Хаця яе я і разумею… а цябе – прабач – не зусім… Няўжо ты нам не жадаеш лепшага жыцця?

А с о к і н. Мы з табой размаўляем  на розных мовах.

В і к т а р. Атрымліваецца – так, на розных.

А с о к і н. Балбатун!

В і к т а р. Дык што ж мне загадаеш рабіць? Што?

А с о к і н. Знімі штаны і бегай.

В і к т а р. Зняць штаны і бегаць? Ага! Ёсць зняць штаны і бегаць! *(Казырнуў, зняў штаны і бегае вакол табурэткі).* Бегаю, бегаю…Хопіць? Ці яшчэ? Гэта толькі мне і застаецца – бегаць трушком!.. Чым вяртацца мне дадому, я лепш буду бегаць!.. *(Спявае).* “Броня крепка и танки наши быстры… и наши люди мужества полны…”

*На парозе з’яўляецца Іванна. Здзіўлена глядзіць на ўсё, што адбываецца. А Віктар працягвае бегаць вакол табурэткі…*

**Д з е я   д р у г а я**

7.

*Убачыўшы Іванну, Віктар спярша  знерухомеў, а потым схапіў штаны і выбягае, на хаду страецца трапіць нагой у калышыну; упаў, падхапіўся, валтузіцца яшчэ пэўны час са штанамі, нарэшце знікае.*

*Іванна смяецца.*

*Асокін разводзіць рукамі: маўляў, і такое бывае…*

І в а н н а. Добры дзень, Іван Мітрафанавіч!

А с о к і н *(буркліва).*  Добры, калі не жартуеш.

І в а н н а. Вы мяне, мабыць, не пазнаеце?

А с о к і н. Не, не пазнаю. Хоць у апошні час я толькі што і раблю, як пазнаю вас усіх і з розных бакоў. Вы што, таксама да мяне?

І в а н а. Так.

А с о к і н. Божа, выратуй і зберажы! *(Перахрысціўся).*

І в а н н а. Гэта я…

А с о к і н. А больш там нікога няма? За дзвярыма?

І в а н н а. Я вас не  разумею, дзядуля…

А с о к і н. Пачакай, пачакай… Іванна?

І в а н н а. Іванна…

А с о к і н. Госпадзі! Іванна! Цёзка!.. Якая ты ўжо дарослая стала!

І в а н н а. Дзякуй.

*Вітаюцца шчыра, як свае людзі. Асокін  прыгарнуў праўнучку  да сябе.*

А с о к і н. Адкуль ты ўзялася? Якім ветрам? А я ўжо грэшнай справай падумаў… сваячніца, падумаў, мо якая зноў знайшлася ў пятым-дзесятым калене… Ці мала што… Прарвала, думаў…

І в а н н а. Праездам я…

А с о к і н. Вось як! Ну-ну!

І в а н н а. На мора еду. Бывай, медінстытут! Мы ўсёй групай – ведаеш, дзядуля? –рашылі ў Крыму класна правесці адпачынак.

А с о к і н. Справа вартая. Ну, праходзь, расказвай.

І в а н н а. З’язджаемся – хто адкуль… На дзянёк заскочыла. Заўтра далей…

А с о к і н.  Тэлеграму  дала б. Я б сустрэў. Пакуль яшчэ – бачыш? – на сваіх дваіх.

І в а н н а. Я давала.

А с о к і н. Я не атрымаў.

І в а н н а. Бывае… Але нічога страшнага  – я вас хутка знайшла. Хвалявалася толькі, ці дома… Ну, расказвайце, як вы тут, Іван Мітрафанавіч? *(Аглядае пакой).*

А с о к і н. А як мы? *(Пацісснуў плячыма).*

І в а н н а. Утульна ў вас.

А с о к і н. Лепш раскажы, як вы пажываеце. А я – ён вось увесь навідакоку… Клыпаю памаленьку, і добра… Як бацька, мама? Як ты, у рэшце рэшт?

І в а н н а. Усё добра. Тата працуе ў той жа бальніцы, дзе і мама…

А с о к і н. Людзей, значыць, усё яшчэ лечаць?

І в а н н а. Ага. У іх гэта добра атрымліваецца.

А с о к і н. Зараз мы прыдумаем што-небудзь перакусіць… З дарогі ж… Зараз, зараз… Пачакай хвіліначку…*(Мітусіцца).*

І в а н н а. Не клапаціцеся асабліва, Іван Мітрафанавіч. Я на дыеце.

А с о к і н. Во як! Дык што, гарбаты нават не пап’ем мы з табой, праўнучка мая любая?

І в а н н а. Гарбаты – можна..

А с о к і н. Ну, добра… А потым згатуем што-небудзь смачненькае… Як там сын мой Мікола, а твой дзядуля? *(Уключыў чайнік).*

І в а н н а. Дзядуля больш на рыбалцы прападае.

А с о к і н. Вось ужо рыбак! Зразумела. Ну а ты як, Іванна? Ты? *(Уключыў чайнік).*

І в а н а. Сёлета скончыла медінстытут… Хай жыве свабода! Я – вольная птушка! Ура!

А с о к і н. У бацькоў, ведаю, пайшла, па іхняй лініі. Малайчына. А як жа надумалася ты ў госці да мяне выбрацца?

І в а н н а. А што, вы не рады?

А с о к і н. Круг жа атрымліваецца, а? Дзе мы, дзе Крым… Ды і білет, відаць жа, каштуе цяпер уго?

І в а н н а. А што мне, бацькоўскіх грошай шкада?!

А с о к і н. Эх вы, моладзь зялёная-галапуная? *(Ставіць на стол кубкі).*

І в а н н а. Ды дробязі! Раз жывём! Але мне трэба было абавязкова вас пабачыць. Даўно хацела, а выбралася толькі цяпер. Усё справы, справы, справы!

А с о к і н. Я ж цябе такой вось помню… Як лялька была…

І в а н н а. А я і цяпер харошанькая!

А с о к і н. Ды бачу, бачу. Хлопцы, мабыць, сохнуць?

І в а н н а. Канечне!

А с о к і н. Малайчына. А я, ведаеш, іншы раз, калі ноччу не спіцца, вас усіх прыгадваю.. Вас жа ў мяне многа… Дажыў і да праўнукаў. Ты, Іванна, старэйшая дачка ў майго старэйшага ўнука – так што ўсё

залежыць, дачакаюся я прапраўнукаў ці не, ад цябе. Ты ўжо пастарайся там. Колькі гадоў вучылася?

І в а н н а. Сем.

А с о к і н. Дробязі. Лічы, нічога. Я сем год у салдатах быў, з іх амаль чатыры на перадавой. Успомніць страшна, дзеўка. А вучыцца – рай!.. А вось у нас і чаёк гатоў.

І в а н н а *(спахапілася).* Ой, а што ж гэта я?! Я ж вам падарункі прывезла...Зусім з галавы вылецела... *(Дастае з сумкі пакункі, адзін разгарнула – паказвае сарочку).* Сама выбірала. Як вам, Іван Мітрафанавіч? Падабаецца?

А с о к і н. Не трэба было траціцца. У мяне ўсяго хапае. Панасіць бы паспець. *(Паставіў чайнік на стол).*

І в а н н а. Паспееецe, усё яшчэ паспееце, Іван Мітрафанавіч. Якія нашы годы. *(Прымярае сарочку да Асокіна).* Угадала! Ваш памер!

А с о к і н. Ну, дзякуй. Пакладзі куды-небудзь сарочку... Буду насіць.

І в а н н а. А можа б цяпер яе апранулі, Іван Мітрафанавіч? Хочацца паглядзець, як вы ў ёй будзееце? Пераапраніцеся. Калі ласка.

А с о к і н. Угаварыла. Што з табой паробіш? Нам, старым, застаецца толькі падпарадкоўвацца... *(Узяў сарочку, выходзіць).*

*Іванна разглядвае жытло Асокіна. Яе больш цікавяць кнігі на паліцы.Спынілася перад партрэтам Марыі.*

І в а н н а. А гэта хто – прабабка?

Г о л а с А с о к і н а. Яна суровая была жанчына!

І в а н н а. Дзіўна, а я на яе, здаецца, падобная?

А с о к і н *(з'явіўшыся).* Ну, як? Парадак у танкавых войсках?

І в а н н а. Клёва!

А с о к і н. Хаця і ў артылерыі служыў...

І в а н н а. Я ведаю...

А с о к і н *(затрымаў погляд на Іванне).* Ты нават і гэта ведаеш?

І в а н н а. Так атрымалася...У нас на кафедры хірургіі... прафесар Абрамян Ашот Вартанавіч працуе... Гэта ён мне... ну, не толькі мне... усім нам, студэнтам, сказаў, што вы – артылерыст...

А с о к і н. А ён адкуль ведае? І навошта яму было пра мяне вам гаварыць? З якой нагоды? Хаця пачакай, пачакай… Абрамян, кажаш?

І в а н н а. Так, Ашот Вартанавіч. Прафесар. У ваенным шпіталі хірургам быў…

А с о к і н. Божа мой! Ён таксама жывы, значыць!..

І в а н н а. Жывы… Старэнькі, праўда… з кіёчкам ходзіць… Але вас помніць…Я вам нават нешта прывезла, Іван Мітрафанавіч, ад яго…

А с о к і н. У мяне ідзе мядовы месяц, не інакш…

І в а н н а *(падыходзіць да сумкі, але не рашаецца нічога з яе вымаць).* Ашот Вартанавіч перадаў…Але баюся паказваць… Можа, не трэба? А, Іван Мітрафанавіч? Прафесар сказаў: на памяць… Можа, не патрэбна вам тая памяць, а, Іван Мітрафанавіч?

*З'яўляецца Віктар.*

В і к т а р. Добры дзень, ага…

І в а н н а. Добры… А я вас ужо бачыла…Вы спортам займаліся… Трэніраваліся, мабыць?

*Асокін ставіць на стол трэці кубак.*

В і к т а р. Ага. Забег на доўгую дыстанцыю вакол табурэткі. Гольф і рэгбі ўжо ўключылі ў Алімпійскую праграму, абяцаюць і гэты від…бег вакол табурэткі… таксама…

І в а н н а. А вы вясёлы чалавек.

В і к т а р. Ну, бывае…

А с о к і н. Асабліва сёння. (*Віктару).* Сядай з намі.

В і к т а р *(падаў руку Іванне).* Віктар.

І в а н н а. Іванна.

В і к т а р. Я – сярод Іван-наў…Ад двух Іванаў я цвярозы ніяк не выйду. Факт.

А с о к і н. Мая, дарэчы, праўнучка.

В і к т а р. А, тая, што з Іжэўска? Вацяначка?

А с о к і н. Тая, тая.

В і к т а р. Уцяку к вам! Ад Натахі! Як у вас там? Слесарам уладкавацца можна? А, сваячніца?

А с о к і н. Спярша  праспіся… А там будзеш уцякаць… *(Напоўніў кубкі).*

В і к т а р. А не, дык папрашуся ў турму. *(Здзіўлена).* Што – чай?

А с о к і н. Чай, чай.

В і к т а р. Усяго толькі? Як жа ты гасцей сустракаеш, а, пахан?

А с о к і н. Налі сабе. Мы не п'ём.

В і к т а р. Чай дык чай… Ну, за сустрэчу. *(Падняў кубак).*

*П'юць чай. Іванна ўсё ж бярэ ў сумцы рэнтгенздымак, падае Асокіну.*

А с о к і н. Што там такое, Іванна?

В і к т а р. Дай сюды. *(Забраў скрутак, разгортвае рэнтгенздымак).* Чые вантробы?

А с о к і н. Вярні. *(Забраў рэнтгенздымак, выходзіць).*

*Іванна і Віктар доўга глядзяць яму ўслед. Віктар нічога не разумее…*

8.

*Кабінет старшыні райвыканкама. У ім Кулакоў, Зіміна  і Наталля.*

Н а т а л л я *(жаласліва).* Нічога не можам з ім зрабіць. Мой ужо і без штаноў перад ім бегаў – нуль! Выручайце, Сяргей Дзям'янавіч. Уся надзея на вас.

К у л а к о ў. Даруйце, а што я магу зрабіць?

З і м і н а. А гэтага, Сяргей Дзям'янавіч, і трэба было чакаць.

Н а т а л л я. Хвіліначку! Хвіліначку! Вы ж – кіраўнік, галоўны!.. Абразумце яго… Растлумачце даходліва, што так бацькі… сапраўдныя бацькі… з дзецьмі не паступаюць…  Ад вас жа пайшло… а ён не выконвае…загад, атрымліваецца. Плюе на ўладу. На вас.

К у л а к о ў. Ну, выконваць ці не выконваць – гэта, уласны кажучы, асабістая справа Івана Мітрафанавіча. Толькі яго. І зусім не загад гэта – прапанова… Як ён захоча, так і будзе. Прабачце, сілком прымусіць не магу. Значыць, яму нічога не трэба…

Н а т а л л я. Нам, нам трэба! Як вы гэтага зразумець не можаце? У вас якая адукацыя?

К у л а к о ў. Нармальная ў мяне адукацыя. За гэта не хвалюйцеся. Але ж вы не ваявалі…

Н а т а л л я. Дык ён і ваяваў, татка, каб у нас усё было. У бой ішоў…нішчыў тых гадаў!.. Я б ім… і сама не ведаю, што зрабіла, калі б жыла тады! Глотку б перагрызла!..

К у л а к о ў. Паверце, нам толькі ад шчырага сэрца хацелася, каб франтавік пажыў у камфорце…Ён заслужыў…Так што, шаноўная Наталля…

Н а т а л л я *(падказвае)…* Сідараўна.

К у л а к о ў. … нічым дапамагчы не магу. Прабачце. Яму, атрымліваецца, добра, як ён жыве… усім задаволены.

Н а т а л л я. Тады вы так, скажыце, хацелі, каб запоўніў Іван Мітрафанавіч той лісток. Паманілі, атрымліваецца, пальчыкам, – і пад зад, а? Пайшоў прэч!

З і м і н а. Думайце, што і дзе гаварыць.

Н а т а л л я *(пагрозліва).* Я думаю. Так і знайце: вы не апошняя інстанцыя. Знайду ўправу!

К у л а к о ў. На каго?

Н а т а л л я. На вас!

К у л а к о ў. Ну, ну, давайце шукайце.

Н а т а л л я. Знаем такіх! Пад яго шумок самі панапісваеце, што вам ці вашым дзецям трэба, і канцы ў ваду. Шукай у полі ветру. Подпіс і падрабіць можна. Цяпер спецыялістаў хапае. Даляры робяць. Не тое каб!..

К у л а к о ў. Не гаварыце глупстваў!

Н а т а л л я. А то я не ведаю, як робіцца! Бывайце! У-ух!..*(Выходзіць).*

К у л а к о ў. А можа я і адчуваў, што Іван Мітрафанавіч нічога не напіша на тым лістку, таму і прапанаваў. А я так і скажу яму… прама ў вочы: а я і ведаў, што вы нічога не папросіце, Іван Мітрафанавіч.

З і м і н а. Лепш прамаўчыце. Мая вам парада, Сяргей Дзям'янавіч.

К у л а к о ў. Ратаваць трэба нашага апошняга франтавіка. Падобна на тое. Заварыў я кашу адзін, разумею…

З і м і н а. Трэба ратаваць. *(Выходзіць).*

К у л а ко ў. На вайне ўцалеў, бедалага, то ў мірны час можа атрымаць кантузію…

*Зіміна выходзіць. Кулакоў, сабраўшы папку, таксама неўзабаве пакідае кабінет…*

9.

*У кватэры Асокін і Іванна. Сядзяць за сталом.*

А с о к і н *(гартае альбом).* Пад Вязьмай мяне параніла… Артылерыста – куляй? Ты верыш, Іванна? Куляй! Не, каб асколкам. І адкуль яна там узялася, тая праклятая куля?

І в а н н а. Як жа мне не верыць, калі тая куля на рэнтгенздымку?

А с о к і н. Каб жа толькі там…

І в а н н а. І вы яе дагэтуль носіце у сэрцы, Іван Мітрафанавіч?

А с о к і н. А што мне заставалася рабіць? Дактары доўга раіліся, але вырашылі не чапаць яе… Да прафесара пасылалі ў сталіцу… Той таксама сказаў: лепш не кратаць яе… Жыць, пытае, можаце? Магу, адказваю. Ну і жывіце. Даражыце кожным пражытым днём. Што я і раблю. Мая дарагая, каб жа толькі адна куля стрэмкай сядзела ў сэрцы. І ў мірныя дні стралкоў хапае… А, вось і тая картка, якую я табе сабраўся паказаць…Пазнаеш?

І в а н н а. Пазнаю, канешне… Вусы тыя ж… толькі цяпер белыя, як снег…

А с о к і н. Я злева… Вось…Гімнасцёрка тады на мне вісела калом…

І в а н н а. Я разумею…

А с о к і н. Гэты здымак і быў зроблены якраз тады, калі я выпісваўся са шпіталя… Абрамяну пакажаш картку. Паглядзі, маўляў, які мой прадзед арол, хоць і без вусоў! А? Зробім такую штуку?

І в а н н а. Канечне.

А с о к і н. Нешта я расхрабрыўся. Баліць сэрца, баліць…

І в а н н а. Вы ўжо беражыце сябе, Іван Мітрафанавіч.

А с о к і н. Стараюся, як магу. Але жыццё блазнуе іншы раз, уносіць свае карэктывы. Ну, ды гэта дробязі… Я вось што табе скажу, Іваннушка мая дарагая, цёзка мая… Ведаю, ведаю, што цябе назвалі ў гонар мяне… хаця прыгожых імёнаў багата… Дзякуй бацькам тваім… Толькі не пра гэта

я… *(Дастаў з шафы маленькі чамаданчык).* Гэта мой “трывожны” чамаданчык. Настане той час, ад гэтага нікуды не дзенешся, калі прагучыць сігнал трывогі… яго трэба адчыніць, тут усё распісана, што рабіць і як… Хаця там усяго два пункты: дзе пахаваць…

І в а н н а. Ну, Іван Мітрафанавіч!..

А с о к і н. Слухай далей. Я і сам  ведаю, што я Іван Мітрафанавіч. Не крыўдуй, мая дарагая.

І в а н н а. А я і не крыўдую.

А с о к і н . Ну вось і малайчына. Другая просьба… хаця яе трэба было, магчыма,  і першай запісаць, бо яна – больш галоўная просьба… Ага, значыць… Галоўная… просьба… На лісток, сама прачытай… *(Падаў).* Услых можаш зачытаць. Каб усё, што атуляе нас, пачула… І стол вось гэты, і сцены, і шафа… Віцька пра мой “трывожны”  чамаданчык дасведчаны… Чытай, Іванна…

І в а н н а. “Не класці мяне ў труну, пакуль не выражаце з сэрца кулю”. *(Вярнула лісток).* Я вас разумею…

А с о к і н. На зямлі мы часова, а ў зямлі – навечна. З варожай куляй у сэрцы не хачу ляжаць увесь час… Ну што – у рэстаран, маць яго так?!..

*Выходзяць.*

10.

*Асокін перад партрэтам Марыі.*

А с о к і н.  Цяжка мне, Марыя, без цябе. Каб жа ты ведала – як цяжка. Гэта я храбрыўся толькі іншы раз, харахорыўся, а на самай справе – сум суцэльны… Карусель… Я таксама, можа, не падарунак быў… усялякі… розны… Іншы раз заносіла, не пярэчу… Хэ, любіў, помніш жа, я  табе абноўкі выбіраць у дзень палучкі… ты выбірала, а я аціраўся за дзвярыма магазіна – гэта так… Не хапала ў мяне духу – а сама, сама вінавата: дужа ўжо доўга ты рукамі ўсё там мацала, перабірала, мусоліла… У каго ж нерваў хопіць? У якога мужыка?  Ты мяне разумела, хлусіць не буду, не цягнула за сабой… І радаваўся потым як дзіцёнак, калі ты з пакетам выходзіла да мяне… Як сёння вось бачу, як свяціліся тады ў цябе вочы… Дужа прыемна было мне…

Калі бы не ты, я б зусім без зубоў застаўся… Чым бы яблык сёння грыз? Ты, ты загнала мяне да стаматолага… і не спрачайся, і не пярэч!.. Не трэба, не кажы так, я ўжо і сам пераканаўся за пражытыя гады: мужык

без бабы – што хата без даху: на яго і снег падаць будзе, і дождж сыпацца…

Вось дзякуючы табе яблыкі і ем. Але толькі, заўваж, калі закусваю. А п'ю я рэдка. Які з мяне ўжо піток? Глыток-другі, і галава кругам ідзе… У маім узросце пра гарэлку больш для форсу паталдычыць хочацца, відаць, нам, мужчынам… Як пра баб… Гэта мы толькі храбрымся…

Во, ледзь не забыўся! Учора падалося мне ці што, быццам нехта на мяне наставіў дула пісталета… і вось-вось націсне на курок… А было ж, было, што стаяў я і пад дулам пісталета… Наступалі тады нашы… І мы, артылерысты, расчышчалі дарогу пяхоце… Гэта калі снарады павінны былі класціся перад наступаючымі – але так класціся, каб асколкамі не параніла салдат…Шкада мне было іх, і я карэкціраваў агонь так, каб снарады клаліся крыху далей – так для нашых байцоў бяспечна… А палкоўнік на мяне наставіў пісталет:  прыстрэлю, гад! І ў тое ж імгненне адразу на яго наставілі аўтаматы некалькі пехацінцаў… радавыя на палкоўніка: не чапаць камандзіра батарэі! І ён адступіў…

А цяпер хто за мяне заступіцца? Цябе ж няма, маё сонейка. Як позна мы гэта разумеем! Як позна!.. Ды не, не, не плачу я… проста сляза нейкая здрадніцкая пашчакатала шчаку… Пайшла прэч! Прэч! *(Змахнуў слязу).* Парадак. Прагнаў яе, слязу. Думаю, не вернецца. Ніколі ты маіх слёз не бачыла, а тут такая аказія. Даруй.

Ты прасіла, любушка, каб я не крыўдзіў дзяцей. Разумею: якая маці не хоча, каб яе дзеці былі шчаслівымі.

Я выканаў тваю просьбу… А ўсё астатняе залежыць ад іх саміх… Мы ім далі самае галоўнае – жыццё… Навучылі хадзіць, кармілі і паілі… пакуль не распрамілі крылы, пакуль не выляцелі з нашага гнязда…  Кватэру я падараваў унуку Пецьку… Аднавіў даравальную ўчора… Ну, пакіпяціўся трохі, парваў… Было… Грошы, што маюцца на кніжцы, падзеляць… Што што, а грошы лічыць яны умеюць і любяць… А больш я ім нічога даць не магу – акрамя парады, як жыць… Але ж яны нічога не хочуць слухаць!..

А што белы ліст паперы я не скарыстаў па прамому прадназначэнню, зразумей і даруй мне, любая. Даруй.  Не вінаваць мяне. Можа, я і сапраўды заблытаўся ў гэтым жыцці, зусім не разумею чаго? Ці не наламаў я дроў, а, Мар'юшка мая ненаглядная? Як думаеш? Можа, і сапраўды я белая варона, не так жыву? Тады і ўсе астатнія, перад кім вінаваты, няхай мне даруюць… калі – даруюць… Ну што паробіш, калі я ўжо такі нягоднік?!..

Але ж калі разабрацца, пашанцавала мне як нікому – на вайне ж не забілі. А маглі сто разоў. У шчаслівай сарочцы нарадзіўся, атрымліваецца. Жыццё – гэта самы вялікі падарунак, які атрымаў я. Каштоўней яго няма. Навошта, навошта мне яшчэ штосьці?!..

Цяжка мне без цябе, Любушка… Вельмі цяжка… Засумаваў я надта… У снах цябе часта бачу… Потым як-небудзь пра сны раскажу….

11.

*У кватэры Асокіна. Тут адна Іванна. Уваходзяць Наталля і Віктар.*

Н а т а л л я *(здзекліва).* З’явілася, прыгажуня?

І в а н н а *(адчувае сябе ніякавата).* Ой, добры дзень!

В і к т а р. Добры… ага.

Н а т а л л я. Каму добры, а каму не зусім.

І в а н н а. Як гэта?

Н а т а л л я. А так, прыгажуня! Хутка вы ў чужым сваё знаходзіце.Ой, хутка, аднак!..

І в а н н а. Я вас не разумею…

В і к т а р. Пакінь яе ў спакоі!

Н а т а л л я. А ты наогул маўчы! Табе слова не давалі!

І в а н н а. Хто вы?

Н а т а л л я. Натаха! Я – Натаха! Якраз тая жанчына з вялікіі прэтэнзіямі на маёмасць яна і ёсць… Альбо цябе Іван Мітрафанавіч не ўвёў у курс спраў?

І в а н н а. Я не ведаю, пра што вы гаворыце.

В і к т а р. Пакінь сваячніцу ў спакоі, я сказаў!…

Н а т а л л я *(адсунула Віктара ў бок, падыходзіць бліжэй да Іванны).* Адкуль, скажы мне, ты даведалася, што перад намі адкрываюцца такія перспектывы?

І в а н н а. Гаварыце зразумела.

В і к т а р. І я б так сказаў. Навошта дзеўку за нос водзіш? Навошта нападаеш? “Перспектывы”. Скажы яшчэ “адкрываюцца такія гарызонты”.

Н а т а л л я. Табе слова потым… калі ўсё падзеляць… А дзе, дарэчы, стары?

І в а н н а. Не дакладваў.

Н а т а л л я. Ён тут выпадкова нічога не пісаў? На стале?

І в а н н а. Пісаў…

Н а т а л л я *(Віктару).* Лапух! Атрымаў? Думаеш, чаго прыскакала гэтая краля ажно з іншага боку планеты? Проста так? А? Ды не, тут ўсё зроблена так, каб мяне, Натаху, кінуць! А разам са мной і цябе, ёлуп! Гэта ён панёс, тут і думаць нечага, спіс у райвыканкам!.. *(Іванне).*Панёс? Прызнавайся! Ну!

І в а н н а. У мяне такое ўражанне, што вас толькі што выпусцілі з адной не дужа аўтарытэтнай ўстановы… Дзе шмат Кутузавых і Суворавых…

*Віктар потайкам хмыкнуў.*

Н а т а л л я. Першай пападзеш туды ты. Абяцаю!

І в а н н а. Скажыце нарэшце, што вам ад мяне трэба? Чаго вы на мяне накінуліся?

Н а т а л л я. Віктар, растлумач ёй.

В і к т а р. Ёй гэта зусім не цікава…

Н а т а л л я. Памыляешся, дружок! А з якой нагоды б яна сюды прыляцела? З белага свету,а?

І в а н н а. Не хвалюйцеся, я сёння ад’язджаю… Пазбаўлю вас ад сваёй персоны, калі нешта я вам і сапраўды зрабіла прыкрае. Будзьце задаволены. Радуйцеся.

Н а т а л л я. А дзе ж бацька?

В і к т а р. Адкуль я ведаю.

Н а т а л л я. Персона! А ты?

І в а н н а. Ну, у аптэку пайшоў… можа быць. Вас гэта задавальняе?

Н а т а л л я. Гэта – так, задавальняе. Як гэты свет пабудаваны – дзіву даешся. Кожны так і ўхітраецца вырваць у цябе з-пад самага носу, так і стараецца!.. А ты спярша падумай, чалавек: ці маеш ты права пратэндаваць на тое, да чаго твае брудныя рукі цягнуцца? Падумай спярша! Узваж! Ацані аб’ектыўна!..

В і к т а р. Ты пра каго гэта так, дарагая?

Н а т а л л я. Памаўчы, ёлуп, хоць тут! Памаўчы! А то заб’ю… дома. Дай прыйсці толькі.

*Заходзіць Асокін.*

А с о к і н. А, гэта вы?

Н а т а л л я *(услужліва).* Добрай ранічкі, Іван Мітрафанавіч! Як здароўечка?

А с о к і н (*пракаўтнуў таблетку).* Як казаў народны артыст Леў Дураў, калі раніцай прачнешся і нешта баліць, значыць, ты мёртвы…

Н а т а л л я. Так, так. А як на нашым фронце, Іван Мітрафанавіч? Усё без перамен? Чаму ж вы маўчыце, не адказваеце? Праўнучка вось у вас добрая, гляджу, дзяўчынка… праведаць вас прыехала…надзяліла ўвагай… што ж так яна, а? Ніколі не была і носу не казала, а тут – раптам…

А с о к і н. Малайчына, Іванна. Сапраўды здалёк прыехала… *(Аадлічвае грошы, і калі гэта ён робіць, Наталля ажно глытае сліну ад зайдрасці).* Дзён колькі назад выклікалі мяне ў ашчадбанк, дзе я пенсію атрымліваю. Падалі кавалачак паперы і кажуць: напішыце заяву, што вы жывы…

В і к т а р. Ты жартуеш?

А с о к і н. Не, праўда. Напісаў. Клянуся. Яшчэ і сказаў, калі памру, то ўжо не змагу. Малайцы – своечасова звярнуліся. Падзякаваў.

В і к т а р. Жыві, бацька!

А с о к і н. Жыву, як бачыш. *(Працягвае грошы Іванне, Наталля спрабуе перахапіць).*

Н а т а л л я. К.. куды? Ёй?

А с о к і н. Табе, табе, Іванна. На моры грошы спатрэбяцца. Не шкадуй… траць… як і бацькоўскія. А калі заробіш – вернеш.

І в а н н а *(узяла грошы).* Дзякуй.

Н а т а л л я *(Асокіну).* Дык вы што, сто гадоў сабраліся жыць?

А с о к і н. А і рады быў бы. Чаму не жыць? Паўсюль прыгожа, у аптэках розныя лекі – на выбар… больш, чым хвароб. А ты бачыла, Натаха, як улетку прыгожа жыта цвіце?

Н а т а л л я *(ёй не да жыта).* Што? А?

В і к т а р. Бацька пра жыта пытае…

Н а т а л л я. Якое жыта? Здалося мне жыта! Хлеб ёсць, і добра!..

А с о к і н. Наталля!

Н а т а л л я. Што, свёкар?

А с о к і н. Наступны раз тэлеграмы не прымай… Тым больш, што я быў дома…

Н а т а л л я. Якая тэлеграма?! Што за нагавор такі? Людзі! *(Віктару).* А ты чаму стаіш, істукан? Дзе тваё мужыцкае слова? Дзе гонар? Ты хоць раз можаш заступіцца за жонку ці не? Лапух лапухом!

*Званок у дзверы.*

*Кідаецца да дзвярэй Наталля. Адчынае Іванна – яна бліжэй стаяла. Двое рабочых заносяць халадзільнік.*

Н а т а л л я (*загадкава-абрадавана).* Што? Што гэта, хлопчыкі?

Р а б о ч ы. Халадзільнік!

Н а т а л л я. Паплыло!.. Нарэшце!.. Ура-а!.. Ёсць Бог на зямлі!.. Ёсць!..

А с о к і н. Пачакайце, адкуль гэты халадзільнік?

Н а т а л л я *(перагарадзіла Асокіну дарогу да халадзільніка).* Не! Не аддам! Наша! Маё! Што там яшчэ ў вас, хлопчыкі?

Р а б о ч ы. Пральная машына і тэлевізар.

Н а т а л л я. Усё заносьце, не слухайце гэтага дзеда. А камп'ютэра няма?

Р а б о ч ы. Што сказалі, то і прывезлі.

Н а т а л л я. Гэта я ўсё! Каб не схадзіла у райвыканкам, каб не паставіла там усіх на свае месцы, – фігу што вам… нам прынеслі б сюды…. Хадзіла, хадзіла, парогі аббівала, я вы як думалі?

А с о к і н *(строга).* Аднясіце ўсё туды, дзе ўзялі!

Н а т а л л я. Не! Не! Не аддам! Наша! Наша!

А с о к і н. Выконвайце каманду.

Р а б о ч ы. Нам заплацілі толькі за тое, каб мы заносілі, а не выносілі.

*Рабочыя выходзяць.*

*Паўза.*

*Уваходзіць Кулакоў.*

К у л а к о ў. Не чакаў… вас так многа… А я ж ішоў да аднаго чалавека – да Івана Мітрафанавіча. Прызнаюся шчыра. Ну што ж: добры дзень вам усім!

*Яму адказваюць. Усе па-рознаму. Наталля нават зрабіла паклон. Кулакоў паціснуў руку аднаму Асокіну.*

К у л а к о ў. Удала я зайшоў. Гэта добра, што вы сабраліся разам… цудоўна…. Вы, канечне, ведаеце, хто быў і хто ёсць ваш дзед, бацька…

А с о к і н. Ды што вы, Сяргей Дзям'янавіч! Навошта? Ім гэта… неяк… дзед ды дзед… усё роўна…. мае быць… старызна, адным словам…

К у л а к о ў. Не гаварыце так, Іван Мітрафанавіч. Вы-та сабе, не сумняваюся, цану ведаеце, няхай і іншыя ведаюць… Дык вось, сябры… Я прыйшоў да гэтага чалавека, прызнаюся шчыра, так і быць, усім вам… каб сказаць яму дзякуй… За Смаленск… За Курск… За Сталінград… За Могілёў… За Берлін… Дзякуй вам, Іван Мітрафанавіч!

А с о к і н. Дык яно неяк…. шмат мне аднаму…. Атрымліваецца быццам… неяк… замнога…

К у л а к о ў. Нічога. нічога: падыміце ўсё гэта, іван Мітрафанавіч. Панясеце. Гэта ваша ноша… а свая ноша не цягне…. А заадно і прабачэння хачу папрасіць у вас, дарагі наш ветэран…

Н а т а л л я *(зацікаўлена).* Цікава. А прабачэння за што?

К у л а к о ў. За тое, што можадзесьці і калісьці недагледзелі ў віхуры, у рытме нашых дзён і спраў…Даруйце, калі што не так было, Іван Мітрафанавіч!.

А с о к і н. Я не ў крыўдзе… не-не… Я шчаслівы, што сёння вось сярод вас усіх. Вельмі шчаслівы… А больш мне нічога не трэба…

К у л а к о ў. Дзякуй. Дзякуй, Іван Мітрафанавіч. Ну, а цяпер, калі ласка, пазнаёмце мяне з вашымі гасцямі.

А с о к і н. Няма тут асабліва з кім і знаёміць. Сын Віктар… *(Віктар кіўнуў)…* Яго жонка Натаха…

Н а т а л л я *( вытыркнулася наперад, паправіла).* Наталля Сідараўна! Мы ўжо знаёмыя!

К у л а к о ў. Зразумела. Я вас і сапраўды дзесьці сустракаў раней, здаецца…

Н а т а л л я. А то б! Нешта ціха на прыступках? Яны нясуць там ці не? Ну, вядома, як у нас працуюць. Пяць хвілін робяць, дзесяць – перакур.

А с о к і н. А гэта мая праўнучка, Іванна. *(Іванна кіўнула).* Жыве ў Іжэўску. Сёлета скончыла медінстытут.

К у л а к о ў *(Віктару).* Вы маладзейшы, схадзіце скажыце, каб хлопцы заносілі ўсё астатняе…

*Наталля запляскала ў аладкі. Віктар выходзіць.*

Іванна, значыць?

І в а н н а. Іванна.

К у л а к о ў. Прыгожае імя.

А с о к і н. Мая цёзка…

К у л а к о ў. А давай, Іванна, да нас у бальніцу? А? Нам дактары вельмі патрэбны. Ну, як? Я сур'ёзна.

І в а н н а. Не ведаю… Так нечакана… Я не думала над гэтым…

К у л а к о ў. А што тут думаць! У цябе вольны дыплом?

І в а н н а. Вольны, але я ўжо дамовілася з работай у сябе дома.

К у л а к о ў. А тут хіба не твой дом? Пажывеш пакуль у цёзкі… Так, Іван Мітрафанавіч?

А с о к і н. Я – з задавальненнем!

Н а т а л л я. Як гэта? Як? А? Што вы такое кажаце, таварыш Кулакоў? Адрываеце дзіця ад таткі, ад мамкі? Гляньце, яна ж зусім яшчэ дзіця! Учора толькі соску з роту вынялі!

К у л а к о ў. Нічога, нічога, побач з прадзедам хутчэй дарослай стане.

Н а т а л л я. Што вы такое кажаце? А той горад, які яе вучыў, што скажа? Уся Расія акрысіцца на Беларусь. Міжнародны крадзёж кадраў! Сярод белага дня! Рабаванне!..

І в а н н а. Я застаюся. З'езджу толькі дамоў, забяру дыплом і рэчы першай неабходнасці …

К у л а к о ў. Ну вось і парадак! Віншую вас, Іван Мітрафанавіч!.. І цябе, Іванна!.. Вось якраз і халадзільнік… як маладому спецыялісту… тэлевізар плазменны зараз прынясуць хлопцы… пральную машыну….Свой доктар будзе ў дзеда… Гэта вялікая справа – мець свайго доктара… Асабліва вам, Іван Мітрафанавіч…

*Наталля села на табурэт, ад здзіўлення разявіла рот… і не знаходзіць слоў.*

*Накрываецца стол. Асокін паставіў графінчык, потым адышоў, сеў у баку ад усіх. І цяжка зразумець, добра яму ці не аднаму. Ён задумлівы і пакутлівы. Іванна ставіць талеркі з закуссю…*

*Наталля па-ранейшаму сядзіць на табурэце.*

*Адна – у баку ад усіх. Як і Асокін. Толькі, мусіць жа, рознае у іх успрыйманне ўсяго, што адбываецца навокал.*

*З'яўляецца Зіміна.*

З і м і н а. Добры дзень! Я не спазнілася?

І в а н н а. Не-не! Якраз своечасова.

*Кулакоў тым часам паставіў на стол бутэльку шампанскага.*

З і м і н а *(паклала торт на стол).* Іван Мітрафанавіч, гэта ад мяне. А зараз – такі парадак у нас – прабачце, распішыцеся вось тут… *(Паднесла да Асокіна паперу).*

А с о к і н. Я сам! *(Распісаўся).*

К у л а к о ў. Ніколі не быў у Іжэўску.

І в а н н а. Своеасаблівы горад. Адно кепска – задымлены: прадпрыемстваў многа.

К у л а к о ў. Калі б не аўтамат Калашнікава і не сам Калашнікаў, я мала што і ведаў бы пра яго. А цяпер вось буду ведаць, што гэта і твая радзіма, Іванна.

І в а н а. Так. Я ганаруся…

К у л а к о ў. Вось у нас усе за мяжу стараюцца трапіць, а я – не: я хацеў бы пабываць і ў вас у Іжэўску, і на Байкале, і на радзіме Васіля Макаравіча Шукшына. Мой, дарэчы,любімы пісьменнік.

Н а т а л л я. П'яніца быў!

К у л а к о ў. Іван Мітрафанавіч, а давайце да стала!

*Усе сядаюць.*

*У калідоры ж чуваць крокі і пэўная валтузня – гэта рабочыя заносяць тэлевізар і пральную машыну…Разам з Віктарам.*

Г о л а с В і к т а р а. Асцярожней, хлопцы! Акуратней! Вось так!.. Стаўце тут… Парадак! Малайцы!

*Заходзіць Віктар. Таксама сядае за стол.*

К у л а к о ў *(кліча).* Іван Мітрафанавіч!

І в а н н а. Ідзіце да нас, дзядуля!

З і м і н а. Вас чакаем!

В і к т а р. Тата!

Н а т а л л я. Усё зразумела: не хоча мяне бачыць за сталом. Тады я пайду? *(Мітусіцца).* Ці як?..

В і к т а р. Тата, цябе чакаем!

К у л а к о ў. Іван Мітрафанавіч!

І в а н н а. Дзядуля! Дзеду-у-у!...

*Але Іван Мітрафанавіч нікога не чуе. Ён думае пра нешта сваё. Мы можам толькі здагадвацца – пра што…*

Заслона.

# БЕЗ ЯГОРА БУДЗЕ ГОРА

*Камедыя ў двух дзеях*

Д з е й н ы я  а с о б ы:

Я г о р, 70 гадоў.

А н ь к а, дачка Ягора, 30-35 гадоў.

П а ў ла ў н а, настаўніца-пенсіянерка.

А к р о ш к а,  равесніца Паўлаўны, яна ж – Смерць.

О л я, паштарка.

Г а л а с ы.

*Нашы дні. Вёска.*
*Месцы дзеяння і дэкарацыі–умоўныя.*

**Д з е я  п е р ш а я**

Карціна першая

*Раніца.*

*Паўлаўна распахнула акно, паклала на падваконнік падушку, ляпае па ёй далоняй.*

*З'яўляецца Ягор.*

Я г о р. Добрай раніцы, суседка!
П а ў л а ў н а. Якая ж яна добрая? Радыё вунь зноў барахліць.

Я г о р. А ну пачакай! Зараз яўмомант яго пачыню! Дзе малаток? (Паляпаў кулаком па радыёпрыёмніку, той не працуе). Не фурыча, аднак. Глух і нем. Ці правады зноў сцягнулі, шэльмы? Са слупоў?

П а ў л аў н а. А Бог яго ведае.

Я г о р *(голасам дыктара).* Паслухайце, паважаныя таварышы, апошнія навіны. Як перадае наш карэспандэнт з вёскі Шкірдзюкі, у якой на гэты момант пражываюць ўсяго тры жыхары – але якія! – раніца тут пачалася як звычайна… Паўлаўна выбівае падушку, на якой бачыла сёння ноччу салодкія сны….

П а ў л аў н а. Баламут ты, Ягор.

Я г о р. Адзін момант! Уношу папраўачку: паколькі сёння субота, самы шчаслівы дзень у нашай гераіні, бо з хвіліны на хвіліну могуць заявіцца яе дачка Юлія і зяць Віктар, то яна, выбіваючы падушку на падаконніку, тым самым, як бачым, рыхтуецца да іх сустрэчы…

П а ў л аў н а. Памыляешся, сусед. Субота і нядзеля – самыя не шчаслівыя, можа, дні…

Я г о р. І ў мяне… Чакаю сваіх, а не едуць…Ды я і не ўкрыўдзе, праўду кажучы: люблю цішыню…спакой…

П а ў л аў н а. Харахорышся, пакуль на сваіх нагах…

Я г о р. М-да… Мусіць, твая праўда, Паўлаўна, яціттваю качарыжку!.. *(Пацягваецца, паказвае некалькі элементаў фіззарадкі).* Але я ведаю одно: ніколі не скардзіся… пашкадаваць не пашкадуюць, а паважаць перастануць. Раз-два, раз -два!..

*Паўза.*

П а ў л аў н а. У цябе што – свайго двара няма рукамі махаць?

Я г о р. Раз-два!.. Раз-два!..

П а ў л а ў н а. Ты чаго прыйшоў так рана, сусед?

Я г о р. Лепш недаспаць, чым пераспаць. Раз-два! Недасып можна даспаць. Раз-два! Пересып адаспаць нельга.

П а ў л а ў н а *(памацала мышцы на Ягоравай руцэ).* Хоць качай, качай мышцы, сусед. Хутка касіць… сіла патрэбна.

Я г о р *(закончыў зарадку).* Было б што касіць. Кароў не трымаем, а ў садах траву збіць багата сілы не трэба. За мной не заржавее. Дык гэта… з дрывамі -та на зіму што рашыла?

П а ў л аў н а. Адказалася ад дроў.

Я г о р. Ідзі ты!.. Зусім ці як?

П а ў л а ў н а. Зусім…

Я г о р. Змерзнеш, аднак.

П а ў л а ў н а. А што будзе тое будзе!

Я г о р. Ніяк у горад намылілася на зіму?

П а ў л а ў н а. Там нас ніхто не чакае… у тым горадзе…

Я г о р. Гэтатак: ніхто… Ну добра, пайду я?

П а ў л аў н а. Ідзі.

Я г о р. Ісці?

П а ў л а ў н а. Не, ты, Ягор, не проста так прыйшоў… Гавары – навошта прышлёпаў? Прызнавайся.

Я г о р *(нясмела).* У мяне… гэта… дроў багата… многа… Можа… гэта… ты да мяне… ці я да цябе, а, суседка?

П а ў л а ў н а *(здзіўлена).* Што?!

Я г о р. Удвух цяплей як ніяк будзе… Прыціснемся… гэта… прыжмемся…гэта… ага!

П а ў л а ў н а *(амаль агрэсіўна).* Ведаеш што!.. *(Раптам рашуча).* А дай падумаць!..

Я г о р. Дык і я пра тое ж.

П а ў л а ў н а. Гэта ж трэба!..

Я г о р. Ты пра што?

П а ў л а ў н а. Ды ўсё пра тое ж. Школу, кажа старшыня сельсавета, неўзабаве пачнем бурыць, будзе табе дроў на тры зімы наперад, Паўлаўна. Ты чуў такое?

Я г о р. Як ёсць!

П а ў л а ў н а. Ты зразумеў?

Я г о р. Абавязкова…

П а ў л а ў н а. А я, дура старая, і пагадзілася.

Я г о р. І правільна…

П а ў л а ў н а. А потым прыйшла дамоў, снедаць стала, ем і думаю… Як гэта я, настаўніца амаль з саракагадовым стажам, буду сядзець перад грубкай і спальваць у яе чэраве школу?

Я г о р. Зерне ёсць… маецца.

П а ў л а ў н а. Сваю школу – разумееш, сусед-жаніх?

Я г о р. Першай справай…

П а ў л а ў н а *(раптам).* Ідзі дамоў, Ягор! “Як ёсць!”, “Абавязкова”, “Зерне маецаа”, “Першай справай”… А душы няма…

Я г о р. У каго?

П а ў л а ў н а. Ні ў каго, а ў тваіх словах… плявузгаеш, як не ведаю прама… Абы сказаць… як ад сценкі адлятаюць словы…І табе ўсё роўна, бачу, Ягор…

Я г о р *(думаючы пра сваё).* Мне?

П а ў л а ў н а. Тебе, тебе. *(Знікае).*

Я г о р. Дык гэта… як наконт дроў, а, Паўлаўна? У меня многа іх… я ж сказаў… удвух цяплей будзе… як ніяк… Ты ж на галоўнае пытанне не адказала, яціттваюкачарыжку!Ат, баба!..

Карціна другая

*Ягор адзін. Слухае радые. Потым прыглушыў дынамік, начапіў акуляры на нос, сядае на зэдлік і цыруе шкарпэтку.*

Я г о р *(напявае).* "Нясе Галя воду… карамысла гнецца… а за ёй Іванка… як барвінак ўецца…"

*Стук у дзверы.*

Я г о р. Не замкнёна! Калі ласка!

*Уваходзіць Оля.*

О л я. Добры дзень, дзед Ягор!

Я г о р. О, Оля! Праходзь, праходзь, госцем будзеш.

О л я. Я на працы. Некалі гасцяваць. Вам прграма ТБ. *(Паклала на стол газету).*

Я г о р. Дзякуй. І што б я рабіў, не ведаю, калі б не было яго, ТБ гэтага.

О л я. Так, сумна ў вас, у Шкірдзюках. Усяго тры чалавекі.

Я г о р *(адклаў шкарпэтку ў бок, устаў).* Ідзі ты!.. А я і не ведаў: думаў, нас ого колькі!..

О л я. Ну, можа я не так сказала?..

Я г о р. Усё так, дзяўчына. *(Налівае ёй у шклянку, які перад гэтым акуратна спаласнуў, квас).* Падбярозавік. Квас. Папі. Больш пачаставаць няма чым.

О л я. Ой, што вы! А за падбярозавік дзякуй. *(Выпіла).* Фу, рэзкі! Добры квас.

Я г о р. Ну, уяві… прадстаў сабе: а было б нас не трое, а, скажам, сто?

О л я. Што тады?

Я г о р. А я б усё адно таптаўся ў двары Паўлаўны… Куды мне ўжо хадзіць далёка? А тут – побач… І Акрошка плюс да ўсяго… А калі нас трое, то гэта ўжо можна і згарбузаваць нешта…

О л я *(смяецца).* Вы пра што гэта, дзядуля? У якім сэнсе згарбузаваць?

Я г о р. А ў якім хочаш. Хоць за сталом, хоць на агародзе, хоць дзе…Нас мала, але мы, як кажуць, у цяльняшках. Як там, на дварэ?

О л я. Душна.

Я г о р. Таму і не выходжу, схаваўся.

О л я. Вы старажыл, дзед Ягор, напэўна, у вас ёсць свае прыкметы, па якіх вы вызначаеце надвор'е?

Я г о р. Так. Абавязкова.

О л я. А якія, калі не сакрэт?

Я г о р *(паказвае).* Глядзі сюды… Калі я з гэтага месца бачу процілеглы бераг ракі, значыць, будзе дождж.

О л я. А калі не бачыце?

Я г о р. Значыць, дождж ужо ідзе.

О л я *(хіхікнуўшы).* Цікава. Ну, пабегла я. Дзякуй за квас яшчэ раз.

Я г о р. Пачакай бегчы! Пачакай!

О л я. А што?

Я г о р. Справа маецца.

О л я. Важная?

Я г о р. Няма слоў якая важная…

О л я. Ну?

Я г о р. Дапамажы мне, прыгажуня, пісьмо напісаць? Не спяшаешся?

О л я. Не быццам… А каму?

Я г о р. Сваім я нікому не пішу – не адказваюць таму што. *(Дастае паперу, ручку).*

О л я. А цяпер мала пішуць. Больш па тэлефоне…. А ў вас што, і тэлефона няма?

Я г о р. У Паўлаўны ёсць. Папера, ручка вось… канверт не абавязкова…

О л я. Вы жартуеце? Як гэта без канверта? Вы што такое кажаце?

Я г о р. Тут блізка… побач…

О л я *(усміхаецца).* А, я ўсё зразумела!

Я г о р. Калі зразумела – малайчына.

О л я. Дзядуля, а навошта пісаць вам? Схадзіце і скажыце…

Я г о р. Занясі, занясі пісьмо. На словы ў мяне духу не хапае…

О л я. Ну, добра… Што пісаць? Дыктуйце.

Я г о р. А так я буду ў сваё акенца назіраць, як ты ёй пісьмо перадаеш, і адразу ўбачу, як адрэагуе… Калі пачне кулакамі махаць…

О л я. Паўлаўна?

Я г о р. …значыць, асадзі назад… Паўлаўна, Паўлаўна…А калі ўсміхнецца і пісьмо маё прыцісне да сэрца – тады смела ідзі, Ягор, у сваты…

О л я *(смяецца).* Ніколі я яшчэ такіх пісьмаў не разносіла – каб і без канверта, і без маркі… Не, я ахвярую, такой бяды, свой канверт… Ну, што пісаць будзем, дзед Ягор?

Я г о р. Пачакай, пачакай, яціттваю качарыжку! Дай сабрацца з духам.

О л я. Чакаю.

Я г о р *(зняў са сцяны партрэт жонкі, працёр рукавом, павесіў на ранейшае месца).* Яна зразумее мяне…

О л я. А хто гэта?

Я г о р. Паліна… Полечка…Яна зразумее мяне… Дзесяць гадоў мінула, як пайшла…

О л я. А вы ў маладосці прыгожым былі, відаць?

Я г о р. У люстэрка некалі было глядзецца.

О л я. Ой, так і паверу! Па вашых вачах бачу, што хлусіце. Дзяўчаты гужам бегалі за вамі, хіба не так?

Я г о р. Не ўсе.

О л я *(здзіўлена).* Не ўсе?!

Я г о р. Не ўсе. Можа, хоць цяпер не адмовіць…

О л я.Дык што, вам Паўлаўна тады адмовіла? Не можа быць!

Я г о р. Можа, усё можа. Хоць я больш сам вінаваты… калі яна на настаўніцу паступіла, я і збочыў… стаў у старонку… Хто я? Хто яна? А вось Лізка сама ліпла, а не падыходзіла для маёй душы… Не камплект…

О л я. Ды пра вас жа раман можна напісаць, дзед Ягор!

Я г о р. Ідзі ты!..

О л я. Праўда. Жывы матэрыял пад нагамі.

Я г о р. А хто напіша? Пісьмо і тое скласці не ведаем як…

О л я. Хоць сапраўды так…

Я г о р. Ведаеш што, дзеўка: а не будзем пісаць нічога! Не будзем!

О л я. Перадумалі?

Я г о р. Перадумаў. Можа, лепш возьмем і ўдваіх заявімся? Давай, а? Нечакана-негадана. Возьмем з наскоку. Паставім Паўлаўну перад фактам. Прыпром да сценкі. А то аднаму неяк боязна… падкаленкі адразу задрыжаць, адчуваю… пальцы затрымцяць, зубы заляскочуць…

О л я. Ну, не ведаю… Я ў прынцыпе гатова… Мне ж нічога не будзе, калі што…

Я г о р. А мне як раз падпорка патрэбна…. Маральная падтрымка, так бы мовіць. А то Паўлаўна за нос водзіць… і так і не… Пытанне рабром – адказ тым жа спосабам!..Верыш ці не, я да зубнога лекара ніколі без сваёй Паліны не хадзіў? А сядзіць яна дзесьці ў калідоры, пад дзвярамі, і я смялей

трымаюся ў тым паганым крэсле, і бормашыны не так баюся. Мужыку заўсёды жанчына патрэбна... У любым выпадку... Без іх, баб, змарнець можна...Ты сама замуж ж збіраешся, ці як?

О л я. За кого, дзед Ягор? Ты ж мяне не сватаеш...

Я г о р. Ды ладна табе, яціттваю качарыжку!.. Бач ты: ты ж не сватаеш... А чаго? Быў бы маладзейшы траха – і тупнуў бы, можа быць, яшчэ не толькі нагой, а? Хаця марыць не шкодна...

О л я. Калі ж цяпер усе хлопцы толькі і мецяць у ложак зацягнуць дзеўку, а тое, што дзеці з гэтага атрымліваюцца, яны ў школе не праходзілі. А потым расці дзіцёнка адна, разнось пісьмы па вёсцы і лаві касыя позіркі ды насмешкі... *(Вытрымаўшы паўзу).* Дык мы ідзём?

Я г о р. Прападзі яно пропадам – ідзём!.. Пачакай мяне ў двары... Бо справа не капеячная, сур'ёзная...

О л я. Добра. Чакаю на дварэ, дзед-жаніх!

*Оля чакае Ягора. З'яўляецца Ягор. Ён у пінжаку, на якім шмат розных узнагарод – працоўных, вядома, а таксама салдацкія знакі доблесці. Пад пахай стары трымае папку, у руцэ – торбу.*

О л я. Паспяшацца трэба, дзед Ягор!

Я г о р. Пайшлі, пайшлі. *(Раптам).* Пачакай-ка. Здаецца...

О л я. Што вам здаецца?

Я г о р Расчоску, відаць, забыўся?

О л я. Ой! Навошта яна вам? Адзін кусцік на галаве валасоў тых!.. *(Прыгладзіла валасы Ягору).* Парадак. Кавалер яшчэ той! Першай свежасці!

Я г о р *(зноў спыніўся).* Можа, гэта...

О л я. Што на гэты раз?

Я г о р. Можа, кажу, кветак нарваць? У палісадзе?

О л я. Ой, як маленькі! Прама не ведаю!

Я г о р. А як жа без іх, без кветак? Аўтарытэтней будзе.

О л я. У першы клас, ці што, ідзеце?

Я г о р. Атрымліваецца... што так...

О л я. Ды ў цябе, дзед Ягор, ніяк ногі дрыжаць?

Я г о р. Хіба?

О л я. Дрыжаць, дрыжаць – каленкі асабліва.

Я г о р. А я не заўважыў.

О л я. Відаць жа. Можа і за вугал адразу сходзіце, каб потым перад Паўлаўнай не выставіцца на пасмешышча?

Я г о р. Нядрэнна б...

О л я *(рашуча схапіла Ягора пад руку і пацягнула за сабой).* Не! Хопіць! Яшчэ не было такога выпадку, каб я калі-небудзь пошту не даставіла адрасату!!!

Я г о р. Ну, дзеўка! Ну, агонь! Твая ўзяла. Рабі, як бачыш.

О л я. Хай снег, хай дождж, а я пры выкананні!.. Расчоска вам здалася... кветкі...Вялікая раскоша ў наш час!..

*Падворак Паўлаўны. З'яўляюцца Ягор і Оля.*

Я г о р *(шукае вачыма Паўлаўну).* Ку-ку. Не відаць штосьці.

О л я *(кліча).* Наталля Паўлаўна!

Я г о р. Чуе, а як жа, што справа тут пахне карасінам, таму і схавалася.

Г о л а с П а ў л а ў н ы. Іду, іду.

Я г о р *(храбрыцца, але ціха – больш Олі).* А куды ты дзенешся?!

*З'яўляецца Паўлаўна.*

О л я. Я вам тут пісьмо прынесла....

П а ў л а ў н а *(здзіўлена)*. Пісьмо?

О л я. Так.

П а ў л а ў н а. Давай, дзе яно? Даўно не атрымлівала лістоў. Ды вы ж не стойце ў парозе, праходзьце, праходзьце. Я ў агародзе была, траву рвала.

О л я. Дакладней, прывяла…пісьмо.

П а ў л а ў н а. Пісьмо… і прывяла? Як гэта? З якога часу пісьмы ходзяць?

О л я. З нядаўняга… Пры тым як ёсць – жывое… на двух нагах…

П а ў л а ў н а *(прыкідваецца).* А гэта хто?

*Ягор адварочваецца, бурчыць штосьці невыразнае.*

О л я. Ды гэта ж дзед Ягор!

П а ў л а ў н а. Ой, і праўда! Як гэта я адразу не прызнала цябе, сусед?

Я г о р. Багатым буду.

П а ў ла ў н а. А ўзнагарод!

Я г о р *(ганарліва, але саромеючыся).* Маюцца… не адседжваўся… за спіны іншых не хаваўся…

П а ў л а ў н а. Ну, і з якога ж выпадку ты так прыбраўся, Ягор?

Я г о р *(піхае Олю).* Оль, скажы… давай, давай. Наперад!

О л я. Дзядуля! У вас што, языка няма?

Я г о р. Язык – гэта, значыць, маецца… Пры мне язык… На самой справе… што гэта я здрэйфіў… і тады, у маладосці, баяўся, і цяпер… атрымліваецца, праглынуў яго, язык… Прысесці… гэта… можна, Паўлаўна?

П а ў л а ў н а. Вы што, лавы не бачыце? Ды і хіба ж я не запрашала?

О л я. Запрашалі, запрашалі.

Я г о р. Галава пайшла кругам – нічога не памятаю. Дождж будзе. Навальніца… Маланкі зіхацець, адчуваю, хутка пачнуць і ўсё ў такім жа парадку… Вось бутэлька майго вінаграднага… *(Паставіў на стол).* А гэта, Паўлаўна, пасведчанні да ўзнагарод… не з тваіх сланечнікаў заявіўся… сумленна зарабіў… тут жа, у папцы, пятнаццаць грамат і пахвальных лістоў за бульбачку і лён… за каноплі таксама…

П а ў л а ў н а *(уздыхнуўшы).* Калісьці і лён вырошчвалі… і каноплі…

О л я. Ну, я пайду, можа? Бачу, дзед Ягор, усё ідзе добра…

П а ў ла ў н а. Што ідзе?

Я г о р. Працэс.

О л я. У жыцці кожнага чалавека… няважна, стары ён ці малады… настае такі перыяд у жыцці, калі яму трэба сказаць самыя важныя, самыя галоўныя, самыя запаветныя словы іншаму чалавеку…

Я г о р. Дзе ты раней была, Оля? Гадоў пяцьдзесят назад!..

О л я. Такі перыяд наступіў для дзеда Ягора, дарагая і паважаная Наталля Паўлаўна, сёння…

П а ў л а ў н а. Мне… мне штосьці нядужыцца… *(Схапілася за сэрца).* Ой! Ой!..

О л я. Вады, вады!

Я г о р *(мітусіцца).* Зараз, зараз. Я імгненна. А потым скажуць: не дажыла і да вяселля,яціттваю качарыжку!… *(Прынёс кружку з вадой, перадаў Олі).* Паі, паі яе. Ратуй.

О л я. Усё будзе добра. Вам ужо лягчэй, Паўлаўна?

Я г о р. Так, так: як табе?

П а ў л а ў н а. Ужо лягчэй… А што гэты ты мне, Ягор, сказаць хацеў?

О л я. Дзед! Да вас звяртаюцца!

Я г о р. Ідзі ты!.. *(Перахрысціўся).* Знайшоў – не радуйся, згубіў – не плач. Будзь што будзе.

П а ў л а ў н а *(хворым голасам).* Кажы хутчэй, а то раптам памру і не пачую…

Я г о р. Выходзь за мяне замуж, Паўлаўна.

П а ў л а ў н а. Я… я згодна…

Я г о р. Ідзі ты!.. Яна згодная-я-я!..

О л я. Сёння я прынесла ў гэту хату самае галоўнае пісьмо у сваім жыцці! Ну, мне пара! Віншую вас, дзед Ягор і Наталля Паўлаўна!

П а ў л а ў н а. Але мы ж яшчэ не распісаліся. Пачакай віншаваць нас.

О л я. А хто цяпер распісваецца? Маладыя і тыя вунь не жадаюць!..

Я г о р. Правільна. Будзем і мы жыць у грамадзянскім шлюбе. Галоўнае зафіксавацца…кропку намацаць, з якой будзем весці адлік… Адкуль, цікава, такое вынаходніцтва ўзялося – грамадзянскі шлюб? Ад грамадзянскай вайны, ці што?.. Калі пераходзіць, Паўлаўна? Ці ты да мяне? Хоць не-не: у цябе зараз цэнтр быццам… пуп зямлі… Ці будзем іншы раз разбягацца па сваіх казармах, а?

*Оля непрыкметна выходзіць.*

П а ў л а ў н а. Я прама не ведаю… Разгубілася ўся… Твар гарыць…

Я г о р. Ты пра агонь успомніла… то дровы я прынясу…

П а ў л а ў н а.Ну не школу ж бурыць! Яна ж, школа, памятае тысячы дзяцей, дзясяткі настаўнікаў… Там гучала столькі галасоў, у школе!.. І раптам – разваліць, на дровы яе!..

Я г о р. Я б не стаў… Але…

П а ў л а ў н а. Я ўсё разумею: дзяцей няма, а без іх – і школы… Але ўсё адно неяк шкада яе, школы… Як і памерлага чалавека… Яшчэ, можа, прабач Божа, не кожнага і чалавека так шкада…

Я г о р *(перахрысціўся).* Так, жыццё – як лесвіца ў куратніку: і кароткая, і ўся абас…абгаджана…

П а ў ла ў н а. Еў што?

Я г о р. Гэта пытанне мне падабаецца! Хоць і еў, але не скажу: усё адно жадаю паварушыць сківіцамі разам з табой.

П а ў л а ў н а. Зараз я. Пачакай.

Я г о р. Калі ласка.

П а ў л а ў н а. Размаўляй са мной, я ўсё чую… *(Знікае).*

Я г о р. Гэта калі Віцька мой малым быў, узяў я яго з сабой у лес неяк… Думаю, сальца пасмажым на дубчыках … смачна ж… Купіў яму, падшыванцу, "сітро" ў краме…як раз па дарозе… тады ў нас яшчэ крама была… а сабе дай, думаю, бутэлечку віна прыхаплю… пад сальца ж… ды на прыродзе – прыгажосць!.. Прыходзім дахаты, з грыбамі, вядомая рэч, а ён, падшыванец такі, і кажа Паліне: тата купіў мне "сітро", а што ён піў, я табе не скажу… Ну ці не паганец малы?..

І дзе ён сёння, цікава, бадзяецца? То ў Маскву, то ў Піцер носіцца… і ўсё міма мяне… Ні кала, ні двара… Цьфу!.. Будаўнік камунізма! Ты спярша сабе хату пабудуй! Анька, шугаліца, тая хаця блізка… Казаў жа Паліне: давай яшчэ аднаго завядзем дзіцёнка. Трэцяга… Не паслухалася. Цяжка, маўляў. Навошта жабракоў пладзіць…разводзіць? А яно потым і жыццё памаленьку наладзілася, уверх пайшло… Прамахнуліся, адным словам… Ат!..

*Зацямненне*

Карціна трэцяя

*Акрошка коціць бідон з вадой. Крэкча і сапе. Бітон раз-пораз сваім цяжарам хоча вырваць у бабкі ручку тачкі.*

А к р о ш к а. Стаяць! Не падаць! Стаяць, сволач такая!..Каму кажуць?!.. Калі ў гэтым бідоне самагон рабіла, а ён, гляньце вы, і сёння яшчэ п’яны!.. Стаяць!..

*З'яўляецца Ягор. Ён вяртаецца ад Паўлаўны, таму ў тым жа пінжаку з узнагародамі.*

Я г о р. Ты каму гэта загады аддаеш, Лізка? “Стаяць! Не падаць!”

А к р о ш к а. А ўзяў бы ды памог!..

Я г о р. А калі Ягор не дапамагаў?

А к р о ш к а. Хоць праўда – калі ты не дапамагаў… Але!

Я г о р. Што "але"?

А к р о ш к а. У апошні час, звярнула ўвагу, дапамагаеш ты з прыкметным перакосам, сусед.

Я г о р. Гэта як?

А к р о ш к а. Больш у той хаце, што па левую руку…

Я г о р. Дык мужыка заўсёды налева цягне.

А к р о ш к а.І прыфранціўся, гляньце вы на яго! О-е-е-ёй!.. Ніяк у сваты хадзіў?

Я г о р. Была справа…

А к р о ш к а *(раўніва).* Без тваёй дапамогі абыйдземся!.. (Рашуча пакаціла бітон. Знікла).

Я г о р *(цяжка ўздыхнуўшы).* Эх, Лізка, Лізка!.. Яціттваю качарыжку!..

Карціна чацвёртая

*Паўлаўна сядзіць за сталом, спявае і перабірае проса.*

*Заходзіць Акрошка. Моўчкі садзіцца насупраць Паўлаўны, якая працягвае спяваць.*

А к р о ш к а. Спяваеш?

П а ў л а ў н а. Ага, спяваю… *(Нейкі час спявае і размаўляе).*

А к р о ш к а. Зайздрошчу табе, Наталля…

П а ў ла ў н а. Я ведаю…

А к р о ш к а. Бессаромніца! *(Памкнулася пайсці, але раздумала).* А мяне што, адну пакідаеце? Саму з сабой?

П а ў л а ў н а. Хто табе сказаў?

А к р о ш к а. Сарока на хвасце прынесла. “Хто табе сказаў?”

П а ў л а ў н а. Ды гэта ж усё не сур'ёзна… амаль гульня, Лізка.

А к р о ш к а. Дагуляецеся, што мяне і на парог не пусціце.

П а ў л а ў н а. Ды будзем жыць, як жылі. Маленькай камунай.

А к р о ш к а. "Камунай". А чаго ж тады ён пры ардэнах і медалях маю хату абмінуў? Чаму? У цябе адзначыўся, у мяне – не.

П а ў л а ў н а. Не ведаю… У яго спытай…

А к р о ш к а. Значыць, ужо пароўну не атрымліваецца, а што далей будзе – не бяруся сказаць, адзін Бог ведае…

П а ў ла ў н а. Ну і што ты параіш?

А к р о ш к а. З мяне дрэнная прадказальніца. Гэты ты вывучаная…

П а ў л а ў н а. А што ж я павінна была сказаць Ягору? Прагнаць – так?

А к р о ш к а. Можа і так… у лоб: вон!..прэч!..

П а ў л а ў н а. Ён жа свой нам.

А к р о ш к а *( у руху).* Гэта я… Гэта я, дурр-ра-р-ра старая…

П а ў л а ў н а. Што – "ты"?

А к р о ш к а. Усё жыццё марыла яму мыць кашулі, якія яго потам пахнуць… гатаваць яму смачную ежу… А ўсё гэта цяпер будзеш рабіць яму ты. Ты! Адна!

П а ў л а ў н а. А давай удваіх? Раней мы неяк Ягора і зусім амаль як не заўважалі… па гэтай лініі…

А к р о ш к а. Ты пра сябе кажы!

П а ў л а ў н а. А цяпер, калі пастарэлі, ды і сваіх мужоў пахавалі, а дзеці нашы страцілі вёску з вачэй сваіх і нас у ёй, тады вось і пра Ягора ўспомнілі… Так, гэта так, Лізка: нам без Ягора будзе гора… Усё ж ён дужы дзед яшчэ… а ў вёсцы без мужыка як абыйсціся?

А к р о ш к а. Акрошкай мяне празваў… як жа… А то я не разумею нічога… як жа… Проста яму ежа тая, якую я гатоўлю, у рот не лезе – вось і выдумаў пра акрошку… Гадзіцца ніяк…

П а ў л а ў н а. Хопіць табе! Хопіць, Лізка!

А к р о ш к а. Выпіць нальеш?

П а ў л а ў н а *(напоўніла чарку і падала Акрошцы).* Закусіць даць?

А к р о ш к а. Пасля трэцяй… Учора ў газеце вычытала: цяпер людзі п’юць больш, чым у савецкі час. Канешне, больш… Вунь брата майго вазьмі, Сцёпку, які ў Прудку жыве… Раней, якраз у савецкі час, ён піў адзін, а цяпер у яго і два сыны…І ўнук на падыходзе… падрастае… (Выпіла і знікла).

П а ў л а ў н а. Ты куды гэта, Лізка? *(Замітусілася).* Лізка!..Яна што, з глузду з'ехала? Яшчэ, чаго добрага, рукі на сябе накладзе… Хоць я вінаватая ва ўсім, я!.. Навошта Ягора дзяліць нам трэба было? Навошта? Лізка-а-а-а!.. *(Выбягае).*

Карціна пятая

*З'яўляецца Ягор з мяшком на плячах.*
*Вяртаецца Паўлаўна.*

П а ў л а ў н а *(злосна).* А яна, кляча старая, на прызбе сядзіць!..

Я г о р. Ты пра каго гэта?

П а ў л а ў н а. Ну пра каго ж яшчэ, калі нас усяго трое ў Шкірдзюках?

Я г о р. Разумею і спачуваю… Куды ўсё гэта кінуць? Патрошкі пачынаю пераязджаць. Транты.

П а ў л а ў н а. Прама не ведаю… *(Адвярнулася, амаль жалобна).* Спакусіў ты мяне, Ягор…

Я г о р. Калісьці ж трэба было.

П а ў л а ў н а. Перад Лізкай сорамна… няёмка. Жылі-жылі як звычайныя людзі, як добрыя суседзі, і раптам прыспічыла нам… А?

Я г о р *(выкладае з мяшка рэчы на стол).* Кашуля…У Журавічах купляў…Сабе да дня нараджэння… Порткі… Колькі ў іх я пахадзіў – адзін Бог ведае… А гэта, чуеш, галіфэ… Калісьці фарсіў… Модна было…Яны мне ў спадчыну ад фінінспектара Жылкі засталіся… Жылка ў Ленінградзе, ці як ён цяпер там завецца… памёр даўно, вядома, ён і тады стары ўжо быў, а галіфэ захавалася… Акуратна насіў… Не песціў сябе…Абутак… Боты… З войска прыйшоў у кірзачах… Па пясках лазіў у Туркменіі ў іх…пяску наб’ецца, вытрасу, і далей, і наперад… А гэта сандалеты… а гэта чаравікі… І ўвесь абутак… на большае не зарабіў за сваё жыццё… А вось чаму, скажы, артыстам, якія ў кіне здымаюцца, даюць адзежу дзяржаўную, а нам, калгаснікам, – у сваім тупай на працу, сваё рві… Несправядліва… Не, няправільна… Капялюш… *(Надзеў).* Як я ў капялюшы, Паўлаўна? Ідзе? Ажур?

П а ў л а ў н а *(з надрывам).* Ягор! Я месца сабе не знаходжу, а ты мне пра капялюш!..

Я г о р *(спакойна).* А вось і гальштук… Не памятаю, карыстаўся ім калі ці не…

П а ў л а ў н а. Як жа: а на пашпарце ты ў чым?

Я г о р. А ты адкуль ведаеш?

П а ў л а ў н а. Бачыла, няго ж…

Я г о р. У армію са мной цыган адзін прызываўся… Дзесьці ж і адлавілі!… Дык у яго ў ваенным білеце, што асабліва павесяліла нас усіх, картка была ўклеена, дзе ён з веласіпедам стаіць… За руль трымаецца і глядзіць так горда наперад: а вось ён і я, бравы салдат Швэйк!.. Ну вось і парадак. Нічога, нічога… А Лізка ачомаецца і яшчэ нам халаднік гарадскі згатуе… ці, дакладней, акрошку…Толькі я – цур! – ні на зуб… Як тады жывы застаўся – не зразумею… Усё было супраць мяне…З-за вугла двое сутак не выходзіў…

П а ў л а ў н а. Відаць на старане штосьці не тое з'еў, а на бедную Лізку пераклаў.

Я г о р. Каб жа!.. Вось і ўвесь мой пасаг, не лічачы патэльні і зімовай шапкі з фуфайкай… О! Гэта ж лялька, здаецца?(Дастаў з меха ляльку).Унучачка, Вераніка, пакінула, калі ў горад ад’язджала. На, кажа, дзядуля, табе на памяць. Мяне будзеш успамінаць.

*Паўлаўна моўчкі ўзяла ў Ягора ляльку, прыціснула да грудзей, пяшчотна гладзіць.*

Я г о р. Дык што, прымаеш?

*Паўза.*

П а ў л а ў н а. Не, Ягор, не прымаю. Жыві адзін.

Я г о р *(аслупянеў).* Я жартую, але я сур'ёзна…

П а ў л а ў н а. Сур'ёзней не бывае.

Я г о р. А што ж раней абяцала, яціттваю качарыжку?..

П а ў л а ў н а. Прабач. Лізку шкада. Загнецца яна адна… Я ж ведаю, што ўсё жыццё кахала яна цябе. І цяпер кахае.

Я г о р. А я – цябе, ну дык што цяпер!.. Ну дзе яна тут, гэтая сярэдзіна, маць яе так!.. І навошта я пёр усё гэта сюды, спытаецца б?!.. *(Запіхвае назад рэчы ў мяшок, а капялюш насадзіў на кол).* Хай памяць застанецца на вякі: тут некалі хадзілі Ягоры-дзівакі!..

П а ў л а ў н а. А ты не сыходзь, не трэба сыходзіць.

Я г о р. Як разумець?

П а ў л а ў н а. Будзем жыць, як і жылі…

Я г о р. Ягор любіць пэўнасць Канкрэтнасць. Ясна, Наталля Паўлаўна! Не магу я адразу на вас дваіх жаніцца, не магу!..

П а ў л а ў н а. А і не жаніся, не трэба!

Я г о р. А калі Ягору прыспічыла?

П а ў л а ў н а. Як гэта?

Я г о р. Але я не бабнік які-небудзь распешчаны. Усё павінна быць па законе, годна і высакародна. Ці хоць бы па адданасці і вернасці…

П а ў л а ў н а. Прабач, спытаць хачу…

Я г о р. Пытай. Увесь увага.

П а ў л а ў н а. Дык гэта я табе што, яшчэ як жанчына патрэбна буду?..

Я г о р. Абавязкова! А навошта мне мужык? Мужык – я сам!

П а ў л а ў н а. І разам спаць будзем?

Я г о р *(упэўнена).* Пра што і гаворка!

П а ў л а ў н а. І не сорамна табе, Ягор?

Я г о р. Хай будзе сорамна тым, хто ў мае гады баіцца жанчын, як агню!

П а ў л а ў н а *(спалохана).* Цішэй ты!.. А то Лізка пачуе…Цішэй!..

Я г о р *(вытрас рэчы з мяшка на стол).* Перабірай!... *(Сарваў з кола капялюш, таксама кінуў на стол).* Нікуды я не пайду больш ад цябе!

П а ў л а ў н а. І я то так, то гэтак… Разгубілася неяк… Усё адно як плаваю… І да цябе тулюся, і ад цябе…

Я г о р. Тулішся, кажаш? Тады дазволь і мне прытуліцца да цябе?.. *(Прытуліў Паўлаўну да сябе, гладзіць яе валасы).*

П а ў л а ў н а. Лізка… Лізка… Лізка, прабач мяне… Прабач… Я, здаецца, здурнела… пад старасць…

Я г о р. Лепш быць нахабным вечарам, чым ідыётам раніцай. *(Падхапіў Паўлаўну пад руку  і пацягнуў у хату).*

*З аднаго боку з’яўляецца Анька, з другога – Акрошка.*

А н ь к а. Вы, цётка Ліза?

А к р о ш к а. Я, я. Цябе чакаю… Ну, чаго стаіш? Дзейнічай! Яны там… удвух. Сама бачыла, як пацягнуў у хату… Згроб у бярэмя, як воўк авечку, – і бывай здарова, Акрошка! Вось табе, Лізка! (*Тыцнула кукіш сабе пад нос).*

А н ь к а. Тётка Ліза, вы не хлусіце. Гэта праўда?

А к р о ш к а. Я табе гавару! Твой бацька рашыў жаніцца на Паўлаўне, перайсці да яе, а сваю хату Юльцы аддае пад дачу. Сама чула. Вось гэтым вухам… Юлька не прамахнецца. Яна – не ты. Зразумела?

А н ь к а. Ага! Зразумела…

А к р о ш к а. Дзейнічай, дзейнічай, дзеўка, калі не хочаш застацца вось з такім носам…. *(Паказала).* Ты вось што. Анька,забрала б яго лепш у горад, ці што? А хатуц сама б прадала…. У Ягора не хата – цацка, дачнікі схопяць… а табе ў горадзе кожная капейка не лішняй будзе… А?

А н ь к а. Я… я падумаю, цётка Ліза.  Дзякуй за інфармацыю…

А к р о ш к а. Свае людзі – разбярэмся.

А н ь к а. У мяне ёсць адна ідэя…

А к р о ш к а. Ажыццяўляй! Не буду перашкаджаць…*(Знікае).*

*Анька ляпае ў дзверы.*

Г о л а с  Я г о р а. Акрошка, мацць тваю! Дай паспаць, яціттваю качарыжку!..

*Анька працягвае ляпаць.*

Г о л а с  Я г о р а. Што, можа ты,Акрошка, мякіны аб'елася? Ты, Лізка? Лізка, мацць тваю!.. Не стой, кажу, пад дзвярамі, не гуляй у кошкі-мышкі!.. Не тыя гады, панімаш!.. Ну, каму сказана?!..

А н ь к а. Тат, гэта я! *(Вытрымала паўзу, зноў ляпае).* Ты адчыніш ці чым ты там займаешся?

*Паказваецца Ягор, у яго спадаюць штаны, ён падтрымлівае іх як можа, і ў гэты час Паўлаўна працягвае яму папружку… яе відаць толькі рука.*

Я г о р *(узяў папружку, спрабуе прасунуць яе ў пятлю, але трымцяць рукі і ён не трапляе).* Т…ты?

А н ь к а *( кінулася на шыю бацьку, радасна).* Тата-а-а!.. Папулечка-а-а!..

Я г о р *(буркліва, адбіваючыся).* Чорта ўспомніш, ён тут як тут.

А н ь к а. Папулечка мой!.. Я прыехала!.. Прабач, што доўга чакаў мяне…

Я г о р. Пачакай ты! Задушыш жа!

А н ь к а.Як я цябе люблю, татачка! Каб ты толькі ведаў!

Я г о р. Дык жа пенсія яшчэ далёка…

А н ь к а. Якая пенсія?! Ты пра што, баця?!

Я г о р. Хоць ты з мяне мала патрабуеш… хлусіць не буду…

А н ь к а. Добрыдзень, тата! А ты ўсё такі ж ганарлівы і прыгожы!

Я г о р. Анька, табе ж трыццаць гадкоў, а ты ўсё такая ветраная – ну прама дзіця.

А н ь к а *(горда).* А хто ў гэтым вінаваты? Чыя кроў у мяне бурліць, а, папуля?

Я г о р. Ідзі ты!..

А н ь к а.Прызнаў, прызнаў!.. Хтосьці б хаваўся ў кусты, а ты малайчына! Ну, дзе тут у цябе што смачненькае? *(Шукае, чым паласавацца).*

Я г о р. Ну ўся маці, а. Тая, бывала, калі з сенажацяў з лугу вернешся праз тыдзень які і тое засумуе… і адразу на шыю… і давай мяне цалаваць-абдымаць… У маладосці, вядома ж… *(Усё ніяк не можа прасунуць папругу ў пятлю).*

А н ь к а.Ну а ў каго ж я павінна быць! У тату-маму.

Я г о р. Лепш скажы, адкуль ты ўзялася?

А н ь к а. А вось і ўзялася! А вось і з'явілася!. Давай памагу ўсё ж… *(Запіхнула папругу ў петлі).* Знаёмая папружка. У дзяцінстве пападала ёй. І не раз.

Я г о р. Праездам ці як?

А н ь к а. Шалёным ветрам занесла, папуля.

Я г о р. У як!..

А н ь к а.Уяві сабе. Падхапіў мяне вецер і панёс, і панёс па гарадах і весях, пакуль не апусціў у нашых Шкірдзюках. О-па! Мяккая пасадка! Прабач, я налегцы.

Я г о р. Чаго ж так?

А н ь к а.Зірні ў акно.

Я г о р *(падышоў да акна, глядзіць на вуліцу).* Ідзі ты!..

А н ь к а. А ты як думаў! Чым мы горш іншых?

Я г о р. А не чуў нават, як падкаціла. Як кошка падкралася.

А н ь к а. Машына – супер, баця!.. Яна ж не трактар… гусенічны…Так што збірайся.

Я г о р. Куды?

А н ь к а. У горад.

Я г о р. Навошта?

А н ь к а. Што, не здагадваешся? За табой прыехала. Будзеш унучку нянчыць, Вераніку. Ну!

Я г о р. Дык гэта… а хто ж іх будзе няньчыць?..

А н ь к а. Каго – іх?

Я г о р. Дзевак маіх… Паўлаўну і Лізку Акрошку…

*Анька зайшлася ад смеху. У гэты час з’яўляецца Паўлаўна, няўцям кіўнула Аньцы.*

А н ь к а. Добры, добры дзень…

П а ў л а ў н а. Потым, Ягор, даробім… Пагавары, пагавары з дачкой… *(Знікае).*

А н ь к а. Я, можа, вам перашкодзіла?

Я г о р. Чаго ў горад завеш? Ты прама кажы.

А ньк а. Я ж і кажу: будзеш унучку няньчыць. Казкі ёй расказваць.

Я г о р. Казкі?

А н ь к а.Так, казкі.

Я г о р. А самі чаго ж?..

А н ь к а. Ну, як табе растлумачыць, каб б ты ўсё зразумеў… У мяне бывае праца і ў вячэрні час… малую ж адну не пакінеш…

Я г о р. А муж, Леанід, казаў мне той раз, у першую змену працуе. Увесь час.

*Паўза.*

А н ь к а *(злосна).* Няма яго больш, няма!

Я г о р. Зразумела… Вось і маці твая, Паліна, такая была: адначасова і ласкавай і… *(Роспачна махнуў рукой).* Ды што ўжо цяпер?.. .

А н ь к а. Ну дык што?

Я г о р. Эх, Анька, Анька, кулямётчыца ты мая сінявокая!.. Вось была б маладзей, нарваў бы я крапівы ў агародзе… ды так адхвастаў бы – на ўсё жыццё!.. Такога мужа пазбавілася…

А н ь к а. Гэта нашы асабістыя справы.

Я г о р. “Асабістыя”… А бацька едзь казкі расказвай…

А н ь к а. Ён здраджвае мне, калі ведаць хочаш!.. За кожнай спадніцай бегае.

Я г о р. Мой Шарык таксама за кожнай машынай бегае…. Але гэта яшчэ не значыць, што ён яе даганяе і садзіцца за руль…

А н ь к а.Тата, ну супакойся ты.

Я г о р. Ну, паеду я да цябе ў горад, паслужу казачнікам, а ты на наступны дзень новага Леаніда прывядзеш – а мяне куды?

А н ь к а.Ды хопіць месца. У нас жа два пакоі.

Я г о р *(хмыкнуўшы).* Як жа – палац!..

А н ь к а.У цеснаце не ў крыўдзе.

Я г о р. Ды і пачакай ты, пачакай. Не забягай наперад, не трымай алюр. А за той час, што я буду ў горадзе, тут, у Шкірдзюках, хата мая разваліцца, студня брудам заплыве… варта не пажыць усяго нічога… і бывай, хата!.. Ну, што маўчыш?

А н ь к а Едуць жа бацькі і маткі іншых і нічога – жывуць.

Я г о р. Яны жывуць, а гняздо памірае… прахам ідзе… вецер па палях разносіць…

А н ь к а.Ты што, тат, нацэліўся сто гадоў жыць?

Я г о р. Колькі адведзена мне, гэтулькі і пратрымаюся…

А н ь к а.Прабач, не падумала, сказала…

Я г о р. Слова паляцела – і добра. Не вернеш. Не паеду я, Аня. І не ўпрошвай. Вырашай свае справы сама. Сама, як кажуць, кашку згатавала, сама і еш. Ды і не прывыкну я да гарадскога жыцця… Тым больш, што наспяваюць у маім жыцці змены… Так! А колькі ж гадоў Вераніцы, што яна без казак не можа? Яна ж, мусіць, сталая дзеўка?

А н ь к а *( не можа ўспомніць).* Шмат…

Я г о р. У сям'і, дзе жанчына цісне на газ, а мужчына на тормаз, счапленнем могуць стаць толькі дзеці. Разумею, разумею…

А н ь к а. Разумей як хочаш.

Я г о р. Я, дачушка, калі адзін застаўся, і праз алкагалізм прайшоў, але своечасова за розум узяўся…адумаўся… Узяў сябе ў рукі. Выпіваю. Не без таго. Але меру ведаю. Навучыла жыццё ведаць меру…

А н ь к а *(заўважае касу).* А касу навошта на відным месцы трымаеш?

Я г о р. Гэтую ці што?

А н ь к а. Ну так. А якую ж?

Я г о р. Дык гэта не мая..

А н ь к а. Зразумела: і касу табе купілі старыя, толькі махай…

Я г о р. Ды не. Тут іншая сітуацыя… Быццам і на самой справе са мной было… ноччу неяк…

А н ь к а. Цікава, цікава.

Я г о р. Уяві: ноч… ціха… як муха на падаконніку спіць чуваць… і раптам…

*Зяўляецца Смерць з касой. Ягор выпраміўся перад ёй.*

С м е р ц ь. А ну збірайся, дзед, хопіць неба капціць! Надакучыў ты ўжо ўсім, Ягор. Пара паміраць. Ну скажы, якая з цябе карысць, хоць ты і жывеш?

Я г о р. Дык гэта… жыву таму што…

С м е р ц ь. Градкі не полеш… З бабамі не спіш… Давай, давай… вузельчык у рукі патупалі.

Я г о р. Брытву браць ці там казённая?

С м е р ц ь. Бач ты яго, казённая! Усё бяры! Хопіць, лафа кончылася. Больш ільгот табе не бачыць як уласных вушэй. Прывыклі. І тое бясплатна, і гэтае… Льготнікі, маць вашу!... Можа табе яшчэ і чарнобыльскую льготу зрабілі па блату?

Я г о р. Не, не!

С м е р ц ь. А то глядзі ў мяне! Будзеш увесь час смалу варыць.

Я г о р. Добра, вядзі. Ты хоць з касой, а ў нас жа на кожным канале па тэлевізару забіваюць, гвалтуюць, рэжуць, страляюць… Жах! Думаю, там горш не будзе. Вядзі!

С м е р ц ь. Пайшлі, стары.

Я г о р. Ага! А ну пачакай, пачакай! А куды гэта я сабраўся? Навошта? Не, дарагуша, нікуды я не пайду! Не час мне ісці!

С м е р ц ь. У чым справа?!

Я г о р. Успомніў, яціттваю качарыжку! Я ж на чарзе стаю ў горадзе ў бальніцы… мне ж хрусталік з дня на дзень вось на гэтым воку павінны памяць… на імпартны… Катаракта ў мяне, між іншым…

І яшчэ! Забыў сказаць табе, смертушка. Цяпер жа столькі ўсяго смачнага ў крамах – і куды я ад усяго гэтага папруся? Што я, зусім з глузду з'ехаў? Трэба навярстаць, што не даеў і не дапіў… што недабраў у свой час.

С м е р ц ь. Дык ты ідзеш ці не, стары крэтын?

Я г о р. А вось гэта бачыла?! *(Тыцнуў кукіш).* Чула, колькі я яшчэ на гэтым свеце спраў не дарабіў?

С м е р ц ь. Не, ды мяне дастаў!..

*Счапіліся ў бойцы. Ягор прагнаў Смерць, а касу адабраў і павесіў на цвік.*

Я г о р. Турнуў яе, паганую. Як бачыш – жывы…

А н ь к а. Складна. Ну ды ладна. А па голасу не пазнаў хіба – хто?

Я г о р. Думаеш, бабы разыгралі?

А н ь к а. А то!

Я г о р. Ды выгляду не паказваюць. Хоць яны могуць і галасы падрабляць… асабліва Акрошка. Як бы там не было, а мне залічылася: смерць прагнаў, а курыць зусім кінуў. Раз і назаўсёды. Як адразаў.

А н ь к а. Вось што паліць кінуў – малайчына, тата! *(Дастала цыгарэту, запальніцу; хоча запаліць, але не рашаецца).*

Я г о р. Дык вазьмі з мяне прыклад. За ім далёка хадзіць не трэба.

А ньк а. Добра, падумаю… Але ты не бойся: я не буду паветра псаваць у пакоі – выйду на вуліцу. Там, думаю, мне Бог прабачыць…*(Намерваецца выйсці).*

Я г о р. Бог, кажаш, прабачыць?

А ньк а. Бог. Бог… Калі ён ёсць.

Я г о р. Неяк мне сон прысніўся… быццам сплю і не сплю… як жывы сон… Як быццам прыйшоў да Паўлаўны, яна мяне за стол пасадзіла… Графінчык паставіла з гарэлкай…наліла мне чарку… А я доўга да гэтага не піў… І думаю сабе: а што будзе, калі адну чарку пракаўтну? Бог, думаю, прабачыць… Выпіў і згубіў прытомнасць… і бачу, быццам душа мая ад цела аддзялілася і лётае сама сабой… А цела ляжыць такое цяжкае, як тону важыць… І калі мая душа прыляцела да Бога, Бог паклаў душу на далонь і кажа: вось бачыш, Ягор, колькі душа твая месца займае, а ўсё астатняе абалонка… Ён і яшчэ штосьці казаў… калі прачнуўся – не ўспомніў… Але толькі я зразумеў адно: ён, Бог, мог зрабіць са мной усё, што заўгодна… што захацеў бы…

А н ь к а. А з Паўлаўнай у цябе сур’ёзна, тата?

Я г о р. А ты як думаеш?

А н ь к а. Я?

Я г о р. Так, ты.

А н ь к а. Ой, не ведаю, не ведаю, бацька…

*Ягор абняў дачку.*

Я г о р *(глядзіць на неба).* А навальніца, здаецца, абыйшла нашы Шкірдзюкі стараной… Ці не?..

## Д з е я д р у г а я

### Карціна шостая

*Паўлаўна перабірае палявыя кветкі, ставіць букет у вазон.*

*З'яўляецца Акрошка.*

А к р о ш к а.Дайце мёду – я атручуся, а каўбасы – павешуся. Навіна ў нашых Шкірдзюках! Не чула?

П а ў л а ў н а. Што яшчэ за навіна?

А к р о ш к а. А здагадайся!

П а ў л а ў н а. Узі паказала: будзе вяселле. Так?

А к р о ш к а *(плюхнулася на лаву).* Ды ну цябе! Без Ягора застаёмся.

П а ў л а ў н а. Як?

А к р о ш к а. А вось так. Усяму калі-небудзь прыходзіць канец…

П а ў л а ў н а.  Не падобна, каб памёр…

А к р о ш к а. Для нас – і памёр. У горад ад'язджае.

П а ў л а ў н а. Назусім?

А к р о ш к а. А то як жа!

П а ў л а ў н а. Не казаў… Не збіраўся быццам бы…

А к р о ш к а. Гэта ў цырк можна паехаць і вярнуцца, а ён назусім.

П а ў л а ў н а. Не дуры, Лізка.

А к р о ш к а. Ды выйдзі глянь, машына перад носам у цябе стаіць, а ты і не бачыш…і не чуеш…

П а ў л а ў н а *(падышла да брамкі, выглядвае).* Ой, і праўда стаіць машына. Бачу. Каля  Ягора. Хто гэта да яго?

А к р о ш к а. Хто-хто! Анька!

П а ў л а ў н а. Анька?!

А к р о ш к а. А то ж! Стаіць і курыць. А я іду міма. За бацькам, кажа, прыехала. Як машына, цётка Ліза, пытае? Прыгожая, бліскучая – сказаць няма чаго. І як зарабіла? Дзе?

П а ў л а ў н а.  Ну і хай з'язджае Ягор. Можа яму там, у горадзе, і лепш будзе?

А к р о ш к а. У Анькі?

П а ў л а ў н а. Раз яна прыкаціла, то ў яе – у каго ж?

А к р о ш к а. Чуе маё сэрца, што там Ягор доўга не працягне. Ад нуды памрэ.

П а ў л а ў н а. А ён рэчы свае прынёс такія-сякія… У мяшку вунь стаяць…

А к р о ш к а. Дык у яго што, усяго і рэчаў адзін мяшок?

П а ў л а ў н а. Ёсць і другі…

А к р о ш к а. А другі каму панясе?

П а ў л а ў н а. Цяпер, відаць, нікаму… *(Узяла мяшок, паставіла бліжэй да дзвярэй).*

А к р о ш к а. А ведаеш, Наталля… а я і рада, што ён з'язджае… І ні табе, і ні мне… Па-справядлівасці… Каб нікому не было крыўдна…

П а ў л а ў н а *(нервова).* А што, скажы, Ягор табе павінен быў, Лізка? Што?

А к р о ш к а. А табе?

П а ў л а ў н а. Ён сам вольны выбіраць… Больш чым дарослы… Не дзіця… Да яго, між іншым,  ніхто на шыю не вешаўся…

А к р о ш к а. Нальеш сто грам?

*Паўлаўна моўчкі прынесла графінчык з гарэлкай і чарку, наліла Акрошцы. Тая выпіла.*

А к р о ш к а. Не ўзяло…

*Паўлаўна наліла яшчэ чарку.*

А к р о ш к а. Узяло!

П а ў л а ў н а. Ну і што цяпер?

А к р о ш к а. А зараз мне спяваць хочацца.

*Спяваюць:*

Отдай, отдай меня, мати,
Где хороше в хати,
Где хороше в хати.
Ды деверей мало,
Ды где любят жартовать,
Любят жартовати…

А к р о ш к а. Пакаціў не развітаўшыся Ягор…

Отдай, отдай меня, мати,
Где хороше в хати,

П а ў л а ў н а. Пакаціў…

Где хороше в хати.
Ды деверей мало,
Ды где любят жартовать,
Любят жартовати…

А к р о ш к а. Туды яму і дарога!

П а ў л а ў н а. І капялюш забыўся ўзяць… Як жа ён там у горадзе без капялюша будзе?

*Спяваюць далей.*

*З'яўляецца Ягор з касой на плячы. Старыя кідаюцца да яго.*

Я г о р. Што гэта за свята ў вас?

А к р о ш к а. А ў нас кожны дзень свята! Што нам, бабам, многахіба трэба для радасці?

Я г о р. Зразумела.

А к р о ш к а. А ты што, не паехаў?!

П а ў л а ў н а. Ці вярнуцца ўжо паспеў?

Я г о р. У Лізкі гэта… у садзе… пад вішнямі… усё выкасіў… заўтра ў сябе выкашу…

П а ў л а ў н а. Гэта ў каго – у сябе? Там ці тут?

Я г о р. Як хочаш, так і разумей. Розніца невялікая. А скасі Лізцы ў апошнюю чаргу – усё, гвалт.

А к р о ш к а. Яшчэ які гвалт быў бы – так і знайце!

П а ў л а ў н а. Ты можаш. У Маскве вунь і тое адлічылася…

Я г о р. Гэта калі?

А к р о ш к а. У-у-у! І сама забылася калі. Даўно. Даўно было.

Я г о р. А, гэта калі ў маўзалей да Леніна на спатканне хадзіла?

А к р о ш к а. А што ж яны, міліцыянеры, не ведаюць хіба, хто такая Акрошка? Надумаліся мяне ў маўзалей не пусціць. Колькі часу стаяла ў чарзе – і не пусціць? Гэта калі мяне, як перадавую даярку, у дэлегацыю ад раёна ўключылі на паездку ў Маскву… А бабы ж заказаў надавалі, тады у нас у Шкірдзюках не дзве бабы было – многа, ой многа!.. Прывязі нам, Лізка, трусоў. У нас жа тут нідзе нічога не дастаць было. Дзесяць пар ажно купіла. А міліцыянер перад самым уваходам і не пускае: здавай, жанчына, свае торбы ў камеру захоўвання. Нельга з імі! Дзе я тую камеру буду шукаць табе? Хаця, прызнаюся вам, мы ж і праходзілі міма той камеры… але я вырашыла сэканоміць пятнаццаць капеек. Ну ці не дура-баба, а? Тады я што раблю:”Акружайце мяне, бабы!” Абступілі, значыць, мяне яны, бабы-та, ды і некаторыя мужыкі нашы таксама, я ўсе трусы на сябе надзела, так мячыкам і ўкацілася ў той маўзалей.

Я г о р. А міліцыянер што ж?

А к р о ш к а. А што міліцыянер? Засмяяўся ды адвярнуўся…

*Мелодыя мабільніка.*

П а ў л а ў н а. Тэлефон?! Здаецца, мой. Зараз, зараз я. Вы тут пасядзіце хвіліначку. *(Выбягае).*

*Паўза.*

Я г о р. Вось так, Ліза.

А к р о ш к а. Вось так, Ягор.

*Паўза.*

Я г о р. Вось так, Ліза.

А к р о ш к а. Вось так, Ягор.

*Паўза.*

Я г о р. Праскланяй "я иду по ковру".

А к р о ш к а. Як гэта?!

Я г о р. Я иду по ковру, ты идёшь по ковру, мы идём пока врём…

А к р о ш к а. Ой! Вы толькі гляньце на яго! Граматным стаў. Ад Паўлаўны, пэўна ж, набраўся? Як жа – вучылка!..

*Паўза.*

Я г о р. Што сёння ела?

А к р о ш к а. Тое, што і ты…

Я г о р. А, а я думаў акрошку.

А к р о ш к а. Ну і падла ж ты, Ягор! Нахабнік! Бессаромнік! *(Смяецца і ўзнагароджвае яго кухталямі).* Яціттваю качарыжку!

*З'яўляецца Оля.*

О л я. Добры дзень, дзед Ягор!

Я г о р. Нізкі паклон, Оля.

О л я. Добры дзень, цётка Ліза.

А к р о ш к а. Чаго ўжо… Заві, як і ўсе: Акрошка.

О л я. Не маю права. Пры выкананні. Вам, маладыя людзі, праграмы ТВ… як заўсёды. Так… што ў нас далей? Газ, значыць, выпісала, за свет заплаціла. Квітанцыі кладу на стол, разбірайце.

Я г о р. Дзякуй, Оля.

О л я. Было б за што. Ну, паехала далей. Мне яшчэ трывёскі аб’ехаць трэба.

Я г о р. З Богам!

О л я.А, забылася сказаць: школу бурыць не будуць.

Я г о р. Не будуць дык не будуць. У нас пытанне з дрывамі вырашана.

А к р о ш к а. У каго вырашана, а ў каго і не.

О л я. Скажыце Паўлаўне, яна ўзрадуецца… Пакуль! *(Выходзіць).*

Я г о р. Гэта ж трэба – школу на дровы! Ды ў лесе дроў гэтых – не лянуйся толькі! Не лес – палаcа перашкод!.. А яны школу!.. А раптам пойдзе малеча? Бываюць жа цуды на свеце – як думаеш, Лізка?

А к р о ш к а. Бываюць. Усё бывае, Ягор.

*Выходзіць Паўлаўна з талеркай, у якой горкай ляжаць піражкі; у другой руцэ трымае шклянку.*

П а ў л а ў н а. Частуйцеся. Піражкі з капустай.

А к р о ш к а. Хто любіць піражкі з капустай, а я не скажу з чым…

Я г о р. Школу – чула? – ламаць не будуць.

П а ў л а ў н а. Чула, чула. Дзякуй Олі за добрую навіну.

Я г о р. Калі б ні паштальён Оля, мы зусім і забыліся б, што на гэтай круглай, святой і грэшнай зямлі, ёсць дзеці… Віцькі-Міцькі-шміцькі… Была б у мяне такая дачка!..

П а ў л а ў н а. Ты пра каго, Ягор?

Я г о р. Ды не, гэта я так… усе яны добрыя, калі з боку глядзіш… і нашы таксама… Але толькі сваё ёсць сваё…

П а ў л а ў н а. Не кажы, Ягор. З-за тых сшыткаў, з-за той школы і нарадзіць больш некалі было… А ў Пятра майго род добры, моцны… рабацяшчы і непітушчы… Усё жыццё шкадую, што не нарадзіла больш…

*Акрошка моўчкі есці піражок. Паўлаўна наліла ў шклянку, падала Ягору.*

П а ў л а ў н а. Частуйцеся, частуйцеся. Як вам мае піражкі?

Я г о р. Смачныя. *(Выпіў).*

П а ў л а ў н а. Ты ж не паспрабаваў нават, а кажаш смачныя.

Я г о р. У цябе ўсё смачнае, хлусіць не буду.

П а ў л а ў н а. Ды ну цябе – скажаш таксама!

А к р о ш к а. Учора гэта лягла спаць, круцілася-вярцелася, а мужа няма… Ляжу, чакаю. А тады ўспомніла, што адна жыву – і заснула…

Я г о р. Пацягнула мяне неяк на нашы могілкі…

А к р о ш к а. Туды не спяшайся, Ягор!

П а ў л а ў н а. Паспеем туды…

Я г о р. Усе магілкі абышоў… З Палінінай пачаў…

Г о л а с П а л і н ы. Бабнік! Бач, уладкаваўся сярод баб, як у кветніку! А што мне абяцаў?

А к р о ш к а *(спалохалася).* Ніяк Паліна?

Я г о р *(таксама спалохаўся).* Яціттваю качарыжку! Яна! З-пад зямлі дастала! Ніяк і там не ўгамоніцца.

*Паўза.*

П а ў л а ў н а *(ціха).* Гавары цішэй, Ягор, а то ўсіх нябожчыкаў падымеш.

Я г о р *(ціха).* Прынята даведама. З усімі павітаўся… усіх прывеціў… З кім у пашане быў – таму пакланіўся… Усе нашы Шкірдзюкі туды перабраліся… Усе… Помнікі цяпер сыны ды дочкі ставяць такія бацькам сваім, што як жывыя людзі на іх… Як і не пахаваныя… *(Забыўся гаварыць ціха).* Мішка Руды ў кепцы стаіць, абармот, усміхаецца… а сам, мусіць, і не ведае, што памёр…

Г о л а с М і ш к і Р ы ж а г а. Я ім, шэльмы, асабіста сам пальцам тыцнуў у патрэбную картку, а яны што, у кепцы мяне выставілі на помніку?

А к р о ш к а *(ціха).* Мішка Рыжы! Яго голас…

Я г о р *(ціха).* Што бачыў, тое бачыў. Навошта брахаць?

Г о л а с М і ш к і Р ы ж а г а. Хай толькі прыйдуць!

Я г о р *(супакойвае дух Мішкі).*Мішка, ты таго… не хвалюйся… У кепцы ты проста красавец (прыгажун), на Уладзіміра Ільіча падобны…

П а ў л а ў н а *(строга).* Ціха ты, Ягор, не трывож дух правадыра!..

А к р о ш к а. Я на ноч не зашчапляюся – а раптам памру?..

Я г о р. Наталля і Хавошка побач ляжаць… Як і жылі па-суседску… Першай, здаецца, Хавошка памёрла? Яна, так, правільна: усё хацела паспець серыял свой даглядзець… Бога маліла: прытрымай мяне на гэтым свеце, родны, пакуль серыял не кончыцца…

*Паўлаўна капнула гарэлкі ў шклянку, падала Ягору, той выпіў.*

А к р о ш к а. А калі смерць пачула, прасіла Наталлю – не выдумляю, сама чула – калі я раптам не паспею даглядзець, то раскажаш, Наталля, чым усё скончылася… як прыйдзеш да мяне…

Г о л а с Х а в о ш к і. Тое, што Наталля міма як мышка прашмыгнула і пра кіно ні слова, добра: а як там мая хата? Стаіць яшчэ ці ўжо расцягнулі па бярвенцу?

А к р о ш к а *(ціха-насцярожана).* Хавошка прачнулася! *(Духу Хавошкі).* Стаіць, стаіць твая хата. Каму яна патрэбна? Але хутка бульдозер падгоняць, мусіць.

Г о л а с Х а в о ш к і. Трымціш над усім, і над хатай трасесся ўсё жыццё, царапнуць баішся, а з сабой не возьмеш… Падушкі так і стаяць, відаць, на ложках… не памятыя…

А к р о ш к а. А чаму гэта на самой справе?..

П а ў л а ў н а. Ты пра што?

А к р о ш к а. Хавошцы пад галаву паклалі падушку з саломы, а добрыя, з пер’ем, пакінулі? З чаго б так?

Я г о р. Успомніў я на могілках, як у Хавошкі і халадзільнік выцягнулі з хаты… Гэта ж так не пашанцавала!..

А к р о ш к а. Каму?

Я г о р. Зладзюгам.Выставілі яны з халадзільніка, калі Наталля і Хавошка якраз серыялам сваім захапіліся, тры слоікі з самагонкай, трохлітровых, думалі, узвар… З якой хваробы, маўляў, у Хавошкі можа быць самагон?

Г о л а с Х а в о ш к і. А што, думаеце, у адной Акрошкі апарат меўся? *(Акрошка прыўстала, павадзіла галавой па баках, прыклала палец да вуснаў: ціха ты, халера!).* Як бы не так. Выпіць бы. Чарачку хоць. Тут не даюць – сухі закон увялі законатворцы мясцовыя.

Я г о р. А халадзільнік загналі за восем кіламетраў аж ад нашых Шкірдзюкоў усяго за адзін слоік. Ну, не цуды? Вось ужо пляваліся тады рабаўнікі! Так апраставалосіцца трэба ўмець.

А к р о ш к а. Крыжа на іх няма! Госпадзі!

П а ў л а ў н а. А ў горадзе што робіцца?!

Я г о р. Я б у горадзе не жыў. Некультурныя таму што людзі там: той раз, калі быў у горадзе, ніхто са мной нават не павітаўся… Я “прывітанне, дзень добры”, а яны хоць бы хны… бягуць на злом галавы…

А к р о ш к а. Ціха! *(Прыслухоўваецца да галасоў).*Чаго гэта яны?

Я г о р *(звяртаецца да галасоў, як старшынствуючы).* Дарагія галасы!.. Гэта значыць, дарагія землякі! Я, адзіны мужык на ўсё сяло, закладваю, цьфу ты, дакладваю, што ў нашых Шкірдзюках поўны ажур. *(Бабы пасадзілі Ягора на лаву).*

А к р о ш к а. Нешта мы ўсё пра сумнае ды пра сумнае?

Я г о р *(ап’янеў).* Я надоечы у раёне быў…

А к р о ш к а. Калі гэта? Ці, можа, ноччу, калі мы спалі і не бачылі?

Я г о р *(Акрошцы).* Не злі мяне, мне ўжо трупы няма куды хаваць! Добра, добра, я жартую, ёсць яшчэ месца.

А к р о ш к а. Ну-ну, круты ты наш.

Я г о р. Ты маеш рацыю, Акрошка: і трэба б у бальніцы паказацца, і ўсё некалі. Ну, дзед быў… з суседняй вёскі… Задавальняе?

А к р о ш к а. Упаўне.

Я г о р. Доктар, кажа дзед той, у мяне пасля гэтага дзела, якое цяпер сексам называюць па-навуковаму, чамусьці ў вушах доўга звініць…

П а ў л а ў н а. Бессаромнік стары! Пасунься! *(Злёгку штурханула Ягора).*

Я г о р. Дык расказваць далей ці не?

*Паўза.*

А к р о ш к а. Добра, давай кажы ўжо… дагаворвай…

П а ў л а ў н а. Сказаў “а”, гавары і “б”.

Я г о р.Доктар,  кажа дзед той, у мяне пасля гэтага дзела, якое цяпер сексам называюць па-навуковаму, чамусьці ў вушах доўга звініць… А гэта, адказвае доктар, – бурныя і працяглыя апладысменты…

*Паўза.*

Я г о р. Радуйцеся, бабы, што ў нас ёсць свая маленькая, ціхая вёсачка… Прыгажосць вакол якая, а!..
А к р о ш к а. Бог нас не пакрыўдзіў…
П а ў л а ў н а. Толькі не ўсе гэта цэняць…

*Дзівяцца на родныя прасторы. Гучыць песня:*

Край ты мой любімы,

Куточак звычайны…

Знаю, ёсць на свеце лепшая зямля,

Толькі маё сэрца выбірае гэты,

Калі яго цісне смутак і журба.

Толькі маё сэрца выбірае гэты,

Калі яго цісне смутак і журба.

Я сарву пралеску ранняю вясною.

Даль засерабрыцца ранішняй расой.

Ап'яніць-абніме белы свет чаромух,

Прыгалубіць вецер свежасцю лясной.

Ап'яніць-абніме белы свет чаромух,

Прыгалубіць вецер свежасцю лясной.

*Пауза.*

## Карціна сёмая

*Ягор адзін. Кудысьці збіраецца. Уваходзіць Анька, нейкая сумная і затузаная. Адразу да вядра з вадой.*

Я г о р. Не пі гэту ваду – застаялася яна. У Пятроўны жыву, там ем і п'ю.
А н ь к а *(п'е).* А калі і здохну, атручуся – ну і хай некаторыя пацешацца! Сволач!

Я г о р. Ты адкуда ўся такая?..

А н ь к а. Ад вярблюда, бацька! Ад яго!

Я г о р *(строга).* Я сур'ёзна пытаю! Ну і выгляд ў цябе… Ты што, дома не начавала?

А н ь к а. А можна сказаць, што і так. Няма, няма ў мяне больш дома! Як табе гэта падабаецца?

Я г о р. Пачакай, пачакай…

А н ь к а. Лёнька выправадзіў… і ўсе рэчы мае на лесвічную пляцоўку выставіў.

Я г о р. На Лёньку не падобна – самастойны мужык, здаецца?

А н ь к а. А мне не здаецца!

Я г о р. Дагулялася, значыць. Давяла чалавека.

А н ь к а. Хопіць! Хоць ты пакінь мяне ў спакоі!

Я г о р. Дагулялася. Дахуліганілася, мая харошая. А ўнучка, Вераніка, дзе? Што, і яе выправадзіў?

А н ь к а. Яна з ім засталася…

Я г о р. Сама? Ці Леанід не адпускае?

А н ь к а. Паспрабуй там разбярыся!

Я г о р. А я ведаў, я адчуваў, што ўсё так у цябе кончыцца. Гуляка ты, Анька. Леаніда не вінавачу. Гуляка. Вось і дамаглася свайго. Не хныкай, а ўсё, як ёсць, распавядай. Ад мяне ўсёроўна нічога не ўтоіш.

А н ь к а. Я ведаю.

Я г о р. Ну-ну!

А н ь к а. Сярожу я пакахала…

Я г о р. А чым Леанід дрэнны? Не п'е, не курыць…

А н ь к а. Не магу растлумачыць, тат… А Сярожа, наадварот, і п'е, і паліць… а я яго пакахала… Абяцаў са сваёй развесціся…

Я г о р. О! Далей у лес – больш дроў, ну-ну.

А н ь к а. Ашукаў ён мяне, тата.

Я г о р. Разумею. Але з кватэры ж цябе не можа так проста выпхнуць Леанід?

А н ь к а. У тым-та і справа, што можа.

Я г о р. Адсудзі! Падай на свае метры!

А н ь к а. Яму маці падарыла кватэру. А я не ведала… Падарунак ёсць падарунак – яго не забярэш… Закон на яго баку…І я засталася…

Я г о р.. … каля разбітага карыта.

А н ь к а. Так.

Я г о р. І што ж далей, яціттваю качарыжку?

А н ь к а. Буду прасіцца назад у свой інтэрнат.

Я г о р. А то бяры вось нашу хату і жыві?

А н ь к а. Таксама скажаш! І паміж Паўлаўнай і Акрошкай на лаўцы семкі лузаць – так?

Я г о р. Эх, жыццё-бляшанка!

А н ь к а. Паўлаўна нас гэтаму ў школе не вучыла… нажаль.

Я г о р. А да мяне чаго прыехала?

А н ь к а (здзіўлена). А да каго, тат? У мяне ж больш няма нікога…

Я г о р *(прыгарнуў да сябе Аньку).* Ох і гора вам усім будзе без Ягора. А калі мяне не стане, да каго прыедзеш?

А н ь к а. Не ведаю… Не ведаю, тат… Жыві доўга…

Я г о р. На машыне прыкаціла? Штосьці я не чуў быццам бы?..

А н ь к а. Адна бяда не прыходзіць… і іншую з сабой прыводзіць…
Я г о р. Усё зразумела. Ну дык што будзем рабіць?
А н ь к а. Спачатку рамантаваць машыну… Дапаможаш? У аварыю трапіла…
Я г о р *(збіраецца).* А потым цябе, Анька, трэба рамантаваць. Абавязкова. Віцька не знайшоўся выпадкам?
А н ь к а. Не адказвае ўжо доўга…
Я г о р. Шалапутны. Ох і шалапутны! Ну што, пайшлі пешшу?
А н ь к а *(настрой прыўзняўся).* А колькі тут да аграгарадка таго? Пяць кіламетраў якіх?
Я г о р. Гэта для цябе пяць, а для мяне ўжо і ўсе пятнаццаць будзе. Зніму грошы, такой бяды, што на смерць сабраў. На лаве, нябось, доўга ляжаць усё адно не буду. Свет не без добрых людзей.
А н ь к а. Дзякуй табе, тата.

*Выходзяць.*

Карціна восьмая

*Ягор кляпае касу. Прыходзіць Акрошка.*

А к р о ш к а. А дзе твая?
Я г о р. Ты што сказала?
А к р о ш к а. Паўлаўна дзе?
Я г о р. Ды тут дзесьці. Дзе ж ёй быць? А табе што трэба?
А к р о ш к а. Што, зайсці нельга? Хутка паркан узведзяце, як на Рублёўцы?
Я г о р. Ідзі ты! Адкуль ведаеш пра Рублёўку?
А к р о ш к а. Бачыла, як людзі жывуць.Не сляпая.
Я г о р. А што ты яшчэ бачыла?
А к р о ш к а. Ой! Ой! Граматны, гляньце! Як жа! З кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Так?
Я г о р. Не, не так, Лізка: усё жыццё, кажуць, вучыся, а дурнем памрэш. А тым з Рублёўкі не зайздросць… Яны, можа, нам зайздросцяць.
А к р о ш к а. Прама ўжо зайздросцяць! Было б чаму!
Я г о р. З нас, маленькіх і непрыкметных, і патрабаванне маленькае.
А к р о ш к а. Анька, ці што, прыязджала?
Я г о р. Была…
А к р о ш к а. Нешта яна без машыны на гэты раз? Ці ўжо наездзілася?

*Паўза.*

І куды гэта яна цябе вадзіла?
Я г о р. Прысядзь.
А к р о ш к а. Я і пастаяць не стамлюся.
Я г о р *(амаль строга).* Прысядзь!
А к р о ш к а. Ну, села.
Я г о р. А я пастаю. Перад табой.
А к р о ш к а. Што за гонар такі? З чаго б?

Я г о р. Даўно з табой пагаварыць збіраўся, Ліза. Вельмі даўно. Можа з таго часу, як на Полі жаніўся….

*Акрошка хмыкнула.*

Прабач, што так усё атрымалася.

А к р о ш к а. Як гэта?..

Я г о р. А вось так гэта. Не глянулася ты мне, хоць – не дурань, бачыў – ты да мяне ўсім сэрцам гарнулася… Вось як яно ў жыцці бывае: і на твар добрая баба, і целам, а душа не прымае. Адштурхоўвае, і ўсё тут. І нічога, аказваецца, парабіць нельга з сабой. Цяпер я не дзіўлюся больш, калі ў горадзе пару сустрэну: ён кракадзіл, яна прыгажуня… ці наадварот. Хоць навошта далёка хадзіць? А ў нас ці не так было? Не вочы выбіраюць іншы раз, а – душа… Вось так. Паліна – прыгажуняй, скажаш, была?

А к р о ш к а. Не мне параўноўваць…

Я г о р. Ты прыгажэй, не пярэчу, і душа ў цябе мякчэй, больш ласкавая ты…у працы цягавітая… а я ў яе закахаўся… чамусьці.

А к р о ш к а. А то я не ведаю, як усё было!

Я г о р. Што ты ведаеш, Лізка?!

А к р о ш к а. Шмат шго.

Я г о р. Нічарта ты не ведаеш! Ні на грам!..

А к р о ш к а. Ніяк не на месяцы жыву! Калі Паўлаўна на настаўніцу паступіла, яна табе адмовіла: хто, маўляў, ты, а хто – я? Ну не так было? Не так, скажаш? Таму і маўчыш.

Я г о р. Ды я сам збочыў, сам! Зразумеў становішча… палажэнне…

А к р о ш к а. А тут Паліна пад руку падвярнулася. А выходзь за мяне замуж на злосць усім ворагам!

Я г о р. А верыш, я не магу табе растлумачыць, як усё атрымалася… Не магу. Хоць забі… Само неяк… Маладыя былі, хіба ж мы загадвалі далёка наперад? Правёў Паліну, пацалаваў, праўда, а тады неяк і вырвалася ў мяне: выходзь за мяне. Яна адразу і пагадзілася.

А к р о ш к а. Відаць, пацалунак той вельмі смачным аказаўся?

Я г о р. Ты ўгадала.

А к р о ш к а. А чаму ж мяне не правёў? Можа і я б табе пацалаваць дазволіла?

Я г о р. Не сышліся, Лізка, зоркі, падобна… не сышліся…

А к р о ш к а. Ну і чаго ты дамогся? Не было ў цябе, Ягор, шчаслівага сямейнага жыцця. Хіба ж мы не бачылі? Супраць слова ты не мог сказаць сваёй Паліне – крык стаяў на ўсю акругу: яна сказала белае на чорнае, значыць, белае.

Я г о р. А я потым неяк прыстасаваўся і думаў, што так і трэба. Беларусы наогул такі народ. На дошку яго пасадзілі з цвікамі, ён пакруціўся, памацюгаўся, а потым і рукой махнуў: а можа так і трэба?

А к р о ш к а. А мне мой рота не даваў раскрыць. Ім бы з тваёй Палінай сысціся – усе нашы Шкірдзюкі яшчэ раней разбегліся б!.. Добра яшчэ, што я багата дзяцей з ім не завяла, з Мішкам сваім… Адзін сын і той няпутны … Яблык ад яблыні далёка не падае – праўду кажуць…

Я г о р. Прабач, Ліза. Не лёс.

А к р о ш к а. І гэта ўсё, што ты хацеў сказаць?

Я г о р. Усё.

А к р о ш к а.  Дзякуй.
Я г о р.  Няма за што.
А к р о ш к а.  Можна, і я прызнаюся?
Я г о р.  Вядома. Калі ласка.
А к р о ш к а.  Колькі і жыву, увесь час думаю: якой бы я шчаслівай была з табой, Ягор!

*Ягор падышоў да Акрошкі, прыгарнуў да сябе.*
*З'яўляецца Паўлаўна. Каб звярнуць на сябе ўвагу, кашляе. Выратоўвае сітуацыю Оля.*

О л я *(з'явіўшыся).* Ура! У мяне для вас дзве навіны! З якой пачнём?
Я г о р *(адкашляўшыся).* З добрай. Давай з добрай, Оля.
А к р о ш к а.  Дык яны абедзве выдатныя, дзед Ягор!
Я г о р.  Не стамляй, Оля!
А к р о ш к а.  А, якую першай тэлеграму дастану, тая і будзе першай навіна. *(Каб надаць важнасць моманту,зажмурылася і запусціла руку ў сумку).* Вам, цётка Лізавета.
А к р о ш к а. Мне?
О л я. Вам, вам! З Масквы.
А к р о ш к а.  Ой, божа!..
Я г о р. Падыдзі, Акрошка, бліжэй!
А к р о ш к а.  Ніяк мне маўзалей мой прыпомнілі?..
О л я.  Ну, не ведаю… Вас запрашаюць на перадачу "Чакай мяне". Сын знайшоўся!
А к р о ш к а.  Дзе?
Я г о р.  Там, там скажуць.
П а ў л а ў н а.  Як добра, далібог!..
А к р о ш к а.  А ці трэба? Ужо прывыкла з вамі, жыла сабе спакойна… Дык не ж… Уяўляю: за руку – і пацягне ў аграгарадок…у ашчадкасу… Пажыць, нягоднік, не дасць спакойна…
О л я.  Вы… вы што, не рады?
А к р о ш к а.  Якая ж маці не парадуецца? Для кожнай маці яе сын, якім бы ён не быў, самы лепшы сын на свеце.
О л я. Ён прыгожы ў вас…
А к р о ш к а. Прыязджай, Валодзька. Прыязджай, сынок…
О л я. Тады распішыцеся і атрымлівайце*! (Уручыла тэлеграму Акрошцы, тая распісалася).* А другая тэлеграма вам, Паўлаўна. Можна, я зачытаю?
П а ў л а ў н а.  Вядома, Оля! Чытай.
О л я.  "Паважаная Наталля Паўлаўна! З днём нараджэння вас! Жывіце і далей так адкрыта для людзей, жывіце так, паважаная наша імянінніца, каб вы маглі яшчэ вельмі доўга пахваліць кожны пражыты дзень. Зычым вам шмат здароўя і вялікага, светлага кахання!.. Вашы вучні."

*У Паўлаўны падкасіліся ногі.*

Я г о р.  Ідзі ты! Давай сюды! *(Распісаўся за прыём тэлеграмы замест Паўлаўны).*

П а ў л а ў н а. Ой, і праўда ж! А я зусім і забылася пра свой дзень нараджэння. Калі ж Ягор галаву задурыў…

Я г о р. Валіце ўсё на Ягора! Валіце, валіце! Ягор вытрымае! Вось так, мае родныя!.. *(Абняў жанчын, пакружыў з імі, і стаіць бы ў кветніку паміж іх).*

*Прыбягае Анька. З букетам.*

А н ь к а. Тат! Ты што? Адразу на двух?..

Я г о р. Так, Анька! Адразу і на двух. Безвыходная сітуацыя.

А н ь к а. А вытрымаеш?

Я г о р. Іначай нельга. Калі ж адзін мужык на ўсё сяло, яціттваю качарыжку!

П а ў л а ў н а і А к р о ш к а. А нам без Ягора будзе гора!

*Анька пэўны час не ведае, што рабіць з букетам. Потым уручае яго бацьку.*

З а с л о н а.

# УСМІХАЎСЯ МЕСЯЦ БЕЛАЙ ВІШНІ

*П’еса ў дзвюх дзеях*

Д з е й н ы я  а с о б ы:

І г н а т  Ш а р о й к а – стары чалавек, 70 гадоў.

Г у ч о к – старшыня сельсавета, 45 гадоў.

Г р ы ш к а – калгаснік, 40 гадоў.

В а р к а – жанчына - перасяленка, 60 гадоў.

В о л ь г а – жанчына - «партызанка», 60 гадоў.

К у д а с а ў – прадстаўнік райкома партыі, 30 гадоў.

Л а п у н – марадзёр, 30-35 гадоў.

*Месца дзеі –хата дзеда Ігната, «блакадніка». Час дзеі – першыя дні пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.*

**Д з е я  п е р ш а я**

*Пакой у сялянскай хаце. Усё проста, сціпла. Печ. Ложак. Стол. Канапа. Табурэты. На сцяне – дынамік. Ігнат сядзіць за сталом, нечым заклапочаны. Перад ім – пачатая бутэлька.*

І г н а т. А! *(Махнуў рукой, наліў з бутэлькі ў шклянку).* Ну што, Ігнат? Будзь здаровы! *(«Чокнуўся» шклянкай аб бутэльку).* На здароўе, Ігнатка! *(Выпіў, крэкнуў).* Няхай паспрабуюць знойдуць маю крынічку… *(Раптам*

*заспяваў).* «Выпьем за тех, кто командовал ротами... кто замерзал на снегу... кто в Ленинград пробирался болотами, горло ломая врагу-у...» За вас, браткі! *(Цяжка ўздыхнуўшы).* І за  вас, землякі... За ўсіх вас, чарнобыльцаў...

*Гул аўтамашыны. Брэх сабакі.*

*(Насцярожыўся, паставіў  шклянку на стол).* Запеленгавалі! *(Падбег да акна).* Спахапіліся! Зачасцілі! Не дадуць спакойна памерці. Думаў, пераседжу гэтую рацыю... Цьфу! *(Замітусіўся, шукае, куды б схавацца).* Ігната яны голымі рукамі не возьмуць! Ігнат даўно з яйка вылупіўся. Ігнат... Ігнат... *(Падняў вечка дапатопнай канапы, нырнуў на дно).* Няма мяне! Быў ды сплыў! Ігнат спіць і не кантавацъ! *(Апусціў над сабой вечка).*

*Асцярожна заходзіць Гучок. Агледзеўся. Паляпаў у дзверы, па стале.*

Г у ч о к. Можна? *(Вытрымаў паўзу).* Ігнат, выходзь! Ігна-а-ат! Ты дзе? Не хавайся, дарэмна. *(Прыдзірліва агледзеў стол, заглянуў на печ, пад ложак).* Вылазь, Ігнат! Ад мяне не ўлізнеш! Чуеш? Я ж ведаю, што ты тут. Калі выходзяць – дзверы зачыняюць. Ці замок для адводу вачэй вешаюць. Выходзь! Гэта я табе, старшыня сельсавета, кажу! Не хавайся! Дарэмна! Вось і бутэлька  падказвае, што ты ў хаце. Адпацела. Думаеш, гэтым зеллем уратуешся? Дудкі! Ігнат! Стань на маё месца. Вас жа чацвярых не далічыліся. Не аб'яўляць жа ўсесаюзны пошук. Знойдзем як міленькіх і Грышку, і Макара з Вольгай. Усіх знойдзем!  Прыбягуць самі, як толькі белыя мухі паляцяць... Выходзь!  Ну! *(Вытрымаў паўзу).* Ты што, савецкую ўладу не прызнаеш? (*Заглянуў пад печ, устаў, атрос пыл з портак).* Дома ты, Ігнат, дома. Табой  яшчэ ўся хата пахне. *(Узяў са стала бутэльку, шклянку, панюхаў, зморшчыўся).* Вось ён, доказ... Мужык усё б гэта не пакінуў... з сабой прыхапіў бы... панёс у кішэні... або тут... *(Паляпаў па жываце).* Ведаю я вашу мужыцкую натуру. Так што здавайся добраахвотна, гэта ўсё будзе ўлічана... А калі памрэш? Га? Хто за цябе адказваць будзе? Я? Не, даруй. Даруй, Ігнат. У мяне такіх, як ты, ведаеш колькі?

*Ігнат не вытрымаў – чыхнуў.*

*(Усміхнуўся, затаіўся).* Та-а-ак... Ну, ну, яшчэ разок!

*Паўза.*

Чыхні яшчэ разок, Ігнат! Я чакаю! Савецкая ўлада просіць! Не жадаеш? Пачакаем. Калі адзін раз чыхнуў, чыхнеш і другі. Прыспіча. *(Сеў на канапу, паспружыніў).* А мы пасядзім, пачакаем. *(Сядзіць, чакае. Зноў падышоў да стала, неяк нерашуча ўзяў шклянку, паднёс да рота, але перадумаў піць -- паставіў).* Няўжо ты не разумееш, што нельга заставацца ў вёсцы? Радыяцыя высокая. *(Спахапіўся, дастаў марлевую павязку,*

*начапіў на рот).* Мы ж табе не хату даем—дом! А за гэтую развалюху поўную кішэнь грошай адвальваем! Га?

*Ігнат зноў чыхнуў.*

*(Затаіўся).* Чую, чую – дыхаеш! Паўтары свой чых! Бог тройцу любіць. Давай, давай, Ігнат, я слухаю!

*Рашуча ўзнімаецца вечка канапы, паказзваецца Ігнат.*

І г н а т. Цьфу! Дурань я! Дурань стары! Навошта схаваўся? Ад каго?

Г у ч о к (*узрадаваўся з'яўленню Ігната).* І я кажу : дурань ты! І дом новы, і грошы! Жыві і радуйся!

І г н а т *(вылез).* Ад савецкай улады, выходзіць, схаваўся.

Г у ч о к. Я ж табе нічога кепскага не жадаю. Я ж усёй душой...

І г н а т. І хата новая, і грошы... На які хрэн мне ўсё гэта?!

Г у ч о к. Як? Дзяцей грашыма засыпеш! З ног да галавы! Га? Уяўляеш? *(Паказвае, як будзе засыпаць дзяцей грашыма Ігнат).* Жыццё, га!

І г н а т *(строга).* Ты чаго прыйшоў?

Г у ч о к. Як гэта чаго? Па цябе! Збірайся!

І г н а т. Куды?

Г у ч о к. Куды ўсе. На новае месца. Да людзей. К народу.

І г н а т. Няма мне ўжо калі за народам ганяцца. Стары я.

Г у ч о к. Стары не стары, а жыць трэба. Жыць! Ды і што ж гэта атрымліваецца – ужо два тыдні жывем на новым месцы, а тут бачым: няма Ігната! Дзе ён? А ён вось дзе! Знойдзем і астатніх!

І г н а т. Ні дзе, а ў сваёй хаце.

Г у ч о к.Забудзь сваю хату, Ігнат! Забудзь! Да асобага распараджэння!

І г н а т *(злосна).* Сваю хату мне загадваеш забыць, сукін сын?! Вон! *(Тупнуў нагой).*

Г у ч о к. Ты на каго тупаеш? Ты на каго... я ў цябе пытаю?

І г н а т. На лакея.

Г у ч о к. Гэта я, старшыня сельсавета, лакей?

І г н а т. Табе лепш знаць, хто ты.

Г у ч о к. За такія словы, Ігнат, цябе можна схаваць і не толькі ў канапу.

І г н а т. Адкрый рот. Намордні к словы затрымлівае... не прапускае. А ў мяне слых нікудышны.

Г у ч о к. Дажартуешся! І табе раю!.. Так-так!

І г н а т. Бач ты іх, замітусіліся!

Г у ч о к. Пра цябе ж думаем!

І г н а т. А раней нешта не дужа старых заўважалі... хоць і маладых таксама.

Г у ч о к. Убок дэмагогію! Я чакаю!

*Мыкнула карова.*

І г н а т. Застаюся я. Не паеду. Як хочаце, а я не паеду.

Г у ч о к *(у руху).* Не час дыскусіі дазводзіць нам! Не час! Што ж мне— цябе за шкірку браць? Ды каб ты!.. *(У акно).* Мішка! Заходзь у хату! Звяжам к чортавай матары ды адвязем! Будзем мы тут з ім цацкацца!

І г н а т. Не завязеце. Я ўсё ўлічыў – пахаваў вяроўкі.

Г у ч о к. У суседзяў знойдзем. Бяда вялікая.

І г н а т. І там усе пахаваў...

Г у ч о к. Ну, артыст! Ну, цыркач! *(У акно).* Мішка-а! Дык ты ідзеш там?

Г о л а с М і ш к і. Ды не буду я дзеда вязаць! Ну вас!..

Г у ч о к. Добра. Мы гэта прыпомнім! Улічым! Ці мала што! *(Ігнату).* Ты збіраешся ці не?

*Крычыць певень.*

І г н а т. Не.

Г у ч о к. Сам прытопаеш! Сам! З сённяшняга дня, так і быць... гэта вырашана... аб'яўляю табе ... аб'яўляю блакаду!

І г н а т. Я не супраць. Аб'яўляй. Дзейнічай.

Г у ч о к. А ты хоць ведаеш, што гэта такое?

І г н а т. Ад цябе добрага і раней мала меў... Нешта кепскае, відаць, га?

Г у ч о к. Разумей, як хочаш. Вёску абносім дротам. Ставім задачу, каб цябе ні на крок не выпускалі за межы вёскі!

І г н а т *(рамантуе абутак).* Мне там, за мяжой, няма чаго рабіць.

Г у ч о к. А ў краму? Па паветры хіба што? А можа, у цябе верталёт у пуні стаіць?

І г н а т. Пражыву без магазіна. Там усё роўна няма чаго купляць.

Г у ч о к. Без хлеба, значыць, будзеш жыць?

І г н а т. Дзяжа ёсць. Як гэта без хлеба?

Г у ч о к. А калі раптам захварэеш, дзе лякарства возьмеш?

І г н а т. Усё прадугледжана.

Г у чо к. Цікава!

І г н а т. У мяне свая аптэка. Ды і на чым лекі настойваць ёсць. Землякі прыкапалі... Я іх усе тайны ведаю. Надоўга хопіць лячыцца...

Г у ч о к. Ты... ты пра якія гэта лекі?

І г н а т. У цябе, часам, галава не кружыцца?

Г у ч о к. Адказваць на пытанне!

І г н а т. Цьфу ты! Што на яго адказваць? Наліць?

Г у ч о к. Не! Ні ў якім разе! Пры выкананні! Рабілі, значыць, самагон. Зразумела.

І г н а т. А што ж, не знаў хіба? Добры, добры самагон. Дарэмна бульбу не пераводзілі.

Г у ч о к. У нас жа цвярозая зона!

І г н а т. Цвярозая. Правільна. Каму тут піць?

Г у ч о к. Вось яно што! Вось яно як! Та-а-ак! Я разбяруся! Я прыму меры!

І г н а т. Страшней, відаць, чым наша зона, няма... куры і тыя ходзяць як п’яныя...

Г у ч о к. Аварыя не аварыя, а пад гэты шумок у мяне ніхто не будзе!.. Я парадак навяду! Я вас усіх!.. Будзь упэўнены!

І г н а т. Старшыня, ну чаго ты да мяне прычапіўся? Едзь, адкуль прыехаў. Пакінь аднаго. Прашу цябе. Пашкадуй.

Г у ч о к. Ніколі! Чалавека – у бядзе? І гэта я, Гучок, павінен зрабіць? Не,не! Ні ў якім разе! Як жа мяне потым зямля насіць будзе?

*Ігнат смяецца.*

Што мне дзеці скажуць? Унукі?

І г н а т. Але ж я не паеду. Што, так і жыць будзеш у маёй хаце?

Г у ч о к. А што? Так і буду. Умовы ўпаўне нармальныя. Ложак ёсць. Хлеб пячы, кажаш, вучыць не трэба. Так і буду, Ігнат! Але запомні: увесь той час, які з табой у хаце буду... пад адным ,так сказаць, дахам, я цябе буду перавыхоўваць.

І г н а т. Тады лепей давай сваю блакаду, Пятровіч! Аб'яўляй яе, заразу.

Г у ч о к. Але гэта мы яшчэ паглядзім! Не так хутка!

І г н а т. А рацыі... не баішся? Ці пра яе таксама, можа, забыўся?

Г у чо к. Збірайся – вось мой загад!

І г н а т. Я не салдат.

Г у ч о к. Дзе твае клункі? Бягом!

І г н а т. Гэта на смерць што?

Г у ч о к. Яны, яны самыя!

І г н а т. Яшчэ не падрыхтаваў. Ды і навошта пасняшаеш мяне, Пятровіч? Дай пажыць... дай паглядзець, як яно там далей будзе... Цікава мне, да чаго дажывецеся, маць вашу!..

Г у ч о к. Ты сваю мараль убок! Так, так, Ігнат. Даю табе апошняе слова.

І г н а т. Іш ты!

Г у ч о к. Рашаючае! Ну, дык ты едзеш?

*Брэх сабакі.*

І г н а т. Не. Не еду і не лячу. Сяджу!

Г у ч о к. А растакую тваю маць! Што ты за чалавек? Камень? Дык быццам бы не. Заўсёды, колькі і помню цябе, у перадавіках быў! Авангард! Медаль маеш!

І г н а т. Табе, Пятровіч, падэшвы падбіць не трэба?

Г у ч о к. Ён жартуе! Падбівай сабе ды хутчэй унось ногі.

І г н а т. Пятровіч, я табе па сакрэту скажу…

г у ч о к. Ну, гавары.

І г н а т. Будзеш мне назаляць і далей, выкурваць з роднага гнязда— бліндаж на гародзе выкапаю… адтуль мяне не выцягнеце. Ясна?

Г у ч о к. Ты вось скажы мне па-чалавечы, каб я зразумеў нарэшце: што табе аднаму рабіць у вёсцы? Як жыць будзеш?

І г н а т. Пытанне складанае. Я і сам пакуль не ведаю. Неяк жа буду.

Г у ч о к. Вось-вось! «Неяк жа». А жыць трэба грунтоўна. Трушком па жыцці трэба. Трушком!

І г н а т. Скачыце, скачыце сабе і трушком. Па палях, па лясах. Скачыце. Вас хіба ўтрымаеш, рысакоў гэтакіх? Толькі пад ногі глядзіце, каб зноў у яміну не ляснуцца.

Г у ч о к. Так… Ну што ж… Твая справа. Чалавек ты дарослы… нават больш таго… Два жыцці маіх пражыў.

І г н а т. Калі не тры.

Г у ч о к. Угаворы-перагаворы па баку, дыпламатыі – па адным месцы!..

І г н а т. Правільна. Даўно пара.

Г у ч о к. Пераходзім у наступленне!

І г н а т. Ура-а-а-а! Ту-ту-ту-ту-та-та-та-а-а-а-а! Перамога-а!

Г у ч о к. Ты што… зусім?

І г н а т. Садзіся ці выходзь. Не круціся перад вачмі.

Г у ч о к. Ох ты! Грозны, гляджу! Певень-гвардзеец! Нічога, міліцыя прыедзе… хлопцы там крэпкія… скруцяць, у бярэмя – і будзь здароў, Ігнат!

І г н а т. Гэта яны могуць.

Г у ч о к. Яшчэ як могуць! Яшчэ як! І не кашляй! Тады я пагляджу, як ты ў мяне будзеш харахорыцца!

І г н а т. Міліцыі не дамся.

*Гучок смяецца.*

Рашоткі змайстраваў. Не возьмеце.

Г у ч о к *(зноў прыняў важны выгляд).* Якія такія рашоткі?

І г н а т. На вокны. На дзверы. Краты.

Г у ч о к. Дзе яны? Давай сюды! Давай, давай! Хуценька! Я чакаю!

І г н а т. Цяпер не калектывізацыя. Не аддам. Таму што мае.

Г у ч о к. Тваё? Здзівіў! А дзе ты іх рабіў? Дзе? Га?

І г н а т. У кузні.

Г у ч о к. Вось іменна! У кузні. А кузня чыя?

І г н а т. Была вашай, стала нашай. Заходзь – дзверы насцеж. Ляпай. Што душа пажадае, тое і рабі. Мая краты пажадала. Не пярэчыў. Па дарозе ў канторы пасядзеў… у дырэктарскім крэсле… Кампюцер уключаў…

Г у ч о к. Грамацей. «Кампюцер».

І г н а т. У клуб завітаў. «Ау» крыкнуў. На раялі пайграў. На балалайцы пабрэнькаў. Вось жытуха, га! Чым хочаш, тым і карыстайся. Суцэльны камунізм. Нам Хрушчоў яго абяцаў. Але вы і без яго, маць вашу, камунізм у нашай Кругліцы пабудавалі. Выходзь! Будаўнік, чуеш?

Г у ч о к. Па… папярэджваю! Ты мяне, уладу, за нос вадзіць не будзеш! Чакай з падмацаваннем!

І г а н а т. Чакаю. Чакаю.

Г у ч о к *(накіраваўся да выхаду, але вярнуўся).* А дзе пахаваліся Грышка, Макар і Вольга?

І г н а т. Сказаць яно можна, але ж гэта будзе ўжо здрадніцтва. Усё роўна што ў вайну было сваіх выдаць.

Г у ч о к. А мараль? Ты па якой маралі жывеш? Ты ў якім грамадстве існуеш?

І г н а т. У грамадстве Макара з Вольгай.

Г у ч о к. Выхавалі! Выхавалі! Куды ідзем? У які бок?

І г н а т. Няўжо ты не баішся рацыі, Пятровіч?

Г у ч о к. Як жа! Жывы! Баюся!

І г н а т. Тады рот шырока не разяўляй – нахапаешся яе, заразы.

Г у ч о к *(цяжка ўздыхнуў, сеў на табурэт).* Злітуйся, Ігнат. Я ж даклаў… туды… уверх *(торкнуў пальцам)*, што ўся Кругліца эвакуіравана. На сто працэнтаў. Ты хоць гэта зразумець можаш?

І г н а т. Даклаў, даклаў, даклаў – куча ўжо. Хлеба. Абутку. Адзежкі. Адны кучы дастатку… і мы сярод тых куч – як дрэва ў голым полі.

Г у ч о к. Што табе трэба ад мяне? Колькі жылы мае цягнуць будзеш?

І г н а т. Ідзі, Пятровіч. Ступай. А я не магу. Не магу-у!

Г у ч о к *(раптам ажывіўся).* Ведаю, ведаю, чаму ты заняў у сваёй хаце кругавую абарону. Не успомніў? А я ўспомніў! Прызнавайся!

І г н а т. Ты пра што гэта?

Г у ч о к. Знаем пра што! Людзі сказалі!

І г н а т. Што яны табе, цікава, сказалі?

Г у ч о к. Прыпамінай, прыпамінай, дзе гаршчок з грашыма схаваў.

*Ігнат смяецца.*

На агародзе? У хаце?

І г н а т. На вярбе! Дзе, дзе!

Г у ч о к. З табой не жартуюць, між іншым. Я сур'ёзна. Схаваў грошы і не можаш успомніць. Так? Яны, яны трымаюць. Шкада пакідаць гаршчок з грашыма.

І г н а т. Глупствы.

Г у ч о к. Не глупствы. Людзі ўсё ведаюць. Давай, давай, Ігнат, паднацісні на памяць… і знойдзем разам. І паедзем. Скажы, яны, грошы, трымаюць? З-за іх не выходзіш з хаты?

І г н а т. Не выходжу таму, што яна хата!

Г у ч о к . Не круці! Ведаем!

І г н а т. Ды няма ў мяне ніякіх грошай. Пенсія толькі. З сабой нашу. *(Паляпаў па кішэні).*Тут.

Г у ч о к. А што ж тады на агародзе перад эвакуацыяй рабіў з рыдлёўкай7 Што?

І г н а т *(крыху ажывіўся).* А, дык гэта я, Пятровіч, збанок з медалькамі і ардэнамі прыкапаў. Не глыбока, не. На заступ. Дзеці, унукі вернуцца калі, плуг скарб мой і выкіне на паверхню. Ганчурку выцягнуць са збанка, а там мае ўзнагароды…

Г у ч о к. Узнагароды, кажаш?

І г н а т *(шчыра).* Ага… Яны… Ага…

Г у ч о к. Мог бы і ў хаце схаваць.

І г н а т. У хаце нельга. Яна сёння стаіць, а заўтра... Не вечная яна, хата. А зямля – назаўсёды, яна зберажэ.

Г у ч о к. Хлусня! Грошы шукаў!

І г н а т. Няма. Няма грошай. Адкуль ім быць, калі я пенсію атрымліваў усё жыццё курам на смех?

Г у ч о к. А можа, разам пашукаем?

І г н а т. А маць тваю так! *(Рашуча выходзіць).*

*Гучок спадылба глянуў на стол, наліў у шклянку з бутэлькі, пракаўтнуў адным махам і толькі цяпер зразумеў, што за пітво. Вада! Ажно аслупянеў. Папярхнуўся. Панюхаў бутэльку.*

Г у ч о к. Ёстваю няхай! Вось гэта абдурыў мяне Ігнат дык абдурыў! Вось гэта купіў! Ну, стары-ы-ы!.. *(Плюнуў).*

*Рашуча, як і выйшаў, заходзіць ігнат. У руцэ – рыдлёўка.*

І г н а т. На! Капай! Шукай скарб! Ну, бяры, бяры рыдлёўку! Бяры-ы! Яна не кусаецца.

Г у ч о к *(адвёў убок рыдлёўку, якую працягнуў яму Ігнат).* Абносім вёску дротам!

І г н а т. Даўно пара.

Г у ч о к. Паставы стаіць.

І г н а т. І сесці можа.

Г у ч о к. Блакада!

І г н а т. Давай! Давай! Давай! Ці ты пойдзеш... ці я... Ды каб вам! Усё! Няма мяне! Памёр! Радуйцеся! *(Падняў вечка канапы, лёг на дно, прыкрыўся).* Памёр! Радуйцеся! Танцуйце!

Г у ч о к *(стомлена апусціўся на канапу).* Нельга табе тут заставацца, Ігнат. Паглядзі, як твае прышчэпкі пайшлі ў рост на яблынях... У добры час і за тры гады такіх не выганяла... Думаеш, яблыкі са свайго сада есці будзеш? Як бы не так. Дудкі, Ігнат! Ну што мне, на калені перад табой упасці? *(Апусціўся на калені).* На! На, Ігнат! Стаў. Стаю. На каленях... Я ж малады, у мяне яшчэ дзеці рукавом нос выціраюць. Га? Злітуйся, Ігнат. *(Устаў).* Гэта табе, старому хрэну, адзін хрэн, а мне не ўсё роўна... Вылазь, Ігнат! Прыгожа будзе, калі на цябе аблаву зробім? Ну, знойдзем мы твой гаршчок... Сапёраў выклічам з мінашукальнікам. Знойдзем. *(Падышоў да*

*акна).* А са склепам сваім ты што нарабіў? Колькі зямлі наварочаў! А мо золата?.. Я ж хачу як лепш… Але прыйдзецца аблаву рабіць. І на цябе, і на Макара з Вольгай…

*Гул машыны.*

Каго яшчэ там нялёгкая прынесла? Заезд у зону па спецыяльных прапусках. У масцы. Засцерагальны касцюм. Вось, калі ласка! Дачакаўся! Хто ж гэта? На твой агарод прамым ходам!.. А ты ляжы, ляжы. Не ўбачыш, як і карову павядуць з двара. За вушы і пацягнуць.

І г н а т *(энергічна адкінуў вечка, ускочыў, як апараны).* Пачакай. Дзе? *(У акно).* Так. Бачу.

*Гучок нацягнуў на рот маску і накіраваўся да дзвярэй.*

*(Перакрыў ход Гучку).* Куды? Стаяць! Спалохаеш гада! Хай назбірае ўлікі… Будзеш сведкам. Мне і раней такія тыпы трапляліся. Так, Пятровіч, дзейнічаем. Якраз твой прыезд да мяне і дарэчы, як так і трэба.

Г у ч о к *(асцярожна, нават палахліва).* А калі ён пры выкананні?

І г н а т. Мне такое выкананне знаёма.

Г у ч о к. Непрыемнасцей не абярэшся.

*Назіраюць за невядомым праз акно.*

І г н а т. Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць.

Г у ч о к. Як сказаць!

І г н а т. А ты скажы. Хоць раз скажы. Што трэба…

Г у ч о к. Абы каму такі касцюм не выдадуць. Ты паглядзі, у што апрануты. Не жартуй з агнём, Ігнат!

І г н а т. Няхай, няхай збірае. Не спалохай толькі.

Г у ч о к. Так, пры выкананні. У гісторыю ўліпнем. Га? Пачне высвятляць, хто такія, чаму ў небяспечнай зоне, па якому праву.

І г н а т. Па праву гаспадара я тут.

Г у ч о к. Табе як з гусака вада… А мне непрыемнасці. Потым даказвай, чаму я даклаў пра вас у агульным спіску. І пайшло- паехала. Га? Падумай!

І г н а т. Ордэн хочаш за стопрацэнтнае выкананне атрымаць?

Г у ч о к. Ды кінь ты!

І г н а т. Цішэй! Ша! Спалохаеш! Цяпер ужо дакладна без ордэна застанешся.  Бяром жывым! Як старшыня, будзеш весці допыт. Ну а я на мушцы птушку гэтую трымаць буду.

Г у ч о к. А калі ён бандзюга? Рэцыдывіст? Калі ён узброены? Кокне – і канцы ў ваду… Кокне – і хана… Га? І ніхто цябе тут шукаць не стане. Ніхто не пачуе ні крокаў нашых, ні яго стрэлаў. Га?

І г н а т. А гэта што? Вераб'ёў палохаць? *(Падаўся да ложка, выцягнуў з-пад  коўдры ружжо і поўны патранташ зарадаў).* Тут на цэлую роту хопіць.

Г у ч о к *(ківае на ружжо).* Зарэгістравана?

І г н а т *(зрабіў выгляд, што не пачуў, але злосна плюнуў).* Падрыхтаваліся! Пятровіч, не дрэйфіць! Ты што так дрыжыш, як асінавы ліст?

Г у ч о к. Я? Нармальна… *(Прыняў стойку «смірна»).*

І г н а т. І гэта ты мной рукавадзіў? Ці ў баб толькі рукой вадзіў?

Г у ч о к. Ты сам, сам глядзі пільней. Не здрэйфі.

І г н а т. Галоўнае – ашаламіць супастата. Як толькі крыкну: «Рукі ўгору!», адразу выбягай з хаты і крычы на ўсю моц… каб ажно вочы на лоб лезлі… Ды знімі ты павязку!

*Гучок пасляхмяна зняў павязку.*

Крычы: «Хлопцы, акружай! Першае аддзяленне з правага боку, другое ў абход…» Зразумеў?

Г у ч о к *(часта трасе галавой).* Так, так. Зразумеў. Акружай… першае аддзяленне… другое ў абход.

І г н а т. Я пайшоў. *(Выходзіць).*

Г у ч о к. Ордэн… Не той выпадак, калі на яго разлічваць цяпер. Была магчымасць… Была… Паспяшаўся  я з рапартам аб пагалоўным  высяленні. За такіх, як Ігнат, па галоўцы не пагладзяць. *(Раптам скеміў).* Але за спыненне марадзёрства могуць нават заўважыць і адзначыць… А што? Чым не ідэя? Ідэя!  Ігнат, вядома, будзе ў гэтай справе праходзіць як сведка.

*Гучыць стрэл.*

*(Спалохана войкнуў, пляснуўся на падлогу, поўзае).* Хлопцы, акру… к-хе, к-хе… акружай. Першы ўзвод… рота ў абход… усе астатнія за ім…

Акружай, хлопцы... Так яго! Сволач! Ты на кго? То-та ж! На! Атрымлівай! Давай, братва! Ведай нашых!

*У гэты час на парозе вырасла постаць незнаёмца ў масцы і ў зялёным спецыяльным касцюме. Гэта Ігнат прывёў яго пад ружжом.*

Акружай, хлопцы! Я з вамі! Так яго, гада!.. *(Убачыўнарэшце ногі ў парозе, знерухомеў, павольна ўзняўся).*

І г н а т *(Гучку).* Старшыня, знімі з яго намордпік. *(Лапуну).* Ну-ну, рукі! Станавіся тварам да сценкі!

Г у ч о к. Гэта ты... мне?

І г н а т. А то Нюрцы тваёй. Знімай.

Г у ч о к. Ага! Слухаюся! *(Зрывае з твару Лапуна маску, кідае яе на падлогу як можна падалей ад сябе).*

Л а п у н. Я капітан Лапун!

І г н а т. А дзе напісана?

Л а п у н *(нахабна).* Тваё шчасце, дзед, што я сёння не ў форме!

І г н а т. Абшукаць, старшыня!

Г у ч о к. Ёсць!

І г н а т. Стаяць! Рукі, рукі, капітан!

*Лапун задраў рукі, Гучок абмацаў яго.*

Г у ч о к. Пуста. Нічога... няма. На такія справы, відаць, ходзяць налегцы... без дакументаў.

Л а п у н *(пагрозліва).* Ну, банда! На якія такія справы?

І г н а т. Р... разгаворчыкі ў страі! Кру-гом!

*Лапун натрэніравана, спрытна павярнуўся праз левае плячо. Гэта ўсё не засталося па-за ўвагай Гучка.*

Г у ч о к. Ігнат адпусці чалавека. Не капай сабе яму...

І г н а т. Якога? Дзе ты тут бачыш чалавека? Мы яшчэ павінны ўстанавіць яго асобу. (Лапуну). Знімай свой балахон, ён табе больш не спатрэбіцца.

*Гучок, наадварот, нацягнуў на рот маску.*

Л а п у н *(кіўнуў на Гучка).* А яму, значыць, можна?

Г у ч о к. Я і так ужо сёння хапіў лішняга. *(Кіўнуў на Ігната).* Вось ён пацвердзіць.

І г н а т. Знімай!

Л а п у н. Ну, банда! Дзед, адпусці па-добраму, а не то...

І г н а т. Што не то? Што?

Л а п у н. У нагах у мяне будзеш заўтра поўзаць!

І г н а т. Старшыня, вазьмі вунь за партрэтам сшытак, там і ручка. Будзеш весці пратакол. Прозвішча, імя, як па бацьку, нумар часці.

Л а п у н. Зараз разуюся!

І г н а т. Спярша знімі балахон... цяпер я павыбрыкваю ў ім.

Л а п у н. Дзед, не ламай камедзь. Х-хы, старшыня. Пудзіла!

І г н а т. А я не жартую.

Г у ч о к. Канчай, Ігнат. Хіба не бачыш, што таварыш адтуль... з-за дрота? *(Лапуну).* Я з ім ужо даўно праводжу работу і ўсё без толку.

Л а п у н. Ды прывучыць трэба разок – шоўкавым стане.

І г н а т. Што, удвух на мяне пойдзеце?

Л а п у н *(Гучку).* Будзеш сведкам. Аказаў супраціўленне прадстаўніку ўлады.

І г н а т. Майго сведку да сябе перацягваеш?

Л а п у н *(зрабіў выпад супраць Ігната, той, спалохаўшыся, стрэліў).* Ха!

*Лапун упаў.*

Г у ч о к *(абхапіў галаву рукамі).* Забіў. Забіў-ў!

І г н а т *(спакойна).* Муху... вунь сядзела на касяку, адна дзірка засталася на тым месцы. Порах сухім трымаю, не пярэчу. На ўсялякі выпадак. Уставай. Ну!

*Лапун ўзняўся.*

Будзеш гаварыць?

Л а п у н. Дзёшава мяне цэніш, аднак. Не і не! Толькі ў прысутнасці дзяжурнага роты аховы.

І г н а т *(Гучку).* Ёсць такая?

Г у ч о к *(не адразу, спярша зазірнуў у твар Лапуну).* Ёсць.

І г н а т. А дзе я табе таго дзяжурнага знайду?

Л а п у н *(Гучку).* Начальнік,  машыну вадзіць можаш?

*Гучок кіўнуў.*

Там і твая стаіць?

Г у ч о к. М... мая. Мая.

Л а п у н. Тады злётай на сваёй на КПП, скажы, Лапун паслаў. Там мяне ўсе ведаюць.

Г у ч о к. У мяне шафёр... вадзіцель... Мішка. Ён, відаць, спіць у машыне?

Л а п у н. Няважна. Злётай на КПП. Хоць сам, хоць з вадзіцелем. Няважна.

І г н а т. Не трэба. Веру. Вось цяпер веру, што ты ні сабака, ні чорт, а Лапун. Х-ха, і прозвішча ж. Ад слова лапаць, ці што?

Л а п у н. Сам ты лапаць. Дык што, адпускаеш? Можна ісці?

І г н а т. Не, нельга. Як жа я цябе адпушчу, не пачаставаўшы? Мы, палешукі, людзі гасцінныя. Я сябе паважаць перастану, калі проста так адпушчу.

Л а п у н. Дзякуй, дзед. Я сыты. Па горла.

І г н а т. Гэта не пашкодзіць гасціннасці. Пятровіч! Старшыня! Адна нага тут, другая там... Прынясі ягад... клубніц.

Л а п у н. Адставіць!

І г н а т. У сваёй хаце я камандзір. Бягом!

Г у ч о к. Ён сыты, Ігнат. Сыты.

І г н а т. Па ягады, бягом – марш!

Л а п у н. Не слухай ты яго, старога казла.

І г н а т. Выконваць!

*Гучок выходзіць. Ігнат сеў.*

Л а п у н. Пушку, дзед, павесь на цвік.

І г н а т. Раззбройвайцца, бачу, рана. Вайна даўно закончылася, а стрэльбы трымаем. Пачакаю і я.

Л а п у н. Ну, як хочаш. Твая справа. *(Разглядвае фотакарткі, партрэты, што вісяць на сцяне).* Ты, стары?

І г н а т. І я.

Л а п у н. У пяхоце, ці што, служыў?

І г н а т. Сам ты пяхота. Ствалы. Саракапяткі.

Л а п у н. Зразумела. А гэта – баба твая?

І г н а т. Жонка. Матруна.

Л а п у н. І дзе ж яна цяпер?

І г н а т. Дома яна. А я затрымаўся ў гасцях.

Л а п у н. Усе там будзем…

*Заходзіць Гучок з кошыкам.*

І г н а т *(устаў).* Вось і харч прыбыў. Еш. Еш, не саромейся. У мяне на градцы іх багата.

Л а п у н. Ты чаго прыліп да мяне, дзед?

І г н а т. Лічу да трох. Раз!

Л а п у н. Добра, уважу. *(Узяў ягаду, укінуў у рот).* Не маліцца ж застаўляеш. *(Зморшчыўся).*

І г н а т. Што, кіслая?

Г у ч о к. Ігнат, апомніся! Падумай, што цябе заўтра чакае! Мужыкі! Давайце разыдземся мірна. Хто «за»? *(Узняў руку).*

Л а п у н. Заўтра ён будзе мне ногі цалаваць. Скажы дзякуй, што пісталет не ўзяў.

І г н а т. Жменяй пуляй. З такой хуткасцю, з якой збіраў.

Л а п у н *(ікнуў).* Не лезуць.

І г н а т. Падсабляй вадзічкай. *(Падсунуў стрэльбай Лапуну шклянку з вадой).*

Г у ч о к. Не пі!

Л а п у н. А я дурань, ці што? Па мне відаць?

І г н а т. Я ж п'ю, і нічога, як бачыце. Жывы.

Л а п у н. Ды ты ўвогуле рэдкі экземпляр. Цябе ў музей трэба. І без маскі, і п'е, і есць. Прыдурак!

І г н а т. Вадзічка, праўда, крыху перабрадзіла, пракісла, але хвосцікі добра разводзіць…

Г у ч о к. Якія хвосцікі?

І г н а т. Што ў крыві, як апалонікі, плаваюць. Як толькі хвосцік склеіўся – хана клетцы.

Л а п у н. Вучоны дзед.

І г н а т. Сам ведаю.

Л а п у н. Але пушку апусці, апусці ўсё ж.

І г н а т. Я цябе і мясам сырым яшчэ падкармлю. З той каровы, якую ты ў Петрака купіў за сотню.

Л а п у н *(агрэсіўна)*. Ты, бля… як размаўляеш з капітанам?!

І г н а т. І якую здаў такім, як сам, ваўкалакам на мясамбінат, відаць жа. Не для сябе ж з рацыяй браў… Багата вас такіх развялося, грэшнікаў.

Л а п у н *(Гучку)*. Начальнік, супакой яго. Іначай!..

Г у ч о к. Не паддаецца выхаванню. Дужа стары – таму, відаць.

Л а п у н *(хмыкнуў)*. Дыназаўр!

І г н а т. Людзі, людзі… Крыжа на вас няма. Калі б ведалі гарадскія, чым ты іх падкарміў…

Л а п у н. Хто? Я? Ну дае! Ну мочыць!

Г у ч о к. Ігнат! Думай пра заўтрашні дзень!

І г н а т. А пра які дзень я думаю? Яны б цябе, гарадскія, на шматкі разарвалі, каб ведалі… Без суда і следства. Пустазелле трэба вышчыкваць разам… адным махам. А ты, Пятровіч, загадваеш мне з вёскі выходзіць. Нельга. Вось такія капітаны бяды многа наробяць.

Л а п у н. Казёл!

Г у ч о к *(Лапуну)*. Ды вы… вы не слухайце яго. Пагаворыць, пагаворыць ды супакоіцца.

І г н а т. А колькі вёсак цяпер без нагляду? Міліцыя ўсе хады-выхады не ведае… А як што, адразу на Крэмль ківаем… чым кормяць, як кормяць, чым пояць? Вось гэтыя і кормяць нас сёння, і пояць. Капітаны!

Л а п у н *(Гучку).* Як яго прозвішча, начальнік?

Г у ч о к *(замяўся).* Ігнат… Ша… Ша…

І г н а т. Шаройка маё прозвішча. Запомніш?

Г у ч о к. Шаройка, Шаройка.

Л а п у н. Я табе, дзед, гарантую вясёленькае жыццё!

І г н а т. Давай, давай, палоханыя мы. Не такіх басурманаў бачылі.

Л а п у н. Ты, стары, акрамя таго што пражываеш незаконна ў забароненай зоне, яшчэ і самагон выробляеш? *(Кіўнуў на стол).*

І г н а т. Наліць?

Г у ч о к *(Ігнату).* А я што табе гаварыў? Неслух ты, Ігнат! Неслух! *(Паківаў пальцам на Ігната).*

І г н а т *(Гучку).* А што ты мне зробіш, калі хоць і з ЦК? Аштрафуеш? Маёмасць канфіскуеш? Дык вунь яе колькі гуляе, аплаканай слязамі і потам людскім памытай. Бяры! Пакуль гэты гад не расцягнуў усё да канца. Бяры!

Л а п у н. Цябе, казёл стары, будуць судзіць адразу па трох артыкулах.

І г н а т. Па якіх гэта трох?

Л а п у н. За парушэнне рэжыму, за супраціўленне мне…

Г у ч о к *(Ігнату).* А я табе што гаварыў?

Л а п у н. … і за самагонаварэнне.

І г н а т. Твой адзін артыкул перацягне мае тры. Давай суд! Давай! Пасудзімся-я!

Л а п у н *(Гучку).* Выйдзі, начальнік.

*Гучок замяўся.*

І г н а т. Выйдзі, Пятровіч. Я таксама не люблю пры сведках.

Г у ч о к. Таварыш капітан! Ён стрэліць! Ён такі! Ён можа!

*Лапун махае на Гучка, той выходзіць, азіраючыся.*

Л а п у н. Страляй, казёл!

І г н а т. Занадта лёгка ты адрабіцца  хочаш. Мы будзем судзіць цябе прылюдна… талакой судзіць будзем!

Л а п у н. Давай! Судзіце! А я пайшоў! Чакай у госці! *(Рашуча выходзіць).*

*Убягае Гучок.*

Г у ч о к. Ты чаму не страляў? Пайшоў жа – ты б бачыў! -- з выклікам, горда! Га? Цяпер ён цябе—як піць даць – з-пад зямлі дастане. Ён вернецца!

І г н а т *(працягвае ружжо Гучку).* На, страляй. Паспееш, далёка ён не ўцёк. Страляй!

Г у ч о к. У мяне… у мяне дзеці… Ты хіба іх карміць будзеш? Не, цяпер мне тут рабіць няма чаго. Сам прыбяжыш і дапамогі папросіш. Гут бай, Ігнат. Гут бай! А пакуль пасядзі ў блакадзе. Можа, паразумнееш. *(Выходзіць).*

І г н а т. Не. Ігната яны голымі рукамі не возьмуць*! (Выпусціў зарад у столь).* Давай, давай блакаду, Пятровіч! *(Выцягнуў з-пад печы адну рашотку, другую, трымае апошнюю перад сабой, і такое ўражанне, быццам ён апынуўся за кратамі).* Давай!.. *(Паставіў рашоткі перад вокнамі. Кліча).* Грышка-а! Жывы?

Г о л а с  Г р ы ш к і. Жывы.

І г н а т. Спускайся.

*Люк над печчу адкрыўся, у ім паказаліся спярша ногі Грышкі, а потым і яго кашчавае цела.*

Ты ўсё чуў?

Г р ы ш к а *(трымціць усім целам – адразу відаць, што пасля запою).* Ага.

І г н а т. Што скажаш?

Г р ы ш к а. Шморгаць трэба. Уцякаць. Драпаць. Гэты макароннік ці кусок, як яго там… хутчэй з жыццём развітаецца, чым даруе крыўду… Я-та ведаю… Нагледзеўся на такіх  і ў зоне, і ў  арміі. Ніякі ён не капітан. Фуфло.

І г н а т. Чаму так рашыў?

Г р ы ш к а. Ды на морду яго паглядзі…

І г н а т. Ну і што ўбачыш?

Г р ы ш к а. Розніцу. Пара, Ігнат, уносіць ногі…

І г н а т. Вось цяпер нельга.

Г р ы ш к а. Чаму?

І г н а т. Справы ў мяне ёсць яшчэ ў Кругліцы.

Г р ы ш к а. І не кусок ён. Зэк нейкі. Знаёмы гаварок.

І г н а т. Былы.

Г р ы ш к а. Ясная справа.

І г н а т. Ну і ты былы. Цябе ж я не баюся.

Г р ы ш к а. Я смірны. Мне б выпіць чаго.

І г н а т. Есці будзеш?

Г р ы ш к а. Што?

І г н а т. Жраць, пытаю, будзеш?

Г р ы ш к а *(махае рукамі).* Што ты! Што ты! Я калі ў вінт траплю – не ем. Мне выпіць чаго. Не вып'ю… капыты адкіну. Капні грамульку. Для сугрэву.

І г н а т *(ківае на стол).* Дык бяры і пі.

Г р ы ш к а. Ты не вады мне… Я не ўмею яе піць…

І г н а т. Эх! З-за такіх, як ты, і добраму люду не перападае. Недзе раздабыць. Вось вадзічку і папіваю. І табе раю. Яна нос не фарбуе ў чорны колер і рэпутацыю не чарніць.

Г р ы ш к а. Мне ўжо ўсё роўна.

І г н а т. Не спяшайся паміраць – я з цябе яшчэ чалавека зраблю.

Г р ы ш к а. Згодзен. Рабі. Толькі дай грамульку.

І г н а т. А вось атруту гэтую і раней ненавідзеў. Я, Грышка, і раней ваду… Усе з градусам, а я без градуса…

Г р ы ш к а (*нецярпліва).* Ды ведаю!

І г н а т. І рука не дрыжыць. Суп не разліваю. Бачыш? Не дрыжыць. *(Выцягнуў рукі перад сабой).*

Г р ы ш к а. Дзе б узяць, га?

І г н а т. Не, ты бачыш?

Г р ы ш к а. Вой-вой-вой-вой! Канец! Кранты!

І г н а т *(строга).* Марш зноў на гарышча! Залазь і сядзі там. Пакуль не прымеш форму нармальнага чалавека – каб і носа не паказваў!

Г р ы ш к а. Я ж загнуся… ага.

І г н а т *(добразычліва).* Будзеш яшчэ чалавекам. Вылечу.

Г р ы ш к а. Ні жаласці ў цябе, ні… Налі, га?

І г н а т. Ты ў мяне піў? У мяне, пытаю?

Г р ы ш к а. Не… не…

І г н а т. Вось там і пахмяляйся, дзе набраўся, як сабака блох. І сядзі на гарышчы ціха. Каб ні гуку! І цябе, між іншым, шукаюць.

Г р ы ш к а. Чуў. У комін. Там, на гарышчы, усё чуваць… Вой-вой-вой! Кранты! Капец!

І г н а т. Цэлы будзеш. Куды цябе такога да людзей? Два дні табе яшчэ даю тэрмін. Потым лазню напалім, венічкам адхаджу. І к чортавай матары! У цябе сям'я. Мар'я. Дзеці. Да іх едзь.

Г р ы ш к а. Навошта я ім такі! Дазволь, Ігнат, хоць вады сербануць. Твая ўзяла. *(Узяў шклянку зубамі, п'е).*

І г н а т. Эх, чалавек ты чалавек, Грышка, штаны з цябе няма каму зняць. Лезь на гарышча! Не выводзь мяне з цярпення.

Г р ы ш к а. Не палезу. Нікуды я не палезу. Сам у хаце, а мяне на гарышча заслаў. Чаго я там не бачыў? Мышэй?

І г н а т. Тваё месца там – бліжэй да неба.

Г р ы ш к а. Пасадзі лепш у склеп. Га? Там халаднавата. Як у выцвярэзніку.

І г н а т. Ды ты ўсё паспеў прайсці. Акрамя майго гарышча.

Г р ы ш к а. Пасадзі ў склеп.

І г н а т. Склеп не для цябе. Калодзеж у ім выкапаў. Вада ў ім глыбінная, чыстая, не забруджаная. Пятровіч, маць яго іці, убачыў зямлю каля склепа і пляце нейкую чапуху пра золата… пра гаршчок з грашыма. А ён даваў іх мне, спытаць бы, грошы? Лезь на гарышча і думай, навошта гэта я, Ігнат, адкамандзіраваў цябе туды. Хоць і часова. Ляжы і думай.

Прабач, няма ў мяне больш высокага месца. На ліпе калі толькі? Але там – занята. Там – буслы, святыя птушкі, яны цябе за каўнер і вобзем кінуць.

Г р ы ш к а. Фашыст! Фашыст ты, дзядзька Ігнат! Не, яшчэ горш – назіральнік у турме! *(Забраўся на гарышча).*

І г н а т *(прыбавіў гучнасць у дынаміку, і дыктар пачаў расказваць Ігнату пра класічную музыку).* Грышка! Слухай! Разумней!

Г о л а с Г р ы ш к і. Пайшоў к чорту!

І г н а т *(усміхаецца).* Эх! Хіба ж мог падумаць калі-небудзь Ігнат, што ў сваёй хаце яму будзе блакада? *(Прыбівае рашоткі на вокны).* Крэпасць будзе. Не возьмуць. А то, бач ты, чаго захацелі: Леапольд, нягодны баязлівец, выходзь. А гэта бачылі? *(Тыцнуў у акно дулю).* Дзе вы раней былі, разумнікі? Да аварыі? Баб чужых лапалі? Гарэлку жлукцілі? А цяпер певень клюнуў! Ну-ну, давайце, давайце мітусіцеся. *(Прыбіў рашоткі).*

*Дынамік раптам прахрыпеў і замоўк. Ігнат круціць яго, трасе: ніякіх прыкмет жыцця.*

А, гэта ж блакада... Я і забыўся... Ну, ну. Паглядзім, хто верх возьме. *(Выцягнуў з-пад ложка патэфон, змахнуў з яго пыл рукавом, накруціў спружыну, паставіў пласцінку, і неўзабаве па хаце расплылася старая ваенная мелодыя. Ігнат сеў, задумліва слухае. Потым узняўся, распраміў плечы).* Пашка, твая песня... Чуеш? Твая! Калі мне цяжка, я, значыць, гэтую пласцінку заўсёды слухаю і цябе ўспамінаю... Эх, Пашка, як не хапае мне цябе сёння! Мы б з табой удвух тут!.. *(Да Грышкі).* Такім бы, як ты, Пашка, пасля вайны басанож па цёплай зямельцы прайсціся, ласку яе адчуць... жыта на далонях патрымаць... Даруй, Пашка, што цябе няма, а я жыву... Даруй... вось мне прыходзіцца і за цябе жыць... Стараюся...

Г р ы ш к а *(высунуў галаву з люка).* Ігнат, усю Еўропу ўзбударажыш. Слухай, а франтавыя вам з Пашкам давалі? Ці і там вадзічку?

І г н а т. Наконт Еўропы ты загнуў. Хаця, калі ўспомніць адзін эпізод, то магу і Еўропу ўзбударажыць.

Г р ы ш к а. Няўжо?

І г н а т. Колькі яе, Еўропы той? З гулькін хрэн.

Г р ы ш к а. Во дае!

І г н а т. Дзівак! Ды я з дзяўчынай пазнаёміўся ў вагоне...

Г р ы ш к а. Цікава!

І г н а т. За граніцай ужо. Не паспеў...

Г р ыш к а. Адрас запісаць?

І г н а т. Ну. Так. Не паспеў адрас запісаць, а ўсю Еўропу праехалі. Так што… Ты схавайся. Тваё месца там.

*Грышка ўцягнуў галаву, бы чарапаха ў панцыр.*

Схлусіў я. Не так было. Ну, выпіў таксама. Але з таго дня, можна сказаць, і кроплі не бяру. Перабраў, грэшным дзелам… не паспеў праспацца, а ўсю, лічы, Еўропу і праехаў…

Г р ы ш к а. Так бы адразу і сказаў!

*Ігнат кінуў у яго падушу, Грышка знік.*

І г н а т. Я што – анёл, маць тваю!

*Пласцінка даўно дайграла, Ігнат схаваў патэфон. Некалькі разоў міргнула і патухла лямпачка.*

Во, во, і электрыку адключыў. Сур'ёзна, аднак, узяўся за мяне Гучок. Шалапуты… Анціхрасты… *(Запаліў запалку, адшукаў лямпу-керасінку).* Гарыць! І лямпа жыве! Спатрэбілася. *(Распранаецца).* Будзем спаць. Спакойнай ночы, улада сельсавецкая! *(Сеў на ложак, пацягнуўся, каб патушыць лямпу, але ў дзверы нехта паляпаў).* Грышка, ты?

*Грышка не адказвае, стук паўтараецца.*

*(Буркліва).* Хто будзе?

Г о л а с В а р к і. Гэта я, Ігнат.

І г н а т. Хто – ты?

Г о л а с В а р к і. Я, Варка.

І г н а т. Варка, якая Гучок? Навучылі вас у інстытуце культуры галасы падрабляць… Артысты!

Г о л а с В а р к і. Ды адчыняй, не бойся, я.

І г н а т. Ён можа і за Варку, і за Ігната падабраць… *(Апранаецца).* А тады за ім міліцыя – шусць. Не, не магу цябе ўпусціць… Варка ты ці хто… Вы мне блакаду, я вам – тыл!

Г о л а с В а р к і. Ой, божухны! Ды я гэта! Адна! Табе што? Штуку сваю паказаць? Дык цёмная, не ўбачыш – чорная яна…

І г н а т. Адну тым больш не пушчу. Позна. Што людзі скажуць?

Г о л а с В а р к і. Ды я з добрымі намерамі!

І г н а т. Знаем мы вашы бабскія намеры! *(Падаўся да дзвярэй, патаптаўся).* Адна, кажаш?

І г н а т *(упусціў Варку, зашчапіў дзверы).* Праходзь.

В а р к а. Ад каго гэта ты так хаваешся?

І г н а т. Ад людзей.

В а р к а. Ну, здароў будзь, Ігнат.

І г н а т. Ты навошта прыйшла?

В а р к а *(смяецца).* Па табе засумавала.

І г н а т *(строга).* Я сур'ёзна пытаю!

В а р к а. Сур'ёзней быць не можа, Ігнатка, ягадка мая. Па табе, па табе, бедалажка, блакаднічак ты мой, засумавала. *(Пацягнулася да Ігната, каб пацалаваць, але той выкруціўся).*

І г н а т. Ну... ну, без абдыманняў... без рук...

В а р к а. Ой! Ой! Незачэпа ты стары! *(Выкладвае на стол скруткі, слоікі).* Гэта табе, Ігнат. Гучок усім абвясціў, што ты адрэзаны ад белага свету, дык, думаю, адвярнуся, выручу цябе па старой дружбе. А то памрэш яшчэ чаго добрага з голаду, каго я любіць буду?

І г н а т. Забяры, забяры ўсё назад.

В а р к а. Як жа... назад? Я ж да цябе на дзвюх бутэльках прыехала. Адку Кольку дала, каб на манцыклеці падкінуў да Кругліцы, а другую міліцыянеру, каб да цябе прапусціў. Яна, бутэлечка,-- ключ надзейны! Што хочаш адамкне. І працавітая, халера! І косіць, і арэ.

І г н а т. Ігнат не адным днём жыў. Ёсць хлеб і да хлеба. Магу яшчэ і вам памагчы.

В а р к а. Вой, багацей!

І г н а т. Ты вось што, Варка... Адпачні трохі з дарогі і давай, давай назад.

В а р к а. Гэта супраць ночы мяне выганяеш?

І г н а т. Нельга тут заставацца. Разумець павінна.

В а р к а. А сам?

І г н а т. Ты, бачу, любіцца хочаш, а я ўжо як-небудзь...

В а р к а *(смяецца).* Ой не магу! «Як-небудзь». Ды будзем мы, сусед, добра любіцца. З рыпам і скрыпам! Маладым нос утрэм!

І г н а т. Сумленне ў цябе ёсць?

В а р к а *(як і не чуе, прысела на ложак, пацягнулася).* Ой, нешта я стамілася. Адпачну я…

І г н а т. Ну… прыляж. Месца ёсць.

В а р к а. Яшчэ якое! *(Паспружыніла на ложку).*

І г н а т. А я на сена пайду.

В а р к а. Ты што, родненькі! Я ж адна ў хаце, калі цёмна, баюся.

І г н а т. Можна падумаць, ты з кім спіш у сябе дома.

В а р к а. Дык гэта дома…. *(Зняла сукенку, забралася пад коўдру).* Ой, Ігнатка, дык то ж у людны вёсцы, а цяпер жа ты адзін у Кругліцы… і то ўцякаеш. *(Ляпае далоняй па пярыне, запрашаючы Ігната да сябе).*

І г н а т. Цікава выходзіць… не паспела прыйсці, а ўжо ў маёй пасцелі. Лёгка гэта ў вас, баб, усё… проста.

В а р к а *(вылезла з-пад коўдры).* Ты ўжо не крыўдуй, Ігнат.  Змерзла я.

І г н а т. Печ прапаліць?

В а р к а. Не-не! Не трэба! Я на цябе гляджу – і мне цёпла. І раней так, Ігнат…А ты не заўважаў, а бачыў мяне—пазбягаў… А цяпер і зусім сумую без цябе… месца не знаходжу…

І г н а т. Дык які я мужык, Варка?

В а р к а. Добры, добры мужык.

І г н а т. Не, я не той, якога ты шукаеш.

В а р к а. Той… той… той… *(Абняла Ігната, цалуе).*

І г н а т *(мужна вытрымаўшы пацалункі).* Наелася?

В а р к а. Не! Мала! Яшчэ хачу! *(Памкнулася да Ігната).*

І г н а т *(прытупнуў).* Ад… ставіць!

В а р к а. Фу, камандзір! Прама генерал ! «Адставіць!»

І г н а т. І не кантаваць! Спі! *(Намерыўся патушыць лямпу).*

В а р к а. Тушы яе, тушы. Калі цёмна, удвух лепш.

І г н а т *(перадумаў тушыць).* Можа, чаго з'ясі?

В а р к а. З задавальненнем. Я галодная. Нас жа тады, Ігнат, як заграбасталі ў машыну, доўга-а вазілі. Усю ноч. А высаджваюць у Бярозках. Ты чуеш? У Бярозках. Я ў тыя Бярозкі ў дзеўках на танцы бегала. Да адных там падсялілі разам з клімаўцамі. Іх трое ды я адна. Праз дзень ужо бачым: касавурацца людзі, куды іх прыветнасць падзелася, пасуду пасля нас перамываюць па тры гадзіны… і ўсё труць… труць… Баяцца, што мы ім гэтую заразу прывезлі. Як думаеш, Ігнат?

*Ігнат не адказаў.*

Тады я і пытаю: дык нам што, можа, пайсці ад вас? Вы так і скажыце, людцы добрыя. Не саромейцеся. Ідзіце, кажуць, ідзіце. Паблукалі. *(Сумна ўсміхнулася).* У куратніку нават паначавалі. Смех і слёзы. А калі прывезлі ў сталіцу нашага раёна, там ужо – курорт. Кормяць як на забой. Па сто грамаў давалі разоў некалькі. Толькі адно кепска : баба, распранайся! Ты чуеш, Ігнат?

І г н а т *(усё яшчэ рыхтуе вячэру)*. Чую, чую.

В а р к а. Баба, распаранайся, будзем цябе ўсю замяраць. А там доктар мужык. Вусаты такі, як рак. Я назад. Э-не, кажу, людцы добрыя, не ведаю, як і чым вы мяне замяраць будзеце, але я перад першым стрэчным замяральшчыкам распранацца не буду, няхай ён хоць доктар, хоць прафесар.

І г н а т. А навошта ж тады да мяне прыйшла?

В а р к а. Дык ты ж не прафесар.

І г н а т. Садзіся, дзеўка, да стала. Садзіся, малодка.

В а р к а. Пачакай, я яшчэ ў доктара на прыёме не пабывала.

І г н а т. Усё ж асмелілася?

В а р к а. Жыць жа хочацца, Ігнат.

І г н а т. Еш.

В а р к а. Вот спасібачкі. *(Падсела да стала, узяла ў сумцы бутэльку віна, паставіла на стол).* Паказвайце, кажу, дзе тут у вас доктар той вусаты. Няхай замярае, гасподзь з ім. *(Адкаркавала бутэльку, напоўніла чаркі).* А ты чаму ж убаку?

*Ігнат падсеў да стала.*

Ага! Няма ж чаго рабіць. Наце вам хоць сто разоў. Замярайце! Во так у горадзе, чула, некаторыя бабы ад бяздзелля і распранаюцца перад чужымі мужыкамі. Бяры, Ігнат. Вып'ем. А за што?

І г н а т. За Кругліцу. Памянем яе.

В а р к а *(праслязілася).* За роднае гняздо наша.

*Злёгку крануліся чаркамі, прыгубілі. Закусваюць.*

У Следзюках не ў Кругліцы. Чужыя мы там, хоць і краіна адна. Дом, праўда, добры далі. З белай цэглы. На пяць акон. Пакуль у кожнае акно паглядзіш – і дзень мінае. А калі б на дваіх падзяліць тыя вокны, можа, і паспелі б што зрабіць... у нас паўдня заставалася б яшчэ на гаспадарку... Прызнацца, усё з рук валіцца... Адна.

І г н а т. Дык што, у вас няма яе, заразы той?

В а р к а *(ажыўлена).* Няма! Няма-а! Гэтыя , што прыязджалі, казалі, што няма. Праўдацькі, есці з намі не селі, пасаромеліся, відаць... сваё дасталі з вузельчыкаў. Але, кажуць, рацыі няма. У Понціхі на агародзе замяралі, у іншых. Няма-а! Ой, галава закружылася ў мяне, Ігнатка.

І г н а т. Ад пяці грамаў?

В а р к а. Ага! Гэта мы з табой такія п'яніцы. Можа, яшчэ капнеш?

І г н а т. Ты выпі, Варка, выпі.

В а р к а. Не буду і я. Яшчэ замуж не возьмеш: скажаш, п'ю багата. Понціха, ага, паслухай, у іх пытае: «Вы ж скажыце, хлопчыкі, што ж мне з агарода есці можна, а што не?» Ветлівыя такія, культурныя, пацікавіліся, колькі гадоў Понцісе, яна прызналася – восемдзесят два. «О, тады, бабуля, усё еш, усё!»

*Ігнат уздыхнуў, пахітаў галавой.*

Так што паехалі, Ігнат. Хочаш распішамся, хочаш так жыць будзем.

І г н а т. Цябе Гучок падаслаў? Толькі чэсна?

В а р к а. Ты што гэта гаворыш такое, Ігнат? За каго мяне прымаеш?

І г н а т. За чалавека.

В а р к а. Я б яму ногі паадрывала! Вочы б!.. Абыходзіць мяне. Пазбягае. Што ж гэта такое, людзі, атрымліваецца? Калі ж справядлівасць будзе? За добрую хату сем тысяч даюць, а за развалюху – чатырнаццаць. Справядліва? У каго хата лепшая – у мяне ці ў Петрака?

І г н а т. У цябе, у цябе, Варка.

В а р к а *(захліпала).* У мяне. Усе ведаюць, што ў мяне.

І г н а т *(гладзіць Варку па галаве).* Не трэба. Не тое перажылі. Вайну… Бясхлебіцу.. Працадзень голы… Вазіла б і ты, як Петракоў сын, старшыню калгаса, і тваю хату б ацанілі на чатырнаццаць тысяч.

В а р к а. Мяне, калі я адзінокая, можна і абразіць, і аблапошыць. Адна я… і ты адзін… а разам мы якая ні якая , а сіла. Ігнатка, можа, паспрабуем?

І г н а т. Хадзі сюды. *(Падводзіць Варку да люстэрка).* Паглядзі на сябе, а потым на мяне…

В а р к а. А мы…а мы не будзем у люстэрка глядзецца.

І г н а т. Ты з кім-небудзь другім ствары саюз. Ды і як яно павернецца ўсё пасля маёй блакады? Адзін бог ведае.

В а р к а. Я сама і чыгуны ў печ ставіць буду. І скацінку карміць, і цябе… а ты будзеш сядзець пасярод пакоя… самага вялікага… пасяродачку… як цар у крэсле. І крэсла купім. Халат пярэсты… аксамітны. І сядзі. Дом харошы. Вялікі. Палац!

І г н а т. Не пра халаты і крэслы думаць трэба.

В а р к а. А пра што ж яшчэ?

І г н а т. Па радзіву адзін раз спаймаў: хлеб-соль навасёлам! А лезе ён вам у рот, той хлеб?

В а р к а. Што ж цяпер, у магілу?

І г н а т. «Запаліліся новыя вокны для пацярпеўшых ад аварыі». А колькі іх патухла? Ды і што яны значаць, чужыя вокны? А хто зямлю-зямліцу верне да жыцця? Цьфу! *(Выходзіць).*

В а р к а *(кінулася ўслед).* Ігнат! Я ж не хацела цябе пакрыўдзіць! Растлумач! Я зразумею!..

*З люка выбраўся Грышка. Падбег да стала, п’е віно прама з бутэлькі.*

Г р ы ш к а. Во, ёстваю! Ваду ён са склепа п’е! Добра пайшла-а! Ух!

*Крокі за дзвяырма. Пачуўшы іх, Грышка з бутэлькай схаваўся пад коўдру.*

В а р к а *(з'явіўшыся, заўважыла пад коўдрай чалавека, успляснула рукамі).* А я ў садзе яго шукаю. Спіць, як анёлачак… *(На дыбачках падышла да стала, патушыла лямпу).*

*Рып ложка. Раніца. Набіраецца святло. Варка пацягнулася, пазяхаючы, гладзіць па галаве Грышку.*

Вось і цудоўна. А мне больш шчасця і не трэба, як вырашанае пытанне. Я, Ігнатачка, парсючка за сорак рублікаў купіла. Кароўкай абзавядземся. Грошы як толькі за свае хаты атрымаем, на курорт махнем. Купаўся ў моры, Ігнатка? А нагаворваў на сябе… Цёплы ты яшчэ… *(Выцягвае з-пад коўдры пустую бутэльку, здзіўлена глядзіць на яе, адкідвае коўдру і бачыць Грышку).* Грышка? Людзі! Людзі! Уставай, п'яніца! Ты калі гэта паспеў падкаціцца? Адкуль ты ўзяўся? *(Похапкам апранаецца).* Ой! Сорам які! Сорам! Ігнат! Ты дзе?

*Грышка на хаду нацягвае штаны, уцякае на сваё гарышча.*

Ігнат!

*З'яўляецца Ігнат.*

І г н а т. Тут я, тута.

В а р к а *(павісла ў Ігната на шыі).* І ты быў побач, бессаромнік, і не бачыў, і не чуў?

І г н а т. Дык… не страшна.

В а р к а. А я на п'яніцу гэтага словамі і ласкамі трацілася.

І г н а т *(усміхаецца).* Мазалёў не нацёрла?

В а р к а. Хоць бы прараўнаваў… Якіх мазалёў?

І г н а т. На Грышку не звяртай увагі. Яму пасля п'янкі што з Мар'яй, што з Дар'яй. Мар'я, відаць, асабліва па ім і не ўбіваецца?

В а р к а. А-а! Не ведаеш хіба ты іх, ці што?

І г н а т. Дзякуй табе, Варка, што зайшла. Толькі больш не трэба. Не прыходзь. Небяспечна.

В а р к а. Дык за цябе, дурня, страшна. Не крыўдуй за дурня. Любы ты мне. Надумаеш, то прыходзь, я заўсёды табе рада буду.

І г н а т. Прыйду.

В а р к а. Ключ на касяку будзе… калі я, можа, куды адвярнуся. Дом знойдзеш. Людзі падкажуць.

*Гул машыны. Ігнат і Варка падбеглі да акна.*

Прапалі! Людзечкі! Прапалі!

І г н а т. Без панікі! Не прападзем.

В а р к а. Куды мне?

І г н а т *(узяў за руку Варку).* Пайшлі, выведу...

В а р к а. З табой і ў пекла не страшна...

*Выходзяць.*

*Зацямненне.*

**Д з е я д р у г а я**

*Ігнат вяртаецца ў хату, стаіць каля акна, назірае за чарговым візіцёрам. Ён звярнуў увагу на стол, дзе не аказалася бутэлькі з він*ом.

І г н а т *(кліча).* Грышка!

Г р ы ш к а *(высунуў галаву з люка).* Што трэба?

І г н а т. На лячэнне накідваю яшчэ два дні.

Г р ы ш к а. У чым мая віна?

І г н а т. Віна ў віне.

Г р ы ш к а. Ды не піў я, не піў! Глыток усяго... Грамульку. За ваша знаёмства... за заручыны. Астатняе разліў.

І г н а т. Ды ты не трапіш у рот, ты разальеш... Сядзець і не чырыкаць!

*Грышка ўцягнуў галаву ў люк, праз імгненне зноў высоўваецца.*

Г р ы ш к а. Калі шоргаць будзем?

І г н а т *(не адрываючы погляду ад акна).* Спакойна. Спакойна. Прыйдзе наш час – пойдзем. Па адным.

Г р ы ш к а. Хто зноў прыехаў?

І г н а т. Зараз высветлім. *(Крычыць у акно).* Гэй, ты! Непрыгожа пад яблыню! Там за вуглом у мяне... за пунькай шпакоўня. Так, так, правільна! *(Грышку ).* Схавайся.

*Грышка знік. Да акна падыходзіць Кудасаў. Апрануты, як для прэзідыума, без маскі.*

К у д а с а ў *(твар у акне).* Добры дзень.

І г н а т. Добры.

К у д а с а ў. Дазвольце зайсці?

І г н а т. Хто такі? Выпадкова не начальства?

К у д а с а ў. Угадалі. Начальства.

І г н а т. Тады... тады тым больш не пушчу.

К у да с а ў. Гэта чаму ж?

І г н а т. Я злосці багата накапіў на начальства.

К у д а с а ў. Ну што ж, так праз акно і будзем размаўляць?

І г н а т. Пра што?

К у д а с а ў. Раз я прыехаў, значыць, ёсць да вас размова.

І г н а т. Слухаю.

К у д а с а ў. Адчыніце.

І г н а т. Вы мне адчынялі, калі я да вас прыходзіў? Адчынялі? Успамінайце, успамінайце.

К у д а с а ў. Я, прабачце, вас першы раз бачу.

І г н а т. Вы, не вы... Цяпер я аднолькава мяркую пра ўсё начальства. Лесу прасіў. Шыферу. Толі. Пуцёўкі дабіваўся ў санаторый...

К у д а с а ў. Розныя людзі ёсць і сярод начальства, як ні шкада – і чэрствыя, мярзотнікі. Ды і не час нам сёння высвятляць, хто каму адчыняў – не адчыняў.

І г н а т. Чаму ж? Самы час. А будзеш сваволіць, ружжо вазьму. Страляе, між іншым. Выпрабоўваў.

К у д а с а ў. З ружжом папалюеце, як сезон адкрыецца...

І г н а т. Што вы хочаце ад мяне?

І г н а т. Адчыніце.

І г н а т. Дакумент ёсць?

К у д а с а ў. Ды я ж не збіраўся ў вас начаваць. Дакументы ў гасцініцы пытаюць.

І г н а т. І чым гэта я вас так зацікавіў?

К у д а с а ў. Пазванілі, што вы не эвакуіраваліся.

І г н а т. Прозвішча таго, хто званіў?

К у д а с а ў. Ён не назваўся. Прасігналізаваў і адразу паклаў трубку... не паспелі спытаць...

І г н а т. Ананімкі не прымаюцца.

К у д а с а ў. Але ж праўду сказаў.

І г н а т. З вашай праўдай!.. Цьфу! Пры якой пасадзе састаім?

К у д а с а ў. Работнік райкома партыі.

І г н а т. Не хлусіш?

К у д а с а ў. Не, вядома.

І г н а т. Чым дакажаш?

К у д а с а ў. Вось маё пасведчанне. *(Працягнуў Ігнату пасведчанне).*

І г н а т *(уважліва пазнаёміўся з пасведчаннем, вярнуў).* Адзін?

К у д а с а ў. Так. Як бачыш – адзін.

І г н а т. Я паважаю партыю. Лічыце, што праблем няма. Заходзьце. *(Упусціў Кудасава).* Хоць сам беспартыйны бальшавік. Ага. Ну дык пра што балакаць будзем? Агітаваць пачнеце? Толькі папярэджваю: раз вы з райкома, я вас не баюся. Свой. Слухаю. *(Сеў).* Можа, таксама прысядзеце?

К у д а с а ў. Не, не, дзякуй. Бегчы трэба з Кругліцы, а не рассядацца, таварыш Шаройка.

І г н а т. Ігнату няма куды бегчы. У Ігната адно месца на зямлі – вось яно. *(Тупнуў нагой).* Тут нарадзіўся, тут і вочы самгну. *(Устаў).*

К у д а с а ў. За вамі прыехаў. Спецыяльна. Нельга ж так халатна адносіцца да свайго здароўя.

І г н а т. Пра маё здароўе ўспомнілі... Ну дзякуй вам вялікі-правялікі. А радзіва чаму маўчала?

*Паўза.*

Тры дні чаму яно людзям праўду не гаварыла?

*Паўза.*

К у д а с а ў *(з цяжкасцю).* Так трэба.

І г н а т. Каму? Каму так трэба? Людзям? Дзецям? *(Наліў у шклянку, выпіў).* Для чаго на сцяне ў мяне яно вісіць, маць яго?! *(Шпурнуў дынамік на падлогу).*

К у д а с а ў. Навошта ж так? *(Прыладзіў дынамік на ранейшае месца).* Нельга ж так меркаваць пра ўсё і ўсяк... з пляча... сячы нельга...

І г н а т. Весяліць яно толькі нас павінна? Аднымі песнямі пацяшаць?

К у д а с а ў. Яно без вас ведае, што рабіць.

І г н а т. Памаўчыце цяпер, гаваруны! Я вам слова не даваў! Эх, людзі! Мы ж перамрэм... як мухі перадохнем, калі не навучымся праўду казаць адзін аднаму. Праўду! У вочы! Ад каго хаваем яе? Гэта ж наша праўда. *(Вытрымаў паўзу).* Спярша выбух... Потым зарава стаіць над лесам... Не сляпыя, бачым, што атамная гарыць. Але адкуль жа мне, Ігнату, знаць, што і мы разам а ёй гарым? Цьфу! Вы... вы гэта, можа, вып’еце? *(Кіўнуў на стол).*

К у д а с а ў. Не, не, дзякуй. На рабоце не п’ю.

І г н а т. Смачная. Чыстая...

К у д а с а ў. Бярыце партрэты, фотакарткі – і ў машыну.

І г н а т. А што гэта вы камандзірствуеце тут, у маёй хаце? Пусціў як чалавека...

К у д а с а ў. Вось што, таварыш Шаройка... Хопіць займацца дэмагогіяй. Вы хоць ведаеце, якая ў вашай хаце радыяцыя?

І г н а т. У маёй хаце ўсё маё.

К у д а с а ў. Вы што, зусім радыяцыі не баіцеся.

І г н а т. Не. Яе – не. Вас баюся, людзей.

*Паўза.*

К у д а с а ў. Складаны вы чалавек.

І г н а т. Ну, ўжо які нарадзіўся. Выбачайце.

К у д а с а ў. Пра другіх падумайце.

І г н а т *(змерыў Кудасава позіркам).* Пра другіх, кажаце? Калі не памыляюся, пра вас? Га? Эх, маць вашу! Калі б мы пра другіх думалі! А вы ў нас, у старых людзей спыталі, перш чым пачаць атамную будаваць?

К у д а с а ў. Пра што?

І г н а т. У Біблію заглядвалі?

К у д а с а ў. Навошта?

І г н а т. Каб жыць!

К у д а с а ў. Мы жывем па іншых законах.

І г н а т. А шкада... Слова гэта вам хоць пра што-небудзь гаворыць?

К у д а с а ў. Якое слова?

І г н а т. Чар-но-быль!

*Кудасаў здзіўлена глядзіць на Ігната.*

Чаму яно вас не насцярожыла, будаўнікі?

*Паўза.*

К у д а с а ў. Мая віна хіба, што бяда здарылася?

І г н а т. Ваша! Ваша! У аднолькавых шапках ходзіце.

К у д а с а ў. Іш ты! Грозны крытык вы, гляджу.

І г н а т. «Іш ты!» Героі! Вось і выпала яна, кветка палыну... А палын – чарнобыльнік... Што, не стасуецца? Думаць трба! *(Тыцнуў пальцам у лоб Кудасаву).*

К у д а с а ў. Што вы тут торкаеце? Што вы сабе дазваляеце?

І г н а т. Не крыўдуйце. Хто пад гарачую руку падвярнуўся, таго і чыхвошчу... Трэба. Трэба. Вунь парог. Размова закончана. А я нікуды не паеду... Пакуль... Толькі цікава вам ці не, для чаго я тут, не ведаю...

К у д а с а ў. Без вас не паеду.

І г н а т. Адзін паехаў. Памахаў кулакамі, паерапеніўся і дзьмухнуў.

К у д а с а ў. Мы не павінны пакідаць чалавека ў бядзе.

І г н а т. Чуў ужо. Чуў! Ды і ў якой жа я бядзе дома? Вунь яны, што з’ехалі, у бядзе. А я...

К у д а с а ў. Усё гэта сур’ёзна. Вельмі сур’ёзна.

І г н а т. Страшней, чым пры немцы было? Радзіва, чую, не кажа ўсёй праўды, дык вы хоць скажыце.

*Маўчанне. Па твары Кудасава Ігнат зразумеў: справы сур’ёзныя. Хоць ён, стары, і сам разумее ўсё.*

*(З іроніяй).* Не можа быць!

К у д а с а ў. Можа! Усё можа! Калі б добра было, вас ніхто не высяляў бы.

І г н а т. От жа якая штукенцыя! *(Хітравата ўсміхаецца).* Немец напаў, дык мы ўжо на наступны дзень... ды адразу ведалі, што рабіць нам належыць. Біць яго, гада! Сапатку мыліць! Калашмаціць! Радзіму-матухну ратаваць! А рацыя гэтая абрынулася – і, бачу, ніхто толкам не можа сказаць, што нам, народу, рабіць. Маці, нараджаючы дзіця, ведае, як з ім абыходзіцца. Не ведала б – не нараджала. А вы?

К у д а с а ў. Сілай браць вас ці як?

І г н а т. Кашы малавата з’елі, каб сілай...

К у д а с а ў. Колькі вы будзеце мне галаву дурыць?

І г н а т. Спяем, можа?

К у д а с а ў. Патанцуем!

І г н а т. І гэта можна. Эх, яблычка! Ды з боку зелене!... Не баюся аніякай, па праўдзе сказаць, рацыі...

К у д а с а ў. Вы пра гэта чэсна, шчыра?

І г н а т. Нам, чуйце, на фронце таблеткі ў кацялок з кашай падсыпалі спадцішка, каб да баб не хацелася... Ну і што? Яны, таблеткі тыя, ядры іх у корань, толькі праз трыццаць пяць гадоў пасля вайны пачалі дзейнічаць...

*Кудасаў смяецца.*

Праз трыццаць пяць! Га?

К у д а с а ў. А вы вясёлы чалавек.

І г н а т. Усё, кажу, Матруна, гібае наша дзела – вайна на Ігнатавым інструменце пачала сказвацца. Яна, зараза. Знайшла! У Круглiцы дагнала! Спі адна.

*Піпікае аўтамашына.*

К у д а с а ў. Нам больш тут заставацца нельга.

І г н а т. А я і не трымаю.

К у д а с а ў. Збірайцеся! Збірайцеся, таварыш Шаройка!

І г н а т. Адкажыце мне на адно пытанне. Зможаце?

К у д а с а ў. Давайце ваша пытанне. Толькі паспяшайцеся.

І г н а т. Колькі мне жыць засталося?

К у д а с а ў *(здзіўлена*). Колькі?

І г н а т. Так. Вы не аслухаліся.

К у д а с а ў. Ну а як я на гэта пытанне магу адказаць? Гэта не ў маёй кампетэнцыі… я не спецыяліст… Адно ведаю: калі пераедзеце ў чыстую зону, працягнеце больш.

І г н а т. Чапуха! Балбатня! Прымяніцельна да мяне, канешне. Мне засталося жыць зусім мала. А вы хітрыце, баіцеся мне праўду сказаць. Але я хачу, каб вы, маладзейшыя, жылі. Вы ! А ў мяне ж і ружжо, і грошай не прашу. Я прывык бясплатна рабіць.

К у д а с а ў. Прычым тут ружжо і грошы?

І г н а т. Грошы, я згодзен, ні пры чым. А вось ружжо – вялікае дзела. Шантрапы рознай развялося. Хіба ж міліцыя ўпільнуе? Там не ўсе сумленныя. За бутэльку можна купіць…

К у д а с а ў. Міліцыю? За бутэльку? Думайце, што гаворыце!

І г н а т. За дзве – дакладна.

К у д а с а ў. У вас на кожны выпадак альтэрнатыва. А яе няма, няма!

І г н а т. А хрэн яе ведае. Можа, і ёсць яна гэтая самая… Не бачыў. За хвост не трымаў. Гаварыць не буду. Ага! Але ж я тут усе хады-выхады ведаю. На машынах едуць, на матацыклетах. І рабуюць, рабуюць…. На маёй тэрыторыі, хваліцца не буду, поўны парадак. Ажур. Пайду я, вас жа ягадамі з рацыяй закормяць, мёдам, бульбай…

К у д а с а ў. І гэта ўсяго?

І г н а т. А што – мала?

К у д а с а ў. Не разумею вашай заклапочанасці. Ёсць райком…

І г н а т. Не ведаю, як вас, райкомаўцаў, а просты народ – закормяць, гэта дакладна. Пакуль усё на палях у нягоднасць не прыйдзе, пакуль сам не ўдаставеруся, што нічога не возьмуць у агульны кацёл – нікуды рухацца не буду. Дзятве запалкі даваць небяспечна… і сябе спаліць могуць… У нас жа як? Усё можна купіць. І даведку, што мяса чыстае. А вы мяне з хаты гоніце. Я ж пра вас думаю. Сумлення, на бяду нашу, багата ў каго няма. Вам – жыць. А мне… *(Махнуў рукой).* Без яе, заразы, і так скора… На чарзе ў першай шарэнзе. Але паслужыць пакуль магу.

К у д а с а ў. Ваш учынак, канешне, геройскі.

*Ігнат паапладыраваў.*

Але я даю вам слова: на ахову зоны звернем самую пільную ўвагу.

Ігнат *(гучна).* А я не веру! Не веру! Нехта нап'ецца, нехта засне цвярозы, нехта любоў круціць будзе, нехта яшчэ што!..

Кудасаў. З аднаго боку я вас разумею...

Ігнат. А вы з усіх бакоў разумейце.

Кудасаў. Але ж я... як бы вам сказаць... як бы лепш растлумачыць...

Ігнат. Гаварыце, зразумею.

Кудасаў. Я ж выканаўца. Мне сказалі... заданне, разумееце, я атрымаў...

Ігнат. Гаварыце, гаварыце!

Кудасаў. Разабрацца ў прычынах, якія вымусілі вас застацца...

Ігнат. Няўжо нічога не зразумелі?

Кудасаў. Ды зразумеў, зразумеў! Але ж ёсць выканаўчая дысцыпліна. Партыйная. Што я скажу... там, у райкоме? Хто ў канцы канцоў паверыць, што вы, таварыш Шаройка, ёсць? Мне ж скажуць, што я вас прыдумаў разам з ананімам!

Ігнат. Фотакартку прыхапіце. *(Працягнуў фотакартку).* Падобны, падобны.

Кудасаў *(не бярэ).* Ды кіньце вы!..

Ігнат. Ну, тады перадайце маю палітыку па інстанцыі, з кабінета ў кабінет. Няўжо не паверыць? Магу пісьменна надрапаць. Уласнай рукой прыкласці подпіс.

Кудасаў. Вам добра развважаць. А з мяне спытаюць. Скажуць, дзеда нейкага там не змог прывезці... У вас ружжо, я разумею. У мяне іншая зброя. А так атрымліваецца, што я і не расчахліў яе, зброю сваю.

Ігнат. Гэта праўда. Так атрымліваецца.

Кудасаў. Паверце, не я, дык іншы прыедзе. Усё роўна вывезуць вас. Сілай вывезуць!

Ігнат. Вось ужо гэтая сіла нашага Івана! А розум дзе? Калі кацялок варыць пачне?

*Кудасаў пастаяў, патаптаўся, махнуў рукой і выйшаў.*

*Зацямнене.*

*Ігнат круціць транзістар. На табурэце, звесіўшы галаву, сядзіць Гучок.*

І г н а т. Глуха! Нічарта! Некуды прапалі галасы... *(Працягвае і далей круціць транзістар. Гучку).* Два дні назад прыязджаў тут адзін... з райкома прадставіўся. Абяцаў сілай узяць мяне, ды нешта не відаць. Кашу, пэўна есць. Кудасаў па прозвішчы. Знаёмы табе?

*Гучок не адказвае.*

Ты ўвогуле чаго прыйшоў? Сеў і сядзіш, а мне галаву ламай, здагадкі рабі, што з табой здарылася. Не магу зразумець цябе, Пятровіч.

*Паўза.*

Пятровіч! Ты што, язык праглынуў?

*Маўчанне. Толькі ціхая музыка з транзістара.*

Во... во... толькі граюць, басурманы... толькі песні... Што ж вы там, хлопцы, у сталіцы? Зусім ахірэлі? Сумленне ў вас ёсць ці няма? *(Пацісуў плячыма, паставіў транзістар).* Э-ха-ха-ха! Толькі песні... Весела вам там... Спяваем і спяваем... Пятровіч! Гаварыць будзем? Ну і... *(Махнуў рукой, лупіць бульбу. Потым спахапіўся).* Што ж гэта я! *(Узяў патэфон, паставіў пласцінку. Гучыць вальс).* Прашу, пані! Прашу на танец, Пятровіч!

*Гучок не рэагуе.*

*(Сілком уцягвае Гучка ў танец).* Кот уцёк. І куды, цікава? Няма з кім і пагаварыць. Учора з яблыняй размаўляў... Ага... Абяцала, калі верыць ёй, яблыкамі засыпаць з ног да галавы. Не, кажу, не трэба, ужо засыпала, далей некуды... Пакрыўдзілася, відаць...

*Пакуль не дайграе пласцінка, танцуюць моўчкі. Ігнат правёў Гучка да табурэта, артыстычна адбіў паклон.*

Ты будзеш размаўляць ці не, паненка? Не – дык выходзь, знікні! Не мазоль вачэй! Няма чаго тут, разумееш, за яблыню быць. Ад яе хоць карысць... крышонка. Прыбытак. А можа, табе гапака ўрэзаць? Эх, мацць вашу! Усё жыццё прыйдзецца перад вамі скакаць ды прыплясываць. Пастараніся, вёска! Ігнат танцуе! Для Гучка! *(Танцуе, аднак Гучок не рэагуе).* Ранавата ты памёр. Не чакаў. Пажывеш, думаў, а ты – на табе!..

Г у ч о к *(ціха, гаротна)*. Вазьмі, Ігнат, да сябе.

І г н а т *(пачуўшы такое, папярхнуўся).* Куды?

Г у ч о к. У хату.

І г н а т. Навошта?

Г у ч о к. Жыць.

І г н а т. Пачакай! Як… вазьмі? Як… жыць?

Г у ч о к. Удвух будзем. Вазьмі. Я ў твае справы ўмешвацца не стану.

І г н а т. А… а блакада?

Г у ч о к. Ды што блакада!

І г н а т. Адмяняеш?

Г у ч о к. Позна адмяняць.

І г н а т. Пятлю, атрымліваецца, зрабіў сам для сябе?

Г у ч о к. Атрымліваецца – так. Ціха тут, у Круглíцы… Ад людзей хачу адасобіцца. Цішыні хачу.

І г н а т *(устаў, падышоў да Гучка).* Не, ты сур'ёзна?

Г у ч о к. Я ж не скамарох які-небудзь. *(Устаў).*

І г н а т *(прыклаў далонь да ілба Гучка).* Быццам няма тэмпературы. Цікава атрымліваецца. Прыязджаў мяне выдвараць, з гнязда выкурваць, а сам да мяне просішся?

Г у ч о к. Усё цячэ, усё змяняецца.

І г н а т. Гэта так. Гэта верна.

Г у ч о к. Што было паміж намі – забудзем.

І г н а т. Яно, канешне, дробязі… забыць можна. Грэх за табой водзіцца, але не такі ўжо каб дужа… Дараваць можна. Ну жыві. Месца хопіць.

Г у ч о к *(трасе руку Ігнату).* Дзякуй. Дзякуй, Ігнат. Я ведаў, што ты не адмовіш. З'езджу за рэчамі, тое-сёе прыхапіць трэба. І харчы прывязу.

І г н а т. Не, не! Не адымай ад стала ў людзей. У мяне ўсё ёсць.

Г у ч о к. У блакадзе?

І г н а т. Што мне, селяніну, твая блакада? І цябе пракармлю, вазьму на баланс.

Г у ч о к. Ну, дык я паехаў?

І г н а т. Глядзі сам… як табе лепш… А што здарылася?

Г у ч о к *(не адразу).* Пацапаўся.

І г н а т. З кім? Дзе?

Г у ч о к *(ухіляецца).* Ды так, дробязі…

І г н а т. Не, ты давай да канца гавары, друг мой. Ты толкам усё растлумач.

Г у ч о к. Не выбралі мяне на новым месцы старшынёй…

І г н а т. Во як! А каго ж яны ўпадабалі?

Г у ч о к. Схадзі ды спытай. Відаць, багата людзям дабра зрабіў. Адплацілі. Аддзячылі.

І г н а т. Бяды тае! Страшней, чым было, ужо не скора будзе. Рукі ж ёсць. Дыплом. Ды і малады, здаровы. Не прападзеш. Вілы вуручаць. Як многіх выратоўваюць.

Г у ч о к *(злосна).* Вілы?! Рукі?! Так, ёсць! Гэта ўсё ёсць! Але і асабістая годнасць – таксама! Я ішачыў! А хто ацаніў? Хто?

І г н а т. Складаная справа. Бог так пабудаваў гэты свет, так закруціў, што ніхто сябе ў ім дурнем не лічыць. Я разумею… І ты жывеш у гэтым свеце… пад Богам.

Г у ч о к. Я, можа, і ўзяў бы вілы… А Нюрка, мярзотніца, як толькі без партфеля застаўся – такую істэрыку закаціла! Куды там! Думаў, двух слоў звязаць не можа, а яна – як з кулямёта… Ты б паслухаў.

Г у ч о к. Ды ладна ўжо, што ж цяпер…

І г н а т. Не, не ладна. Чалавек дыхне, быццам бы і дробязь, аднак не, хвалька горнецца, горнецца і недзе ў штосьці ўтыркнецца. Канец усяму бывае. І Нюрка табе праўду ўрэзала. Яна табе сказала…

Г у ч о к. Ды пайшлі вы ўсе! *(Накіраваўся да дзвярэй, але Ігнат перакрыў яму ход).*

І г н а т. Стой! Стой, хлопец! Не ўцякаць! Гэта куды лягчэй ад праўды ўцячы, калі за душой апраўдання няма. Дык вось, яна табе, Нюрка, сказала, што ты, Гучок, дурань вялікі, думаў, партфель у цябе на ўсё жыццё, ён шчыт і меч, і таму не глядзеў наперад. Вось так! Зараз людзям вунь за хаты добрыя грошы выплацілі, а ў цябе і хаты не было. Ты не

пабудаваў, не звіў гнязда, хоць і пражыў  багата. Думаў і далей крочыць па жыцці налегцы, з партфелем пад пахай, нос уверх задраўшы.

Г у ч о к *(прадзіраецца да дзвярэй).* Пусці мяне-е!

І г н а т. Паспееццa. Селяніну за скацінку заплацілі, худа-бедна, а грошы… А ў цябе і хлеўчука не было. Хата – дача, і тая чужая. Вось як яно бывае ў жыцці, Пятровіч. Ты прабач. Ты даруй… А калі сваёй хаты няма, сваёй жыўнасці – гэта не жыхар у вёсцы, гэта госць… госць і едзе налегцы. З чамаданчыкам. Мае рацыю Нюрка. Мае. Сам вінаваты.

Г у ч о к. Хто вінаваты, хто не – жыццё рассудзіць. Гэта мы яшчэ паглядзім. *(Рашуча выходзіць).*

І г н а т. Куды хочаш глядзі, Пятровіч, адно і тое ж убачыш. *(Збірае на стол).* «Ігнат, вазьмі да сябе». Людзям не патрэбны, а Ігнату – што, патрэбны? Няма чаго да мяне прымазвацца. *(Кліча Грышку).* Спускайся, анёл!

*Грышка спрытна апынуўся на падлозе.*

Г р ы ш к а *(бадзёра).* Вось і я!

І г н а т. Ды бачу. Ну-ка, прайдзіся, паглядзець на цябе хачу.

Г р ы ш к а. Калі ласка! *(Энергічна, старанна чаканіць страявым крокам).* Р… раз-два! Р… раз-два! Аць! Аць! Аць!

І г н а т. Досыць. Годны к страявой. Еш і топай. Назусім. Курс лячэння закончаны.

Г р ы ш к а *(падміргнуўшы).* Слухаюся, старшына! *(Садзіцца за стол, паціраe далонямі, разглядваючы стравы).* У-у, сіла!

І г н а т.  З выпадку твайго выздараўлення святочны стол.

Г р ы ш к а. Бачу, бачу. Смачна-а! У-у! А гэта што? Паспрабуем. Дзе ўзяў, Ігнат?

І г н а т. Еш і не пытай, а то не дам.

Г р ы ш к а. Не! Ем і не пытаю.

*Пакуль Грышка есць, Ігнат мые посуд.*

О-о-о! *(Запіў малаком, паляпаў па жываце).* Жывем! Поўны я, Ігнат! Поўны! Як калабок! «Я ад бабы пайшоў, я ад дзеда пайшоў…» За ўсе дні, што на гарышчы правёў,-- душу адвёў. Бачыш, вершамі шпару – як Лынькоў… Не, Лынькоў, здаецца, пра паравоз з Міколкам пісаў… Як паэт

шпару! *(Устаў, энергічна робіць размінку).* Р… раз-два! Р… раз-два! Ну! Ну, Ігнат, дзякуй табе. Зноў Грышка чалавек.

І г н а т. Ці надоўга?

Г р ы ш к а. Не, к д’яблу! Больш і ў рот не вазьму горкай. Р… раз-два! Р… раз-два! Што перадаць там, на вялікай зямлі, народу? Р… раз-два! Буду выходзіць з блакады.

І г н а т. Жывы, здаровы… гэта і перадай.

Г р ы ш к а. Будзе зроблена. Пайшоў я! «Эх, дарогі, пыл ды туман… халады… трывогі…» Ой, як успомню сваю бабу – жыць не хочацца, хоць у вір галавой. Кухталёў надае. Надае-е. Яна такая. Як пойдзе ў лабавую атаку – чу-чу-чу-чу! *(Баксіруе).* Прапаў. Фінгал забяспечаны. Пад правым вокам. У адну кропку б’е. Фу!

І г н а т. Што зарабіў, тое і атрымаеш.

Г р ы ш к а. Гатоў. Гатоў да ўсяго. Прыму любое пакаранне, вынесенае па прыгаворы сямейнага судаі асабіста Мар’яй. Буду мыць посуд, бялізну, касіць, сеяць. Я ж, Ігнат, шукаў яе, Мар’ю. Усе дні шукаў. Верыш? Верыш, дзед?

І г н а т. У мяне хіба што на гарышчы шукаў?

Г р ы ш к а. Не! Да яго!

І г н а т. Эх, галадранец! І бяда такіх, як ты, не бярэ.

Г р ы ш к а. Хацеў нават аб’яву ў раённую газету даць, але рэдактар упёрся. «Як гэта: шукаю жонку?» Смехаты, маўляў, будзе на ўвесь раён. А потым упрасіў. Добра, кажа, плаці грошы… зразумеў што-небудзь? Плаці. А ў мяне ў кішэнях ад махоркі смецце адно. Вывернуў… сунуў яму пад нос. Чым плаціць?

І г н а т. Ты бабу шукаеш, баба цябе.

Г р ы ш к а *(здзіўлена).* Што, і яна мяне? Не можа быць. Мне здаецца, што яна ўмысна дзёру дала. Надакучыў я ёй, відаць, як горкая рэдзька. Вось пад гэты шумок і ўлізнула. Га?

І г н а т. Харошых мужыкоў бабы не кідаюць.

Г р ы ш к а *(харахорыцца).* Ды я яшчэ! Ды я!.. *(Матлянуў у паветры кулаком).* Зразумеў?

І г н а т. Дзе гэта цябе нячыстая насіла? Зараз, гляджу, у форме, пабалакаць з табой можна.

Г р ы ш к а. А дзе насіла? Быў... і там... і тут. Ды і ты на месцы не сядзіш. Хутка зусім драпаць будзеш.

І г н а т. Шалапут ты, Грышка. Хочаш крыўдуй, хочаш не.

Г р ы ш к а. Навошта ж. Грышка на цябе не ў крыўдзе. Прывёў у нармальны стан. Дзякуй. Ну а што з хаты не выходзіш, дык гэта твая асабістая справа. Ігнат, ну што ты глядзіш на мяне, як на ворага народа? Я што ўтварыў супраць яго? *(Крыху счакаўшы).* Пакуль мы адвярнуліся за вугал, падалей ад баб, пакуль ляснулі на траіх... для пачатку, прыбеглі, а нашых і след прастыў. Толькі даведаюся, дзе яны, прыеду, а іх – цю-цю, далей пагналі. Па этапе.

І г н а т. «Цю-цю».

Г р ы ш к а. Правільна! Ага! Цю-цю. Знайду па новым адрасе – позна: пакацілі далей. Дык я што – ганчак?

І г н а т. І давай, значыць, далей піць?

Г р ы ш к а. Прымалі. Было. Але! Але прашу ўлічыць абставіны – радыяцыю выганялі.

І г н а т. Парсюк знойдзе дзе пакупацца.

Г р ы ш к а. Крыўдзіш, Ігнат. Крыўдзіш.

І г н а т. Ну, мужыкі! Што ж вы так захірэлі! Бабы ў адзін бок, вы – у іншы.

Г р ы ш к а. А сам, дзед, а сам? Увогуле вызначыўся – увесь раён на ногі падняў. Там ужо, відаць, «Голас Амерыкі» пра цябе трызвоніць. Не чуў?

І г н а т. Цыц! Цыц, кажу! Падпоркі вам трэба, як яблыням. Дык яны хоць плады трымаюць на сваіх суках. А вы? Пустацветы! Жонка з дзецьмі паспела ўжо і хату атрымаць на новым месцы...

Г р ы ш к а (*крычыць).* З наваселлем, Мар'я! З наваселлем!

І г н а т. Цьфу, дурань.

Г р ы ш к а. Ну ў вінт трапіў, у вінт!

І г н а т. Людзям дзякуй скажы, вінт. Дзяржаве. А калі б вам самім давялося хаты будаваць на новым месцы? Табе, Івану, Сцяпану... Вось тады б, ядры ў корань, вас зусім бы ў кучу не сабраў, разбрыліся б па свеце, як цыгане.

Г р ы ш к а. Цыганоў прыжучылі.

І г н а т. Што вось ты, Грышка, можаш рабіць, акрамя як на трактары сядзець?

*Паўза.*

Г р ы ш к а. А што? І магу! Магу-у!

І г н а т. Дровы сякерай цюкаць?

Г р ы ш к а. Гэта мы заўсёды!

І г н а т. А яшчэ?

Г р ы ш к а *(задумаўся).* Што гэта я магу яшчэ? Адразу і не ўспомніш. Ды магу, магу, Ігнат.

І г н а т. Забыўся?

Г р ы ш к а. Ну. Часова. Правал...

І г н а т. А нічарта вы не можаце! Некалі было з-за гэтага «на траіх» вучыцца... Вунь хаты пабудавалі для перасяленцаў хутка, а печ скласці няма каму.

Г р ы ш к а. А табе адкуль ведаць? Ты ж у блакадзе сядзіш.

І г н а т. Біць вас трэба, мужыкі. Біць. І як гэта мы, старыя людзі, прагледзелі вас, упусцілі. Э-хе-хе...

Г р ы ш к а. Ну, дык я пайду?

І г н а т. Ступай.

Г р ы ш к а *(пастаяў, не зводзячы позірку з Ігната, потым кінуўся да яго, абняў).* Ну, дзед... мацуйся тут... жыві... За дабро дабром плаціць трэба... Знаю... Адплачу... *(Накіраваўся да дзвярэй).* Я цябе не пакіну аднаго ў бядзе... Яны цябе голадам не заморать... Знай, што і Грышка недзе ёсць...

І г н а т. Ідзі, ідзі, Грышка. Цябе чакаюць...

Г р ы ш к а. Не, выкажуся! Яны ў кароткіх штанцах яшчэ ходзяць, каб узяць цябе, дзед. Вот! Чакай харчы з вялікай зямлі... Загінуць не дам... Дарога жыцця... Ладага... Ага! К табе не зарасце народная сцежка! Вер! Беражы сябе, Ігнат. Ад такіх, як капітан... Лапун. Не пападзіся яму.

І г н а т. Ступай, ступай. Сам не пападзіся. За мяне не хвалюйся.

Г р ы ш к а. Я з табой! З табой мы! Уся Кругліца! Знай! *(Праслязіўся, выходзіць).*

І г н а т. Пра мяне не думай, Грышка. Як-небудзь... Выстаім. *(Падышоў да печы, выняў бохан хлеба, падкідвае на далонях: гарачы).* Вось і хлебчык гатовы. Не нарадзіўся яшчэ той палкаводзец, які б мяне блакіраваў. *(Паклаў бохан на стол, потым да яго яшчэ некалькі, прыхінуў ручніком, папярэдне змачыўшы верх боханаў вадой. Затрымаў позірк на гадзінніку).*

*Умоўны стук.*

Во! Вольга... лёгкая на ўспамін. *(Адчыняе дзверы, заходзіць Вольга).*

В о л ь г а. Ну, паклон табе, Ігнат.

І г н а т. Праходзь. Добры, добры дзень. Садзіся. Адпачні з дарогі.

В о л ь г а. Сяду, сяду, Ігнат. Не тыя гады... *(Села).*

І г н а т. Макар чым заняты?

В о л ь г а. А чым ён заняты? Сёння яго чарга карову пасвіць. Добра ў лесе, ды толькі карову пасвіць часта прыходзіцца. Можна было б навязаць, але Макар мядзведзя бачыў...

І г н а т. Няўжо? Быць не можа.

В о л ь г а. Так, так, Ігнат. І раве, раве, раве...

І г н а т. На мёд пацягнула. Чуе, абібок, дзе пажывіцца можна. Вунь вулляў колькі засталося. Няўжо ў другіх краёў да нас прыцёгся? А можа, Макару памроілася?

В о л ь г а. Бажыцца, што бачыў. Яшчэ, чаго добрага, шалаш наш разверне...

І г н а т. Гэта ён можа. Сілён.

В о л ь г а. Ой, горачка!

І г н а т. Дарэмна вы ўсё гэта задумалі, Вольга. Да людзей падаваліся б. Навошта хаваецеся па лясах ды балотах?

В о л ь г а. Да чужых людзей не пойдзем. Гасцямі не будзем. Шалаш добранькі зрабілі.

І г н а т. А пенсію як атрымліваеце?

В о л ь г а. Так, як і ты. І жывем, не памерлі.

І г н а т. Ну глядзіце. Ваша справа. Не мне вучыць. Толькі, Вольга, на мяне больш не разлічвайце: закрываю пякарню.

В о л ь г а *(здзіўлена)* Чаму так?

І г н а т. На мясцовыя ўлады не спадзяюся. У Гомель паеду. А мо і ў Мінск. Вярнуся сюды ці не – сказаць не магу… усё можа здарыцца… Але біць у звон трэба неяк… Трэба біць у звон… Ці пачуюць адсюль? Не, відаць… Далекавата я… Так што хлеб забірай увесь. Вам надоўга хопіць. Макару прывітанне перадавай. А лепш скажы, каб не дурніўся, а да людзей прыбіваўся.

В о л ь г а. Няўжо, Ігнат, думаеш, што не цераблю я свайго Макара? Цераблю. Кожны дзень. А ён сваё заладзіў: ідзі, калі табе так хочацца, а мне і ў лесе добра. А куды я пайду адна? Ой, ірад! І зіма ж будзе… Хіба ў шалашы вытрымаем? Мне б хоць яшчэ адну бабу ў тым лесе, душу адвесці. Пагаварыць няма з кім. Ад жыцця адстала. Усё роўна як на дыеце сяджу. Адна манная каша. А Макар, ты ж ведаеш, які гаварун…

І г н а т *(збірае рэчы).* Круглiцу хаваць рана. К высокаму начальству паеду. На мясцовае – не, не спадзяюся.

В о л ь г а. Я ж, Ігнатка, яму гаварыла, Макару: што нам у лесе рабіць? Падумай. Пайшлі ўжо хоць назад у Круглiцу, да Ігната. Дурань дурнем, а сцяміў: нас тут хутка адловяць, сцапаюць тут. Бачыш, як ён? Я да яго і так, і гэтак – ні ў якую. Разводам нават прыпужнула. Бяры, кажа , і развод. Усю маёмасць нават падзяліў: табе, кажа, хата, хлеў, агарод, шкап, сундук, а мне, кажа,-- жыўнасць. Хітрун! Што за дротам – тваё, а што ў лесе – маё. Ды гэтых хат цяпер вунь колькі! А карысці? Стаяць—як труны… Ой, горачка! Пайшлі, пайшлі, Ігнат, пагаворым… Табе ж па дарозе…

І г н а т. Ці паслухаецца толькі?

В о л ь г а. Цябе павінен. Ты аўтарытэтны. Не магу я ў лесе больш. Не магу! Стамілася. Азвярэе, зусім адзічае, адчуваю, і Макар. Бачыш, яму мядзведзь прысніўся… Пакрыкваць на мяне пачынае. Калі раней было такое? А на каго ж яму больш у лесе крычаць? На мяне ды на карову. Дзве бабы. Раней усё да людзей чапляўся, адносіны высвятляў. Дзе мой хлеб? *(Запіхвае боханы ў мяшок).* Я гатова!

І г н а т. Пачакай мяне, Вольга, на дварэ. Я хутка…

В о л ь г а. Добра. Я на дварэ пабуду. *(Выходзіць).*

І г н а т *(узяў у скрыні дакументы, распіхаў па кішэнях. Зняў са сцяны партрэты Матруны і сына ў афіцэрскай форме, прыцiснуў да сябе).* Вось, Матруна… Вось, Сцёпка… хату пакідаю… Вярнуся сюды ці не – сказаць не магу… Бяда ў нас… Атамная ўзарвалася… Ты, Сцёпа, пра аварыю не ведаеш… ты ўжо замгнуў назусім вочы… на чужое сонца не захацеў

глядзець… калі бяда здарылася… І ты, Матруна, не ведаеш… Нюхам чуў Ігнат, што напартачыць яна людзям… Я ж і ў рэйку ляпаў на саўгасным двары, з усяго размаху ляпаў… Матруна, ты помніш… А дырэктар падбягаве, за руку мяне тузель: «Ты што гэта, Ігнат, розум страціў? Дзе пажар? Няма пажару!» Будзе, кажу, калі атамная будуецца марудна, а хаты, хлявы, скляпы, гаражы з таго матэрыялу, што для яе назначаецца, для атамнай, растуць хутка… Таму што пра заўтрашні дзень не думаем… Вось ён і вырваўся, відаць, атам, раз цэмент слабы быў… Даруйце мне, Матруна і Сцёпа, можа, не тое кажу… але ж хіба прывыкаць нам сячы сук, на якім сядзім? Прывыклі падаць. І шышкі нічаму добраму не вучаць. Пакідаю я хату. Не судзіце мяне, Ігната… не па сваёй волі пакідаю… Вымушана… Паміраць, відаць, буду на чужыне, як ты, Сцёпа. *(Крадком змахнуў слязу).* Даруйце мне… Курэй пакідаю… Парсючка… кароўку… Тузіка… Іх нельга з сабой… Іх потым парашаць… Ды і куды я забраў бы іх, калі не ведаю сам, куды іду… Усяго шкада, вы б толькі ведалі… Вельмі шкада… Было гняздо і няма гнязда. Ну, бывай, хата… Не крыўдуй на мяне, родненькая… Колькі мог -- пратрымаўся… Не абняслаў… Бывай… *(Цалуе стол, на якім еў. Цалуе печ, якая карміла і сагравала. Цалуе дзверы, што гасцей помняць).*

*Гул аўтамашыны.*

*( Насцярожыўся).*

*Убягае Вольга.*

В о л ь г а *(усхвалявана).* Едуць! Прама да цябе, Ігнат, едуць!

І г н а т. Значыць, не лёс… Значыць, няма мне куды ісці. Тут трэба біць у звон… Тут… Далёка могуць убачыць…

В о л ь г а *(мітуслівa).* Што ж рабіць, га? Што ж рабіць, Ігнат?

І г н а т. Вось што, Вольга. Давай за мной. Давай, давай! А дзверы я зычыняць не буду. Усё роўна ўзламаюць. Замкі для чэсных людзей.

*Знікаюць у люку, які вядзе на гарышча. Заходзіць Лапун.*

Л а п у н *(нахабна).* Ну, стары, дзе ты? Чуў, што і райкому ты не падпарадкаваўся. Лапун усё ведае. Вось і сустрэліся. А што я табе гаварыў? Э, ёсць ты ці не? Блакаднік! *(Зазірнуў ва ўсе куткі, звярнуў увагу на гарлач з малаком, зрабіў замер, выпіў).* Так! У гэтага дзеда павінна штосьці быць…. Так проста не сядзеў бы. Цікава, а дзе ж ён сам? *(Прафесійна правёў рукой пад падушкай, узяў яе, памацаў, потым памацаў матрас, дастаў з-за бажніцы скрутак, знайшоў аблігацыі, зарагатаў ад шчасця, засунуў знаходку ў кішэню. Прастуквае печ. І ўсюды, дзе праходзіць ён,*

*застаюцца сляды: усё ляціць, топчацца. Узняў маснічыну, дастаў з кішэні ліхтарык, спусціўся).*

*І ў гэты час Ігнат, а  за ім Вольга, з'яўляюцца ў хаце і асцярожна, але хутка заастаўляюць тое месца, дзе знік Лапун, усім, што трапляецца пад рукі. Ідуць у ход ложак, стол, сундук.*

Г о л а с  Л а п у н а. Ты, дзярмо старое!.. А ну спыніся! Спыніся, я сказаў! *(Грукае, упіраецца, відаць, усім целам у барыкаду – дарэмна, тая толькі злёгку паддаецца).* Я каму сказаў? Табе што, жыць надакучыла? Ды я перагрызу тваю падлогу, сука! Не адтуль выходзіў!

І г н а т *(знайшоў запалкі).* Я пайшоў падпальваць…

В о л ь г а *(спалохана-разгублена).* Каго? Што, Ігнат, падпальваць? Нельга, Ігнат. Судзіць будуць.

І г н а т. Няхай судзяць.

В о л ь г а. Што ты! Што ты! Перахрысціся!

Г о л а с  Л а п у н а. Адкрый! Адкрый, сказаў! Хочаш, я праз гадзіну выйду? Ты паспееш схавацца.

І г н а т. Ад каго? Ад каго мне хавацца?

В о л ь г а. З дымам рацыя разляціцца, Ігнат. Нельга-а!

І г н а т. Іншага выйсця няма. Няхай даруюць мне. Ды і ціха, бязветрана… Павінны заўважыць… Абавязаны… Выходзь, Вольга…

В о л ь г а. Ты што, Ігнат? Ты што задумаў?

І г н а т *(строга).* Ну-у!

*Вольга адступае  да дзвярэй.*

На пажар яны павінны зляцецца. Павінны…

*Выходзяць. Лапун ляпае.*

Г о л а с  Л а п у н а. Папярэджваю! Я зямлю есці буду, але вылезу і цябе ў расход пушчу! Ты чуеш мяне? Табе, табе гаворыць, дзядуля! Апошні раз папярэджваю: хочаш жыць – выпускай!

*Пакой асвятляецца яркім полымем, языкі яго скачуць па сценах, печы. Вяртаецца Ігнат, стомлена выцірае рукавом твар, стаіць у парозе.*

Ты… ты… сука! Эсэсавец! Людзі-і-і! *(Грукае ў маснічыну).*

*З'яўляецца Вольга, учапілася ў Ігната.*

В о л ь г а. Ігнат! Ігнат, выходзь з хаты! Гарыць усё! Ігнат-а-ат!

І г н а т *(вызваліўшыся ад Вольгі, падыходзіць да барыкады, раскідвае яе).* Жыві, гад! Жыві! Жывіце-е! Усе жывіце-е!

*Лапун, выбраўшыся з падполля, разгублена глядзіць на Ігната.*

Л а п у н. Дзед... выходзь... выходзь... дзед... Згарым! Баба! А ты чаго вочы вылупіла? Цягні яго! Цягні-і!

І г н а т. Пашкадаваў? Не трэба. Мяне шкадаваць не трэба. Выходзь сам, падонак. *(Узяў ружжо).* А то, маць вашу!..

*Лапун выбягае.*

В о л ь г а *(цягне Ігната).* Ой, божачкі! Ігнат, пайшлі... Ой, праведны! Пайшлі, родненькі!.. Міленькі!..

І г н а т. І ты выходзь. Цябе таксама датычыць, Вольга. Вам жыць трэба! Вам! Скажы Макару, каб да людзей падаваўся. Перадай яму маю просьбу... Апошнюю... Выходзь, Вольга... Выходзь... Выходзь... *(Выштурхоўвае Вольгу за дзверы).*

*А полымя скача па сценах, гудзе пажар за вокнамі. Вые сабака. Ігнат стаіць у парозе, потым робіць некалькі крокаў на сярэдзіну хаты, і ягоны твар зліваецца з яркім полымем. І толькі голас Вольгі: «Ігнатка-а-а-а-а-а!»*

Заслона

# F L A S H

*П’еса ў дзвюх дзеях*

Д з е й н ы я   а с о б ы:

Мэр.

Скрыпка.

Мятла.

Невядомы.

Электрык.

Хлебарэз.

Рэшата.

Зялёны Змій.

Следчы.

Першы,

Другі (эпізод).

*Нашы дні.*

*Месца дзеяння – прывакзальны скверык і майстэрня скульптара.*

**Д з е я п е р ш а я**

1.

*Прывакзальны скверык. Не зусім разборлівы голас дыктара... Але зразумець можна, што цягнік адпраўляецца на Маскву... На лаве, скурчыўшыся, ляжыць Мэр. Побач, каля ягоных ног, сядзіць Скрыпка. Хаця і цемнавата вакол, асвятленне на гэтую частку скверыка трапляе мала, знешні выгляд жанчыны нармальнага чалавека прыводзіць у жах. Побач – бак для смецця, з яго заўсёды тырчыць нечы зад... Як вось і на гэты раз. У смецці корпаецца Хлебарэз. Моўчкі знікае.*

С к р ы п к а *(узнялася).* Прачынайцеся, Мэр. Мяркуючы па тым, што пайшоў толькі што поезд на Маскву, ужо парадкам... Хутка ў вас прыём... Па асабістых пытаннях...

М э р *(марудна ўстае, пацягваецца; знешні выгляд у яго не намнога лепшы, чым у Скрыпкі).* Колькі чалавек запісалася?

С к р ы п к а. Скажу. *(Намацала ў кішэні паперку, падышла бліжэй да ліхтара).* Трое. Усе нашы, падобна на тое. Свае.

М э р. Хто?

С к р ы п к а. Скажу. Значыць, першай пойдзе Мятла... Яна апошні час двор падмятала... За ёй будзе Скульптар... Вядомы чалавек, з медалём, а так апусціўся!.. Калі майстэрню ў яго забралі, ён да нас перавандраваў у падвал Дома культуры... Ён вас ведае...

М э р. Яшчэ б! Хто мяне не ведае!..

С к р ы п к а. Праўда, ён з раніцы быў харош... Можа затрымацца... па ўважлівай прычыне...

М э р. А трэці хто?

С к р ы п к а. Скажу. Як без трэцяга? Чацвёртага можа не быць, а трэці павінен быць!.. Абавязкова!.. Як штык!...Трэці – абавязкова!..

*Паўза.*

Не, не скажу: прозвішча напісана неразборліва. Значыць, не наш. Так атрымліваецца... Свайго б я правільна аформіла ў любым стане.

М э р. Зрабіце ласку, жанчына: калі п’яная, не бярыце ў рукі ручку.

С к р ы п к а. Карандаш. Аловак, Мэр. Хімічны. На ручку не хапіла... Я ім заадно і бровы падводжу. А, можа, гэта зусім і не я запісвала? Тут маюцца пытанні!..

М э р. Не давярайце! Нікому не давярайце!

С к р ы п к а. Я ж і гавару: а, можа, гэта зусім і не я запісвала?

М э р. Захоўвайце заўсёды дакументы там, дзе захоўваеце і грошы...

С к р ы п к а *(засунула паперу у бюстгалтар).* Дзякуй. За падказку. Хаця і тут лапаюць, бывае!.. Кожны імкнецца мой сейф патрэсці. А больш надзейнага месца ў мяне і няма, Мэр.

*З’яўляецца Электрык з лесвіцай-драбінай.*

Э л е к т р ы к. Ды будзе свет, сказаў манцёр, і сам палез за запалкай! Добры дзень, таварыш Мэр! Прывітанне, Скрыпачка!.. *(Ушчыкнуў Скрыпку).*

С к р ы п к а *(ёй гэта спадабалася).*Ой!.. Прама адразу!..

Э л е к т р ы к. А потым мне ў іншых месцах лямпачкі паўкручваць трэба! Таму і прама адразу! Каб усюды паспець!

М э р. Надта яркую не трэба... на вочы дзейнічае... Злітуйся, харошы чалавек!..

Э л е к т р ы к. А гэта якая ёсць! А то яшчэ ў цемры не знойдзеце Скрыпачку!..

С к р ы п к а *(какетліва).* Прама ж... не знойдзе! Ён яшчэ ого як знойдзе!.. Асабліва пад раніцу, калі халадае: так і стараецца прыгарнуцца да Скрыпачкі, халера ясная, душа непагасная!..

Э л е к т р ы к. Ну, вам лепш знаць!.. *(Зрабіў свае справы, і знік; асвятленне палепшылася).*

*Хлебарэз прынёс стол.*

Х л е б а р э з. Потым вернеце. Гэта наш святочны. У адным экзэмпляры.

С к р ы п к а. Пераб'ецеся! Бач, дыктуюць!.. А не разам мы гэты стол тырылі ў аб’яднанні «Цукаргандаль», што на Магілёўскай?

Х л е б а р э з. Не хлусі: Мэра не было.

С к р ы п к а. Я за яго. Я. Між іншым, тады ў яго быў казённы стол... І калі прыём ён будзе весці толькі ўначы...

М э р (*удакладняе).*Толькі ўначы.

С к р ы п к а. Вось, бачыш… Толькі ноччу. Ён начны мэр. То пад раніцу, я потым скажу калі, забярэш… І раз у тыдзень… *(Мэру).* Раз у тыдзень?

М э р. З дванаццаці да трох… Па серадах.

С к р ы п к а. Запомніў?

Х л е б а р э з. Было б што!..

С к р ы п к а. Так што нічога з вашым сталом не зробіцца… а праветрыцца і яму трэба.

*Хлебарэз знікае.*

*(Успомніўшы).* Бамжацік! А-у!.. А графін? А графін забыў жа! Як гэта – прыём і без графіна! А раптам каму дрэнна стане, мутарна, чым пырснеш на чалавека? Ды і для аўтарытэту графін належыць!.. Не забудзь!..

Г о л а с Х л е б а р э з а. Будзе! Маецца графін!..

С к р ы п к а. Шклянка ў мяне ёсць. *(Дастала з сумкі папяровую шкляначку, усю пакамечаную, таму доўга ніяк не можа яе паставіць на стале*). Правераная… І сто разоў, калі не болей, прадэзенфіцыраваная… Оп-па, стаяць!… Стаяць!.. Хоць нешта ў нас стаіць!… А? Глянь, Мэр! Падзівіся! Стаіць!.. *(Заходзіцца ад смеху).*

*Хлебарэз прынёс графін, моўчкі паставіў і знік. Мэр, адчуваецца па ўсяму, хвалюецца: ходзіць узад-уперад, нярвова папраўляе пінжак, валасы на галаве...*

С к р ы п к а. Выбачайце, прычасаць не магу. Нечым.

М э р. Што… што вы сказалі?

С к р ы п к а. Пара б і на «ты».

М э р. На «ты» да прыёму і пасля…

С к р. ы п к а. Да прыёму… чаго?

М э р. А ў час прыёму па асабістых пытаннях… як і належыць!.. Чын-чынам!… Так-так!..

С к р ы п к а. А-а, зразумела!.. Перш-наперш – служба… А з мяне і досыць. На многае не замахваюся… А там як атрымаецца, так і атрымаецца!.. Калі выкну, калі тыкну, – бяды тае!.. Ды вы не хвалюйцеся,

Мэр! Няўжо і тады так хваляваліся перад прыёмам, калі былі сапраўдным мэрам нашага горада?

М э р. Што? Што вы сказалі?..

С к р ы п к а. Топчацеся тут, як мядзведзь перад адпраўкай патрэбы… па вялікаму…

М э р. Вось іменна! А я-та думаю, у чым справа!.. *(Знікае).*

*З'яўляецца Невядомы, чалавек неакрэсленага веку. На ім старэнькае, але чыстае, адзенне. Вылучаецца шырокі аранжавы гальштук.*

Н е в я д о м ы *(з паклонам, услужліва).* Маё шанаванне, спадарыня!..

С к р ы п к а. Ты да мяне, служывы?

Н е в я д о м ы. Да Мэра.

С к р ы п к а. Ён заняты.

Н е в я д о м ы. Нічога, пачакаем. *(Лёг на лаўку).*

С к р ы п к а. Не зразумела. *(Валтузіць Невядомага).* Э-э-э, друг! А ты па якому пытанню?

Н е в я д о м ы. Па асабістаму.

С к р ы п к а. Прыём будзе весціся толькі строга па запісу. Бачылі яго, уладкаваўся!.. Вёрткі!.. Пад'ём!..

Н е в я д о м ы *(сеў).* А я і запісваўся! Абавязкова! Я чалавек пунктуальны… Дас-с!..

С к р ы п к а *(змерыла Невядомага прыдзірлівым позіркам).* Пунктуальны! Гляньце вы на яго!.. Адшукаўся!… Як, выбачай, прозвішча? *(Дастала з-пад бюстгалтара спіс).*

Н е в я д о м ы. Невядомы.

С к р ы п к а. Нешта я тут не бачу такога…

Н е в я д о м ы. Як жа! Вы і запісвалі!..

С к р ы п к а. Я? Не можа быць! У мяне почырк разборлівы…

Н е в я д о м ы. Але ўчора быў не вельмі… Я нават часам вадзіў вашай рукой… рэгуляваў рух карандаша па паперы. Хімічны карандаш быў. На ім павінны былі застацца адпячаткі майго языка… сліны. Не хлушу. Так, так!..

С к р ы п к а. Ах, дык гэты трэці – ты?

Н е в я д о м ы. Я. Я заўсёды быў трэцім.… Усё свядомае жыццё…Так, так, сапраўды я! Першым – ніколі… Не паспяваў… Нават у любае жонкі, і тое трэці… Адкуль яны толькі і браліся, тыя першыя і другія?.. Я.Так, так!..

С к р ы п к а. А чаму я цябе тады не ведаю?

Н е в я д о м ы. Я вам, мабыць, не трапляўся на вочы? Цвярозай… Усім трапляўся, а вам, прыгажуня, не… *(Устаў).*

С к р ы п к а. А прапіска маецца?

Н е в я д о м ы. Не, я часова выпісаны. Пакуль не прапісаны. Стаю перад святлафорам, не ведаю, на якое святло мне зрабіць крок… На зялёнае ці чырвонае? А, можа, так і стаяць? Выпісаным і не прапісаным? Гэта бялок ад жаўтка лёгка аддзяліць…

С к р ы п к а. Ну, вось яшчэ гэтага нам не хапала!.. Які ж мэр цябе без прапіскі прыме? Ты чужы, не наш.

Н е в я д о м ы. Уначы, думаю, не заўважыць… Цёмна… І прыме. А ходзяць чуткі, што яе, прапіску, і зусім скасуюць? У вас не ходзяць?

С к р ы п к а. Мы ў сябе ў выканкаме чутак не каментыруем. Шпацыруй далей, дзядзька! Чым бы цябе выкрэсліць? Быў дзесьці карандаш, быў… сволач!.. Не палохайся, не ты сволач. Карандаш страціла, разумееш?..

Н е в я д о м ы. Вы што! Не трэба мяне выкрэсліваць! Вы правільна яго страцілі! Вы мне яшчэ дзякуй скажаце, што прыйшоў да вас на прыём!.. Дас-с!..

С к р ы п к а. Ты што, блакітны?

Н е в я д о м ы. Не. Рыжы.

С к р ы п к а. Манеры ў цябе дамскія: дас-с… і-с, -дас-с… не п'ем піва, а толькі квас!.. *(Прадэманстравала жанчыну на подыуме, прайшлася, пакруціла задам).*

Н е в я д о м ы. Ды не, я так не змагу… Ну вас!..

С к р ы п к а. Гальштук аранжавы. Хахол, ці што?

Н е в я д о м ы. Во, быў бы я хахлом!.. А яшчэ лепш, яўрэем!.. Тады мне даўно б усе паперы падмахнулі… О, быў бы!..

С к р ы п к а. Марыць не шкодна.

Н е в я д о м ы. А прыемна!..

С к р ы п к а. Добра, чакайце чаргі. У прыёмнай.

Н е в я д о м ы. Гэта… дзе? *(Аглядае скверык).*

С к р ы п к а. Дзе ўладкуешся. Але так, каб захоўваць канфідэнцыяльнасць … А пакуль Мэра няма, пасядзі…

Н е в я д о м ы. Больш нічога не застаецца. *(Садзіцца на лаву).*

С к р ы п к а. Раскажы што.

Н е в я д о м ы. Прыйдзе Мэр, тады і раскажу…

С к р ы п к а. А гаворыш, не хахол?..

*Крык Мэра: «Я Мэр-р-р!» Скрыпка і Невядомы насцярожыліся, апошні падхапіўся з лаўкі. А потым разгублена паглядаюць адзін на аднаго, не ведаючы, што ім рабіць…*

2.

*У былой майстэрні Скульптара. Поўнае запусценне. Тут засталося ўсяго некалькі бюстаў, у тым ліку два бюсты Леніна, па адным– Сталіна, Свярдлова, Дзяржынскага… У акно прадрайся Хлебарэз. Атрос смецце з вопраткі. Узяў анучу, прашаравай Дзяржынскага, павярнуў яго тварам да сабе.*

Х л е б а р э з. У вочы!. Мне, Хлебарэзу!.. Я, калі служыў, столькі хлеба перарэзаў, што табе і не снілася!.. Вось так!.. Ты вось стаіш тут у пакоі, на цябе не капае, на твой плеш не садзяцца птушкі, асабліва ненажэрныя галубы міру. А таго, што ў Маскве, на Лубянцы, адвезлі кудысьці на грузавіках, і той маскоўскі Фелікс Эдмундавіч рассеўся, нібы вялікі міністр, адразу на некалькіх грузавіках… З вецярком яго!.. Я, між іншым, у акно залез… Хаця і не меў такога права… Раней, калі майстэрня была за Скульптарам, меў… І не толькі ў акно залесці – і зайсці ў дзверы… культурна і шырокім крокам. Аць-два!.. І вось, Фелікс Эдмундавіч, звяртаюся асабіста да цябе… да Уладзіміра Ільіча няма сэнсу, дарэмна… ён па-за ўсялякай уладай з пэўнага часу… Меў права мэр нашага горада пазбаўляць Скульптара гэтага памяшкання? Гэта ўсё роўна што дрэва ссячы перад аблвыканкамам, ці ў цэнтры горада дзе? Га? Маўчыш!.. Судзіцца чалавек, судзіцца!.. А яго ўжо даўно выперлі на вуліцу… а паколькі і скульптуры не бяруць на рэалізацыю, то і жонка, так-так!.. Вы, родныя і не вельмі мне людзі, даўно бачылі Скульптара? А я нядаўна! Думка, ідэя жыве ў ім, пульсуе, варушыцца, а сілы ў руках і целе – пшык!.. Ну, няма!.. Жывы, як гаворыцца, труп… Сам Талстой… Павінен быць дзесьці побач Скульптар. Але ён ганарлівы: сюды, да вас, ні на крок!..

Толькі мне крыкне: «Хлебарэз, ты навошта святло запаліў! Хай спяць мае дзеці!.. Я не буду іх будзіць!.. Яны мерцвякі ўсё роўна!.. Убірайся!..» А пакуль ён адсутнічае, я вас займу… яго дзяцей… пагушкаю… калыханку праспяваю… Так, спадары бюсты, так!.. Вас па адным так усіх і паскідваюць, і звергнуць. І разнясуць па ўсім белым свеце!.. Як дзярмо на падэшве!.. А ты ж не заступіўся за маскоўскага Дзяржынскага, а маскоўскі не заступіўся за цябе… Адным словам, неразумна атрымліваецца!.. Бязглуздзіца!..Калі не сказаць больш канкрэтна… пад мацнейшай падліўкай… Што за людзі, што за народ!.. То адно ім замінае жыць, то іншае!.. А што танцору заўсёды замінае, ведаеш? Правільна: яйкі. Гэта табе Ільіч падказаў. Так і ім, тым людзям, яйкі замінаюць. Прычапіліся да помнікаў. Саміх герояў няма даўно, а ім, бачылі, помнікі не даюць спакойна жыць. Не забяспечваюць хлебам і адзеннем, бясплатным транспартам і ўсялякім там… ну, гэтым… як яго… Адным словам, помнікі вінаватыя, што самі мурзатыя!.. А вы папытайце ў тых, хто іх ствараў, ляпіў, што яны скажуць? Ці дадуць яны згоду знішчаць? Гэта ж – мастацтва, а не проста слуп, гэта ж павінна ахоўвацца законам, дзяржавай!.. А дзяржава спіць у шапку!.. Яна не ахоўвае, як гэта ні дзіўна, і самога стваральніка. Хаця што скульптар? Калі ён наляпіў, як мой сябар вось, да прыкладу, паўсотні помнікаў Леніна, то з сякерай перад кожным помнікам не станеш, каб сваю працу, сваё тварэнне абараніць? А, можа, і не трэба!.. Але тады бутэлькі былі танныя… жыць можна было… *(Зрабіў паўзу, прашараваў лысіну ў бюста Свярдлова).* І ты таксама добры. Цаца. *(Тузануў за нос, і запэцкаў пальцы. Збянтэжыўся).* У цябе што, дагэтуль соплі не высахлі?! Блін, а! Ні фіга сабе! Падвёў, хаця ты яшчэ, аказваецца, і малец, таксама Скульптара, яшчэ як падвёў! Пад кляштар, можна сказаць!.. Чалавек кавалка хлеба з-за цябе пазбавіўся. Цябе-та добра, на звалку, напартачыў, рыльца ў пушку, а яго-та, сумленнага чалавека і працаўніка, за што ж так?.. Не круці носам – набедакурыў, набедакурыў і ты, Якаў Міхайлавіч. Правільна – Якаў Міхайлавіч? Калі б разумна жыў, то не пыліўся б у закінутай майстэрні, а ўпрыгожваў бы дзе бульвар альбо заводскую прахадную… у рэшце рэшт. А скульптару, глядзіш, і грошыкі за працу сваю праведную… і на хлеб і да хлеба. Ды вас такіх, гультаёў, тут, бачу, шмат сабралася. Як мурашак у бляшанцы з-пад кансерваў!.. Ну і кампанія!.. Арлы!.. Каршуны-сцярвятнікі!.. Вас ж прадаваць трэба, каб жыць. А ў нас жывыя жывых прадаюць, каб жыць… Зразумей тут… разбярыся… *(Вытрымаўшы паўзу).* Пакрытыкаваў таго-сяго, і мне лягчэй стала… А сябе не магу пакрытыкаваць… Хаця калі каго і трэба, то самога сябе належыць у першую чаргу… Нуль жа, нуль!.. Але які чалавек сябе дурнем лічыць? Пакажыце! То-та ж!.. Дурня не так проста знайсці… *( На бюсты).* Нягоднікі! Блазнюкі!..

Б ю с т  С т а л і н а. Ты што сказаў, ара?

Х л е б а р э з *(разгубіўшыся).* Хто… хто… хто гэта?..

Б ю с т  С т а л і н а. Я. Я сказаў мяў…Іосіф…

Х л е б а р э з. Кабзон?

Б ю с т  С т а л і н а. Калі я, на твой погляд, падобны на Кабзона, то ты на Шцірліца .

Х л е б а р э з. П…пайшоў адсюль!.. Прэч!..

Б ю с т  С т а л і н а. Добра, я з табой пагавару там, дзе і трэба. Там з цябе дурасць выб'юць. Як пыл з дывана.

Х л е б а р э з. Бюсты не размаўляюць!..

Б ю с т  С т а л і н а. Ёсць такія бюсты, якія гавораць самі за сябе.

Го л а с  з  а к н а. Хлебарэз, выходзь!.. Чарговы пакупнік сарваўся з кручка!..

Х л е б а р э з. Як сарваўся?!

Г о л а с  з  а к н а. Так, як і рыбіна. Калі яна вялікая, а кручок маленькі.

Х л е б а р э з.  Ды вы што?! Нам жа ён абяцаў  за любую скульптуру выпівон! Я ўжо  дзве працёр…

Г о л а с  з  а к н а. А Мэр грошай шкадуе. Крычыць: «Я Мэр!» Даў на бутэльку. Ён, праўда, не на бутэльку даў, а на каўбасу…Пайшлі, пасядзім у падвале. Ці сюды прынесці? Дык сюды сам Скульптар не прыйдзе, а яму наліць трэба ў абавязковым парадку. А то пакрыўдзіцца чалавек!.. Чуеш, га?..

Х л е б а р э з. А як жа з Мэрам нам справіцца?

Г о л а с  з  а к н а. Яго заўтра возьмем. І паслязаўтра. Бюстаў тут багата. А я падслухаў: яму бюсты патрэбны, бюсты!.. Ён усе іх гатоў забраць!.. Разумееш?..

Х л е б а р э з. А не адбурыць? Штосьці ён не падабаецца мне… Не, ён нешта задумаў… Забаўляецца з намі, як з хлопчыкамі…

Г о л а с  з  а к н а. Не можа быць, каб у яго і заўтра на бутэльку не знайшлося. Ці, даруйце, на каўбасу. Ды і скульптуру даражэй не загоніш. Хаця б каму. Ну, можа, за дзве… Яны ад нас нікуды не дзенуцца. Яны ж з гліны. Дзярмо, адным словам. Туфта.

Х л е б а р э з. Ціха ты!.. Ціха!.. Бачыш, варушацца?

Б ю с т  Д з я р ж ы н с к а г а. Стаяць! Вы арыштаваны! Рукі ўгору!..

*Бюсты заварушыліся, а два, Дзяржынскага і Свярдлова, скрануліся з месца, пачалі наступаць на Хлебарэза.*

Х л е б а р э з. Вось, калі ласка!.. Яны і на самой справе амаль усе ажылі!.. А-а-а-а!... *(Носіцца па майстэрні).* Што гэта? Куды мне? Кашмар!.. Каравул!.. Разрэжуць, як буханку!..Чэрствую!... Без нажа і следства!.. А-а-а-а!.. Спярша Сталін загаварыў, а цяпер, гляньце, і ўсе астатнія!..

Б ю с т Д з я р ж ы н с к а г а. Ад нас табе не схавацца, нячыстая твая душа!

Б ю с т С в я р д л о в а. Кліч і сябра!...

*Голас за акном, аддаляючыся: «Дэманы-ы-ы!»*

Б ю с т Д з я р ж ы н с к а г а. З сябрам усё зразумела. Будзеш адказваць адзін.

Х л е б а р э з. Як што, дык адразу я!.. Не грашыў сёння!.. Яшчэ не паспеў!... За што адказваць?..

Б ю с т Д з я р ж ы н с к а г а. За тое, што залез у чужую майстэрню...

Х л е б а р э з. Яна ўжо не чужая. Яе набыў багаты дзядзечка... Дзяцюк.

Б ю с т С в я р д л о в а. І яшчэ за тое, што балаболіў шмат. Мяне за нос тузануў. І за тое, што сябра дрэнна выхаваў... Бачыш, даў драпака? Гэта што, па-твойму, не доказы?

Х л е б а р э з *( упаў на калені).* Сябар там не быў і зараз, адчуваю, не будзе! Адмажацца, ідыёт!.. Прабачце, кармільцы! Даруйце! Б'ю чалом! *(Адбівае поклоны).* Годзе? Альбо яшчэ? А?..

Б ю с т Д з я р ж ы н с к а г а. Калі больш нічога не можаш – малаці, малаці: табе залічыцца.

Х л е б а р э з. Ага! *(Працягвае адбіваць паклоны).* Аццаць... Дваццаць... Трыццаць... Сто!.. Як, га? Ведай сабе і адбівай!..

Б ю с т С в я р д л о в а. Мех ёсць?

Х л е б а р э з. Гэта вы мне, ваша сіяцельства?

Б ю с т С в я р д л о в а. А то каму ж! Табе, табе! Ды варушыся, халоп!

Х л е б а р э з. Будзе, будзе зроблена! *(Знаходзіць мех).* Такі маецца! Вунь, яшчэ тут і пячатка нейкая!..

Б ю с т Д з я р ж ы н с к а г а. Залазь!

Х л е б а р э з. Я?

Б ю с т  Д з я р ж  ы н с к а г а. Ты, ты!

Х л е б а р э з. Ага! *(Забраўся ў мех, і той  завязваюць зверху).* Мне добра!.. Мне выдатна!.. І як гэта я раней не здагадаўся сядзець у мяху!.. Нікога не бачу, нічога не чую,  нічога нікому не скажу!.. *(Спявае).* Бывай, любімы горад, выходзім заўтра ў мора!... Бывай, Дом культуры чыгуначнікаў!..

*Электрык і Рэшата здымаюць з сябе бюсты і ставяць на ранейшае месца. І, патушыўшы святло, моўчкі выходзяць.*

Г о л а с  б ю с т а  С т а л і н а. А мяне? А я?.. Панымаш!..

*Па сілуэце толькі можна і здагадацца, што хтосьці трэці даў драпака з майстэрні. Гэты трэці – Зялёны Змій.*

3.

*У чаканні Мэра. Скрыпка дастала з бака для смецця скрыпку, здзьмухнула з яе пыл і марудна, але з пачуццём  грае мелодыю «Листья желтые над городом кружатся». Ці нешта іншае.*

*Паўза.*

Н е в я д о м ы. Гэта, прабачыце, вы гралі?

С к р ы п к а. Не, я таксама слухала… а хто граў – не ведаю… А хто ж, на самой справе, граў?

Н е в я д о м ы. Смычок быў у вашых руках…

С к р ы п к а.  О, каб жа ты толькі ведаў, шаноўны, колькі ў маіх руках смычкоў пабывала!.. Іншая б ганарылася, а я – не, ані!.. Што было, тое было… Хаця і прыемна ўспомніць!.. Так!.. Найгралася ўволю!.. Удосталь!..

Н е в я д о м ы. А не жадаеце… прабачце за некалькі  авантурнае, магчыма, пытанне… і , можа, не да часу яно… Так, так!… Я ж і гавару…

С к р ы п к а.  Не цягні ката за хвост, а то наслухаемся!..

Н е в я д о м ы. Вы ж яшчэ не старая…

С к р ы п к а. Дзякуй за камплімент. Працягвай.

Н е в я д о м ы. А жывеце ў такім грамадстве… у такім асяродку…

С к р ы п к а. Я жыву ў нашым грамадстве! У нашым! Гэта вы ў іншым!..

Н е в я д о м ы. У больш вузейшым разуменні... пра грамадства... жадаў сказаць.

С к р ы п к а. Ну, і што ж ты мне прапаноўваеш, чарговы – так-так!– выратавальнік? Памыцца-прычасацца, прылізацца і наярваць вось такім харам *(паказала)* у карчме ці ў казіно, а яны, з ільснянымі ад тлушча пысамі, будуць цябе лапаць сваімі дыяментавымі пальцамі? Гэта?

Н е в я д о м ы. У нейкім сэнсе... хаця вы вельмі добра пра сябе думаеце... Надта ўжо!.. Апусціце трохі планку...

С к р ы п к а. Або пайсці іх дзетак вучыць?

Н е в я д о м ы. Можна... высакародна... так-с-с.

С к р ы п к а. Тупых вучыць дарэмна. Дарэмна час губляць, паношаны і не малады чалавек па прозвішчы Невядомы. Ці ў аркестры стаяць? За капейкі? Гэта прапаноўваеце? А я жадаю адразу і ўсё! Оптам! Усё толькі оптам, шмат і адразу!.. Я так жадала з пялёнак... Калі ўжо выпэцкацца жоўтай нечаканасцю, то ўся, па вушы!.. Іншая справа, што не ўсё ў мяне атрымалася... Вядома, на месцы тых з дыяментавымі пальчыкамі і я б пагадзілася сядзець, хлусіць не буду... А няхай бы мне якая дурніца стварала настрой...Ты дзе раней-та жыў, аранжавы?

Н е в я д о м ы. Далёка. Адсюль не відаць.

С к р ы п к а. Міклуха Маклай, гляньце вы!..

Н е в я д о м ы. Вы там ўсё роўна не былі.

С к р ы п к а. Я? І не была? Памыляешся! Калі толькі на Месяцы альбо на Марсе. Дарэчы, а як ты даведаўся, што сёння прымае начны Мэр? З якіх крыніц?

Н е в я д о м ы. Выпадкова. Каля газетнай вітрыны спыніўся... задраў галаву, каб аслабіць гальштук, а заадно і паглядзець, ці не памяняў ён колер, а мой гальштук, дарэчы, мяняе афарбоўку ў залежнасці ад палітычнага надвор’я ў нашай краіне, і заўважыў... Літары ж буйныя!.. Па гарошыне!..

С к р ы п к а. Ах, так, так! Гэта ж я інтэрв’ю і давала! Памылася...як цяпер помню. Яшчэ і прычасалася. Пяцярнёй. Вось гэтай. І схадзіла дала. Вунь там за вуглом... на хаду... на хуткую руку... А які эфект, а?! Скажы?!

Н е в я д о м ы. Зацікавіў мяне чалавек... Трэба ж, як яго пацёрлі, мэра-та, жорны!.. Па справе, па справе!..

С к р ы п к а. Дрэнна, што цябе аднога ён зацікавіў.

Н е в я д о м ы. І не меней дрэнна, што газет амаль ніхто не чытае. Толькі некралогі праглядаюць. Па сабе мяркую. Ужо, дарэчы, і сам цікаўлюся, ці няма некралога на мяне?.. Хаця раней быў заядлым чытачом, скажу!..

С к р ы п к а. Яны, у рэдакцыі там, хацелі сустрэцца з самым былым мэрам горада, але навошта тады я, яго асабісты сакратар? Для форсу? І ці да твару яму, учора яшчэ шаноўнаму, паважанаму чалавеку, свяціцца? Глянь на слуп, на якім ліхтар замацаваны. Табе гэта ні аб чым не нагадвае?

Н е в я д о м ы. Мне?

С к р ы п к а. Вам або табе, розніцы няма!…

Н е в я д о м ы. Ну, ліхтар, як ліхтар!..

С к р ы п к а. Вось такім ліхтаром быў раней і наш начны Мэр. Раней! Вакол яго, як зараз вакол ліхтара, кружылася розная драбяза… матылькі, мошкі, камарэча, мушкі… і іншая… А патушылі ліхтар, схавалі за калючы дрот, і ўсё, нікога вакол!.. Яны зараз лётаюць, матылькі-мушкі, каля іншага мэра… Гэты ім не патрэбны! А ён і сам ганарлівы, не ідзе на паклон. Вось так. Я, між іншым, удзячная, што мяне звёў лёс з гэтым чалавекам і шкадую, што позна. І як гэта раней яго я не заўважала, калі быў пры ўладзе!.. Таксама стала б адной з мошак, а!… *(Смяецца).* А папера ўсё вытрымае, сцерпіць…. Ганарар, праўда, адразу выдалі, як за важную і аператыўную інфармацыю… на пару куфляў піва і сёе-тое я ў сваім гардэробе абнавіла… вось новыя заколкі набыла… і шнуркі для Мэра. І паабяцала паведамляць перыядычна аб жыцці былога гарадскога мэра, а зараз начнога, за пэўную суму. Пішуць. І друкуюць. Як дзесьці ў Скандынавіі пра снежнага чалавека. Мне вераць. Людзі павінны быць у курсе спраў. Трымаю. Вось нядаўна новае інтэрв'ю дала за тым жа вуглом… Скажу па сакрэце: у рэдакцыі мая сяброўка працуе. А? Так што сачыце за друкам, спадары! Купляйце газеты!.. *(Грае на скрыпцы).*

*Невядомы ўсхліпвае.*

Слабанервовых прашу пакінуць прыёмную. Зараз, праз некалькі хвілін, пачнецца прыём па асабістых пытаннях. Дзіўна, і чаму так мала, на самой справе, чалавек запісалася на прыём да начнога Мэра, калі нават газета выступіла? Няйначай, у газеты рэйтынг горшы, чым у Мэра?.. Хаця я яшчэ і не ведаю, які ён, той рэйтынг, у яго?.. Ці ёсць зусім?..

*Невядомы знікае.*

Але калі вы не верыце таму мэру, то паверце гэтаму!.. *(Грае).* А дзе, дарэчы, ён, Мэр? Больш не гарлапаніць? Не чуваць. Пара пачынаць прыём

па асабістых пытаннях. Чаго не ўбачыш, поезд і з Масквы вернецца... Першы блін не павінен аказацца камяком!.. *(Мітусіцца, хавае скрыпку назад у бачок для смецця, кліча).* Мэр! Мэр! Мэр!.. Божа, як яго хоць зваць?!.. Іван Іванавіч ці Іванавіч Іван? Мэр! Вы дзе, Мэр?.. *(Знікае).*

4.

*У майстэрні скульптара. Увайшлі, пстрыкнуўшы выключальнікам, двое ў масках.*

П е р ш ы *(пра бюсты).* Загружай у мяхі! *(Пра мяхі).* Тут былі!..

Д р у г і. Зараз знойдзем.. Вось, адзін ужо да адпраўкі гатовы! *(Паварушыў рукамі мех, у якім спіць Хлебарэз).*

П е р ш ы. У першую чаргу выносім Сталіна і Дзяржынскага, а Леніна – оптам. І потым. Электрык дамовіўся недзе, яны яго бяруць усяго... ці ўсіх... Не знойдзеш тут, як і сказаць. Сарвем за Ільіча неблагі куш. А Скульптар – лох: мог бы сам грошы мець, але ў яго, ці бачыце, прынцыпы не тыя!.. А у нас – тыя!..

Д р у г і. Пачакай, Грыша! Пачакай!

*Злодзеі аслупянелі, убачыўшы, што мех, у якім Хлебарэз, устаў, то скрывіцца, то выпраміцца, то робіць яшчэ нейкія рухі.*

*(Змяняючы голас).*Уцякаем! Уцякаем, братан!..

П е р ш ы. Так... так... так !.. Тут жывуць здані- і-і!.. Ён мае рацыю!..

*Знікаюць.*

Х л е б а р э з *(разрэзаў мех, прасунуў галаву, а потым і ўвесь выходзіць з яго).* Паспаць не далі. Ну, злодзеі!.. Гэта ж хтосьці з нашых быў. Яшчэ і галасы змяняюць, прайдохі!.. Ці мне здалося ўсё?.. Дзівосы ўсюды і побач!.. Дзівосы!.. *(Склаў нажык, засунуў у кішэнь, у мех заштурхаў бюст Сталіна, выключыў святло і схаваўся ў распахнутым насцеж акне).*

5.

*Скверык. У чаканні Мэра Скрыпка ганяе дубцом усялякую драбязу, якая лётае вакол ліхтара.*

С к р ы п к а. Ату!.. Ату!.. Мацьь вашу!.. Мэра яшчэ няма, а яны ўжо сабраліся, нахлебнікі!.. Ату!.. Ату!..

*З'яўляецца Мэр. Яго не пазнаць, апрануты ён з іголачкі, у руцэ – пакет. Назірае за Скрыпкай.*

*(Абыякава).* Вы – хто?

М э р. Мэр.

С к р ы п к а. Не можа быць. Які Мэр? Той, або гэты?..

М э р. Начны.

С к р ы п к а *(упусціла дубец).* Сапраўды!.. Госпадзі! *(Перакрыжавала сябе знаменнем).* Які мужчына!.. Вось гэта клас!.. Скажы каму, што ў скверыку на адной лаўцы спалі, ніхто не паверыць… хаця часцей усяго і па чарзе. Альбо нават валетам. Попа да попы. Упрытык. Госпадзі!.. Вашая светласць!.. Адкуль вы спусціліся на гэтую зямлю?

М э р. Быў там, дзе мы будзем усе.

С к р ы п к а. На тым свеце?..

М э р. З таго ніхто – на маёй памяці – не прыходзіў назад.

С к р ы п к а. Ды на вас ж глядзець страшна!.. У мяне ногі падкошваюцца… рукі дрыжаць… Страчу прытомнасць – будзеце адказваць… Не-не, на гэты табурэт не садзіцеся і на стол не стаўце локці. Выпэцкаецеся!.. Не-не!..

М э р. У гэтым пакеце абрус на стол і накідка на табурэт. Колькі часу засталося да пачатку прыёма?

С к р ы п к а. Мяркуючы па тым, што на Жмерынку поезд яшчэ не адыходзіў, то хвілін дзесяць… ну, можа, дваццаць. *(Заслала стол абрусам, на табуретку ўскінула накідку, адышла і захапляецца).* Жывуць жа людзі!.. Але калі ўлічыць, што на Жмерынку поезд затрымліваецца, то і паўгадзіны дзесьці набярэцца, таварыш Мэр.

М э р. Зразумела. Людзі абвешчаны?

С к р ы п к а. За рэдкім выключэннем…

М э р. Так, Скульптара не будзе. Ён не гатовы.

С к р ы п к а. У якім плане ён гатовы, я здагадваюся… *(Дастала з пакета сукенку, басаножкі).* А гэта… што, Мэр? *(Трасе галавой, ці не сон ).* Што… гэта? А, Мэр?

М э р. Але вы ж разумееце, што ў такім убранні, у якім вы знаходзіцеся, сакратаркай у мяне працаваць не можаце?

С к р ы п к а *(абараняе сябе).* А на прыём хто запісаўся, Мэр?!.. Ды мы ж разам з адной кавуновай коркі сок дапіваем!.. Глыткамі дзелімся!.. Цок-цок-цок!.. Куды лішні? Вярні!.. І зараз жа!..

М э р. У пакунку адзенне для вас. Прывядзіце сябе ў парадак, а я пакуль папрацую адзін. Хто там у нас першы?

С к р ы п к а. Ой, Мэр!.. *(Расплылася у высакароднай усмешцы).* Можна, я вас пацалую?

М э р. Ні ў якім разе! Мы ў кабінеце! Мы на працы!..

С к р ы п к а. Няхай, няхай будзе і так: мне хопіць на сёння і адной радасці… не аб’есціся б… Пайду будзіць Мятлу. Не забыць бы ваш прэзент. *(Узяла пакунак).* А пераадзецца можна?.. У кусціках?..

М э р. Там і пераапранецеся. Ды і… твар… асвяжыць вадой трэба… А то такое ўражанне, што вы толькі што прымалі гразі… у санаторыі … Эканомце час. Час – грошы.

С к р ы п к а. Скрыпка заўсёды бярэ правільна з першай ноты. До-о!.. *(Знікае).*

М э р *(услед).* Ды не затрымлівайцеся асабліва! *(Сеў, расклаў паперы).*

*Заходзіць Мятла, такая ж абшарпаная, як і Скрыпка, толькі ў яе яшчэ і сіняк пад вокам, а ў валасах тырчыць пруцік ад мятлы.*

М я т л а *(рашуча спынілася, здзіўлена).* Ой! Ішла да начнога Мэра, а трапіла да дняўнога!.. Ці куды гэта я трапіла? *(Адступае).* Добрай ночы!.. Ці што?..

М э р. Добрай ночы. Вы прыйшлі правільна. Па адрасу. Прысаджвайцеся на лаву…

М я т л а. Ды на гэтай лаўцы я перас… я перас… я, увогуле, культурна адпачывала з ўсімі жадаючымі… субу… субу… субяседнікамі. Так, здаецца, правільна?... Я нават прадставіць не магла раней, што яна, лаўка гэтая, калі-небудзь акажацца ажно прама ў кабінеце мэра. Бач, як пайшла ўгору!.. Гэта што ж атрымліваецца? Не вяжацца неяк. Усё ж салідная ўстанова… А вы: садзіцеся, Мятла!.. Ці не сказалі – Мятла? Ну, ды і добра… Яшчэ скажаце… Хораша ў вас тут, у кабінеце… І паветра свежае… ніхто не сапсаваў… пакуль… Партрэтаў толькі вось ніякіх няма Палітбюра якога…

М э р. Гэта вы правільна заўважылі наконт партрэтаў. А партрэты, як вы разумееце, вешаюць на сцены.

М я т л а. І сценаў няма, правільна. Да паветра не прымацуеш. Цвік у паветра не ўваб’еш.

М э р. Вось і я аб гэтым. Таму мы прыдумаем што-небудзь…

М я т л а. А навошта вы, таварыш Мэр, так падхарашыліся? Як певень!.. Х-хі!.. Толькі шпор не хапае!.. Х-хі!.. Сёлета ж не год пеўня…

М э р. Сёлета год малпы…

М я т л а *(спахапілася, затуліла рот рукой).* Ой! Не тое ляпнула!..

М э р. Бывае.

М я т л а. Што і супадае…

М э р. Ну, так, бывае… А чаму ж мы ўсе павінны хадзіць у той адзежы ўсё жыццё, у якой ходзім сёння? Усё рвецца, сціраецца, зношваецца…

М я т л а. А потым намі даношваецца…

М э р. Вельмі, вельмі сучасная паэзія!..

М я т л а. Але не выпінацца ж так!.. А што пра вас людзі падумаюць? Той жа Хлебарэз? Усе былі ў адным адзенні, ад усіх несла адной туалетнай вадой – сапраўднай, дарэчы, і раптам скачок у бок!.. Не параіўшыся…

М э р. Гэта я, Мэр, павінен раіцца, у што мне апрануцца?

М я т л а. А чаму і не? А чаму? Калі я Мятла, двор падмятала ў мінулым, дык што, у мяне свайго розуму няма ў наяўнасці? Пакуль яшчэ не ўвесь розум за розум зайшоў. Хаця і наважыўся.

М э р. Я паважаю вас за тое, што маеце свой пункт гледжання. Кажу шчыра.

М я т л а. Але вы перастанеце мяне паважаць, калі я скажу вам, што забылася, навошта запісалася на прыём… Забылася, і ўсё!.. Як пробку выбіла з лічыльніка!.. І усё таму, што вы, таварыш Мэр, падхарашыліся. Навошта? Навошта, я ў вас пытаю? Збілі з толку. Было ж так добра, так прыгожа! Усе дыхалі адным паветрам, разам атрымлівалі выспяткі ад мянтоў, біліся за кожны недакурак!.. Як было гэта рамантычна, як гэта было шыкоўна!.. І раптам, здаецца, усё… марна? А на лаўку не сяду… Апошні раз тут са мною на ёй рабілі такое… Гады!.. Забіць іх мала!.. З тых часоў нашу ў валасах халодную зброю – можа, хоць вока каму пратыкну… *(Узяла пруцік, і згуляла ім, як рапірай).* Х-ха, Мэр!.. Пажартавала. Выбачайце.

М э р. І пажартаваць трэба. Усяго трэба ў гэтым жыцці паспрабаваць, чаго ж!..

М я т л а. А калі вы Мэрам былі сапраўдным, я чыста падмятала!.. У мяне і грамата ёсць за вашым подпісам… На гарышчы каля коміна ў чамадане…У ДК… Магу вярнуць. Вярнуць?

М э р. Не, не трэба. Вы яе тады сапраўды зарабілі. Працягвайце, мне цікава вас слухаць.

М я т л а. Мне б з такім мужыком, як вы, ночку правесці, і больш нічога не трэба… Я і памерці гатовая. Не-не, вы не падумайце, што я… ага!.. Ну, а што яшчэ жанчыне трэба, а, Мэр?..

М э р. І праўдзеце. Усё яшчэ наперадзе.

М я т л а *(засвяцілася ўся).* Праўда?

М э р. Не, «Труд».

М е т л а. Жартуеце?

М э р. Не жартую. Газеты ёсць такія… Праўда і праца усё змогуць!..

М е т л а. А што для гэтага трэба? Гаворыце, я згодная!.. *(Кружыць у танцы, уяўляючы, што з Мэрам; для чаго распасцёрла перад сабой рукі...)* Можа, патанчым?

*Каля бачка са смеццем з'явіўся Хлебарэз, непрыкметна ўзяў там скрыпку, і знік.*

М э р *(строга).* У нас, здаецца, прыём! Не дыскатэка!..

М я т л а *(працягвае танчыць).* А я мяту, мяту, мяту!.. *(Спявае).* « Укусі мяне за талію, укусі мяне за грудзь! Укусі, пакуль я голая, укусі за шта-нібудзь!..» Я забылася, навошта прыйшла!.. Успомню, тады прыйду яшчэ!.. Абавязкова-а-а!.. *(Выкацілася у цемру).*

*Даплывае мелодыя скрыпкі. Мэр устаў, нервова заходзіў вакол стала, грукнуў па ім кулаком.*

М э р. Не, яна не паддаецца выхаванню!.. Гэта не кіно, гэта – жыццё!.. Цяпер я разумею, чаму Арсеньеў двойчы не стаў прапаноўваць Дзерсу Узала пераехаць жыць ва Уладзівасток… хаця і бачыў, цаной якіх пакут той здабываў сродкі да жыцця. Здаецца, вялікі гольд так адказаў вялікаму падарожніку і пісьменніку: « Не, дзякуй, капітан. Мая Уладзівасток не магу хадзі. Чаго мая там працуй? Палявання хадзі няма, собаля ганяй таксама не магу, горад жыві – мая хутка прападзе». Гэта гаварыў чалавек, які круглы год спаў у тайге, сярод звяроў, у мароз і ў навальніцу. І той баяўся горада… «Мая хутка прападзе». *(Знікае).*

*У мелодыю скрыпкі ўплятаюцца п'яныя галасы, і такое ўражанне, што кожны спявае сваю песню... І уся канцэртная брыгада разам са Скрыпкай з'яўляецца каля стала. За Скрыпкай ідуць, хістаючыся, Хлебарэз, Рэшата, Зелены Змій і Электрык.*

Э л е к т р. ы к. Светла? Светла-а!.. Гэта я ўсё! Калі б ні я, сядзелі б вы ўсе зараз у вялізнай цёмнай яме! Вось у такой!.. *(Паказвае).* Уявіце цыстэрну для перавозкі джэнтльменаў удачы! Скажыце дзякуй!..

А м а л ь у с е. Дзя-куй!..

С к р ы п к а. А дзе Мэр? Хто Мэра ўкраў?

Р е ш а т а *(піхнуў нагой стол).* Настольнік у гаспадарцы спатрэбіцца, ці як, братва, думаеце! *(Накінуў на сябе абрус).*

Х л е б а р э з. Толькі стол не ламаць! Не будзе мне на чым хлеб рэзаць! Усім зразумела? Для мяне паламаць стол, што адсячы піяністу палец!..

З е л е н ы З м і й. Графін і іншае я ўзяў!.. У мяне!.. *(Пераканаўся, што ў ім вада, таму і рэакцыя адпаведная).*

С к р ы п к а. Вы ў маёй прыёмнай, запомніце гэта! Тут я гаспадыня! Я! У адсутнасць Мэра! Магу караць і магу памілаваць! Х-ха-ха-ха-а-а!..

*Танчаць. Дурачацца. Пакуль не пагасне святло...*

Э л е к т р ы к. Не мая віна – усе ліхтары накрыліся!.. Усе!.. Я за гэты адказваю!.. Які над намі!.. Бачыце яго?..

С к р ы п к а. Ну вядома ж, Электрык!.. Дай я цябе, пакуль цёмна, пацалую?.. Хочаш, чаго хочаш?..

Э л е к т р ы к. А калі знойдзеш!.. Знайдзі мяне!..

*Па тым, як смяецца і еньчыць у цемры Скрыпка, не цяжка здагадацца, што мужчыны пра яе не забыліся...*

5.

*У скверы. Мэр аглядае ўсе, што засталося ад яго кабінета. А нічога не засталося! Толькі скрыпка ляжыць на лаўцы, ды на маставой валяецца смычок. Ён падняў смычок, паклаў побач са скрыпкай.*

М э р. Вальпургіева ноч!..

*З'яўляецца Невядомы. Стаіць наводдалі ад Мэра.*

Н е в я д о м ы. Я запісваўся на прыём... Калі мне?..

М э р. Не будзе прыёму.

Н е в я д о м ы. Чаму?

М э р. Мэру неабходна прымаць тых людзей, у якіх ёсць праблемы… А у гэтых – няма… За выключэннем адной …

Н е в я д о м ы. І чаму так атрымліваецца, што ўсё жыццё перад мною чарга заканчваецца? За чым б не стаяў. За каўбасой у старыя часы або за кватэрай, шлагбаум вырастае заўсёды толькі перад мною: стоп, усё прададзена, усё разабрана!.. Я падыду да вас бліжэй? А то магу прамахнуцца… Пісталет у мяне стары…

М э р. Як жадаеце.

Н е в я д о м ы. Але мяне выслухаць вы можаце? Без стала? Я усё бачыў… Усё чуў… Гэта – невылечныя людзі, вы дарма з імі ўсё гэта задумалі… Падзяку, можа, прагнеце атрымаць? Не, ніколі!.. Не дачакаецеся ад іх!.. *(Замяўся).*

М э р. Гаварыце. Я слухаю.

*Падышоўшы бліжэй і толькі зірнуўшы на Мэра, Невядомы раптам дзёрзка падаўся назад ад яго.*

Гаварыце ж!..

Н е в я д о м ы. Госпадзі!.. Госпадзі!.. Не, не магу… Прабачце… не магу гаварыць… Акуляры згубіў… пайду пашукаю… дзесьці тут… у гэтым скверы…

М э р. І я вас прашу: калі не можаце – тады і не трэба. Не гаворыце. Нічога не гаварыце. Тым больш, без акуляраў. Ні мне, нікому. Калі яшчэ і не хочацца. Дамовіліся?

Н е в я д о м ы. Добра. Хай будзе па-вашаму. Я не буду акуляры зусім шукаць… Яны надта параўвялічваюць рэчы, акуляры…

М э р. Павялічваюць.

Н е в я д о м ы. Калі б! І, калі ласка, не прыдзірайцеся да слоў. У мяне ўсё запісана. Граматна і з кансультацыямі… І тады, як толькі адновіцца прыём, вы ахнеце!.. Так-так!…

М э р. А пісталет, калі ён у вас маецца, калі ён, дарэчы, сапраўдны, пакіньце мне. З вяртаннем?

Н е в я д о м ы. Асабістая зброя нікаму не перадаецца, пара б знаць!..

М э р. Добра. Дамовіліся. Пагутарым пазней. Калі яшчэ ў вас, зразумела, застануцца да мяне пытанні? Пасля ўсяго, што вы ўжо

ведаеце... я па вашых вачах прачытаў усё, што і патрабавалася прачытаць... А зараз дзякуй. За маўчанне.

Н е в я д о м ы. Я пайду?

М э р. Так, так!.. Калі ласка!.. Дарэчы, а дзе я вас магу знайсці, калі спатрэбіцеся?

Н е в я д о м ы. А я буду часам заходзіць сюды... Жыву побач – на наступнай лаўцы, дакладней – побач з ёй... на траўцы... пад кустом лапчаткі фруктыкозы. У мяне самы прыгожы куст. Квітнее, х-ха-а!..

М э р *(пацiснуў Невядомаму руку).*Там і знойдзем, калі трэба будзе. Да сустрэчы!

Н е в я д о м ы. Дамовіліся. Заходзьце таксама, калі што. Стукацца не трэба.*(Знікае).*

*Мэр узяў скрыпку і, шырока размахнуўшыся, хацеў закінуць яе як мага далей, але потым яго нешта спыніла...*

*І ён пайшоў разам з ёй.*

6.

*У майстэрні скульптара. Праз акно залазяць Хлебарэз, Электрык і Рэшата.*

Э л е к т р ы к. Паціхенечку, памаленечку... і ўцягнулі, здаецца, мяне ў свае афэры! Малайчыны, у гэтым вам не адмовіш. Вя-лі-кія спецыялісты!.. Чаго не ўбачыш, і когці пылам пакрыюцца.

Х л е б а р э з. А як я вас шугануў? Здорава,а?

Э л е к т р ы к. Каго гэта нас? А не мы цябе, хіба?

Х л е б а р э з. Ды я ў мех сам залез і сам вылез. Бываюць ж спальныя мяхі. А чым той быў не спальны? Выспаўся ўволю. Так, вось гэты тыпус чамусьці маўчыць і маўчыць? *(Піхнуў Рэшата).* Скажы хоць слова!

Р э ш а т а. А чаго гаварыць, калі і так зразумела, як божы дзень: вы тады незразумела каго спужаліся, таму што дурні!.. Мяне ж з вамі не было!..

Э л е к т р ы к. Ах, так!..

Х л е б а р э з. То-та ж!.. Крута, а!..

Г о л а с   С к р ы п к і. Не цягніце ката за хвост, як гаворыць вядомая вам усім мадам, гэта значыць –я!  Надакучыла чакаць! Падавайце ў акно класікаў!..

Э л е к т р ы к. Панясем так, без мяхоў.

*Падаюць у акно бюсты Скрыпцы, а потым выбіраюцца  і самі.*

Х л е б а р э з *(выціраючы рукі).* Амба! Тут больш рабіць няма чаго! Героі стагоддзя, або, як гаворыць Скрыпка, класікі,  перавандравалі на новае месца жыхарства!.. У элітны дом!.. Усе!.. Да аднога!.. Калі б не яны, ад нас бы даўно нічога не засталося!.. А так яны, самі таго не падазраючы, працягваюць нас карміць...Ам-ам-ам!.. Дзя-куй!..

Э л е к т р ы к. Не карміць, а паіць, Хлебарэз!..

7.

*У скверыку. На лаўцы, скурчыўшыся, спіць Мэр. Ён у ранейшай абдрыпанай адзежы.*

*Праспаўшыся, канцэртна-разбойніцкая брыгада на чале са Скрыпкай, праходзіць побач з такой асцярожнасцю, амаль крадком, каб не разбудзіць Мэра, і стварае кабінет –  ён набывае ранейшы выгляд. Скрыпка махае, каб усе знікалі. Яе слухаюцца.*

С к р ы п к а *(кашляе).* Кхе-кхе!..

М э р. Вам зусім мала засталося жыць. Кашаль падазроны. А я столькі марыў!.. *(Устаў).* Хлопец! Што з хлопца возьмеш!..

С к р ы п к а.   Мне сорамна...

М э р. Нават так? Цікава!..

С к р ы п к а.  Паверце, Мэр. Сорамна.

М э р. А з чаго б гэта вам сорамна было? Ну, пагулялі. Дык у вас гэта звычайная з'ява. Ці я, можа,  штосьці  не тое сказаў?

С к р ы п к а. Ну, добра сказалі... без скрыпкі засталася... Д’ябал з ёй, са скрыпкай! Я яе, дарэчы, часта губляю. Але яшчэ больш знаходжу. Дзве скрыпкі – гэта ўжо задужа!.. Для горада годзе і адной... Мяне. Сукенкі, якую вы мне набылі, шкада. І басаножак. Усё было, як на мяне. У вас і вока, Мэр, скажу!.. *(Раптам зацікаўлена).* А там, у пакеце, больш нічога не мелася?

М э р. Туалетная вада.

С к р ы п к а *(пякуча-злосна).* Сво… сволач!.. Нягоднік!.. Падонак!.. Адшчапенец! Засранец, у канцы канцоў!.. А я думаю, чым гэта Хлебарэз апахмяліўся, паганая рожа?! Дзе?! Хаця б капнуў, вырадак!

*Паўза.*

Пагулялі!.. На прыёме так нікога і не было? Мэ-э-р!..

М э р. Чаму ж… Мятла… Мятла прыходзіла. Цікавая жанчына…

С к р ы п к а. Цікавая? Жанчына?.. І гэта ў той час, калі я была ў накауце, тут швэндалася тая распусніца?! У прыёмнай?! Адзін на адзін?! Калі Мэр быў у такім прыкідзе?! Ды я ёй, разваліне той, усе апошнія кудзеркі павышморгваю! Па адной! Дзе яна? Дзе-е-е?!.. Пакажыце мне яе шкілет!.. *(Выбягае).*

*З'яўляецца Электрык. Энергічны, ветлівы.*

Э л е к т р ы к. Ну, як па маёй лініі? Прэтэнзій няма?

М э р. Ды няма, здаецца…

Э л е к т р ы к. І не павінна быць! *(Агледзеўшыся па баках).* Ваша заданне выканана. Помнікі, або бюсты… гэта ўжо вы самыя разбірайцеся, у надзейным месцы… Калі я сёння іх не заганю вам, то іх загоняць без мяне… толькі не вам. Ніхто не ў курсе, ніхто!.. А?

М э р. А як Скульптар? Дзе ён?

Э л е к т р ы к. Ляжыць і ляжыць.

М э р. П'е?

Э л е к т р ы к. І гэта самае… Замкнуўся, сціснуўся, як вожык!.. І ні слова!..

М э р. Зразумела. Толькі глядзі, каб усе бюсты былі ў наяўнасці і не пашкоджаныя. За кожны адказваеш асабіста.

Э л е к т р ы к. А навошта яны вам, Мэр?

М э р. Не мне – іншым.

Э л е к т р ы к. Ну, іншым?

М э р. Усё так проста і банальна, што і гаварыць на гэтую тэму не хочацца. А калі ўжо і гаварыць, то трэба шмат і аб усім па парадку. Пачынаючы… Ну, ды добра.

Э л е к т р ы к. Вам, як гаворыцца, са званіцы відней.

М э р. Дзякуй за паразуменне.  А сама цяганіна хоць бы з тымі бюстамі – не больш, як авантура, але авантура, зыходзячы з таго становішча, якое склалася вакол Скульптара… Таму добрая авантура. Дзякуючы нам з табой.

Э л е к т р ы к. Я усё зразумеў.

М э р. Так, і яшчэ адно: не ўцягніся… Многім, на вялікі жаль, падабаецца такое жыццё… Ні начальства табе, ні рабочага дня, ні падатковых  і розных там іншых інспекцый… Адзін былы вялікі начальнік сказаў неяк мне: «Я сябе шчаслівым чалавекам адчуваю толькі ў піўной!»  З былых, праўда… Сва-бо-да! Няхай і з брудным, да непазнавальнасці, тварам. А сваім скажаш, што пакупніка знайшоў… вось грошы… Гэта азначае, што ў наступную сераду  таксама прыёму не будзе…

Э л е к т р ы к *(узяў грошы).* На пару дзён і начэй хопіць…

М э р. Гэтых пару дзён і мяне не будзе ў горадзе. Нешчаслівы дзень серада…Ну, выбралі б аўторак… Якая розніца? Скрыпцы дапаможаш згарнуць мой кабінет. Толькі не падвядзі мяне.

Э л е к т р ы к. Будзе зроблена, Мэр!.. *(Уваходзіць у ранейшую ролю).* Пытанняў няма. Лямпачкі гараць. Званочкі бомкаюць.. Ці-лі, ці-лі!.. Гэта нам не задавалі, гэта мы не праходзілі!.. *(Знікае).*

*З'яўляюцца, штурхаючыся, Скрыпка і Мятла.*

С к р ы п к а. Давай, давай!.. Варушыся, карзіна, у якой і бульбу ўжо насіць нельга!..

М я т л а. Прыбяры рукі, а то пратыкну!.. Рукі, я сказала!..

С к р ы п к а.  Раскаркалася!..

М я т л а. Сама запісала на прыём, а потым прычапілася: навошта прыходзіла? Яшчэ сказала, для масавасці… Я, дурніца і пагадзілася.

С к р ы п к а. Што ты брэшаш, што ты брэшаш!.. І не сорамна?..

М я т л а. Ну, і гэта парадкі, Мэр?

С к р ы п к а. Мэра не чапаць! Я за яго!.. Спачатку ты павінна была прайсці праз мяне…

М я т л а. Я праз цябе пераступіла… Падняла нагу, на імгненне затрымалася, і патупала далей… Ты ляжала… Можа, я нават і  не заўважыла цябе… калі вось яго, Мэра,  такім прыбраным… як Дэлон….. убачыла… Я ў тое імгненне страціла розум і больш нічога не помню… Клёва ты шлёпнулася!..

С к р ы п к а. Дура! Ты дура, і ўсяго-та!..

М я т л а. Не, не скажы, Скрыпка, як убачыла Мэра ў ранейшай адзежы, я сябе такой не палічыла.

С к р ы п к а *(Мэру).* Вы ёй нічога не абяцалі?

М э р. Усе мэры нешта народу абяцаюць. І я, спадзяюся, не выключэнне.

С к р ы п к а. І вы хочаце сказаць, што такія, як Мятла, – народ?!

М э р. Так, так: народ. Вядома. Канешне.

М я т л а *(пераможна – Скрыпцы).* Што, з’ела?

С к р ы п к а. Ой, Госпадзі!.. Каго з сябе толькі корчыць? Каго з сябе мніць, Божа!.. Ды яна ж яшчэ нядаўна, Мэр, вы паслухайце толькі, у краме з манекенамі віталася!.. І кожнаму руку цягнула. Гразкую. А калі ёй падказалі, што гэта манекены, яны не жывыя, дык яна тыцнула пальцам на касіршу: а вунь той манекен, гляньце толькі, нават пазяхае!..

М я т л а. Затое ты гарадская, прама няма куды!.. Мурмазель!..

С к р ы п к а. Скажы лепш, Мятла, Мэру тое, што мне сказала? Наконт кахання?..

М я т л а. А я ўзяла ды і перадумала. Калі Мэр у такім уборы, мне яго не хочацца... Ён стаў такім, як усё... Як Хлебарэз, як Зялёны Змій, як Рэшата... Вось калі б ён не пераапрануўся, яшчэ пафарсіў, тады я падумала б!.. А так мне яго не хочацца!..*(Знікае).*

*Скрыпка раптам зарыдала.*

М э р. Дзіўная вы жанчына, Скрыпка!..

С к р ы п к а *(зацікаўлена).* Дзіўная? Ці мне пачулася?

М э р. Не. Не пачулася. Дзіўная.

С к р ы п к а. Тады дайце мне, Мэр, даведку, што я дзіўная жанчына, а то ўсе гавораць, што я гуляшчая...(або: прастытутка). А?

М э р. Такія даведкі не выдаю.

С к р ы п к а. Ну хоць што зрабіце для мяне, Мэр! Нават гадасць можна! Любую! Абы яна была ад мужчыны!.. Пабіце мяне, Мэр! Як мужык бабу! Пакалаціце! Нібы за здраду! Прыдумайце што! Прашу вас! Малю! Ну, пабіце ж мяне, пабіце!.. Я не цыганка і вы не цыган, а раптам атрымаецца, што на шчасце?..

М э р. Калі б вы былі маёй, я б зрабіў гэта. І з задавальненнем. А так – прабачце, не магу.

С к р ы п к а.   А ваша жонка дзе?

М э р. Я не жанаты.

С к р ы п к а. Хм!.. Мэр, і не жанаты! А хто ж тады жанаты? Хто? А быў хаця б?..

М э р. Вядома.

С к р ы п к а. Быў… І я была замужам.

М э р. Я ведаю.

С к р ы п к а. Нават гэта ведаеце? Тады вы сапраўдны мэр! А Мятла, старая торба, нюх мае, адразу сцяміць, хто жанаты, хто не…

М э р. Мятла мяне не цікавіць. Зусім.

С к р ы п к а *( какетліва).* Я, ці што, скажаце, цікаўлю вас?

М э р. Прадстаўце, так.

С к р ы п к а. Гляньце, аднак!..  Не магу… не магу ўявіць… Плыву, здаецца, плыву… пад пунсовымі ветразямі… Як Асоль!.. Госпадзі-і, якая на моры смуга!.. *(І раптам  губляе прытомнасць, упасці не паспела, яе падтрымаў Мэр).*

М э р. Дапамажыце!.. Вады!.. Чалавеку кепска!.. Вады!..

*З пластыкавай бутэлькай з'явілася Мятла, але ўбачыўшы, каму кепска, спынілася і  нахабна вылівае ваду перад сабой… З'яўляецца Электрык, выхоплівае ў яе бутэльку,  імкнецца даць вады Скрыпцы. А Мятла дубасіць Электрыка па спіне… А калі выдыхлася, прыпала, нібы прыліпла, да спіны Электрыка. Ён так і пайшоў, валакучы яе за сабой…*

8.

*У скверыку. Падыходзіць да стала і садзіцца на табурэтку, прыбраўшы перад гэтым абрус і накідку, Мэр. Побач у бачку для смецця калупаецца Хлебарэз.*

*З'явіўся Электрык.*

Э л е к т р ы к. Двое сутак прайшлі, Мэр!

М э р. Усе жывыя, здаровыя?

Э л е к т р ы к. Мяркуючы па тым, што ў бачку са смеццем корпаецца Хлеборез,– так!

Х л е б а р э з *(адшукаў у бачку барабан і дзве палачкі. Мэру).* Атрыбутыка, Мэр! Барабан! Відаць, піянерскі!.. *(Падыходзіць да Мэра, ляпае палачкамі).* Амаль як новы. Магу прадаць!

Э л е к т р ы к. Усё выкідваюць! Усё!..

Х л е б а р е з. Ага, на звалку гісторыі!.. Набудзеце, Мэр?..

М э р. Для якой мэты?

Х л е б а р э з. Каб я і іншыя з галадухі не памёрлі.

М э р. А ты чуў калі-небудзь, што рыбаку трэба даваць не рыбу, а вуду?

Х л е б а р э з. Лепш рыбу!

М э р. А я думаю, як усе: наадварот.

Х л е б а р э з. Кожны абормот думае наадварот. *(Спахапіўся).* Ой, прабачце! Прабачце, таварыш Мэр! Глыбока і сардэчна каюся!.. Раней вершыкі складаў. Рыфма іншы раз так і прэ. «Судьба у женщин непроста, но вечно склонна к укоризне. То нету в жизни мужика, то есть мужик, но нету жизни…» А?

Э л е к т р ы к. Хлебарэз будзе доўга байкі баіць. Я пабягу.

М э р. Давай, давай, Электрык.

*Электрык выходзіць, Хлебарэз праводзіць яго здзіўленым позіркам.*

Х л е б а р э з. Куды гэта ён? Ды і Бог з ім, няхай чухае. Набудзеце, а?

М э р. Што, барабан або палачкі?

Х л е б а р э з. А па асобнасці не прадаецца! Раскамплектую! Толькі ў камплекце!

М э р. Добра, я падумаю. Пакладзіце барабан на лаву.

Х л е б а р э з. Вось гэта мужчынская размова! Вось гэта Мэр! А ў сапраўднай мэрыі, па-першае, ніхто б гэтае барахло не набыў, а, па-другое, тыдзень трэба было б хадзіць па кабінетах подпісы і пячаткі збіраць… А тут адразу – бац, і парадак!.. *(Паклаў барабан на лаўку).* Сюды? Правільна?

М э р. Асабліва таксама не радуйцеся.

Х л е б а р э з. Чаму? Не дайшло. Пачакай, камандзір, да мяне не дастала, га?

М э р. Змагу ўзяць у вас усё гэта, калі нам спатрэбіцца.

Х л е б а р э з. Не зразумеў! Крута, аднак! Блін, а! То бяру, то не? А я ўжо і губу раскатаў!.. А куды яно можа спатрэбіцца, гэта? Тым больш нам? *(Раптам павесялеў).* Паслухай, Мэр!.. Паехаў я неяк на юбілей школы… з адным палкоўнікам… Ён у форме, пры ордэнах… Як і належыць вайскоўцу… выходзіць на сцэну, пару слоў бразнуў, а потым як пачаў граматы раздаваць – толькі што сцены школы не смяяліся. У вас, пытае, піянерская арганізацыя ёсць? Яму не ведаюць, што адказаць… Дырэктрыса трапляе ў недарэчную сітуацыю, паціскае толькі плячыма: ды быццам бы і ёсць… быццам бы і няма… сама, маўляў, не ведаю… А палкоўнік: «Узнагароджваецца піянерская арганізацыя вашай школы граматай… у гонар юбілею…. Вось, тут яшчэ і партрэт Леніна… уверсе па цэнтры…» І пачаў раздаваць граматы: і камсамольскай арганізацыі, і акцябратам… І чыстых некалькі штук пакінуў, самі, маўляў, узнагародзіцеся, хто пажадае…*(Вытрымаўшы паўзу).* Хаця, можа, яшчэ ўсё вернецца і мы зноў ударым у барабаны, га?.. *(Паўза).* Слухай, Мэр, пазычце на гадасць якую?

М э р. Хто бачыў, каб я калі піў?

Х л е б а р э з. Любы мэр п'е так, што гэтага ніхто не бачыць. Любы. Што ён, са мной стане?.. З Хлебарэзам?

М э р. А ўяві, што ўсе раптам з табой і сталі? Усе! І мэры, і слесары, і навукоўцы, і студэнты!.. Уявіў?

Х л е б а р э з. Не магу. Як толькі вочы заплюсну… хлеб рэжу на кухні… І нічога больш!..

М э р. А я добра ўяўляю. І паднялі куфлі з півам! Усё кінулі, а куфлі ўзялі!..

Х л е б а р э з. Мабыць, тады ён і надыдзе канец свету…

М э р. А малайчына, малайчына!..

Х л е б а р э з. Калі б не выратавальнікі, то ўжо не было б даўным даўно і мяне, вырадка. З перапою па мосце я ішоў тады праз рэчку… пешаходны мост… пры вас і пабудаваны быў… амаль што на маю пагібель… А мне падалося, што сотні рук з вады цягнуцца да мяне, а ў руках тых так прыгожа пеняцца куфлі з півам… Давай, гавораць, Хлебарэз, налятай!.. Дарэмшчына!.. Скачы!.. Ну, я і шугануў!.. Не раздумваючы!..*(Вытрымаўшы паўзу).* А калі б цвярозы быў, разбіўся б і гаварыць няма чаго! Так што зрабіце, Мэр, рэзюмэ.

М э р. Калі б цвярозы быў, не скокнуў бы.

Х л е б а р э з. Але ж не быў! І жывы! Вось у чым стрыжань!..

*З'яўляецца Скрыпка.*

С к р ы п к а. Дакладваю, Мэр: Хлебарэз тут, вось ён, астатнія выйшлі. На падыходзе. Пасля бюстаў адзін цягне нагу, не можа ступаць шырокім крокам, іншы не можа дыхаць на поўныя грудзі – пры нявысветленых абставінах пашкоджаны ніжнія канечнасці і рэбры… На трох чалавек васемнаццаць болек. Хлебарэз, а ты як?

Х л е б а р э з. Ды я што! Вунь барабан адкапаў. Да тваёй скрыпкі, можа, яшчэ і барабан прышпандорым, а , Скрыпка? Дзве палачкі ёсць. Добрыя.

С к р ы п к а. Сказала б я, куды тыя палачкі падзець, ды пры Мэру няёмка.

Х л е б а р э з. Ну, як хочаш… А то быў бы аркестр. Дзве гітары тры струна. А куды гэта вы, гляджу, намыліліся?

*З'явіўся Электрык. Паклаў пакункі на стол.*

Э л е к т р ы к. Чатыры камплекты.

М э р. Дзякуй. *(Скрыпцы).* Прабачце, вы свой камплект атрымалі раней.

*З'яўляюцца Мятла, Рэшата і Зялёны Змій.*

С к р ы п к а. Хопіць і чатырох! У-у!..

М я т л а. Калі і мне тут нешта ёсць, я ў свой зубамі ўчаплюся!.. А што тут, Мэр?

С к р ы п к а. Хопіць і трох…

М э р. Не, зараз будзе ўсё інакш. Паедзеце ў лазню, пабудзеце ў цырульні, у касметычным салоне…

С к р ы п к а. Хто любіць свой народ, той павінен звадзіць яго ў лазню! Ці не Гейне? Хаця ўсё роўна бязглуздзіца!.. Мэр!.. Але я ж не была ў касметычным? І нават у цырульні?

М э р. Твой візіт туды прадугледжаны.

С к р ы п к а. Прыгожа, так? Вось у гэтым рыззі, і з прычоскай! Х-ха-ха-ха-а! Прывітанне, Скрыпка! Ты адкуль такая ўзялася? Дзе была, з кім

вялася? Мэр, вярні скрыпку! Пасля лазні... За ўзнагароду... А? *(Млява пацягнулася).*

Р э ш а т а. А хто ў мяне папытаў, цягне Рэшата ў тую лазню або не?

М я т л а. Таксама правільна! Мы што, у дзіцячым доме жывем?

З я л ё н ы З м і й. Альбо дзе?

Р э ш а т а. Ці, можа, у турме?

М э р. Ды ў турме лепей, відаць. Толькі што за тэрыторыю не выйдзеш. Але я ўпэўнены, што ў такім выглядзе, да якога вы дажыліся, ні адзін зэк не выйшаў бы за прахадную, расхіні насцеж браму! Пасаромеўся б! Яй-богу! У іх ёсць гонар, ёсць!.. А ў вас?

Х л е б а р э з. А, між іншым, Мэр мае рацыю. Я і там хлебарэзам быў...

М э р. Разбярыце пакункі. Жаночы падпісаны. Ды паспяшайцеся давайце!..

*Мятла ўзяла пакунак і адышла ў бок. Потым гэта зрабіў Хлеборэз. Рэшата і Зялёны Змій не рашаюцца.*

Р э ш а т а. Я лянуюся ў лазні мыцца, Мэр. Лянуюся, і ўсё!.. Мне горача там!.. Здаецца, што запаўзаю ў доменную печ!..

З я л ё н ы З м і й. І я. І я, Мэр!.. Ды і спіну некаму пацерці!..

М э р. Спіну, гаворыце, некаму?.. Вам дапаможа гэта зрабіць адзін чалавек...

З я л ё н ы З м і й. Што за тып?

Р э ш а т а. Або, магчыма, тыпуша? Х-ха-ха-ха-а-а!..

М э р. Не, тып. Не тыпуша, Рэшата. Макараў Раман Васільевіч...

*Усе ўздыхнулі і выдыхнулі. Мятла адразу зарыдала, адышла яшчэ далей.*

Р э ш а т а. Ён жа памёр... Яшчэ, памятаю, пахаванне праспаў...

З я л ё н ы З м і й. Так. На маіх вачах... у падвале ДК... уначы...

М я т л а. Добры быў дзед. Заўсёды мяне абараняў, хаця не заўсёды і атрымлівалася ў яго... Вось такія, як гэтыя, білі Васільевіча, білі!... *(Таўчэ кулакамі па чарзе то Рэшата, то Зялёнага Змія, тыя пакорліва прымаюць яе помсту).* Сволачы!.. Гады!.. Вырадкі праклятыя!..

М э р. Ведаю. Усё я ведаю... Ён мне перад смерцю даслаў пісьмо... Вось яно. Хто цікавіцца, магу даць прачытаць. Хаця яно і асабістае. Раман Васільевіч – мой бацька...

*Гнятлівая паўза.*

С к р ы п к а. Дагуляліся!..

З я л ё н ы З м і й. Браткі, недарэчнасць нейкая!.. Баця Мэра з намі жыў, бамжаваў, а мы і не ведалі? Ды і які б сын, займаючы такі пост, дапусціў бы такое з родным чалавекам? А? Туфта!.. Ерась!.. Не верце!..

Р э ш а т а. Хаця Васільевіч язык за зубамі ўмеў трымаць... Ну, калі так гаворыць сам Мэр, дык у чым справа? Не нам правяраць і дазнанні весці. На ўсе нас не хопіць. Калі ў разабраным стане... як спісаны трактар... Дзе мой пакунак? (*Падышоў да стала, узяў пакунак).* Рэшата свой пакунак узяў. Зялёны Змій, а ты чаго ж?..

З я л ё н ы З м і й. Куды спяшацца?

М я т л а. Прачытайце ліст, Мэр... Я кахала яго, Рамана Васільевіча, хоць ён і старэй нашмат мяне быў... А лепш яго чалавека я не сустракала... ніколі не сустракала... Можа, калі толькі вось цяпер?.. *(Скрыпка загарадзіла яе сабой – так, каб не бачыў Мэр).*

*Але Мэр нічога гэтага не бачыць. Ён выходзіць.*

С к р ы п к а *(услед, гучна).* Дык вы Мэр або хто?!..

*За Мэрам знікаюць і ўсе астатнія. У адзін бок. Акрамя Скрыпкі. Прыхапіўшы пакунак, бяжыць за імі і Зялёны Змей...*

## **Д з е я д р у г а я**

9.

*У скверыку. Тут усё бяздомныя пасля лазні, цырульні і касметычнага салона. У новым адзенні, чыстыя, прыгожыя. З іх вылучаецца толькі Скрыпка. Яна прывяла толькі твар ў парадак, але ў старой вопратцы. Таму адчувае сябе не толькі пакрыўджанай, але і не ў сваёй талерцы. І такое ўражанне, што не ведае, куды падзець скрыпку.*

С к р ы п к а *(рашуча).* Я для такой публікі не граю! Сказала ж!.. Яшчэ тады!..

*З'яўляецца Мэр, ён таксама ў новай адзежы.*

М э р. Садзіцеся. Хто дзе.

*Але ніхто не асмельваецца сесці – баяцца запэцкаць адзенне аб тыя лаўкі, на якіх калісьці елі, пілі, спалі. Таму сноўдаюцца туды-сюды ў нерашучасці.*

М э р. Садзіцеся, садзіцеся, спадары. Будзьце смялейшымі.

*Ніхто па-ранейшаму не рашаецца сесці, і ўсё, як адзін, касавураццa на лаўкі з асаблівай з пагардай.*

С к р ы п к а *(не проста села, а плюхнулася).* А мне можна!..

М э р. Пытанні да мяне ёсць?

М я т л а. А што далей, Мэр?

З я л ё н ы З м і й. Выпіць жа хочацца!

Р э ш а т а. І паесці.

М э р. Для вас заказаны абед у гатэлі «Турыст».

*Мужчыны паапладыравалі.*

С к р ы п к а. І для мяне?

М э р. Для вас не.

С к р ы п к а. Ну, блін! Я так і ведала!..

М э р. У такім адзенні, якая на вас, у рэстаран не пусцяць.

С к р ы п к а. Ды я прарвуся, Мэр! Вы толькі закажыце! Вы што, мяне дагэтуль яшчэ не ведаеце?

М э р. Прашу лішніх пытанняў мне больш не задаваць. А пасля рэстарана чакаю ўсіх тут.

Х л е б а р э з. Зялёнаму Змію вы не адказалі, Мэр. Дык гэта... абед з гэтым?.. *(Шчоўкнуў па горле).*

З я л ё н ы З м і й. Так?

М э р. На гэта траціць грошы не магу. Не прадугледжана.

Р э ш а т а. Дык што, мэры п'юць толькі за свае? Калі госці ў іх, напрыклад?

Х л е б а р э з. Вось-вось!..

М э р. І вы на Мэра? Правільна, мудра гавораць разумныя людзі: не накарміўшы, не напаіўшы, ворага не нажывеш!

М я т л а. Ды што вы іх слухаецеся, Мэр! Вымятайцеся, мурзатыя амазоны! У якім баку рэстаран, Мэр?

М э р. Вас адвязуць і прывязуць. Не турбуйцеся.

М я т л а. Зразумела.*(Да ўсіх).* Вам зразумела?

Х л е б а р э з. Ды чаго ўжо!.. Не хлеб рэзаць!..

М я т л а. Ім зразумела, Мэр.

С к р ы п к а. А чаго гэта ты, венік абшчыпаны, размэркалася?

*Паўза.*

Ні ў гэтага стала пытаюць, між іншым?

М я т л а. Забылася ў цябе папытаць дазволу. Улічу.

С к р ы п к а. Улічы. А то і скрыпкі не пашкадую.

Х л е б а р э з. Ну, бабы! Мэр, ганарыцеся! А ў бок Хлебарэза ні аднога інтымнага погляду. Хаця і прыфранціўся, адчуваю прыліў крыві, так сказаць!..

М э р. Далей. Пакуль ёсць час, а ў мяне грошы, сёння начаваць будзеце на турбазе… за горадам…

С к р ы п к а. А я?

М э р. А вы – тут, на лаўцы.

С к р ы п к а. Кат! *(Раптам падлашчваецца).* А самі дзе, таварыш Мэр?

М э р. Разам з ўсімі.

М я т л а. Х-ха-ха-ха-а-а!..

С к р ы п к а *(тыцнула Мятле дулю, і тая замоўкла).* Вось! Бачыла?.. З тваім партрэтам?.. На той турбазе вы ўсе пакажаце мне свае дакументы, толькі тады я вас і прапушчу. Я там раней музработнікам была.Там у мяне ўсё схоплена. Усё ўсім зразумела?

*Шум. Мітусня. Бязглуздая балбатня.*

А вам, Мэр, усё зразумела?

М э р. Больш чым, больш чым зразумела!..

*З'яўляецца Электрык.*

Э л е к т р ы к. Стол накрыты!

М э р. Вядзі людзей, а мы са Скрыпкай тут пабудзем.

М я т л а. А, можа, яна, Скрыпка, замест мяне ў рэстаран паедзе,а, Мэр? У мяне яшчэ апетыту няма…

С к р ы п к а. Марш, марш!.. Няма чаго!.. У жыцці павінна быць раўнавага: у адным месцы страціў, у іншым знайшоў.

Х л е б а р э з *(падштурхоўвае Мятлу, якая паспела паказаць Скрыпцы язык і фігурку з трох пальцаў).* Пайшлі, пайшлі, Мятла. Наша справа падмятаць.

М я т л а. І хлеб рэзаць!..

*Усе выходзяць.*

*Доўгая паўза.*

М э р. Крыўдуеш на мяне, Марыя?

С к р ы п к а *(шчыра-здзіўлена).* О!.. Вы нават ведаеце, як мяне зваць?

М э р. Прадстаў сабе, так. Запомніў, як гаворыцца, раз і на ўсё жыццё.

С к р ы п к а. Вось як! І дзе ж я вам так памаячыла, што раз і на ўсё жыццё, а, Мэр?…

М э р *(папраўляе).* Табе…

С к р ы п к а. І дзе ж я табе так прыглянулася? Дзе бліснула-асляпіла сваімі выпукласцямі? Хаця ў маладосці, чаго ўтойваць, была хараша сабою, гэтага не аднімеш!.. Ды я і сёння яшчэ не благая сабою, калі… так-так, але!.. Мяне да стала, як рыбу пад шубай (футрам),прынамсі, не падаваць.

М э р. Я тады ў тэатральным вучыўся…

С к р ы п к а. Дык ты артыст?!

М э р. І прытым, без іллжывай сціпласці, тройчы прастуджаны.

С к р ы п к а. А, разумею, разумею: заслужаны! Сірано дэ Бержэрак. Пачакай, а як жа ты Мэрам стаў?

М э р. А так і стаў. Вельмі проста. Прапанавалі ролю, я і пагадзіўся…

С к р ы п к а. Нас, можа, яшчэ і здымалі скрытай камерай?

М э р. Ды не, да гэтага не дайшло.

С к р ы п к а. Дзякаваць Богу, слава табе Госпадзі!..

М э р. Мне гэтую ролю – Мэра– не рэжысёр прапанаваў, а родны бацька. Ба-ця. Пра яго я гаварыў. Раман Васільевіч. І я пагадзіўся яе сыграць.

С к р ы п к а. Пераўвасабленне – во! Бляск! Ніколі б не падумала, што буду ўцягнута ў такую афёру! Ніколі! І працяг, як я разумею, будзе?

М э р. Калі толькі мне не пашкодзяць. Сям-там закапашыліся пасля нататкі ў газеце. Дзякуй, ты мне вельмі дапамагла, Марыя. Я павінен быў адпомсціць ранейшаму мэру, павінен!.. І зараз усе ў горадзе ведаюць, што мэр, вярнуўшыся з месцаў пазбаўлення, спіўся, стаў звычайным бомжам... такім жа ізгоем, як і яны... А гэта мне і трэба было ўсяго-наўсяго зрабіць! Хапіла адпачынку. Балазе, жнівень, – месяц цёплы. Тым больш, што мне і грыміравацца не трэба было асабліва – я, гавораць, падобны на яго знешне, а паколькі ў сваім горадзе бываю рэдка, толькі наездамі, то мяне мала хто і пазнаў бы... Гады з чалавекам робяць сваю справу, яны яшчэ той грымёр!..

С к р ы п к а. Можна, я цябе буду Мэрам зваць і далей?

М э р. А я цябе – Скрыпкай?

*Смяюцца.*

І гэта не ўсё. Ну, мэру я насаліў, хаця, мне здаецца, грамадскае асуджэнне для рвача і хапугі, – укус камара!

С к р ы п к а. Памыляешся, ох, як памыляешся!.. За тую нататку сяброўку маю выкінулі з газеты, а ты як думаў! Я пра гэта змаўчала, і за вугал бегала той раз для блізіру... Сядзіць ён, сапраўдны былы мэр, хаця і ціха, але моцна: старыя сувязі, сам разумееш. Тады мяне здзіўляе, чаму яго не было яшчэ тут?

М э р. А сам ён не прыйдзе. Ніколі. Ён не з тых. Але ганец будзе. Не сёння, дык заўтра. А я, на вялікі жаль, яшчэ шмат не паспеў. Так што, Марыя, пагаворым... Знойдзем час, і пагаворым!..

С к р ы п к а. Пагаворым, Мэр!.. Пачакай, давай усе ж вернемся да таго, з чаго пачалі? Мне прыемна!..

М э р. Тады я на на некалькі дзён вырваўся з Масквы, і сябар запрасіў мяне на канцэрт у музычнае вучылішча. Там я ўпершыню цябе і ўбачыў... Ты так апантана, узнёсла... ну што там казаць... проста здорава тады грала на скрыпцы!..

С к р ы п к а. Ты памыліўся, Мэр. На скрыпцы я тады не грала. Я на ёй пасля навучылася, калі мяне ў канцэртную брыгаду ад філармоніі

уключылі... і калі моцна ўвайшлі ў маю жыццё, як ты і здагадаўся, застоллі... А на той час я грала на цымбалах.

М э р. Ат, сапраўды! Так, так! Як яны выдатна гучалі тады, тыя цымбалы!.. І з таго моманту ўсярэдзіне ў мяне як зарубка якая – на ўсё жыццё – засталася!.. Я цябе бачыў усяго адзін раз, а кахаў усё жыццё...У маім уяўленні ты жыла заўсёды... як радзімка на целе. З жонкай распісваемся, а цябе бачу замест яе... І ў сне часта цябе таксама абдымаў... Ну, гэта ж не сакрэт....Такое бывае... І нічога не магу з сабой парабіць, нічога!.. Хоць забі!.. І вось звёў нас лёс. Трэба ж!.. Ну, не верыцца!.. Хаця я і не так, гэта зразумела, абстаўляў нашу сустрэчу, у якую, колькі і жыў, верыў.

С к р ы п к а. У той час, калі ў падвале Дома культуры мне сніліся кашмары, хтосьці па мне ўздыхаў?

М э р. Так. Кажу гэта шчыра.

С к р ы п к а. Божа!.. Неверагодна!

М э р. Але факт!..

С к р ы п к а. А давай мы гэтае дзела абмыем, а, Мэр?

М э р. Раней здзіўляўся, як гэта ў космасе караблі сустракаюцца? Ці тыя ж буслы з выраю вяртаюцца на старыя гнёзды? А бывае і не тое!.. Не трэба, нічога не распавядай мне больш пра сябе... Прашу цябе!..

С к р ы п к а. Гэта дрэнна, гэта жудасна несправядліва, Мэр, што я іншых запісвала да цябе на прыём, а мне самой паспавядацца нельга, ліха яго пабяры!.. Як жа – сакратарка!..

М э р. Новага ты мне нічога не скажаш. Тваё жыццё лёгка ўявіць, ты яго сама напісала па вельмі знаёмаму, збітаму сюжэту... Паспрабавала – спадабалася, захапілася і зацягнула...

С к р ы п к а. Лёгка з боку судзіць, лёгка!..

М э р. Прабач, Марыя. Дарэчы, я бачыў цябе сёняшнюю на сцэне. Гады два назад. Ты ўжо прабач, што я прыпомніў... Хаця, вядома ж, і не падазраваў тады аб гэтым, калі ў нас у тэатры ішоў спектакль... Але, што парадаксальна, на сцэне цябе сыграла мая жонка. Атрымала Гран-пры за лепшую жаночую ролю. За цябе – так, выходзіць? За дзяўчыну, якую кахаў яе муж?..

С к р ы п к а. А гаварыў, не жанаты. Усе вы мужыкі хлусы! Як адзін!..

М э р. Я гаварыў праўду.

С к р ы п к а. А, так, так, прыпамінаю: быў?

М э р. Нядаўна, зусім нядаўна стаў адзінокім. Жонка памірала вельмі цяжка, і ў адзін час з бацькам... Таму я і не прыехаў сюды на пахаванне... Не было на каго яе, гаротную, пакінуць... Сюды прыязджаў мой старэйшы брат... Мы ж Галяй былі бяздзетныя, на вялікі жаль... Хвароба веку, і як яна, сволач, здзекуецца над чалавекам!.. Гэта мне прыйшлося пераажыць... Нікому не пажадаю. Нікому.

С к р ы п к а. Нават мэру?

М э р. І яму. Ні-ко-му! Гэта жахліва страшна  так паміраць!..

С к р ы п к а.  Аднак, павароты лёсу!.. Усё ў смузе, усё ў ілжывасці, усё ў брыдоце!.. Божа!.. А чаму ж ты раней не падышоў да мяне? Тады, на канцэрце? Можа, усё б і склалася  па-іншаму?.. Мэр, ну скажы хоць слова?

М э р. Гэта – мая памылка. З ёй, з гэтай памылкай, а зараз ужо і з віной, я і жыву. Не сустрэнь я сваю Галю, магчыма, і яна б жыла... Пражыў я з ёй не кахаючы яе, а яна мяне моцна кахала, таму ўсё жыццё і пакутавала... Пакутаваць – значыць, хварэць... А за хваробай заўсёды стаіць... самая ведаеш што... Так, гэта так: іншы раз памылка аднаго чалавека робіцца непапраўнай для іншага... Можа, гэта і так, Марыя... Можа, і трэба было мне падысці тады да цябе? Пасаромеўся.

С к р ы п к а. Лёс, так атрымліваецца. Ад яго не услізнеш, не схаваешся. Дзяцей і ў мяне не было. А марыла навучыць дачушку ці сыночка на скрыпцы граць. І у першую чаргу чамусьці абавязкова паланэз Агінскага «Развітанне з Радзімай»...

*І наплывае, а потым знікае гэтая мелодыя...*

М э р. Вось і сустрэліся...

С к р ы п к а. А  за што табе трэба было адпомсціць быламу мэру, а, Мэр?

М э р. Як-небудзь потым... Скульптара добра ведаеш?

С к р ы п к а. Яшчэ б! Запіў, нябога. Нічога не есці. Прадставіцца перад тварцом і заступнікам нашым, мусіць. Мала засталося яму...

М э р. Прашу цябе: беражы яго. Я ўсё для яго зрабіў, што мог... Але мне з ім пакуль нельга сустракацца. Ён складаны чалавек, калі верыць бацьку...

С к р ы п к а. Яшчэ б!.. Не тое слова!..

М э р. ... і мяне не зразумее. А хлусіць – нельга... А раптам у мяне не знойдзецца потым часу папрасіць у яго прабачэння? Сама ж гаворыш: хворы. Цяжка хворы...

С к р ы п к а. Стаў яшчэ больш агідны, брыдкі. Мятла за ім прыглядае. Яна і за бацькам тваім прыбірала. Ну, прыбіральшчыца!.. Ёй і карты ў рукі. Ты ўжо прабач, а я не магу, ну не магу!.. У санітары не падыходжу... Вось на скрыпачцы я яму прасвятленне іншы раз на твары зраблю... Толькі, шчыра скажу, сяджу далекавата... на адлегласці позірку і душы... Сам разумееш: не мыецца... няма дзе... а ў падвале ў жніўні няма чым дыхаць: духата!

*З'яўляецца Электрык.*

Э л е к т р ы к *(запыхаўшыся).* Ну!.. Ну!.. Ну!..

М э р. Далей можаш нічога не гаварыць.

С к р ы п к а. Паразбягаліся?

Э л е к т р ы к. Як прусы з каструлі. У розныя бакі. Не пойдзем, заяўляюць у адзін голас, у рэстаран – і ўсё!.. Упёрліся, як аслы!.. Адно і паўтараюць: ды мы ж і ёсці не ўмеем у тым рэстаране! Нам што, людзей смяшыць? І – шухнулі!.. Але навошта тады пагаджаліся? Хаця і я разумею – спачатку змыцца ад Мэра, а потым і зусім збегчы. Мятла, праўда, апошняй пацягнулася некуды... Доўга змагалася з сабой. Нават плакала.

С к р ы п к а. Прабачце, Мэр. Дурны прыклад заразлівы... Прап'юць, канешне ж, адзенне, на мяне гледзячы... *(Выходзіць).*

М э р. Затрымайся, Валянцін.

Э л е к т р ы к. Я слухаю.

М э р. Дзякуй табе, што захаваў усе, што зрабіў Скульптар.

Э л е к т р ы к. Ды гэтых абвесці вакол пальца!.. Налівай, і ўсё!.. Што мужыкі, што бабы!..

М э р. А табе не шкада іх?

Э л е к т р ы к. Шкада, Мэр. Вы пойдзеце з гэтага скверыка, і я звольнюся... Не магу я глядзець на ўсе гэта!.. Хопіць з мяне!.. Хопіць!..

М э р. Дамовіліся. Пойдзем разам, Валянцін. Ты мой пляменнік, і больш абаперціся мне не было на каго.

Э л е к т р ы к. Ды што ж, хіба я не разумею, дзядзька...

М э р. Аднак жа я пакуль яшчэ – начны Мэр. Май гэта на ўвазе...

Э л е к т р ы к.  Разумею.

*Мэр прыгарнуў Электрыка да сабе.*

10.

*У скверыку. Да Мэра  падыходзіць Мятла. Яна ў спяцоўцы.*

М я т л а. Дзякуй, Мэр.

М э р. Няма за што.

М я т л а. Як гэта няма? Ого! А за адзежу. На работу іду... У той, старой і абдрыпанай, са мною і размаўляць не сталі б. Бо чалавека, не мне вам гаварыць,  па адзенні ў нас усё яшчэ сустракаюць, ці не так? Так. Ага.

М э р. Віншую. І куды ж на працу, калі не сакрэт?

М я т л а. Які там сакрэт! У шостае домакіраўніцтва. Мятлу далі новую.

М э р. З маторчыкам?

М я т л а *(смяецца).* Ды ведаю, ведаю я гэты анекдот!.. Дзе вы  бачылі мятлу з маторчыкам? А дзе вы бачылі яўрэя з мятлой? У нас, дарэчы, домакіраўнік яўрэй. Ён гэты анекдот усім расказвае, калі мётлы выдае... Сам, між іншым, выдае, сам... не паверыце...

М э р. Шчаслівa табе, Мятла. А, прабач, як вас завуць?

М я т л а. Калі Мятла – усе ведаюць, ад малога да вялікага. А імя ўсё роўна не запамінаюць. Так што няхай і для вас, Мэр, застануся Мятлой... А я ў рэстаран тады схадзіла. Пераборала страх і вярнулася.  Адна за сталом сядзела. Наелася! Госпадзі!..Каб так усё жыццё!..

*Абодва ўсміхаюцца.*

Пайду я.

*Мэр ківае...*

*Мятла знікае. З'яўляецца Следчы.*

С л е д ч ы. Тут вядзе прыём начны Мэр?

М э р. Так, ваша пытанне адпавядае сапраўднасці . Праходзьце.

С л е д ч ы. А, можа, вы да мяне зойдзеце ў кабінет? Следчы Раброў. *(Паказаў пасведчанне).*

М э р. Калі і ў колькі?

С л е д ч ы. Чакаю праз паўгадзіны. На дзвярах таблічка з маім прозвішчам... Знойдзеце.

М э р. А ў мяне ж і дзвярэй, між іншым, не было! Толькі цяпер заўважыў! Не гаворачы ўжо пра таблічку... *(Смяецца).*

*Уваходзіць нечым усхваляваная Скрыпка. Акуратна, але настойліва адводзіць Следчага ў бок, падыходзіць бліжэй да Мэра.*

М э р. Не трэба... Я усё зразумеў...

С к р ы п к а. Так. Памёр Скульптар... Толькі што...

М э р. Знайдзі Электрыка. Ён ведае, што рабіць...

С к р ы п к а. Зразумела. *(Выходзіць).*

*Адразу ж з'яўляюцца Хлебарэз, Рэшата і Зялёны Змій. У рыззі.*

Х л е б а р э з. Хлеб рэзаць трэба. А хлеба няма. Дайце на хлеб, Мэр.

З я л ё н ы З м і й. Ды і памянуць трэба Скульптара. Добры чалавек быў.

Р э ш а т а. Класны. Нікому нават ніколі па мордзе не даў... Хаця многія і нарываліся. Мне вось мянушку падабраў – Рэшата. Грошы не водзяцца, кішэні дзіравыя – рэшата, адным словам... Галяк!..

З я л ё н ы З м і й. Са мною таксама ў дзесятку трапіў. Зялёны Змій. Гучыць!

М э р *(Следчаму).* А пазней мне нельга да вас? Бачыце, якая сітуацыя? Чалавек мяркуе, а Бог размяркоўвае...

С л е д ч ы. Займайцеся, займайцеся! Я пасяджу... *(Сеў на лаўку, але заўважыў, што яна хістаецца, устаў).*

Х л е б а р э з. Дык што рабіць будзем, Мэр?

М э р. Хлеб нарэжуць без цябе. І памянуць таксама... У рэстаране гасцініцы «Турыст». У такім выглядзе вас туды не пусцяць.

Р э ш а т а. Блін, га!..

З я л ё н ы З м і й. Гаварыў жа, гаварыў!..

Х л е б а р э з. А няма ў вас больш для нас параду, Мэр?

М э р. Усё. Я заняты. Потым пагаворым. А пакуль займайцеся сваімі справамі.

*Хлебарэз, Рэшата і Зялёны Змій разыходзяцца.*

С л е д ч ы. Значыць, Макараў Эдуард Раманавіч?

М э р. Так, усё так. Або проста МЭР.

С л е д ч ы. На вас паступіла заява...

М э р. Ад каго ж, калі не сакрэт?

С л е д ч ы. Яго прозвішча – Невядомы. Піша, што вы не сапраўдны мэр...

М э р. Ах, Невядомы! Яго можна паклікаць. Паклікаць? Ён спіць недзе тут паблізу... на суседняй лаўцы...

С л е д ч ы. Пакуль не трэба. Будзе патрэбны – паклічам.

М э р. Скажу больш, таварыш следчы: я засмучаны... таму што нуль рэакцыі ад сапраўды сапраўднага былога мэра... Ён што – памёр, як вось сёння наш бедалага Скульптар?

С л е д ч ы. Не выходзьце за рамкі нашай размовы. Значыць, ідзем далей. Растлумачце, навошта вы ўсё гэта заварылі? А што да былога сапраўднага мэра, то ён сядзіць на дачы, не чытае газет , не слухае радыё і не глядзіць тэлевізар...

М э р. А толькі п'е?

С л е д ч ы. Вам гэта адкуль вядома? Вы што, сочыце за ім?

М э р. Божа ўратуй! Божа!.. Мне адкуль вядома? Крыўдзіце, следчы! Я месяц пражыў сярод тых, хто не чытае газет, не слухае радыё і не глядзіць тэлевізар. Але ўсе п'юць. Усё, як адзін. Галадаць будуць, а на выпіўку знойдуць. Сто працэнтаў. І ўжо тое, што я прывёў былога мэра ў такое становішча, у якое ён некалі прывёў іх, – гэта ўзнімае мне настрой! Не адмаўляюся!..

С л е д ч ы. Гаворыце, у вас добра атрымліваецца.

М э р. Тры месяцы назад памёр мой бацька, за два дні да яго смерці я атрымаў ад яго ліст... Напісана яно жаночай рукой, але гэта сутнасць справы не мяняе... Проста я яшчэ раз пераканаўся, што ёсць жанчыны мацнейшыя некаторых мужчын... Не балбатлівыя, дарэчы!.. Інакш у мяне б нічога не атрымалася...

*Прайшла, размазваючы слёзы на вачах, Мятла.*

С л е д ч ы. Што пісаў бацька?

М э р. Ён прадаў сваю кватэру, двухпакаёвую, а набыў побач з майстэрняй Скульптара... Такую ж... Толькі на першым паверсе...

Майстэрні скульптараў іншыя паверхі не прызнаюць… Спецыфіка работы… Бацька і Скульптар, трэба заўважыць, былі вялікімі сябрамі, сапраўднымі. Зараз я гэта разумею яшчэ больш. З часам добрыя людзі дапамаглі прыбраць сцяну і злучыць кватэру з майстэрняй… Атрымалася прасторная, добрая майстэрня, у якой яны тварылі і жылі… Аб такой майстэрні Скульптар марыў усё жыццё… У ёй было хаця і цесна, але не гэтак жа, як раней!..

*Электрык, Скрыпка , Хлебарэз, Рэшата і Зялёны Змій прынеслі бюсты, паставілі іх уздоўж алеі, па абодва бакі, і зніклі.*

А мэр падпісвае пастанову, згодна якой у Скульптара адымаюць майстэрню, і ўжо з прыдаткам – з кватэрай, атрымліваецца так, майго бацькі… Ні суды, нічога не дапамагло. Потым, праўда, яго самога судзілі, паколькі паўгорада алкаголікаў таксама засталіся без жылля… не без яго дапамогі… Вось яны цяпер і боўтаюцца тут… бацька прасіў мяне дапамагчы гэтым людзям… Хаця б гэтым…. Я адказаў на ваша пытанне?

С л е д ч ы. Але пакуль вы зрабілі адно – стварылі імідж п'яніцы і бомжа былому мэру, і атрымалася ў вас гэта выдатна. Увесь горад гаворыць. Я яшчэ дзіўлюся, што ў вас ні адной драпінкі на твары.

М э р. Ды ён зламіўся, ён не моцным быў! Чалавек, які такія ўчынкі можа рабіць, як правіла, размазня, слабак!.. Яны толькі ў спіну страляюць і ўцякаюць… З-за вугла…Маглі б і дзеці мне яго драпіны пакінуць…

С л е д ч ы. Маглі б.

М э р. А, можа, яны, дзеці, і за мяне? Не ўсе дзеці бацькоў падтрымліваюць. Бывае, што на барыкадах стаяць і па розныя бакі…

С л е д ч ы. А вы упэўнены, што яго дзеці ў гэтым горадзе жывуць? Можа, яны ў Лондане? У Парыжы?

М э р. Скрыпка даведалася: тут. Але яны нешта не падзялілі паміж сабой, а што, я здагадваюся, і крайні, як заўсёды, апынуўся той, у каго першапачаткова быў сканцэнтраваны сямейны капітал… Бацька!

С л е д ч ы. Магчыма, і так. Хаця я валодаю іншай інфармацыяй… Я, дарэчы, Скульптара таксама ведаў. Шумны ён чалавек. Нярвовы. У апошні час у яго ўжо жудасна як рукі калаціліся…

М э р. Так, з ім нельга было вырашаць ужо ніякія пытанні. Таму я без яго ведама выратаваў яго лепшыя работы. Інакш бы ён мне не даў гэтага зрабіць. Узяў бы малаток у рукі і ўсё знішчыў… Або каго б папрасіў гэта зрабіць… У мяне было адно выйсце – не выходзіць на яго, не паказваць сябе, інакш бы ён скараціў жыццё сваім шэдэўрам… Там жа не толькі былі

бюсты палітыкаў, якія страцілі аўтарытэт у грамадстве, але і дзеячаў культуры, лепшых людзей вобласці і горада…

С л е д ч ы. Шмат бюстаў ён зрабіў… шмат… Гэта агульнавядома.

М э р. А яму не зробяць.

С л е д ч ы. Як? Чаму гэта яму і не зробяць?

М э р. А хто ж яму зробіць? Жонка? Ды яна яго выжыла з кватэры, калі не стаў зарабляць. Бяда многіх творчых людзей у тым, што наступаюць, як непазбежнасць, некалі такія хвіліны, калі яны робяцца імпатэнтамі ў сваёй творчасці, сямейны бюджэт адразу худае, распаўзаецца па швах, і заўсёды вінаватым ва ўсіх грахах і бедах адразу ж становіцца кармілец наш… Хаця звычайныя, нармальныя сем'і і жывуць на звычайныя, нармальныя пенсіі. Але чаго адным хапае, іншым – не. А жонка, сяброўка верная? Можна пражыць і два стагоддзі, так і не зразумееш яе, жонку… А калі зразумееш – ужо позна, поезд, як кажуць, пайшоў… Скульптар, дарэчы, усе свае работы пакінуў на волю лёсу: трушчыце, ламайце, калі нічога гэта дзяржаве не трэба, тады не трэба і мне такая дзяржава… Жорстка? Але – так!.. І вось – памёр… Пайшоў не толькі з жыцця, пакінуў без шкадавання, мусіць, і дзяржаву, якая, дзякуючы такім вось нікчэмным людзям, як былы сапраўдны мэр, для многіх, не толькі для Скульптара, стала чужой… Магчыма, гэта прыватны факт. Аднак жа так…

*Мелодыя скрыпкі. Гучыць паланэз Агінскага «Развітанне з Радзімай».*

С л е д ч ы. Ну, не жонка, дык сябры - скульптары помнік паставяць…

М э р. У таленавітых людзей сяброў не бывае…

*Працягвае гучаць Паланэз.*

*З'яўляецца Невядомы.*

Н е в я д о м ы *(Следчаму).* Ён!.. Ён!.. Ён!.. Не сапраўдны!.. Калі б ён быў сапраўдным мэрам, то даўно выдаў бы мне ліцэнзію на адстрэл і адлоў баброў!.. Баброў развялося – у-у-у!.. Усе дрэвы пагрызуць!.. Разам з «Чырвонай кнігай»! *(Заўважыў бюсты, падышоў да іх, аддаў «чэсць»).* Здравія жадаю, Іосіф Вісарыёнавіч!.. Быў бы ты жывы, я б даўно меў ліцэнзію на адстрэл баброў!.. А мяне год за нос вадзіў мэр, і нуль!.. Нуль!.. Добры дзень, Фелікс Эдмундавіч!.. *(Да Мэра і Следчага).* А чаму бюсты без рук? Дзе рукі? Як гэта я, просты чалавек, магу павітацца з шаноўнымі людзьмі? Я прагну паціснуць ім рукі!.. Рукі… Рукі!.. А ў іх ні рук, нічога, за што б я мог патрымацца!..

*Электрык, Хлебарэз, Мятла, Рэшата і Зялёны Змій забралі бюсты. За імі прыйшла і знікла Скрыпка, не перастаючы граць...*

Дык яны ж... дык яны ж  зусім іх прыбралі!.. Хто дазволіў?.. Хто?.. Хто ў гэтым горадзе гаспадар?.. Дзе мой пісталет ад Макарава?!.. *(Знікае).*

М э р *(услед Невядомаму).* Каб  патрабаваць пісталет у Макарава, яго спачатку трэба даць Макарову!..

11.

*У скверыку. Тут з'яўляюцца ўсё, акрамя Мятлы.*

М э р. Ну, што ж... Не заўсёды ўсё, што не робіцца, да лепшага... У чым я і пераканаўся.  Мне пара. Пакідаю я вас. Абдымацца не будзем... Цалавацца – таксама...

*Скрыпка адвярнулася, усхліпвае...*

*Крыху ў баку падмятае Мятла, спынілася, абаперлася на мятлу, слухае...*

Х л е б а р э з.  Не ездзьце ад нас, Мэр!

М э р. Усё калі-небудзь заканчваецца.

Х л е б а р э з. А нельга  ўсё гэта паўтарыць?

З я л ё н ы  З м і й. Можа, яшчэ сустрэнемся?

Р э ш а т а. А, Мэр?..

С к р ы п к а.  Да вас, Мэр, звяртаюцца?.. Чуеце, да вас!.. *(І зноў адвярнулася, хлімкае).*

М э р.  А для чаго паўтараць, сустракацаа? Для чаго?!.. Адкажыце мне!..

*Паўза.*

Маўчыце? Я пакінуў адрас Скрыпцы. На ўсялякі выпадак. Па дробязях прашу не турбаваць.

*Паўза.*

Прабач, бацька, што не ўсё атрымалася, як ты прасіў... Прабач... *(Накіраваўся да выхаду. Але затрымаў крок, павярнуўся да ўсіх).* Так! Так!.. Жывем толькі раз. Але затое колькі разоў – спачатку?!.. *(Рашуча выходзіць).*

*Мятла спрытна зашкрабала мятлой па тым месцы, дзе пройдзе, больш не азірнуўшыся, начны Мэр... І адаб’е паклон яму...*

*А ўсе так і знерухомелі з ускінутымі ўгору рукамі, не зводзячы вачэй з алеі, па якой пайшоў ад іх чалавек, што з’явіўся ў іх жыцці – як флэш... Быў – і няма...*

*Ліхтар застаўся ўжо па-за іх полем зроку...*

Заслона.

P.S. Flash (англ.) – Флэш – выкарыстаецца слова ў некалькіх значэннях, але ўсе яны добра працуюць на сэнсавую лінію п’есы: успышка, праява пачуццяў, спадзяванне, вельмі кароткі адрэзак часу, асечка, няўдача...

# ПЕРАПРАВА НА КАЗАНЦІП

*П'еса ў дзвюх дзеях*

Д з е й н і ч а ю ц ь:

П я т р о в і ч, стары.

Ю л і я, яго дачка.

Н і к а,

М а к с, маладажоны.

Н е в я д о м ы.

*Час дзеі – нашы дні.*

*Месца – на беразе ракі; на двары; у закінутай хаце.*

**Д з е я п е р ш а я**

1.

*Спадзісты бераг ракі. Добра чуваць, як дзесьці побач пранеслася маторная лодка, і хвалі з шумам нагортваюцца на бераг.*

*Ніка і Макс сядзяць, падкурчыўшы ногі, на пэўнай адлегласці спінамі адзін да аднаго. Па ўсяму відаць, што паміж імі адбылася толькі што перапалка. Першым парушае маўчанне Макс.*

М а к с. Дзе мы зараз?

Н і к а *(буркліва).* На беразе ракі…

М а к с. Ды гэта я бачу і без цябе. *(Падхапіўся, дзёрзка).* Па тваёй віне, між іншым, мы тут!..

Н і к а. А ты дзе быў, расцяпа?

М а к с. Там… там і быў!..

Н і к а. Мог бы ўзяць і заглянуць у мой пашпарт… Хоць раз у жыцці…

М а к с. І зноў я вінаваты! Як што, дык я! Ну… не ведаю!..

Н і к а *(нахабна).* А хто ж?!

М а к с. Табе колькі гадоў, калі пашпарт ужо маецца? Дарослая, значыць! Чаму я павінен кантраляваць кожны твой крок? З якой гэта пары?

Н і к а. Але кантралюеш жа.

М а к с. Часам – так! Жыццё вымушае.

Н і к а. Макс! Супакойся! Ці ты зноў хочаш?..

М а к с. Хачу! Прадстаў сабе!

Н і к а. Ну не тут жа… Птушачкі… Казюрачкі розныя поўзаюць… Не крычы – спугнеш…

М а к с. Я не аб тым, пра што ты думаеш.

Н і к а. Я стамілася думаць.

*Узнімаюцца.*

М а к с. Я хачу, каб ты, нарэшце, не заводзіла мяне. Я не Бумер.

Н і к а. Дарэчы! А ты давяраеш тым людзям, у якіх мы яго пакінулі?

М а к с. Ну магла ж ты ўзяць у рукі пашпарт, перш чым пакласці яго ў сумачку, і зірнуць на свой адбітак? Не ў туалет жа сабралася!..

Н і к а. Я ў цябе пытаю: ты тым людзям давяраеш, у якіх мы пакінулі Бумер?

М а к с. Ды пайшоў ён да д’ябла, той Бумер!

Н і к а. Дарэмна ты так.

М а к с. Здаўсяся б ён мне, Казанціп.

Н і к а. Святое не чапай! У нас не проста паездка, а вясельнае падарожжа.

М а к с. А мяжа, як бачыш, на замку.

Н і к а. Мяжа! Гульня нейкая дарослых людзей. Я, між іншым, і ў тым годзе ездзіла на Казанціп з маміным пашпартам. Дурніца я! Ды не гаварыла я табе, што ў мяне зусім няма пашпарта…

М а к с. Як?!

Н і к а. А так! Згубіла….

М а к с. Нічога не зразумею. Дык а як жа нас распісалі ў ЗАГСе?

Н і к а. Ды замоўкні ты! Даканаў!

М а к с. Дык новы атрымала б пашпарт, калі згубіла? Гэта ж цяпер проста!

Н і к а. Збіралася… А год неяк і праляцеў незаўважна. Ды і падобныя мы з мамай.

М а к с *(з іроніяй).* Ну, так. Як дзве кроплі… Я ведаю. Тая нікаму рота не дае раскрыць, і ты – таксама.

Н і к а. Цешча – гэта таксама святое. Як ты можаш так?

М а к с. А так і магу.

Н і к а. Ай-я-яй, нядобра як!

М а к с. Куды я трапіў?! Фу-у! Мне душна!.. Мне млосна!..

Н і к а. Спаласніся. Балазе, рака побач… Спаласніся, спаласніся!.. А потым туалетнай вадой папырскай на сябе… І будзеш добра пахнуць…

*Пранёсся кацер. Шум хваляў.*

М а к с. Навошта было так рызыкаваць – не зразумею.

Н і к а. Ды я мамкіным пашпартом карысталася, як сваім. Сыходзіла.

М а к с. Да пары да часу.

Н і к а. Хто ж ведаў, што той тып насаты… у-у!.. *(Паказала, які ў таго нос*) на мытні дакалупаецца. "Вам колькі гадоў, мадам?" І пажырае нахабнымі, як у майго шэфа, вачамі. Хто гэта пытае ў жанчыны, колькі ёй гадоў? Ці ў нашай краіне ўсё можна?

М а к с. Збірайся, пайшлі!

Н і к а. Калі б цябе – запомні – не было са мною, я б прайшла мяжу…як два пальцы аб асфальт…

М а к с. Ніка!

Н і к а *(перахплівае ініцыятыву).* Што – Ніка?

М а к с. Мне што, можа вярнуцца ў Піцер? Пакінуць цябе адну?

Н і к а. Ужо позна. Вядзі да паромшчыка, калі ён зусім дзесьці ёсць. Можа, яго наогул прыдумалі, таго старога паромшчыка?

М а к с. Не, ты адкажы мне! *(Сеў).* Нікуды я не пайду, пакуль не адкажаш!..

Н і к а. Ды пайшоў ты!.. Разводзься!.. Адна як-небудзь дабяруся!.. *(Хапае рэчы, знікае).*

*Максу нічога не застаецца, як пацягнуцца ўслед. У яго рэчаў пабольш.*

2.

*Пакой у хаце. Сціплая абстаноўка. Але ёсць тэлевізар. Пятровіч якраз і наладжвае яго. Не атрымліваецца. У сэрцах стукае кулаком па вечку, і тэлевізар вырак некалькі знаёмых фраз з рэпрызы Міхаіла Еўдакімава. І – замоўк.*

П я т р о в і ч. Дзякуй і на гэтым. З мяне, дарэчы, таксама багата не возьмеш. Усё зношваецца, усяму свой тэрмін. Гэтаму тэлевізару не менш гадоў, чым мне, відаць. А Юлька, ліса, таксама мне заладзіла адну і тую ж песню: я цябе, бацька, ажаню. Хопіць халасцяцкі лад жыцця весці. Пад крылцам бабулькі якой-небудзь прыгрэешся, глядзіш, і іншае жыццё пачнецца. А гэта, Юлька, ты бачыла?! *(Тыцнуў кукіш).* Таму і даў дзёру на пераправу. Далей ад цябе, Юлька, далей ад унучкі, далей ад машын, якіх расплодзілася гэтулькі, што дыхаць у тым горадзе нечым. А тут – ціха. Добра тут…

*Тэлевізар вырак некалькі фраз з рэпрызы Алены Сцепаненка.*

П я т р о в і ч *(тэлевізару).* Або замоўкні зусім, або гавары так, як трэба. Адно з двух. Не нярвуй.

*Тэлевізар выбраў першае. Пятровіч вырваў шнур з разеткі.*

П я т р о в і ч. Хвалю. Люблю паслухмяных. *(Займаецца хатнімі клопатамі: налівае ваду ў чайнік, ставіць на плітку; нацягнуў на нос акуляры, перебірае грэчку. Тэлевізару).* Цябе, між іншым, і злодзеі не ўзялі. Так што не храбрыся. Табе, табе, тэлевізар, гавару. Прадукты падчысцілі, а цябе і пальцам не кранулі. А? З'еў? Што скажаш на гэта? Так што нос не задзірай асабліва. Стары, так і скажы. Можна і без цябе пражыць… Без старой жыву… без малага два гады ўжо хутка будзе, і без цябе… як-небудзь… перaтрываем… (Махнуў рукой). Грэчка дробная надта. Карысці з

яе мала будзе. Ну, дый добра. Схаджу снасці праверу. Да рыбы і гэтая грэчка згадзіцца. *(Выходзіць).*

3.

*Пакой у хаце. Стук у дзверы. Стук паўтараецца. З'яўляюцца Ніка і Макс.*

Н і к а. Ёсць хто?

М а к с. Пятровіч! . Яго, я не забыўся, Пятровічам клічуць?

Н і к а *(кліча, не адрэагаваўшы на пытанне Макса).* Пятровіч!

М а к с. Ды тут нікога няма.

Н і к а. Вядома, няма. У гэтай хаціне і схавацца не схаваешся... Ну што будзем рабіць?

М а к с. Чайнік, бачыш?

Н і к а. Бачу. Закіпае. Нас чакаюць, аказваецца?

М а к с. Выйшаў стары, калі вада грэецца. Хутка вернецца.

Н і к а. Будзем атабарвацца.

М а к с. Не прагоніць. Тыя ж людзі і сказалі: Пятровіч – чалавек!

Н і к а. Паглядзім...

*Селі. Маўчаць.*

М а к с. Скажы што-небудзь.

Н і к а. Ды пайшоў ты! "Як дзве кроплі..."

М а к с. Успомніла!

Н і к а. Канешне, успомніла, калі пра маму так.

М а к с. Пра цешчу.

Н і к а. Макс! Ты мяне дастаў сёння, як ніколі!.. Спыніся!..

М а к с. Ты сказала... ну, там, на беразе ракі... Памятаеш?

Н і к а. Што я сказала? Што?

М а к с. "Разводзься".

Н і к а. Ну, дык што ж ты?..

М а к с. Я б, можа, і падумаў…

Н і к а. Вось і падумай…

М а к с. Але ў цябе ж пашпарта няма..

Н і к а. Годзе, годзе здзекавацца!

М а к с. Маўчу, як хек.

Н і к а. Выдатна.

*Паўза.*

М а к с. Тады атрымаецца, што я разводжуся не з той…

Н і к а. А з кім жа?

М а к с. З цешчай, калі па гэтаму пашпарту… які ў цябе…

Н і к а. Ну, блін! Ну ты і Дастаеўскі, аднак!..

М а к с. Яшчэ невядома, хто каго дастаў.

Н і к а. Каго я вязу на Казанціп?!

М а к с. Мяне.

Н і к а. Упасці і не ўстаць!

М а к с. Пераажывеш.

Н і к а. Мне ж там усе так і скажуць: Ніка, каго ты сюды прывезла? Дзе гэты фрукт вырас? На якім дрэве?

М а к с. На какосавым.

Н і к а. Можа, гэта і к лепшаму?..

М а к с. Што?

Н і к а. Табе яшчэ і гэта скажы. На сваю галаву.

М а к с. Ніка! А давай мірыцца?

Н і к а. Які раз ужо сёння?

М а к с. Пачакай, прыпомню. *(Успамінае).* Ну, дапусцім, дзесяты?

Н і к а. Мірыся.

М а к с. Ты гатова?

Н і к а. Я заўсёды гатова! Хоць і ў піянерах не была.

М а к с. Начхаць я хацеў на тых піянераў…

Н і к а. І зноў ты маму зняважыў?

М а к с. Як? Якім чынам?

Н і к а. Яна была не толькі піянеркай, але і працавала піянерважатай.

М а к с. А кім, калі не сакрэт, твая мама не была? Або, дакладней, мая цешча? Кім яна толькі не працавала ў цябе?

Н і к а. У нас.

М а к с. Зразумеў. Будуць зробленыя аргвывады.

Н і к а. Ты ж мірыцца сабраўся. А лезеш у бурбалку.

М а к с. Міруся! Так і быць! *(Абняў Ніку).*

*З'яўляецца Пятровіч са слоікам, у якім плавае жывы рак. Маладажоны адчуваюць сябе ніякавата.*

П я т р о в і ч. Не-не, вы працягвайце. Дзела маладое. А я палюбуюся…

*Маладажоны так і стаяць, абняўшыся.*

П я т р о в і ч *(захапляецца ракам, затым паставіў слоік на стол).* Не гэтым разам, а неяк раней, калі я прыехаў сюды, на прыступках хаты сустракае мяне… хто б вы думалі?..

*Маладажоны паціскаюць плячыма.*

П я т р о в і ч. Маленькі сабачка. Задзірлівы такі. І не пускае мяне… Гаў-гаў!.. Я тут наездамі бываю… І за той час, пакуль адсутнічаў, сабачаня аблюбаваў маё старае рачное жыллё і стаў тут паўнапраўным, як яму здавалася, гаспадаром… Свята месца пуста не бывае… Што ён тут еў – незразумела, што піў… ну, вады, прынамсі, хапае… раку ніяк нельга выпіць… а крычыць так ліха, гатовы мяне прама за нагу цапнуць…. Голас у яго дужа звонкі быў. І злы. Як усё роўна на ўвесь белы свет пакрыўджаны. Ледзь угаварыў яго, каб упусціў…

Н і к а *(з’ёжыўшыся).* Добры дзень.

М а к с. Ага. Добры…

П я т р о в і ч *(кіўнуў).* Так што мне не ўпершыню, так сказаць… Вы, я бачу, меней агрэсіўныя, чым той палкан. Зараз чайком я вас пачастую. На вішні і маліnніку завараны. Смак.

Н і к а. Нам няма калі, вялікі дзякуй…

М а к с. Мы зусім не за гарбатай да вас.

П я т р о в і ч. Гасцей трэба сустракаць прыветна. Садзіцеся, на што ёсць. У нагах, гавораць, праўды няма.

*Ніка і Макс сядаюць. Петровіч рыхтуе гарбату.*

М а к с. Гэта што ў слоіку?

Н і к а. Рак, дурань.

П я т р о в і ч. Рак, правільна. З'явіліся ракі яшчэ летась. Доўга не было іх, а вось узялі і з'явіліся. Вада, значыць, чыстая. А рыбы мала. Няма, можна сказаць. Я б за электравуды ў турму садзіў нягоднікаў.

М а к с. Можна яго патрымаць?

П я т р о в і ч. Дзяўчыну трымаеш неблага, можна і рака.

*Ніка пырскнула смехам. Макс разглядвае рака.*

М а к с. Першы раз бачу жывога рака.

Н і к а. Я толькі чырвоных бачыла. На кірмашы. Па тэліку – не ў залік. І яшчэ я анекдот пра ракаў ведаю. Дакладней, тост.

П я т р о в і ч *(ставіць кубкі на стол, затым налівае ў іх гарбату).* Да чаю як раз і тост спатрэбіцца. Давай, давай свой тост. Паслухаем.

Н і к а. У прафтэхвучылішчы праходзіць конкурс... ну, увогуле, усе пэтэвушнікі дэманструюць сваё майстэрства... чаму навучылі іх і так далей... Журы, як і належыць, на сваіх месцах. Адзін хлапчук нясе на падносе горку смажаных ракаў. І – о, цуд! – усе яны варушацца... як жывыя! Прысудзілі таму першае месца і пытаюць: раскажы вось нам, членам журы, як дабіўся ты такога? Ракі вараныя, а варушацца. А пераможца-пэтэвушнік здзіўлена паціснуў плячыма і адказвае: а што тут такога загадкавага? Я падсунуў пад ніз аднаго жывога рака, ён там варушыцца і ўсіх валтузіць... Так што вып'ем гарбаты за вас, дзядуля... можна вас так назваць?

П я т р о в і ч. Калі ласка, калі ласка. Я ж не бабуля, правільна?

М а к с. Цаню за гумар. *(Пааплядыраваў).*

Н і к а. Так што вып'ем гарбату за вас, Пятровіч, каб вы яшчэ доўга і самі варушыліся, і іншых варушылі!..

П я т р о в і ч. Малайчына. Добры тост. Будзем яму падпарадкоўвацца.

Н і к а *( дзьме на кубак з гарбатай).* Пятровіч, мы да вас.

П я т р о в і ч. О! Вы, аказваецца, пра мяне ўсё ведаеце?

Н і к а. Уявім, не ўсё…

М а к с. Я – Макс, яна – Ніка. Выручайце нас.

П я т р о в і ч. Чым жа я вам магу дапамагчы?

Н і к а. Лодкай.

М а к с. Лодкай, так!

П я т р о в і ч. Ніяк на рыбалку сабраліся?

Н і к а. Ратуйце, Пятровіч!

П я т р о в і ч. Растлумачце, у чым справа?

М а к с. Ды ні на якую ні на рыбалку! У нас вясельнае падарожжа. Разумееце?

П я т р о в і ч. Во як! Тады – шчасліва. Колам дарога.

Н і к а. У тым-та справа, што не колам…

М а к с. Мытня сказала: стоп!

П я т р о в і ч. Чым жа вы горшыя за іншых?

Н і к а. Тым, што ў нас грошай упрытык.

М а к с. Мала. Толькі не бензін і на пару бутэрбродаў.

Н і к а. Думалі, на Украіне сала набыць.

М а к с. А што, і з салам бутэрброды – першы сорт. Спрабаваў.

Н і к а. Мне абяцалі даць добра падзарабіць.

П я т р о в і ч. А чаго ж тады ў Тулу са сваім самаварам?

М а к с. Гэта хто, я самавар? Я ў вас пытаю, Пятровіч? Каго ты меў на ўвазе?

П я т р о в і ч. Жартую, жартую. А як яшчэ на моры можна зарабіць грошай? Якім метадам? Наслухаўся я пра тое мора багата чаго…

М а к с. Ды куды ўжо вам знаць!..

П я т р о в і ч. Прабачце мяне, старога дурня…

М а к с. Горача тут!.. Я паветрам падыхаю… (Выходзіць).

П я т р о в і ч. Пакрыўдзіўся?

Н і к а. Не ведаю… Мабыць… Увогуле, Макс крыўдлівы. Але ён хутка адыходзіць. Перапраўце нас, Пятровіч, на Казанціп. А?

П я т р о в і ч *(здзіўлена).* Куды-куды?

Н і к а. На Казанціп.

П я т р о в і ч. Не ведаю, што гэта такое…

Н і к а. Казанціп – гэта мыс такі… на Чорным моры. Там збіраецца найбольш крутая моладзь з ўсіх куткоў былога Саюза. Маладзёжная тусоўка, прасцей кажучы. Дыскатэка. І бавіць час… Нават з далёкага замежжа прыязджаюць хлопцы і дзяўчаты.

П я т р о в і ч. Мілая мая, харошая, але не магу сёння заплысці на сваёй лодцы далей сярэдзіны ракі. Далей – чужая тэрыторыя. Там украінскія пагранічнікі.

Н і к а. А чаму нашых тут не відаць?

П я т р о в і ч. Калі трэба, яны з'явяцца. За гэта ты не хвалюйся. Як з-пад зямлі вырастуць.

Н і к а. А мы на вас так спадзяваліся!

П я т р о в і ч. Чым і магу дапамагчы, дык гэта даць вам начлег.

Н і к а. Дзякуй і на гэтым. Што ж рабіць, а? Што ж рабіць? Нас жа чакаюць! Жах! Горш, мабыць, не бывае, калі паабяцаў, а не зрабіў…

П я т р о в і ч *(рыхтуе пасцель).* Вось тут будзеце спаць. Вам разам?

Н і к а. Вядома. Ужо амаль два гады, як мы пабраліся шлюбам.

*Уваходзіць Макс.*

Н і к а *(уладарна).* Курыў?

М а к с. Ды пайшла ты!..

Н і к а. Мы ж дамовіліся – не курыць.

М а к с. Ды я б і выпіў, калі б хто наліў.

П я т р о в і ч. Магу пачаставаць.

Н і к а. Не, не трэба.

М а к с. А чаго? І вып'ю.

Н і к а. А я сказала: не!

М а к с. Добра, добра, супакойся.

П я т р о в і ч.  Калі ласка, пасцель гатовая.

М а к с. Яшчэ рана.

П я т р о в і ч.  Ваша справа. А я пайду снасці праверу. Каля самой пераправы нічога не было, пуста, а далей месцы больш рыбныя. Спадзяюся, там мне пашанцуе.

М а к с. Пятровіч! А тэлік  што, не кажа?

П я т р о в і ч. Ды ён стары ўжо…

М а к с. Дазволь, я пакалупаюся?

Н і к а. Макс зробіць.

П я т р о в і ч.  Калупайцеся. *(Памкнуўся выйсці, але вярнуўся).* А чаму вас праз мытню не пусцілі, калі не сакрэт?

Н і к а. Макс зараз гарлапаніць пачне.

М а к с *(займаецца тэлевізарам).*  Ды не буду, не буду. З мяне ўжо, падобна на тое, увесь дух выйшаў. Адвёртачку! *(Працягнуў руку ў бок Пятровіча).*

Н і к а. З пашпартамі наблыталі.

П я т р о в і ч  *(уклаў адвёртку ў руку Максу).* Сур'ёзнае што, або так, дробязі?

Н і к а. Дробязі.

М а к с. Нічога сабе – дробязі!

Н і к а. Вось, ужо пачынае заводзіцца.

М а к с. А мне, між іншым, тут, у гэтай каюце,  падабаецца.

Н і к а. Хопіць  папракаць мяне! Я ж год рыхтавалася да казанціпу! Год! Як ты зразумець не можаш, шкодзіна?

М а к с. Уся прастора ў гэтым кубрыку  запоўнена энергіяй трох чалавек. Усяго толькі. І – досыць! А як можна запоўніць сваёй энергіяй, хаця ты і курсы скончыла, велізарную прастору над сінім Чорным морам? Там з гэтым  нікаму не наканавана справіцца….

Н і к а. Ненармальны!

М а к с. Уявім, што так. А хто ж тады ты?

П я т р о в і ч. У мяне тут не лаюцца. У маю прысутнасць.

М а к с. Зразумела.

Н і к а. Больш не будзем.

М а к с. І менш таксама…

Н і к а. Чулі? Вось так заўсёды.

П я т р о в і ч. А што, у нас адна мытня?

Н і к а. Не.

М а к с. Але з доўгім носам мытнік адзін. *(Да Нікі).* Мне сказаць, альбо сама скажаш?

Н і к а. Я паслала яго… на тры літары….

М а к с. Калі б толькі на тры! Ого, што там было! Страх! Уносілі ногі, адным словам.

Н і к а. Ён, той даўганосы, сказаў, што перадасць маё прозвішча на ўсе пераходныя пункты…

М а к с. Поўны хандрэц!

П я т р о в і ч. Так. Тупік. Сапраўды. *(Выйшаў).*

*Макс займаецца тэлевізарам, Ніка прылегла.*

Н і к а. Падушка сенам пахне. Прыгажосць!.

М а к с. Ніка!

Н і к а. Чаго табе?

М а к с. Ну, раз так атрымалася… не па маёй віне, вядома…

Н і к а. Зноў ты за старое?!

М а к с. Прабач: выскачыла. Апошняя надзея, што мы можам пераправіцца з дапамогай Пятровіча, праваліліся.

Н і к а. А чаму ж тады тыя людзі нам сказалі, што гэта ён можа зрабіць?

М а к с. Чаго не ведаю, таго не ведаю.

Н і к а. Не такі, мусіць, Пятровіч, за каго сябе выдае.

М а к с. Усюды – грошы, грошы, грошы. І лепш – баксы. А гэтага ў нас як раз і не маецца. Зробім высновы?

Н і к а. Калі табе так хочацца…

М а к с. Куды мы соўгаемся, на які Казанціп, калі ў кішэні пуста? Я гэта табе хацеў сказаць.

Н і к а. Зарабляй, каб не было пуста. Хто замінае?

М а к с. Ды і на тваё не разгуляешся.

Н і к а. Забеспячэнец – муж, а не жонка.

М а к с. Прабач. Ну, не мільянер. Не жулік. Да таго ж, жыць трэба па сродках.

Н і к а. А хочацца , каб тых сродкаў было як мага больш.

М а к с. Тады трэба было выходзіць за футбаліста. Зараз самы кепскі футбаліст атрымлівае шалёныя грошы. І што цікава, нават сам спонсар свайму намесніку не гаворыць, колькі тым адшпільваюць. Вялікі сакрэт. З Масквы едзе трэнер і абавязкова трох-чатырох цягне за сабой футбалістаў. А ў іх пад'ёмныя – нам не пад'ёмныя!.. Сезон па полі паходзяць, дурня паваляюць, і гут бай!.. Ці за хакеіста вылятай. Адно і тое ж.

Н і к а. Пазнаём!

М а к с. Не думаю, што ён кінецца на жанчыну, якая да яго пабудзе двойчы замужам.

Н і к а. Ну, вось!.. А гаварыў, што пра мой першы шлюб ніколі нагадваць мне не будзеш. Дзе тваё слова, карнік?

М а к с. А ты гаварыла, што ніколі не будзеш дакараць мяне, што мала зарабляю. Галоўнае, не піць. Не п'ю! Ужо трэці дзень як!.. Сыходжу, адчуваю, з розуму!..

Н і к а. Жадала б я бачыць, як ты б павёў сябе на маім месцы. Прыходзіць мой сяржанцік-мент п’яны ў драбадан і абавязкова прысцягне да батарэі наручнікамі. Абавязкова. Балюча ж!.. Ды і папісяць трэба схадзіць… А праспіцца, на карачках поўзае, прабачэння просіць. Ну, не вырадак? Даравала раз, другі… Але ж колькі можна?! Добра, што абразумілася своечасова, адразу пакінула яго… без хваста… Яго потым турнулі з міліцыі.. Ну п’янь, п’янь!.. Самая сапраўдная!.. Хаця і ў пагонах. Хто такога трымаць стане? А такім і зброю давяраюць. Пару раз ён таксама з пісталетам дадому прыходзіў… Быў бы мне казанціп, калі б жыла я з ім.

М а к с. Прабач.

Н і к а. І сімкі  няма, каб пазваніць. Пастка!..

М а к с. І тут пралёт. А каму пазваніць?

Н і к а. Эстэту. Ён чакае нас заўтра раніцай. Не толькі ён – нас усе чакаюць.

М а к с. І мяне таксама?

Н і к а. Цябе – не ведаю, сказала, я буду не адна. А з кім –  не цікавіліся.

М а к с. Дык яны на каго вячэру заказвалі – на мужчыну, альбо, можа, на тваю сяброўку?

Н і к а. Туды не жраць едуць…

М а к с. Зразумела. Падобна на тое, тэлевізар пачынае дыхаць…

Н і к а. Ды навошта табе ён здаўся, тэлевізар гэты?

М а к с. Не мне – Пятровічу хачу добрую справу зрабіць. Аддзячыць яго ж неяк трэба.

Н і к а. Цікава, а дзе яго той сабачка?

М а к с. Не магу знаць. *(Радасна).*  Робіць тэлік!

*З тэлевізара даносіцца танцавальная мелодыя, і Макс цягне Ніку на круг. Тая ўпарціцца, але нядоўга.  Танчаць. У гэты час з'яўляецца Юлія. Яна модна  апранута – уся з сябе. Даволі прыгожая.*

Ю л і я *(на правах гаспадыні).* Дзе Пятровіч?!

М а к с. Мы за яго…

Н і к а. … не распісваліся.

М а к с. Далучайцеся.

Ю л і я *(выцягнула шнур з разеткі).* Хто вы такія і чаму няма Пятровіча?

Н і к а. Зачыні сёрбала, баба!

Ю л і я. Гэта хто баба? Я, ці што?

Н і ка а. А то я!

Ю л і я. Чуеш, сцерва, каціся, пакуль я твае кудзеркі  на сваё руку не наматала. Каму гавораць?

М а к с. Сітуацыя рашуча змяняецца. Пачынаюцца баявыя дзеянні, здаецца? Бура ў пустыні!

Ю л і я. Сынок! Ты чуеш мяне, сынок?

М а к с. А каго ж яшчэ?

Ю л і я. Гэтая квазімода мне якраз  у дочкі падыходзіць, а як губкамі шаўкае! Уймі яе. Прашу цябе, сынок!

Н і к а. А я з мамай толькі так і размаўляю. Толькі так і не інакш. А цяпер правальвай. Усё месцы занятыя.

М а к з *(іравецца ў бой, але яго прытрымлівае Ніка).* Ды як вы маглі маю жонку?! Хто дазволіў?! У які час жывем?!..

Н і к а. Не торгайся. Стой спакойна. Як у Загсе.

М а к с. Ды я!..

Ю л і я. Прэч! Прэч, сказала! *(Хапае падушку, запускае ў Ніку).*

М а к с. Тэлевізар не чапаць! Я яго адрамантаваў!

Н і к а. Раскідалася, аднак!.. *(Запускае ў Юлію коўдру).* Атрымлівай!..

М а к с. Трымацца ды апошняга! Чакаем спецназ!.. Чакаем падмацаванне!..

*Нарэшце супакоіліся. Цяжка дыхаюць. З'яўляецца  Пятровіч.*

П я т р о в і ч.  Ты?

Ю л і я. Я.

П я т р о в і ч.  Як ты даведалася, што я тут?

Ю л і я. А дзе ты можаш яшчэ быць?

П я т р о в і ч.  Хаця, так…

Ю л і я. Што гэта за людзі?

П я т р о в і ч.  Добрыя людзі…

*Ніка і Макс наводзяць парадак.*

Ю л і я. У іх што, на лбе напісана, хто яны такія?

П я т р о в і ч.  Уяві сабе, так… напісана.

Ю л і я. Яна, вось гэтая  шмакадзяўка…

М а к с. Ну-ну!..

Ю л і я. …зняважыла мяне. Я ж старэй за яе!..

Н і к а. Знайшла, чым хваліцца.

П я т р о в і ч. Усё, годзе! Зараз будзем юшку варыць.

Ю л і я. На ноч гледзячы?

П я т р о в і ч.  Адчуваю, ноч будзе доўгай. Ніка! Макс! Рыбу чысціць умееце?

Н і к а. Вядома.

М а к с. З хваста. Гэта начальства з галавы…

П я т р о в і ч. Там, на двары, столік … на ім рыба і нож… Там – светла… Я ўвярнуў лямпачку…

Н і к а. Калі яна жывая, трапечацца, я баюся.

Ю л і я. Давай, давай! Яна баіцца! Па табе відаць!..

*Ніка і Макс выходзяць.*

П я т р о в і ч. Ты навошта прыехала?

Ю л і я. А то ты, можна падумаць, не ведаеш.

П я т р о в і ч. Гавары!

Ю л і я. Знайшла табе парасонік.

П я т р о в і ч.  Які яшчэ парасонік?

Ю л і я. Які прыкрые ў любое надвор'е. Над табой не капне. А, татуля? Ну, чаму ты такі  кіслы, галаву павесіў, журботны і невясёлы?

П я т р о в і ч. Едзь дамоў!

Ю л і я. Ноч. Куды я, у ноч? Ты аб гэтым падумаў? Чужых людзей прытуліў, а сваю адзіную дачку – гоніш. Ну ты і малайчына!

П я т р о в і ч. Добра, пацерпім да раніцы.

Ю л і я. Ды знайшла, знайшла табе неблагую жанчыну.

П я т р о в і ч.  І на гэты раз з кватэрай?

Ю л і я. Як ты здагадаўся? Харомы!..

П я т р о в і ч. А тут вялікага розуму не патрабуецца.

Ю л і я. Дык у чым жа справа?

П я т р о в і ч. У капялюшы справа, у капялюшы! Ты пра маці б хоць сваю ўспомніла…

Ю л і я. Успамінаю… Свечкі стаўлю… А як жа!.. Ты што такое гаворыш, пахан?

П я т р о в і ч. Добра, я ажанюся…насуперак яе волі.

Ю л і я. Вось гэта іншая размова! Я рада за цябе!

П я т р о в і ч. Але! Але!..

Ю л і я. Я слухаю.

П я т р о в і ч. Але ты, калі ласка, знайдзі мне такую жанчыну, у якой няма кватэры.

Ю л і я. Ты што, дэбіл?

П я т р о в і ч. Дэбіл. Уяві сабе.

Ю л і я. Нічога не зразумею.

П я т р о в і ч. А тут і разумець няма чаго. Пакуль я жывы, з сваёй кватэры нікуды і ні пад якой прапановай я не сыйду. Запомніце гэта раз і назаўжды! Колькі можна паўтараць?

Ю л і я. Але замок навошта памяняў? Грошы лішнія?

П я т р о в і ч. Так трэба!

Ю л і я. Каму?

П я т р о в і ч. Мне, каму ж яшчэ! Пакіньце мяне ў спакоі! Дайце спакойна дажыць!..

Ю л і я. Добра, супакойся ты. Ніхто цябе не выдварае з тваёй кватэры. Дай ключ, я хоць там прыбяру…

П я т р о в і ч. А для чаго я тады замок памяняў? Для якога нячысціка? "Дай ключ, я хоць там прыбяру".

*Паўза.*

Ю л і я. Але і мяне ж ты зразумець павінен. Кацька жаніхоў водзіць…

П я т р о в і ч. А ты – не?

Ю л і я. І я . Ну не магу я без іх, сінім полымем гарэлі б яны, мужыкі! Яны ўсе такія пушысценькія!.. Такія лапанькі!.. А ўдзвюх з Кацькай нам цесна.

П я т р о в і ч. Пры жывым бацьку такое гаварыць!

Ю л і я. Ну, а пры якім жа? Што карысці – пры мёртвым?..

П я т р о в і ч. І табе не сорамна, Юлька, несці такую лухту? Ай-я-яй!..

Ю л і я. Прабач, калі што не так, бацька…

П я т р о в і ч. Праміргаў я цябе, а Кацьку – разам. Калі яна ўжо працаваць пойдзе?

Ю л і я. Ёй як раз кватэра і трэба, каб працаваць… На хаце…

П я т р о в і ч. І кім жа? Хаця што я гавару, дурань стары!..

Ю л і я. Грошы кожны, як можа, зарабляе. Ну не красці ж ісці!

П я т р о в і ч. Значыць, той раз, калі я на прыступках амаль да раніцы прасядзеў, пакуль мяне суседзі да сябе не запрасілі… яна, Кацька, ужо працавала?..

Ю л і я. Хоць апранулася…

П я т р о в і ч. Бардак! Вакол – адзін бардак! Што ў сям'і, што вышэй!..

Ю л і я. А ты што, толькі на свет нарадзіўся?

П я т р о в і ч. Не, я нават зусім яшчэ не нараджаўся… У мяне ўсё наперадзе… Я чакаю свайго нараджэння!..

Ю л і я. Дык ключ дасі ці не?

П я т р о в і ч (*тыцнуў кукіш).* Гэта бачыла?

Ю л і я. Ды замок адчыніць– не праблема.

П я т р о в і ч. А я ў міліцыю заяўлю. Адчыняй. Хоць сёння.

Ю л і я. Няўжо на сваіх паскардзішся?

П я т р о в і ч. А ты як хацела! І вокам не міргну.

Ю л і я. За табой не заржавее. Бацька! Партыі даўно няма, і ты не камуніст. Азірніся вакол! Знімі шоры!..

*Пятровіч садзіцца на табурэт, задумаўся.*

Ю л і я. Усе старыя толькі аб дзецях, аб сваіх атожылках і думаюць, а ты? Апошняе гатовы аддаць. З сябе зняць. Вазьміце, унукі і ўнучкі…

П я т р о в і ч… кабялі і сучкі…

Ю л і я. Калі ласка! Вось ашчадная кніжка! А гэта машына! А гэта, мае шаноўныя, кватэра!.. Вам!..

П я т р о в і ч. А сам на вуліцы жыві… Або на прыступках перад сваёй кватэрай. Так, разумнікі?

Ю л і я. Ну каіцца, каіцца Кацька. Каханне зацугляла. Такое з намі, жанчынамі, здараецца. На першае месца выйшла каханне.

П я т р о в і ч. А я, значыць, на другім аказаўся?

Ю л і я. Не-не, ты як быў на першым, так і застаўся. Ты на сваім месцы, тата…

П я т р о в і ч. Вось-вось! Ты правільна сказала: я на сваім месцы. І прашу, не ўмольваю пакуль, а прашу: трымайцеся далей ад таго п'едэстала, на якім я стаю… Так будзе лепш для ўсіх нас.

Ю л і я (дзёрзка). Ну, ведаеш!.. Пажывем – пабачым!.. Гэта сёння ты арол!.. А зляжаш калі? Хто, хто пра цябе ўспомніць? Хто паклапоціцца?..

П я т р о в і ч. Няўжо вы з Кацькай? Нешта я сумняваюся, мае дарагія. А чаму гэта менавіта я павінен злегчы? Можа, я на хаду, а? Можа я, як той дзед Фішка з рамана пра Сібір, яшчэ і нагой дрыгну?.. А калі злягу, не дай Гасподзь, тады вы праз мяне сапраўды пераступіце… Калі не палянуецеся… А палянуецеся, і наступіце сваімі шпількамі… Па мне пройдзецеся, як па тратуары… цок-цок!.. А цяпер – прэч!

Ю л і я. Не гані. Нікуды я не пайду – я ж табе сказала – на ноч гледзячы. Закурыць у цябе ёсць, бацька?

П я т р о в і ч. Калі б я нават курыў, для цябе пашкадаваў бы. Ведаеш, што не куру, а пытаеш. А ўсё таму, што табе з бацькам і пагаварыць больш няма аб чым.

Ю л і я. А можа бацьку з дачкой, а?

П я т р о в і ч. Хай будзе па-твойму…

3.

*У двары. Ніка і Макс скончылі чысціць рыбу. Амаль побач пранеслася моторка…*

М а к с. «Шаланды полные кефали… в Одессу Костя привозил…»

Н і к а. Юшка – аб’ядзенне! Я кажу, нібыта яна ўжо ёсць…

М а к с. Яе б ды на вогнішчы прыгатаваць!

Н і к а. А давай папросім Пятровіча. А?

М а к с. Там жа гэтая кашолка.

Н і к а. Што яна хоча ад старога? Нахабніца! А добра я ў яе коўдрай запусціла! Скамячыла, скамячыла, як газету, і атрымлівай, сцерва!.. *(Смяецца).*

М а к с. Табе не здаецца, што ты ў апошні час стала яшчэ больш грубай, чым была ранней?

Н і к а. Таму і еду ў вясельнае падарожжа на Казанціп, каб перамяніцца… так-так, каб перамяніцца ў лепшы бок.

М а к с. Не едзеш, а ехала. Гэта не адно і тое ж.

Н і к а. Макс, не чапляйся, калі ласка, прашу цябе, да слоў. Не можа быць, каб Пятровіч нешта не прыдумаў.

М а к с. Упэўнена?

Н і к а. Так, упэўнена. Ён як сундучок з сакрэтам.

М а к с. Не ведаю, не ведаю. Можа быць.

Н і к а. Ну што, панеслі рыбу?

М а к с. У іх там, падобна, зацягнулася размова?

Н і к а. Пайшлі.

М а к с. Пайшлі. Пачакай, а рыбу навошта несці? Хай яна ў тазе тут і ляжыць. Пятровіч напэўна ведае, што з ёй далей рабіць.

Н і к а. Ты маеш рацыю.

М а к с. Як заўсёды.

Н і к а. Ад сціпласці не памрэш.

*З'яўляецца Юлія.*

Ю л і я. Закурыць ёсць, моладзь?

М а к с. Ёсць… здаецца.

Н і к а *(раўніва).* Макс!

Ю л і я. Дык ёсць ці здаецца?

М а к с. Здаецца…

Ю л і я. Ну-ну.

М а к с. Мы кідаем курыць, раім і вам.

Ю л і я. Мы больш у краіне Саветаў… дзе толькі ўсім нешта раілі… не жывем.

М а к с. Ніка, а мы і не ведалі?

*Знікаюць.*

4.

*У пакоі. Пятровіч сядзіць за сталом, апусціў галаву на рукі. Убачыўшы яго ў такім становішчы, Ніка і Макс застылі на месцы.*

М а к с. Пятровіч!

Н і к а. Што з вамі?

М а к с. Вам вады, можа?..

Н і к а. Ці чаго… вам, а, Пятровіч?

П я т р о в і ч *(прыпадняў галаву).* Там… у скрыначцы… нітрагліцарын…

М а к с. Ага! *(Прыносіць таблетку , Пятровіч паклаў яе пад язык).*

П я т р о в і ч *(праз паўзу).* Цяпер жыць можна…

Н і к а. А мы спужаліся…

М а к с. Я зусім… *(перахрысціўся)* ледзь у апраметную не праваліўся…

П я т р о в і ч. Не палохайцеся, мае дарагія… Бывае… Я ў апошні час абыходзіўся без нітрагліцарыну… не насіў яго зусім з сабой… А сёння спатрэбіўся ён… як бачыце… Сёння ў мяне асаблівы дзень…

Н і к а. Які асаблівы? Чаму?

М а к с *(рашуча).* Аддам я ёй цыгарэты. Усе! Да адной! А не возьме, парву… *(Выходзіць).*

П я т р о в і ч. Вас сустрэў… дачка заявілася…

Н і к а. Гэта ваша дачка?

П я т р о в і ч. Яна. Юлька. Песня раней была такая… " Потому что наша Юлька… наш комсорг и наша первая любовь…" Па песні і далі ёй імя .

Н і к а. А чым яна займаецца?

П я т р о в і ч. А ты ў яе папытай.

Н і к а. Не скажа.

П я т р о в і ч. Не скажа. Я толкам і сам не ведаю, як і што ў яе… На каго толькі не вучылася, а так нічога і не скончыла… І Кацька, унучка, па маці пайшла… па ёй… Аднаго поля ягада…

Н і к а. А жонка ў вас прыгожая была?

П я т р о в і ч. Вельмі. Жонак непрыгожых не бывае. Кожнаму мужыку яго жонка прыгожая… Я так думаю…

Н і к а. Правільна, мусіць, думаеце. А я для Макса таксама самая прыгожая, відаць…

П я т р о в і ч. Калі пакахаў, вядома…

Н і к а. Пакахаў… Грыземся толькі часта…

П я т р о в і ч. А без гэтага сям'ю не збярэш… Прыцерціся трэба… як шасцяронкам у машыне… А як жа!… Трэба… Усё трэба ў гэтым жыцці… *(Устаў з крэсла, прысеў).* Вось, цяпер я зусім іншы чалавек…

Н і к а. А вы ў маладосці, Пятровіч, таксама былі прыгожым…

П я т р о в і ч. У маладосці? А цяпер?

Н і к а. І цяпер… нічога. Твар прыгожы ў вас, калі прыгледзіцца… маладжавы… з чырвонымі пражылкамі… Жанчын , мусіць, кахалі?

П я т р о в і ч. Усяляк бывала. Паглядваў і на бок… Не без гэтага… Я вось што табе скажу, Ніка…

Н і к а. Так-так, я слухаю…

П я т р о в і ч. Здароваму мужыку адной жанчыны мала. Прыходзілася пабірацца. Але не распутнічаў, не!..

Н і к а . Смешны вы, Пятровіч! "Пабірацца". Першы раз такое чую.

П я т р о в і ч. Марыя, адчуваю, здагадвалася… яна ў мяне малайчына – выгляду не паказвала… Можа, ды так яно, мусіць, і было, і на яе шляху сустракаўся які-небудзь пабірака… *(Працягнуў руку).* Гісторыя маўчыць…

Н і к а. А я… а я ўжо і Максу адзін раз здрадзіла…

П я т р о в і ч. А ён ведае?

Н і к а. Ведаў бы! Ого! Ён бы мяне ў парашок расцёр. А іншага выйсця і не было. Падзаляцеў ён па глупству… у пысу адну тыпу заехаў… Вядома, пад градусам быў… А тут і міліцыя… Забралі, адным словам… Артыкул прышылі… Следчы прыходзіць на кватэру, я дома адна… кладзіся, кажа, у пасцель, калі хочаш, каб твой горача каханы муж домоў вярнуўся… А што заставалася рабіць? Што?

П я т р о в і ч. Гэта не здрада. А яму ўсё роўна не гавары. Мужык не зразумее… Дзеля яго, не дзеля: не зразумее… Што гэта мы з табой, Ніка, шчыра так разгаварыліся?

Н і к а. Часам трэба. Гэта я вам толькі сказала… Хаця суседзі здагадваюцца аб усім… Следчы пад акном машыну паставіў, а сам да мяне на пару гадзін… Суседзі ж ведалі, дзе Макс… *(Паўза).* Пятровіч, дык і на самой справе не можаце перавезці нас на той бераг? А далей мы б аўтастопам дабраліся.

П я т р о в і ч. Пагранічнікі вакол…Нельга.

Н і к а. А сказалі, што вы можаце.

П я т р о в і ч. Хто такое мог прыдумаць?

Н і к а. Петраковы з суседняга сяла. Мы ў іх машыну пакінулі. Прозвішча ў іх такое – Петраковы. Муж і жонка.

П я т р о в і ч. Глупства! Глупства! Паўнейшае! Гэта яны думаюць, калі я ўсё жыццё паромшчыкам працаваў, дык тут у мяне вакол адны сябры… што спераду, што ззаду… Каб жа!.. Вада ў Дняпры таксама на месцы не стаіць… Усё рухаецца наперад, усё змяняецца… Старыя сябры памерлі, новых не завёў…

Н і к а. Нешта Макса доўга няма? Выйду, гляну. Няўжо зноў курыць? Ці, можа, таксама пабіраецца?

П я т р о в і ч. З маёй Юлькай яго небяспечна надоўга пакідаць.

Н і к а. Не, нікуды не пайду! Сам прыйдзе. Не заўсёды трэба абмяжоўваць адзін аднога ў учынках. А вы як думаеце, Пятровіч?

П я т р о в і ч. А нячысцік яго ведае, што тут думаць. Як сэрца падказвае, так і паступай.

Н і к а. Сэрца?

П я т р о в і ч. Сэрца, сэрца, мая харошая.

Н і к а. Пасяджу, паслухаю сэрца... *(Садзіцца побач з Пятровічам).*

*Так і сядзяць за сталом, падпёршы твары кулакамі.*

## Д з е я   д р у г а я

5.

*Каля століка з рыбай. Юлія курыць, перадае цыгарэту Максу, той соладка зацягваецца.*

М а к с. Каб толькі Ніка не ўбачыла.

Ю л і я. Ой, ой! Ну, а калі ўбачыць? Што тут страшнага?

М а к с. Дагавор – даражэй за грошы.

Ю л і я. Пад абцасам?

М а к с. Не зусім так... Проста слухаюся.

Ю л і я. Так проста нічога не бывае.

М а к с. Жанчын трэба паважаць і кахаць.

Ю л і я. Ого! Высакародна як! Нібы з трыбуны!..

М а к с. Сама разумееш.

Ю л і я. Паслухай, спадар, а з якога часу раптам мы на "ты"?

М а к с. Дзесьці вось тут пстрыкнула, і пераключылася. Самаадвольна.

Ю л і я. Вывяржэнне...Разумею, разумею. А ты нічога... так.

М а к с. Сам ведаю.

Ю л і я *(млява).* Можа, прагуляемся? У?

М а к с. Куды? Навошта?

Ю л і я. Я тут мястэчка адно ведаю... А навошта... ты ж не хлапчук, каб пытаць. Думай, пакуль твая казкі Пятровіча слухае альбо яму свае расказвае.

М а к с. Пятровіч – чалавек, адразу відаць.

Ю л і я. Для каго як.

М а к с. Я б такога пахана не супраць мець.

Ю л і я. Не дай Бог!

М а к с. Цікава.

Ю л і я. Дык ты ідзеш ці не? Чаго думаеш, асёл?

М а к с. Пад артыкул падводзіш… семейнага правасуддзя.

Ю л і я. А чым-та трэба і грэбаваць іншы раз. Дай руку! *(Хапае Макса за руку).* Пайшлі!

М а к с. Пардон, мадам! Нон-стоп!

Ю л і я. Спалохаўся жанчыны?

М а к с. Не святы, але няма ўмоў. Зразумей.

Ю л і я. Мы ж на пераправе. А тут усё хутка адбываецца. Ад берега да берагу… і далі… гарадскія нашым!.. Гэта значыць – вам…

М а к с. Дай яшчэ разок пацягнуць.

Ю л і я. На! Тольки соплі не падпалі!.. *(Тыцнула Максу цыгарэту).* Ці мала куды мы прайшліся… Што, нельга?

М а к с. Праўда, а чаму і нельга?.. Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскае!.. На экскурсію, значыць, прапаноўваеш па прыстані?

Ю л і ю. Так! Па поўнай праграме!..

М а к с. Перада мною экскурсавод, бачу, вопытны… з багатым стажам… Раней у мяне такіх экскурсаводаў не было… *(Аглядаецца па баках).* Паказвай, дзе тут у вас што і як… Замкі… Мастацкія галерэі…

Ю л і я. З вялікім задавальненнем!..

М а к с. Шэдэўры даўніны… *(Ад разгубленасці).* А памятаеш, як на 1 траўня мы Новы год сустракалі? Так, так!..

*Макс і Юлія знікаюць. З'яўляецца Ніка.*

Н і к а. Макс! Ты дзе? Макс!..

*Паўза.*

Н і к а. Макс! Цікава. Цябе, між іншым, клічуць. Макс! *(Сабе).* Я, здаецца, усё зразумела…

*З'яўляецца Макс, на хаду папраўляючы адзежу.*

Н і к а. Ты дзе быў?

М а к с. Як дзе? Цыгарэты адносіў…

Н і к а. У кусты?

М а к с. Дык яна, Юлія, дачка, значыць, Пятровіча, там была… Пагукаў, а яна на камяні сядзіць… у кусце…

Н і к а. Як Алёнушка перад Козлікам?

М а к с. Ага. Нясі, кажа, сюды.

Н і к а. І ты пабег?

М а к с. Ну ёй жа захацелася…

Н і к а. Чаго ёй захацелася, я ведаю.

М а к с. Курыць! Курыць ёй захацелася! А ты аб чым падумала, грэшнай справай? Ніка, ну будзь разумніцай!..

Н і к а (дала Максу аплявуху). Атрымай, разумнік!

М а к с. За што? Па якім праве?

Н і к а. А ты, можна падумаць, не ведаеш, за што і па якім праве?

М а к с. Не, не ведаю…

Н і к а. Цябе на павадку, аказваецца, трэба вадзіць. А яшчэ на Казанціп сабраўся. Там вакол якія адпачываюць – і ведаеш, колькі іх!..

М а к с. Ведаю. Я б ім не замінаў адпачываць.

Н і к а. І ўсе бабы распранаюць вачамі мужыкоў. Чужых.

М а к с. А што трэба зрабіць, каб стаць сваім?

Н і к а. Ты непапраўны!

М а к с. Жартую, жартую. Што, і пажартаваць нельга?

Н і к а. Марш у пакой!

М а к с. Іду, іду. Але мне заўсёды здавалася, што гэта мужыкі баб распранаюць вачамі… А атрымліваецца – наадварот… Не ведаў… Прабач-зразумей..

*З'яўляецца Юлія.*

Ю л і я. Ого! Як уладарна! Як жорстка! Як!..

Н і к а *(перабіла).* А, ты?!

Ю л і я. Ты пастухом, выпадкова, у калгасе не працавала?

Н і к а. Як жа! Працавала. Хіба не памятаеш? Ты ж з майго статку. Я і за саскі цябе торгала, калі даіла. Як саскі? Не баляць?

Ю л і я. Магу паказаць.

Н і к а. Максу пакажы, калі ён яшчэ не паспеў...

М а к с. Я не супраць.

Н і к а. Вось, бачыш? Ён не супраць. *(Выходзіць).*

Ю л і я *(услед).* Давай, давай, правальвай! Лахудра!

М а к с. За "лахудру" задушу!

Ю л і я. Ды хопіць табе!

М а к с. Не, ідзі папрасі прабачэння. Прашу па-добраму.

Ю л і я. Тады я лепш скажу, што ў нас з табой нешта было..

М а к с. Ты што, зусім звар'яцела? Яна ж паверыць!

Ю л і я. Паверыць. Я ведаю.

М а к с. У мяне ж цешча з табой равесніца.

Ю л і я. Тым болей.... А бабам лапшу на вушы павесіць – прасцей простага.

М а к с. Ну, і што будзем рабіць?

Ю л і я. Можа, працягнем?.. Экскурсію?..

М а к с. За тую яшчэ трэба адчытацца. Разумееш? За тую. Пайшоў складаць авансавую справаздачу. *( Выходзіць).*

*Юлія застаецца адна.*

6.

*У пакоі. Пятровіч чытае газету. Юлія сядзіць на табурэце, нудзіцца. Заходзіць Макс.*

П я т р о в і ч. Нецікавая газета. Чытаю, хутчэй усяго, па прывычцы. Хто на кім ажаніўся, у які раз. І што цікава, героямі лічаць тых, хто пяць або яшчэ больш жонак мае. Брыдка гэта ўсё! Ды і каму якая справа, колькі ты разоў і чаго? Гэта ж асабістае жыццё. А ўжо той, хто адну жонку меў, той і зусім дурань. Круглы. З ўсіх бакоў. Як я, атрымліваецца... Дзіўна ўсё гэта. Не больш таго.

М а к с. На беразе добра... Свежа, рыба гуляе... Плёх-плёх!..

Н і к а. І ўсяго толькі?

М а к с. Зоркі на небе...

П я т р о в і ч. А я ўсё жыццё тут і пражыў. Не ў гэтай хібарцы – у мяне, трошкі далей, быў добры цёсавы дом. Калі на пенсію выходзіў, мне ў горадзе кватэру далі.

М а к с. Я б таксама тут жыў...

Н і к а. З кім?

М а к с. З табой, з кім жа!

*Заходзіць Юлія. Адпіла з кружкі вады, распранулася, наколькі гэта было сціпла, і забралася пад коўдру.*

М а к с *(дзівіцца гэтаму)*. А... а мы? Гэта ж нам Пятровіч заслаў ... Эй!

Ю л і я. Забірайся сюды, да мяне, коцік!

Н і к а. Ну, чаго ж ты разгубіўся? Давай, давай! Скачы да яе!..

П я т р о в і ч. Не звяртайце ўвагі.

М а к с. Цікавая, Пятровіч, была ў вас праца. *(Час ад часу косіць вачыма на Юлію).*

П я т р о в і ч. Але цяжкая. І ў дождж, і ў холад, і ў спякоту... як той салдат на пасту. Паром я ад бацькі атрымаў... у спадчыну, калі можна так сказаць... О, паромшчык ён быў ад Бога!.. Яго нават на фронт не ўзялі – тут, на рацэ, ён больш патрэбны быў... Калі Дняпро фарсіравалі, колькі гэта мне было? Ды маладзешы быў, чым ты, Макс...

М а к с. Мне дваццаць...

П я т р о в і ч. Канешне! Я ў дваццаць дзевятым нарадзіўся... а Дняпро фарсіравалі ў сорак трэцім... увосень... Вось і палічыце. Зусім хлапец. Нашы на гэты бераг хто на чым... на пароме мы з бацькам параненых перавозілі... а вакол што робіцца, Божа мой!.. Суцэльны кашмар... Міны ірвуцца, кулямёты трашчаць... А мы ад берага да берагу...Бераг левы,

бераг правы, як у Твардоўскага… Санітаркі прама на пароме раненых перабінтоўваюць… Я вяроўку трымаю… яна пальцы пячэ, як лязом брытвы рэжа…

*Паўза.*

П я т р о в і ч. Адзін маладзенькі садацік уплаў перабіраўся…

*Юлія храпе. Пятровіч тузануў за спінку ложка.*

П я т р о в і ч. Вам, можа, не цікава ўсё гэта?

М а к с. Не-не!..

Н і к а. Распавядайце, Пятровіч.

П я т р о в і ч. Сілы яго пакідаюць, я ж бачу… ручонку сваю цягне, каб я сваёй, значыць, падхапіў яго… як за саломінку хапаецца… Якіх-небудзь пяць сантыметраў бы… ўсяго… І так блізка быў ён, салдацік, у тыя долі хвіліны, і так далёка… Працягнуў я руку насустрач яго руцэ, вось-вось, здавалася, і схвачу … яшчэ трошкі, яшчэ трошкі, яшчэ… Ажно, не… Бедняжка… Знікаў пад вадой, адчаіўшыся, а вочы былі так шырока расплюснуты і прасілі мяне аб дапамозе… Я і сёння бачу тыя вочы… Блакітныя, як неба, прыгожыя… Даравацъ сабе не магу… Дакараю сябе ўсё жыццё, што не выратаваў яго тады, салдаціка… Хаця і разумею, што я б гэтага зрабіць не змог… Уцягнуў бы ён і мяне з сабой, усяго толькі…Кілаграмаў у мяне было, як у яго клунак і аўтамат, разам узятыя… Шкада хлапца… Прыгожы быў… маладзенькі…

*Юлія храпе. На гэты раз за спінку тузануў Макс.*

П я т р о в і ч. Цяпер вось кожны год пятнаццатага кастрычніка прыношу на тое месца, дзе ён патануў, вянок з жывых кветак… І не толькі для аднаго яго, салдаціка, прыношу кветкі… Для многіх Днепр стаў тады домам… Усё гэта было на маіх вачах… Яшчэ не зразумею да канца і сёння, як я і сам жывым застаўся?..

Прабачце, цяжка гаварыць. Не магу. Прабачце.

*Мелодыя вайны.*

7.

*Раніца наступнага дня. У пакой падаюць прамяні сонца. У распахнутую фортку даплывае спеў птушак. Ніка і Макс спяць на падлозе. Юлія чапурыцца перад люстэркам.*

Ю л і я *(крутнула пальцам каля скроні ў бок Макса).* Лапух! *(Выходзіць).*

*Макс устаў, нацягнуў штаны.*

Н і к а. Не будзі мяне…

М а к с. Уставай, ты ўсё роўна ўжо не спіш.

Н і к а. Яна выйшла?

М а к с. Здаецца.

Н і к а *( сядзіць, пацягваецца).* Добра як!

М а к с. Я б тут застаўся на ўсё лета.

Н і к а. У гасцях добра быць мала…

М а к с. Таксама верна.

*Ніка працягвае сядзець на матрацу. Уваходзіць Незнаёмы з сумкай у руках.*

Н е в я д о м ы *( патрабавальнаа).* Дзе стары?

М а к с. Не гаварыў… Прачнуліся, а яго няма.

Н і к а. Ды ён тут і не начаваў.

Н е в я д о м ы. Вёслы! І ключ ад лодкі! Ну, хутка!

М а к с. А дзе яны, вёслы? Я хіба ведаю?

Н е в я д о м ы. Старога сюды! Жыва!

*Макс выходзіць і вяртаецца.*

М а к с *(паказаў вачмі на Ніку).* Калі яе кранеш… спадзяюся, зразумеў?

*Незнаёмы паказаў пісталет.*

М а к с. Цяпер, здаецца, я ўсё зразумеў… *(Выходзіць).*

*Незнаёмы, не звяртаючы ўвагі на Ніку, разглядвае жыллё. Ніка тым часам апранулася.*

Н і к а. А навошта вам вёслы?

Н е в я д о м ы. Калі б былі не патрэбны, я б не пытаў. Сядзі тут і не высоўвайся. Двойчы не паўтараю.

Н і к а. Там пагранічнікі…

Н е в я д о м ы. Яны заўсёды і ўсюды вакол мяне... Ну і што? Пагранічнікі – таксама людзі...

Н і к а. І нам на той бераг трэба.

Н е в я д о м ы. Каму гэта вам?

Н і к а. Мне і Максу.

Н е в я д о м ы. Адну магу ўзяць. Без Макса. Сыйдзеш за нявесту.

Н і к а. Я ўжо замужам.

Н е в я д о м ы. Я ў цябе дакументаў не пытаю...

Н і к а. Як? А учора ў мяне пыталі...

Н е в я д о м ы. То ўчора. І ў цябе.*(Нервова).* Ну дзе яны там, шалапаі? *(Выглядвае з акна).* А навошта вам на той бераг?

Н і к а. Разумееце...

Н е в я д о м ы. Гавары карацей.

Н і к а. Мы едзем на Казанціп.

Н е в я д о м ы. Я там быў... Пару год назад...

Н і к а. Тады не сустракаліся... Я пазней...

Н е в я д о м ы. Затое сустрэліся зараз... Дзе ж яны?!.. Колькі можна хадзіць?!..

Н і к а. Дык возьмеце нас або не?

Н е в я д о м ы. Я ж сказаў: адну цябе магу.

Н і к а. А Макс што будзе рабіць?

Н е в я д о м ы. Гэта вашы праблемы.

Н і к а. Я параюся з ім. Добра?

Н е в я д о м ы. Я ж сказаў: гэта вашы праблемы.

Н і к а. Вашы, нашы... А казанціп, адчуваю, ужо каюк...

Н е в я д о м ы. Вы хто старому?

Н і к а. Ніхто. Першы раз сустрэліся.

Н е в я д о м ы. Выпіць у яго што-небудзь знойдзецца?

Н і к а. Абяцаў майму наліць…

Н е в я д о м ы *(шукае гарэлку).* Твой – не арол.

Н і к а. Адкуль ведаеш?

Н е в я д о м ы. А то не відаць!.. Не, не арол. Ён, можа, зусім ужо драпака даў, як думаеш?

Н і к а. Знойдзе і прывядзе Пятровіча, не бойся.

Н е в я д о м ы. А я і не баюся. Тым больш, з табой.

Н і к а. Калі, думаеш, з пісталем, то я струхнула?

Н е в я д о м ы. Ты мне пачынаеш падабацца.

Н і к а. Гэта яшчэ ні аб чым не гаворыць.

Н е в я д о м ы *(знайшоў бутэльку, налівае ў кубак, куляе гарэлку*). Добра пайшла… Дык на чым гэта мы спыніліся?

Н і к а. На пісталеце…

Н е в я д о м ы *(разламаў пісталет і выкінуў у вядро са смеццем).* Пугач. Для такіх, як твой Макс. Але – не для цябе, заўважу. Хвалю і цаню. Ну, дык што? Махнем разам?

Н і к а. Куды?

Н е в я д о м ы. А куды вочы глядзяць, а?

Н і а а. Чые? Твае або мае?

Н е в я д о м ы. Нашы! Нашы!..Туды, дзе воля…

Н і к а. Тады на казанціп трэба…

Н е в я д о м ы. Абыдземся і без яго. *(Трасянуў сумкай).* Называй любы курорт. Кіпр. Майямі. Турцыя – гэта хто сказаў ці мне пачулася? Пра што думаеш, прыгажуня?

Н і к а. Пра многае…

Н е в я д о м ы. А твайго са стрым не відаць. Ён куды за ім пайшоў? У які стэп?

Н і к а. А, можа, і праўда, узяць ды і махнуць з табой?

Н е в я д о м ы. Дык у чым справа? Рызыкуй!

Н і к а. Трэба б… Але Пятровіч што падумае?

Н е в я д о м ы. Хто-хто? Пятровіч? Старыкашка гэты?..

Н і к а. Ты ж яго не ведаеш.

Н е в я д о м ы. Не муж што падумае, а Пятровіч. Цікава. *(Выпіў яшчэ).*

Н і к а. Закусваць трэба.

Н е в я д о м ы. Фу, здаецца, трохі супакоіўся. Думай. Побач са мной вакансія... Ідуць, здаецца? Маглі б і затрымацца. Калі што, скачы да мяне ў лодку.

Н і к а. Там – пагранічнікі...

Н е в я д о м ы. І тут пагранічнікі... Ну і што? Але ходзім жа мы, куды захочам!.. Скачы ў лодку... Маю жонку звялі, а чаму я не магу?..

Н і к а. Вось ты аб чым! Помсціш, значыць?

Н е з н а ё м ы. Як хочаш, так  і разумей.

*З'яўляюцца Пятровіч і Макс.*

П я т р о в і ч. Хто мяне?

Н е в я д о м ы. Я.

П я т р о в і ч.  Чым магу служыць?

Н е в я д о м ы. Вёслы дзе? І ключ?

П я т р о в і ч.  Вёслаў не шкада – лодкі шкада.

Н е в я д о м ы. І вяроўка трэба.

П я т р о в і ч.  Замятуць і цябе, і лодку.

Н е в я д о м ы. Ёсць вяроўка?

П я т р о в і ч.  Якая?

Н е в я д о м ы. На шырыню рэчкі.

П я т р о в і ч.  Знайду. Але яна тоўстая... цяжкая...

Н е в я д о м ы. Нічога. Добра будзе. Прывязвай да лодкі, і як толькі я ступлю на бераг, цягніце лодку назад... Яны вось хай дапамогуць... Разумею, як жа: старому лодка патрэбна... Я не варвар які. Сам на гэтай зямлі  вырас.

Н і к а. Пятровіч...

П я т р о в і ч.  Што, дарагая?

Н і к а. Не... Не... Нічога... Я раздумала... здаецца... Не-не! Аб чым гэта я, дурніца!.. Не-не!..

Н е в я д о м ы *(да Нікі).* А дарэмна! *(Змерыў поглядам Макса, нацягнуў яму на вочы бейсболку).* Чаму стаім?

М а к с. А нам нікуды і не трэба.

Н е в я д о м ы. Гэта хто штосьці сказаў ці мне пачулася?

М а к с. Я сказаў.

П я т р о в і ч. І табе, малады чалавек, раю падумаць.

Н е в я д о м ы. У мяне быў час гэта зрабіць. Цэлых тры гады. Так што, баця, не гані парашу.

П я т р о в і ч. Добры, мне бачыцца, ты чалавек.

Н е в я д о м ы. Быў...

П я т р о в і ч. І ёсць. Па табе ж відаць. Не падобны ты на таго, за каго сябе выдаеш. Не, не падобны.

Н е в я д о м ы.. А на каго ж я тады падобны, а? На анёла?

П я т р о в і ч. Іншы б на тваім месцы пра вяроўку б і не заікнуўся... Перабраўся б, калі пашанцуе, і плыві лодка куды хочаш... на ўсе чатыры стораны... А ты вось мяне пашкадаваў. А ты падумаў аб старым чалавеку... Пра мяне падумаў...

Н е в я д о м ы. Я не думаў аб гэтым – так атрымалася... Само...

П я т р о в і ч. Не рабі глупстваў.

Н е в я д о м ы.. Ты што?! Хочаш сказаць, каб я ўсё, што ў гэтай сумцы, аднёс і здаў?

П я т р о в і ч. Аднясі і здай.

Н е в я д о м ы. Каму? Тым, якія нас асабнякамі абклалі, катэджамі, як ваўка чырвонымі сцяжкамі? Ды ў іх і так з роту ўсё валіцца!.. Але гэта ж маё, маё!.. Сумленна заробленае!.. Няўжо вы мяне зразумееце? Ды ніколі! *(Вытрымаўшы паўзу).* У мяне свой бізнес быў... Мяне ж задушылі праверкамі, данялі рознымі прыдзіркамі!.. Вы не паверыце, калі скажу...

П я т р о в і ч. Гавары.

Н е в я д о м ы. Я прыкупіў пяць сотак зямлі, каб прадпрыемства расшырыць. Палын рос. А на мяне завялі крымінальную справу.

П я т р о в і ч. Не можа быць!

Н е в я д о м ы.. Мздоімцаў багата – вось у чым нашая бяда. Разваліцца краіна, калі мы іх не пераможам, калі іх не выкарчуем!..

П я т р о в і ч. Ну дык а куды ты зараз бяжыш, на злом галавы?

Н е в я д о м ы *(выпіў).* І сам не ведаю. Ды жыць няма дзе! Пакуль я сядзеў, жонка ўсё распрадала і замуж выйшла. З'ехала кудысьці. А ў сумцы– тое, што паспеў схаваць. Гэта не крадзенае... Гэта маёй дурной галавой заробленае...

*Ніка ўзяла пугач у вядры, і Макс павесялеў, разглядвае пугач, забаўляецца з ім, як дзіця.*

П я т р о в і ч. Навошта з сабой носіш грошы... ці што там у цябе?

Н е в я д о м ы. Не камяні ж. Грошы, вядома. На судзе не аддаў... Паспеў схаваць...Можа, за мною і зараз палююць? Пакладзі на кніжку – арыштуюць... усё... да капейкі... А як жыць?

Н і к а. Як цябе зваць?

Н е в я д о м ы. Максім.

М а к с. Таксама Макс, а! *(Паціснуў руку Максіму).* Будзем знаёмы.

П я т р о в і ч. Паслухай мяне... Сядзь.

Н е в я д о м ы. Дзякуй. Я ўжо сядзеў...

П я т р о в і ч. Супакойся. Падумай, як табе жыць далей. Не мітусіся. І не пі больш.

Н е в я д о м ы. Вып'ю – лягчэй... жыццё прыгажэйшым здаецца...

Н і к а. А Максім лепш, між іншым, гучыць, чым Макс...

П я т р о в і ч. Зараз юшку згатуем... А паплывеш, і грошай пазбавішся, і волі...

Н е в я д о м ы. З грашыма?!

П я т р о в і ч. Не ўсё грошы вырашаюць... У цябе ж яны і раней былі, грошы... А, кажаш, сеў на тры гады...

Н е в я д о м ы. Тады я дурны быў, не тое, што цяпер.

Н і к а. Заставайся з намі, Максім.

М а к с. Ды што вы да чалавека прысталі? Што яму рабіць тут з такімі грашыма?

Н і к а. Пятровіч, раскажыце вось яму, Максіму, пра таго салдаціка…

П я т р о в і ч. Не магу. Цяжка мне ўспамінаць. Калі ты, Ніка, запомніла, раскажы яму сама… А я на беразе рэчкі пабуду….

М а к с. Я запомніў… Я раскажу, Пятровіч…

*Пятровіч выходзіць.*

*Зацямненне.*

*Тэма вайны. Кулямётныя чэргі. Гул самалётаў. Ляск танкаў. Стогны. Крыкі.*

*Калі набярэцца святло, мы бачым Ніку, якая прыціснулася да Максіма. Яна адразу ж адхінулася ад яго, як толькі сустрэнецца поглядам з Максам…*

Н е в я д о м ы. Мне пара. *(Максу).* Вёслы дзе?

М а к с. Выйдзеш – убачыш. І ключ там. І вяроўка.

Н і к а. Усё ж бяжыш?

Н е в я д о м ы. Бягу. Ад самога сябе. *(Максу).* Пакліч дзеда.

*Макс выходзіць.*

Н е в я д о м ы. Я цябе не магу ўзяць. Ты мне падабаешся. Дай адрас.

Н і к а. Навошта?

Н е в я д о м ы.. Я напішу… Або пазваню…

Н і к а. А чаму ўзяць не можаш з сабой?

Н е в я д о м ы. Рызыка, і на самой справе, вялікая. Стары мае рацыю. Я не магу табой рызыкаваць. Можна, я цябе абдыму?

*Ніка паціснула плячыма: як табе заўгодна. Невядомы абдымае Ніку.*

Н і к а. У цябе дужыя рукі. Мяне так раней ніхто не абдымаў.

Н е в я д о м ы. Я цябе знайду. Абавязкова.

Н і к а. Дык не сыходзь.

Н е в я д о м ы. Не магу сядзець на месцы. Тым больш, я ўжо амаль у мэты… Пад Чарнігавам Маша павінна быць… у бабулі… Не думаю, што

яна з маці і айчымам з'ехала… Маша – мая боль… маё спадзяванне і вера ў заўтрашні дзень.

Н і к а. Не пішы і не тэлефануй, Максім.

Н е в я д о м ы. Чаму?

Н і к а. Так трэба. Я передумала. Так мне і табе будзе лепш… Выпусці мяне з абдымкаў… Ты чуеш, Максім?

Н е в я д о м ы. Рукі не слухаюцца…

Н і к а. Яны зараз прыйдуць…

Н е в я д о м ы. Хай… Хай і прыйдуць…

*З'яўляецца Макс, моўчкі наглядае за тым, што адбываецца.*

М а к с. Пераплывай. А Пятровіча няма.

Н е в я д о м ы *(паклаў на стол пачак грошай).* Няхай Пятровіч новую лодку набудзе. Спадзяюся, я яго не пакрыўдзіў. Маторку. А я паплыву… Сяду ў лодку – і паплыву… Па цячэнню… Без вёслаў… Куды прыб'е, туды і добра… *(Рашуча выходзіць).*

М а к с. Чаго гэта ён да цябе так, а? Абдымае, як сваю? Ты чаму маўчыш, Ніка?

Н і к а. Не ведаю.

М а к с. Чаго не ведаеш?

Н і к а. Не ведаю, чаму маўчу…

М а к с. Не прыкідвайся ціхай авечкай. Ён што, цябе цалаваў?

Н і к а. Не. Дзіўна… А я б, мусіць, і не супраціўлялася?.. Хм, смешна нават…

М а к с. Ты што такое гаворыш? Адумайся! *(Трасе Ніку).* Ачніся! Што з табой, Ніка?!

Н і к а. Я і самая не ведаю, Макс…

М а к с. Ніка-а-а?!..

*Макс схапіў пачатую бутэльку, п'е з горла… Ніка не супраць. Ёй, здаецца, усё роўна, што адбываецца вакол…*

М а к с. Я п'яны, Ніка. Ці мне здалося? Чаму ты мяне не кахаеш? Так, правільна… я цябе кахаю, і моцна, а табе, аказваецца, гэтага мала, так? Ты, мусіць, з тых баб, якія паважаюць мужыкоў, якія іх лупяць, а?

Дубасяць якія іх, правільна? Не трацячы часу – атрымлівай, так? Не пярэчу, я не з такіх, не! Бог заступіўся, вырваў меч з маіх рук!.. Карны!.. Эх, Ніка, Ніка!.. Хаця быў у цябе мент паганы… Але наручнікі і лупка – гэта не адно і тое ж!.. Не той кайф!.. Я разумею!.. Я ўсё разумею!.. Думаеш, мне не сорамна было слухаць Пятровіча?.. Яшчэ як!.. А я адкасіў ад войска… А салдацік той пайшоў на дно ракі… Хаця чаму я адкасіў? Я не адкасіў у прамым сэнсе… Я мог бы і служыць, калі б дужа захацеў… У мяне папыталі: ці жадаеш ты служыць? А я: а ёсць магчымасць не служыць? Яны: ёсць… па хваробе. Давайце, гавару, адкос!.. Маці на дах дому ледзь не заскокнула ад радасці – яна больш усяго баялася, што мяне забяруць… З тваім характарам, гаворыць, вечна будзеш падлогу мыць і старыкам падэшвы лізаць… Яна права, як думаеш, Ніка? Матухна мая мае рацыю? *(Пацягнуўся за бутэлькай).* А ты прыгожая. Яшчэ стала прыгажэйшай, чым была… А што, у бутэльца пуста? Голы васар?.. Нічога сабе Максім прыклаўся!.. Выжлукціў!.. Да кроплі!.. Гад!..*(Заваліўся на ложак).*

*Ніка прыкрыла Макса коўдрай.*

8.

*У пакоі. Макс сядзіць на ложку. Ніка гатуе абед.*

М а к с. Абяцаў Пятровіч да вечара прыехаць, а ўжо раніца… Заплачу, сказаў, квартплату, і адразу на прыстань…

Н і к а. Можа, здарылася што?

М а к с. А што магло б быць?

Н і к а. Нітрагліцарын ён з сабой узяў. Я сама бачыла.

М а к с. Загуляць не можа…

Н і к а. Ён жа не ты.

М а к с. Ніка! Ну, годзе!

Н і к а. А без Пятровіча ўжо і сумна неяк…

*Макс затрымаў Ніку, якая несла каструльку з супам, і не даўшы той паставіць яе на стол, пачаў лашчыць Ніку…*

Н і к а. Макс! Адстань!

М а к с. Не адстану!

Н і к а. Суп жа пральеш! Ён гарачы! Ну, Макс!

М а к с *(перахапіў у Нікі каструльку, паставіў на стол, а Ніку падхапіў на рукі і паклаў у ложак).* Усё, прыехалі! Канчатковы прыпынак! Тут твой Казанціп!..

Н і к а. Дзверы хаця зачыні, дзівак!

М а к с. Няма калі! Я цябе вельмі кахаю, Ніка!

Н і к а. І я цябе, Макс!..

9.

*На беразе ракі Пятровіч, Ніка і Макс.*

П я т р о в і ч. ...Таму і затрымаўся, што з ваенкамата прыйшло запрашэнне... ў мяне на пошце абанентная скрынка... А будзь тая, што ў пад'ездзе, атрымаў бы я медаль да юбілею вызвалення Рэспублікі... Дзятва патрашыць скрыні ў пад'ездзе... І ніхто ім па руках не дасці... Удала я падгадаў: як раз на наступны дзень трэба было з'явіцца ў ваенкамат... Як адчуваў...

Н і к а. А вы прымацуйце ўзнагароду на пінжак, Пятровіч. Вам да твару будзе медаль.

П я т р о в і ч. Потым як-небудзь. Паспею...

М а к с. Але ж мы не ўбачым.

П я т р о в і ч. Добра, угаварылі.

Н і к а. Давайце я вам прымацую. *(Прымацоўвае медаль на пінжак Пятровічу).* Зусім іншая справа. Прыгажун вы наш!

М а к с. Не пазнаць!

Н і к а. Вам да твару медаль, Пятровіч!...

М а к с. Вельмі пасуе!..

*Тэма вайны. Кулямётныя чэргі. Гул самалётаў. Ляск танкаў. Стогны. Крыкі.*

П я т р о в і ч. Як там Максім? Куды прыбіла яго, да якому берагу?..

Н і к а. Дарэмна я адрас не дала яму...

М а к с. Ніка, зноў?!

Н і к а. Што, Ніка? А табе не цікава, як складзецца яго лёс? Чалавек жа!..

*Макс не адказаў. Ён ударыў кулаком па сцяне, затрымаў погляд на ім.*

П я т р о в і ч.  Такія вось справы. Новую лодку я набуду – старую шкада. Я да ўсяго прывыкаю. Да гэтай прыстані вось прырос, прыкіпеў… Яе ўжо, па вялікаму рахунку, і няма, прыстані, а я не магу без яе… Да зямлі, што амываецца  хвалямі ракі, прывык… Яна мая зямля… Тут прайшло ўсё маё жыццё… Кусты вось гэтыя… Ракіты… Паветра рачное… Усё – маё!.. А ведаеце што, рабяткі?

Н і к а. Так, Пятровіч.

М а к с. У мяне галава расколваецца, калі б вы ведалі як!.. На дзве палавінкі!..

П я т р о в і ч. Калі ты ўжо мужчына – перахварэеш, а калі яшчэ не – перамаешся…

М а к с. Як гэта? Не зразумеў.

П я т р о в і ч.  Лепш пі што-небудзь праз соску. І то ў меру.

М а к с. Пятровіч, годзе. Мяне  ўжо Ніка чысціла. Не перанясу. Я ўсё зразумеў. Каюся!

П я т р о в і ч.  Кахае, значыць,  клапоціцца аб вашай будучыні.

М а к с. Ды і не можа ж кацялок балець тыдзень пасля таго, як дарваўся?..

П я т р о в і ч.  А ад галавы прымі  цытрамон.

М а к с. Ды добра і так, абыдуся!

Н і к а. Вы нешта хацелі сказаць, Пятровіч?

П я т р о в і ч *(узяў у кішэні пачак грошай).* Грошы вось у мяне ў руцэ. Той пачак, які Максім пакінуў на лодку. Падумаў, падумаў я і вырашыў: а навошта мне лодка? Хаця і з маторам?  Адплаваў я сваё. Вазьміце. Вы маладыя, вам спатрэбяцца…

М а к с. Не, я не вазьму… А ты, Ніка?

Н і к а. Я б узяла, ды толькі крышачку… І ў доўг. Навошта крывіць душой?

М а к с. Праўда, у доўг!

П я т р о в і ч.  Сілай прымушаць не магу. Ваша воля. *(Працягнуў пачак Ніке).* Адлічы, колькі вам трэба.

Н і к а *(узяўшы некалькі паперак).* Дзякуй. Нам хопіць.

М а к с. Удала атрымалася! І на бензін будзе, і на хабар даішнікам!..

П я т р о в і ч. Пажылі б яшчэ ў мяне, а? Вы мне як родныя сталі, яйбогу.

Н і к а. Дзякуй вам за ўсё, Пятровіч!

М а к с. Дзякуй, што вы ёсць.

Н і к а. Жывіце доўга!

П я т р о в і ч. Дзякуй, родныя мае. Дзякуй.

М а к с. А ў наступным годзе мы ўтрох прыедзем, Пятровіч! *(Абняў Ніку, пагладзіў яе жывот).*

Н і к а. Абавязкова!..

П я т р о в і ч. Тады дажывём да наступнага года!.. Так і быць!..

*Развітваюцца. Ніка і Макс знікаюць. Пятровіч застаецца адзін. Дзесьці побач з шумам пранеслася маторная лодка. Пятровіч паклаў пад язык таблетку…*

*Падняў на нас позірк. Позірк добрага, светлага чалавека.*

Канец.

# МАРШ ШУЛЬГІНА

*Сцэны з апошняга года вайны*

Д з е й н ы я   а с о б ы:

З а р э ц к і,  лейтэнант.

Ш у л ь г і н,  старшына, музыкант.

М а ц ю ш о н а к, радавы.

К а н ц а в а я, сяржант, палкавы снайпер.

М а р т ы н, сяржант.

П а р э п а, радавы.

Б а с а ў, палкоўнік.

П я л ё с т а к, хлапчук, 15 гадоў.

П я л ё с т а к –д з е д.

М а р 'я.

Б а б у л я.

Я г о р а ў, старшыня гарсавета.

П і в а в а р а в а, загадчык аддзела культуры гарсавета.

В а е н к а м.

П а н ч о х а в а, загадчык гаспадарчай часткі шпіталя.

П а р а н е н ы  н е м е ц.

А р к е с т р а н т ы.

**Д з е я п е р ш а я**

Пралог

*Летні дзень перад навальніцай. Неба зноў распаласавала маланка: раз, другі, трэці... Наплываюць аднекуль здалёк грымоты... Пялёстак-дзед сядзіць на табурэце, босыя ногі паставіў у таз. Ён задумлівы, засяроджаны, з трывогай у вачах...*

Г о л а с ж о н к і П я л ё с т к а *(незласліва).* Пялёстак, хадзі абедаць! Чаго гэта ты рассеўся пасярод двара? Гляньце на яго! Сядзіць, як пан!

П я л ё с т а к-д з е д. Не перашкаджай мне, Мар'я. Навальніца, бачыш? Басанож усю вайну прахадзіў, дык ногі ныюць...

Г о л а с ж о н к і П я л ё с т к а. Ты ідзеш ці не, Пялёстак?

П я л ё с т а к-д з е д. Пакуль не іду... Навальніцу слухаць буду...

*Навальніца ўсё бліжэй і бліжэй... Хмары зацягнулі неба, яно раз-пораз разрываецца маланкамі, пярун, здаецца, сабраўся раскалоць зямлю напалам... Пялёстак-дзед па-ранейшаму сядзіць на табурэце, слухае навальніцу...*

*Навальніца паступова перарастае ў грымоты бою... Кулямётныя чэргі... свіст снарадаў...Чуецца шматгалосае “Ура-а-а!..”*

1.

*Ішоў апошні год вайны...*

*Пакой у шпіталі. Тут усяго тры ложкі, тумбачка. Мацюшонак і Шульгін сядзяць на ложку і граюць на адным гармоніку вальс “Дунайскія хвалі”: першы – на галасах, другі – на басах. Зарэцкі ў такт музыцы стараецца грукаць мыліцамі. А ўсе разам спяваюць...*

*У палату заходзіць, спынішыся ля парога,Канцавая.*

К а н ц а в а я *(не адразу, спярша паслухала музыку, затрымала позірк на Зарэцкім).* Мужыкі! Закурыць ёсць?

*Але “мужыкі” зрабілі выгляд, што тое не іх тычыцца, і працягваюць канцэрт.*

К а н ц а в а я. Усё зразумела: ім нельга перашкаджаць. Дэм-бель!.. *(Выходзіць.)*

*Канцэрт спыняецца.*

М а ц ю ш о н а к *(паправіў вусы).* Гэта хтось заходзіў да нас, ці мне падалося?

Ш у л ь г і н. Не, сябры, не можа быць такога, каб я ды не стварыў пасля вайны духавы аркестр! Збяру ўсіх арлоў у адзін кулак, і мы так урэжам, так дадзім!.. У Дзень Перамогі!.. Каб далёка пачулі!..

З а р э ц к і. Снайпер Канцавая заходзіла.

М а ц ю ш о н а к. Ну, а мы?.. Мужыкі, называецца! Дзяўчына заходзіць, а мы – уль увагі... Няма закурыць, дык так і сказалі б: няма, прыгажуня! Хай ужо Шульгін... Стараваты, як сухі гарохавы стручок... Ён жа акрамя свайго баса нічога больш не бачыць і не чуе... А?

Ш у л ь г і н. Не заўсёды крывы корч гарыць дрэнна. А мне, каб прыняць баявы выгляд, каб выпраміцца, – аркестр патрэбен!.. Аркестр!.. Духавы!.. Тут ты праўду кажаш, Мацюшонак, а так сапраўды – стручок... Але аркестр абавязкова ствару!

М а ц ю ш о н а к. Пачакай ты са сваёй трубой, старшына!

Ш у л ь г і н. Гэта не проста труба -- гэта бас. Ого гэта!..

М а ц ю ш о н а к. Ці, хутчэй за ўсё, -- чамадан, дзе можна насіць усе твае рэчы, Шульгін. А зверху -- пілотку... Каб бачылі, хто шпацыруе!..

Ш у л ь г і н. Сёння, магчыма, і служыць мой бас чамаданам. Я ж, сябры мае, ужо бачу заўтра. Верыце, я ж на вайну пайшоў са сваім басам. Граў на ім, а той, штатны, так і праляжаў у футурале... Са сваім басам я і вяртаюся з вайны... У адным месцы варожая куля дзірку зрабіла... Але нічога, залудзілі, а бас з таго часу грае яшчэ лепш. Нібы помсціць стралку таму...

З а р э ц к і *(Мацюшонку).* Аднясі дзяўчыне курава. У мяне тут некалькі цыгарак ёсць. *(Дастаў з рэчавага мяшка пачак, падаў Мацюшонку.).* Ты ў нас адзін лёгкі на пад'ём... І, да таго ж, самы малады... Можа, і “дзякуй” заробіш?

Ш у л ь г і н. Хто ж думаў, хто гадаў, што захварэю астмай... Але без музыкі я ўжо больш не змагу... Шчыра кажу. А калі Шульгін крывіў душой? Не згадаеце. Няхай цяпер тыя, у каго лёгкія добрыя, дзьмуць у мой бас... Баса не шкада... І трэба ж было хваробе прычапіцца?

З а р э ц к і. Кожнаму –сваё... Ёсць хваробы куды страшнейшая, чым ваша астма. Трымайцеся.

Ш у л ь г ін. Каб жа я пісарам быў страявой часці... Ці хоць поварам... Не, лепей – загадчыкам сталовай! Няхай сабе і астма тады, зжыліся б неяк. А то – на табе!.. Я ж, таварыш лейтэнант, і музыку пісаць магу... Для духавога аркестра!..

*З'яўляецца Мацюшонак.*

М а ц ю ш о н а к. Ды ніколі не паверу! Нізашто! Каб я ды ляжаў у адной палаце з Шульбертам!.. *(Вярнуў курава Зарэцкаму.)* Не ўзяла. Я, кажа, не ў цябе прасіла!

З а р э ц к і. Цікава. А якая розніца ёй, у каго браць курава?

М а ц ю ш о н а к. Нейкая ж ёсць. Мо таму, што ў мяне адна рука на павязцы... А? Тут яшчэ справа такая, брат лейтэнант: сэрца -- не абрус, перед кожным не пасцелеш... Вось мяне і адпрэчыла. Сам нясі, лейтэнант.

З а р э ц к і. Мне доўга ісці да яе трэба.

Ш у л ь г і н. Гэта я табе, Мацюшонак... У працяг размовы... Пачуеш, дасць Бог, – паверыш. Я наконт Шуберта. Такіх людзей пажадана б ведаць.

М а ц ю ш о н а к. Пачакай ты! А сёння не можам? На гармоніку? Памагу! Я ды ты? А? Як той раз? Давай урэжам што-небудзь з твайго рэпертуару, з тваёй музыкі, старшына!

Ш у л ь г і н. Рана, рана, Коля. Сёння яшчэ не час... Зраблю аркестр, адрэпеціруем як след, вось тады і паслухаем... Тады і ўрэжам... Да таго часу, глядзіш, і горад будзе святкаваць свой дзень вызвалення ад немца... А яшчэ лепей – у сам Дзень Перамогі...

М а ц ю ш о н а к. А наш горад – гэта які? Дзе ён?

З а р э ц к і. У кожнага ў нас ён свой, горад.

Ш у л ь г і н *(задуменна).* Самы прыгожы, самы родны, самы знаёмы... Як ён там, мой горад?..

*Паўза.*

М а ц ю ш о н а к. А ў мяне вёска. Адна вуліца. Ад фермы да дзеда Азара. І ўсіх спраў тых... А мне, ведаеце, і тут добра, на вайне!..

З а р э ц к і. Думай, што кажаш...

М а ц ю ш о н а к. Кажу тое, што чуў: падабаецца мне тут.

Ш у л ь г і н. Хлопцы, нельга нам без музыкі, нельга... А наконт вайны, дык гэта ён, Мацюшонак, пажартаваў.

М а ц ю ш о н ак *(агрэсійна).* Чаго скрывіліся? Зморшчыліся нешта, быццам я няпраўду сказаў. Праўду!

З а р э ц к і. Дзівак! Хіба ж можна так? Услых? Ды і ад мяне мог атрымаць мыліцай. За такія словы я не ведаю, што магу зрабіць. Яму, гляньце, на вайне падабаецца. Галава ў цябе на плячах навошта?

М а ц ю ш о н а к. Гэх... Жыццё ж да вайны ў мяне было -- хоць у пятлю лезь. Пашкадаваў суседчыных дзяцей: калаціла яна іх моцна, матка... Пачаў заступацца, а там і не заўважыў, як Нінка жаніла мяне на сабе. На адзінаццаць гадоў, здаецца, старэйшая за мяне была. Спярша ўсё было добра... А потым і на мяне пачала руку падымаць. Не, вы бачылі такое? Дыягназ адзін: не падлягае перавыхаванню.

З а р э ц к і. Не сказаў бы, каб ты, Мацюшонак, быў пакладзісты і з мяккім сэрцам...

Ш у л ь г і н. І я кажу: жывая ртуць!

М а ц ю ш о н а к. Лёгка казаць... Раней мы кошыкі плялі, а таксама вялікія кашалі з бяросты. Затым загадалі сеяць пшаніцу, а потым -- вырошчваць памідоры... На Поўначы, чуеце? Словам, як у армію забралі, толькі тут дасыта есці пачаў, абмундзіраванне выдалі...

Ш у л ь г і н. На вайне ж і забіць могуць.

М а ц ю ш о н а к. Могуць. Лёс... Ад яго не ўцячэш. У нас вунь сусед агурком падавіўся: не ў тое горла нібыта трапіў. За сталом сядзеў, абедаў. Бывае і так.

З а р э ц к і. Рабі, Мацюшонак, што хочаш. Я цябе не асуджаю. Нікольки. Толькі адно скажу: дзівак ты. Успыхваеш, як запалка.

М а ц ю ш о н а к *(узяў гармонік, рыпае, наколькі дазваляе яму рана, і спявае):*

Гарманіста палюбіць

Мілая збіраецца.

Мажа губы, пудрыць шчокі,

Толькі не ўмываецца.

Мае боты, брат, таго --

Прапускаюць аш-два-о.

*Згарнуў мяхі. Звяртаецца да Шульгіна.*

Пра што думаем, старшына?

Ш у л ь г і н. Тут ужо блізка... Рукой, здавалася б, падаць. А – не атрымалася!..

М а ц ю ш о н а к. Што, што блізка? Не гавары загадкамі.

Ш у л ь г і н. Радзіма Шапэна...

М а ц ю ш о н а к. Каму што! Лейтэнант, ці музыкант наш Шульгін дужа разумны, ці я – поўны дурань? Навядзі парадак!

З а р э ц к і. У шпіталі я такі ж камандзір, як і ты, Мацюшонак.

Ш у л ь г і н. Так не пашанцавала! І трэба ж, га? Спісалі начыста. Думаў жа даехаць... Лопнула, як кола ў нашай палутарцы, мая мара.

М а ц ю ш о н а к. Дык што, там у цябе сябрук жыве... Як яго?

Ш у л ь г і н. Ён многіх людзей сябар і таварыш... Фрыдэрык Шапэн.

М а ц ю ш о н а к. А, музыкант, значыць? Кампазітар! Ну-ну!..

Ш у л ь г і н. Тут ужо засталося – рукой падаць, здавалася б. Ат, не! Дамоў, Шульгін. Ты сваё адыграў, ты сваё адтэпаў.

М а ц ю ш о н а к. Не скажы! Паляжа нашых ого-го яшчэ колькі, пакуль будзем прадзірацца наперад. "Рукой падаць..." Не разумею я такіх людзей. Ну не разумею, і ўсё! Дзівакі! Ну, і навошта табе той Шапэн здаўся?

Ш у л ь г ін. Кожны, і той, хто пабывае ля дома Шапэна, прывозіць да яго дрэва са сваёй краіны. З усіх куткоў свету растуць там дрэвы.

М а ц ю ш о н а к. Таму цябе і не пусцілі далей Кёнігсберга, што паленаваўся дрэва выкапаць. Саджанец.

Ш у л ь г і н. Можна і насенне пасадзіць. *(Патрос кісетам.)* Вось у кісеце яно і ёсць, насенне. Бярозы. Нашай, беларускай. Шульгін з пустымі рукамі ў госці не ходзіць.

Ш у л ь г і н. А вось аркестр я абавязкова ствару. Вы яшчэ пачуеце мяне, лейтэнант!

З а р э ц к і. Аркестр – гэта добра, Якаў Барысавіч. Але ж дзе Мацюшонак?

Ш у л ь г і н. Будзем чакаць.

З а р э ц к і. Абавязкова. Перад дарогай і пасядзець не пашкодзіла б? Каб яна, дарога, потым лёгкай была. Разам пасядзець, утрох трэба.

Ш у л ь г і н. Ну а як жа!..

З а р э ц к і. Добра, Мікола. Адрасамі мы абмяняліся... Калі жывыя будзем, пасля вайны спішамся...

М а ц ю ш о н а к. Абавязкова, мужыкі.

З а р э ц к і. У нас цяпер у кожнага свая дарога.

М а ц ю ш о н а к. Я – у часць. А, можа, і раней пабачымся? Калі сапраўды жывыя будзем…

З а р э ц к і. Я зноў буду прасіцца на фронт.

М а ц ю ш о н а к. Прасіся, лейтэнант, да нас -- у разведузвод. Разам будзем у разведку хадзіць, “языкоў” браць. Нумар часці я вам запісаў, побач з хатнім адрасам. А, лейтэнант?

З а р э ц к і. Там відаць будзе. Спярша трэба на ногі стаць.

*Зарэцк,і Шульгін, Мацюшонак па чарзе падаюць адзін аднаму рукі.*

М а ц ю ш о н а к. Да сустрэчы. Якаў Барысавіч, наступным разам без трубы не прыходзь!

Ш у л ь г і н. Я ўлічу гэта, Мацюшонак. Мы яшчэ сыграем!

М а ц ю ш о н а к. Абавязкова, старшына!..

*Зацямненне.*

2.

*Гарадская вуліца. Зарэцкі ідзе на мыліцах, за спінай – рэчмяшок. Спыняецца.*

Г о л а с К а н ц а в о й. Закурыць ёсць, лейтэнант?

З а р э ц к і. А, гэта вы…

К а н ц а в а я *(з'яўляецца).* Гэта я. Вы не памыліліся.

З а р э ц к і. Ёсць закурыць. *(Дастае з рэчмяшка той жа пачак, падае Канцавой.)*

К а н ц а в а я. Дзесьці я ўжо бачыла гэты пачак…

З а р э ц к і. Іншага, даруйце, няма.

К а н ц а в а я. Не, што вы, што вы. Усё добра. Нават лепш і не прыдумаеш. Падарунак лёсу. У-гу. Я, між іншым, даўно за вамі сачу…

З а р э ц к і. Вінаваты…

К а н ц а в а я. У чым жа вінаваты вы, лейтэнант?

З а р э ц к і. Што трапіў пад абстрэл такой прыгожай дзяўчыны. Што не маскіраваўся.

К а н ц а в а я. Можна на “ты”?

З а р э ц к і. Так сапраўды будзе лепш.

К а н ц а в а я. Ну, і куды ж ты цяпер?

З а р э ц к і. Самы час сказаць: “Бывай, вайна!”

К а н ц а в а я. Дык і скажы.

З а р э ц к і. Не магу. Гэта будзе няпраўда.

К а н ц а в а я. Чаму ж? Для цябе вайна скончылася. Добры дзень, мір!

З а р э ц к і. А што, калі мы сядзем дзе?

К а н ц а в а я. Нічога, нічога, мы яшчэ не толькі пасядзім, але і патанцуем. Я ўпэўнена. Даю слова. А цяпер ідзі за мной, лейтэнант.

З а р э ц к і. Можа, спярша пазнаёмімся?

К а н ц а в а я. Там і пазнаёмімся…

З а р э ц к і. Ага. Зразумеў. Там дык там. Я Іван… Іван… Між іншым… З Беларусі… А ты Канцавая, снайпер з разведкі, з суседняга палка. Хто ж, ага, Канцавую не ведае?.. *(Канцавая спынілася, спадылба строга паглядзела на яго.)* Не-не, толькі з лепшага боку!.. Бягу, бягу! Толькі не так хутка!..

*Знікаюць.*

3.

*Закуток у кватэры. Уваходзяць Зарэцкі і Канцавая.*

К а н ц а в а я. Вось тут ты і будзеш жыць. Да поўнага выздараўлення.

З а р э ц к і *(сядае).* А мне, прызнацца, пакуль няма асабліва куды і спяшацца: хата згарэла, мама памерла, а бацька мой на заводзе загінуў перад самай вайной…

К а н ц а в а я. А пра хату, што згарэла, адкуль ведаеш?

З а р э ц к і. Пялёстак напісаў.

К а н ц а в а я. Сваяк?

З а р э ц к і. Ды не, не сваяк, але чалавек добры. Яму, гэтаму чалавеку, зусім мала гадоў: можа, трынаццаць, можа, на год больш… На адной вуліцы жылі… Неяк яго пакрыўдзілі хлапчукі, а я міма праходзіў, заступіўся… З таго часу і сябруем.

К а н ц а в а я. А Пялёстак – гэта імя ці прозвішча?

З а р э ц к і. Мянушка. Так Лёнік ён, Лёнька. Але ўсё завуць Пялёсткам, ды ён і сам у пісьме піша: "Чакаю новага пісьма, дзядзька Іван. Твой сябра Пялёстак". Адкуль, цікава, мянушка ўзялася?

К а н ц а в а я. Сапраўды, цікава.

З а р э ц к і. Гэта беларускае слова. Па-руску будзе "лепесток".

К а н ц а в а я. Прыгожае слова.

З а р э ц к і. І мне падабаецца. Патапталі неяк на школьнай клумбе кветкі, а Лёнік малы быў, стала шкада яму кветак. Ён падбірае іх і плача: "Пялёстачкі… Пялёстачкі мае даражэнькія… Пялёстачкі…" Так і пайшло…

К а н ц а в а я. Добры ў цябе сябра, Іван. Таму ты і спадабаўся мне, душу перавярнуў. Недарэмна ж кажуць: скажы, хто твой сябра, і я скажу, хто ты. Не крыўдуеш, што я такая нахабная?

З а р э ц к і. Не заўважыў…

К а н ц а в а я. Шчыра?

З а р э ц к і. Шчыра. Як на споведзі.

К а н ц а в а я. Добра, у нас, спадзяюся, будзе яшчэ час пагаварыць. Калі ты не збяжыш куды-небудзь…

З а р э ц к і. Выдумаеш таксама!

К а н ц а в а я. Мне спяшацца трэба. А раптам трывога? Чакаецца загад на наступленне… Не трэба забываць, што вайна ўсё яшчэ ідзе. А то далей пойдзе наша часць, а я адстану. Што тады? Скажуць, Канцавая загуляла… *(Паўза.)* А я, між іншым, яшчэ і не цалавалася… Калі па-сапраўднаму…

З а р э ц к і. Ды ну!

К а н ц а в а я. Не так усё павінна быць! Зусім не так!.. Не ведаю і сама, чаму я толькі з табой такая смелася, баявая… У мяне ўсё не так -- усё навыварат!

З а р э ц к і. Я буду чакаць цябе, Мар'я.

К а н ц а в а я *(здзіўлена)*. Мар'я? А гэта хто такая?

З а р э ц к і *(збянтэжана)*. Прабач! Галя. Ну канешне – Галя!.. Я буду чакаць цябе, Га-ля!..

К а н ц а в а я. А ўсё ж?

З а р э ц к і. Не важна – хто... Дзяўчына...

К а н ц а в а я. Прыгожая?

З а р э ц к і. Вельмі...

К а н ц а в а я. Тады, можа, мне пайсці?

З а р э ц к і. Не-не! Ні ў якім разе!

К а н ц а в а я. Хаця што тут дзіўнага? І ў мяне дзесьці жыве таксама першае каханне...

З а р э ц к і. Вось-вось... Менавіта так... Але пра вяселле размовы не было. Верыш?

К а н ц а в а я. А што мне застаецца рабіць? Значыць, мы з табой, Іван, пакуль другія... Нумары другія... А першыя нашы недзе там, далёка адсюль. *(Пасля паўзы.)* Аднак сваё першае каханне, Іван, я растаптала, расцёрла, нібы недакурак – ботам... Даўно...

*Паўза.*

З а р э ц к і *(ходзіць па пакоі на мыліцах)*. Не прывыкну ніяк да сваіх гэтых драўляных ног.

К а н ц а в а я. Прывыкнеш.

З а р э ц к і. Хутчэй бы.

К а н ц а в а я. А што будзе, калі я і сапраўды адстану ад палка?

З а р э ц к і. За гэта па галаве не пагладзяць. Дакладна ведаю.

К а н ц а в а я. Уладкоўвайся. Не маленькі. Ложак знойдзецца. І спі.

З а р э ц к і. А куды, дарэчы, ты мяне прывяла?

К а н ц а в а я. Гэта кватэра цёткі Надзі, яна мая добрая знаёмая... Будзь, як дома. Я з ёй пагавару, яна дапаможа цябе паставіць на ногі.

З а р э ц к і. А колькі ж ёй гадкоў, той цётцы Надзі?

К а н ц а в а я. Убачыш. А я пабегла. Калі ўсё будзе добра, вечарам сустрэнемся. Запомні, Іван: хлопцаў вакол многа, але маё сэрца ёкнула, калі ўбачыла цябе...

З а р э ц к і. Галя, а спытаць можна? *(Не адразу.)* Калі ты апошні раз апранала спадніцу?

К а н ц а в а я. Не памятаю... А навошта табе?

З а р э ц к і. А спірт часта п'еш?

К а н ц а в а я. Не спрабавала нават... Што, не верыш?

З а р э ц к і. Веру.

К а н ц а в а я. А чаму цябе ўсё гэта цікавіць?

З а р э ц к і *(набліжаючыся да Канцавой).* Ты самая прыгожая дзяўчына, якую я калі-небудзь сустракаў. Дык і заставайся ёй.

К а н ц а в а я. Адыдзі!.. Прэч! Каму сказала?..

З а р э ц к і. Не, не адыду, не выпушчу цябе... Ты для мяне цяпер на ўсё жыццё... Калі сама выбрала... Гэта цаніць варта... І я цаню... Ніколі я цябе не кіну, Галя!..

*Зацямненне.*

4.

*Гарадская ўскраіна. На месцы хаты засталася адна печ. Каля яе сядзіць Бабулька. Падыходзіць Пялёстак.*

П я л ё с т а к. Вам нічога няма.

Б а б у л я. А хто ж мне напіша, Пялёстак?

П я л ё с т а к. А чаго ж тады сядзіце тут?

Б а б у л я. Каля печы грэюся.

П я л ё с т а к. Зразумела. А я думаў, вам што трэба...

Б а б у л я. Трэба маладым. Вам. А нам... Што Бог пашле, тое і добра!... Не цяжкая торба?

П я л ё с т а к. Не, мала пошты.

Б а б у л я. А матка сама чаму ж не носіць пошту? Баіцца, відаць, гэтай торбы, ці як яна называецца?

П я л ё с т а к. Ды не: яна плача, калі пахавальныя прыносіць. А я -- не. Таму і нашу... Ну, дык я пайшоў. Сёння пахавальных няма. Сёння добры дзень.

Б а б у л я. Дык усіх, відаць, каго можна было, пазабівалі? Таму і няма. Госпадзі!.. *(Перахрысцілася.)*

П я л ё с т а к. Дзядзька Іван Зарэцкі мне пісьмо прыслаў. А так -- нікому.

Б а б у л я. І дзе ж ён цяпер, Іван, ваюе?

П я л ё с т а к. На фронце.

Б а б у л я. А-а, там, значыць, дзе і ўсе.

П я л ё с т а к. Ага.

*Прыбягае, нечым усхваляваная, Мар'я.*

Вам нічога няма.

М а р 'я. Хавайся, Пялёстак! Бо жанчыны цябе паб'юць, далібог! Што ж ты нарабіў, хлапчо? А маці куды цяпер вочы дзець? Яна ж за сумку адказвае? Так маці падвесці!.. Так падвесці!..

*Пялёстак шморгае носам, зацята маўчыць.*

Б а б у л я. Кажаш, Мар'я, правініўся ён?

М а р 'я. А то ж не хіба! Сам пісьмы піша, нібыта з фронту ад мужыкоў, а тых мужыкоў даўно ўжывых няма! Пакуль у адным з пісьмаў, да Варкі, здаецца, не падпісаўся сваёй мянушкай: "Цалую, абдымаю... Твой Пялёстак". Жанчыны адразу зверылі почырк -- сапраўды: адзін і той жа!.. "Я паранены ў правую руку, таму сам не магу напісаць табе, каханая мая, папрасіў вось суседа па палаце... У яго зуб баліць..." І ўсе ў яго былі паранены ў правую руку. А ў пісараў балеў зуб. Ну, і што ж цяпер ты скажаш?

П я л ё с т а к. Баяўся...

М а р ' я. Каго? Узяўся за матку разносіць пошту -- разносі. Дык не!.. Пайшлі да тваёй маткі і Варка, і Нінка, і Каця. Усе ўтрох!

П я л ё с т а к *( заплакаў і панёсся ад печы).* Не чапайце маю мамку-у-у!

*Паўза.*

Б а б у л я. Навошта ты так хлопца растрывожыла, Мар'я?

М а р 'я. Я і сама не ведаю, цётка...

Б а б у л я. Зусім жа дзіця. А, бач, разумны... Не хоча, каб людзям балела... Трэба ж!.. Хто б падумаў, а!..

*Мар'я бяжыць услед за Пялёсткам.*

5.

*Кабінет старшыні гарсавета. Ягораў ходзіць, думаючы аб нечым сур'ёзным. Стук у дзверы.*

Я г о р а ў. Калі ласка! Адчынена!

*Заходзіць Шульгін.*

Ш у л ь г і н. Добры дзень.

Я г о р а ў. Добры. А ён сёння і сапраўды добры, дзень. Сонца якое-е, а! Люба-дарага!..

Ш у л ь г і н. У вас гарадскі аркестр ёсць?

Я г о р а ў. Аркестр? Гарадскі?

Ш у л ь г і н. Так.

Я г о р а ў *(агрэсіўна).* Які тут аркестр, шаноўны?! Тут не да музыкі! Галава кругам ідзе! Людзям есці няма чаго! Гарадская каналізацыя разбурана! Фабрыка не працуе! А вы пра нейкі аркестр…

Ш у л ь г і н. Тады я пайду?

Я г о р а ў *(крыху астыў).* Дык пра што вы там казалі?

Ш у л ь г і н. У вас гарадскі аркестр ёсць?

Я г о р а ў *(няпэўна).* Ёсць, здаецца… Штосьці павінна быць… А навошта ён вам, аркестр?

Ш у л ь г і н. Я прапаноўваю на гадавіну вызвалення горада сыграць мой марш. Яго можна будзе выконваць і на Дзень Перамогі. Пакуль, магчыма, лепшы не напішуць.

Я г о р а ў. Прабачце, а вы хто такі будзеце?

Ш у л ь г і н. Шульгін я… Якаў Барысавіч. Служыў у вайсковай часці, якая стаяла ў вашым горадзе… У аркестры. Бас. Камісавалі. Астма ў мяне. Хачу застацца жыць у вас, каб сыграць марш… Адзінокі я. Маю жонку немцы закатавалі, дзяцей Бог не даў… Вы мяне слухаеце?

Я г о р а ў. Так, так. У вас, значыць, ёсць марш?

Ш у л ь г і н *(летуценнна).* Уявіце святочную плошчу… І гучыць марш!.. *(Мармыча нейкую мелодыю і дырыжыруе перад самым носам Ягорава.)*

Я г о р а ў *(ухіляецца ад апантанага Шульгіна).* Добра, добра, уяўляю.

Ш у л ь г і н. Ну, і гэтак далей. У такім жа тэмпе і рытме. Толькі, шкада, не чуваць маёй трубы… Пакуль не чуваць… Пакуль…

Я г о р а ў. Зараз мы, шаноўны Якаў Барысавіч, усё зладзім. *(Скіроўваецца да дзвярэй, але раптоўна спыняецца.)* Дарэчы, а дзе ж вы спыніліся ў нас?

Ш у л ь г і н. Зняў пакойчык.

Я г о р а ў. Зразумела.

*У кабінет уваходзіць Піваварава.*

П і в а в а р а в а. Сяргей Паўлавіч, дазвольце?

Я г о р а ў. Арына Сцяпанаўна! Літаральна вось зараз пра вас падумаў! Пазнаёмцеся: гэта Якаў Барысавіч, ён музыкант, напісаў марш да гадавіны вызвалення нашага горада…

*Шульгін пакланіўся.*

Асобным пунктам у плане падрыхтоўкі да юбілею пазначце: марш… Як ваша, прабачце, прозвішча, Якаў Барысавіч?

Ш у л ь г ін. Шульгін.

Я г о р а ў. Так і запішыце: марш Шульгіна.

П і в а в а р а в а. Зразумела. Але хто ж будзе выконваць той марш?

Я г о р а ў. Як – хто? Хіба ў нас нідзе не засталося аркестраў?

П і в а в а р а в а. Ёсць аркестры, я згодная. У кінатэатры, на фабрыцы…

Я г о р а ў. Ну вось!..

Ш у л ь г і н. Я там быў. На тых інструментах, што на фабрыцы і ў кінатэатры, мой марш не прагучыць. Патрэбен духавы аркестр. Таму і прыйшоў да вас, каб дапамаглі. Бас у мяне ёсць…

Я г о р а ў. Барабан… Што яшчэ трэба, Якаў Барысавіч?

Ш у л ь г і н *(паклаў на стол паперку).* Я тут усё напісаў. Але, скажу вам, мне здаецца, калі гучыць духавы аркестр, то яго і дрэвы слухаюць, і птушкі… Усе слухаюць…

Я г о р а ў. Згода: стварайце аркестр, Шульгін. Рабіце.

6.

*Закуток у кватэры. Зарэцкі  скача па пакоі ўжо без мыліц.*

К а н ц а в а я *(стаіць ля парога, моўчкі назірае за ім, а потым пляскае  ў ладкі).* Расцеш проста на вачах! Малайчына!

З а р э ц к і. Мыліцы можна назад у шпіталь адносіць.

К а н ц а в а я. Правядзеш мяне -- і аднось.

З а р э ц к і. Што, на Захад?

К а н ц а в а я. Прыйшоў загад: быць у поўнай баявой гатоўнасці. Такія вось справы, каханы. *(Прытулілася да Зарэцкага.)* Калі можаш, правядзі...

З а р э ц к і. Абавязкова. Зараз я... Ці, можа, паспрабаваць без мыліц?

К а н ц а в а я. Ці не зарана?

З а р э ц к і. А я вось вазьму ды і пайду роўна! Няхай баліць... Сцісну зубы... І пайду роўна! Змагу, Галя! Няхай бачаць, што я ўжо не той пакалечаны Іван, а зусім іншы чалавек. Глядзі! *(Праходзіць роўна, нібыта яму не баліць.)*

К а н ц а в а я *(кінулася да Зарэцкага, абняла яго).* Ведаў бы ты, як не хочацца мне пакідаць тут цябе аднаго! Ведаў бы, Ваня!.. Ты будзеш чакаць мяне? Скажы мне, каханы!..

З а р э ц к і. Я ж сказаў табе ўжо...

К а н ц а в а я. Скажы яшчэ раз, любы...

З а р э ц к і. Тут, магчыма, і не...

К а н ц а в а я. А дзе ж?

З а р э ц к і. Пакуль і сам не ведаю. Але буду чакаць цябе і толькі цябе.

К а н ц а в а я. Што ж, калі ідзеш -- пайшлі...

З а р э ц к і. Я буду таксама прасіцца на фронт...

К а н ц а в а я. Што, без цябе там не справяцца? Вайна заканчваецца хутка.

З а р э ц к і. Справяцца, Галя. Але ж тры гады я жыў разам з усімі ў акопах, мёрз на марозе, мок пад халодным дажджом, глядзеў, як у нас

кажуць, смерці ў твар... Кожную справу, распачатую некалі, трэба старацца давесці да канца.

К а н ц а в а я. А не згубімся мы на вайне, Ваня?

З а р э ц к і. Не для таго мы сустрэліся з табой, каб згубіцца!.. *(Абняў Канцавую, потым горача цалуюцца, выходзяць.)*

7.

*Кабінет ваенкама.*

*Зарэцкі стаіць перад маёрам-ваенкамам.*

З а р э ц к і. На фронт прашуся. *(Паклаў заяву на стол.)*

В а е н к о м. Што вы мне тлуміце галаву, малады чалавек? На фронт я вас не маю права пасылаць! Колькі можна прыходзіць да мяне?

З а р э ц к і. Помсціць трэба. Помсціць, маёр!

В а е н к о м. Помсціць будуць іншыя.

З а р э ц к і. За мяне ніхто не адпомсціць. Як вы не можаце зразумець?

В а е н к о м. Навошта ты лезеш у пекла, хлопец? Будзеш блытацца толькі там пад нагамі... Знайдзі сабе справу па душы ў мірнай працы.

З а р э ц к і. А што я ўмею? Што? Мяне ж вайна не навучыла працаваць на такарным станку, класці цэглу, вучыць дзяцей у школе!.. Не навучыла! Як вы не можаце гэтага зразумець? Я ж пасля школы -- адразу на фронт...

В а е н к о м. Дык што вы мне параіце? Пайсці супраць медкамісіі, якая вас камісавала, палічыла непрыдатным?

З а р э ц к і. Але ж я ўжо магу хадзіць! Хочацаце, урэжу Гапака? Бачу, не хочаце... І-эх!.. *(Танчыць.)*

В а е н к о м. Досыць. Хопіць. Спыніцеся!

З а р э ц к і *(не спыняючыся).* Дык адпраўляеце на фронт ці не?

В а е н к о м. Не-е!

З а р э ц к і. Я ўсё роўна заўтра зноў прыйду да вас. І буду хадзіць да таго часу, пакуль мяне не адправіце на фронт.

*Ваенком моўчкі, але рашуча падпісаў заяву Зарэцкага і працягнуў яму.*

В а е н к о м. Трымайце! Як з сынам хацеў пагаварыць з вамі, лейтэнант... Ваша справа. Не маленькі. Шчасліва.

8.

*Ноч. Неба поўніцца бліскавіцамі, грымотамі.*

*Выразна бачны сілуэт байца ў плашч-накідцы і з аўтаматам. Сілуэт знікае.*

*Чуваць гул палутаркі. Рыпенне тармазоў.*

Го л а с З а р э ц к а г а. Дзякуй, салдацік!

Голас салдаціка. Будзем жыць -- не прападзём!.. Шчасліва, лейтэнант!..

*Бразгат дзверцаў. З цемры з'яўляецца Зарэцкі.*

Г о л а с б а й ц а. Пароль!

З а р э ц к і. Які табе пароль?! Скажы лепш, куды я трапіў?

Го л а с б а й ц а *(мякка, добразычліва).* Паўтарыце яшчэ раз...

З а р э ц к і. Што табе паўтарыць?

Г о л а с б а й ц а. Можаце Пушкіна прачытаць... Лейтэнант Зарэцкі?

З а р э ц к і. Мацюшонак!

М а ц ю ш о н а к. Я! Я, таварыш лейтэнант!..

*Абдымаюцца.*

Вось сустрэча! Каб хто сказаў, што так атрымаецца, -- не паверыў бы.

З а р э ц к і. Я таксама. Мы не гучна размаўляем? А то немцаў напалохаем, чаго добрага.

М а ц ю ш о н а к. Ды не хвалюйцеся: яны далёка.

З а р э ц к і. А што ты тут робіш?

М а ц ю ш о н а к. А нікому не скажаце, таварыш лейтэнант?

З а р э ц к і. Абяцаю, нікому.

М а ц ю ш о н а к. А нічога не раблю. Прыдумаў для сябе варту. І вартую самога сябе. Надакучыла ў чатырох сценах сядзець, трэба ж і свежым паветрам падыхаць! Так што пароль маглі б назваць любы.

З а р э ц к і. Ты, Мікола, у сваім рэпертуары.

М а ц ю ш о н а к. Ага! Пабачыў шмат я дзівосаў на гэтай вайне, а каб зноў сустрэцца, -- ніколі б не паверыў, што такое можа быць. Хаця і спадзяваўся, не магу сказаць, каб не. Часта ўспамінаў і вас, і старшыну Шульгіна.

З а р э ц к і. Ты мне нумар часці пакінуў, гэта і спрацавала... Яшчэ і тое дапамагло, што ваша часць надоўга затрымалася тут, а я, як бачыш, хутчэй, чым трэба, на ногі стаў... Хочаш, прабягу?

М а ц ю ш о н а к. Ды што вы, таварыш лейтэнант! Не трэба. Яшчэ набегаемся... *(З усмешкай.)* Чуў, чуў пра тыя лекі, што вас у строй вярнулі!.. Снайпер Канцавая трапіла проста ў ваша сэрца! У самы яблычак! Так?

З а р э ц к і. Адкуль ведаеш?

М а ц ю ш о н а к. Шульгіна бачыў незадоўга да наступлення...

З а р э ц к і. Тады зразумела. Трапілі неяк яму на вочы. Было. Гарадок невялікі, сам жа бачыў – не схаваешся.

М а ц ю ш о н а к. А як жа тая дзяўчына, Мар'я, здаецца, пра якую вы з такім замілаваннем нам расказвалі ў шпіталі?

З а р э ц к і. Нічога не магу з сабой зрабіць! Няхай даруе мне Мар'я, але, сустрэўшы Галю, я забыў, што яна ёсць... Зусім. Адчуваю, што закахаўся... Вось цяпер толькі адчуваю... А тое, што было з Мар'яй, відаць, -- нешта зусім іншае, толькі не каханне... Даруй, Мар'я!..

М а ц ю ш о н а к. Ды яна не пачуе...

З а р э ц к і. І пры сустрэчы я ёй абавязкова скажу: даруй!.. Але, добра. Як вы тут, на перадавой?

М а ц ю ш о н а к. Учора камандзір узвода загінуў... Добры быў чалавек... Значыць, вас на яго месца, таварыш лейтэнант? А пра Шульгіна, часам, нічога не чулі?

З а р э ц к і. Ён застаўся ў тым жа гарадку... Сказаў, пакуль не зраблю духавы аркестр і не сыграю на плошчы –ні кроку адтуль... А я на гармоніку рыпаць навучыўся зусім выпадкова... Проста трапіў ён мне ў рукі. І пайшло-паехала! У суседа быў гармонік – адзін на некалькі вёсак. А потым, калі на вайну ішоў, ён мне яго не пашкадаваў аддаць... З ім, з гармонікам, кажа сусед, лягчэй ворага біць... Што ж, паказвай, дзе тут што і як. Я сапраўды прыбыў на пасаду камандзіра ўзвода разведкі.

*Злёгку абняліся. Знікаюць.*

9.

*З'яўляецца нечым усхваляваны Шульгін.*

Ш у л ь г і н. Бас! Хто бачыў мой бас? Божа мой! Я ж так бярог яго!.. Пылінкі здуваў!.. Які ж гэта аркестр будзе без баса?.. Хто ж пашкадуе беднага Шульгіна?.. Хто?.. Ой-ой-ой! *(Знікае.)*

*Канец першай дзеі.*

## Д з е я д р у г а я

10.

*Узлесак. На ім з'яўляюцца Зарэцкі і сяржант Мартын.*

М а р т ы н (*насцярожана*). Ціха!.. Нічога не чулі, таварыш лейтэнант?

Г о л а с Н е м ц а. Дойчэ камрадэн!..

З а р э ц к і. Стой тут, сяржант.

М а р т ы н. Ёсць!

З а р э ц к і. Пагляджу, што там... *(Знікае і неўзабаве выцягвае з хмызоў параненага немца і яго карабін.)* Дапамагай. У яго, няйначай, пачалася ўжо гангрэна.

М а р т ы н *(дапамагае Зарэцкаму цягнуць немца).* Што ж нам з ім цяпер рабіць?

З а р э ц к і. Ды я і сам першы раз за ўсю вайну такога "языка" дастаў. Ва ўмоўленым месцы сустрэнемся са сваімі, панясём на насілках. Астатнія два "языкі" – у надзейных руках Мацюшонка.

М а р т ы н. Дапамажыце мне яго як-небудзь на холку ўскінуць. *(Узваліў з дапамогай Зарэцкага немца на спіну.)* Калі яшчэ сяржант Мартын думаў, што будзе варожы элемент транспартаваць замест грузавіка!.. Карабін, карабін не забудзьце. Пасля вайны я буду з ім у Карпатах на паляванне захадзіць, на дзікіх бараноў... Ну, паехалі... Расступіцеся, дрэвы!..

*Знікаюць.*

11.

*У вясковай хаце. На табурэце сядзіць Зарэцкі. З'яўляецца Мартын.*

М а р т ы н. Закапалі. Гэта ж трэба мёртвага столькі на сваёй спіне перці?! Гаспадыня дала трохі бульбы, дык фрыцы ўзрадаваліся, нібы дзеці, і давай рабіць вячэру. А потым палеглі ў хляве і спяць. Варта праверыла. Яшчэ карміць іх, злыдняў! Не, цяпер я буду разумнейшы...

З а р э ц к і. Цікава, якім жа чынам?

М а р т ы н. Каб я яшчэ калі палонных браў – нізашто!.. Хай іх іншыя бяруць у палон. У мяне, таварыш лейтэнант, душа кіпіць крыўдай, а я ім павінен яшчэ бульбу здабываць?! Ніколі бульба для мяне такім цяжкім грузам не была, як гэтым разам. Нёс і ледзь не плакаў. Каму, каму нясу? Яны вунь і цяпер прахалоджваюцца, а нашы хлопцы іх ахоўваюць! Справядліва?

З а р э ц к і. Ідзі лепш адпачні, сяржант.

*Мартын моўчкі выходзіць. І амаль адразу ж вяртаецца, прывёўшы параненага Мацюшонка. Той амаль непрытомны.*

М а р т ы н. Колю параніла... Мацюшонка... Таварыш лейтэнант...

З а р э ц к і. Хто?.. Дзе паранілі? У нас жа ціха... Не страляюць у нас...

М а р т ы н. Каб жа знаць, дзе! Перад домам ляжаў... Думаў, чужы хто... Гляджу –

Мацюшонак...

*Кладуць Мацюшонка на падлогу.*

З а р э ц к і. Санітарку хутчэй!

М а р т ы н. Я... пабег! *(Знікае.)*

З а р э ц к і. Мігам, сяржант! Мігам! *(Схіліўся над Мацюшонкам, ляпае па шчоках, злёгку тармосіць.)* Коля! Коля! Мацюшонак! Гэта я, лейтэнант Зарэцкі! Ты чуеш мяне?! Не памірай! Не трэба! Цябе ж дзеці чакаюць!.. Шмат дзяцей у цябе, Мацюшонак!..

*Схіліўся над Мацюшонкам і Палонны, мацае пульс.*

М а ц ю ш о н а к *(нібыта трызніць)*. Пасылку... яны... маю... аддаць... ужо атрымалі... Радуюцца...

З а р э ц к і. Атрымалі, Коля, атрымалі! Жыві дзеля іх, дзяцей... Ты мяне чуеш? Чуеш? Зараз, пачакай трошкі... Сястрычка прыбяжыць... Не памірай...

М а ц ю ш о н а к. Алёнцы я сукенку паслаў і грабеньчык… Ваську -- порткі.. Велікаватыя… Падверне – і будзе насіць… Пецьку – кашулю… Зінулі… Зінулі…

З а р э ц к і. А Зінулі што паслаў, Мацюшонак? Коля, ты чуеш мяне? Што Зінулі  ты паслаў?! Што?!  Коля-я-я!!!..

*Прыбягае Мартын.*

М а р т ы н. Ідзе, ідзе сястрычка!..

З а р э ц к і *(зняў фуражку).* Гады вы! Гады! Ды я вас усіх ненавіджу! Ды я вас усіх!.. Такога чалавека забіць?!.

М а р т ы н. Таварыш лейтэнант… Таварыш лейтэнант… Можа, то была шалёная куля?..

*Зарэцкі выцірае з твару скупыя мужчынскія слёзы…*

12.

*Кабінет старшыні гарсавета. Уваходзіць Шульгін.*

Я г о р а ў. Ну, як нашы справы, шаноўны Якаў Барысавіч?

Ш у л ь г і н *(не адразу).* Не буду я граць свой марш.

Я г о р а ў. Чаму гэта не будзеце? Як гэта?

Ш у л ь г і н. Так атрымалася…

Я г о р а ў. Для чаго тады агарод увесь гэты гарадзілі? Аркестр жа сабраў?

Ш у л ь г ін. Сабраў. Са свету, як кажуць, па нітцы.

Я г о р а ў. Што ж тады за справы?

Ш у л ь г і н. Няма ў мяне марша…

Я г о р а ў. Няма?!.. Марша?!.. Зусім няма?!..

Ш у л ь г і н. Так. Няма.

Я г о р а ў. Вы мяне здзіўляеце, аднак! Гром сярод яснага неба! Гром! А мы ж яго ў план уключылі, а план зацвердзілі на абласным узроўні. Што ж цяпер рабіць будзем, а, Якаў Барысавіч? Грошы, між іншым, знайшлі на аркестр. Чаму маўчыце?

Ш у л ь г і н. Я прыдумаў усё. Даруйце.

Я г о р а ў. Прыдумаў?

Ш у л ь г і н. Прыдумаў.

Я г о р а ў. Для чаго? З якой мэтай?

Ш у л ь г і н. Каб быў у горадзе духавы аркестр. З гэтай мэтай... Гораду без духавога аркестра нельга. Без духавога аркестра ён напалову мёртвы.

Я г о р а ў. Нічога не зразумею. Вы ж не малое дзіця, каб так рабіць.

Ш у л ь г і н. Каб я паступіў інакш, не было б аркестра.

Я г о р а ў. Несур'ёзна, несур'ёзна, Якаў Барысавіч, усё гэта. Што ж цяпер будзе?!. Нават уявіць сабе не магу...

Шульгін. Лепш за Чайкоўскага, Рахманінава я не напішу. Сыграем марш, вы за гэта не хвалюйцеся. Маршаў шмат ёсць добрых. Ужо рэпіціруем...

Я г о р а ў *(перабівае).* Ды я не хвалююся. Але ж усе чакаюць ваш марш, Якаў Барысавіч! Усе чакаюць марш Шульгіна! І наша газета паспяшалася напісаць... Ваш партрэт змясцілі... Арол! А гэты “арол” не той птушкай аказаўся...

Ш у л ь г і н. Я папрашу ў людзей прабачэння. Калі трэба будзе. Спадзяюся, яны мяне зразумеюць. Ніколі не было ў мяне марша... Мне проста вельмі хацелася, каб у вас быў духавы аркестр... Зразумейце мяне, старога музыканта...

Я г о р а ў. У галаве не ўкладваецца! Дарослы і быццам сур'ёзны вы чалавек! Ну, і што рабіць будзем?

Ш у л ь г і н. Я, даруйце, на рэпетыцыю, Сяргей Паўлавіч, спяшаюся. А то разбягуцца хлопцы. А марш рэпеціруем! Самы лепш марш, які знайшлі! І бас вярнулі мне. У тую выціснутую шыбку падкінулі. Бас гучыць толькі разам з аркестрам. Ён адзін у полі не воін... Гэта я зайшоў, каб падзякаваць за інструменты. Дзякуй, Сяргей Паўлавіч.

Я г о р а ў *(бурклівa).* Няма за што... *(Махнуў рукой на Шульгіна, але не злаcліва.)*

*Шульгін выйшаў.*

Так правесці мяне, старога вераб'я, на мякіне!.. А-я-яй-яй-яй!.. Мяне ж Піваварава з'есць з вантробамі... Але малайчына Шульгін, нічога не скажаш!.. Цяпер у нас ёсць аркестр...

*У пакоі камандзір палка Басаў і камандзір разведузвода Зарэцкі.*

Б а с а ў. Разведчыкі павінны, чаго б гэта ні каштавала, лейтэнант, адшукаць размяшчэнне цяжкіх батарэй асобнага артылерыйскага палка ворага, перадыслакацыю якога на гэтым участку фронту зафіксавала наша авіяцыя. Знайсці трэба. Абавязкова. Немцы іх, батарэі, так надзейна схавалі, што будзь здароў!

З а р э ц к і. Магчыма, тыя батарэі ўжо зусім знялі з пазіцый? Прайшло ж некалькі дзён, як іх лятуны засяклі, а яны ні разу не стрэлілі.

Б а с а ў. Чакай, здымуць! Я іх, лейтэнант, нутром сваім чую!

З а р э ц к і. Што ж, яны хіба ўсляпую біць будуць?

Б а с а ў. У іх прыстрэлка ў гэтай мясцовасці, можа, яшчэ з месяц таму была праведзена. Па чужой зямлі ідзём, лейтэнант, не забывай. Памятаеш, як пад Варшавай было? Ваяваць засталося зусім нічога... Крыўдна пад варожы снарад трапіць...

З а р э ц к і. Я... Дакладней сказаць, мы, разведчыкі, гатовы выканаць любое заданне.

Б а с а ў. Ды ў цябе ж байцы – арлы!..

З а р э ц к і. Дазвольце ісці?

Б а с а ў. Асабліва нічога не мудрыце, дзейнічайце проста, але асцярожна. Даведайцеся толькі, дзе дальнябойныя батарэі пастаўлены, і вяртайцеся. Глотку ім заткнуць трэба, а то нам жа горш будзе... Дні праз тры пойдзем на штурм горада... Да гэтага часу каардынаты павінны быць у нас. Дзейнічайце.

З а р э ц к і. Ёсць! *(Казырнуў і выйшаў.)*

14.

*Прыцемак. Недзе за гарызонтам палаюць бліскавіцы. Чуваць выбухі, стрэлы. Сілуэты разведчыкаў, што крадком прабіраюцца да варожых аб'ектаў, належаць Зарэцкаму, Мартыну і Парэпу. Залеглі.*

П а р э п а. Я бачу! Бачу батарэю, здаецца! Ствалы тырчаць...

З а р э ц к і. Ты не памыліўся, Парэпа... Яны...

П а р э п а. Вартавы стаіць. Зняць?

М а р т ы н *(бурклiва)*. Разведчык, га! Ціха павінна быць, без шуму... Скажыце яму, лейтэнант?

П а р э п а. Ды я ведаю... Але рукі свярбяць...

З а р э ц к і. Гранатамі батарэю не спыніш. Нам трэба месца вызначыць і паставіць на карце крыжык. Потым артылерыя сваю справу зробіць… На такую заразу не адну “кацюшу” трэба, а ты, Парэпа, хочаш гарматамі справіцца. За мной, хлопцы… Асцярожней толькі…

*Прабіраюцца далей.*

*Раптам застрачылі аўтаматы і кулямёты.*

З а р э ц к і. Няўжо яны зясяклі нас?

М а р т ы н. Цяпер аблавай пойдуць…

П а р э п а. Трэба ўцякаць…

З а р э ц к і. Пайсці можна… Але з чым? З голымі рукамі? Паловы справы не зрабілі! Вы згодныя са мной?

М а р т ы н. Немцы таксама лічаць, што мы павінны драпаць да сваіх. Яны ўзмоцняць ачапленне і выставяць сакрэты, каб і мыш на пярэдні край не прашмыгнула. Калі пойдзем па іх разліку, таварыш лейтэнант, проста ім у лапы трапім..

З а р э ц к і. Куды ні кінь – усюды клін… Крыўдна пад канец фашыстам у лапы трапляць.

П а р э п а. Тады трэба ісці так, як ішлі…

З а р э ц к і. Малайчына, Парэпа! Такога нахабства ад нас немцы не чакаюць…

*Ідуць далей.*

Не адставай, Парэпа! Чаго там марудзіш?

П а р э п а. Ды за сук зачапіўся…

М а р т ы н. Чуеце?

*Наплывае шум пагоні.*

З а р э ц к і. Немцы! Бяжыце, хлопцы! Бя-жы-це! Парэпа, ты што там робіш?

П а р э п а. Зараз… Зараз я… У капкан, няйначай, трапіў… Сук пракляты!..

*Аўтаматная чарга зрэзала Парэпу.*

М а р т ы н *(страляе, адбегшыся, па немцах).* Няма Парэпы… Забілі яго… Што ж рабіць будзем, лейтэнант?

З а р э ц к і. Сыходзіць!

*Прыгнуўшыся, адыходзяць. Стральба паступова заціхае. Зарэцкі і Мартын стомлена плюхнуліся на зямлю.*

М а р т ы н. Дзе мы цяпер?

З а р э ц к і. А хто яго ведае… Калі б мы з табой па азімуце ўцякалі… Цяпер вось галаву ламай. Так недарэчна Парэпа прапаў…

М а р т ы н. Запомніць трэба месца, каб потым забраць яго…

З а р э ц к і. Мы павінны былі першымі немцаў убачыць! Чуеш, сяржант? Мы! Ён яшчэ хлапчук зусім. Гэта я вінаваты. Нельга яго было ззаду пакідаць, усярэдзіне яму трэба было ісці!

М а р т ы н. Дарэмна сябе вінавіціце, камандзір. Вайна -- не ў дзіцячыя гульні гуляем… Хіба ўсякую смерць адвядзеш? Яна, шэльма, шчыліну знойдзе… Дзе мы цяпер, дайце глянуць?

З а р э ц к і *(паказаў на карце пальцам).* Тут, здаецца… Толькі ноччу будзем дома. Калі нас з табой сюды занесла, дык і сутак будзе мала. Заўтра да раніцы трэба карту прынесці. Кроў з носу, а прынесці! Пачакай, я пастаўлю яшчэ адзін крыжык… Апошні… Там, каля батарэй, не далі… Ну дык што ж – мы і тут паспеем… *(Малюе на карце.)*

М а р т ы н. Разумею… Трэба прынесці -- дык прынясём! Не будуць жа яны з-за нас штурм горада адкладваць.

З а р э ц к і. Бач, куды загнуў! Таксама мне штаб камандавання: наступленне з-за нас адмяняй! Магчыма, гэта апошняе наступленне, сяржант. Не прынясём карту – колькі хлопцаў дарэмна паляжа. Разумееш ты гэта?

М а р т ы н. Мартын разумее.

З а р э ц к і. Добра, дружа. Пойдзем далей. А там відаць будзе…

*Ідуць далей. Мартын раптам спыніўся.*

Чаму стаў?

М а р т ы н. Вясна ж на зямлю прыйшла…

З а р э ц к і. А-а.

*Спеў птушак.*

М а р т ы н. У гэты час мы ў сваёй вёсцы бегалі бярозавы сок збіраць… Вясна, а мы з табой, лейтэнант…

З а р э ц к і. Памаўчы, сяржант. Ногі чыгуном наліліся. Але трэба ісці далей. Рана вясну нам з табой сустракаць.

М а р т ы н. Ціха як…

З а р э ц к і. Быццам выходзім… Цяпер нам дробязі засталіся… Карту ў нас цяпер ніхто не адбярэ… Яна, карта, даражэй за ўсё каштуе сёння… *(Глядзіць у бінокль.)* Што гэта там? Афіцэр, не пазнаю хто, вітаецца за руку з салдатамі… Абдымаюцца… Падкідваюць уверх пілоткі… Трымай бінокль, паглядзі…

М а р т ы н *(глядзіць у бінокль).* Дык што тут незразумелага, камандзір? Вайна скончылася!

З а р э ц к і. Не веру! *(Вырваў бінокль у Мартына.)* Не веру! Няўжо?!

М а р т ы н. Вось вам і “няўжо”! А вы кажаце, што рана нам вясну сустракаць. Ды не рана, таварыш лейтэнант. Самы раз!

З а р э ц к і *(абхапіў Мартына, спрабуе яго паднясць).* Віншую, сяржант! Праўды яна скончылася, вайна!.. Віншую!.. Жыві, жыві доўга, сяржант!..

М а р т ы н. І вы, таварыш лейтэнант!..

*Зарэцкі і Мартын штурхаюцца, нібы малыя дзеці.*

15.

*Зарэцкі сядзіць на лаве. З'яўляецца Канцавая.*

К а н ц а в а я. Ваня! Я шукаю цябе, а ты вунь куды забраўся. *(Падышла да яго, дакранулася да шчакі.)* Калючы які ты. Нібы вожык. Пагаліўся б! Свята ж! Вайна скончылася!

З а р э ц к і. Пагалюся. Пазней… Шчэць зняць прасцей, а іншае куды падзенеш?.. *(Вытрымаўшы паўзу.)* Я ж забіваў людзей…

К а н ц а в а я. Калі ж вайна…

З а р э ц к і. Была вайна… Калі яна была, пра гэта не думалася… А цяпер вось адразу, неяк знянацку, абрынуўся на мяне ўвесь гэты цяжар, зваліўся… Прыціскае да зямлі… Ажно ў скронях звініць… *(Узняўся з лавы.)*

К а н ц а в а я. Без гэтага на вайне не бывае -- каб не забіваць… А мне што, думаеш, не шкада было забітых? Шкада, Ваня. Але ж што зробіш, калі ў нас з табой лёс такі? Мы абаранялі сваю зямлю, сваіх людзей… Нас абавязала гэта зрабіць наша адказнасць перад Радзімай, і мы ўзялі ў рукі зброю…

З а р э ц к і. І яшчэ. Так і не ведаю, якая куля падкасіла Колю Мацюшонкава… Не магу дараваць сабе, што не выбраў часу, каб пагутарыць з Парэпам, не зазірнуў яму ў душу… Не паспеў… Вайна хоць і скончылася, але, адчуваю, яна будзе яшчэ доўга жыць у нашых сэрцах!..

К а н ц а в а я. Але ж мы ж перамаглі!

З а р э ц к і. Згодны. Будзем думаць, як нам жыць цяпер, з якога канца пачынаць. Урал твой далёка, паедзем да мяне…

К а н ц а в а я. Такой радасці, як сёння, у мяне яшчэ ніколі не было! З табой, Іван, хоць на край свету!..

З а р э ц к і. Ты будзеш шчаслівай, Галя. Я абяцаю табе…

*Зарэцкі прытуліў каханую, а сам доўга глядзіць перад сабой… Доўга і задумліва… Глядзіць да болю ў вачах…*

16.

*Каля печы сядзіць Бабуля. Падыходзяць Зарэцкі і Канцавая. З рэчамі.*

З а р э ц к і. Вось мы і дома!  Добры дзень усім вам, людзі!

Б а б у л я. Добры, добры, Іван… З вяртаннем цябе!

З а р э ц к і. Дзякуй.

*З'яўляецца  Мар'я. Яна стаіць наводдалі.*

З а р э ц к і *(крыху нават збянтэжыўся, убачыўшы былую каханку).* Мар'я?!

М а р 'я. Мар'я. Што, не пазнаў?

З а р э ц к і. Чаму ж… Пазнаў… І табе добры дзень…

М а р 'я *(нялюба).* Вярнуўся?

З а р э ц к і. Як бачыш…

М а р 'я. Ды бачу, няўжо ж… Не сляпая… Я ўсё бачу, Іван…  Ты… Ты не думай, што прападу тут, калі адна… У нас  тут жаніхоў багата!.. Вось Пялёстак падрастае. Чым не жаніх? Вайна скончылася, цяпер нам спяшацца няма куды…

*Мар'я выбягае.*

З а р э ц к і *(наўздагон).* Даруй, Мар'я!.. Даруй… Сэрцу не загадаеш… Для іх, сэрцаў, мабыць, не бывае камандзіраў…

*Канцавая па-ранейшаму на тым жа месцы з цыгаркай. На сваім месцы, ля печы, і Бабуля.*

З а р э ц к і *(падыходзіць да печы, узрушана).* Бульба ёсць -- не прападзём! Ці ж мы не беларусы? Зараз мы!.. *(Выцягнуў чыгунок з печы вілачнікам.)* Бач ты, а! На хвілінку якую адвярнуўся, а вады амаль не засталося! На дне толькі кропля... Жывая, жывая, значыць, ты, печ. Малайчына. Гэта я табе, Іван, кажу. Ага. Вось адпачну трошкі -- як думаеш, мае салдат права адпачыць? – і возьмемся за справу. За мірную справу. У хату цябе памесцім, печ. Не, ты не падумай толькі, быццам твой гаспадар стаміўся. Хто мяне, Івана, зламіць можа? Якая халера? Вайна? Не дачакаецца! Хаця і хапіла, хапіла ліха. Аднак вось ёй, вайне!.. *(Паказаў дулю.)* Дзяцей нараджаем поўную хату! *(Канцавой.)* Я праўду кажу, Галіна Міхайлаўна? Ну, усё чула, печ? Хаця і новая справа, малазнаёмая, – адукуемся. Нічога страшнага. Без людзей – што за зямля? Без добрых людзей! Так, адна назва. Усё, усё будзе. Наладзім жыццё. А пакуль пачакай. Бачыш, як яно ў жыцці бывае? Усё, здаецца, можна знішчыць... Усё... Нават чалавека. А вось печ – не... Не прыгадаю, каб печ па цаглінках рассыпалася. Не прыгадаю. Хат – няма, а яны, печы, стаяць. А ведаеш, чаму так? Скажу, а як жа... Маю права сказаць... Таму што ты – стварэнне вечнае. Агонь у тваім нутры, печ. Мірны агонь. І патушыць яго – рукі кароткія!.. Гэта я табе сказаў, салдат Іван Зарэцкі!

Б а б у л я *(узнялася, падыходзіць да печы, прытуляе да яе рукі: грэецца).* Цёплая!..

З а р э ц к і. А то ж! Канешне, канешне, бабуля!.. Цёплая!.. Яшчэ якая цёплая!.. Вы частуйцеся, частуйцеся бульбай! У мундзіры. Сопкая. Калі ласка, бабуля! *(Паклаў бліжэй да яе бульбіну.)* Галя, ты дзе там?

*З'яўляецца Пялёстак з паштарскай сумкай на плячы. Румзае, размазвае рукавом кашулі слёзы на вачах, не рашаецца падысці да Зарэцкага і Канцавой. Зарэцкі сам падыходзіць да хлопчыка, падае яму руку, прыціскае да сябе...*

З а р э ц к і. Ну, прывітанне, ці што, Пялёстак?

П я л ё с т а к. Прывітанне, дзядзька Іван... Я вельмі рады, што ты вярнуўся... Каб ты ведаў, як рады!.. Маглі б забіць цябе на вайне..

З а р э ц к і. Не атрымалася, як бачыш, забіць. А ты змяніўся, Лёнька. Пасталеў, памужнеў. Ледзь пазнаў я цябе. Каб у горадзе дзе сустрэліся –прайшоў бы міма...

Б а б у л я *(Івану).* Канешне, у тваіх чаравіках хіба ж адразу яго пазнаеш?

З а р э ц к і. Ён такі, Пялёстак.

К а н ц а в а я *(абабрала тым часам бульбіну, падала Пялёстку).* Еш, хлопчык. Табе расці трэба.

Пялёстак *(не ўзяў бульбіну).* Дзякуй вам, цётка... Я сам. *(Падышоў да печы, перабірае бульбу.)*

Б а б у л я. Ён у нас самастойны чалавек. Не хлопец, а скарб...

З а р э ц к і *(Канцавой).* Гэта і ёсць ён, мой сябар...

К а н ц а в а я. Прыгожае імя: Пя-лёс-так. Ле-пес-ток. Правільна? Не забылася?

З р э ц к і. Не, не забылася.

К а н ц а в а я. Пялёсткі ўпрыгожваюць нашу зямлю... Калі цвітуць кветкі -- як гэта хораша, як гэта здорава!..

З а р э ц к і. Ты, ён і я... І ўскраіна нашага горада...

К а н ц а в а я. Я, ты і ён... А потым і ўскраіна... А потым -- і горад...

*Зарэцкі чмокнуў у шчаку Канцавую.*

Пялёстак *(узяў бульбіну на загнеце, тая пячэ пальцы, таму перакідвае яе на далонях).* Ого!.. Гарачая!.. Пякучая!..

З а р э ц к і. Печ – што трэба, Пялёстак! Будзем жыць!..

Б а б у л я. Нарэшце, Госпадзі!.. *(Перахрысцілася.)*

*Наплывае музыка. З'яўляецца духавы аркестр. Барабаншчык б'е калатушкамі і грыміць талеркамі. На трубе грае малады хлапец. Вухае кантрабасам вусаты дзяцюк. І, канешне ж, знайшоўся музыка і на бас Шульгіна. Усе яны апрануты хто ў што, але па іх адзенні не цяжка здагадацца, што за спінай гэтых людзей толькі што знерухомела, застыла вайна... А дырыжыруе, вядома ж, Шульгін. Канцавая танчыць з Зарэцкім, як і абяцала некалі яму. За імі назіраюць Мацюшонак і Парэпа... Яны ўжо ніколі не будуць кахаць, кружыцца ў танцы, радавацца жыццю... А Пялёстак, відаць, першы раз за ўсю вайну ўсміхаецца... Есць бульбінку і шырока ўсміхаецца... Толькі зрэдку змахвае рукавом слёзы на вачах...*

## Э п і л о г

*Летні дзень. Сонечна, светла. Недзе грае духавы аркестр... Пялёстак-дзед сядзіць на табурэце, босыя ногі паставіў у таз. Ён задуменны, засяроджаны, з трывогай у вачах... Потым стары нетаропка выцірае ногі ручніком, апранае сандалеты і, абапіраючыся на кавеньку, знікае пад чароўныя гукі вальса “Дунайскія хвалі”. Магчыма, яму прыгадалася зусім іншая мелодыя... Франтавік Іван Зарэцкі часта клікаў да сябе тады яшчэ хлапчука Пялёстка не толькі прыгадваць вайну, але і*

*слухаць франтавыя песні… Асабліва тыя, што надта прыгожа – з пласцінкі – гучалі пад духавы аркестр…*

Заслона

# СТАРЫ І ДАРОГА

*П'еса ў дзвюх дзеях*

Д з е й н ы я   а с о б ы:

Макар – стары чалавек, 50 і 85 гадоў.

Іван – Макараў сын, 25 гадоў.

Максім,

Ганна  – старыя людзі.

Аўніння – нябожчыца.

Лёшка – дарожнік, 20-25 гадоў.

Марыя – прыгожая дзяўчына.

Прохараў – настаўнік, 20 гадоў.

Хлопец – выпадковы прахожы, 18-20 гадоў.

Жмайлік – старшыня калгаса, 30 гадоў.

Міліцыянер.

Дырыжор.

*Падзеі адбываюцца адразу пасля вайны і ў блізкі ад нас час. І толькі на дарозе, якая ў п'есе з'яўляецца сімвалам жыцця, веры, надзеі, дабрыні.*

## **Д з е я   п е р ш а я**

Нашы дні

*Крыху паводдаль ад дарогі, там, дзе лепяцца будынкі вяскоўцаў, з'яўляецца вайсковы дырыжор, узмах палачкі – і плыве мелодыя... І ў гэты момант на дарогу прыходзіць Макар. Глядзіць на неба, прыклаўшы да вачэй картузікам руку. Спеў птушак. Сонечна. Хораша.*

М а к а р *( пяшчотна).* Добры дзень табе, дарога. Гэта я, Макар. Пазнала? Я. Пастарэла і ты. Пастарэла. Я ж, дзіцятка  ты маё, цябе даўно помню... І ты мяне... Хадзіў я па табе і басанож, і ў лапцях, і ў ботах юхтавых. Ага. Ну. На вайну мяне паклікалі... пры цары яшчэ... Вось гэтым месцейкам ішоў – бліжэй да дрэў стараніўся. Іх нямашкі сёння, а тады былі. Высокія. Тоўстыя. Помніш? Ага. Ну. Назад з вайны бег. Нейкая сіла мяне штурхала, дзяўбла кухталём у каршэнь. У маленькім куфэрачку пачастункі Аўгінні сваёй нёс... і Груньцы,  дачцэ. Думаў, спазнюся, не паспею. Гм, дзівак я, а праўда ж – было... І ты памагала мне, у пяткі каменьчыкамі джгала: бяжы, салдат, бяжы, засумавала па табе маладая жонка... А потым я і ў заробкі хадзіў, у бравары... Хапіла ліха... усяго хапіла...  Піла, піла ты мае слёзы, дзіцятка. Немец напаў, каб яму штаны ўсё жыццё навыварат насіць. А ў мяне ж сыны былі – волаты. Шкада было мне іх на смерць пасылаць, а трэба. Хто ж мяне, Аўгінню, Груньку, усіх барчан нашых  абароніць? Правёў я сваіх хлопцаў з ворагам біцца, ты ж помніш, а тады амаль кожнага дня бегма да цябе – вестачкі ад іх чакаў, перахопліваў паштальёна, не верыў яму, калі гаварыў, што нічога ад Міхаіла і Ванькі няма, сам перэтрасаў сумку... Не знаходзіў, не, паштальён не хлусіў. А калі быў трохкутнік салдацкі – значыць, быў.

Усіх салдат, што з вайны вярталіся, я сустрэў. І сына свайго. Во на етым месцейку, дзе стаю. Тут сустрэў. Ага. Ну. Ваню. А Міхаіла – не. І цяпер вось не ідзе. Столькі часу мінула, а яго няма... Нешта не ідзе. Не чакай, гаворыш? Не, дзіцятка маё, не... Буду чакаць. Э-хе-хе! Набачылася і ты на сваім вяку ўсяго. Хапіла табе і горачка, і шчасцейка. Трактарок першы, а як жа, па табе спярша прайшоў, а потым ужо на поле закіраваў... Усе яны... і трактаркі,і машыны... процьма тэхнікі дзякуючы табе, галуба, знайшлі нашы Боркі...

*Наплывае і знікае гамана курэй.*

Чуеш, гвалт узнялі? Не гаспадар я стаў... Курэй толькі вось і трымаю каля сябе. На парсючка не хапае Макара... А так усё ў краму ды ў краму... І цукар тамацькі, і селядзец падвязуць гібрыдны, і хлебчык –  усё, дзякаваць Богу, ёсць. Здароўя толькі няма. Ды і жыву ж багата... Вельмі багата... Усіх равеснікаў сваіх даўно абагнаў... Ну, дык я пайду? Адпускаеш? Не сумуй. Во ўпраўлюся, адпачну трошкі, а тады зноў да цябе навярнуся праведаць. І

тады мы зноў пагамонім. І тады нам весялей будзе. Хуценька я. Ты чакай мяне, чакай, дзіцятка…

*Зноў з'яўляецца дырыжор, зноў наплывае музыка. Зацямненне.*

Пасля вайны

*Каля дарогі, паблізу ад Макаравай хаты, сядзіць на ўслончыку дзед Максім, абапёршыся на кульбу. Побач з ім – стол, які застаўляюць няхітрымі стравамі Іван ( ён у вайсковым адзенні, з узнагародамі на грудзях) і суседка бабка Ганна. Грае патэфон. Ежу выносяць з хаты. Выносяць дружна, весела: у людзей добры настрой – яшчэ адзін франтавік вярнуўся! Дзеду Максіму сумна сядзяць на ўслоне, і калі побач праходзіць Ганна, ён ушчыпнуў яе за спадніцу.*

Г а н н а *( здзіўлена).* Ой, Максім, ты што гэта?.. Зусім здзяцініўся?

І в а н *( весела).* Ты маю суседку не чапай, дзед. Іш, жаніх!

М а к с і м *( хехекнуў).* А калі ўшчыкну? Ушчыкнуць – не адшчыкнуць. Не ўбудзе.

І в а н *( на вуха дзеду).* Ты шчыпай так, дзед, калі табе дужа ўжо прыспічыла, каб ніхто не бачыў. А? Зразумеў?

М а к с і м. Адзін на адзін баюся. Страшка. Дужа шчыпалка ў яе габарытная, халера!..

І в а н *( смяецца).* А-а, слабак!

М а к с і м. Прызнаюся. Прызнаюся, Іван. Сваё адшчыпаў. Што так, тое так. Вы хутчэй, хутчэй на стол стаўце… ды памені ўсялякай драбязы… Бутыль, бутыль! Ён генерал на стале!

І в а н. Будзе і ён на стале, твой генерал.

Г а н н а. Ды ўжо ж стараемся!

М а к с і м. Эх, нап'юся ж сёння! За вайну першы раз набяруся, відаць, як сабака блох. А што? Сёння можна. Прычына важная. Не кожны дзень такія святы.

*Іван прыносіць графін з самагонам.*

І в а н. Ну як вы тут, дзед, жылі?

М а к с і м. Раскажу, раскажу, Іван. Але трошкі пазней. Пасля трэцяй…

І в а н. Тады за стол!

М а к с і м. Гэта з радасцю. Гэта я заўсягды… *(Падсядае да стала).* Во, дзякаваць Богу, і сагрэю свае костачкі…

*З'яўляецца Ганна – на гэты раз яна прынесла і свае талеркі-міскі.*

*( Ганне).* Паступіла каманда – за стол!

Г а н н а. Да ты праспіш!

М а к с і м. Будзе… ета самае… мяне шчыпаць… А зачэпіш – то і я цябе, маладзіца, укленчу… Ды моцна-а! Як рак зацісну! Усімі клюшнямі!

Г а н н а *( смяецца).* Ой, рак! Рак-вусач! Маўчы ўжо, пень стары! Цябе вунь шашаль пагрыз усяго – мука жывая сыплецца.

М а к с і м. Цьфу!

І в а н. Ну што ж ты, цётка, на мужыка так?

Г а н н а. А дзе тут мужык? Гэта? Адна назва.

М а к с і м *(крыва ўсміхнуўся).* Ох і смала ж ты, Ганна! Але ў маладосці ёмкая была, помню. Нічога. Вочы гарэлі – як у цыганкі. Было-о!

Г а н н а. Во тады трэба было і шчыпаць. А ты дзе быў? Дзе быў, пянёчак мой стары, пытаюся?

*Максім крэкнуў, махнуў рукой, адвярнуўся.*

І в а н. А дзе ж бацька?

Г а н н а *( кліча ).* Макар! Га, Макар!

М а к с і м. Не ў той бок рэпрадухтар свой павярнула…

Г а н н а. Макар!

М а к с і м. Ды не ў той бок, кажу ж табе, крычыш! На дарозе будзе Макар. Дзе ж яму быць, калі не там? Глядзіць, відаць, ці не ідзе з вайны Міхал…

І в а н. Там. На дарозе. *( Сеў).* Пачакаем. Можна перакурыць. Ён пачуў – хутка будзе…

*Грае патэфон. Усе моўчкі сядзяць за сталом. Макар стаіць на дарозе, размаўляе з Аўгінняй. Аўгіння стаіць перад ім, бы жывая.*

М а к а р. Вось такія навіны, Аўгіння.

А ў г і н н я. Я чула, Макар. Чула я. Мне землякі ўсё чысцейка расказваюць, якія ка мне прыходзяць… Усё расказваюць…

М а к а р. Будзем жыць з Іванам, удвух весялей чакаць нам Міхаіла будзе... Чакаем – пакуль няма...

А ў г і н н я. Чакайце, чакайце сыночка нашага родненькага... Даўно весткі не падаваў Міша?

М а к а р. Даўно. Ведаеш, а мне сон прысніўся... перад тым, як Івану прыйсці з фронту... быццам сад цвіце... бель-белізна кругом... вочы ажно рэжа... і дзіўна ж – сад цвіце, у пялёстках увесь, а сярод пялёсткаў яблыкі вісяць... крамяныя, налітыя... я хацеў сарваць адзін яблык, працягнуў руку, узяў... а ён цёплы-цёплы, як нешта жывое... Не, не сарваў...

А ў г і н я. І добра, мусіць, Макар, што не сарваў яблык...

М а к а р. А чаму не сарваў – не ведаю, не магу сказаць, але не сарваў... За стол мяне клічуць... Пайду... Максім прыкандыбаў... Ганна... Пайду... Баліць у мяне, вельмі баліць... во тут... пад апранашкай... што цябе з намі няма -- таму баліць... зусім мала ты не дачакалася сына з вайны... Пайду... За стол... Няхай яшчэ жыве наш сямейны стол...

А ў г і н н я. Ідзі, Макар, ты жывы... табе да людзей трэба. Ідзі. Ступай. Ступай,

М а к а р *( азіраючыся).* Ана. Ну. Клічуць людзі. Завуць.

*Макар падыходзіць да стала.*

М а к с і м *( нецярпліва).* Няма? Міхаіла?..

Г а н н а *( штурханула Максіма).* Сядзі, ёлуп!..

І в а н. Бацька, ты галоўны і ў гэтай хаце, і за гэтым сталом. Кіруй.

*Макар напаўняе посуд – карэц, шклянку...*

М а к с і м *( сур'ёзна ).* Э-э, мне паўней, паўней, грамада!

*Смех. Макар дабавіў стораму.*

Во цяпер самы раз. Пад завязачку. Я даў слова – напіцца. Вы тут хоць што... хоць трэсніце- лузніце, хоць лузніце-трэсніце, а я павінен налізацца! І – баста!

Г а н н а. Толькі ж не памры, а то дзе тых дошак на труну знойдзеш?

М а к с і м. Дошак няма, а труна ёсць!

Г а н н а. Во як!

М а к с і м. А ты што думала? Знойдзеце на гарышчы. Якраз мой размер. Лажыўся. Крыху, праўда, лысінай упіраюся, але ўцісніце.

І в а н. Жыві, дзед. Доўга жыві.

М а к с і м. Мацъ яго пройбу, такое жыццё! Адна радасць, што вайна кончылася… сон гэты страшны… бяспутны мінуў… Ды і во калі хто вернецца, як ты, то весялей трохі. А так!.. Пара!

Г а н н а. Што – пара? Паміраць?

М а к с і м. Выпіць, дурніца!

Г а н н а. А-а, то я з радасцю. Ну, ну, цішэй… Макар хоча нешта сказаць.

М а к а р. Ну што ж, землякі-суседзі… Дзякуй вам, што прыйшлі за наш стол раздзяліць нашу радасць… Дзякуй… За цябе, Іван, вось і вып’ем, што жывы і здаровы вярнуўся… Чакаў я гэтага дня. І стол гэты бачыў. І Максіма з Ганнай за сталом. І вельмі добра, што хоць адно ў маім жыцці спраўдзілася… збылося… З вяртаннем цябе, сын! (Абняў Івана, пацалаваў). З вяртаннем!..

*Максім перахрысціўся, выпіў. Выпілі і астатнія. Закусваюць.*

М а к с і м . У нас такі, Іван , звычай: салдат не сыходзіць з перадавой, пакуль не адчытаецца, пакуль, гэта самае, не раскажа, дзе ваяваў, як… і, вядомае дзела, колькі на вайне той баб палапаў. Га?

Г а н н а. Макар, яму болей не налівай! Ні кроплі!

М а к с і м. Пасля трэцяй! Ша, Ганнуля, ша! Ведай меру!

І в а н *(смяецца).* Малайчына, дзед. Было ўсё на вайне.

М а к с і м. А то я не ваяваў, а то я сапаткі не квасіў супастатам! А то я не знаю! Хто ў грамадзянскую, га?.. То-та!

Г а н н а. Ты во і слова не дасі нікому сказаць1

М а к с і м. Ушчыкну-у!

Г а н н а. Шчыпай! *(Вылазіць з-за стала, падстаўляе старому зад).* Шчыпай, кажу! На! Бяры! Ну-у!

М а к с і м *( махае рукамі на Ганну).* Ідзі ты!.. Прычапілася, людзі, вы бачылі яе, га? Смала! Ідзі ты! Сёння свята, важны дзень сёння… а ты тут падстаўляеш… Не да цябе! Кыш!

*Смех.*

І в а н. Добра як дома!.. І людзі свае, і жарты!.. Ды і паветра – наша, барчанскае. Такога, здаецца, нідзе больш няма. Мо таму, што тут

нарадзіўся, тут хрысціўся… тут, відаць, і загавець прыйдзецца. Такія вось справы, землякі. А пра вайну, дзед Максім, я табе яшчэ паспею расказаць… туды пазней трохі… няхай душа астыне… супакоіцца…

*Макар напаўняе посуд.*

Давайце вып’ем за вас, людзі. За жывых. А потым і за мёртвых…

*Выпіваюць. Іван завёў патэфон. Плыве мелодыя. І зноў, бы з воблака, што злілося з гарызонтам, з’яўляецца вайсковы дырыжор… і махае, махае рукамі… і плыве над вусцішнай зямлёй музыка, душу поўніць… Падыходзіць, накульгваючы, Зух.*

З у х *(спыніўся, знерухомеўшы, шырока распасцёр рукі ).* Ё-маё! Бляха-муха! Каго… каго я бачу, не сысці мне з гэтага месца?! Іван?! Іван, паразіт, вярнуўся-я-я! *(Камечыць Івана).* А медалёў нахапаўся – быццам яблыкаў на дрэве нарваў! Адзін за ўсіх! І як гэта табе аднаму іх аддалі, га?

М а к с і м. З нашай вуліцы ўсе такія. Мы – не шурмялёўцы.

З у х. Ды знаю! Падэшвы на ходу адрываеце. *(Садзіцца за стол).* Добра, Іван, што ты вярнуўся, чэснае слова – добра! Слухай, давай прама сёння махнём да дзевак у Вець, а? У нас тут – ціш-цішыня, нікагусенькі. А там – кішыць! Кішыць там, Іван! Ты гэта толькі ў форме… ага… пры парадзі… а я, так і быць, к табе, пятаку начышчанаму, прымажуся. Дай пяць! *( Паціскае Івану руку).*

М а к с і м. Зух, ты нашага Івана не чапай, у зман не звodзь. Прыліп, бачу, як вусень да мяккага месца.

З у х. А чаму гэта ён твой, з якой пары? А можа, мой? Га-а? *(Смяецца).* З кім да вайны хадзілі на танцы? А-а! Усе вёскі абсвісталі. Цябе ў нашых радах відно не было і блізка!

М а к с і м. А на якога хрэна, ты вот скажы мне, яму, заслужанаму франтавіку, ардэнаносцу-медалісту, твае дзеўкі з нейкай там задрыпанай Веці? Скажы, Іван, гэтаму дурню?

З у х. Чулі, як абазваў? Ну, пачакай, клоп стары!

І в а н. Чаму, дзед? Дзеўкі там якраз і добрыя.

М а к с і м. К-хе! Папсаваліся даўно. Няма. Дробязь. Ні цыцок, ні… Эх!

З у х. Ды што ён разбіраецца! Баба Ганна, я праўду кажу?

Г а н н а. Не спецыяліст. Не ведаю… не разбіралася. З кім і быў грэх, а з Максімам – не, ніколі.

З у х. Няўжо… не?

М а к с і м. Цьфу!

Г а н н а. Разок, праўда, заціснуў мяне пад стогам… на жніве, дык я яго саломай накарміла… і сёння, бачу,  сыты.

М а к с і м. Добра, што хоць далей дзела не зайшло, а то б  уся вобласць знала.

З у х. Х- ха-ха-ха-ха-а-а-а! Во, во! А прыкідваўся! А прыкідваўся! Салома хоць смачная была, дзед? Смачная?

М а к с і м. Цыц мухам-камарам, я сказаў!Эх, Ганна, Ганна. Ну колькі можна тайны выдаваць? Во… во чаму вас, ядры вас у корань, на службу ў армію не бяруць… у салдаты… язык доўгі!

Г а н н а. А я не прасілася. А каб прасілася, то і ўзялі б.

М а к  с і м *( махнуў рукой).* Пара, Макар! Пара!

М а к а р. Наліта. Выпівайце. Закусвайце.

З у х. Эх, маць-перамаць! Ну, з вяртаннем цябе, Іван!

*Выпілі.*

М а к с і м. Іван! Ты вот скажы, Ваня, у якіх краях бываў?

І в а н. Багата дзе. У Польшчы, а да гэтага ў Малдавіі служыў. У Венгрыі давялося паваяваць…

М а к с і м *( Зуху).* Ну, ёлуп! А ты ў Вець! Да на храна яму, я кажу, Вець тая! Бачыш, дзе ён мог дзевак пацiскаць.

Г а н н а. Супакойся ужо хоць пасля трэцяй! Ціскач!..

З у х. Як таго хочаце, а свае дзеўкі усё роўна смачнейшыя.

М а к с і м. Табе адкуль знаць? Ты ж далей нашай курасадні не быў.

І в а н. Не, Зух праўду гаворыць.

М а к с і м. Ну, калі ты пацвярджаеш, то я згодны, згодны. Эх, кепска, што гэтая грамадзянская вайна толькі ў нас была, а далей не распаўзлася – вось і не магу параўнаць, што і дзе смачней.

Г а н н а. Распусціўся ты на старасці гадоў зусім, Максім. Га? Што гэта з табой?

М а к с і м. Налівай!

Г а н н а. Дулю! Тры было!

М а к с і м. Калі хочаш вострa так, то з хлопцамі таксама ў Вець махну. А што? І махну! Возьмеце, братва? У вас пытаюся – возьмеце?

Г а н н а. Вазьміце ўжо яго, хлопцы, вазьміце. Ён вашых дзевак не загарбузае. Там яшчэ Марфа Грышачкава жыве… хутка век адмерае. Во і нявеста Максіму будзе.

М а к с і м. Што-о? Чым карміць уздумала?

З у х. Узяць, да прыкладу, мы дзеда возьмем, а хто ж несці будзе? Я? Не, даруйце – кульгаю. Іван? Ну, калі толькі ён… *(Заўважыў нарэшце патэфон, узяў яго, разглядвае – нібы бохан хлеба на далонях).* Трафей?

І в а н. Не зусім каб… але ж і не куіў. Падарунак.

З у х *(энергічна).* Усё! Ідзём на танцы! І толькі ў Вець! Вець! Вець! Вець!… Пайшлі, Іван! Старым – старое, маладым – маладое!

І в а н. Дык я ж яшчэ і дома мала пабыў… няёмка. Паспеем мы ў Вець.

Г а н н а. Схадзіце, хлопцы, схадзіце. Праўда. Пагуляйце.

М а к с і м. Налівай!

З у х. Дом стаяў і стаяць будзе! Ніхто так доўга не стаіць на зямлі, як дом. Паклыпалі. Паклыпалі, Іван. Га? Трымайся, Вець! Дрыжыце, цёшчы! Хавайце дзевак! Жаніхі ідуць!

М а к с і м. З паціхвонам.

З у х. Ага! Правільна! Дзякуй, дзед, за падказку. І паціхвон возьмем.

М а к а р *(роздумна).* Схадзі, сын, пагуляй. Схадзі. Нагаворымся яшчэ. Наперадзе ўсё жыццё…

*Зацямненне.*

*І зноў з’яўляецца дырыжор…*

*На дарозе. Макар размаўляе з Аўгінняй.*

М а к а р. Сёння ноччу ў Максіма парсюка ўкралі з хлева. Свалата, а не людзі.

А ў г і н н я. І вайна, бач ты іх, нічому не навучыла…

М а к а р. Не гавары, Аўгіння. Час такі, калі кожны выжыць сіліцца. А як выжыць – не зусім ведае…

А ў г і н н я. І свой жа розум ім не ўкладзеш.

М а к а р. Багата хто хоча мець чужы розум у сваёй галаве.

А ў г і н н я. Гэта так, Макар. Гэта сапраўды так.

М а к а р. Максім плача па парсюку, як па чалавеку. І зразумееш яго… Адной бульбінай нішчымнай сыты не будзеш. Усё, казаў, апошні мой парсюк, больш трымаць не буду, на мой век хопіць. Няўжо век у яго заканчваецца?

А ў г і н н я. Няхай жыве Максім. Да мяне паспее… *( Знікае).*

М а к а р. Вось і ты мяне пакінула, маладзіца. Адзін стаю, як пруцік у голым полі… На ветры… І кожны сагнуць, відаць, будзе спрабаваць мяне… *(Углядваецца).* Хто ж там ідзе? Ці не салдат? Салдат быццам… у форме. Міхаіл? Не, гэта не ён. Міхаіл – вышэйшы… Іван ідзе… хто ж яшчэ!

*З'яўляецца Іван. Ён у форме міліцыянера.*

І в а н *(здзіўлена).* Ты што так глядзіш на мяне? Не пазнаў?

М а к а р. А ёстваю няхай! Іван ! Праўда – Іван!

І в а н. Павіншуй!

М а к а р. Быццам і трэба … але з чым мне цябе павіншаваць? Прызнавайся!

І в а н. У сіло трапіў, бацька. З адной вайны – на другую.

М а к а р. Ды бачу…

І в а н. З ваенкамата адразу ў міліцыю… прамой наводкай. А там дакументы паглядзелі, распыталі, дзе ваяваў, як, у якім чыне, за што і якія ўзнагароды маю, і выдалі форму. Насі, Іван! Будзь участковым! Сваё адзенне вось у клунку нясу… бо гэтае ў клунак не ўмяшчаецца, прыйшлося адразу апранаць. Пагоны ж такія, што і на вайне былі,-- сяржанцкія. Дык вось і не ведаю, баця, радавацца мне ці што рабіць, га? А ў рэшце рэшт працаваць недзе ж трэба. І ў міліцыі таксама.

М а к а р. Ды яно так. Працаваць трэба. Глядзі сам. Дарослы. Не мне насіць форму.

І в а н. Добра, пайшлі абедаць.

М а к а р. Абедаць паспеем. Цябе Максім пытаўся.

І в а н. Здарылася што?

М а к а р. Ён сам раскажа…

*Зацямненне.*

*На дарозе. З'яўляюцца Максім і Іван. Ідуць, пільна ўглядаюцца ў дарогу.*

М а к с і м. Я, Іван, сляпы, як крот… нічога не бачу. Хоць трэсні. Адсвяцілі мае вочы сваё.

І в а н. Сляды, дзед, галоўнае ёсць. Але ж шыны на колах аднолькавыя… зараза! Але свежыя.

М а к с і м. Свежыя?

І в а н. Адна надзея – распытаць усіх, хто сёння па дарозе ехаў у бок Веці.

М а к с і м. Во-во! Шурупіш! Не, нездарма цябе на такую высокую службу ўзялі.

І в а н. Не трэба падхалімнічаць, дзед.

М а к с і м *(прытворна здзіўляецца).* Я? Ды ты што, Іван! Я ж у вайну… ну ты ж ведаеш, камандзіру свайму і гавару: давай пабораемся. Ён: давай! І на лапаткі яго – чык! І парадак! Усе смяюцца, а камандзіру плакаць хочацца…

І в а н. Залівай, залівай!

М а к с і м. Слёзы вось-вось пырснуць… як кроплі з хмары. А каб быў падхалімам, то паддаўся б. Канешне, паддаўся б. Не, Максім не такі.

І в а н. Ды ведаю, ведаю я цябе. Прабач. Гэта я так, каб сказаць нешта.

М а к с і м. Бяды тае. Ты сляды, сляды намацвай.

І в а н. Яны нас, падобна на тое, завядуць дужа далёка. Ладна, вось што! Ты заставайся тут, а я прабягу далей сам!..

М а к с і м. Во-во! Галава-а! Шурупіш! Імчы!

*Іван ідзе далей, Максім застаецца на дарозе.*

*( Сам з сабой).* А што, і шурупіць. Абы на каго не натыркнуць гэтую форму. Там не дурні. Бач, адразу змікіцілі, што за чалавек наш Іван. Ён знойдзе… Парсюка – не, з'ядуць… а бандзюг знойдзе, возьме за жабры. Вось табе крыж – знойдзе! *( Перахрысціўся).*

*Зацямненне.*

*З'яўляецца дырыжор…*

Нашы дні

*Дарога. На ёй стаіць Макар, абапёршыся на кульбу. Наплывае рокат тэхнікі. Голас Жмайліка: «Вы едзьце да канторы, я даганю!»*

Ж м а й л і к *(з'яўляецца перад Макарам).* Ты, відаць, Макар, і ноччу на дарозе стаіш?

М а к а р. Калі не спіцца – прыходжу і ноччу.

Ж м а й л і к. Дык табе, можа, лаўку тут паставіць?

М а к а р. За клопат, старшыня, дзякуй. Не трэба. Чалавека на дарозе павінны ногі трымаць.

Ж м а й л і к. А ты, Сцяпанавіч, філосаф, гляджу!

М а к а р. Можа. Не ведаю, хто я. Дзед – ды і ўсё. Слухай, няўжо гэта ў наш калгас папаўненне пайшло?

Ж м а й л і к *(з гонарам).* Дарогу, дзед, будаваць будзем!

М а к а р *( здзіўлена).* Дарогу?

Ж м а й л і к. Дарогу, дарогу, Макар!

М а к а р. Дык яна ж уродзі і ёсць. Ці пад суседзяў задумалі?

Ж м а й л і к. Пад суседзяў не пад суседзяў, а чым мы горшыя за іх? І зробім! Зробім, Макар! Хопіць машы- ны ламаць. Сцяпанавіч, спяшаюся, прабач… а то хлопцы яшчэ мае не туды заедуць. Слухай, у цябе не прытулю я колькі дарожнікаў?

М а к а р. Дык ета ж… адзін я, старшыня, у хаце. Круглы сірата.

Ж м а й л і к. Ведаю, што адзін, таму і звяртаюся з просьбай. Што ж я, хлопцаў, да Куляшовых ці Шурмялёвых прыкамандзірую? Там ім самім няма дзе развярнуцца. Усё абдумаў. І да маладых не атрымліваецца – мужык прыраўнуе.

М а к а р. Ага. Ну. Хто ж толькі згатуе, накорміць?

Ж м а й л і к. Накормім! Ты за гэта не хвалюйся. Сталоўку арганізуем. Ім дах над галавой трэба. Вугал.

М а к а р. Ага. Ну. Калі так, то хай прыходзяць.

Ж м а й л і к. Спаць , спадзяюся, ёсць жа хоць дзе?

М а к а р. Усе ложкі пустыя. Стаяць, як у музеі.  Хай прыходзяць.

Ж м а й л і к. Ну дзякуй, дзякуй, Макар.

М а к а р. Ты толькі … гэта… непітушчых падбяры.

Ж м а й л і к. За гэта не хвалюйся. Чакай хлопцаў. Трымайся хаты.

М а к а р. Куды мне ўжо? Прывязаны.

Ж м а й л і к. Якраз хлопцам тут у цябе зручна будзе – дарога блізка.. Ну, я пабег! *(Кінуў кароткі позірк услед калоне).* Глядзі ты на іх – сталі, чэрці! Як сляпых усё роўна вадзіць трэба!

М а к а р *(услед).* Пачакай яшчэ хвілінку, старшыня…

Ж м а й л і к. Слухаю, дзед. Слухаю, слухаю! Гавары! Няма часу, Макар!

М а к а р. Асфальт – добра ета. Ага. Мы, барчане, таксама ўжо даўно ў лапцях не швэндаем. Праўдацькі.

Ж м а й л і к *(паспяшае).* Сутнасць, сутнасць давай!

М а к а р *(нібы не чуе).* Ты хоць і новы ў нас чалавек, а на свае вочы бачыш. Толькі баюся я, што дарога шкоды багата наробіць.

Ж м а й л і к *(здзіўлена, але зацікаўлена).* Во як! Нешта я цябе не разумею.

М а к а р. Паглядзі на вокны – праз хату, лічы што, забіты крыж-накрыж дошкамі. Няма каму ў тых хатах жыць. І астатнія, баюся, драпануць у горад.

Ж м а й л і к. А дарога тут пры чым?

М а к а р. Як жа… Чаму не бегчы па асфальту? Толькі бяжы. Толькі драпай.

Ж м а й л і к *(смяецца).* Пажывём – пабачым! *(Знікае).*

М а к а р. Ну, ну… Пажыві. Пабач. Добра было б, каб я памыліўся. *(Да дарогі).* Гэта ж адразу пасля вайны, Іван мой тады ўчастковым рабіў… ты слухаеш мяне, дарога?.. Таксама наляцела зграя нейкіх шалапутных людзей… На легкавушцы самі былі, а коні – нашы, калгасныя… Косці збіралі ў полі, прах салдацкі звозілі ў брацкую магілу… Магілы яшчэ было – рабілі магілу… з касцей… а там косці ж і конскія пападаліся -- іх адрозніш ад чалавечых, сляпы толькі можа не адрозніць, і ў кучу ўсе косці… «Якая вам розніца? Што мы тут косці гэтыя сартыраваць будзем? Закопвайце!»-- закамандавалі, бач ты, нам. Сартыравалі. Як жа так – з чалавечымі і конскія косці разам. У нас вунь у вёсцы могілкі ж розныя – і для людзей, і для жывёлы… У брацкай магіле павінны быць салдаты… браты па зброі. Хоць і коні не вінаватыя, што іх чалавек пад кулі запіхнуў…

што забіў чалавек, звёў са свету. Над гэтымі залётнымі трэба вока ды вока... а то і дарогу зробяць курам на смех...

*Падыходзіць Лёшка.*

Л ё ш к а *(весела).* Ты каму, дзед, лекцыю чытаеш?

М а к а р. Сяброўцы сваёй. Дарозе.

Л ё ш к а. Ідзі ты! А што, яна слухаць умее?

М а к а р. Каго як. Мяне слухае.

Л ё ш к а. Не, тут нешта не так. Макар? Макар, пытаю, ты?

М а к а р. Макар.

Л ё ш к а. Тады правільна. *(Пацісную старому руку).* Трымай пяць! Лёшка. Кватарант. Цікава, а па начах ты, дзед, па столі ці дроце не ходзіш?

М а к а р. Не, унучак. Па дарозе толькі.

Л ё ш к а. А то ноччу на гарбуз мой яшчэ наступіш.

М а к а р. Кватарант, значыць?

Л ё ш к а. Ну! Жыць будзем, як гавораць, пад адным дахам! Закурвай, дзед! *( Працягвае папяросу).*

М а к а р. Дзякуй. Я гэту атруту не ем.

Л ё ш к а. І не п'еш, мабыць?

М а к а р. Не. Ні тое, ні другое. Жыццё прыгожае цяпер. Пажыць хочацца.

Л ё ш к а. Трымай пяць! *(Пацісную старому руку).* І я не п'ю. Таму да цябе і адкамандзіравалі. Старшыня, як у войску, пастроіў нас і пытае: «Хто не п'е – падняць руку!» Адзін я падняў. Выйграў ці прайграў – там паглядзім. Слухай, дзед, а ясі ты хоць ці не?

М а к а р. Ем. Гэта раблю. Усё ем, што гасподзь бог пашле.

Л ё ш к а. Цікавая ты асоба, дзед Макар. Пашпарт хоць ёсць?

М а к а р. Не, няма. Даведка ёсць. Цыдулька. З пячаткай. Калі пашпарты выпісвалі, мне тады ўжо дужа багата гадоў было. Не выпісалі, пашкадавалі паперы, відаць. А я вось трыццаць гадоў яшчэ жыву. Без пашпарта, а жыву.

Л ё ш к а. Во і пагавары з табой. Паслухай, ты, відаць, і паравоза не бачыў?

М а к а р. Чаму ж? У тую, першую вайну, на вагоне ехаў. У вагоне месца не хапіла.

Л ё ш к а *(смяецца).* Ну, дзед! Ну, даеш! А вось самалёта – факт, не бачыў!

М а к а р. Лётаюць жа яны над галавой тут. Процьма.

Л ё ш к а. Адлёталіся! Больш не будуць – Расія забрала. У салоне сядзеў?

М а к а р. Не сядзеў. Чэсна жыў. З мазаля.

Л ё ш к а. Э-э, адстаў ты, бачу, зусім ад жыцця.

М а к а р. Чаму ж так і адстаў? Яно, жыццё, за мной ідзе. Ззаду. Я яго вяду. Я!

Л ё ш к а. Вядзі і мяне. У хату. Паказвай гняздо. На дарозе ж спаць не буду. А заўтра – за работу. Перавернем, дзед, мы тваю дарогу!

М а к а р. На гарадскі манер, значыць, будзе?

Л ё ш к а. Будзе! Як я сказаў – так і будзе, дзед! Сёлета! Мы ваду ў ступе не таўчэм! Таўкач дома забыліся! Нам дзяцей таксама карміць трэба!

М а к а р. Памаладзее, значыць, дарога. Што ж, ёй жыць яшчэ доўга... Ёй жыць...

Л ё ш к а. Старшыня ў вас – гаспадар. Адразу відаць. Ранейшага даўно б пара было турнуць. За каго вы, дзед, на сходах рукі ўзнімалі? Хоць ты і не вінаваты – без пашпарта. Ну! Што ён у вас тут пасля сябе пакінуў? Дзеці, гляджу, у вас на адзін твар. Не яго работа?

*Макар усміхнуўся.*

Вокны забітыя пакінуў? Дык гэта я бачу. А яшчэ? Нават дарогу не змог зрабіць. Гультай! Абібок! Не, ты вось падумай толькі, дзед, сам жа больш за іншых ездзіў па дарозе, а ленаваўся. Канечне, не свая ж машына. Позна вочы працёрлі. Суседзі вунь прыбіральні ў хатах маюць. А цяпер вот новага старшыню, Жмайліка, вазьмі. Зялёны, я тут не пярэчу, а разваротлівы, халера. Хвацкі. Смоўж. Не паспеў стол абжыць у кабінеце, а ўжо за дарогу ўзяўся. Гаспадар, я ж і гавару! Ну, патупалі, патупалі, стары. Вядзі мяне.

М а к а р. А што мне цябе весці? Куды? Вунь хата. Вунь парог. Пераступай – і жыві. Які ложак аблюбуеш, на той і кладзіся. Я на печы сплю.

Л ё ш к а. Рэкса няма?

М а к а р. Каго?

Л ё ш к а. Шарыка? Сабакі?

М а к а р. Калі ты добры чалавек, ён цябе не кране.

Л ё ш к а. Ну даеш! У мяне што – на ілбе напісана, які я? За калашыну тузане – і капут штанам!

М а к а р. Ён граматны ў мяне. Разбіраецца ў людзях. Ступай. Не бойся.

Л ё ш к а. Ладна, пайду. Але калі што... Ты мяне зразумеў, дзед? Калі што – адкушу твайму сабаку вуха. Ён Лёшку запомніць на ўсё застаўшаеся жыццё.

М а к а р. Ступай, ступай. Цябе прапусціць. Ты пралезеш і ў вушка іголкі – самай дробненькай.

Л ё ш к а *(перахрысціўся).* Ну, з Богам! *( Пайшоў).*

М а к а р. Добры быў Жук у мяне. Застрэлілі. Камусьці перашкаджаў. На шапку, кажуць. *(Вытрымаўшы паўзу).* І добра, дарога, што цябе ўпрыгожыць рашылі, і душа баліць – да такой, якая ты ёсць, я прывык. Але, прабач, тут ні ў чым я табе дапамагчы не магу. Такая мая ўлада. А мо і лепш табе будзе? Чуеш? Мо і лепш?

*Зацямненне.*

*З’яўляецца дырыжор...*

Пасля вайны

*На дарозе. З’яўляюцца Іван і Зух. Зух нападпітку.*

І в а н. Гавары хутчэй, няма часу! Слухаюся!

З у х. Начальнікам стаў – дык што, і часу адразу няма? Так усе, хто шкрабаецца ўгару, адказваюць. Вядомая справа. Ці, мо я памыляюся? А мо... так сказаць храпнем? Урэжам? У мяне ёсць. Мутнаватая, але градус мае не абы-які. Га? *(Паказвае бутэльку з самагонам).* Як глядзіш?

І в а н. Добра! Пастой вось тут, на дарозе... Падумай, што ты хацеў сказаць. Бывай. Успомніш – паклічаш.

З у х *(прытрымаў Івана за рукаў).* Пачакай, Іван.

І в а н. Чакаю. Я чакаю, як бачыш.

З у х. Іван, ліха тваю матары, ну навошта табе патэфон? Ты ж пры форме, у людзі выбіўся, да дзевак, значыць,-- я так разумею – хадзіць табе нельга-а! Тым больш са мной. Ды дзеўкі да цябе і без гэтай музыкі ліпнуць, як мухі на мёд. Аддай. Лепш прадай. Прадай! Грошай, праўда, у мяне пшык… няма. Але чым-небудзь заплачу.

І в а н. Чым, Міця? Чым ты заплоціш? Парткі апошнія прадасі?

З у х. А і прадам! Ды за такую штукенцыю, ядрона шыш, і парткоў не шкада. Гатоў у споднiках на танцы хадзіць.

І в а н. Хадзі лепш ужо ў штанах. А патэфон забірай. Раз табе ён так вельмі патрэбны – бяры. Карыстайся. Весяліся.

З у х. Ды я не сам… Я людзей – разумееш? -- людзей пасля гэтай усёй калатнечы хачу павесяліць… каб хоць трошкі забыліся яны на ўсё, што было.

І в а н. Ну дык я ж сказаў: забірай, Міця, патэфон, весяліся сам і весялі іншых.

З у х *(радасна).* Вось гэта па-нашаму! Вось гэта савецкі падыход да жыццёвай сітуацыі! Хвалю! Трымай пяць! *(Паціснуў далонь Івану).* Сёння ж!

І в а н. Дык што, забараняеш мне хадзіць на танцы?

З у х. Пакуль – так. Устрымайся. Сам разумееш: табе на круг ісці сёння неяк… не з рукі. А я… Дык што мне? Накруціў спружыну – і давай шавяліць народ. І расшавялю, Ваня! Ванюха, я табе, так і быць, за гэтую музыку знайду таго гада… ці можа нават усіх гадаў адразу… якія, мякка кажучы, злямзілі ў Максіма прасючка. Трымай пяць! Памагу! *(Паціснуў далонь Івану).* Ну, сёння трошкі выпіў… Але ж Зухам мяне недарэмна празвалі. А?

І в а н. Ты музыку грай. Я сам разбяруся.

З у х. Не-е, ты пакуль шышка малая. Без мяне – нуль. Нулёк ты без мяне, Ваня!

І в а н. Там паглядзім.

З у х. Глядзі, глядзі. Дай пяць! *(Паціснуў далонь).* За патэфон тая гніда, той клоп будзе поўзаць перад тваімі нагамі. Верыш? Бачу, не. А ты вер! Мне, Зуху, вер!

І в а н. Ну што ж, дзякуй і табе на добрым слове, як кажуць. Адмаўляцца ад тваёй дапамогі і сапраўды неразумна. Без вас, без простых людзей, хто мы, міліцыя, такія?

З у х. Гаўно!

І в а н. Памагай, я не супраць, каб не быць тым, чым ты сказаў.

З у х. Во-во! Думаць трэба! Дай пяць! *(Пацiснуў далонь Івану).*

І в а н. Хопіць нарэшце маю далонь трушчыць, а?

З у х. Не ўбудзе, Іван! Няўжо ты мяне, Зуха, не ведаеш? Ды я... Ды я... бляха- муха буду... калі не зраблю ўсё для друга. Усё-ё! Бачыш, храмак? Кульгаю, кульгаю, Ваня. А ты з вайны прыйшоў і нават не пацікавіўся – чаму гэта я, Міця Зух, кульгаю?

І в а н. Не. Не пацікавіўся. А ведаеш – чаму?

З у х. Не. А хочацца.

І в а н. Прывык, што мяне людзі акружалі і без ног, і бьез рук, і без вачэй... Прывык, Міця. І на цябе неяк не звярнуў увагі – быццам і ты адтуль, з вайны... Але і сапраўды цікава, што з табой?..

З у х. Ваня, слухай. Слухай, Ваня. Макаравіч, мяне ж на вайну чаму не ўзялі?

І в а н. Вось гэтага я таксама не ведаю.

З у х. Я і сам... не ведаю. Хоць пачакай! Кажуць, дакументы на мяне згубілі... пакуль тое ды сёе...

І в а н. І вайна скончылася?

З у х. Амаль што так. Амаль што так.

І в а н. Дзівак! Ну, пайшоў бы сам у ваенкамат, папрасіўся б на фронт.

З у х. А ... навошта? Навошта такая ліхасць? Х-хы, дурня, бачу, знайшоў. Не бяруць – значыць, я ім так трэба. Ды і няхай дакументы не губляюць. Буду я перад імі шапку ламаць!

І в а н. А калі трэба! А калі трэба і шапку!..

З у х. Ды пайшоў ты! Бразгаціш тут!.. Сам жа ведаеш, характар у мяне такі – ніколі наперад не лезу, не выторкваюся.

І в а н. Ты толькі ў той бок лезеш, дзе Вець. А пад кулі – не, цябе не відаць. Так?

З у х. Быццам. Даруй, жыццё, што такога ўрода дало!

І в а н. Землячок у мяне, бачу!

З у х. Арыштоўвай! Ты – мент! Давай! Бяры! Заграбай!

І в а н. Эх, Зух ты Зух! Цяжка мне размаўляць з чалавекам, які не пабачыў таго, што пабачыў я… А на маё месца многіх можна паставіць.

З у х. Дык і не будзем размаўляць. Не будзем і забудзем.

І в а н. Дык дзе ж цябе хоць параніла?

З у х. Не скажу. Табе не скажу. Дык што, патэфон не аддаеш?

*Іван моўчкі выносіць патэфон, Зух бярэ, здзімае з яго пыл , працірае рукавом.*

*(Свеціцца твар ва ўсмешцы).* Ванька-а! Ванька, падлюка! Навошта душу на трэскі расчапляеш? Я ж хацеў ваяваць… Я ж хацеў… А не ўзялі… Ну-у! А потым куды мне, кульгаваму? На які фронт?

І в а н. Кульгаеш чаму?

З у х. Бой быў… Бой…

І в а н. Усё ж ваяваў? Прыкідваўся?

З у х. Дык… г-гы-ы… дык… глядзеў… з бліндажа… Не, не з бліндажа… агаварыўся… прабач… выходзіў з бліндажа… залазіў на ліпу і глядзеў… нашых… як касой… Немец у Жукаве… а нашы на падоле… як на далоні… ён і пачаў страчыць, немец… і ўсіх паклаў… А нашы лезлі, лезлі, піналіся, зямлю грызлі… спрабавалі нават «ура» крыкнуць … і захліпаліся… не было каму крычаць ужо можа праз якіх дзесяць мінут… А потым ціха стала… Немец зрабіў сваё і сканаў… Салдат жа хаваць трэба… Бацька твой, Максім, я і яшчэ некалькі мужыкоў ямку выкапалі… і ўсіх пачалі зносіць… хаваць жа трэба… свае ж… І тут мне прыглянуліся новенькія чобаты… толькі я хацеў зняць іх з нагі… не босаму ж хадзіць… а ім навошта на тым свеце, падумаў, чобаты… а камандзір ачомаўся… яго параніла толькі … я за чобат і цягну з нагі… а ён з пістолі мне па назе… каб не было на што той чобат нацягнуць… Вось так… Ледзь без нагі не застаўся… добра што хоць не адрэзалі… А хацелі адцюкаць… Не даў… Так я і адваяваўся…

І в а н. Круці патэфон. А самагон больш не пі. За-ба-ро-не-на!

З у х. А што сам п’еш?

І в а н. Ні- чо-га!

З у х. А як з вайны прыкандыбаў, мы што пілі? Забыўся?

І в а н *(схапіў Зуха за каўнер).* Гад ты ўсё ж, Міця, гад!

З у х. Патэфон... патэфон... патэфон разаб'ем... Мяне бі, а яго – не...

І в а н. За-ба-ро-не-а-а!

З у х. Зразумеў. Поўнасцю. Цалкам. Трымай пяць!

І в а н. Ды пайшоў ты!

З у х. Зразумеў! Я пайшоў! Мяне няма! *(Знікае).*

І в а н *(услед Зуху).* Ды вяртайся ж!.. Ненадоўга сыходзь!..

*Зацямненне.*

*Каля стала. На лаўцы сядзіць Максім. Падыходзіць Макар.*

М а к а р. Ну як жывеш, Максім? *(Сядае побач).*

М а к с і м. Памёр Максім – і хрэн з ім! *(Уздыхнуў).* Развітацца прыйшоў з табой, Макар.

М а к а р. Едзеш куды?

М а к с і м *(сур'ёзна).* На той свет.

М а к а р. Не дуры, дзед. Не дуры.

М а к с і м. Праўда, праўда, Макар. Ужо сабраўся. Ды тут і ехаць... што тут ехаць? Вунь і могілкі... А навошта жыць? Сваё на зямлі адмераў, маладым трэба дарогу саступаць... няхай яны цяпер зямельку топчуць...

М а к а р. Няўжо праўду кажаш?

М а к с і м. Ісцінны хрэст. А што, скажы, я за жыхар? Кожны пакрыўдзіць можа... пальцам крануць... Парсюкі ж не ў мяне аднаго, а, бач, да мяне залезлі... Значыць, спісалі Максіма... няма Максіма...

М а к а р. Ды не бяры ты, дзядзька, блізка да сэрца. Загоіцца рана, зарубцуецца.

М а к с і м. І не бяру, а бярэцца.

М а к а р. Трымайся. Не тое перажылі....

М а к с і м. Заўтра паміраць буду.

М а к а р. Ды кінь ты ў рэшце рэшт! Заладзіў!

М а к с і м. Не паспеў я толькі Пецьку на магілцы добры крыж паставіць... дубовы... каб стаяў доўга... Ты ўжо, Макар, выручы мяне... Хто ж знаў-ведаў, што ў Пецькі такая нязграбная смерць будзе... а я вінаваты... я вінаваты... Ды і не вінаваты быццам... свайго ж салдата падабраў... свайго ж... а сынам разлічыўся. Эх, жыццё-жыццё! І дзіравае ты было, і сытнае... усялякае.

*Падыходзіць Ганна.*

Г а н н а. Гэта што вы тут паразззасядаліся? Што гэты вы тут галовы павесілі?

*Паўза.*

М а к а р. Спытайся вось у дзядзькі.

Г а н н а. Максім!

М а к с і м. Заўтра паміраць буду.

Г а н н а. А чаму не сёння7

М а к с і м. Бог кожнаму дзень прызначае. Мне на заўтрашні выпісаў адхадную. А разам усім не атрымаецца. Чарга будзе. Іш, захацелі! Чакайце, не лезьце наперад.

Г а н н а. А хто табе пра гэта сказаў, што заўтра?..

М а к с і м. Бог і сказаў,

Г а н н а. Памірай хутчэй – пахаваем!

М а к с і м. Дык і паміраю...

Г а н н а. А хто ж мяне ушчыкне?

М а к с і м. Падбяры каго палаўчэйшага.

Г а н н а. Макар! Гэта ён жартуе ці праўду кажа?

М а к а р. Бачыш жа – цвярозы ...

Г а н н а *(раптам кінулася да Максіма, абняла, пацалавала).* А мой жа ты родненькі! А мой жа ты добранькі! Дай я цябе хоць раз жывога пацалую! Я ж цябе шукаю... даўно шукаю... а ты вось дзе, каля Макаравай дарогі... Я ж, Максімачка, хацела ўжо сёння табе сказаць: пайшлі да мяне жыць, гаротнічак ты.

М а к с і м. Усе патрэбныя словы трэба гаварыць у патрэбны час.

Г а н н а. І карміла б, і абмывала б… цяжка ж табе аднаму… а ты паміраеш..,

М а к с і м. Паміраю, баба, паміраю. Спазнілася.

Г а н н а. І чаму ты не сказаў раней, што сабраўся ў дальнюю дарогу? Пажылі б хоць трошкі…

М а к с і м. Раней і сам не ведаў… Ноччу пачуўся голас: збірайся, Максім, заўтра ў дарогу. Наперадзе мая дарога…

Г а н н а. Сабраўся ж хоць?

М а к с і м. Труну з гарышча спусціў, каб вам не лезці, толькі ты мяне, Ганна, не мый… Макар хай… Я нават перад сваёй ніколі голы не паказваўся… як і яна перада мной… саромеліся…

Г а н н а *(ціха, самотна спявае):*

А ў лузе каліна

Увесь свет закрасіла.

Чаго, дзеванька, невясёлая,

Ці не маці біла?

Мяне маці не біла,

Я сама засмуцілась,

Што не даў мне бог,

Каго я любіла…

*Зацямненне.*

*Прыцемак. З патэфонам на выцягнутых руках асцярожна, неяк задужа ўрачыста ідзе Зух, за ім – Марыя. На дыску патэфона круціцца пласцінка… Зух, як вялікую каштоўнасць, ставіць патэфон на зямлю.*

З у х. Вось гэта музыка-а-а! Скажы, Машка?

М а р ы я *(забаўляючыся).* Ага.

З у х. У горад мне б выбацца – новых пласцінак купіць. Паехалі?

М а р ы я. Не-а.

З у х. Чаму?

М а р ы я. А не хочацца.

З у х. А мне, Машка, заўсёды… ага… хочацца. Ты правільнаікнула. *(Спрабуе абняць дзяўчыну).* Давай, га? Я ж цябе даўно люблю!

М а р ы я. Хлусіш. Учора ты кахаў Верку, а сёння чамусьці мяне.

З у х. Ды ты проста лепшая. Адразу не разабраўся.

М а р ы я. А ты разбярыся да канца, а тады прызнавайся ў каханні. А то заўтра, чаго добрага, табе лепшай можа яшчэ хто здасца.

З у х. Я цябе люблю, Марыя. Давай, га?

М а р ы я. Што – «давай»?

З у х. Ну, гэта… як і ўсе… ты што – не разумееш?

М а р ы я. Не-а.

З у х. Фу-у, дура! Я ж цябе… люблю! Як мужык бабу! *(Абняў Марыю, дамагаецца яе, але дзяўчына адчайна ўпарціцца).* Хочаш, хочаш, а, я табе патэфон на ўвесь тыдзень аддам… Патэфон… З пласцінкай… Будзеш музыку слухаць…

М а р ы я. Адпусці, сказала! Мама-а-а!

З у х *(спалохана).* Ты што? Ты чаго? «Мама-а». Цьфу! Эх, векавуха! Так і будзеш адна касцямі кляцаць… Цьфу!

М а р ы я. У цябе не спыталася! А можа, мне адной і лепш? Багата радасці жыць з такім чортам, як ты. Першы раз правёў – і ўжо лапаеш.

З у х. Таму я і Зух. Людзі празвалі. А яны рэдка памыляюцца. Як прылепяць мянушку – лепш не прыдумаеш. Дык што, так і разыдземся?

М а р ы я. А мы не сыходзіліся.

З у х *(бярэ на рукі патэфон, накручвае спружыну, грае музыка).* Слухай! Слухайце ўсе! Можа, яшчэ і ты, Машка, палюбіш Зуха! А то я не знайду сабе ўхажорку. Ды яны будуць ісці за мной строем. Я наперадзе з патэфонам, а яны – за мной! Строем! З Вецi! З Зялёнага Вугла! З Бахані! З самой сталіцы! І паспрабуй тады ўціснуцца ў той строй ты, Машка. Позна будзе. Позна-а! Але ходу назад няма! Зух назад не поўзае! Не поўзае! Не поўзае!..

М а р ы я. Ой, так ужо за табой і пойдуць, хвалько! Яшчэ б за Іванам Макаравым… А за табой! *(Безнадзейна махнула рукой).*

З у х. Іван, канешне, пры парадзе. Але ён адзін, а вас – мульён. І яшчэ з горкай. У базарны дзень. Давай, Машка, га?

М а р ы я. Што табе даваць? Чаго ты прычапіўся?

З у х. Слухай каманду! Раз, два, тры – пайшлі!

*Зух і Марыя ідуць па дарозе. Зух нясе патэфон на выцягнутых руках. Ідуць доўга. Перад імі з'яўляецца Прохараў.*

П р о х а р а ў *(нясмела).* Добры вечар.

З у х. Ага. Станавіся. Пайшлі.

М а р ы я. Добры!

П р о х а р а ў. А куды… пайшлі?

З у х. Па дарозе. Дарога куды-небудзь выведзе.

М а р ы я. Давайце з намі!

З у х. Прычаляйся!

П р о х а р а ў. Я, даруйце, прыйшоў… здаецца.

З у х. Зямля круглая. Ісці можна бясконца. *(Раптам спыняецца).* Пачакай, дзе гэта я цябе бачыў? Гэта не ты, выпадкова, той афіцэр, што мяне падстрэліў за чобаты?

П р о х а р а ў. Я афіцэрам ніколі не быў.

З у х. Тады памыліўся. А хацелася б мне з ім сустрэцца! Яшчэ як хацелася б!..

П р о х а р а ў. І я цябе дзесьці бачыў. Знаёмы твар. А-а, успомніў. Гэта ж ты… з дружком… у нашай вёсцы сала прадаваў?

*Марыя войкнула ад пачутага і хуценька знікла.*

З у х. Якое сала? *(Спалохана водзіць галавой па баках).* Ты што вярзеш, басяк? Ты што?! Я цябе першы раз бачу і апошні, спадзяюся. У тваёй вёсцы я зроду не быў. Га? Зразумеў?

П р о х а р а ў. Можа, і памыліўся. Хоць памяць зрокавая ў мяне быццам бы добрая.

З у х. Патрымай сваю памяць пры сабе. «Сала». Ды я сала сам усю вайну не нюхаў, не толькі што… Ясна? Хто такі будзеш? Куды маслы прэш?

П р о х а р а ў. Да вас іду, у Боркі. Настаўнікам прызначылі.

З у х. Настаўнікам? А каго тут вучыць?

П р о х а р а ў. Дзяцей.

З у х *(смяецца).* Дзяцей? Умарыў! Іх спярша нарабіць трэба. А з кім тут наробіш?

*З'яўляецца Ганна.*

Во! Адна з'явілася!

Г а н н а. Не хлусіў... Не хлусіў... І праўда – памёр, памёр Максім... Людзі! Людзі-і! Максім памёр... памёр... ага... як і казаў – памёр...

*Зацямненне.*

*На небасхіле з'яўляецца дырыжор...*

**Д з е я д р у г а я**

Нашы дні

*З'яўляецца дырыжор, плыве мелодыя...*

*На дарозе адзін Макар.*

М а к а р. Ну, як ты пажываеш тут, дарога? Добра, кажаш. Навін няма? Няма. І ў мяне таксама. Ніхто не ехаў, ніхто не ішоў. Такія, значыць, справы. Ну, ну. Там вунь, чуй-ка, у цэнтры вёскі, цябе апранаць пачалі ў асфальт... Апрануць! Хлопцы шустрыя, палец у рот не кладзі – адкусяць. З цехнікай. Чуеш, ракоча?

*Наплывае і знікае гул бульдозераў.*

Яны, яны стараюцца. Ды і ліха на іх, на хлопцаў, басурманаў гэтакіх. Няхай. Абы дзелам былі заняты, і тое, глядзіш, карысць. Пайду я, па гаспадарцы парадкавацца трэба.

*З'яўляецца Лёшка. Ён не ў гуморы.*

Л ё ш к а. Усё стаіш, дзед?

М а к а р. Ага. Ну. Стаю, брат Лёшка.

Л ё ш к а . Ну і стой! А я пайду спаць. Дрыхнуць пайду я. Ды ну іх, работнічкаў! Аванс далі... Чуеш, бульдозер ракоча? Чуеш? Гарэлку п'юць, а па чарзе газуюць – імітуюць работу. Як, га? Лаўкачы!

М а к а р. Лаўкачы дык лаўкачы. Гэта ж трэба здагадацца.

Л ё ш к а. Ды на такія штучкі ў іх макацёр варыць. Во, слухай, слухай… Выпіваюць. Экскаватар маўчыць. Заўваж: маўчыць. А гэта газуе Колька Бурак. Яго, яго работа. Знаёмы почырк. Кароткай нагой газуе. Зноў выпіваюць. Цяпер на газ давіць Сяргей Карапуз. Ён, ён! Астатнія закусваюць. А каго, а каго, дзед, яны абдурыць хочуць? Сябе! Сябе – і толькі! Не дарогу ж! Дарогу не абдурыш.

М а к а р. Дарогу – не.

Л ё ш к а. Факт! Нам жа, Сцяпанавіч, не за халастыя абароты будуць плаціць, а за пакладзены асфальт. А яны, дурні, газуюць. Цьфу! *(Раптам).* Паслухай, дзед, а давай я табе сваім каўшом прама на агародзе… не, лепш на двары… прама перад ганкам калодзеж выкапаю. Хочаш? Не, ты хочаш?

М а к а р. Падумаць трэба. Не з бухты барахты…

Л ё ш к а. Думай лепш! Думай лепш! Га? Як у тым анекдоце. Мужыкі рашылі кінуць піць, а бутэльку купілі. Што ж рабіць? Адзін бярэ бутэльку, хавае за спіну. «Адгадаеш, кажа, у якой руцэ, то вып’ем, а не – значыць, не. У якой?»-- «У правай».—«Думай лепш, думай лепш». Так і ты, дзед. Выкапаю калодзеж я табе перад ганкам, і будзеш хвост трымаць ты абаранкам! *(Смяецца).*

М а к а р. Ды мой хвост ужо абаранкам не патрымаеш, хоць і золатам пасып.

Л ё ш к а. Будзеш, будзеш трымаць! Лёшка гаворыць! Трымай пяць! *(Паціснуў старому руку).*

М а к а р. Калодзеж – гэта добра. Але ж навошта ён мне?

Л ё ш к а. Думай, Сцяпанавіч, думай! *(Знікае).*

М а к а р. Вось я і думаю, Лёшка: трэба мне калодзеж ці не? Піць ваду Макару засталося зусім нічога. Мала засталося піць. А калодзеж, кажаш, давай капаць… абнадзеім ваду, што яна некаму спатрэбіцца… А яна возьме і не спатрэбіцца, вада… так і зацвіце ў калодзежы… суседзяў блізка ж няма. Э не-е. Вада для таго, каб піць, каб скарыстоўваць. А калі мне ўжо яе піць?

*Зацямненне.*

Пасля вайны

*На дарозе Іван з Зухам.*

І в а н *(строга).* Усё сабраў? Рэчы, кажу, усе ўзяў?

З у х. Ды пайшоў ты!..

І в а н. Прысядзем перад дарогай.

*Селі на дарогу.*

Пайшлі.

З у х. Пайшлі. Толькі хто нас чакае дзе?

Усталі.

І в а н. Цябе чакаюць.

*У руху.*

З у х *(злосна, раздражнёна).* А ты падумаў, што не да мяне цяпер ўласці! Вайну расхлябаць трэба! Вайну-у! А ты за сала ўчапіўся. Якое сала? Ты што, недадзеланаму настаўніку гэтаму верыш? Падла ён! Шантажыст! Хрэн маржовы! Максім памёр. Памёр Максім. Ён што, судзіць мяне патрабуе, мярцвяк?

І в а н. Патрабуе, Міця. Мяне, жывога, просіць, каб жыць цябе навучыў сумленна.

З у х. А я-я-я-яй! Які вучыцель! Ды я ў грабу відаў вас усіх! А сала не браў! Не браў! Не браў! А раз не браў, то не прадаваў! А настаўнік – хрэн маржовы!

І в а н. Там разбяруцца.

З у х. Хто там будзе разбірацца? Якая бля...? За каўнер – і будзь здароў! І не кірхай! Пілу ў рукі, тапор – і шуруй! Тайга вялікая! А ты, законнік, свайго земляка, друга, можна сказаць, затачыць рашыў? І не сорамна?

І в а н. Я не вінаваты. Сябе віні.

З у х. А я – вінаваты? Я, пытаюся, вінаваты? Чаму маўчыш?

І в а н. Там разбяруцца. Упярод. Чаго стаў? Ну-у! *(Штурхае Зуха).* Упярод!

З у х. Людзі-і! Прашчайце! Іду сала даядаць! Максімава! Якога і ў вочы не бачыў! *(Спявае).* «Умру ли я... и над могилою... Гори, гори, моя звезда-а-а...»

*Зацямненне.*

*З'яўляецца дырыжор, гучыць музыка...*

*На дарозе з'яўляецца Іван. Насустрач ідзе Марыя. Параўняліся. Спыніліся.*

М а р ы я. Міцю... Зуха што... арыштавалі?

І в а н *(самотна ўздыхнуўшы).* Арыштавалі.

М а р ы я. Што ж цяпер... суд будзе?

І в а н. Будзе.

М а р ы я. Ой, якое ўсё ж жыццё наша жорсткае. Сама не ведаю чаму, але мне шкада Зуха. Я і не думала ніколі раней, што буду калі-небудзь шкадаваць яго. Што гэта са мной?..

І в а н *(прытуліў Марыю да сябе*). Супакойся, Марыя. Не хвалюйся.

*З'яўляецца Прохараў. Убачыўшы Івана і Марыю, падзівіўся колькі часу на іх, а потым знікае.*

Зух чалавек дарослы, і за свае ўчынкі павінен сам адказваць. Я не пасылаў яго за парсюком да нябожчыка Максіма. І ты не пасылала.

М а р ы я. А ўсё роўна шкада.

І в а н. І мне, Марыя, шкада. Думаеш, не? Памыляешся. Шкада. І самае цяжкае, што я, зямляк, аднавясковец, павінен быў Міцю Зуха арыштаваць. Ты б хацела быць на маім месцы?

*Марыя адмоўна круціць галавой.*

Вось бачыш... якое маё месца ў гэтым жыцці. Іншы раз, здаецца, на вайне лягчэй было – там бачыш ворага... вось ён, гад, перад табой... з аўтаматам... з гарматай... у касцы... страляй, знішчай яго!... Інакш ён цябе... Тут жа ўсё куды складаней... Хоць бы з Міцем Зухам... Хто ён? Проста вясёлы, шчыры чалавек? А мо гнілы ўсярэдку, як хворае дрэва? Паспрабуй разбярыся...

М а р ы я. Я спярша паверыла, што ён... а цяпер чамусьці не верыцца мне... само неяк... думкі ўсе заблыталіся ў галаве... Ой, пайду я...

*Іван і Марыя ідуць у розныя бакі. Іван знікае. Насустрач Марыі выходзіць Прохараў.*

П р о х а р а ў *(прыклаў руку да сэрца, артыстычна адбіў паклон).* Здрасця, Мар'я Лявонаўна!

*Марыя ідзе далей, не звяртаючы на Прохарава ўвагі.*

*(Спрабуе затрымаць Марыю).* Што на агародзе вырасла? Кроп? Бурачок? Морквачка?

М а р ы я (*адхіснулася).* Адстаньце! Я вас бачыць не хачу!

П р о х а р а ў. Чаму ж так адразу, Мар’я Лявонаўна? Што ж так, га? На агародзе, відаць, расце-буяе?..

М а р ы я. Гэта ўсё вы, вы! .. *( Знікае).*

П р о х а р а ў. Пачакайце! Пачакайце, Мар’я Лявонаўна! *(Бяжыць услед).* Што ж вы, інтэлігенцыю не паважаеце! Пачакайце, Мар’я Лявонаўна!.. *( Знікае).*

*Зацямненне.*

*На дарозе Іван з Прохаравым.*

І в а н *(спыняецца).* Ну, а тады што?

П р о х а р а ў. А тады, Іван Макаравіч, мы яго за жабры – і куды трэба даставілі. А там атрымлівай!..

І в а н. Пачакай, пачакай, Ягор. Ды ты , гляджу, толькі гэтым і займаешся, што некага… За жабры? Ці мне падалося?

П р о х а р а ў. Як бы вам, Івана Макаравіч, тут лепш растлумачыць… каб у вас склалася поўнае ўражанне… каб не запераважыла, значыць, аднабаковасць!

І в а н. Твая работа – дзяцей вучыць ці бацькоў іх за жабры хапаць?

П р о х а р а ў. Адно другому, разумееце, не шкодзіць. А выяўляць паганыя элементы я як камуніст, як верны сын партыі і народа абавязаны. А? Так-так, Івана Макаравіч, абавязаны. Яны ж пад нагамі, як кучы друзу рознага, так і блытаюцца, так і трапляюцца дзе трэба і не трэба, гэтыя запэцканыя брудам людцы, калі іх яшчэ і можна назваць людцамі. А Зуха вазьміце, Дзмітрыя Панасавіча. Старога Максіма, можна сказаць, у магілу загнаў. Колькі яму, дарэчы, там прыпаялі?

І в а н. Далі багата.

П р о х а р а ў. І правільна! І правільна, Іван Макаравіч! Зарабіў – атрымлівай! Такіх шкадаваць… ну, ведаеце… у мяне асабіста рука не падымаецца. І правільна, і вельмі разумна, Іван Макаравіч, што яго, значыць, ізаліравалі ад грамадства. Гэта небяспечны чалавек. Парушыў закон – атрымлівай, не хавайся, як рак у корч.

І в а н. Ды законы мы паважаем ажно некуды!..

П р о х а р а ў. Што... што вы сказалі?

І в а н. Я нічога не гаварыў. Нідзе. Ніколі. Зразумеў? Пры табе. Ды і ўвогуле цябе я, настаўнік, не бачыў! *( Знікае).*

П р о х а р а ў. Гэта як сказаць... Гэта як сказаць... Макаравіч. *(Доўга глядзіць услед Івану, а потым знікае).*

*Зацямненне.*

*З'яўляецца дырыжор, гучыць мелодыя...*

Нашы дні

*Макар на дарозе.*

М а к а р. Сон прысніўся. Ты мяне слухаеш, дарога? Бытта Максім... павінна помніць ты Максіма... і мая Аўгіння... таксама ведаеш яе... ага, ведаеш... ну... бытта сядзяць побач на адным табурэціку, прыціснуліся, прытуліліся... Вянок у Аўгінні з васількоў... васількі дужа сінія – ажно зіхцяць-пераліваюцца... Максім у кепцы-васьміклінцы... Вусы адгадаваў... Сядзяць, маўчаць... Я тады і пытаюся: «Як вы тут жывяце-пажываеце?» Маўчаць. Я тады зноў пытаюся: «Гэй, Максім! Аўгіння! Што з вамі? Ці гаварыць развучыліся?» І на гэты раз нічога не сказалі, нават брывом не павялі. Як на картцы сядзяць. На партрэці. І не шавеляцца. К чаму б такі сон, га? Не скажаш? І я не ведаю. Вось і гадаю – к чаму б... А мо і там, на тым свеці, жыццё таксама нейкае ёсць. Усё можа быць. Няхай хто б вярнуўся адтуль ды расказаў, што там і як. Нешта не хочуць сюды.

Гэта ж такая справа, дарога. Хадзіў сёння ў краму. Харч для нас, ветэранаў, прывезлі. Усялякую драбязу. Нёс, нёс і не данёс дадому – дзецям раздаў, што на вуліцы сустракаў. Хай ласуюцца, ці багата мне трэба тых прысмакаў. Сваіх унукаў няма паблізу. Ды што гэта я пра ўнукаў? Праўнукі ўжо ў салдатах служаць. Ад Грунькі што. Толькі ад яе дзеці былі... Толькі ў яе... Хлопцам маім гасподзь Бог дзетак не даў... Дык вось чужых частую, а думаю – сваіх. І – верыш? -- нейк цяплей адразу робіцца пад апранашкай, чэснае слова. Ага. Ну. Як сваіх. Як Міхалавых унукаў. Як Іванавых...

Трохі каўбасы сабе пакінуў. Пайду паспрабую есці, можа, што і атрымаецца. Маімі зубамі бульбу толькі добра есці. Але ж іншы раз і яшчэ чаго хочацца... Пайду. Ага. Ну. *( Знікае).*

*Зацямненне.*

Пасля вайны

*На дарозе Ганна, Макар, Прохараў. У прывідах з'яўляюцца Зух, Максім і Аўгіння. Міліцыянер вядзе Івана. Ззаду ідзе Макар...*

Г а н н а. Дайце мне хоць на Івана глянуць, людцы! Можа, апошні раз… Можа, больш не ўбачымся… *(Падыходзіць бліжэй да Івана, углядаецца ў яго твар, а потым кідаецца на шыю).* Іван !!!.. Куды ж ты? На каго нас пакідаеш? Прападзем жа мы без цябе, Іван!

М і л і ц ы я н е р. Ну, ну, баба! Без абдыманняў! А ты ідзі, не круці галавой, а то ссяку, як сланечнік.

І в а н. Не трэба, цётка, плакаць. Я вярнуся. Я вярнуся. Праўда ж на свеце ёсць ці не? Ёсць! Ёсць праўда!..

Г а н н а. А што ж гэта робіцца, людзі? За што Івана забіраеце? Ён жа ваяваў! Ён жа вайну прайшоў! Богу дзякаваць трэба, што ён збярог яго, а навошта ж вы, людзі, грэх бярэце – пагубіць хочаце чалавека? Навошта-а-а?

М а к с і м. Іван не напакасціць. Я даўно яго ведаю. Во такенькім мяне рыбай частаваў, што сам налавіў рукамі… Ён наш хлопец, сялянскі. І за нас, простых людзей, ён сваю галаву аддасць, калі трэба будзе. І які ж мярзотнік данёс на яго, які ж гад наплявузгаў, каб яму тлумна зрабілася!

*Прохараў часта кашляе, хавае вочы ад людзей.*

З у х. А ты як хацеў, мент паганы! Мяне пасадзіў, а сам што – святы? Атрымлівай! Тут табе пакажуць, пачым фунт ліха, баланду пасёрбаеш. Паспіш каля парашы, гад! Давай, давай, шавялі масламі, мы цябе тут чакаем! Х-ха-ха-ха-ха-ха-а-а-а-а!

І в а н *(павярнуўся да людзей).* Бацька! Бацька, чуеш?

М а к а р. Ага. Ну. Чую.

І в а н. Трымайся тут, я не вінаваты… мяне адпусцяць…

М а к а р. Беражы сябе, сынок. За бацьку не хвалюйся. Бацька выдзюжыць. У бацькоў доля такая…

М і л і ц ы я н е р. Р-разгаворчыкі! Разбалабоніліся, бачу, як на базары! Р-разгаворчыкі, сказаў! *(Штурхануў Івана).* Упярод! Табе, табе кажуць!

А ў г і н н я. Сынок! За што ж на нашу сям’ю, на наш народ пакуты такія? Што гэта робіцца, людзі? Хто адкажа? Усе, бачыцца мне, сталі нейкімі злымі, бурклівымі, здзічэлымі. Дык то ж вайна вінавата – не вы, людзі. Распрамцеся. Агледзьцеся. Убачце добрае ў чалавеку. Скажыце яму словы спагады, дабрыні. І больш сонечным, светлым стане наша жыццё…

*Міліцыянер і Іван знікаюць.*

Сыно-ча-а-ак!

Г а н н а. Немец не дабіў, дык свае замардуюць, жыцця не дадуць. І доўга так будзе, хто скажа? *(Па чарзе ўглядаецца ў твар кожнаму).*

М а р ы я. Я, цётка, не ведаю... Не ведаю я... колькі так будзе .

Г а н н а. А ты што скажаш, настаўнік?

П р о х а р а ў. У чыстым паветры павінны лятаць чыстыя птушкі... чыстыя матылі... божыя кароўкі... Толькі чыстыя... Чакаць і верыць, што так і будзе. Чакаю і веру. Дачакаюся – скажу.

Г а н н а *(крыху іранічна).* Ясна. Мне, забітай вясковай бабе, гэта вельмі зразумела, што ты сказаў, настаўнік.

*Марыя знікла. Услед за ёй пакідаюць дарогу Макар і Прохараў. Застаецца Ганна.*

Ды хто ж тады ведае, хто адкажа? Немец біў – нашы білі і цяпер дабіваюць, анціхрасты. Немцаў няма – нашы надоўга... не дай Бог мець такіх нашых... не дай Бог нікаму... Жыць бы... А не даюць... Не хочуць, каб людзі жылі... Багатымі стануць, а ці трэба багата на зямлі багатых? Мусіць, не. Мусіць, толькі тым трэба быць багатымі, хто такім ёсць... Новых не бяруць у багацеі... бо іх багата палезе... Вось і будзе наш бядняк да скону такім – бедным. У чым нарадзіўся, у тым і памрэ, у тым і загавее... Хоць якую ўласць ні дай, а цары і парабкі, як былі, так і будуць.

Вось і Івана забралі. Макар яшчэ не дачакаўся Міхаіла, меншанькага свайго, а тут і зноў асірацеў, як адзінокае дрэва ў полі стаў. І колькі ж так будзе? Калі ж у нас чалавек не быдлам будзе, а – чалавекам? Калі? Калі? Калі?..

*Зацямненне.*

Нашы дні

*Макар на дарозе.*

М а к а р. Ідзе нехта. Хто ж гэта будзе, цікава пабачыць? У апошні час мала ходзяць – больш ездзяць. Запанелі, запанелі. І ўсё жывуць кепска, улады ругаюць-клянуць. А самі вунь на машынах, мантыклеты не паказвай. У капялюшах. Пры гальштуках. Пальцы пафарбаваныя... як цукеркі. *(Уздыхнуў).* Гультаяваты, скажу я табе чэсна, дарога, пайшоў народ, гультаява-а-ты. А зубы вострыя мае – толькі давай яму, шухляй падкідвай як у тую сячкарню, толькі паднось – усё раструшчыць-праглыне. А ўлады ругаюць-мацюгаюць. Языком у роце варочаць – не мяхі насіць, не зямлю араць плугам.

*З’яўляецца Хлопец.*

Х л о п е ц. Здароў быў, дзед!

М а к а р. Ага. Ну. І здароў, і ёсць дзед. Чый гэта ты будзеш? *(Пільна прыглядаецца да Хлопца).*

Х л о п е ц. А-а, ты мяне ўсё роўна ведаць не будзеш. Малады я ды ранні – адкуль табе, дзед, мяне ведаць.

М а к а р. Яно так, але ж парастак чыйсці будзеш?

Х л о п е ц. З Веці я. Івана Сталярова сын.

М а к а р. Івана? Сталярова?

Х л о п е ц. Што, не падобны?

М а к а р. Дык чаму ж – ведаю Івана. Я з бацькам яго, Сідаркам, служыў у войску.

Х л о п е ц *(смяецца).* Бац, бац – і міма!

М а к а р. У кавалерыі. Ты хіба не ведаеш, дзе служыў твой дзед? Дзе і кім?

Х л о п е ц. А навошта мне?

М а к а р *(злуе).* Праходзь. Праходзь, праходзь! Не захламляй дарогу. Ідзі туды, куды ідзеш.

Х л о п е ц. А што ты мяне, дзед, гоніш? Твая гэта дарога ці як зразумець?

М а к а р. Так і разумей. Ага. Ну. Кыш! Кыш з дарогі!

Х л о п е ц. Паслухай, дзед, а яна што – сапраўды твая?

М а к а р.  Мая. Як ёсць мая. Ступай.

Х л о п е ц. Во дае. Ды мяне ў вашых Борках усе сабакі ведаюць, нават у мой бок не глядзяць.

М а к а р. Яны з дурнямі не звязваюцца.

Х л о п е ц. Абражаеш, абражаеш, старэча. Нядобра так. Не, ну пацаны б там з прэтэнзіямі, што хаджу на чужой тэрыторыі, -- іншая справа. У іх мяшкі з кулакамі , дарэчы, не завязваюцца – матузоў, ці шнуркоў няма. А ты чаго ерапенішся?

М а к а р. Чаго? Ты яшчэ пытаеш – чаго? Ды ты ж… ды ты ж майго дружка… Сідарку Сталярова пакрыўдзіў!..

Х л о п е ц. Х-хы! У цябе і замашачкі, стары, гляджу! Хто ж яго пакрыўдзіць можа, калі ён даўно ўжо на пагосце... спіць даўно пад крыжом? Ты мне тут не залівай, панімаеш!

М а к а р. Культуры ў цябе хоць бы на каліва больш было, бяда, калі няма культуры, а яе, факт, няма, бо пра род свой нічога не ведаеш. Бацька хоць з якога году? *(Гучней).* Нарадзіўся калі бацька?

Х л о п е ц. Пачакай, а хто ты такі? А хто ты такі? Стаіш, як пудзіла, на дарозе, нікога не прапусціш, абавязкова зачэпіш, прыдзярэшся? Хто ты такі? Дык тут, на дарозе, кляваць варонам няма чаго, а ты стаіш, вартуеш! Анкету яму давай! Хто бацька, хто дзед. Ці былі за мяжой, ці не. Ладна, стой, а я паклыпаў.

М а к а р *(строга).* Не, пачакай.

Х л о п е ц. Ну, чакаю.

М а к а р. Я табе пра твайго дзеда раскажу. Знай-ведай. Дык вось, твой дзед Сталяроў Сідар Яўменавіч служыў са мной у кавалерыі...

Х л о п е ц. А ногі ў яго, між іншым, не крывыя былі.

М а к а р. Белякоў шабляй сёк. У яго на целе пісяг быў... вось тут якраз... у гэтым месці... Доўгі пісяг... і шырокі... Бачыў?

Х л о п е ц. Ну. Быў. Гаварыў, што з дрэва зваліўся... і на вілы.

М а к а р. Бачыш, не прызнаваўся. Сціплы чалавек Сідарка быў. Пры мне ж параніла яго. Твой дзед і я – адзін гадок. Ідзі, ідзі...

Х л о п е ц. Не, не пайду! *(Сеў на сумку).* Расказвай, я буду слухаць. Пра дзеда Сідарку і бабу Сідарыху. Пра Хрушчова і Брэжнева. Пра Амерыку і Еўропу. Расказвай, дзед.

М а к а р. Кола ў адзін бок круціцца.

Х л о п е ц *(весела).* Круці!

М а к а р. Назад не адкруціш. На жаль. Так што ідзі да бацькі, ідзі сваёй дарогай, а мне табе больш няма чаго сказаць. Тым больш, што вы, маладыя, цяпер дужа і самі разумныя. Усё ўмееце. Усё ведаеце. Рабіць толькі лянуецеся. Галоўнага не можаце і не хочаце – рабіць. А смакоцце давай. Адкуль жа яно будзе брацца, смакоцце тое?

Х л о п е ц. О, успомніў! Яблык будзеш? *(Устаў).*

М а к а р. Сам вырасціў?

Х л о п е ц. На асфальце ў горадзе?

М а к а р. Дзякуй за яблык. Дзякуй. Свае вунь не ведаю куды падзець. Гніюць. Раней хоць на віно прымалі, а цяпер не бяруць. Я б і бясплатна аддаў, каб хто знайшося на яблык.

Х л о п е ц. Дык што ж табе даць? *(Корпаецца ў сумцы).* Лімон?

М а к а р *(абыякава).* Пакінь. Калі не шкада. Лімон у нас не расце.

Х л о п е ц *(падаў Макару лімон).* Ведаеш хоць, як яго есці трэба?

М а к а р. Што?

Х л о п е ц. Хаваць, хаваць як трэба – ведаеш?

М а к а р. Зубамі, чым жа яшчэ.

Х л о п е ц. У чай кідай. У кіпень. І пі. Налівай, як на рыбалцы, -- і пі. Ну, дзед, будзь. *(Амаль сілком паціснуў Макару руку).* А я ў Вець. З асфальта іду. Аўтобус, як толькі шаша скончылася, стаў на дыбкі, і ўсіх на дарогу вытурыў вадзіла – шуруйце, братва, сваім ходам. З аўтобуса гайкі і балты сыпяцца – вадзіла, наркот, так і заявіў. І шурую. А што паробіш? Ну, усяго. Бывай, дзед! *(Памахаў рукой, знікае).*

М а к а р *(плюнуў услед Хлопцу).* А Сідарка светлы чалавек быў. Далёка ўпаў яблык ад яблыні. Далёка. *(Пакруціў у руцэ лімон, шпурнуў яго на абочыну – прама на Лёшку, які падыходзіць да старога ).*

Л ё ш к а *(злавіў лімон, жартам).* Ці не з неба? *(Задраў галаву).* Не, больш не відаць. А я хацеў ужо за карзінай бегчы, падстаўляць яе пад лімонны дождж. Прыгажосць якая! Курорт! Свежае паветра! Цытрусавыя! Чаму такі сумны, Сцяпанавіч?

М а к а р. Не спіш?

Л ё ш к а. Ды які там сон! Прылёг – не ляжыцца. Ну, дык як наконт калодзежа? Падумаў?

М а к а р. Думаю.

Л ё ш к а. За вадой жа табе далёка хадзіць, дзед.

М а к а р. Каб раней… пагадзіўся б.

Л ё ш к а *(у руху).* Раней, пазней! Грабі пад сябе, як курыца!

М а к а р. Сваё адграб. Аўгіння як памерла, у самую вайну, дык грабу паціху адзін увесь гэты час.

Л ё ш к а. Ідэя. Ідэя! Сцяпанавіч, а што калі я цябе ажаню?

М а к а р. Лёшка, добры ты хлопец, а гаворыш іншы раз лухту нейкую. Не трэба. Не гавары абы-што.

Л ё ш к а. Ну як гэта, Сцяпанавіч, абы-што! Жаніцца – гэта абы-што? Абы-што, пытаюся?

М а к а р. Абы-што. Менавіта так. Жанілка даўно ўжо ў мяне... на пенсіі. Ага. Ну. Ай, ды што табе гаварыць... *( Безнадзейна махнуў рукой).*

Л ё ш к а *(інтымна).* Такую бабу можна знайсці, што любая жанілка будзе – уго-о! Толькі трымайся. А?

М а к а р. Лёшка, ты не грымі... не з бразготкамі па небе едзеш.

Л ё ш к а. О-о! Там – Бог. Там яго дарога, дзед. Тут, на зямлі, -- твая. Там – Яго!

М а к а р. Тут у мяне, Лёшка, пісьмо ў кішэні... *(Корпаецца, шукае пісьмо ў кішэнях).* Глянь. Во яно. Трымай, трымай. Учора склаў.

Л ё ш к а. Ну, бачу, што пісьмо. Уго! Дык тут цэлы маніфест. «Уся ўлада Саветам!» , «Зямлю – сялянам!»

М а к а р. Зачытай.

Л ё ш к а. Зачытаю. Ахвотненька. «У камітэт...» А ў які камітэт?

М а к а р. Там разбяруцца.

Л ё ш к а. Не, Сцяпанавіч, камітэтаў багата. Цэнтральны камітэт партыі. Камсамола. Камітэт народнага кантролю. Камітэт савецкіх баб... цьфу ты!... жанчын савецкіх, жанчын.

М а к а р. Няхай у першы камітэт ідзе, у самы галоўны. У бабскі не пасылай. Тут мужчынскае дзела.

Л ё ш к а. Паглядзім, ці можна туды.

М а к а р. Можна, можна. Чытай. Збоку паслухаю – ці гучыць пісьмо, ці складна.

Л ё ш к а. «Піша вам Макар Барысёнак з Борак, 1898 г. нараджэння, беспартыйны...» А нацыянальнасць?

М а к а р. Беларус, беларус я.

Л ё ш к а. Трэба запісаць. А можа, ты жыд? Ці японец? Ладна, упішам.

М а к а р. Ды гэты... няважна, японец ці жыд... абы чалавек добры быў.

Л ё ш к а. Ты мне гэта скажаш. Суседу. А там, у камітэце, пытальнічак паставяць. І з-за аднаго гэтага пытальнічка могуць пісьмо вярнуць.

М а к а р. Дык што яны там – зусім падурнелі ці што? Чалавек я. Няўжо не відаць?

Л ё ш к а. Не, там не падурэлі, наадварот – дужа разумныя там.

М а к а р. Чытай.

Л ё ш к а. Ладна, паехалі. «А справа такога парадку. Адразу пасля вайны, у 1946 годзе, забралі майго сына Івана, які рабіў у міліцыі, асудзілі па хлусліваму даносу... і з таго часу няма пра яго ніякіх звестак, ніякіх слядоў...» І што, сапраўды... ніякіх звестак?

М а к а р. Ціха. Ці-ха.

Л ё ш к а *(энергічна, прачула).* Ды што гэта за краіна, дзе жывём! Што за сістэма! Усё толькі і робіцца, Сцяпанавіч, не, ты паглядзі, узваж... усё толькі і робіцца, каб знішчыць чалавека. Усюды. У горадзе. У вёсцы. На заводзе. У калгасе. У школе. У турме. Забіць! Даканаць! Знішчыць! Адзін аднаго загрызаем. Я ж таксама, Сцяпанавіч, у СІЗО адсядзеў сем месяцаў. А суд апраўдаў. Таму што не вінаваты. Дык за тыя сем месяцаў зняволення ў мяне хто прабачэння папрасіў? Чакай! Папросяць! Дагоняць і яшчэ раз папросяць! А ў камеры ў тры разы людзей больш, чым павінна быць. Са столі капае... лужыны ў камеры, як вясной на вуліцы. Палавіна ж з арыштаваных – як піць! – розныя хранічныя захворванні падхапіла. А каго, каго гэта хвалюе? Хворыя людзі – ну і хрэн з імі! Краіна хворых людзей – гэта ж такое вялікае шчасце! Пенсіянеры, калекі, хворыя... а мы хочам усё мець, у багацці купацца. Ды ніколі такога не будзе. Ніколі, Сцяпанавіч! А дзе ахоўнікаў для турмы бяруць? Часам не ведаеш?

М а к а р. Не, брат, не.

Л ё ш к а. Вось ужо загадка і для мяне. Што мой абутак, то і ахоўнік. Гэта ж трэба мець талент такіх цюцек недзе адшукваць. Быццам і ротам не глядзяць, а дурні дурнямі. Слупы! Самыя звычайныя слупы. Але ў форме. За хлеб з маслам яны гатовы цябе забіць, дай ім толькі волю, а начальству жопу цалаваць. Пасылай, пасылай, Сцяпанавіч, пісьмо. У канцы прыгразі: калі не разбярэцеся, калі не апраўдаеце майго сына, я вам... такую вашу маць!.. Я вам дам!.. *(Далей гаворыць губамі, але па жэстах можна здагадацца, пра што).* Зразумеў?

М а к а р. Ага. Так, так.

Л ё ш к а *(раптам твар засвяціўся ўсмешкай).* Нехта ідзе! Жаночага роду! Пачакай, ці не тваё шчасце, дзед?

М а к а р. Цяпер рэдка ходзяць. Больш ездзяць.

Л ё ш к а. Точна – старая баба! Яна табе, дзед, падыдзе…

М а к а р. Як зайцу ліхтар.

Л ё ш к а. Во-во! Хочаш, вяселле зляпаем? Пакуль я тут.

*Макар хехекнуў.*

Я табе слова даю, дзед: ажэнішся – адразу памаладзееш … на сто гадоў. Яшчэ, чаго не ўбачыш, і нас перажывеш.  Знаёмлю! Баба, хутчэй, хутчэй нагамі шавялі – цябе шчасце вось на гэтай дарозе чакае.

М а к а р. Адкуль ты ведаеш, вольная  птушка  яна ці не? Мо замужам? А ты адразу – жаню.

Л ё ш к а. Пачакай, зараз даведаемся. *(Углядаецца).* Не, не замужам – замужнія да такога ўзросту не дажываюць.

М а к а р *(усміхнуўся).* Х-ха! Лапсар ты лапсар, Лёшка. Ба-ла-мут!

Л ё ш к а. У-у, ды хапатлівая, працалюбівая – сумку з мяне на карку валачэ. Па ўсім відаць – гаспадыня. Хутчэй, бабулька,  хутчэй! Вось табе жанішок! На сподачку! *(Прыгладзіў Макару валасы на галаве).* Прыгажун-мужчына! Шык-бляск! Малады, сімпатычны, не п’е, не курыць, баб… Адным словам… свая хата. А гэта плюс вялікі. У перспектыве будзе і калодзеж. Абавязкова выкапаю, каб вам, маладажонам, далёка за вадой не хадзіць. Куры. Яблыні. Вішні. Слівы. Усё, усё ёсць. Хутчэй, хутчэй, бабулька!

*Макар непрыкметна знікае..*

Не памры хоць пакуль дойдзеш. Ну, дзед Макар, трымайся-я! Усё будзе самым лепшым чынам, калі мужчына становіцца зноў мужчынам! *(Заўважае, што Макара няма).* Ты дзе? Дзед Макар! Сцяпанавіч! Ну, дзівак! Здрэйфіў. Спалохаўся. Вяселле адмяняецца.

*З’яўляецца Макар.*

М а к а р. Нічога не адмяняецца. Я тут. Тут я, тут.

Л ё ш к а. А-а, гэта ты бегаў паадэкалоніцца?

М а к а р. Ліха тваю матары! Я ж і забыўся зусім… І як гэта я?..

Л ё ш к а. Што з табой? Гарыць дзе што? Дык калі і будзе дым, то вось тут, на дарозе. А потым – полымя. Факел. Вясельны.

М а к а р. У краму трэба. Сёння ж зноў пятніца. Харч прывезлі для веціранаў. І як гэта я машыну прагледзіў?

Л ё ш к а. Які харч? Якая машина? Вунь глянь, хто ідзе. Вунь. Ужо нават бачу: нічога баба. З ямачкай на шчацэ. Нос, праўда, даўгаваты... Калі ў чарку не ўлезе – з кружкі піць будзе.

М а к а р. Ат! Няма калі!.. *( Знікае).*

Л ё ш к а. Пачакай жа! Ты куды? Дзед! І баба звярнула з дарогі. Размінуліся. Эх! А мне што, тут і стаяць, на дарозе?

*Зацямненне.*

*На дарозе. З'яўляецца Жмайлік.*

Ж м а й л і к *(кліча).* Макар! Га, Макар! *(Ходзіць узад- уперад).*

*Прыходзіць Макар.*

М а к а р. Я Макар.

Ж м а й л і к. Ды бачу, бачу. Збірайся.

М а к а р. А куды?

Ж м а й л і к. У раён. Апранашка лепшая ёсць?

М а к а р. Пінжак. Галіфэ. Чобаты. А навошта ў раён?

Ж м а й л і к. Пазванілі, каб цябе прывёз. Пісьмо пісаў?

М а к а р. Ага. Ну. У камітэт.

Ж м а й л і к. Пісар, гляджу!

М а к а р. Дык хто ж напіша, калі не бацька? Больш нікога ў сына майго няма. А чаго... у раён?

Ж м а й л і к. Не ведаю. Паступіла каманда зверху: прывезці Макара Барысёнка. Ты Макар Барысёнак?

М а к а р. Я.

Ж м а й л і к. Тады збірайся.

М а к а р. Не паеду. Рассыплюся.

Ж м а й л і к *(смяецца).* Дык што мне цябе ў мяху везці, каб потым не збіраць на дарозе?

М а к а р. А яны самі што… паны да мяне прыехаць? Куды ж яны тады ездзяць, калі нас, людзей, да іх возяць?

Ж м а й л і к. Быццам і праўду ты гаворыш. Але збірайся. Каманда зверху. Адтуль! *(Торкнуў ў неба пальцам).*

М а к а р. Хопіць камандаваць Макарамі. Хопіць. Пазвані: напішу яшчэ адно пісьмо па таму ж адрасу… у ЦК.

Ж м а й л і к. Збірайся давай, не разводзь хоць ты, Сцяпанавіч, тут анцімонію. Давай, давай.

М а к а р *(рашуча).* Чакаю ў сябе! Вось тут. Так і перадай. Гэта мой кабінет – на дарозе. Пазвані, старшыня, і перадай. У любы час сутак Макар прымае. У любое надвор'е. Толькі хутчэй. А то магу назаўсёды зачыніць свой кабінет…

Ж м а й л і к. Малайчына, дзед. Малайчына. Я перадам. Я сёння ж пазваню і перадам. Твая праўда. Лягчэй жа сюды прыехаць, чым табе – туды. Пераканаў.

*Рассыпаўся бусліны клёкат.*

*(Узняў вочы на дрэва).* Бусел жыве?

М а к а р. Жыве. Антон. А яна – Адарка. Кола ўжо старое, гняздо, чаго добрага, разбурыцца.

Ж м а й л і к. Гэтая птушка асцярожная. На трухлявае не сядзе. Чалавек можа сесці, а яна – не.

М а к а р. Чалавек можа. Ты ж вось сеў. Гэта праўда.

Ж м а й л і к *(адыходзіць, паглядаючы на буслянку).* Жывуць буслы. Жывуць!

М а к а р. Пазвані ж, старшыня, не забудзься. Я чакаць буду. Тут, на дарозе…

*Зацямненне.*

*На дарозе. Яна ўжо пакрыта асфальтам. З'яўляецца Лёшка.*

Л ё ш к а *(кліча).* Дзед Макар! Сцяпанавіч! Ты паглядзі, што я знайшоў у хаце Паўла Семчанкі… там нашы хлопцы кватаруюць. *(Паказвае партрэт).*

*З'яўляецца Макар.*

Ведаеш, Сцяпанавіч, гэтага чалавека?

М а к а р *(узяў партрэт, разглядвае).* Міцька? Зух?

Л ё ш к а. Ну! Ён! Угадаў, Сцяпанавіч! Толькі ён не проста Міцька – ён мой бацька.

М а к а р *(не адразу).* Во як! Сын, кажаш, Зуха?

Л ё ш к а. Як піць даць! Трымай, дзед, пяць! *(Паціснуў Макару далонь).* Я яго законны сын.

М а к а р. Дык дзе ж ён, Міцька, цяпер?

Л ё ш к а. Няма. Яго даўно няма. Ён з маёй маткай пазнаёміўся ў поездзе, як з турмы вяртаўся. Дамоў так і не даехаў, у нас застаўся. У нас – гэта вельмі гучна сказана. Мяне тады, зразумела, яшчэ не было. Пакрыўдзіўся бацька дужа на сваю вёску, таму і не даехаў. Гаварыў, што ні за што пасадзілі... нічога ён не краў... а даказаць не мог... Хто тады абвінавачваемага слухаў? Пазней бацька захварэў, лячыцца не стаў... і ноччу задыхнуўся... астма была ў яго... з турмы прынёс за добрасумленную працу на карысць нашай вялікай і непарушнай дзяржавы. І тут гэты здымак... А я і не ведаў, што ён з Борак... ён не гаварыў, у якой вёсцы нарадзіўся... Адно казаў: блізка тут, калі-небудзь з’ездзім... Не паспелі... І сястра ў мяне яшчэ ёсць... Насця... яна замужам... Жыве ў горадзе... А я ж, Сцяпанавіч, у гэтую камандзіроўку не ехаў – на крылах ляцеў... Аказваецца, родная зямля – яна магніт... яна прыцягвае чалавека, дзе б далёка ён ні быў... А са сваякоў у мяне тут хто-небудзь застаўся?

*Макар не чуе – думае пра сваё.*

Дзед Макар!

М а к а р. Га? Што?

Л ё ш к а. Сваякі ў мяне, родзічы ёсць у Борках?

М а к а р. Калі па вялікаму рахунку, то і я табе сваяк. Хоць і далёкі. Ну а хто яшчэ? Матка Зуха даўно памерла. Бацька таксама. Сёстры жывуць у гарадах. Калі жывуць. Яны не ездзяць.

Л ё ш к а. І я пра іх нічога не ведаю. На шахтах недзе.

М а к а р. Павел, дзе ты картку ўзяў,-- сваяк табе блізкі. Дваюрадны брат бацьку быў. Вось, здаецца, і ўсе сваякі-бедакі. А настаўнік той... прозвішча забыўся... пазней вялікім чалавекам стаў... Па тэлевізары яго часта паказваюць... ці не генерал у КДБ... цяпер на пенсіі, але ў форме любіць пафарсіць па тэлевізары

Л ё ш к а. Гэта... каторы бацьку здаў?

М а к а р. І Івана таксама.

Л ё ш к а. А я … усё я, дзед Макар… Калодзеж ты не захацеў зрабіць каля парога. Твая справа. Жаніцца таксама… А я ,Сцяпанавіч, еду. Дамоў. Можна, я цябе пацалую, Макар Сцяпанавіч?

М а к а р. За што такая ласка?

Л ё ш к а *(пацалаваў старога).* За ўсё. За тваю дарогу. За тое, што ты ёсць, Сцяпанавіч. І я тут у вас не толькі дарогу рабіў – і сам перарабляўся. На дарозе. У тваёй хаце. Прыеду, Сцяпанавіч, у госці. Пабачыш, прыеду. Верыш?

М а к а р. Прыязджай, Лёшка. Прыязджай. З сямейкай. З дзеткамі.

Л ё ш к а. Абавязкова. Цяпер дарога добрая – аўтобус будзе хадзіць па гадзінніку, а не па жаданню шафёра і неба. Трымай, дзед Макар, пяць! *(Пацісную старому руку).*

М а к а р. Копія бацька. Копія. «Трымай пяць!» – успомніў, яго словы. Любіў ён так казаць: «Трымай пяць!»

Л ё ш к а (*падхапіў з зямлі сумку).* Прыеду. Лёшка слоў на вецер не кідае. Тут і мая цяпер зямля, дзед Макар. І каб не гэтая дарога, то і мяне не было б на гэтым свеце – па ёй жа бацька пайшоў, каб сустрэцца з маёй маці. Да сустрэчы! *(Знікае).*

*Макар памахаў услед Лёшку, пэўны час стаіць моўчкі.*

*Гул машыны. Бразгат дзверак. З’яўляецца Жмайлік.*

Ж м а й л і к *(радасна).* Ну, Сцяпанавіч, чыя праўда? Не ўцякаюць людзі – вяртаюцца назад. Бачыш, вязу? *(Кіўнуў у бок машыны).* І чаму не вяртацца, калі такую дарогу адгрохалі?

М а к а р. Памыліўся я. І шчаслівы, што памыліўся, старшыня. Прызнаю. Верыш? Шчаслівы. Ага. Ну.

Ж м а й л і к. А цяпер па гэтай дарозе будзем вазіць цэглу, лес… Будавацца будзем! Ну, усяго, Сцяпанаввіч. Пабягу. Спраў багата. Загляну вечарком як-небудзь, па чарцы возьмем, пра жыццё пагамонім. Як глядзіш на гэта, га?

М а к а р *(весела).* Заходзь, старшыня. Пагамонім. Я не зашчапляюся.

Ж м а й л і к. Лаўлю на слове. Вунь, бачыш, дзве сям’і… і дзетак з сабой вязуць. Ужо чатыры чалавекі. Жыццё ідзе! *(Знікае).*

*Гул машыны нарастае і адразу ж знікае. З'яўляецца дырыжор, наплывае мелодыя...*

М а к а р. Жыццё ідзе. Так, так, старшыня. Вядзі яго. У цябе, бачыцца мне, рука моцная, паходка цвёрдая. *(Да дарогі).* Ну, і як табе жывецца цяперачы, дзіцятка, у новым адзенні? Не цісне адзежа? Не, гаворыш? Вось і добра. Жыві. Ага. Ну. Табе доўга на гэтым свеце бавіцца.

*Гул машыны. З'яўляецца Жмайлік.*

Ж м а й л і к. Сцяпанавіч! Дзед Макар! Ты чуеш? Падрыхтуйся ж – я забыўся табе сказаць – з камітэта, у які ты пісаў, сёння прыедуць... Чуеш, Макар?

М а к а р *(як і не чуе).* Мне б толькі глянуць, хто будзе ездзіць і хадзіць па табе туды далей, дарога... Відаць, не гляну...

Ж м а й л і к. Ты чуеш, Макар? Сёння прыедуць. Падрыхтуйся.

М а к а р *(як і не чуе).* Дзякаваць Богу, і так пражыў багата... яшчэ з таго веку дыхаю... Пара... А ты будзь... Увесь час будзь... Жыві, дарога, вечна... Няхай па табе толькі добрая, лёгкая нага ходзіць і нашы машыны ездзяць... Пайду я...

Ж м а й л і к. Дзядзька Макар... сёння прыедуць... з раёна... па пісьму... для цябе навіны добрыя...

М а к а р *(як і не чуе).* Пайду ... А ты – будзь... Здароўя табе зычу... Шчасця зямнога... Табе і людзям...

*У розных месцах на дарозе з'яўляюцца Аўгіння, Максім, Іван, Ганна, Зух... Потым усе астатнія: Лёшка, Марыя, Жмайлік, Хлопец, Прохараў, Міліцыянер. І зноў з'яўляецца дырыжор, і зноў плыве над дарогай мелодыя – як вечнасць...*

З а с л о н а.

# НЕХТА ХОДЗІЦЬ ЗА АКНОМ…

*П’еса у дзвюх дзеях*

Дзейныя асобы:

Алеся, 16 год.

Крыцук Антон Антонавіч, 40 год.

Кацька, 16 год.

Даманцэвіч Міхаіл Гаўрылавіч, былы дырэктар школы.

Шыла, добры чалавек.

Малдаван, чалавек, які хоча дадаму.

Сямён Пятровіч, малады настаўнік.

Ягорыха, бабулька, якая ўсюды паспявае.

Участковы.

*Вёска. Нашы дні.*

**Дзея першая**

*Пакой у сялянскай хаце. Сціплая абстаноўка: тэлевізар, стол, канапа... На стале не прыбрана – толькі што закончыўся памінальны*

*абед, людзі, акрамя Шылв, разышліся. Алеся сядзіць на канапе, утапіла твар у далонях. Крыцук у руху. Каля ўваходных дзвярэй, у парозе,нерухома стаяць два ахоўнікі.*

К р ы ц у к *(працягвае Алесі мабільнік).* На… Пагавары з цёткай… З Таццянай Сцяпанаўнай…

*Алеся не рэагуе.*

Ты будзеш гаварыць ?!

*Алеся не рэагуе.*

Што за моладзь?! Ну, добра: я сам пагавару.

А л е с я. Не забараняю.

К р ы ц у к. Чорт, а! Хоць ты што ёй! І ў каго, цікава, удалася?

А л е с я. У бацьку быццам… бы! А мо ў суседа…

К р ы ц у к. Падумай. Хораша падумай. Твой лёс вырашаецца. А не яго! *(Паказвае на Шылу, той ікнуў).*

Ш ы л а *(Крыцуку).* Дзякуй. Дзякуй. Не дадуць заснуць. *(Алесі).* Я… я разумею: бяда. Правялі, як і належыць, цётку Галю, а тваю, Алеся, значыць, маму … Э-э, ды што гаварыць? Мне знаёма. Знаёма. Перажыў раней такое. Калі брат Васька памёр, я тры дні ў школу не хадзіў… Спаць будзе яна там добра… усё як мае быць. Толькі я, певень драны, і на гэты раз вызначыўся. Набулькаўся. Даруй, Галіна Сяргееўна. Ну, дурань я! Асёл! Даў жа слова табе ніколі не піць атруту гэтую, а вось адзін і набраўся. Хаця ў нас больш і няма каму… З ўсё пахавальнай каманды. Гэты, гарадскі, пустое месца… відаць. Хоць пратарабаніў на такой тэхніцы – я табе дам! Ідзі ты!.. З мігалкамі! Дзядзя, а ты б сеў, не таптаў падлогу? Як маятнік: туды-сюды, сюды-туды. Прывык там, у горадзе, асфальт таптаць… тут табе не тратуар! Калі знаць хочаш!.. Алеська, слязамі не паможаш… матку не вернеш. Калі што – я, Шыла, твой сусед і, між іншым, твой далёкі сваяк, заўсёды побач. Памагу, што трэба. Бачыш, у мяне дзве рукі ёсць? *(Працягнуў у бок Алесі рукі)*. Брудныя, праўда… Але ж пальцы гнуцца. Кліч. Па баявой трывозе. *( Гучна).* Не хныкаць!

К р ы ц у к *(нервова сваім ахоўнікам).* Падыхайце, хлопчыкі, чыстым паветрам. *(Тыя выходзяць. Шылу).*Малады чалавек, вы, можа б, таксама пайшлі?

Ш ы л а *( не адразу).* Куды?

К р ы ц у к. Дадому.

Ш ы л а. А хто мяне там чакае?

К р ы ц у к. Гэта ўжо іншая справа.

Ш ы л а. Хм!.. Дзіўны ты чалавек, дзядзька. Ад жыцця адстаў. Тупаў, тупаў… і адстаў. Задыхаўся-запыхаўся. А ў мяне, між іншым, тры кватэры ў розных месцах пакінуты. На кансервацыі. Па ўсяму былому… Данбас, Сельмаш і Якуцк. Не лічачы падбітай баявой машыны пяхоты ў Афгане. Нармальныя людзі мяне якутам і завуць. Так-так, між іншым!.. З лёду і снегу дом. Як ён там, бедалага? На вякі будаваў. А ў мяне, яшчэ раз між іншым, з'явілася… пачакай, пачакай… ідэя! Ідзі ты!.. *(Наважыўся ісці, аднак перадумаў, павярнуўся тварам да Крыцука).* А вы, і яшчэ, прабачце, адзін раз між іншым, – на калені! Пакуль ахова на свежым паветры!..

К р ы ц у к. Гэтага нам яшчэ сёння і не хапала. Апусціцца на калені. Ды перад кім? Перад табой, сапляк? *(Па мабільніку).* Едзьце ў горад! *(Схаваў мабільнік, чуваць гул аўтамашыны).*

Ш ы л а. На калені! Я табе… я сказаў!… Шыла!.. Не здагадваешся, за што?..

К р ы ц у к. І здагадвацца не жадаю! Выходзь, выходзь!.. *(Махае рукой на Шылу).*

Ш ы л а. Добра, тады паглядзі ў акно… Смялей, смялей!.. Хто ў маю адсутнасць, калі я хаты з лёду будаваў і норы капаў у гарах Гіндзікуша, скруціў башку Паўліку Марозаву? Вунь там стаяў помнік. Хто? А металалом, яшчэ раз між іншым, і я збіраў. Дык чаму ж гэта вы, мужчыны з шыямі, як у бугаёў, не зберaглі аднаго мужчыну? Ды і не мужчыну зусім – хлопчыка? Чаму растапталі казку, з якой я жыў? Каму яна шкодзіла? З маёй кепкі яму кепку прымяралі. Дарэчы. У нас адзін памер галавы быў. Па акружнасці. Ці, магчыма, што такой кепкі, з аколышам, больш ні ў каго не было? Я гэтым ганарыўся. Усім расказваў. *(Гучна).* Між іншым!..

К р ы ц у к. Адпачні, мужык. Ты стаміўся. Ідзі. Ідзі дадому! *(Падводзіць Шылу да дзвярэй).* Давай, давай!

Ш ы л а. Чакай мяне заўтра, там і пагамонім. На калені я цябе ўсё роўна пастаўлю. Сваіх адправіў? Тады трымайся!.. *(Ікнуў, прыгразіў пальцам Крыцуку).* «Мужык!» Знаю: мужык. Чым і горды!..*(Знікае).*

А л е с я. І вы выходзьце!

К р ы ц у к *(здзіўлена).* Што? Ці мне пачулася?

А л е с я. Не пачулася.

К р ы ц у к. Хаця… пачакай… Што гэта мы? У нас размова сёння больш чым сур’ёзная.

А л е с я. Я ведаю, пра што яна будзе, размова. Вы будзеце мне прапаноўваць пачапіць на дзверы замок…

К р ы ц у к. Ты, Алеся, малайчына: здагадлівая, з паўслова разумееш…

А л е с я. А вы, дзядзька Антон, мне і паўслова нават яшчэ не сказалі.

К р ы ц у к. І тое верна! І тое!.. Ты, пляменніца, апярэджваеш мае думкі. Малайчына.Так,так.

*Паўза.*

К р ы ц у к. Ну, ну!

А л е с я. Пра замок я ўжо сказала.

К р ы ц у к. У самым пачатку. Правільна.

А л е с я. Пабіць курэй, здаць на мясакамбінат карову… *(Заплакала).*

К р ы ц у к. Навошта нам куры? Мясакамбінаты? Людзям раздай усё. З нас хопіць. У нас ўсё ёсць. Нават птушынае малако.

А л е с я. Але ж у горад я не паеду! Пакуль… пакуль тут вы!..

К р ы ц у к. А куды? А куды ты паедзеш?

А л е с я. Дома застануся. Тут.

К р ы ц у к. Адна?!

А л е с я. Чаму ж адна? Жывуць жа людзі…

К р ы ц у к. Людзі скрозь жывуць. Для таго і гэты свет створаны, каб жылі тут людзі. Каб кахалі, жаніліся, разводзіліся… Скрозь! Але як яны жывуць?! Як?! Вось у чым справа, шаноўная мая!..

А л е с я. І я буду жыць. Як людзі…

К р ы ц у к. Не выдумляй, пляменніца! А што мне, твайму дзядзьку, землякі скажуць? Што? Ты пра гэта падумала?

А л е с я. Ой, дзядзька адшукаўся! Дзе гэты вы раней жа былі, дзядзечка мой салодзенькі і дужа малодзенькі!? Ды і няхай гавораць, што хочуць. Не забаронена. У іх для таго і языкі, каб гаварыць. Не адрэжаш.

К р ы ц у к. Гэта не аргумент. І давай дамовімся: не будзем губляць больш часу на пустыя размовы. Я яшчэ застануся на некалькі дзён,

дапамагу табе сабрацца… у мяне месца хопіць. Удвух з цёткай  Таняй засталіся, у катэджы жывем. І трохпакаёвая кватэра стаіць без справы. Можам табе ўсю яе аддаць. І жыві. Школа, дарэчы, побач: два метры да яе. А тут жа табе хадзіць трэба туды пяць кіламетраў, назад столькі ж… Урокі, хатняя гаспадарка… Згатуй сабе, згатуй ім… нават не ўяўляю, як гэта ты адна тут будзеш… Не ўяўляю!  Гэта ж самае што ні ёсць вар'яцтва!

А л е с я *(вытрымаўшы паўзу).* А чаму яна не прыехала, цётка Таня? А? Чаму гэта ўсё было не так, як у людзей?

К р ы ц у к. Работа, пляменніца, работа…  Гэта мне прасцей: сам сабе гаспадар. Свой бізнес.  А яна бухгалтар. Канец квартала. Справаздача. Ды і не так важна: прыехала – не прыехала. Зразумей мяне, Алеся: не магу я цябе пакінуць тут адну. Ты – дзяўчо. Ты  – маладая таполя… *(Працягвае Алесі мабільнік).* На, пагавары з ёй! Пагавары! Яна табе ўсё растлумачыць!..

А л е с я *(адхіляе мабільнік).* Не бачу прычыны. Яна была занятая… часу не было… канец квартала… справаздача… у роднай сястры. Цётка Таня адна сястра была ў маёй мамы – і не прыехала. А вы мяне, дзядзька Антон, упрошваеце ехаць жыць да яе. Звар'яцець можна. Вам гэта не здаецца дзіўным, дзядзя Антошка?

К р ы ц у к.  Ды… значыць… ага… Час такі. Як быццам па асфальце бяжыш – няма за што зачапіццца…

А л е с я. А вы мяне ўпрошваецце ехаць, хоць, відаць, і самі не ведаеце, навошта… Ачумець!

К р ы ц у к. Ехаць! Толькі ехаць! Абавязкова. Неадкладна. Іншага выйсця, даруй, не бачу. Цётка Таццяна, дарэчы, таксама  за тое…  усімі рукамі… так і сказала: без пляменніцы не вяртайся. І што ж я ёй, цётцы, скажу? Як у вочы гляну? Як?

А л е с я. Бабкі ж жывуць адны…

К р ы ц у к. Бабкі? А-а, бабкі. Так, бабкі… Ну і параўнанне. Так, так, так. Але ж ім урокі рабіць не трэба. І ў школу тэпаць у мароз, у завіруху, у любую бездараж у  суседняе сяло. Ты гэта ўлічвай. Ды і што з тых бабак возьмеш, акрамя аналізаў? А ты ж…маладая, прыгожая… а колькі іх, нягоднікаў розных, цяпер тут развялося?

*Вярнуўся Ш ы л а, моўчкі знайшоў сваю кепку.*

Ш ы л а. Лапату я таксама забраў. Каб потым не было размоў. Калі памёр брат Васька, я тры дні ў школу не хадзіў. *(Хлюпнуў носам, знікае).*

К р ы ц у к. Ды і за што жыць будзеш? За якія шышы?

А л е с я. А што, мне не памогуць?

К р ы ц у к. Наіўнае дзіця. Хто? Хто табе дапаможа?

А л е с я. Дзяржава…

К р ы ц у к. Такіх, як ты, у яе багата. А яна, дзяржава, адна. Адзін, калі ведаеш, у полі не воін.

А л е с я. Воін не воін, але няпраўду гаворыце, дзядзька Антон. Няпраўду. А я чужога не хачу!

К р ы ц у к. Добра, добра. Дадуць табе пенсію….ці сацыяльную дапамогу. Але ж сёння на яе не прыжывеш. Сёння дапамагчы табе можам толькі мы – твае сваякі, блізкія людзі.

А л е с я. А мне багата не трэба.

К р ы ц у к. Багата не багата, а жыццё – рэч складаная. Значна больш складаная, чым ты думаеш. Як гэта ў вас, у маладых, усё проста! Ноу проблем!

А л е с я *( прыемна здзіўлена )*. О-о-о!

К р ы ц у к. Вучу. Вучу і англійскую мову. Нават у такім узросце – калі паміраць трэба. Зноў жа: жыццё прымусіла! А як ты хацела? У самалёт на хаду заскокваю! На хаду! Таму што паважаюць, ведаюць і чакаюць!..

А л е с я. Дайце мне падумаць. Адчуваю, што проста так вы ад мяне не адвяжацеся.

К р ы ц у к. Алеся! Мая любімая пляменніца! Хіба ж можна так з дзядзькам, які зычыць табе дабра, шчасця і шмат якіх іншых зямных шчадрот і пераваг, размаўляць? Што за слова – «адвяжацеся»? Ну нельга ж так, нельга!… Падбірай. Вучыся. Слоў шмат. І прыгожых у тым ліку, і ласкавых…

А л е с я. Я стамілася. Мне можна адпачыць?

К р ы ц у к. Стамілася? А збіраешся адна жыць.

А л е с я *(нервова)*. Адпачыць мне можна? Хоць колькі дзён? Шыла тры дні ў школу не хадзіў… як вы толькі што чулі.

К р ы ц у к. Добра. Будзем лічыць, што дамовіліся. Ты адпачываеш. І адначасова думаеш, як жыць табе далей. Сорак дзён адзначым у гэтаый хаце… Запомні: табе. Маладой, прыгожай… Безабароннай. Перад грамадствам і мужчынамі. На гэта таксама звярні ўвагу. Не бойся гнусу ў тайзе. Не бойся энцэфалітнага кляшча, галодных ваўкоў… бойся – мужчын! *(Збірае свае рэчы, складвае ў дыпламат)*. Спяшацца, так і быць, не будзем.

Сорак дзён хопіць? Падумаць? Сербануць, так бы мовіць, шчасця? Нагбом? Ці, можа, адразу – і ўсіх спраў тых!.. Хто не рызыкуе, той не п’е шампанскае? Рызыкнём? Кінем усё, адсячэм швартовыя!.. А?..

А л е с я *(паціскае плячыма).* Не ведаю… Хаця чаму ж гэта я так? Да пабачэння! *(Неяк няўпэўнена махае рукой Крыцуку).* А там, Бог дасці, і ўбачымся…

К р ы ц у к. Гэта не адказ. Гэта не сур’ёзна. Праз тыдзень… роўна праз тыдзень я прыеду. Паглядзець на цябе. Алеся, паглядзі і ты на мяне. Цяпер.

А л е с я. А што? *( Адварочваецца, быццам чамусьці саромеецца Крыцука).*

К р ы ц у к. Нічога асаблівага. Але трэба быць крышачку сур’ёзней. Дамовіліся?

А л е с я *(неахвотна).* Дамовіліся…

К р ы ц у к. Вось гэта іншая справа. Значыць, да сустрэчы.

А л е с я. Да сустрэчы…

К р ы ц у к *(пайшоў, але спыніўся ў парозе, паглядзеў на стол).* Прыбяры на стале. Не дражні Шылу і яму падобных. *(Выходзіць).*

А л е с я *(гучна).*Яшчэ камандаваць тут будзе! «Прыбяры на стале». Не паеду. Нікуды адсюль я не паеду! *(Узяла ляльку, прытуліла да сябе).* Ты ўсё чула, Настачка? А што яны, дарослыя, разумеюць? Ім жа скажаш – яны смяяцца будуць… «На, пагавары з цёткай!» «У нас катэдж і кватэра на тры пакоі, месца хопіць». Быццам бы я нічога не ведаю… Дурніцу яны знайшлі, ці што? А я, можа, не так жыць хачу… зусім інакш. Мне, можа, не падабаецца, як некаторыя дарослыя жывуць. Але ж я ім не магу сказаць праўду.Бо пасмяюцца – і ўся карысць з таго… А ты што параіш, Настуля? Быць больш смелай, рашучай? Навошта? Дзеля чаго? А кім быць?.. Ды я і сама яшчэ не думала над гэтым, калі шчыра… Хоць ёсць мара… ёсць… Табе толькі, Насця, скажу: я хачу быць салдатам… Смяешся? Так, так. Салдатам. Як мой дзед Сцяпан. Тады я нікога баяцца не буду. Сябе, гэта дакладна, абараню. І тое добра.Аднак не ведаю, сур’ёзна гэта ці не… *(Паклала ляльку).* Паспі. Адпачні, Настуля. Мы з табой удваіх засталіся. На ўсім гэтым белым свеце…

*Заходзіць Кацька.*

К а ц ь к а. А я? А мяне ж чаму вы не прымаеце ў сваю кампанію?

*Алеся не адказала.*

К а ц ь к а. Табе памагчы што?

А л е с я. Я сама...

К а ц ь к а. Ой, Алеська, заўсёды ты ўсё адно і тое ж: я сама, я сама! *(Прыбірае са стала – выносіць посуд).* Табе, напэўна, адной страшна начаваць? Алеся, я табе гавару.

А л е с я *(таксама прыбірае посуд).* Страшна, Кацька. Ага. Боязна.

К а ц ь к а. Дык я пажыву ў цябе? Мае старыя не супраць. Яны разумеюць... А мама дык і зусім сказала, каб я забрала цябе да нас.

А л е с я. Дзякуй табе, Кацька. І маці тваёй.

К а ц ь к а. Яшчэ чаго! «Дзякуй». Пажыву ў цябе – і ўсё. А там відаць будзе... *(Нібы між іншым, але зацікаўлена).* А дзядзька што, паехаў?

А л е с я. Толькі што. А ты адкуль пра горад ведаеш?

К а ц ь к а. Можа і праўда цябе ў горад забяруць?

А л е с я. А ты адкуль пра горад ведаеш?

К а ц ь к а. Людзей паслухай.

А л е с я. А яны?

К а ц ь к а. Алеся, ты быццам на Месяцы жывеш. Дзівачка. Зараз мы прыбярэм у хаце, я прынясу свае сшыткі, падручнікі... Заўтра ж у школу. Ці ты яшчэ дома пабудзеш?

А л е с я. Я і сама не ведаю. Мусіць, пабуду.

К а ц ь к а. Ды хто табе што скажа?

*Заходзіць Шыла.*

Ш ы л а. А дзе?..

А л е с я. Хто?

Ш ы л а. Ну, той ты... гарадскі!

А л е с я. Навошта ён табе?

Ш ы л а. Я, выпадкова, яго на калені не спрабаваў паставіць?

А л е с я. Спрабаваў.

Ш ы л а. Ідзі ты!... Во ўляпаўся, мусіць!.. Ён прадстаўнічы, мае грымасу боса: тут нічога не скажаш. Гэта яшчэ добра, што ён ахову сваю

адпусціў. А то намулялі б бакі. Дарэчы, хто такі будзе? Што за шышка з перцам? І наогул, дзе раней быў, цалаваўся з кім?..

К а ц ь к а. Калі б быў тут дзед Шумавы, то ён сказаў бы пра яго наступнае: ні цаца ні кака. Хаця мужчына відны. Нічогі такі... *(Пазяхнула).*

*Алеся выходзіць.*

Ш ы л а. Выходзь за мяне замуж, Кацюха.

К а ц ь к а *(хмыкнула).* Яшчэ чаго!

Ш ы л а. А то няма каму ў краму бегаць. Мне за цукеркамі.

К а ц ь к а. Ні фіга сабе!

Ш ы л а. Мне ж гадоў мала, Кацярына. Я ж малады.

К а ц ь к а. Малады, ды ранні. Увесь свет абсвістаў. Лепш памаўчаў бы.

Ш ы л а. Пастрыгуся... пагалюся... з пенсіі касцюм куплю новы... і чым не жаніх,а?

К а ц ь к а*(здзіўлена).* З якой пенсіі?

Ш ы л а. З матчынай.

*Заходзіць Ягорыха.*

Ш ы л а. Во , яшчэ адна нявеста. Ягорыха, праходзь, праходзь.

Я г о р ы х а. І надоўга ты тут прапісаўся, бессаромнік?

Ш ы л а. Пакуль прывячаюць, пакуль у гэтай хаце мяне церпяць. Я не кусаюся. Не б'юся. Не лаюся. Чаму ж мяне не цярпець?

Я г о р ы х а. Высока ты сябе цэніш.

Ш ы л а. Эх, і шкодная ж ты баба, Ягорыха. Я пачынаю верыць... пачынаю верыць...

Я г о р ы х а. У што ж, знаць цікава? *(Села на табурэт).* У цара ці ў Бога?

Ш ы л а. Што ты ў вайну нямецкі самалёт «раму» збіла камнем.

Я г о р ы х а. Пцьфу-у, расстудыттваю, а! Учора ў горад ездзіла. На базар. Пенсію патраціць.

Ш ы л а. Чаму мяне не папрасіла? Мігам бы!

Я г о р ы х а. Ды на гэта ў мяне дома свой спецыяліст ёсць. І куфайку купіць трэба, і боты… і багата яшчэ якой трасцы. Пакуль бегала па крамах, прыцэньвалася, вымерхалася нямаведама як… Дай, думаю, бяляш куплю. Апетытны такі бяляш на выгляд. Папытала, колькі каштуе. У мяне і вочы на лоб палезлі… Але ж голад не цётка. Праз гадзіну якую падыходжу і кажу – ды, відаць, дужа гучна, бо ўсе на мяне вочы вылупілі. Давайце, кажу, бяляш! Як успомню, колькі мой мужык прапівае, дык і нядорага !

Ш ы л а. А колькі ж я беляшоў?.. Правільна кажуць: дурні вучацца на сваіх памылках, а разумныя – на чужых. Падобна на тое, гарадскі сваяк Алесі таксама ведае навуку, дзе , як  і што граматна  чэрпаць?

Я г о р ы х а. Ды па яму не бачна, каб ён у свой час чэрпаў там, дзе і ты. Каб з аднаго калодзежа.

*Заходзіць Алеся  з кружкай, якую падае Шылу.*

Ш ы л а. Дзякуй, дзякуй, суседка. Ягорыха, адвярніся. А то не пойдзе.

Я г о р ы х а *(здзіўлена).* У цябе не пойдзе?

Ш ы л а. Так, так, у мяне.

Я г о р ы х а. Нешта я такога не прыпомню, каб у цябе не пайшло.

Ш ы л а *(выпіў*). Ды квас! Квас! Не глядзі так, як на ворага народа.

А л е с я. Больш сёння не прыходзь, Шыла. Праганю.

Я г о р ы х а. Гані, гані, дзеўка, мятлой іх, Шылаў гэтых.

К а ц ь к а. І я памагу Алесі. Мы разам жыць будзем.

Ш ы л а. Дык а трэцяга вам не трэба, прыгажуні непрызнаныя ? То я гатоў!

Я г о р ы х а. Наяўжо і на самой справе квас піў?

А л е с я. А ён маёй маці пакляўся. Няхай цяпер слова трымае.

Ш ы л а. Слабо, думаеце? Ды вы яшчэ Шылу не ведаеце! Калі праз дзень на трэці мыюся, дык што – шыла на мыла?!

Я г о р ы х а. У яго і свая матка ёсць. Можа і ёй клятву даць. *(Шылу – строга).* Не равеснік ты Алесі і Каці. Ты сваіх нявест прашляпіў… Сам вінаваты. Замарозіў іх у той Якуціі. Ці, можа, што іншае?..

Ш ы л а. Я, між іншым, на тэлебачанне пісьмо склаў… Даманцэвіч дапамагаў… І знайду я тое, што згубіў! У Якуцку. Не думайце… Смяецца

той, хто... хто!.. Ды пайшлі вы!.. Мы што, толькі лёд там прыціскалі да сябе?! Ад холаду трымцелі?! Каб жа!.. Грэліся, грэліся і там!.. *(Выходзіць).*

*Паўза.*

Я г о р ы х а. Чула, дзеўка, цябе  цётка Таня у горад забірае?

А л е с я. Пра цётку Таню я нічога сказаць не магу, а дзядзька – так... Прапаноўвае.

Я г о р ы х а. І што ж ты, дзеўка, рашыла?

А л е с я. Пакуль нічога.

Я г о р ы х а. Мая табе парада: не ведаю, што і параіць Сама рашай. Не маленькая. Толькі вось што скажу: жыццё праляціць, як маланка бліснe. Ох ужо ж і ляціць яно, жыццё, не правядзі Гасподзь! *(Глыбока ўздыхнула, устала)* Пайду да сябе. А з горадам рашай. Рашай, дзеўка, на сваю карысць. У цябе ўсё наперадзе. Табе жыць яшчэ доўга... А будуць якія праблемы, то звяртайся. Чым змагу, тым памагу. Хоць і сумна будзе. Ды што сумна – нудна, дзіка і цяжка будзе нам без вас. Сваіх не ўтрымалі. Не зберaглі каля прыполу. То што ж цяпер на люстры скардзіцца, калі твары ў нас такія? А народзіны, дзетка, гэта я ў тваёй мамы прымала... не ведаю, гаварыла яна табе ці не.....

А л е с я. Не. Не расказвала. Але я ведаю. Яна мне багата чаго не расказвала, мама. Як я потым зразумела...

Я г о р ы х а. Цяжкі лёс у яе быў. Не пазайдросціш. *(Выходзіць).*

К а ц ь к а. Можа, зашчэпімся?

А л е с я.  Навошта?

К а ц ь к а. Каб не хадзілі...

А л е с я. А што ў гэтым дрэннага, што людзі заходзяць?

К а ц ь к а.  Гледзячы якія людзі. Шыла  гэты...уявіла! Ой, не магу! «Выходзь за мяне замуж, Кацюха!»

А л е с я *(здзіўлена).* Што, прапаноўваў... табе?

К а ц ь к а. А то хіба не так! Нахабна так! Як танк! Быццам і цвярозы. А намеры яшчэ сур’ёзней, чым у п’янага! А потым яшчэ які!... Малдаван недзе загуляў? Ягорыху, бабу Нюру, і шкада...

А л е с я. А што ёй, соладка жыць, Ягорысе? Не соладка і ёй. Падушка, кажуць, заўсёды на відным месцы... Як толькі нап’ецца яе Лёнька, хапае і ў сад спаць... бо ў хаце не дасці.... Будзе ганяць, пакуль сам не засне...

К а ц ь к а. Гад той Лёнька! Гад-д! І не патоне ж у якой-небудзь калюжыне! Нармальныя мужыкі то пад ток... То ў рэчцы праваліцца і не выпаўзе. А прайдзісветаў тых зямля чамусьцт носіць на сваім хрыбце і не скідвае. Яны, відаць, яе, тую зямлю, нейкім чынам падкупілі? Але чым?

А л е с я. Кацька, а я відаць і праўда – дзіця?

К а ц ь к а. Адкуль узяла?

А л е с я. Не ведаю. Мне так здаецца. А ты – дарослая...

К а ц ь к а. Якая ж я дарослая! Мне хочацца, не пярэчу, хутчэй вырасці, паехаць куды-небудзь. Раней камсамольскія будоўлі былі... Сібір... Мае старыя там і сустрэліся... А цяпер? Хлопцы і тыя служаць каля хаты... Хоць бы, дурні, далей прасіліся ды свету пабачылі. Пазней сябе за локці кусаць будуць. Але ж вышэй сябе не скокнеш.

А л е с я. Не, ты дарослая. Ты здагадалася, што мне адной страшна будзе... Ты напомніла мне, што Лёнька ў Ягорыхі не мужык, а пудзіла гароднае...

К а ц ь к а. Цьфу! *(Плюнула і нагой расцерла тое месца).*

А л е с я. І што ён ўвогуле небяспечнаы стары.

К а ц ь к а. Так, так. Правільна. Хоць і без нагана ...

А л е с я. Малайчына, Кацька. Ты бачыш... уяўляеш, што прыпаўзе Шыла... зноў... ці які п'янтос...і што трэба зашчапку на дзверы накінуць...

*Каця накінула зашчапку.*

А л е с я. А я неяк пра гэта і не думала. Я б, відаць, і спаць легла з адчыненымі дзвярамі...

К а ц ь к а. Толькі ляж – украдуць...

А л е с я. Хто?

К а ц ь к а. А ты і праўда, Алеська, дзіця. *(Усміхнулася, прытулілася да сяброўкі).* Але ўжо такое дзіця, украсці якое знойдзецца багата ахвотнікаў...

А л е с я. Ты так думаеш?

К а ц ь к а. Ой, Алеська, ды на твае вокны даўно заглядаюцца...

А л е с я. І мне здаецца, што нехта ходзіць за акном... А хто – не ведаю... Я бачу яго.. прыгожы... высокі быццам... модна апрануты... і ўсё.

К а ц ь к а. І надта ж ужо нясмелы, ціхмяны.

А л е с я. Што ты, Кацька! Іншага не трэба. А смелы, бойкі які ў шыбку паляпае... Што я скажу яму?  Ідзі прэч, не перашкаджай мне ўрокі вучыць, нягоднік?

К а ц ь к а. Так і скажаш. Цудоўна. З-за цябе двоек нахапаюся, як сабака дзядоўніку.

А л е с я *(сур'ёзна).* Мне... Мне нельга двойкі... хапаць... І сваволіць таксама.. Бо няма каго больш выклікаць у школу... Няма... Няма...

К а ц ь к а *(прытулілася да пляча Алесі).* А ты мяне пакліч, Алеся. Заступлюся.  Не дам ў крыўду. Пакліч, Алеся. Бо пакуль той, што недзе ходзіць за акном, пакуль адгукнецца... а я заўсёды побач. Так што не бойся сваволіць... Не бойся двоек... Не бойся хуліганіць...

*Прыбягае Шыла. Ён нечым усхваляваны.*

Ш ы л а. Дырэктар... Даманцэвіч памірае.... Просіць усіх, хто яшчэ не паспеў раней за яго!... Ну! Чаму вочы вылупілі? Дырэктар... Даманцэвіч... Што за напасць! Адна за другой! Каму паабяцаю не піць – усіх паралюш хапае! *(Знікае).*

*Алеся і Кацька  моўчкі выходзяць за Шылам.*

Зацямненне.

*У хаце былога дырэктара школы Даманцэвіча. Ён сядзіць на канапе. Ногі прыкрыты коўдрай.*

*Моўчкі заходзіць Ягорыха, яна прынесла гарлач з малаком. За ёй – Участковы.*

Я г о р ы х а. Парное малачко. Папіце, Міхаіл Гаўрылавіч. Свежанькае. Апошні год трымаем... Шэсць каровак засталося ўсяго – не напасвішся... *(Частуе Даманцэвіча малаком).* Ну, як вы тут, дырэктар?

*Улятае Шыла.*

Ш ы л а. Парадак! Усіх!.. Ідзі ты!..

*Моўчкі заходзяць Алеся і Кацька. Пакланіліся.*

Д а м а н ц э в і ч. Сядайце. Хто дзе. Месцаў хопіць. Магу і ўвесь клас размясціць. Нанеслі мне са школы ўсяго... Лавак, сталоў, табурэтак... Навошта?

Я г о р ы х а. А цяпер і мы будзем вучыцца. Калі ўсе разумнымі сталі. Абы было на чым сядзець. Улічылі, улічылі, Гаўрылавіч!..

Ш ы л а. Прабачце, Міхаіл Гаўрылавіч. Калі што не так было... *(Сеў на табурэт).*

Д а м а н ц э в і ч. Вы што гэта, развітвацца са мной прыйшлі?

*Паўза.*

Д а м а н ц э в і ч. Я ў вас пытаюся, землякі?

*Паўза.*

Д а м а н ц э в і ч. Ведаеце, што я вам скажу?.. І раней хацеў гэта сказаць, аднак лыжка, кажуць, дарага к абеду. Дрэнных вучняў увогуле не бывае. Запомніце гэта. Раз і назаўсёды. Але мне больш спадабаліся такія, як вось Пеця Шыла.

Ш ы л а *(устаў).* Я?!

Д а м а н ц э в і ч. Сядзі, Пятро.

*Шыла сеў.*

Д а м а н ц э в і ч. Хоць і вучыўся ты са скрыпам, так сабе. Дысцыпліну, здаралася, парушаў. Але – не шкоднічаў! А гэта дзве вялікія розніцы. Так, так... такія вось непрадсказальныя, як восеньскі дзень, яны, нашы дзеці... Былі выдатнікі. Але я мала каго з іх запомніў. Яны потым і ў школу, дарэчы, рэдка заходзілі чамусьці... А некаторыя і наогул ніколі не былі пасля выпускнога балю: усё міма і міма... Пятро, ты колькі вершаў на памяць вывучыў з усёй школьнай праграмы?

Ш ы л а *( адказвае ахвотна).* Адзін.

Д а м а н ц э в і ч. Не забыў?

Ш ы л а. На ўсё жыццё вывучыў...

Д а м а н ц э в і ч. Раскажы.

Ш ы л а. Няёмка...

Д а м а н ц э в і ч. Няёмка на столі спаць – коўдра, кажуць, звальваецца...

Ш ы л а *(устаў).* Я школу даўно закончыў...

Д а м а н ц э в і ч. Ды ты сядзі, сядзі!..

Ш ы л а *(стаіць).* Урок быццам бы. Верш? Верш! Ага!.. Аднак той верш я сапраўды на ўсё жыццё запомніў. Калі мяне ў піянеры прынялі, я гальштук у кішэні чамусьці насіў. Пазней зразумеў, аднак, што дурнем быў... дробным франтам. А дырэктар школы паклікаў мяне, вось ён, Міхаіл

Гаўрылавіч, за вуха, між іншым, добранька шкуматнуў, уручыў паперку і сказаў, што я заўтра ў абавязковым парадку на агульнашкольнай лінейцы буду расказваць верш, які быў на паперцы аддрукаваны тлустымі літарамі... на лінейцы... перад усёй школай... Не вывучыш, кажа, выключым... І вывучыў! Хаця спярша баяўся, што не адужу. Радкоў у ім здавалася спярша багата. Цяпер я той верш і ў дамавіне, відаць, успомню: «Как повяжешь галстук, береги его; он ведь с нашим знаменем цвета одного...»

*Алеся і Кацька паапладыравалі.*

Д а м а н ц э в і ч. Лічыце, аднак , што да апладысментаў далучаюся і я.

*Ягорыха таксама запляскала ў аладкі.*

Д а м а н ц э в і ч. І хваляваўся надта я за цябе, Пятро, калі ў Афганістан цябе адправілі... Усё баяўся, ты ўжо даруй, што прывязуць цябе... Паказваюць жа па тэлевізары... Уяўлю – і ў вачах слёз поўна... як вясной ў рэчцы ў часе паводкі. Чаму лёс выбраў аднаго цябе? З усёй школы? Самага вясёлага, гарэзлівага, самага прастадушнага?.. Душа вось як на далоні... уся бачна... І не мог зразумець...

*Шыла, давячыся слязамі, але стараючыся не паказваць гэтага, таропка выходзіць. Алеся і Кацька кінулся ўслед, потым вярнуліся.*

К а ц ь к а. Плача. На двары.

А л е с я. Не ідзе.

Я г о р ы х а. Халера, а! Шыла... Я ж яго прымала ў маткі... Ён мне адразу па носе заехаў рукой!.. Гвазданўў так, што!... Ну, думаю, антыхрыст вырасце! А ён вось!.. Хто б падумаў?.. Плача!..

Д а м а н ц э в і ч. У многіх памыліўся. На жаль. Пакуль няма яго, Пеці, раскажу яшчэ адну гісторыю пра яго... Набедакурыў у чарговы раз, не помню ўжо, што зрабіў... Вяду яго да маці, каб разам пажурыць, ён адстаў крыху, ідзе і дражніцца: «Тры валасінкі на галаве... Тры валасінкі на галаве... Тры валасінкі на галаве...» У мяне, значыць. Пра тры валасінкі дома ў яго мы не гаварылі. На другі дзень я выклікаў яго ў настаўніцкую, якраз быў перапынак, і пры ўсіх папытаў: «Дык колькі, Пеця, у мяне валасінак на галаве?» А ён гучна так і сур’ёзна адказвае – ну як у тэатры: « Тысячы валасінак у вас на галаве, Міхаіл Гаўрылавіч! Тысячы валасінак!..» Настаўнікі, падалося, ад смеху долу пакаціліся. Ну, ці ж дзеля гэтага не варта было жыць?

Зацямненне.

*У пакоі Алеся і Кацька. Сядзяць за сталом – насупраць адна адно – і рыхтуюць урокі.*

К а ц ь к а. Я б згадзілася жыць раней. Ну, хоць бы ў дзевятнаццатым стагоддзі. Тады не было машын… станцый атамных… усе ездзілі на конях… а ў рэчках, вядома ж , было шмат рыбы. І хлопцы былі не такія, як сёння… Вось мой, напрыклад, прыязджае з Парыжа… на выхадныя… За бакенбардамі… у карэце… Прывозіць французскія духі…

А л е с я. Фантазёрка ты, Кацька!

К а ц ь к а. А што яшчэ з Францыі ён можа прывезці?

А л е с я. Не ведаю.*(Падыходзіць да акна).* Цікава, і праўда цікава: хтосьці ходзіць за акном… Гэта ты прыдумала, Кацька?

К а ц ь к а *(не адрываючы галавы ад стала, піша).* Можа, і я. Не помню.

А л е с я. А там ходзіць Шыла.

К а ц ь к а. Адзін?

А л е с я. Не-а.

К а ц ь к а. А з кім?

А л е с я. З Малдаванам. Як прыехаў буракі беларусам вырошчаць, дык і дамоў заехаць не можа… На білет не заробіць.

К а ц ь к а. Вучы ўрокі. А то не пушчу гуляць.

А л е с я. А ўжо хочацца… гуляць.*(Млява пацягнулася і ўталопілася ў кнігу).*

*Стук у шыбу.*

К а ц ь к а. Хто гэта?

А л е с я. Варта загаварыць пра чорта, ён тут як тут. Не падыходзь. Малдаван, хто ж яшчэ? Ён хоць у хату не прэцца, а ў шыбу ляпае. *(Малдавану).* Што ты хацеў? *(Кацьцы).* Хаця навошта я пытаюся? «Дай сто рублёў. Заўтра аддам».

М а л д а в а н *(стаіць пад акном, з акцэнтам).* Суседка, а, суседка! Дай сто рублёў… да палучкі… заўтра аддам.

*Кацька хмыкнула.*

А л е с я. Не дам! І не прасі!

М а л д а в а н. Выручы, суседка. Памірае малдаван. Нас і так мала. Выручы, Алеська. На буцельку трэба.

А л е с я *(Кацьцы).* Хітры які. Так яму на бутэльку ніхто не пазычыць, бо кожнаму павінен, а сто рублёў быццам і грошы не вялікія… даюць людзі, каб толькі адвязацца. Ён гэтым і карыстаецца.

М а л д а в а н. Суседка-а! Паміраю-ю! Ці дай хоць лыжку гарэлкі. Чуеш? Усяго лыжку…

А л е с я. Я не працую!

М а л д а в а н. А грошы маеш. А я працую – і няма. Выручы, Алеська-а!

К а ц ь к а. Пайшоў к чорту!

М а л д а в а н. Кацька, і ты, халера, тут?

К а ц ь к а. І я. Не стой пад акном, а то яно запацела…

М а л д а в а н. Памру, і вам не сорамна будзе? Як у вочы маёй матцы глядзець будзеце? Прэзідэнту нашаму? Я ж яго партрэт павесіў над сталом. Калі выпіваю, ён мне падміргвае: правільнай дарогай ідзеш, малдаван! Так і працягвай!

К а ц ь к а. У вас прэзідэнт даўно памяняўся.

М а л д а в а н. Для мяне адзін прэзідэнт сапраўдны – той, за якога я галасаваў. За імі не ўсочыш. Паміраю-ю-ю-ю! Што вам, лыжкі гарэлкі шкада?

А л е с я. А што, калі і праўда памрэ?

К а ц ь к а. Дык ён жа кожны дзень вые пад вокнамі ў людзей.

А л е с я. Вые. Як і сабака. Не к дабру гэта.

М а л д а в а н. Паміраю-ю-ю-ю! *( Вые).*

К а ц ь к а. Налі яму лыжку гарэлкі.

А л е с я. Усяго? Лыжку? Дык яму ж лізнуць…

К а ц ь к а. Налі колькі просіць. І дай мне.

Алеся наліла ў лыжку гарэлкі, Кацька падае Малдавану.

М а л д а в а н *(абурана).* Каб табе дзеці пад страсць вады падавалі… таблеткі запіваць… столькі.

К а ц ь к а. Будзеш браць ці не?

М а л д а в а н. Буду, буду! Хоць і кропля, але залатая! *(Выпіў з лыжкі, падаў яе Кацьцы).* Мала. Усёроўна паміраю-ю-ю-ю! У-у-у-у-у!..

А л е с я ( *рашуча*). Дам яму сто рублёў і няхай не вые! *(Падала грошы ў руку Малдавану).* На!

М а л д а в а н. А чаму, суседка, ты сказала толькі «на», і больш нічога? А са мной людзі звычайна хочуць пагаварыць. Яны багата харошых, цёплых, пяшчотных слоў мне кажуць… «на, каб ты падавіўся… на, каб ты ўжо напіўся раз і назаўсёды… на, каб ты лопнуў…» Дзякуй, суседачка.

А л е с я. Сёння не прыходзь.

М а л д а в а н. Сёння – не. Буцелька ёсць. Заўтра прыйду.

*Алеся гаротна ўздыхнула.*

К а ц ь к а. А не дала б сёння, ён не прыйшоў бы і заўтра.

А л е с я. Кацька, ты і праўда дарослая. А я – дзіця… Дзіця. І ўсё больш і больш пачынаю гэта разумець. Мне яшчэ больш робіцца страшна, што я засталася адна.

К а ц ь к а. Таму я і гавару табе: вучы ўрокі. Не адхіляйся. Тады галава не будзе забіта абы-чым.

А л е с я. Можна, я яшчэ ў акно пагляджу? Кацька, га? Можна?

К а ц ь к а *(забаўляючыся).* Ну што з табой паробіш? Толькі нядоўга.

А л е с я. Ага. *(Глядзіць у акно).* Малдаван з Шылам стаяць. Шыла, здаецца, не пускае яго ў краму.

К а ц ь к а. Харошага за тым акном мала чаго ўбачыш… Гэта раней мітусіліся. Дамы будавалі, Палацы, дрэвы і хмызнякі саджалі, у барабаны білі, у горны дзьмулі!.. Як яшчэ дзеці нараджаюцца, жыццё працягваецца? Адкуль яны бяруцца?

А л е с я *(здзіўлена глядзіць на Кацьку).* Кацька! Ты філосаф.

К а ц ь к а. А я ў акно не гляджу. Ну, падоўгу… Няма калі.

А л е с я. І я не буду. *(Сядае за стол).* Ведаеш, Кацька, пра што я мару?

К а ц ь к а. Пра што?

А л е с я. Выйсці замуж…

К а ц ь к а. Вучы ўрокі!

А л е с я. Ды пачакай ты!

К а ц ь к а. Чакаю.

А л е с я. Выйсці замуж…

К а ц ь к а. Другі раз?

А л е с я *(надзьмулася).* Не буду… далей …гаварыць… Ну цябе!

К а ц ь к а. Будзеш. Не адстану, як і Малдаван. Сто разоў папрашу – здасіся. Лепш здавайся адразу. *(Усміхнулася).*

А л е с я *(не адразу, шчыра-наіўна).* Угаварыла.

К а ц ь к а. Я такая.

А л е с я. Выйду замуж…

К а ц ь к а *(пырснула смехам, затуліла рот далоняй).* Маўчу, маўчу, маўчу!

А л е с я. І нараджаю багата- багата дзяцей.

К а ц ь к а. Гэта сур'ёзна.

А л е с я. Каб у мяне былі брацікі і сёстры, мне б было весялей. А так адна вось засталася.

К а ц ь к а. З лялькай Насцяй. Гэта падарунак лёсу. Мара любой жанчыны. Асабліва такой саплівай, як ты. Ні карміць яе не трэба, ні паіць. Не пераборлівая Насця і ў модзе… У адной сукенцы заўсёды… І цукерку адну ёй прэзентаваў – будзе цешыцца, пакуль не стане, як каменьчык.

А л е с я. Выдумаеш!

К а ц ь к а. Даруй, Алеся.

А л е с я. За што?

К а ц ь к а. Ну… хоць бы… Ды хіба мала за што!

А л е с я. Мне і з табой добра, Кацька.

К а ц ь к а. Хутчэй бы вырасці і з'ехаць куды ў белы свет.

А л е с я. Давай разам?

К а ц ь к а. Разам – не атрымаецца.

А л е с я. Чаму?

К а ц ь к а. Цябе забярэ дзядзька.

А л е с я. Я не паеду.

К а ц ь к а. Я б паехала. Гэта ж горад… Тэатры, кіно… Марожанае…

А л е с я *( цвёрда).* А я не паеду!

К а ц ь к а. А я б паехала!

А л е с я. А я не паеду!.. *(Схавала твар у далонях, плача).*

К а ц ь к а *(спалохалася, супакойвае Алесю).* Не едзь, Алеська. Не едзь. Не трэба. Ну яго,той горад. Не трэба нам марожанае. Мы… мы бульбы з гурочкам… Капустачкі. А тэатр у нас свой ёсць… дастаткова ў акно паглядзець ці на вуліцу выйсці. У нас мужыкі і бабы могуць такі спектакль паставіць, што нос утруць любым народным артыстам. Пайшлі, Алеська, гуляць. Дазваляю. Табе і сабе.

А л е с я *(устала, усміхаецца).* Пайшлі.

К а ц ь к а. Дзе вёдры? Ага! *(Хапае вёдры).*

А л е с я. А я курэй пакармлю і бульбы выберу.

К а ц ь к а. Гуляць дык гуляць!

А л е с я. Гуляць!..

*Выходзяць. Вясёлыя і шчаслівыя.*

Зацямненне.

М а л д а в а н *(пад тым жа акном).* Суседка! Ку-ку! Адгадай, хто прыйшоў? Правільна: буцелька. Ку-ку!

*Паўза.*

М а л д а в а н. Сусед-ка-а!

*У пакой заходзіць Алеся.*

А л е с я *(на голас).* Грошай няма! Адстань!

М а л д а в а н. Пусці, суседка, зайсці.

А л е с я. Яшчэ чаго!

М а л д а в а н. Мяне не бойся. Тут хоць бы са сваёй разабрацца…

А л е с я. Пайшоў вон!

М а л д а в а н. Фу-у, якая ты нявыхаваная.

А л е с я. А ў нас у школе скончыўся тыдзень ветлівасці. Чаго ты хацеў? Калі грошай, то няма. Хутка сама буду хадзіць, як і ты, з працягнутай рукой.

М а л д а в а н. Х-хэ, суседка! Па грашах ходзім. У мяне ў горадзе зямляк жыве. На базары пазнаёміўся , калі боты прапіў. Помніш, босы вярнуўся з горада?

А л е с я. Гавары хутчэй. Няма калі тваю балбатню слухаць. Усё роўна ў канцы  руку працягнеш: дай, суседка, сто рублёў на буцэльку.

М а л д а в а н. Ну і здагадлівая ж ты, суседка. Сто ўжо мала… цэны растуць. Але калі ты паслухаеш мяне ўважліва, то ніколі больш не буду прасіць грошай. Верыш?

А л е с я. Не.

М а л д а в а н.  А дарэмна. Ты, значыць, едзеш у горад…

А л е с я. Хто табе сказаў?

М а л д а в а н.  Малдаван усе ведае. Не дуры. Цябе забірае дзядзька, а хату –куды?

А л е с я. Ты хіба купіш?

М а л д а в а н. Хай не сам, а пакупніка табе я ўжо знайшоў. Чуеш? А якім чынам знайшоў? Ты слухаеш там ці не? Мне ж не відна…

А л е с я. Слухаю, слухаю.

М а л д а в а н. Ён пазычыў аднаму мужыку трыста долараў… дакладней, спецыяльна падсунуў даляры… нажыўка такая… як чарвяк для рыбы. А ён і клюнуў. Ап!

А л е с я. Які багаты ў цябе зямляк! А чаму ж ты бедны?

М а л д а в а н. Не перабівай, а то я зусім заблытаюся.

А л е с я. Не буду.

М а л д а в а н. А ён, мужык той, долары прапіў. І не вяртае доўг. А дзе ён возьме? Калі ж горла, як у мяне, – дзіравае. Прыходзіцца прадаваць сваю аднапакаёвую кватэру. Кеміш? Ён, значыць, п’яніца той… цьфу ты! Гэта я сказаў – «п’яніца»? Ці пачулася?

А л е с я. Ты. Ты.

М а л д а в а н. Даруй, мужык.  Больш не буду. Зняважаць.  Ён, значыць, мужчына той, аддае майму земляку кватэру, той яму купляе ў

вёсцы… тваю хату. Іншага выйсця ў яго няма. Інакш… сама разумееш… *(Паказаў нешта накшталт харакіры).* Ты згодна? Суседка-а! Малдаван не чуе адказу.

*Алеся энергічна нацягнула на акно фіранку. Голас Я г о р ы х і: «Чаго ты тут віснеш? Адстань хоць ад дзеўкі цяпер. Якія ў яе грошы? Адкуль?» Голас М а л д а в а н а: «Во, добра што ты папалася! Пазыч, Ягорыха, сто пяцьдзесят рублёў. Заўтра аддам. З палучкі». Голас Я г о р ы х і: «Якая палучка? Калі яе давалі ў нас людзям? Гэта ў Англіі ці дзе там, кажуць, кожны тыдзень грошы плоцяць. Едзь у Англію». Голас М а л д а в а н а: «Спярша трэба ў Малдавію заехаць. Дай сто пяцьдзесят рублёў. Чуеш, Ягорыха? Фу-у, шкодная баба! А куды ты з падушкай?» – «У цябе не папытала!»*

*З'яўляецца Ягорыха. З падушкай.*

Я г о р ы х а. Сон бачыла. Пачакай, а які ж я сон бачыла, каб не збрахаць? *(Сядае на табурэт*). Ціха пакуль?

А л е с я. У якім сэнсе?

Я г о р ы х а. Па ўсіх маіх прагнозах, за табой павінны прыехаць.

А л е с я. Гэта па вашых. А я жыву па сваіх прагнозах. Толькі я нікуды не паеду. Запомніце. Усе.

Я г о р ы х а *(здзіўлена-абрадавана)* Во слава табе Госпадзі! Усё ж весялей! Няхай і малдаване жывуць. Каму яны замінаюць? Хоць нейкая разнастайнасць у жыцці! «Дай сто пяцьдзесят… дай дзвесце…» Цыганы яны і ёсць цыганы! У іх у крыві напісана – прасіць, клянчыць… А што, што цябе тут , калі шчыра, на духу ты прызнаешся мне, бабцы, якая табе памагала свет убачыць, трымае? Што? Маўчыш. Дзеда я аднаго ведала, даўно было, дык ён чарапок з золатам схаваў на агародзе, а дзе – не мог успомніць. Так і памёр, не ўспомніўшы!..

А л е с я. Мне без цябе сумна будзе, цётка.

Я г о р ы х а. Так я і паверу! Знайшла дурную бабу!..

А л е с я. Хата… трымае. Гэтага дастаткова?

Я г о р ы х а *(махнула рукой).* А там, можна падумаць, ты на вуліцы будзеш жыць?

А л е с я. Хай сабе… То там… а тут свая хата…

Я г о р ы х а. Вечнага нічога няма. І хата тая доўга не прастаіць. То дах пацячэ, то бервяно згніе, то яшчэ якая трасца. Ой, хата! Цяпер гэта не багацце. Пасля вайны цяжка было, а сёння-я-я!.. А колькі печ дроў з'ядае? Яны што, дровы, з неба падаюць? Ой, і марокі! То адно, то другое… А ў горадзе склаў рукі – і сядзі. Як паненка.

А л е с я. Так думаеце?

Я г о р ы х а. А як мне яшчэ думаць, калі так яно і ёсць? Так, дзеўка, так. Хіба ж я не бачыла? Хіба ж я ў горадзе не была? Маладой ого як хацелася ў горад! Гэта цяпер усё роўна. А як уцекчы з гэтай гразі не было магчымасці. Пашпартоў не давалі.

А л е с я *(нецярплівa).* Сон не ўспомніла, цётка?

Я г о р ы х а. Во ўжо памяць, га! Хоць запісвай сны тыя. У пасцелі помню, а нагу пастаўлю на падлогу – і забываюся. Ты верыш ці не?

А л е с я. Веру. А чаму гэта вы з падушкай?

Я г о р ы х а. Мая падушка вам нікому жыцця не дае! *(Пасля паўзы*). А то не ведаеш!

А л е с я. Не трэба дык не трэба… мне ўсёроўна.

Я г о р ы х а. Рашучасці няма, таму і з падушкай! А чаго ж гэта я прыйшла? *( Вытрымаўшы паўзу).* Дык з гораду пакуль ціха, кажаш, нічога не чуваць? І цётка, халера, носу не паказвае. Во табе і цётка, родная крывінка.

А л е с я. Як бачыце.

Я г о р ы х а. А можа быць такое, што дзядзька і не прыедзе больш? Што ж, скажа, мне цябе ўпрошваць, дзеўка, навошта энергію траціць, калі ты такая упёртая?

А л е с я. Не ведаю.

Я г о р ы х а. Не адмаўляйся, дзеўка. Вось і сон, здаецца мне, на тое падказваў: калі будуць запрашаць – прымай запрашэнне. Ага. А Кацька ж дзе? *(Стараецца вачыма заглянуць ва ўсе куткі).*

А л е с я. Дома.

Я г о р ы х а. Зразумела, зразумела… А сталуецеся як – з тваёй кладоўкі , ці яна таксама нешта прыносіць?

А л е с я. А вам, цётка, якая справа?

Я г о р ы х а. Ды мне-та... бяды тае. Вам каб добра было. Вам. А мы сваё пражылі, можна сказаць.  Мае дзела падушку не забыцца, калі прыспіча…Ну дык пайду я.

А л е с я. Ідзіце. Не трымаю.

Я г о р ы х а. Як сон успомню, то загляну, раскажу... І трэба ж! Як сплю – помню, а прачнуся – бы даўбешкай хто сон той выбіў з маёй дурной галавы. *(Накіравалася на выхад).*

А л е с я. На халоднай падушцы спіце, таму, відаць, і сноў не помніце...

Я г о р ы х а. Што... што ты сказала? Ага... Зразумела. *(Выходзіць).*

А л е с я *(падбегла да акна).* А цяпер і Ягорыха ходзіць за акном... Адны і тыя ж людзі. « А Кацька дзе?» А дзе яна можа быць, Кацька? Там, дзе і я...  Дзе ўсе – хто ў пшаніцы, хто ў аўсе.

Зацямненне.

*Алеся бачыць сон... Быццам з'яўляецца ў хаце класны Сямён Пятровіч з букетам кветак. Стаіць у парозе. Разгублены і шчаслівы.*

С я м ё н П я т р о в і ч. Алеся, не хавайся.  Выходзь. А-у. Ку-ку. Не бойся, я не буцелька і сто рублёў прасіць не буду. Я тваё шчасце. Бяры мяне. Рабі, што хочаш. Скарыстоўвай. Ты дзе, Алеся? Чуеш? Гэта я, твой класны…Сямён Пятровіч. Ты не думай, што я малады настаўнік, то ў мяне мала ўрокаў і  таму зарплату я атрымліваю маленькую, мізэрную. Нешта ў мяне ёсць і большае... Ага. За класнае кіраўніцтва таксама  дабаўляюць. Вось думаю тэлевізар купіць. У крэдыт. І штаны сабе новыя. А там і на гальштук разжывуся. Ды і не гэта, у рэшце рэшт, важна! Што мы ўсе пра грошы толькі ды пра нейкія баксы? А ёсць жа  больш вышэйшыя, больш значныя і важныя рэчы!

А л е с я  *(з'яўляецца ў вясельнай сукенцы, у вэлюме).* А што больш значнае, любы?

С я м ё н П я т р о в і ч. Ты.

А л е с я. Я зразумела. А мне як вас называць – па-бацьку, ці проста – Сенечка?

С я м ё н П я т р о в і ч. У школе, шаноўная, будзем захоўваць субардынацыю, а дома – так, так: Сенечкам заві. А я цябе – Сонейкам. Сенечка і Сонейка. Гучыць, га?

А л е с я. І ты, Сенечка, сёння нейкі не такі...

С я м ё н  П я т р о в і ч. А якім павінен быць чалавек, які прыйшоў у сваты?

А л е с я *( здзіўлена).* Ты прыйшоў у сваты?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Абавязкова!

А л е с я. А чаму ж адзін? А дзе сваты?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Не выбраць. Няма з каго. Старых жа не прывядзеш, а маладыя – п'яныя. Не выбраць. *( Працягвае кветкі).* Гэта вам... табе, табе-табе!

А л е с я *(узяла кветкі).* А калі Кацька прыйдзе, што я скажу ёй? Яна ж абавязкова прычэпіцца, абавязкова папытае: а дзе ты кветкі ўзяла? А хлусіць я не ўмею. Вы ж хлусіць мяне ненавучылі. Усяму вучыце, а гэтаму не... Калі небудзь і спатрэбілася б тая навука.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Памылачка. Навучу. Кінеш ззаду, наперадзе знойдзеш... Так, так. Разумныя людзі прыдумалі. Вось ты пра Кацьку ўспомніла... А я, прызнаюся табе, хацеў спярша да яе ў свату пайсці... Але бацькі пабаяўся. А ты адна... і я адзін... А разам нам, удвух, весялей будзе. Разам будзем адбівацца ад Шылы і Малдавана.

А л е с я *( пакрыўджана).* Вось ты які, класны! Пералётны птах! Такі ж, як і ўсе. Адным мірам мазаны. Спярша да Кацькі мецiў, а да мяне – у апошнюю чаргу. Там не атрымалася, дык ты сюды вятрыла павярнуў? Так? Маўчыш? І што, думаеш, я такога хулігана на ложак пушчу? Вось на гэты самы?.. *(Паказала рукой у кут).*

С я м ё н  П я т р о в і ч. Ну глупствы ж, глупствы! Выходзь за мяне, Алеська. Выходзь. Не пашкадуеш. Дзе яшчэ такое шчасце знойдзеш? Дзе адкапаеш? Гэта ж столькі перакапаць трэба будзе, каб мяне знайсці! А я – вось. Сам. Уласнай персонай. Не п'ю і не куру.

А л е с я. Кацька таксама не п'е і не курыць. Дык лепш я з ёй буду жыць.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Глядзі, каб не пашкадавала потым. Я, між іншым, пад тваім акном не адзін вечар хадзіў. Нават чаравік згубіў...

А л е с я. Дык гэта твой быў чаравік?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Мой. На імпартнай падэшве. Ай, нічога страшнага. Абы, як кажуць, мы былі. Выходзь за мяне.

А л е с я. Я б выйшла, але з адной умовай...

С я м ё н  П я т р о в і ч. Слухаю, мая каралева!

А л е с я. Калі будзеш  расказваць усяму класу за мяне вершы, што задаеш вучыць на памяць. І ставіць мне толькі пяцёркі.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Дазвольце падумаць!

А л е с я. А што тут думаць? Можа вы яшчэ ў мамкі папытаеце? Або ў нашага дырэктара?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Дык я… прабачце… ага… у сваты прыйшоў… не на кірмаш.

А л е с я.  Тады сватайся. Дазваляю. *( Дэманструе сябе).*

С я м ё н  П я т р о в і ч *(разгублена).* А што рабіць трэба?

А л е с я. І я не ведаю.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Я ж ніколі раней не сватаўся.

А л е с я. Ой, не магу! А калі табе сватацца было? У цябе ж яшчэ і барада не расце…

С я м ё н  П я т р о в і ч. Праўда, не расце.

А л е с я. Так што  рана думаць пра тое, пра што ты, класны, думаеш…

С я м ё н  П я т р о в і ч. Вярні кветкі!

А л е с я. На! *(Кідае у класнага букетам).* Вяртаю! Табе яны яшчэ спатрэбяцца! Ні сёння дык заўтра! Бабнік яшчэ той! *( Выходзіць).*

С я м ё н  П я т р о в і ч *(збірае кветкі).* Не буду… ніколі…ніводнага разу… нізашто…ні за якія грошы.. ні за якія шышы…  жаніцца. І не ўпрошвайце! То вершы ім расказвай, то яшчэ што! Ну і вучні пайшлі! Не тое, што ў наш час былі! *(Выходзіць. Але кветкі пакінуў на стале).*

Зацямненне.

*У хаце.*

А л е с я. Ну і сон! Трэба ж такому прысніцца! *(Да лялькі).* Насця, расказаць табе – не паверыш: класны наш прысніўся. *( Узрадавана).* А вунь і Кацька бяжыць. Да мяне. З партфелем. Будзем урокі вучыць і разам гуляць. Дзе яе вёдры? А мая карзіна? *(Хапае вёдры і карзіну, але не паспявае выбегчы з хаты. З’яўляецца Кацька).* Ты як ракета. Хто за табой гнаўся?

К а ц ь к а. Дай прыйсці ў сябе… Фу-у! Пераапранайся. Потым гуляць з вёдрамі ды карзінамі будзем.

А л е с я. А што здарылася?

К а ц ь к а. Госці к нам…

А л е с я. Хто?

К а ц ь к а. Век не здагадаешся.

А л е с я. Ой, Кацька! Заўсёды ты пачынаеш!.. Ну хто?

К а ц ь к а. Во, аддыхалася, цяпер магу і сказаць. Класны наш. Класны!

А л е с я. Сямён Пятровіч?!

К а ц ь к а. Ага. Ён. А больш класнага ў нас і няма.

А л е с я. Больш класнага класнага ў нас і няма.

К а ц ь к а. Каля крамы сустрэла толькі што. Папытаўся, як мы, што мы… І сказаў, што зойдзе… папрасіў быць дома. Быццам у школе нас не бачыў. Дзіўны ён нейкі, Сямён Пятровіч.

А л е с я. Не тое слова… Мог бы, што хацеў, і ў школе сказаць. А чаму я павінна пераапранацца?

К а ц ь к а. Ён жа ўсё-такі мужчына…ці хлопец.

А л е с я *(хмыкнула)*. Мужчына? Ці хлопец?

К а ц ь к а. У штанах жа ходзіць!

А л е с я. А-а-а!

К а ц ь к а. А ты сабралася карміць сваіх кароў-парсюкоў.

А л е с я. Хай паможа.

К а ц ь к а. Ён гарадскі.

А л е с я. Адукуем. Ён нас, мы – яго.

К а ц ь к а. Паглядзі ў сваё акно – не ідзе?

А л е с я *(падбегла да акна, углядаецца. Разгублена)*. Праўда… ідзе.

К а ц ь к а. А то я жартую!

А л е с я. А што ж мне?.. У гэтым? *(Пераапранаецца)*. І што яму, класнаму, дома не сядзіцца?

К а ц ь к а. А гэта ты ў яго папытай. *(Прыхарошваецца перад люстэркам).*

А л е с я. Поўзае па хатах… Кіно б глядзеў па тэлевззару… ці чытаў што… цяпер кніжак гэтых штампуюць… як піражкі… дык не – поўзае… Усё, здаецца? Добра і так будзе.

К а ц ь к а. Во, адразу папрыгажэла, а то была падобная на перадавую даярку.

А л е с я. А чаго ён, Кацька, прэцца, класны наш?

К а ц ь к а *(села за стол, раскладвае на стале падручнікі, сшыткі).* Ну ён жа класны!

А л е с я. Ага, праўда: класны класны. Фу, а ў мяне нешта сэрца забілася… трусіха я.

К а ц ь к а. А ты вазьмі і спытай у класнага, чаму ў нас, дзяўчынак, іншы раз трымціць сэрца?

А л е с я. Яшчэ чаго!

К а ц ь к а. А хочаш, я папытаю? Хочаш?

А л е с я. Ды ну цябе! Скажаш таксама! *(Глядзіць у акно).* Заходзіць у двор…

К а ц ь к а. Сустракаем. Сядай за стол… насупраць мяне… Рыхтуем урокі. Толькі ўрокі – і больш нічога. *(Смяецца).*

А л е с я *(села за стол).* Кацька! Цішэй!

*Стук у дзверы.*

К а ц ь к а *( ціха).* Алеся, хто ў доме гаспадар?

А л е с я *( адкашлялася).* Заходзьце! Калі ласка!

*З'яўляецца Сямён Пятровіч. На выгляд яму не больш,чым вучаніцам. Старанна выцірае ногі.*

К а ц ь к а. Праходзьце, Сямён Пятровіч!

А л е с я. Ага. І сядайце.

С я м ё н П я т р о в і ч. Дзякуй за запрашэнне. Я пастаю, калі дазволіце…

К а ц ь к а. Канешне…як хочаце.

А л е с я. Наша справа прапанаваць…

К а ц ь к а *(паморшчылася, спадцішка штурханула Алесю ў плячо).* А мы во вучым. Не адрываем галавы ад падручнікаў.

С я м ё н П я т р о в і ч. І што ж вы вучыце, калі не сакрэт?

А л е с я. А што... а што вучыцца...

К а ц ь к а. Урокі.

С я м ё н П я т р о в і ч. Вядома ж, урокі. *(Паглядзеў, што за падручнікі ляжаць на стале).* Заўтра, дарэчы, няма ні астраноміі, ні фізікі...

А л е с я. Праўда?

С я м ё н П я т р о в і ч. Уявіце сабе.

К а ц ь к а *(адсунула ад сябе кніжкі).* Нумар не прайшоў... Ды яны, падручнікі, тут проста так ляжаць. Стол маленькі. Усё ў кучы. А потым ужо з кучы і выцягваем...Разграбаем кучу... Вы сядайце, сядайце, Сямён Пятровіч. Можа што раскажаце.

А л е с я *(узнялася, працёрла ручнікам табурэт, паставіла каля класнага)*. У нагах, кажуць , праўды няма.

С я м ё н П я т р о в і ч. Калі ўвогуле яна ёсць дзе-небудзь. Але да ісціны дакапацца іншы раз трэба. Прафесійная прывычка – хадзіць, быць заўсёды на нагах. Настаўнік, які сядзіць, або лянівы, або хворы... Я пакуль не хворы, бо малады. Таму пастаю. А што табе, Кацярына, расказаць пра сябе?

К а ц ь к а *(засаромелася).* Ой, прабачце... Папытала, а не трэба, відаць, было...

С я м ё н П я т р о в і ч. Не, чаму ж – раскажу. Калі вам мала таго, што ў класе пачулі. А я расказваў пра сябе.

А л е с я. Было. Чулі.

К а ц ь к а. А гэта я прысутнічала ці не на ўроку?

С я м ё н П я т р о в і ч. Была, была. Усе былі на тым першым маім уроку. У мяне і мама была настаўніцай. Вясковай. Калі я сказаў ёй, што буду пастyпаць у педагагічны, то яна не магла схаваць разачаравання, уздыхнула, роспачна прамовіла: «Лепш, сынок, на шафёра ідзі». А я стаў настаўнікам. Бо хацеў стаць ім, і толькі ім, а больш мне нічога тады і не хацелася...

К а ц ь к а. А цяпер?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Што?

К а ц ь к а. А цяпер чаго вам хочацца?

А л е с я. І мне цікава…

С я м ё н  П я т р о в і ч. Пытанне, як той казаў, цікавае. А хочацца мне сёння, каб вучыліся вы добра… каб паводзілі сябе яшчэ лепш, чым вучыліся… Гэта важна сёння. Бо час такі.

К а ц ь к а. Які?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Шалёны. Шалёны час, Кацярына. А з паводзінамі ў вас, на жаль, не ўсё добра, не  ўсё гладка і чынна. На жаль…

К а ц ь к а. Што здарылася?

А л е с я.  У нас?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Паўтараю для тых, хто не запісаў: з паводзінамі ў вас,на жаль, не ўсё добра.

*Алеся і Кацька  ўсталі.*

К а ц ь к а. Жартуеце?

А л е с я. Але не смешна.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Тут, як кажуць, не да жартачкаў.

А л е с я. Сямён Цітавіч!

С я м ё н  П я т р о в і ч. А?

А л е с я. Ці не часта вы гаворыце: як кажуць. Хто? Хто кажа? Нам цікава, што вы скажаце, а не нехта там.

К а ц ь к а. У Алесі, калі яна не заглядвае ў падручнік, атрымліваецца лепш…

С я м ё н  П я т р о в і ч *(праглынуў даўкі камяк).* Далей. На чым гэта мы спыніліся?

К а ц ь к а. А ў вас, Сямён Пятровіч, туфлі новыя. Клас!

А л е с я *( нясмела).* А  вы… а вы  адзін чаравік не згубілі?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Дзе? Калі?

А л е с я. Пад акном…

С я м ё н  П я т р о в і ч. Як бачыце, не. Я, дарэчы, прыйшоў не туфлі паказваць... а пацікавіцца, як вы тут жывеце... удаставерыцца, ці праўда тое, што пачуў ад людзей...

К а ц ь к а. Цікава.

А л е с я. А мне думаеш – не.

С я м ё н  П я т р о в і ч. А пачуў я ад людзей наступнае...

К а ц ь к а. Нам хадзіць можна? Па пакоі? Ці ўсё павінна быць, як на ўроку?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Ваша справа. Я тут не гаспадар. Тут вось Алеся... Як яна скажа.

А л е с я. Я дазваляю нават танцаваць!

К а ц ь к а. А што? Сямён Пятровіч! Давайце? Вы ды мы. Музыка ёсць. Я з дому прынесла...

*Кацька ўключыла магнітафон, і дзяўчынкі цягнуць класнага на танец, той упарціцца, але не ўстаяў.*

С я м ё н  П я т р о в і ч. Не, не! Перастаньце. Я, разумееце, такі танцор... Ага. Лепш не трэба. Кожны павінен займацца тым, што ён умее. Хаця і танцаваць я магу. Але трэба ведаць, дзе, калі... *(Выхордзіць з танца).*

К а ц ь к а. І з кім?

С я м ё н  П я т р о в і ч. І з кім. Так,так. Малайчына, Каця. Ты рана сталееш...

А л е с я. Дык не цягніце, шаноўны наш класны, расказвайце, што хацелі расказаць. Зацікавілі, то не адступайце.

К а ц ь к а. У бой!

С я м ё н  П я т р о в і ч. Трошкі дысцыпліны папрашу. Шумна. Нас трое, а ўражанне такое, бы ўвесь клас тут. Папрашу цішыні.

*Стук у акно.*

М а л д а в а н *(перад тым жа акном).* Суседка, а, суседка! Буцелька. Ку-ку. Я,я, Алеся. Выручы, суседка. Паміраю пасля ўчарашняга.

А л е с я. Няма грошай! Пайшоў к чорту!

К а ц ь к а. Давай я з ім пагавару!

А л е с я. Пагавары. І класнаму дазваляю. Гэта самыя шчаслівыя мінуты ў маім жыцці, калі вісне перад акном лахматая галава Малдавана і тырчыць, бы кол з зямлі, нямытая ягоная рука.

К а ц ь к а *(у акно).* Чаго ты сюды прыпёрся? Шуруй дамоў! Што, можа, у жаніхі набіваешся? То ў нас з гэтым усё ў парадку, у нас ўсё нармальна. Сам класны прыйшоў. Сямён Пятровіч.

С я м ё н П я т р о в і ч *(перапалохана).* Не, не! Кацярына, думайце, што гаворыце... я зусім па іншай справе... Я на рабоце. У мяне работа такая – наведваць іншы раз сваіх вучняў.

К а ц ь к а *(уважліва выслухаўшы класнага).* Зразумела. Ён хоць і пры выканані, але мужчына што трэба.

*Сямён Пятровіч жэстамі звяртаецца да Алесі, нешта ёй тлумачыць.*

К а ц ь к а. Так што папярэджваю: калі яшчэ папросіш хоць раз грошай на сваю буцельку, якая цябе цягне ўсё бліжэй і бліжэй да краю магілы, то мы выйдзем на двор і пакажам табе... і пакажам табе... *(Просіць вачыма ў класнага і Алесі, каб падказалі, што гаварыць далей).*

С я м ё н П я т р о в і ч. Дзе ракі зімуюць.

К а ц ь к а. І пакажам табе, дзе ракі зімуюць.

М а л д а в а н. А што такое ракі?

К а ц ь к а *( той жа позірк на класнага і Алесю).* Пачакай.

С я м ё н П я т р о в і ч. Ракі яны і ёсць ракі. *(У акно).* Ракі і ў Афрыцы ракі. Што трэба? Поўзаюць... З клюшнямі... Чык-чык-чык!..

М а л д а в а н. Прывет , настаўнік! Во, дык я ж у цябе яшчэ грошай не пазычаў. Пазыч на буцельку. Сто пяцьдзесят рублёў не хапае. З палучкі аддам. Заўтра вярну.

С я м ё н П я т р о в і ч. На гарэлку не пазычаю.

М а л д а в а н. А на што?

С я м ё н П я т р о в і ч. На сшыткі, на ручкі, на кнігі.

М а л д а в а н. Во, а ў мяне якраз і ручкі няма. Спісалася. Другі год не магу ў Малдавію пісьмо напісаць. Пазыч на ручку.

А л е с я. Хлусіць. Прап’е.

К а ц ь к а. І дурню зразумела.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Дык што, не даваць яму грошай?

К а ц ь к а. Дасце адзін раз – будзе даіць ён вас, як мы доім з Алесяй яе карову. За ўсе саскі адразу.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Не перашкаджаце нам праводзіць пазакласныя заняткі.

М а л д а в а н. А што гэта?

С я м ё н  П я т р о в і ч *(Малдавану).* Пакіньце нас! Вон з класа!

*Дзяўчынкі смяюцца.*

С я м ё н  П я т р о в і ч. Даруйце. Давядуць тут!..

М а л д а в а н. Дык што, настаўнік, не дасі?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Вы давядзеце мяне , што я зараз выйду і раздзелаю вас, як бог чарапаху!

М а л д а в а н. Выходзь, шэф!

А л е с я. Не выходзьце. Я вам не раю. Няхай ходзіць сабе за акном…

К а ц ь к а. А мы будзем працягваць урок. Так, Сямён Пятровіч?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Што за людзі? І хапае ж сумлення хадзіць, прасіць, клянчыць? Няма за што выпіць – не пі. І ўсе праблемы. Дык не ж!.. Чым больш жыву на гэтым белым свеце, тым больш пачынаю баяцца людзей…

К а ц ь к а.  І нас?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Вас – не. Пакуль.

А л е с я. Можа я чай пастаўлю?

К а ц ь к а. Пастаў, Алеська. З малінай. Як, Сямён Пятровіч?

С я м ё н  П я т р о в і ч. Чай?

А л е с я. Чай.

С я м ё н  П я т р о в і ч.  Мне сказалі, што вы тут частуеце кожнага, хто пераступае парог, больш моцным напоем? А?

А л е с я *(не адразу).* Частую. Я. Але вам не дам, таму што не хачу, каб і вы былі такім, як тыя, каго частую.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Не адмоўлюся ад чаю.

*Алеся моўчкі выходзіць. Паўза.*

К а ц ь к а. Працягвайце, Сямён Пятровіч, урок, ці што?

С я м ё н П я т р о в і ч. Не ўсё вучні ў класе…

К а ц ь к а. А для адной вучаніцы ў вас ніякой праграмы няма?

С я м ё н П я т р о в і ч *(насцярожана).* Што вы сказалі?

К а ц ь к а. А вы, я заўважыла, калі адзін на адзін, то адразу ж на «вы».

С я м ё н П я т р о в і ч. Нават?

К а ц ь к а. Нават.

С я м ё н П я т р о в і ч. А я і не заўважыў.

*Паўза.*

К а ц ь к а. І ў нас хлопцы такія ў вёсцы, як вы, Сямён Пятровіч… Губляюцца, калі адзін на адзін… ліхаманка іх б’е… ці можа нешта іншае…

С я м ё н П я т р о в і ч. Ды я б яму паказаў на самой справе, дзе ракі зімуюць! На ўсё б жыццё запомніў! Але ж што людзі падумаюць? Што скажуць? А?

К а ц ь к а. Я зусім не пра тое.

С я м ё н П я т р о в і ч. А пра што?

К а ц ь к а. Ай! Вы хоць і класны, але… Не буду адказваць на пастаўленае вамі пытанне. Стаўце двойку.

*З’яўляецца Алеся. З чайнікам.*

С я м ё н П я т р о в і ч. Так хутка?

А л е с я. Мы ўсё хутка робім. Не толькі ўрокі.

К а ц ь к а *(ставіць на стол кубкі).* Якая сіла , калі чай не п’еш.

С я м ё н П я т р о в і ч. Гэта так, так, правільна.

А л е с я *( напаўняе кубкі).* А ў нас і абед ёсць.

С я м ё н П я т р о в і ч. Дзякуй, дзякуй.

К а ц ь к а. Вы ж халасцяк. Мама далёка.

А л е с я. А ў нас прыгатавана не толькі парсюку і карове…

*Кацька пырскнула смехам.*

А л е с я. Чаго ты? Усе есці хочуць. Настаўнікі і вучні. Парсюкі і каровы. Куры і сабакі.

*Заходзіць Шыла.*

Ш ы л а. Адзін я сыты... прывет, каго не бачылі! *(Паціснуў далонь класнаму).* Заносіць?

А л е с я. Занось.

*Шыла і Алеся выходзяць.*

С я м ё н П я т р о в і ч. І што з такімі, як Малдаван, як Шыла, заўтра будзе?

К а ц ь к а. А нічога. Адны памруць, другія народзяцца. І жыццё будзе працягвацца.

С я м ё н П я т р о в і ч. Але ж якое гэта сабачае жыццё?!

К а ц ь к а. Гаварыце, гаварыце далей. Мне цікава.

С я м ё н П я т р о в і ч. Ты ўжо дарослая, Кацярына, сама ўсё разумееш не горш, чым я.

К а ц ь к а. Дык а што вы хацелі нам сказаць? Наконт дысцыпліны нешта... ці мне падалося?

С я м ё н П я т р о в і ч. Хацеў. Але не буду.

К а ц ь к а. Вы б заходзілі да нас часцей.

С я м ё н П я т р о в і ч. Навошта?

К а ц ь к а. Вам жа сумна пасля школы дома аднаму. У цёткі Ганны, пэўна ж, і тэлевізара няма?

С я м ё н П я т р о в і ч. Няма. І я яшчэ не зарабіў на тэлевізар.

К а ц ь к а. А ў нас ёсць. Прыходзьце. Іншы раз добрыя перадачы ідуць...

С я м ё н П я т р о в і ч. А што людзі падумаюць?

К а ц ь к а. А тое, што і вы падумалі пра нас. Нічога страшнага. Не заўсёды нашых людзей трэба і слухаць. Хочаце, я скажу, хто пра мяне і Алеську глупстваў недзе нагаварыў?

С я м ё н П я т р о в і ч. Не трэба! Я забараняю!

*Заходзіць Шыла, задаволены пацірае далонямі.*

Ш ы л а. А вось і мы! Будзем жыць не прападзем, пакуль ёсць калгасы!

*Заходзіць Алеся з кружкай у руцэ.*

Ш ы л а. Гэта нам, нам! Прашу не разяўляць рот! *(Узяў кружку з квасам).* П’яніцы ўсіх краін, яднайцеся! Ну, за жанчын!

С я м ё н П я т р о в і ч. А дзе вы тут жанчын бачыце?

Ш ы л а *(п’е і размаўляе).* Пачакай… дап’ю… тады… *(Выпіў).* А гэта хто? *(Кіўнуў на Алесю і Кацьку).* А?

С я м ё н П я т р о в і ч. Дзяўчынкі. Дзяўчынкі.

Ш ы л а. Ён праўду гамоніць?

К а ц ь к а. Бессаромнік!

Ш ы л а. Будуць і жанчынкамі. Чаго не ўбачыш.

С я м ё н П я т р о в і ч. Спадзяюся, без вашай дапамогі?

Ш ы л а. У якім сэнсе?

С я м ё н П я т р о в і ч. У тым самым. Вы, спадзяюсья, мяне зразумелі, грамадзянін Шыла?

*Дзяўчынкі хмыкнулі.*

Ш ы л а. Ні сёння, дык заўтра. Калі класныя тут будуць шастаць.

С я м ё н П я т р о в і ч. Ну, ведаеце!.. Гэта ўжо зверх усялякіх норм… маралі і права! *(Ходзіць па пакоі, часта трасе рукой).* Камень у мой бок? У мой! У мой!

Ш ы л а. Каб завесці мяне, трэба перакуліць уверх дном кружку. А цябе, педагог, і зусім проста: нават чай вунь не выпіў.

*Заходзіць Крыцук. У руках трымае дыпламат.*

К р ы ц у к. Ад чаю і я не адмоўлюся. Добры дзень вам усім.

*На з’яўленне Крыцука па-рознаму адрэагавалі прысутныя. Класны пачаў збірацца, каб ісці дахаты. Кацька складае на стале падручнікі і сшыткі. Алеся чамусьці глядзіць у акно. Шыла ж распрасцёр насустрач Крыцуку рукі – быццам рушыў сустракаць…*

Ш ы л а. Тут у нас ўсё ў парадку, браціш! Адно толькі кепска – у маёй гармоні мышы мяхі пагрызлі! На расчосцы граем! Як, а?! *(Прытупнуў*

*нагой).*Ну, з прыездам! І даруй, калі тады пакрыўдзіў! Не носіш камень за пазухай? *(Парукаваліся).* Тады і мне лягчэй!..

*Шыла дойга трымае ў сваёй руцэ руку Крыцука.*

Ш ы л а. Бач, ззяеш увесь – як салдацкая бляха пасля пасты Гоя. Ці, мо, цябе хто воскам нацёр?..

К р ы ц у к *(вызваліўся ад Шылы, незадаволена).* Як вы тут?

Ш ы л а. А як вы там? На Канарах ці дзе?

К р ы ц у к. Ды нармальна. Працуем. Рухаем наперад краіну.

Ш ы л а. А чаму нельга спярша развіваць не ўсё адразу, не ўсю краіну, а вось хоць бы нас, забытае Богам сяло? Ці вы оптам прывыклі? А мы разавыя? Не справа гэта, не справа!.. Мы таксама краіна. З яе і пачынаемся. Як рака з раўчука.

К р ы ц у к. Так, так, у вас, гляджу, ужо выпрацавалася пэўная такса: крок зрабіў – плаці, чыхнуў – таксама..

Ш ы л а. Пакуль ціха – ніхто нічога… варымся, як варэнне, у адным і тым жа дапатопным вядры. Толькі смак адмысловы! Ох, і адмысловы!.. Дарэчы: не крадзем. Нічога. Ні камбікармы, ні ў суседзяў… Пастанавілі так. Рашылі. Сваю рэспубліку, можна сказаць, стварылі.

К р ы ц у к. Паспрабуйце толькі. А міліцыя для чаго? Заяўлю неадкладна! Так і ведайце!

Ш ы л а *(рагоча).* Здзівіў. Ну і здзівіў. Якая міліцыя? Ты ведаеш, колькі ў нашага ўчастковага заяў? Не? Во такі пук. Я хацеў наняцца да яго тыя заявы насіць. За дзень ён іх прачытаць не здолее, не тое каб… Участковы нават і не прыйдзе. Ён тыя заявы, кажуць, у адхожніку на цвік натыкае і карыстаецца… Так што я ў сілу сваіх магчымасцей вяду назіранне за вось гэтым аб’ектам. *(Тупнуў нагой).* Аб’ект нумар адзін!

К р ы ц у к. Ну, тады дзякуй.

Ш ы л а. Дзякуй у кішэню не пакладзеш. А п’ю толькі квас. Твк што вы, гарадскі дзядзя, трапілі ў складанае становішча.

С я м ё н П я т р о в і ч. Я… я пайду?

К р ы ц у к. Зрабіце прыемнае. *(Раптам).* А вы, даруйце, хто?

С я м ё н П я т р о в і ч. Настаўнік.

Ш ы л а. Пе-да-гог!

С я м ё н  П я т р о в і ч. Класны Алесі буду.

*Кацька непрыкметна вышмыгнула з хаты.*

К р ы ц у к. Пажадана і ваша прысутнасць.

Ш ы л а *(рысуецца).* А мая?

К р ы ц у к. Вам – дзякуй. Вы свабодны…

Ш ы л а. Дык ты што, нават гарадскіх гасцінцаў не прывёз? Цукерак, ці?..

К р ы ц у к. Я ж сказаў: дзякуй. Хіба гэтага мала?

Ш ы л а *(плюнуў).* Ну, і жмот жа ты! *(Выходзіць).*

А л е с я. Чай халодны… Астыў. Я падагрэю?

К р ы ц у к. Калі ласка, Алеся.

*Алеся выходзіць.*

К р ы ц у к *(падаў руку класнаму).* Антон Антонавіч.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Сямён Пятровіч.

К р ы ц у к. Вельмі прыемна. Вы сядайце, сядайце.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Наколькі я здагадаўся, вы той дзядзька з горада, які хоча забраць Алесю?

К р ы ц у к. Вы правільна здагадваецеся.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Абяззброіць нас рашылі?

К р ы ц у к. Не разумею…

С я м ё н  П я т р о в і ч. Можа б далі ёй скончыць навучальны год? Адна выдатніца на ўсю школу…

К р ы ц у к. Нізашто! Ніколі! Калі яна застанецца тут, то , баюся, і зусім можа школу не закончыць.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Ну, гэта вы ўжо перабольшваеце. Закончыць. І школа, і я ж побач. Дапаможам. Падтрымаем.

К р ы ц у к. А гэтыя… як іх… вартаўнікі? Яны ж дзяўчынцы жыцця не дадуць!

*Стук у акно.*

М а л д а в а н *(перад тым жа акном).* Суседка. Буцелька. Ку-ку!

К р ы ц у к. Бачылі? А я што гаварыў! Яны ж ператвораць гэты дом у бардак, прабачце.

С я м ё н  П я т р о в і ч. Яны звычайныя п'яніцы… хворыя людзі. Як мы з вамі хварэем грыпам ці іншым чым. А так яны не шкодныя. Надакучлівыя, праўда. Як авадні ў спякоту.

М а л д а в а н. Суседка! Ку-ку! Падыйдзі да акна! Буцелька просіць!

К р ы ц у к. Бач ты, яшчэ і голас павышае. І што, іх на месца паставіць нельга? Каб нармальным людзям не перашкаджалі жыць?

С я м ё н  П я т р о в і ч. А хто будзе імі займацца? Жонкі, калі і былі ў каго, павыганялі, бацькі памёрлі… а калгасу і сельсавету не да іх – сваіх клопатаў хапае. Таму і гужуюць.

К р ы ц у к. Не будзем больш пра гэта. Справа даўно вырашаная. Забіраю я Алесю. Падрыхтуйце, калі ласка, належныя дакументы. Паклапаціцеся.

М а л д а в а н. Алеся, колькі чакаць можна? Дома ты, дома!

*З'яўляецца Алеся з чайнікам.*

А л е с я. Надакучыў гэты Малдаван, як горкая рэдзька!

К р ы ц у к *( класнаму).* А я што гаварыў? Не дадуць жыць. Не дадуць!

А л е с я *( у акно).* Пайшоў прэч! У мяне госці!

М а л д а в а н. Госці? Чаму не бачыць малдаван гасцей? Пакажы гасцей, суседка!

К р ы ц у к *(рашуча).* Дазвольце. *( У акно).* Выклікалі?

М а л д а в а н. Здароў, горад! Пазыч сто пяцьдзесят рублёў. З палучкі заўтра аддам.

К р ы ц у к. Я вас не ведаю. А незнаёмым людзям я грошы не пазычаю. Гэта па-першае. А па-другое, Алеся не працуе. Таму прашу больш з такімі дурацкімі пытаннямі да нас не звяртацца. Убірайцеся!

М а л д а в а н. Які нядобры дзядзька. Фу-у! Ай-яй-яй! Ну што ж, як будзеш грузіцца, пакліч бязногага Самсона. Ён табе дапаможа. Гуд бай!

К р ы ц у к. Хуліган!

С я м ё н  П я т р о в і ч. Я ўсё зразумеў. Дакументы падрыхтуем… усё як і належыць… Заўтра. Сёння ўжо позна.

К р ы ц у к. Заўтра, заўтра. Машыны будуць па першым званку. Але ж трэба паспяшацца. Нешта са скацінай рашыць.

А л е с я. Вы пра што гэта, Антон Антонавіч?

К р ы ц у к. Я спадзяюся, табе падумаць часу было дастаткова?

А л е с я. Я нічога яшчэ не рашыла.

К р ы ц у к. Не трэба капрызнічаць, Алеся. Я ўсё рашыў. Я. Гэтага, сападзяюся, дастаткова.

А л е с я. Вы рашыоі, вы і едзьце ў свой горад. А я як-небудзь тут…

К р ы ц у к. Вось іменна: «як-небудзь». А трэба жыць ! Жыць, пляменніца! Усё будзе добра. Ну што, Сямён Пятровіч, з вамі дамовіліся? *( Паціснуў таму руку).* Сустрэнемся. Жадаю поспехаў!

А л е с я. Сямён Пятровіч, нічога не рабіце – я буду вучыцца ў сваёй школе. Я не змагу ў Сарбоне ці дзе там! Не змагу!..

С я м ё н П я т р о в і ч. Антон Антонавіч, дык як мне быць? Каго слухаць?

К р ы ц у к. Слухайцесе мяне. Дзяўчынка, адным словам, што з яе возьмеш? Сёння адно скажа, заўтра іншае. Дзіця.

А л е с я. Не паеду ў горад!

С я м ё н П я т р о в і ч. І я думаю, што ёй лепш давучыца тут…

К р ы ц у к *(пагрозліва).* Давучыцца!.. Выбірайце месца, дзе і што гаварыць! Вы ж разумны чалавек. Універсітэт закончылі. Закончылі?

А л е с я. Закончылі…

С я м ё н П я т р о в і ч. Пакуль не…завочнік.

К р ы ц у к. А-а-а! Яно і відаць. Якраз той выпадак, калі молада – зелена. Вучыцеся, вучыцеся жыць у нас, людзей сталых, прайшоўшых і па калідорах улады, і па іншых нялёгкіх жыццёвых сцежках. Бярыце, хапайце! Не саромейцеся!

*Алеся наліла чай у кубкі.*

К р ы ц у к. А то позна будзе! Позна, малады чалавек!

А л е с я. Чай піце.

К р ы ц у к. Дзякуй. Настаўнік, нам прапанавалі чай. *(Узяў кубак).* Калі ласка.

С я м ё н   П я т р о в і ч. Не хочацца... *(Але на яго так зыркнуў вачыма Крыцук, што той адразу схапіў кубак).* Дзякуй.

К р ы ц у к. А ты што ж, Алеся, у баку?

А л е с я *(неахвотна бярэ кубак).* Я чай не люблю...

К р ы ц у к. Дык што, можа таму і ў горад  не хочаш ехаць?

А л е с я. Не таму.

К р ы ц у к.  А я думаў з-за чаю. Тады не хвалюйся: сёння ў горадзе можна купіць усё, што душа пажадае.

С я м ё н   П я т р о в і ч. Гэта так. Бывалі-с.

*Заходзіць Ягорыха.*

Я г о р ы х а. Можна ўвайсці?

*Паўза.*

Я г о р ы х а. Паглохлі ўсе ці што?

К р ы ц у к.  Ну канешне – заходзьце, заходзьце!

А л е с я. А я не хачу. Я – супраць, каб яна заходзіла.

К р ы ц у к. Алеся!

Я г о р ы х а. Зусім распусцілася! Зусім! А я  што гаварыла, настаўнік?

А л е с я.  Маглі б не гаварыць, што гэта гаварылі вы!

Я г о р ы х а.  Рогі павырасталі, калі маткі не стала. Ай-яй-яй! Людзечкі, што ж робіцца-а! І так быстра павырасталі рогі тыя!... Ай-яй-яй-яй!

*І ўсе нешта раяць Алесі. Хоць вушы затуляй. Стаіць гоман.*

А л е с я.  Бачыць вас не жадаю пасля ўсяго таго, што вы наплявузгалі пра мяне і Кацьку! *(Кінула ў Ягорыху кубак, той упаў  побач з ёй, Ягорыха вышмыгнула з хаты*). Прэч! Усе прэч! Дайце мне пабыць адной. Чаму вы ўсе адразу на мяне, як град?  У шыбы ляпаюць, у горад цягнуць, Ягорых слухаюць... Дайце мне пабыць адной. Ну хоць трошкі-і-і! Я ж не дзіця, якое трэба ў люльцы гушкаць! І з соскі карміць  мяне не трэба!..

Зацямненне.

**Д з е я   д р у г а я**

*На ганку. Крыцук і Сямён Пятровіч спыніліся, пэўны час маўчаць.*

К р ы ц у к. З характарам Алеся, аказваецца. З характарам. Але гэта і добра. Асабліва ў наш час.

С я м ё н П я т р о в і ч. Не заўважаў.

К р ы ц у к *(махнуў рукой, абыякава*). А што вы заўважалі?! Курыце?

С я м ё н П я т р о в і ч. Не.

К р ы ц у к. І я. Але б сёння закурыў. Дык што рабіць з ёй? Адчуваю, давядзецца цяжкавата... Аднак, пагадзіцеся, і тут ёй заставацца нельга.

С я м ё н П я т р о в і ч. Чаму?

К р ы ц у к. Не задавайце недарэчных пытанняў.

С я м ё н П я т р о в і ч. Ну, тады я пайшоў.

К р ы ц у к. Пачакайце.

С я м ё н П я т р о в і ч. Чакаю.

К р ы ц у к. Дакументы, значыць, падрыхтуйце...

С я м ё н П я т р о в і ч. Не буду.

К р ы ц у к. Будзеце!

С я м ё н П я т р о в і ч. Не буду! (*Павысіў голас і, падалося, спалохаўся сам сябе).*

К р ы ц у к. Будзеце!

С я м ё н П я т р о в і ч. Не буду!

К р ы ц у к. Дырэктар на месцы?

С я м ё н П я т р о в і ч. А што... дырэктар? Калі Алеся сама не хоча ехаць, то прычым тут ён?

К р ы ц у к. Дык яны што, вучні, самі па сабе, вы, настаўнікі, самі? Так і кувыркаецеся? У адрыве ад мадэлі грамадства?

С я м ё н П я т р о в і ч. Яна дарослая. Ёй споўнілася шаснаццаць гадоў.І таму можа прымаць самастойныя рашэнні.

К р ы ц у к. Гэта як сказаць. Гады яшчэ нічога не значаць. Ёсць сітуацыі, калі неабходна глядзець на рэчы больш цвяроза. Зразумела вам?

С я м ё н П я т р о в і ч. Не вельмі...

К р ы ц у к. Даходзіць да вас, гляджу, тугавата… Вучыцечя хутчэй. Тэмпы, тэмпы!.. Бегчы трэба, а не ў гадзіну па чайнай лыжцы!.. А дакументы каб былі – як і дамовіліся! Іначай!..

С я м ё н  П я т р о в і ч. Што тады?

К р ы ц у к. Тады паглядзім. Не забывайце, што я… Але добра!.. Там мяне ведаюць!.. *(Торкнуў уверх пальцам).*

С я м ё н  П я т р о в і ч. З якой нагоды ведаюць, прабачце за цікаўнасць? Там?..

К р ы ц у к. Не мае значэння. Для вас!

С я м ё н  П я т р о в і ч. У нас суседка у ЦК працавала. Партыі. Прыбіральшчыцай.  Скажа Алеся, каб выдалі ёй дакументы, – выдадзім. Пытанні ёсць?

К р ы ц у к. Будуць! Будуць пытанні, калі вы не пачнеце паважаць уладу! Будуць!...

*Сямён Пятровіч знікае.*

К р ы ц у к *(услед*). Шыбздзік. Бач ты!..

Зацямненне.

*У хаце. Алеся  сядзіць па-ранейшаму на табурэтцы. Стук у дзверы.*

Г о л а с  К р ы ц у к а. Алеся! Што гэта значыць? Адчыні!

А л е с я. Чую, чую, дзядзя.

*Паўза.*

*Стук у акно.*

К р ы ц у к *(стаіць на тым жа месцы перад акном, дзе і Малдаван).* Павярніся да акна!

А л е с я *(павярнулася).* Павярнулася. Што далей?

К р ы ц у к. Людзі ходзяць па вуліцы… а ты мяне вымушаеш стаяць на прызбе… маніпуліраваць… во… во… раблю выгляд, быццам замазваю пластылінам шкло… Ну. А то што ж яны падумаюць!

А л е с я. Не замазвайце. Малдаван ужо на хату знайшоў пакупніка.

К р ы ц у к. Што-о? Малдаван?

А л е с я. Ага.

К р ы ц у к. Ты што, захацела і без хаты застацца, і без грошай?!

А л е с я. Я нічога не хацела... Гэта ён хацеў. Не ведаю, можа і яшчэ хто...

М а л д а в а н *( з'яўляецца перад тым жа акном).* Клікаў, дзядзька? Здароў!

К р ы ц у к. Клікаў? Я? *(Успомніў).* Хаця пачакай. Ты што наконт гэтай хаты лухціў?

М а л д а в а н. А-а, ды ўжо ўсё... ён, зямляк мой, дурняў знайшоў у іншай вёсцы... пранюхаў, сказаў, дзе ты працуеш, то не стаў звязвацца... Рызыка, кажа, ёсць.

К р ы ц у к. Разумна. Разумна. Толькі не ўсе, заўважу, гэта бяруць ў разлік.

М а л д а в а н. А я ўзяў. Адразу. Пазыч сто пяцьдзесят рублёў. На буцельку. Заўтра аддам... з палучкі.

К р ы ц у к. А дзе ты працуеш?

М а л д а в а н. Як дзе? У калгасе. Не ў мінісцерстві ж.

К р ы ц у к. Дык у калгасе ўжо тры месяцы зарплату не выдаюць.

М а л д а в а н. Ну я тады, як выдадуць, і аддам.

К р ы ц у к. У мяне да цябе пытанняў няма.

М а л д а в а н. Гэта кепска. А вось у мяне ёсць.

К р ы ц у к. Я двойчы не паўтараю.

М а л д а в а н. О-о! Каб і я не паўтараў, то хадзіў бы заўсёды цвярорзы... як пабіты сабака.

К р ы ц у к. У нябожчыка, дарэчы, выгляд лепшы, чым у цябе.

Г о л а с Ш ы л ы *(кліча).* Малдаван! Паехалі! Таксі пададзена! Для цябе ў мяне ёсць заробак!

М а л д а в а н. Бачыш, свет не без добрых людзей. А ты шпаклюй, шпаклюй!.. *( Знікае).*

К р ы ц у к *( у акно).* Я пачакаю. Пасяджу на ганку. Пабудзеш адна – адчыніш дзверы. Спяшацца няма куды. У мяне ўсё распісана! Жыву па пратаколе! Іначай сёння нельга.*(Знікае).*

*Алеся распахнула дзверы, зноў села на той жа табурэт. Крыцук не заходзіць. З'яўляецца Кацька.*

К а ц ь к а. Жывая?

А л е с я. Як бачыш.

К а ц ь к а. Ну што – угаварыў?

*Алеся круціць галавой: не.*

К а ц ь к а. Не здавайся, Алеська! Трымайся! Можа мне дзе схавацца ў хаце,а?

А л е с я. Навошта?

К а ц ь к а. Каб табе было не так страшна адной.

А л е с я. Не трэба. Мне зусім і не страшна. Антон Антонавіч мне ж не чужы чалавек… Сваяк.

К а ц ь к а. Сваякі розныя бываюць. Асабліва мужчыны. Гавораць адно, а робяць іншае. Толькі згубі пільнасць. І пайшлі рукі ў ход…

А л е с я. За гэта не хвалюйся.

К а ц ь к а. Ага, не хвалюйся. Паглядзі тэлевізар… Я схаваюся?

А л е с я. Не трэба.

К а ц ь к а. Ну, як хочаш! Твая справа! Я б толькі не хацела, каб ты мяне потым успомніла. А гарадскі твой дзядзька дзе, цікава?

А л е с я. Недзе ходзіць за акном…

К а ц ь к а. Дык ён і начаваць тут будзе? З табой?

А л е с я. А дзе ж ?

К а ц ь к а. Ну, Алеська, ты і даеш! Хто ён табе такі? Хто? Чужы чалавек! З вуліцы, можна сказаць! Ты багата разоў раней яго бачыла? Багата?

А л е с я. Можа, два… Ну, тры…

К а ц ь к а. Ну, вось! Не, ты як хочаш , а на начоўку я прыйду.

А л е с я. Ён будзе начаваць тут не адну ноч.

К а ц ь к а. Колькі ён будзе, столькі і я буду!

А л е с я. Прыходзь.

К а ц ь к а. А мы ўдвух з табой і жылі. Чаму гэта я павінна сыходзіць? З якой нагоды? З гарадскімі трэба вуха востра трымаць. А? Тырчком! *(Паказала).* Як у зайца!..

А л е с я *(усміхаецца).* Дык ён жа стары.

К а ц ь к а. І гэта ты лічаш стары?! А хто ж тады наш Понцік? Да Манькі бегае, а Манька з яго малодшай дачкой у школу разам хадзілі. Уся вёска гаворыць пра гэта. Ой, Алеська! Ды бог з ім, з тваім дзядзькам. Хаця і нічогі, прывабны, калі ў касцюме і пры гальштуку. Але ж ён, адчуваю, цябе ўгаворыць паехаць у ненавісны табе горад. Упарціся, брыкайся – усё, мусіць, дарэмна?..

А л е с я. А ты б паехала, калі б аказалася на маім месцы?

К а ц ь к а. Шчыра?

А л е с я. Безумоўна.

К а ц ь к а. Паехала б. *(Спахапілася).* Хаця пачакай, пачакай. У горадзе, можа, яно і лепш. Але ж цябе, Алеська, побач не будзе. Класнага нашага... Відаць, не паехала б. Хаця пачакай, пачакай. А можа і паехала б... Горад усё ж ёсць горад. Яшчэ падлезеш там пад які тарантас!..

А л е с я. У газеце чытала : «Вясковага чалавека можна выцягнуць у горад, але вёску з яго не выцягнеш».

К а ц ь к а. Дык таму і не пагаджаешся ехаць?

А л е с я. Глупствы. Не таму. Зусім не таму. А што ў тых словах? Нічога асаблівага. Горад – гэта, мусіць, вялікая вёска. Нашых колькі туды ўцякло? Якія ж яны гарадскія? Смешна сказаць!

К а ц ь к а. Адным словам, пратрымайся тут да майго прыходу. Я бацькам дапамагу – і адразу ж сюды. Да цябе. На ўсялякі выпадак... дзе ў цябе які малаток... а лепш... сякера? *( Шукае).*

А л е с я. У кладоўцы.

К а ц ь к а. Прынясі.

Алеся слухаецца.

К а ц ь к а *(ўзяла ў Алесі малаток).* І кладзі пад падушку. Па кіно павінна ведаць, куды на ноч клалі наганы чырвоныя камандзіры ... *( Паклала малаток пад падушку).* Поўны парадак. Як толькі заўважыш што падазронае, няладнае – пускай у ход.

А л е с я. Я сплю, як забітая.

К а ц ь к а. Я ж і кажу: цябе адну на ноч пакідаць нельга. Чакай. *(Выходзіць).*

Зацямненне.

*Шыла і Малдаван падводзяць Ягорыху, якая ўпарціцца, вядома ж, да лаўкі.*

Ш ы л а. Алеську ў крыўду не дадзім!

М а л д а в а н. Адказвай за свае ўчынкі, шкодный баба!

Я г о р ы х а. Каб жа ты адказваў за свае!

Ш ы л а. Пагавары нам яшчэ, пляткарка!

М а л д а в а н. Давай, давай, лажыся!

Я г о р ы х а *(абрадавана).* Лажыцца?

Ш ы л а. Так, так, на спіну.

М а л д а в а н. Ці як табе зручней...

Я г о р ы х а. Гэта ж турмой пахне! Заяўлю! Яй-бо-о! Што вы робіце, нехрысці?

*Прывязваюць Ягорыху да лаўкі вяроўкай.*

М а л д а в а н. Нічога, баба, не хвалюйся... камары трохі пакусаюць – паразумнееш.

Я г о р ы х а. Адпусціце-е-е!

Ш ы л а. Дудкі!

М а л д а в а н. Смалы! Як ты мне буцельку, так я табе – волю!

Ш ы л а. Пяцьдзесят на пяцьдзесят. Фіфці-фіфці.

Я г о р ы х а *(зацікавілася).* Што-што?

Ш ы л а. Табе скажы.

М а л д а в а н. Уся вёска ведаць будзе.

Я г о р ы х а. Людзі-і-і!

Ш ы л а. Ніхто не пачуе. Вер мне. Яны яшчэ і рады, людзі, што мы цябе прывязалі. І за іх таксама... Гэта ж трэба такога наплесці! Я не п’ю ўжо і сам забыўся колькі, а мяне Алеська ўсё поіць! Не адмыешся да канца

жыцця, калі хоць раз у гаўно выпэцкаешся. Так, атрымліваецца? Дык што ж цяпер мне рабіць? Што?..

М а л д а в а н. Пачакай, а за гэта мне па сто грамаў з кожнага двара не перападзе?

Я г о р ы х а. Адпусціце, я, я налью.

М а л д а в а н *(завагаўся).* Шыла! Дык, як?

Ш ы л а *(нялёгка даецца яму рашэнне).* Не. Не купіць. Настаўніку напляла абы чаго пра дзяўчат, то няхай паляжыць на лаве. Няхай пасмажыцца на сонцы.

Я г о р ы х а. Пасаджу! У турму!

М а л д а в а н. А калі і праўда?.. Я туды не хачу.

Ш ы л а. Праз пару гадзін развяжам, яна табе і дзве чаркі нальё. Пацярпі. Так, цётка?

Я г о р ы х а. Нягоднікі! Свавольнікі! Сволачы! Гады! Пцьфу на вас!

*Шыла і Малдаван знікаюць.*

Я г о р ы х а. Каб вы свету белага не бачылі! Людзі-і-і!

Зацямненне.

*У хаце адна Алеся. Заходзіць Крыцук. Пэўны час ён моўчкі корпаецца ў дыпламаце.*

К р ы ц у к. Супакоілася?

*Алеся не адказвае.*

К р ы ц у к. Бачу, што так. Дзяцінства – шчаслівая пара. Залатая. Яно, па праўдзе гаворачы, і добра, што ёсць, існуе такая пара. Ты якраз і знаходзішся, Алеся, у ім. У дзяцінстве. А я ўжо гляджу на жыццё з вышыні пройдзенага, пражытага... усё роўна як бусел з гнязда. Далёка відаць яму. Так і мне. Што, думаеш, я шукаю нейкую выгоду, забіраючы цябе ў горад? Акрамя турбот, прабач, нічога...

А л е с я. Тады навошта упрошваеце мяне, бусел? Навошта вам турботы, як кажаце, лішнія праблемы?

К р ы ц у к. Прабач, калі што не так. Прабач. Але ўсё так. Што, хата мне гэтая трэба? Не. Не, Алеся. Дача ў мяне пад самым горадам. Каля ракі. І каля мора ёсць. Нерухомасці хапае. А хату і не купіць, мусіць, ніхто.

Я прайшоўся па вуліцы, паглядзеў... ёсць неблагія дамкі, у якіх людзі не жывуць.

А л е с я. Я буду жыць у сваёй хаце. Бо праз год, калі тут не пажыве чалавек, яна разваліцца... як у суседзяў вунь насупраць.

К р ы ц у к. Ні сёння, дык заўтра, праз год, але ўсё роўна кінеш хату. Хочаш ты таго ці не, але будзе так. Паслухай чалавека, які трохі пажыў і пабачыў на гэтым свеце. Ты не хлапец – правільна: цябе ў армію не забяруць. Але ж табе трэба будзе ехаць вучыцца, спецыяльнасць нейкую выбіраць... А паспытаўшы гарадскога батона, я вельмі сумняваюся, што ты пра сваю хату ўспомніш.

А л е с я. Няпраўда!

К р ы ц у к. Я ж і кажу: дзіця. Дзі-ця! Не, хата будзе сніцца ўсё жыццё, ад гэтага нікуды не падзенешся... Але толькі сніцца. Яе нават і не будзе ўжо на зямлі, хаты той, але ж сніцца будзе. Толькі ёсць жыццё, а ёсць сон. У жыцці.

А л е с я *(буркліва).* Нагаварылі тут... бочку арыштантаў!

К р ы ц у к. А што не так я сказаў?

А л е с я. Антон Антонавіч, што вы за чалавек?

К р ы ц у к. Як...з... зразумець?

А л е с я. Я ж сказала: не паеду!

К р ы ц у к. Зноў ты за сваё.

А л е с я. Зноў. І да таго часу будзе гэтае «зноў», пакуль вы ад мяне не адстанеце.

К р ы ц у к. Растлумач прычыны. Усе да адной. Каб я нарэшце зразумеў, чаму ты, наша з цёткай Таццянай сваячка, не хочаш жыць з намі? Растлумач! У мяне, прабач, ужо не хапае нерваў. З табой папсуеш усю нервовую сістэму!

А л е с я. Шмат прычын я не ведаю.

К р ы ц у к. Выкладвай, колькі ведаеш, даводзь іх да майго розуму.

А л е с я. Добра. Першая... Чаму не прыехала на пахаванне маці цётка Таццяна?

К р ы ц у к. Я ж табе ўжо растлумачыў: не змагла, бо работа такая...канец квартала.

А л е с я. Гэта не прычына. Гэта – хлусня. Ці, як кажа Ягорыха, брахня. А хочаце я назаву сапраўдную прычыну?

К р ы ц у к *(збянтэжана).* Што ж… ну… калі… значыць… калі ласка… давай сапраўдную…

*З’яўляецца Кацька.*

К а ц ь к а. Я прыйшла начаваць.

К р ы ц у к. Сёння можаце спаць у сябе дома.

К а ц ь к а. Прама ж! Дома я ў любы час змагу!..

К р ы ц у к. Прама ці крыва, але я буду начаваць з пляменніцай.

К а ц ь к а. Ведаем мы такіх дзядзькаў. Яны не прамахнуцца, бо прайшлі ў горадзе, адчуваю, добрую вучобу. Там хапае жывых макетаў, на кім вучыцца.

К р ы ц у к *( Алесі).* Скажы ты ёй. Скажы, скажы.

А л е с я. Што?

К р ы ц у к. Каб ішла к чортавай матары!

А л е с я. На Кацьку я так не магу.

К р ы ц у к. Тады скажу я.

К а ц ь к а. Я вас не паслухаюся.

К р ы ц у к. Я проста вазьму вас за каўнер і выкіну на вуліцу.

К а ц ь к а. Пакусаю.

К р ы ц у к. Што… што ты сказала?

К а ц ь к а. Што чулі.

А л е с я. Яна зробіць…

К р ы ц у к. Ну і моладзь! Ну і час, у якім мы жывем!

А л е с я. Кацька, пакінь нас. Прыходзь пазней.

К р ы ц у к. І пазней не трэба.

К а ц ь к а. А я не да вас … прыйду. Да Алескі. Не пагаджайся, Алеська, ехаць у горад. Дзядзька твой – злы чалавек. *(Не адразу).* Клоп! А паедзеш, то мы з табой і не ўбачымся больш: ён жа і на парог не пусціць.

К р ы ц у к. Што вы гаворыце, дзяўчына? Як такое можна?.. Прыязджай! Начуй! А сёння, зразумей ты мяне правільна, у нас з Алесяй сур'ёзная размова і не пажадана, каб прысутнічаў пабочны чалавек. Гэта зразумець ты можаш?

К а ц ь к а. Толькі не крыўдзіце Алеську.

*Заходзіць Шыла. Кацька выбягае.*

Ш ы л а. Жыве калгас! *(Алесі).* Браць будзеш?

А л е с я. Буду.

К р ы ц у к. Што... браць?

Ш ы л а. Алеся ведае.

К р ы ц у к. Камбікорм?

Ш ы л а. А хоць бы і так.

К р ы ц у к. Нам больш ён не патрэбны!

Ш ы л а. Каму гэта – вам?

К р ы ц у к. Нам – гэта нам! Мне і ёй!

*Алеся і Шыла выходзяць.*

К р ы ц у к *(глядзіць у акно*). Камбікорм. Зусім здурнела дзеўка. І ў каго яна такая ўдалася, папытаць бы? *(Корпаецца ў дыпламаце, але нічога там не бярэ).*

*Заходзіць Шыла, пацірае далонямі.*

Ш ы л а. Добра дзень пачаўся!

К р ы ц у к. А закончыцца як?

Ш ы л а. Дакладна сказаць не бяруся. Але пачаўся добра. А камбікорм, між іншым, мой. Асабісты. Атрымаў за працу. *(Раптам).* Ягорыхі тут не было? Ягорыхі, пытаюся, не было ў вас? Заяву падала ўчастковаму. Чулі? На мяне і Малдавана. Хто б мог падумаць! А сама хаваецца. Абшныраў усё сяло, а яе нідзе няма. Давядзецца абараняцца.

*З'яўляецца Алеся усё з той жа кружкай, падае Шылу. Шыла крэкнуў і выпіў. Дастаў з кішэні яблык, грызе.*

Ш ы л а. Аднаго яблыка хапае на ўвесь дзень... рабочы. А вы, гарадскія, улетку чым закусваеце?

К р ы ц у к. З вамі яшчэ пра што-небудзь пагаварыць можна?

Ш ы л а. Не. У мяне вузкая спецыялізацыя. Не паможаце абараняцца? Алеська!

А л е с я. Ад каго?

Ш ы л а. Вось ён знае... *(Ківае на Крыцука).* Ягорыха, каза, пасквіль настрачыла ўчастковаму.

А л е с я. Пасквіль ці праўду?

Ш ы л а. У гэтых жанрах я не вельмі разбіраюся...

А л е с я. Заслужылі. Што заслужылі,тое і атрымлівайце. Правільна зрабіла бабка.

Ш ы л а. І ты, гляджу, яе старану гнеш?

А л е с я. За свае ўчынкі трэба атрымліваць па заслугах.

Ш ы л а. Ідзі ты!

К р ы ц у к. Выйдзіце вон!

Ш ы л а. Э, выганяеце, у каршэнь дзяўбеце. Як апошнюю шваль. А вы б мне лепш дапамаглі апраўдацельную паперу нацарапаць.

К р ы ц у к *( з іроніяй).* Я згодны. Налівай!

Ш ы л а *(здзіўлена).* Дык што... за гэта таксама наліваць трэба? За тое, што толькі напісаць? Пяром нашкрабаць? За такую дробязь?

К р ы ц у к. Таксама!

Ш ы л а. Ну, і драць вы майстры!.. Гэта ж не віламі! І не за плугам хадзіць. Хм, пяром – і грошы... Зусім ахірэлі. Зусім.

К р ы ц у к. Я б вам даў пяро і паперу, але і яно ўсё гэта каштуе грошай. А хацелася б паглядзець, як бы вы самі нешта напісалі.

Ш ы л а. Я не пісьменнік...

К р ы ц у к. Адчуваю, і не чытач...

Ш ы л а. А калі ўсе будзем чытаць і пісаць, прахвесар? *(Глядзіць у акно).* Хто тады на калёсах ездзіць будзе? *(Спахапіўся).*Конь пайшоў! Прывязаць забыўся! Ё маё!

А л е с я. Пачакай! *( Знікае і вяртаецца з мехам, у якім камбікорм).* Адвязі на дамоў. А квасам я цябе, Пятро, і так буду частаваць. Заходзь.*( Зваліла мех перад Шылам).*

*Крыцук задаволена аплыдыруе.*

Ш ы л а. Ды што вы ўсе… як згаварыліся?! Не вазьму!

К р ы ц у к. Возьмеш!

Ш ы л а. Не вазьму! Я ж бясплатна!..

К р ы ц у к *( узяў за каўнер Шылу).* Возьмеш!

*Шылу нічога не заставалася, як узваліць мех на плечы.*

Ш ы л а. Падохне ж скаціна!.. Жыўнасць!… А?… Ну і справы!.. *(Узваліў мех на спіну, выходзіць).*

*Паўза.*

*Крыцук крэкнуў, узяў дыпламат, нешта ў ім шукае. Алеся не звяртае на яго ўвагі.*

К р ы ц у к. Працягваем. Так, значыць… На чым гэта мы спыніліся? Ага!. Аддадзім замуж. Хлопца добрага падбярэм, разумнага і багатага. Будзеш жыць, як каралева! Што яшчэ трэба чалавеку.?

*З'яўляецца разгневаная Ягорыха. Яна цягне за руку Участковага.*

Я г о р ы х а. Дзе ён? Дзе ён , бессаромнік?

К р ы ц у к. Хто?

Я г о р ы х а. Шыла. Шыла, каб ён скасабучыўся!..

К р ы ц у к. Вы з ім размінуліся.

А л е с я. Калі ён выходзіў з маёй хаты, ты ж , цётка, схавалася за дрэва… перачакала, а тады пытаеш – дзе?

Я г о р ы х а. Ну і моладзь! І папытаць нельга! І папытаць!… Я яму, гаду!.. *(Выбягае).*

К р ы ц у к. Хлопца, кажу, падбярэм…

А л е с я (*пакутліва).* Я ўсё ведаю… Ведаю! Усё! Да кроплі! Убірайцеся!

К р ы ц у к *(выпусціў з рук дыпламат, адразу ж падхапіў яго. Насцярожана).* Што… ўсё? Прабач, і мне цікава…

А л е с я. Ну мама ж мне ўсё расказала!..

*Паўза.*

А л е с я. Няўжо вы думаеце, што нічога не ведаю, сляпая, як кацяня? Паспела расказаць мне ўсё мамуля… Таму ў горад я не паеду… І не клічце! Убірайцеся! Зараз жа!..

К р ы ц у к *(збянтэжаны пачутым, не адразу).* Што… што яна табе расказала?

А л е с я. Не прыкідвайцеся дзіваком.

*Паўза. Гнятлівая, пукатлівая для дваіх.*

А л е с я. Не прыкідвайцеся.

К р ы ц у к. Што табе мама магла расказаць? Што?

А л е с я. Усё. А ёй я веру. Ці хочаце сказаць, каб я не паверыла апошнім маміным словам? Адракціся, можа, мне ад іх, як некалі вы ад мяне?

К р ы ц у к. Але ж… ну, калі так… нічога не паробіш… што было, тое было… Даруй. Калі можаш. Іншага слова ў мяне няма.

А л е с я. Хаця, гаварылі, іх, слоў тых, шмат… усялякіх – і ласкавых, і пяшчотных, і жорсткіх…

К р ы ц у к. Атрымліваецца, так. Ну, дрэйфіў. Жывы таксама чалавек.

А л е с я. Таму добра ведаю – нават лепш, чым трэба, чаму цётка Таццяна , родная матчына сястра, а ваша жонка, не прыязджала на пахаванне… Ёй мама забараніла!

К р ы ц у к. Атрымліваецца…

А л е с я. Так. Атрымліваецца. Каб тваёй нагі, сказала мама цётцы Таццяне, не было ў нашай хаце, нават, калі я памру…

К р ы ц у к. Жыццё – складаная рэч. Я неаднойчы гэта падкрэсліваў.

А л е с я. Гэта вы ўжо гаварылі! Заладзілі адно і тое ж!.. Жыццё, смутак і разлука!..

К р ы ц у к. Так, правільна: я гэта неаднойчы падкрэсліваў…

А л е с я. Навошта ж вы яго, жыццё, яшчэ больш ўскладняеце?

К р ы ц у к. Разумна быццам… Але ж… ну як бы тут правільна… дакладна выказацца?.. Чорт!..

А л е с я. І вы мяне цягнеце да цёткі… хоць добра разумееце, што яна значыць для мяне? Я не магу пайсці суперак мамінай волі… Гэта ўсё адно, каб пераступіла парог вашай кватэры і мама… але яна такога пры жыцці не зрабіла ніводнага разу… і хоць мне нічога не гаварыла, але я па вачах , што патухалі, бачыла: яна не хацела, каб і я калі-небудзь заходзіла да цёткі…

К р ы ц у к. Да цёткі, можа, і так… Але ж я твой…

А л е с я. Гаварыце. Гаварыце!

К р ы ц у к. Я твой бацька…

А л е с я. Дзякуй, што першым прызналіся… хто з нас хто. Я чакала ад вас такіх слоў, Антон Антонавіч. Раней чакала. Значна раней. Бо самой мне бацькам вас назваць было вельмі цяжка. Бацька корміць, поіць… а вы не тое каб… але хавалі ад людзей, што маеце дачку…

К р ы ц у к. Тут я не вінаваты. Шчыра гавару, як на духу. Так твая мама хацела . Яна. Яна прасіла, каб я жыў і выгляду нават не паказваў, што ў мяне ёсць ты. Я вымушаны быў яе паслухацца. Усё ж жанчына прасіла!..

А л е с я. Ну і як вам жылося увесь гэты час?

К р ы ц у к. Няпроста. Няпроста жылося. Доўга расказваць…

А л е с я. І мне… няпроста… калі без бацькі. Я Каці зайдросціла ўвесь час. У яе добры бацька. Не п'е. А мой, думала я, загінуў на Поўначы… Як мама мне сказала… паехаў, маўляў, грошы зарабляць і здарылася няшчасце… А вы ўпрошваеце мяне ехаць жыць да вас у горад…. А я ўсё ведаю… Калі раней я не была патрэбна бацьку, то цяпер, калі амаль вырасла, бацька мне не трэба… Едзьце, Антон Антонавіч. Вы здрадзілі маёй маці, то дзе ж гарантыя, што не здрадзіце і мне? Ды і не гэта, у рэшце рэшт, галоўнае. Едзьце.

К р ы ц у к. Так атрымалася… Малады быў… Даруй…

А л е с я. Лягчэй за ўсё грахі спісваць на маладосць.

К р ы ц у к. Я любіў тваю маму…

А л е с я. Мне гэта вельмі прыемна пачуць. З першых, як кажуць, вуснаў.Чаму ж тады ажаніліся на яе малодшай сястры?

К р ы ц у к. Д'ябал паблытаў. Д'ябал. Хочаш вер, хочаш не. Яна прыехала да нас,Таня, пасля школы… мы ўжо заяву ў ЗАГс аднеслі… я ведаў, што мама табой цяжарная… Ну, і жыла ў нас… у інтэрнацкім пакойчыку… А потым мы пайшлі…

А л е с я. З кім?

К р ы ц у к. З Таняй…

А л е с я. А маму пакінулі адну… са мной, як аказалася потым… Дык вось, пакінулі – і пакінулі. І больш мяне ў горад не цягніце. Дарэмна. Калі

трэба будзе, я сама прыеду. Але не да вас. Горад ад мяне нікуды не дзенецца. Гэта ж і дурню зразумела! Што мне тут, у вёсцы, рабіць!

К р ы ц у к. Так, так... я разумею. Цяпер, калі ты ўсё ведаеш... я разумею. Хаця з цёткай Таццянай мы дамовіліся... Ды што цяпер!.. Ну і як нам далей жыць, Алеся?

А л е с я. А як і жылі. Вы самі па сабе, я – сама. У вёсцы ніхто не ведае, хто мой бацька. Дзякуючы маці. Няхай гэтая тайна захаваецца. Я вельмі прашу вас. Усе ведаюць, што мама нагуляла мяне ў дзеўках... прывыклі да гэтага... і не трэба нічога перайначваць.

К р ы ц у к. Даруй, дачка.

А л е с я. І дачкой мяне не завіце. Я не Антонаўна . Я – Сцяпанаўна, як майго дзеда, мамінага бацьку, звалі. А цяпер ідзіце. Ідзіце!

К р ы ц у к *(узяў сумку, адступае да дзвярэй, не зводзячы вачэй з Алесі).* Даруй... Даруй... Даруй...

А л е с я *( упала на калені, утапіла твар у далонях).* Мама! Мама! Ты чуеш мяне? Навошта ты мне ўсё гэта расказала? Навошта-а-а?

*Прыбягае Кацька.*

К а ц ь к а. Плачаш? Ну і дурніца! Ён жа пайшоў! Адчапіўся ад цябе! Смяяцца трэба ! Смяяцца! Ад радасці! *(Гучна смяецца, а потым – роздумна, шчыра-наіўна).* А мне – верыш? – класны наш прысніўся...

А л е с я. Сватацца прыходзіў? І ў што ён быў апрануты?

К а ц ь к а. У чым бачу на ўроках, у тым і прысніўся... Яшчэ пакуль без новых штаноў і гальштука...

А л е с я. Што, і табе хваліўся?

К а ц ь к а. А які мужчына пахваліцца не любіць! Было. Ноччу. Ці пад раніцу. Ай, не помню!

А л е с я *(асцярожна).*А пра тэлевізар, што ў крэдыт абяцаў узяць,не гаварыў? Кацька! Пра тэлевізар?.. А?

К а ц ь к а. Не помню пра тэлевізар... Добра запомніла чамусьці пра штаны і гальштук...

А л е с я *( злосна).*Сніцца ўсім... Ух, бабнік!..

Зацямненне.

*У вясковым клубе. На лаўках сядзяць Алеся, Кацька, Сямён Пятровіч, Ягорыха, Шыла і Малдаван. Перад імі, каля стала, на якім акрамя графіна з вадой нічога больш няма, стаіць Участковы.*

У ч а с т к о в ы. Усе?

Ш ы л а. Ды быццам... Алеська, твой дзядзька з'ехаў?

А л е с я. А ён тут пры чым?

Я г о р ы х а. Герой!

Ш ы л а. Хто?

Я г о р ы х а. Ты, хто ж!

М а л д а в а н. Я сёння песню успомніў... малдаўскую. Не верыце? Магу спець. Успомніў! *(Нешта мумкае сабе пад нос).*

*Ажыўленне.*

У ч а с т к о в ы. Лірычныя адступленні закончаны. Хопіць пра песні. Пераходзім да справы. Сабраў вас, каб пагаварыць... і пamірыць. Ягорыху з Шылам і Мылам. Цьфу ты, з Малдаванам! Як жа так, га? Вы ж суседзі, землякі... калі чорны кот паміж вамі прабег? З якой нагоды?

М а л д а в а н. Дайце мне таго ката, я задушу яго!

Ш ы л а. Ды мы ж пажартавалі!

Я г о р ы х а. Бачылі? А? Пажартавалі!

У ч а с т к о в ы. Так з жанчынамі не жартуюць. Для чаго паклалі яе на лаву?

*Шыла і Малдаван паціскаюць плячыма.*

У ч а с т к о в ы. І мне не зразумела... дрэнныя жартачкі. Нікудышныя. Я не буду зачытваць заяву ад Ягорыхі, якая паступіла на маё імя... відаць, яна сама пісала... ледзьве разабраўся, што тут да чаго... але мушу сказаць: на артыкул пацягне, калі даць ход справе... Дык што, будзем, цётка, даваць ход далей? Усё залежыць ад цябе. Ці парваць?

Я г о р ы х а. Будзем! Раз прывучым – і, глядзіш, шаўковымі стануць! А даруеш, яны цябе і заўтра на лаву пакладуць і самі не будуць ведаць для чаго...

*Ажыўленне.*

У ч а с т к о в ы. Ну, будзем, дык будзем...

Ш ы л а. Даруй, цётка! Я табе пяць мяхоў камбікорму... толькі не адразу... паступова... Без хлусні. Бо не хачу туды... Малдаван не хваліць...

У ч а с т к о в ы. Што, у цябе завод камбікормавы ёсць?

Ш ы л а. Прабачце... агаварыўся. Я табе!.. Ды ўсё зраблю, што папросіш. Яшчэ і больш! З каптурком!..

У ч а с т к о в ы. А моладзь што скажа? Настаўнік? Алеся? Каця?

С я м ё н П я т р о в і ч. Судзіць! Судзіць!

А л е с я. А вам не шкада, Сямён Пятровіч, іх?

С я м ё н П я т р о в і ч. Мне? Мне шкада жанчыну, якую яны абразілі, прынізілі! А іх – не. Такога прадукту, як яны, усюды багата.

Ш ы л а. Добра, вязіце... куды трэба.

У ч а с т к о в ы. Ты, гляджу, ужо сабраўся.

Ш ы л а. На ўсялякі выпадак сухароў насушыў...

М а л д а в а н. У яго і ордэн ёсць... А вы яго ў зону, у турму. Пакажы, Пятро, ордэн...

*Паўза.*

У ч а с т к о в ы. Малдаван не хлусіць? Ёсць ордэн?

А л е с я. Пакажы, Пеця!

К а ц ь к а. Пеця, дзе ордэн?

Ш ы л а. А ордэн прадаў...

М а л д а в а н. Каму? Чаму я не ведаю?

Ш ы л а. Прадаў, каб ты, Малдаван, дамоў змог паехаць... *(Аддае грошы Малдавану).*

М а л д а в а н. А я... а я... ідыёт! Я пісьмо, якое табе, Шыла, прыйшло з Масквы, з тэлебачання, згубіў недзе... Лепш бы не браў у паштаркі... Твой дом з лёду, мабыць, знайшлі?..

*Паўза.*

У ч а с т к о в ы. Што будзем рабіць?

*Ягорыха накіравалася на выхад.*

У ч а с т к о в ы. Цётка, а ты куды?

*Ягорыха спынілася. Моўчкі глядзіць на землякоў. А потым узяла ў Участковага заяву, парвала яе...*

*Гул аўтамашыны. Усе насцярожыліся.*

*З'яўляецца Крыцук. Усе глядзяць на яго. Крыцук знерухомеў у парозе, не адразу падняў вочы на Алесю.*

К р ы ц у к. Сябры! Дапамажыце, каму не цяжка, занесці мне ў гэты дом такія-сякія рэчы! Так, так, у гэты дом! Алеся, пусціш мяне да сябе? Не прагоніш? Тады пажывем пакуль тут, а потым відаць будзе – што і як... Як загадаеш. З сённяшняга дня ты будзеш тут гаспадыняй.

*Кацька згубіла прытомнасць, апусцілася на падлогу. Ратаваць яе кінуліся ўсе, хто можа.*

А л е с я. Тата, вады!

К р ы ц у к *(ашаломлены пачутым).* Ты сказала... тата?

А л е с я. Ды паспяшайцеся ж!

К р ы ц у к. Зараз, зараз, дачка...

*З'яўляецца з кавенькай Даманцэвіч. Яму апладыруюць. Усе. Нават і Кацька, хаця робіць яна гэта ў ляжачым становішчы...*

Ш ы л а *( падняў Кацьку).* Э-э-э! Табе я, здаецца, нічога не абяцаў!

А л е с я *(схіліла галаву на плячо бацьку).* Ну, добры дзень, бацька!..

К р ы ц у к. Добры дзень, дачка!..

А л е с я. Заўтра Малдаван ад'язджае. Пойдзем праводзіць. Дома, відаць, заўсёды і ўсім добра...

К а ц ь к а. Алеська, а хто ходзіць там, за акном, сёння?

А л е с я *(весела, шчыра).* А не скажу! Ваенная тайна! За сямю пячаткамі!

*Усе стаяць крыху паводдаль ад дзяўчынак.*

К а ц ь к а *( роздумна).* А класны наш, Сямён Пятровіч, і не гарадскі зусім... аказваецца. Не гарадскі. Уяўляеш, Алеська, яго, калі ён корміць парсюка, курэй... калі карову доіць? Не? Вось так... ( *Паказвае*). А я ўяўляю. А калі ў яго яшчэ і нос будзе выпэцканы – ой, і смешны ж тады, пэўна, ён, класны наш! Як дамавік Нафаня.

*Кацька абняла Алесю. І тая выцірае слёзы на вачах кулакамі, бы дзіця. І таксама на яе твары запальваецца ўсмешка... А потым Алеся падыходзіць да завешаных люстэрак , якія неяк непрыкметна з'явіліся ў хаце і энергічна, але вытрымаўшы паўзу, пачаргова зрывае з першага, другога, трэцяга, чацвёртага, пятага, шостага, сёмага покрыў... І люстры ажываюць – напаўняюць святлом і сілуэтамі людзей хату. Бо амаль адначасова з гэтым дзеяннем Алесі з'яўляюцца Крыцук, Даманцэвіч, Шыла, Малдаван, Сямён Пятровіч, Ягорыха і Участковы, і ўсе яны разам з Алесяй і Кацькай глядзяцца ў люстры, і такое ўражанне, што ў хаце вельмі многа людзей – як і ў вёсцы... як і за акном...*

З а с л о н а.

# ВЕЛАСІПЕД

*Меладрама ў дзвюх дзеях*

Д з е й н ы я а с о б ы:

ЁН – Бараўкоў, Яўген; мужчына пенсійнага ўзросту.

ЯНА – Хрыстафораўна, Кацярына; пенсіянерка.

*Дзеянне адбываецца ў нашы дні на працягу аднаго дня ў камунальнай кватэры.*

*Чым меней прадметаў хатняга ўжытку, тым лепей. Але ўсе яны павінны вярнуць нас на сорак год назад. Пасярод пакоя стары металічны ложак. Каля яго на табурэце стаіць серверны тэлефон ( адзіная тут сучасная рэч). Тэлевізар. Радыёла. На табурэце электраплітка, побач, над вядром, мыцельнік. Суднік. Карткі на сцяне. Партрэт Брэжнева. Палічка з кнігамі.*

**Д з е я п е р ш а я**

*У пакоі. На ложку пад коўдрай ляжыць Яна. На поўную моц працуе радыё.*

Р а д ы ё. ... Працягваем навіны.Сёння ў Крамлі прэзідэнт Уладзімір Пуцін прыняў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку. Кіраўнікі краін абмеркавалі ў рабочым парадку шэраг пытанняў, звязаных са стварэннем Саюзнай дзяржавы... У прыватнасці, вялася размова аб увядзенні адзінай грашовай сістэмы...

*Стук у дзверы.*

Р а д ы ё. У Магілёве, на беразе ракі Днепр, непадалёк ад гарадскога пляжу былі знойдзены рэшткі драўлянай ладдзі. Спецыялісты з першага погляду гавораць, што фрагменты ладдзі і выраблєныя ўручную цвікі нагадваюць пра вікінгаў. Але сапраўдны ўзрост старажытнага.

*Стук паўтараецца больш настойліва.*

Р а д ы ё. Сусветна вядомы мастак Марк Шагал сказаў: « Кожны мастак недзе нарадзіўся, і нават, калі пазней ён трапляе пад уплыў новага асяроддзя, поўная сутнасць, поўны водар яго роднага краю заўжды будзе прысутнічаць у ягонае працы». Так і атрымался. І вось напрыканцы адышоўшага ХХ стагоддзя чытачы «Звязды» назвалі Марка Шагала мастаком стагоддзя ў Беларусі.

*Стук такі ж настойлівы і працяглы.*

Я н а *(чуе, вядома ж, стук, але паўзу вытрымлівае наўмысна, перад гэтым паспела зазірнуць у кішэннае люстэрка, пагрымаснічаць).* Адчынена!.. Колькі можна стукаць? Заходзьце ж вы нарэшце!..

*Заходзіць Ён.*

Выключце, калі ласка, радыё! Яно мне не дае жыцця! Куды яшчэ не ішло навіны! Трэба быць у курсе! Трэба! Я пакуль жывы чалавек!..Але ж зараз рок ці поп пачнецца!.. Ачмурэць можна!..

Ё н. Дазвольце?

Я н а *(нібы і не чуе).* Маўчала ж! А тут загаварыла, і ўжо тры дні не дае мне жыць спакойна! Прарвала, нібы Асуанскую плаціну. Хоць яе, здаецца, ніколі і не прарывала? Ці было? Божа, усё пераблыталася ў галаве!.. Сумятня!.. Я ж не магу сама падняцца, каб выключыць... І хоць бы адзін чалавек зайшоў!..

Ё н. Але ж я зайшоў...

Я н а *(быццам і не чуе, кволым голасам).* Прыкула гэтая праклятая хвароба да ложку, і нічога не дапамагае. Хоць памірай. Ды, відаць, ужо і час... Фрыдрых Вялікі, кароль Прусіі, салдатам, якія ўцякалі з поля бою, крычаў: «Каналы, вы што, хочаце жыць вечна?»... Хто там?

Ё н. Я...

Я н а. Хто ты?

Ё н. Я!..

Я н а. Не чую.

Ё н. Але я нічога і не сказаў… Толькі якнуў. Прайсці можна?

Я н а. Ногі вытры. Харашэнька вытры!..

Ён *(шукае, аб што выцерці ногі, але не знаходзіць, таму выцер ногі насоўкай, а насоўку кінуў у вядзерца са смеццем).* Цяпер можна! *(Падыходзіць да ложка).*

Я н а. Не, нельга! Вярніся!

Ё н *(знерухомеў).* Што, што такое?

Я н а. Абутак выцерці мала. Бачыш тапкі?

Ё н. Ну.

Я н а. Імі і карыстайся. На тапках напісана, для чаго яны прадназначаны…

Ё н *(узяў тапкі, чытае).* «Калідор».

Я н а. У іх абавязкова трэба выходзіць у калідор. Толькі ў іх! Кожная рэч павінна мець сваё прамое прадназначэнне.

Ё н. Зразумела… «Пакой ». Гэтыя, значыць?

Я н а. Так. Гэтыя.

Ё н *(засоўвае ногі ў тапкі, яны не надта зручныя).* А трэція, цікава, для чаго? *(Узяў).* «Туалет». *(Паморшчыўся).* Сапраўды… можна здагадацца было б і самому… У іх нехта туды ўжо хадзіў… Фу-у!..

Я н а. Толькі не я. Я нічога не ем і не п'ю, таму мне тапкі і не трэба. Абыходжуся без іх.

Ё н. І доўга яшчэ будзеш абыходзіцца?..

Я н а. Спадзяюся, што не…

Ё н. Я прыляцеў.. Я прыехаў… Я прыйшоў… Што далей? *(Паўза).* Выклікала?.. А!.. *(Подыйшоў да вядра, зачэрнуў кружкай, смачна выпіў).* Толькі той, хто вечерам не піў, раніцай не ведае смака вады…

Я н а *(пільна, доўга ўглядаецца ў твар).* Бараўкоў, ты?

Ён. Ну, я… Добрай раніцы… ці што?

Я н а. Прыляцеў?

Ё н. Як бачыш…

Я н а. Прыехаў?..

Ё н. Так.

Я н а. І прыйшоў… Прыйшоў – гэта ўжо апошні этап аперацыі, завяршальны, так бы мовіць. Прыемна. Я рада вітаць цябе. *(Працягнула руку, каб госць цмокнуў, відаць, у яе, але той зрабіў выгляд, што не заўважыў).*

Ё н. А калі б я не прыйшоў, хто б радыё выключыў?

Я н а. Пацярпела б яшчэ суткі. На заўтрашні дзень я выклікала Аўдзеева…

Ё н. А на паслязаўтра?

Я н а. Да канца тыдня ў мяне ўсё распісана. Нават суботу, шосты дзень , прыхапіла…

Ё н. Што, столькі разоў была замужам?

Я н а. Курыш?

Ё н. Не.

Я н а. П’еш?

Ё н. Не.

Я н а. Ты ненармальны, аказваецца, мужчына…

Ё н. Што за допыт? Я куды трапіў –_ у кватэру да сваёй былой жонкі ці ў пракуратуру?

Я н а. Налі, калі п’еш, мне і сабе. Мне крышачку. Прыгубіць.

Ё н. Табе налью, сам не магу…

Я н а. Што такое?

Ё н. Надакучыла ўсім растлумачваць, чаму я не п’ю. Таму я заказаў у друкарні адказ. Трыста экзэмпляраў. Тлустымі літарамі. І ўсім цікаўным уручаю паперкі… Каб ведалі, чаму не п’ю… Чытайце і не зайздросціце!..

Я н а. Мне не давай чытаць – без акуляраў усё роўна не бачу…

Ё н. Здароўя няма. Задавальняе?

Я н а. Яго ўсё роўна не будзе, вып’еш ты гэтыя кроплі ці не. Налівай.

Ён. Дзе?.. *(Шукае вачыма, дзе стаіць бутэлька).*

Я н а. Што?

Ё н. Гарэлка ці віно?

Я н а. Дык ты што, Бараўкоў, без добрага віна прыехаў нават? З голымі рукамі?

Ён. Не ведаў... сам не ўжываю, і іншыя, думаў, таксама... тым больш хворыя... цяжка...

Я н а. І без кветак...

Ё н. Не ведаў, якія кветкі ты любіш... Якія трэба?..

Я н а. Адпачні з дарогі. Сядзь на што... А тады сходзіш, купіш... І віна, і кветкі...

Ё н *(сеў на табурэт).* Сеў. Адпачываю. Адпачываць таксама можна стаміцца. Што далей?

Я н а. Адпачывай... Хаця на кветкі можаш не траціцца...

Ё н *(ускочыў).* Не, куплю! *(І адразу сеў).*

*Паўза.*

Я н а. А, можа, і я сяду? С тваёй дапамогай? Прыгожа сядзіш неяк ты. Сядзець у крэсле і я змагла б, мусць?.. Зрабі добрую справу,а, Бараўкоў?

*Аднёс Кацярыну ў крэсла, сам сеў на табурэт – крыху на адлегласці.*

Я н а. Дзякуй. Сядзець лепш, чым ляжаць.

Ё н. Калі ласка.

Я н а. Не ведаю, змагу потым легчы ці прасіць каго трэба?..

Ё н. Пакуль – сядзі...

Я н а. Добра. Сяджу.

*Пауза.*

Я н а. Я люблю палявыя... Пах у іх добры, зямны...

Ё н. Можа, радыё?.. *(Паказвае на дынамік).*

Я н а . Не-не!. Ні ў якім разе!... Ціха – і нібы ў шэсць гадзін вечара пасля вайны...

Ё н. Дык што, праўда, шэсць разоў была?.. *(Паказвае на пятлю вакол шыі).* Гэта... з пятлёй на шыі?.. З зашмаргам?..

*Паўза.*

Я н а. Нас бяруць замуж, калі мы замужам… А паколькі мы з табой развяліся і я засталася без мужа, то каму я была патрэбна?

Ё н. Дзіўна!.. Аднак!.. Ты ж так нічога з сябе!… Апетытная… была!…

Я н а. І ёсць, Бараўкоў! І ёсць!..

Ё н. І ёсць! Хто б спрачаўся?..

Я н а. Шкада, хадзіць не магу, а то б паказала я табе, якая я ёсць на самой справе. Такая паходка, якая была ў мяне, вымушала мужчын губляць прытомнасць!.. Я б магла звесці з перадавой армію любога праціўніка!..

Ё н. А што, прабач, за хвароба ў цябе? З арміяй ты пачакай… потым звядзеш…

Я н а. Вазьмі цяпер маю паперку, прачытай. На стале.

Ё н *(узяў, прачытаў, зноў сеў).* У нашым узросце мы ўсе ўваходзім у групы рызыкі…

Я н а. Не скажы, ёсць быкі!.. Нібы з камяня зробленыя!.. Як на Мамаевым Кургане…

Ё н. Ці амаль усе. Як каму пашанцуе.

Я н а. Усе хваробы – плён нашага жыцця… Плады! Серп у рукі, і жні!.. Што вырасціў!..

Ё н (*устаў, нясмела).* Можа, я і праўда, за вінном?..

Я н а. Я думала, ты ўжо пайшоў!..

Ё н. Тады я ў момант!..

Я н а. З Богам, Бараўкоў!.. Грошы ж хоць ёсць?

Ё н. Ёсць, ёсць грошы.

Я н а. У цябе, ды не было б грошай? У каго ж яны тады павінны быць, грошы тыя?..

Ё н. Калі б не было, не прыехаў бы за восемсот кіламетраў.

Я н а. У мяне і закусіць нічога няма.

Ё н. Паслухай, а што гэта за кватэра? *(Аглядаецца па баках).*

Я н а. Мая.

Ё н. Дык людзі ж…

Я н а. То людзі…

Ё н. …так даўно не жывуць…

Я н а. А я вось, як бачыш, жыву. І каб было здароўе, не нарадавалася б!..Потым пагаворым. Выпіць хачу.

Ё н. Мне здаецца, я трапіў некуды не туды… не ў той час…

Я н а. Ты трапіў правільна. Хоць я і не верыла, калі пісала табе, каб пабачыць…

Ё н. А прыехаў! А я ўзяў, усё кінуў к чортавай матары, і прыехаў!..

Я н а. Гэта з твайго боку ўчынак.

Ё н. Які ўчынак?! Дробязі! Дробязі жыцця!…

Я н а. Жонцы, канешне, сказаў, што на навукова-практычную канферэнцыю?

Ё н. Я паказаў ёй пісьмо…

Я н а. Нават так?

Ё н. Нават так.

Я н а. Чужыя пісьмы чытаць нельга… дарэчы.

Ё н. Гэта што, папрок?

Я н а. Не, на будучае…

Ё н. Калі я правільна зразумеў, будзе і другое, і трэцяе?.. Будзе – будучае?..

Я н а. А чаму не пісаць, калі ёсць каму чытаць?

Ё н. Пісьмо прачытаў, таксама – дарэчы, не чужы чалавек…

Я н а. І жонка сказала: едзь?..

Ё н. Не адразу, але сказала… Толькі не едзь, яна сказала больш дакладна і эмацыянальна: ляці!..

Я н а. Пашанцавала, значыць, табе і пасля мяне… Шанцуе на жанок…

Ё н. Ну, так… мабыць?.. Не выпадае скардзіцца…

Я н а. А ведаеш, каму звычайна на жонак шанцуе?

Ё н. Не ўгадаеш!..

Я н а *(упэўнена).* Дурням і п’яніцам.

Ё н. А-а! Магчыма, магчыма...

Я н а. Але ж ты не п’еш. І не дурань...  У навуковым інстытуце працуеш. Глядзела, глядзела па тэлевізары. Буйным планам.

Ё н. Нічога не магу сказаць...

Я н а. Ляці ў краму!.. Адпачыў з дарогі, і хопіць... Я выпіла таблеткі, і баюся, засну... Не так баюся заснуць, як баюся не выпіць...

*З -за дзвярэй далятае грукат-бразгат посуду ці чаго там, і ў дзверы спярша паляпалі, а потым грымнуў прысуд суседкі: «Панастаўлялі тут ламачча! Не прайсці і бокам! Калі не забярэш свой веласіпед, чуеш, мадам Брошкіна, то выкінем на сметнік! Сёння ж!»*

Ё н. Гэта ... каму?

Я н а. Прыкаці веласіпед, у пакоі месца хопіць. Пад Брэжневым пастаў.

Ё н *(вярнуўшыся з веласіпедам, потым сеў і паехаў вакол ложка; веласіпед так рыпіць і трашчыць, што, здаецца, вось - вось разваліцца).* Дык гэта ж мой!... Дык гэта ж мой!.. Пензенскі!.. Божа, столькі год мінула, а веласіпед жывы!..

Я н а. Твой?

Ё н. Мой!..

Я н а. Наш!..

Ё н. Наш!..

Я н а. Во гэта іншая справа. А то як што – адразу– мой.

Ё н. Так! Так! Хай будзе так! Абы колы круціліся!..

Я н а. На ім ніхто ніводнага разу пасля цябе не праехаў. Бо ты, Бараўкоў, пасля сябе не пакінуў веласіпедыста...

Ё н *(спыніўся, прыхінуў веласіпед да сцяны).* А як гэта мы яго купілі? За якія шышы? У нас жа не было тады грошай, помню? На хлеб нават?

Я н а. У мужчын, і гэта даказана, памяць карацейшая, чым у жанчын. У тры разы. Калі не ў чатыры. Ты не выключэнне. Хаця і вучоны.

Ё н. Не помню... яй-бо!..

Я н а. Ты ж яго выйграў па латарэйным білеце.

Ё н *(успомніў).* Не я. Не я! А мой бацька! Нават не выйграў, а купіў... во цяпер успомніў, правільна: купіў у журавіцкага яўрэя Моцкіна. З гэтым веласіпедам забаўная гісторыя атрымалася... Сам Моцкін усім расказваў і дужа, помню, смяяўся... да слёз... Ён быў добрым чалавекам... разумным і майстравым, яўрэй Гірша Моцкін... Нібыта ездзіў Моцкін у горад, каб купіць каніфолі, волава, напільнік новы  і яшчэ нешта, а на базары яму прыспічыла. Калі прыспічыць, то вядома, куды бягуць людзі. І вось там, у прыбіральні, Гірша ўбачыў той латарэйны білет, які скарыстаў нейкі недарэка раней, чым яго праверыў... А Гірша Моцкін не быў бы Гіршам Моцкіным, каб даў дабру прапасці. Таму латарэя ляжала  неўзабаве ў яго дома, а калі на раённую бібліятэку ці куды там прыйшла газета з табліцай розыгрышу, то на той туалетны білет і выпаў веласіпед. Пра гэты выйгрыш ведалі ўсе, ад мала да вяліка, бо ўладальнік такога шыкоўнага веласіпеда і не ўтойваў, якім чынам той аказаўся ў яго.

*Мелодыя веласіпеда.*

Я н а. Цяпер і я ўсё ўспомніла. Божа, дзе наша мястэчка, Бараўкоў! Дзе той кірмаш? Дзе тыя Моцкіны, Натансоны, Смолкіны, іншыя яўрэі, без якіх Журавічы не былі б Журавічамі? Ведаеш, за што я люблю і паважаю яўрэяў?

Ё н. Скажы.

Я н а. Абавязкова.  Сказаць, што за розум, – нічога не сказаць... Калі б я не вырасла, Бараўкоў, побач з імі, то гэтага веласіпеда б не было ніколі ў мяне... Ніколі!.. А далей думай, што хочаш...

Ё н. Снедаць ці абедаць... *(Глянуў на гадзіннік).* Пара. Абедаць будзем?

Я н а. Я ж сказала. А ты еш. На мяне не глядзі.

Ё н. Даруй, але мне трэба падсілкавацца. *(Рыхтуе на судніку ежу, патрохі нешта кідае ў рот).*

Я н а *(як і не чуе Бараўкова).*  Хаця так: твой бацька купіў гэты веласіпед у Моцкіна.. Ён увогуле быў цікавы і добры чалавек, твой бацька. Не табе раўня.

Ё н. А дзе і як я саграшыў, Хрыстафораўна?

Я н а. Не будзем варушыць старое... не будзем... Усё не мог запомніць, як мяне па бацьку, калі, помню, ты прывёў знаёміць са сваімі... «Як, як? Хрыстафораўна? Не, лепш цябе я буду зваць Кацяй».

Ё н. Што бацька! Я сам запісваў на далонь слова «Хрыстафораўна». Пакуль не запомніў.

Я н а. А мне дзіўна: няўжо яно такое складанае?

Ё н. Каму – як. А ў маёй другой жонкі, дарэчы, яшчэ больш непад’ёмнае з першага разу: Агафангелаўна.

Я н а. Дык ты ўжо прынёс віно?

Ё н. Зараз, зараз!..

Я н а. І бяры самае таннае, самае брыдкае – у ім градусаў болей!.. А мне хочацца сёння напіцца!.. Хочацца напіцца да ачмурэння!..

Ё н. Тады, можа, гарэлкі прынесці?

Я н а. І гарэлкі таксама!..

Ё н. Я пайшоў?

Я н а. А бацька твой як дажываў свой век?

Ё н. Вярнуся і раскажу.

Я н а. Ты забудзеш расказаць, а я забуду папытаць. Гэта яго знялі тады з калгасных брыгадзіраў?

Ё н. З трэскам! З трэскам знялі!.. Калі ж пісар!.. Напісаў самому Хрушчову Мікіту Сяргеевічу пісьмо, у якім не пагаджаўся з курсам, узятым тагачасным кіраўніком краіны на паўсюднае вырошчванне кукурузы. «Я не згодны!» З кім ты не згодны? І хто ты такі, каб указваць? Не хочаш вырошчваць кукурузу, і не вырошчвай. Але для гэтага пакладзі на стол партыйны білет і складзі абавязкі брыгадзіра. Паклаў і склаў. Але ж адпомсціў ўсё роўна Хрушчову бацька – прынёс аднекуль дахаты шчанюка і назваў яго Мікітам. Звычайна там, дзе гуртаваўся вясковы люд, ён гучна, – каб усе чулі, – маніў сабачку: «Мікіта, цю-цю-цю!.. К назе!..» Шчанюк Мікіта віляў хвосцікам, паслухмяна падбягаў да яго і ласкава-удзячліва паспяваў лізнуць раз-другі мыску чобата гаспадара, лашчыўся, а потым, стрыгучы вушкамі і міргаючы вочкамі, сядаў, падцiскаючы хвосцік-дроцік пад азадак, і канчаткова супакойваўся, чакаючы новых загадаў. Загад быў адзін: «Сядзець, Мікіта!» *(Да Хрыстафораўны).* Я… пайшоў?.. Заснула? Так, так… *(Выходзіць).*

*Стук у дзверы. Стук паўтараецца…*

Я н а *(прачнуўшыся, не адразу).* Хто?

Г о л а с. Твая старасць!

Я н а. Такі хакей нам не патрэбны!

Г о л а с. Дык што, зайсці нельга?

Я н а. Прэч ад дзвярэй, прэч!..

Г о л а с. Я прасачуся, ты за гэта не хвалюйся, і ў шчылінку!..

Я н а. Прэч, засранка!..

*Яна ўстала, як ні ў чым не бывала, узяла на табурэтцы тэлефон, набрала на дыску нумар. Села.*

Т э л е ф о н. Сёння удзень па рэспубліцы чакаецца невялікая воблачнасць, пераважна без ападкаў. Толькі ўдзень на захадзе Брэсцкай і Гродзенскай абласцей кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-усходні, 4-9 м/сек, удзень парывы да 14-ці. Тэмпература паветра ў Віцебску ( 27-29, Магілёве ( 28-30, Мінску, Гродне і Брэсце ( 30-32, Гомелі ( 31-33 градусы вышэй нуля. У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, на паўночным захадзе кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы… » *(Спыніла прагноз надвор'я).*

*Вяртаецца Ён.*

Ё н. А вось і мы!

Я н а. Мяне разбудзіла… старасць.

Ё н *(здзіўлена).* Хто, хто?

Я н а. Старасць! Ці ты глухі?

Ё н *(насцярожана глядзіць на Хрыстафораўну).* Ды гэта я чую – зразумець толькі нічога не магу.

Я н а. Паляпала ў дзверы нейкая баба і назвалася старасцю.

Ё н *(сервіруе яшчэ адну табурэтку: ставіць шклянкі, адкаркоўвае бутэльку, скрыліць каўбаску).* І што ты ёй адказала?

Я н а. Адправіла па канкрэтным адрасе… ці нават не адправіла? Не помню. Аднак скажу шчыра: на душы засталіся прыкрасць і неспакой… апанавала ўсю, з ног да галавы, трывога…

Ё н. Ну, і правільна! Няма тут чаго старасці рабіць! Віно? Гарэлка?

Я н а. Ёрш!

Ё н. Гэта цяпер называецца кактэйлем.

Я н а. Не ведаю, як цяпер, а мы пілі ярша.

Ё н *( падаў шклянку Хрыстафораўне).* За што?

Я н а. За сустрэчу. Кажы тост.

Ё н. Тост?

Я н а. Тост. Хутчэй, а то рука пачынае дрыжэць.

Ё н. Не ўмею… Дакладней, не прыгадаю. Заклініла. Бывае ж!.. Ну!..

Я н а. Тады я раскажу.

Ё н. Калі ласка!

Я н а. Праводзіцца конкурс прафесійнага майстэрства ў ПТВ. За столікам сядзяць члены журы, а дзеці дэманструюць свае паробкі… хто што… І тут адзін хлопчык, назавём яго Сідаравым, нясе на падносе горку чырвоных ракаў… Запомніў?

Ё н. Запомніў. Так, так.

Я н а. І ўсё яны варушацца, як жывыя. Прысудзілі Сідараву першае месца, а тады пытаюцца: як жа ты такога дамогся? А той, вокам нават не міргнуўшы, адказаў: «А што тут складанага? Я паклаў пад вараных ракаў аднаго жывога, вось яны і варушацца…» Дык вып’ем, Бараўкоў, за тое, каб ты і сам варушыўся, і іншых варушыў…

Ё н *(рагоча).* За гэта трэба выпіць.

Я н а. Выпі. А маю шклянку пастаў…

Ё н. Чаму ж так?

Я н а. Я не п’ю ўвогуле.

Ё н. І я не п’ю. Навошта ж было купляць?

Я н а. Табе што, грошай шкада?

Ё н. Справа не ў грашах.

Я н а. А ў чым жа?

Ё н. Іншы раз мы робім тое, што не трэба. А ўсё гэта – час. Трацім, марнуем дарэмна час!..

Я н а. А што б змянілася, калі б мы яго не марнавалі? Ці многа ад нас што залежыць? Хочаш сказаць, ты сваёй дысертацыяй свет перакуліў? Амерыку адкрыў? Не. А колькі ты часу над ёй змарнаваў? Колькі, а?

Ё н. Кожны жыве, як умее.

Я н а. А тры мужыкі збяруцца ў Белай вежы, наклюкаюцца вось гэтага дзярма, і ўсё паставяць дагары нагамі. Яны нават не ведаюць, што недзе ёсць ты, Бараўкоў!.. Хрушчоў у параўнанні з імі школьнік, і не самы лепшы…

Ё н. Хопіць. Тут не мітынг.

Я н а. Пастаў у суднік. Злі назад, і пастаў. Будзем лічыць, што выпілі. За сустрэчу. А цяпер давай спяём. Я не магу – у мяне няма не толькі што голасу, але і моцы… я ледзь дыхаю. Гэта што ты прыехаў, дык крыху акрыяла…

Ё н. І я не артыст. Хаця свае першыя два нарады у арміі, мушу заўважыць, якраз і атрымаў за тое, што  артыст…

Я н а. Цікава…

Ё н. Старшына пастроіў навабранцаў і пытае, хто што можа рабіць. А калі папытаў, хто на чым можа граць, і я руку падняў. І адказаў: на радыёле… так, так: радавы Бараўкоў, граю на радыёле! «А спяваць на чым умееш?– старшына пытае». – « На палацёры?» Адным словам, загрымеў на кухню…. і шкроб бульбу, мыў посуд…

Я н а. Тады грай на радыёле, Бараўкоў!

Ё н. Ты хоць помніш, як мяне завуць?

Я н а. Не заўсёды … Як гэта ні дзіўна табе пачуць. Не заўсёды. Забываю іншы раз. А тады паднацісну на памяць, і ўспомню. Іду па алфавіту. Зверху ўніз. А,б, в, г і так далей. І раптам – стоп: я. Яўген. А трэба з канца заўсёды пачынаць, і тады адразу натыкнуся на цябе… Так рашаю. Але кожны раз пачынаю зноў, каб на цябе пранцы, з той жа  літары «а». Ну, не дурніца?..

*Ён паставіў пласцінку, і гучыць  старая, забытая сёння, мелодыя…*

*Яна зноў засынае…*

*Ён узяў у бардачку веласіпеда паперку, прачытаў напісанае, усміхнуўся. А потым апрануўся, абуўся, выйшаў.*

*Стук у дзверы. Стук паўтараецца…*

Я н а *(прачнулася, не адразу).* Хто там?

Г о л а с. Твая хвароба!

Я н а *(устала).* Каціся прэч, засранка!..

Г о л а с. Дык ты ж мяне паклікала! А не пускаеш! Адчыняй!

Я н а. Ну і шкодная ж ты, хвароба, баба!.. Няма  чым запусціць у цябе. А то б!.. Ну, каму сказала?!

Г о л а с. Добра, добра, наступным разам я не адна прыклыпаю – прывяду з сабой яшчэ і сяброў. Апендыцыта, Няўроза і Стрэса.

Я н а. Ну, гляньце на яе!..

*Пачуўшы крокі, сядае.*

*З’яўляецца Ён. Апранае тапкі. Пакуль знайшоў свае, патрымаў у руках і папярэднія дзве пары.*

Ё н. Не спіш?

Я н а. Паспіш тут! Нікога не сустрэў у калідоры?

Ё н. Не. А каго б мог?..

Я н а. Хвароба прыходзіла. Паляпала ў дверы і просіцца зайсці, нахабніца!. Палохала сваімі сябрамі… Для каго сябры, для каго ворагі…

Ё н. Гані такіх гасцей прэч!

Я н а. Хаця і трэба было б запрасіць, няхай бы зайшла… паглядзела б на яе… Баба нейкая здзекуецца, не інакш  суседка.

Ё н. Ты што, суседзяў сваіх не ведаеш?

Я н а. Тут яны мяняюцца, як хакеісты на пляцоўцы… Раней я хакей любіла. Калі там гулялі сапраўдныя мужчыны, а не дзеці, як цяпер. Ты дзе быў?

Ё н *(радасна)*. Не паверыш! Я знайшоў ў  кашальку, ці ў бардачку, веласіпела… не ведаю, як цяпер ён называецца…  пажоўклы лісток паперы, а на ім напісана, што я павінен быў купіць у краме… ага… яшчэ тады… даўно… І я ўсё гэта купіў! Але сёння! Затое без чаргі! Атрымліваецца, я стаяў у чарзе сорак год? Так, Хрыстафораўна?

Я н а. І што там, на тым лістку, было напісана? Прачытай, прачытай!

Ё н. А почырк, між іншым, твой. Прыгожы. І літары такія вялікія і нейкія дужыя, нібы  мармуровыя.  Нібы кляцы. Ну, з бараны…Ці з дубовых ствалоў зробленыя..

Я н а. Бліжэй да справы. Без сантыментаў. Сентыментальны ты, гляджу, Бараўкоў, чалавек. Цур: не плакаць!..

Ё н. Да слёз, мабыць, не дойдзе…

Я н а. Гэта гледзячы ў каго…

Ё н. Чытаю. Ты прасіла… А чаму прасіла? Такімі літарамі, якія застануцца і пасля, калі спарахнее нават папера, пылам стане, а яны,

упэўнены, будуць ляжаць самі па сабе... кучкай...такімі літарамі не просяць...

Я н а. Я загадвала. Канешне ж. Я загадвала, дзёрзкая, жорсткая маладая жанчына!..

Ё н. Во! Загадвала! Іменна так!... Ты загадвала мне купіць: каўбаса капчоная ( 300 грамаў, сыр галандскі ( 300 грамаў, халва ( 300 грамаў, штучная вобла ( 300 грамаў, масла смятанкавае ( 300 грамаў, піва ( тры бутэлькі... А чаму тры бутэлькі піва?

Я н а. А чаму ўсяго па трыста грамаў?

Ё н. Не ведаю Але ўсё гэта я купіў. *(Выкладвае на суднік).* Апетыт не з'явіўся?

Я н а. Есці?

Ё н. Есці. А бывае і яшчэ на што апетыт?

Я н а. Не.

Ё н. Ну, тады за справу!.. *(Малайцавата паціpae далонямі).*

Я н а. А потым што? Ты мне падасі посуд?

Ё н. Падам.

Я н а. Ды я ж з сораму згару!.. А калі сястра прыйдзе? Ці прыйдзе сёння наогул? У яе сваіх клопатаў хапае.

Ё н. Як, дарэчы, Тамара пажывае?

Я н а. Яна – добра. Унукаў песціць. У дзень пенсіі поўная хата іх... У такія дні ціха... Як не неабітаваным востраве...

Ё н. Так, гэта знаёмая карціна. *(Сілкуецца).* У! А! Клас! Не, тады ўсё ж смачнейшая была і каўбаса, і сыр галандскі смачнейшы... Выбару ніякага, а на ўзроўні!.. Не, тады ўсё... ага... сто працэнтаў...І гаварыць не трэба!.. У! А! Клас!..

Я н а. Не інакш ты хочаш вярнуцца назад, Бараўкоў?

Ё н. Не, ты што! Чалавек стамляецца жыць.

Я н а. Я з табой згодная. Стамляецца, і дужа... Скажы мне, хворай, прыкутай жа ложку, пачні спачатку... Вось табе дваццаць год, за плячыма школа, у цябе малады і прыгожы Бараўкоў, адзін на дваіх чамадан, здаровыя і шчаслівыя: пачынайце, у добры шлях!

Ё н. І ты адказваеш: ды пайшлі вы!.. Пачакай, а хто гэта мог бы прапанаваць табе такое? Які дурань?

Я н а. Не, памыляешся: дурань не прапануе такое.

Ё н. Я ж зусім забыўся! Я ж і кветкі прынёс! *(Дастае з сумкі ружы, у адной ружы зламаўся чаранок).* Ай-яй-яй! Але не бяда. Запалкі ў нас ёсць?

Я н а. Падпаліць мяне хочаш?

Ё н. Кінь глупствы! Калі ты і будзеш палаць, дык толькі ад яркага святла руж!... *(Злучае запалкай два кавалкі чаранка).* І не адрозніш, дзе якая! *(Шукае, у які б посуд паставіць кветкі).*

Я н а. Прыкмета...

Ё н. Што... прыкмета? Ну іх, прыкметы!..

Я н а *(пракаўтнула даўкі камяк).* Кепская прыкмета...калі дзве ружы...

Ё н. А, вось ты пра што!.. А хто сказаў, што дзве?

Я н а. Адна ж зламалася...

Ё н. Адрозні, дзе яна? *(Трымае перад Хрыстафораўнай ружы).* Вазьмі тую. Вазьмі, вазьмі!...

Я н а *(узяла).* Вось яна. *(Разняла чаранок на дзве часткі).*

Ё н. Тады мы робім проста: адна ружа табе, адна мне, а трэцяя – д'яблу. Пайшла к д'яблу! *(Адкінуў ружу).*

Я н а. Так я згодная.

Ё н. Іншы раз і кепска, і вельмі нават, што ў кватэры ніхто не п'е нічога: няма куды паставіць нават і гэтую адзіную ружу!

Я н а. У вадзе яны больш пажылі б... гэта так.

Ё н. Ды знойдзем што! Павінны знайсці!... *(Нарэшце знайшоў два слоікі, наліў у іх вады, паставіў па ружы ў кожны).* А я што гаварыў?

Я н а. Бараўкоў!

Ё н. Слухаю!

Я н а. Ты мяне апярэдзіў...

Ё н. Як? Дзе? Калі?..

Я н а. З крамай.

Ё н. Нічога не разумею!

Я н а. Гэта я павінна была табе прадыктаваць, што купіць. Сёння. Пачынаючы ад трохсот грамаў каўбасы і заканчваючы трыма бутэлькамі піва… Ты мяне апярэдзіў. Залез паперад бацькі ў пекла.

Ё н. Прабач.

Я н а. Больш не рабі так.

Ё н. Не буду свавольнічаць ці, як бы сказаць больш дакладна, праяўляць ініцыятыву.

Я н а. Ну, не заракайся. Магчыма, дзе-небудзь і давядзецца праявіць…

Ё н. Добра, добра паеў. Дзякуй.

Я н а. Сам сабе сказаў дзякуй.

Ё н. А зараз займуся рамонтам веласіпеда. Подсцілку б якую, а, Каця?

Я н а. Калі знойдзеш – скарыстай і подсцілку.

Ё н. А калі не знайду, што, яго на двары рамантаваць?

Я н а. Твая справа.

Ё н. Хочацца больш з табой пабыць.

Я н а. Ды хлусіш жа! Ну ні за што не паверу!..

Ё н. Можаш не верыць. Верыць, як і ў царкву хадзіць, і не забароніш, і не прымусіш. Ага, а вось гэтая капа старая? *(Паказаў капу).*

Я н а. Скарыстоўвай.

Ё н. Зараз будзе веласіпед, як новенькі!

Я н а. А ён і не стары. Калі б у ім быў спідометр, то ён не паказаў бы вялікі кіламетраж… На ім ніхто не паспеў багата пакруціць педалямі… Ні Моцкін, ні твой бацька, ні ты сам…

*Рамантуе веласіпед: змазвае маслам карэтку, педалі, іншыя вузлы.*

Толькі бруднымі рукамі ні за што не бярыся!…

Ё н. Ды гэта канешне!.. Веласіпед – рэч, вядома ж, добрая, але на ім ўсё ж далёка не заедзеш… А хочацца далёка!.. Ой, як хочацца!.. «Я буду долго гнать велосипед…»

Я н а. Паслухай, Бараўкоў?

Ё н. Ну!

Я н а. Пытанне можна?

Ё н. А чаму і не?

Я н а. Скажы шчыра: якую самую вялікую памылку ты зрабіў ў сваім жыцці? Самую, самую?

Ё н. А падумаць можна?

Я н а. Падумай. Мы ж заўсёды так: спярша робім, а потым думаем.

Ё н. Пакуль буду думаць, няхай пайграе музыка? Я люблю думаць, калі яна гучыць. Гаспадыня не супраць?

Я н а. Пастаў пласцінку… на свой густ. І я паслухаю.

Ё н. Але ж я рукі выпацкаў. Ды ладна ўжо, потым…

Я н а. Памый рукі і пастаў!

*Ён памыў рукі і паставіў пласцінку… Гучыць старая мелодыя… Калі пласцінка дайграла, зноў памыў рукі, зняў.*

Ё н. Я ўспомніў… Было некалькі такіх памылак, якіх я б не зрабіў ніколі больш у сваім жыцці.

Я н а. Так, так.

Ё н. За іх мне і сёння сорамна. Асабліва… за адну. За яе найбольш сорамна. Жах!.. І цяпер мурашы па скуры поўзаюць!.. *(Перасмыкнуў плячыма).*

*Паўза.*

Я н а. Няўжо, што ад мяне ўцёк?

Ё н. Ну што ты! Я тады так уздыхнуў на поўныя грудзі, як ніколі раней! Свабода! Вольны птах! Ляці, куды хочаш!.. Не-е!.. Не тое!.. Зусім не мае ўцёкі-скокі!..

Я н а. А чаму ж ты збег ад мяне тады, Бараўкоў? Скажы хоць сёння. А то пamру і не пачую..

Ё н. Ты не пампрэш…

Я н а. Кінь дурное! Памру! Калі-небудзь…

Ё н. Ну, калі-небудзь!.. Гэта не лічыцца. Такая пашана нас нікога не абміне. Павярніся, павярніся да мяне тварам… Во, во!…У тваіх вачах столькі бляску яшчэ!.. З такім бляскам не паміраюць, а ходзяць на

дыскатэку для тых, каму за трыццаць… І потым ноч гэцаюць у пасцелі, усё клубком у іх!..

Я н а. Мярзотнік!.. Я не памру!.. Ён нават не хоча, каб я памёрла!.. Так было заўсёды на працягу нашых двух гадоў сумеснага жыцця: калі я хачу нечага, то ты хацеў абавязкова нечага іншага…

Ё н. Наадварот усё было, дарагая. Гэта я хацеў нечага гэтага, а ты заўсёды хацела нечага іншага.

Я н а. Усё было якраз наадварот!..

Ё н. Я ж і кажу пра гэта.

Я н а. І не спрачайся нават!..

Ё н. І не буду спрачацца!.. І так ўсё зразумела, як божы дзень!..

Я н а. Не выпэцкай падлогу! Знайшоў месца, дзе рамантаваць веласіпед!

Ё н. Я пайшоў ад цябе, нібы вязень пераступіў парог турмы… пасля адбыцця тэрміну зняволення. Пырхнуў, і згарэў, бы камета!.. І нічога ад яго не засталося!.. Блакіт неба, і ўсё!..

Я н а. Нягоднік!..

Ё н. Табе нельга хвалявацца.

Я н а. Паспрабуй тут!.. Нервы не жалезныя!.. Як жа!..

Ё н. Мне, можа, што… заканчваць свой візіт?

Я н а. Падай мне свежай вады.

Ён моўчкі падаў кубак свежай вады.

Дзякуй.

Ё н. Няма за што. *(Пракруціў колы педалём, тыя ажно свішчуць).* Хочаш, пакатаю?

Я н а. Ты, відаць, хацеў не гэтае прапанаваць мне. Ты, відаць, хацеў сказаць: а давай, Каця, пасмяшым, пацешым людзей? Так?

Ё н. А было б! А было б здарава!..Усе ведаюць, што ты хворая, не ходзіш, а мы – круцім педалямі, а мы – едзем!.. З вецярком!.. І ўсе нам зайздросцяць!.. І ворагі!.. І сябры!..

Я н а. Можа быць так, што ворагі і будуць зайздросціць – толькі не сябры… толькі не дзеці…

Ё н. Глупствы!

Я н а. Я ведаю, што гавару.

Ё н. Цікава!

Я н а. Ворагі таму будуць зайздросціць, што ачуняла, зноў вярнулася да жыцця... Няхай памучыцца, нягодніца!.. Няхай ведае, колькі цяпер камунальныя паслугі, колькі цяпер каўбаса, малако, нават рыба!.. Няхай яе, акаянную душу, пацярзае яшчэ жыццё!.. Няхай яшчэ патрушчыць, пакамячыць!..

Ё н. А сябры? А дзеці?..

Я н а. Не прыкідвайся прастаком, Бараўкоў!..

Ё н. У цябе ж няма чаго дзяліць? Ну, гэты вось пакойчык... дарага ён не будзе каштаваць. І, здаецца, ўсё? Няма прычыны жадаць табе хутчэйшага зыходу... Ды, прабач, і дзяцей у цябе няма?.. Няма ж?.. Каця?..

Я н а. Ёсць дзеці. І няважна, што яны Тамарыны... Для мяне радней за іх нікога няма...

Ё н. Прабач.

Я н а. Ты так і не адказаў на пытанне... пра галоўную памылку, якую ты зрабіў?

Ё н *(не адразу, ходзіць, нервуецца).* І быў жа ўжо вучнем!.. Не маленькім!.. У маці, ты ж помніш, была швейная машынка... трафейная...

Я н а. Зінгер. Помню.

Ё н. Так, Зінгер. Неяк і я вырашыў пашыць... Але замест шматкоў, узяў фотакартку... адзіную фотакартку, на якой быў дзядзька Пятро ў вайсковай форме... і прайшоўся іголкай па ёй... спярша на вачах...

Я н а. Жах! Божа! Які жах!..

Ё н. А потым і па мундзіры, па гузіках, што спераду на накладных кішэнях... І што на мяне тады найшло, і сёння не магу сам сабе растлумачыць... Навалач нейкая, не інакш... Першы раз мяне тады білі... Усе, здаецца, па чарзе...

Я н а. Не хлусі. Не хлусі. Тваё бацькі не маглі...

Ё н. Даруй, схлусіў, так. Біла мяне толькі бабка Палагея, Петракова сястра... А ўсе анямелі ад убачанага. Так і не засталося ад Пятра памяці... у сямейным альбоме атрымалася прарэха.. І ні мой сын, ні мае ўнукі не спыталі, гартаючы альбом: «А гэта што за салдат, дзядуля?» І я не адказаў

ім з сумам і гордасцю: «Гэта наш блізкі сваяк, Пятро Цімафеевіч Самусеў, ён не вярнуўся з вайны… Давайце хвілінку памаўчым?...» Калі б я быў мастаком, то намаляваў бы партрэт… такім, якім запомніўся мне Пятро… Па той фотакартцы…Абавязкова… А так!.. Усё прапала, забадай яго ліха!..

Я н а. Калі не памру, то напішу верш. Мяне кранула… Не супраць?

Ё н. А ты што, і вершы пішаш?

Я н а. Вазьмі кніжку на палічцы.

Ё н *(шукае, але не можа знайсці).* Ды не бачу я тут тваёй кніжкі. Талстой, Пушкін, Бялоў, Шамякін, Быкаў… Тваёй не бачу?

Я н а. Вазьмі акуляры.

Ё н. Я не карыстаюся пакуль, дзякаваць Богу, акулярамі.

Я н а. А я кажу: вазьмі!

Ё н *(узяў акуляры, разглядвае ў іх кнігі).* Здаецца, знайшоў? Так, так: знайшоў! *(Трымае ў руках кнігу, крыху меншую, чым пашпарт, і надта тоненькую).* Як скібка хлеба, якую мачаха падавала няроднаму дзіцяці. Не кніга – дыстрофік нейкі. У кішэнь пакладзеш, потым і не знойдзеш… выкінеш, яшчэ чаго добрага, за кампанію са скарыстаным талонам на праезд у грамадскім транспарце.

Я н а. Ад цябе я пахвалы і не чакала.

Ё н. Не, чаму ж?.. Кніга ёсць кніга. У маленькай кнізе могуць быць глыбокія думкі. Маштабныя.

Я н а. Патрымай перада мной. Я прачытаю табе некаторыя вершы.

Ё н. На якой старонцы?

Я н а. Спярша на сёмай. Для мяне число сем шчаслівае.

Ё н. Разгарнуў.

Я н а. Акуляры. *(Пачапіла акуляры).*

Ё н *(трымаючы кнігу перад вачыма Хрыстафораўны).* Пачынай.

Я н а. Сёння нешта зусім кепска бачу. Ціск. Ціск, халера.

Ё н. Паэты звычайна вершы чытаюць па памяці…

Я н а. Скажы дзякуй, што хоць так прачытаю… Што, я сама пісала, вершы гэтыя? Так, трохі нашкрабала…. А потым адна паэтэса, сяброўка

мая, перарабіла іх цалкам, маё толькі прозвішча засталося на вокладцы... Яна нават і сваіх вершаў сюды напіхала...

Ё н. А так хіба можна?

Я н а. А Брэжнеў што, сам пісаў? Сваю «Малую зямлю»?

Ё н. Ну, параўнала! Брэжнеў!..

Я н а. Сёння за грошы ўсё можна.

Ё н. Але ж не станавіцца побач з Купалам, з Еўтушэнкам!.. Плячо да пляча!..

Я н а. А мне і з Брэжневым добра побач.

Ё н. Што ты прычапілася да Леаніда Ільіча? Да нябожчыка?

Я н а. А да каго? Купала таксама памёр, а Еўтушэнка далёка. Партрэт Брэжнева вунь, на сцяне...Мяне, дарэчы, і ў Саюз пісьменнікаў прынялі!..

Ё н *(трасянуў кнігай)*. За гэты вось том?! У Саюз пісьменнікаў?!

Я н а. Тая паэтэса, што напісала за мяне, усё сама і зрабіла. Я толькі з'ездзіла на Раду. Яна нават не дала мне там слова сказаць, а то б я магла не тое ляпнуць, і гарэў бы тады Саюз сінім полымем. Яна нават свае радкі прачытала, а выдала іх за мае. Я трымцела, як каляны ліст на вятры... Каб узяў хто ды сказаў: «А цяпер хай гэтыя радкі паўторыць Хрыстафораўна». І я б плюхнулася, куды не трэба. З галавой.

Ё н. Навошта табе ўсё гэта? Сорамна ж так жыць? Пісьменнік, які не ўмее пісаць! Гучыць!

Я н а. А мне не гэта было патрэбна.

Ё н. А што?

Я н а. Слава, павага, гонар! Хіба мала?

Ё н. Дык можа сёння забіць чалавека, і пра цябе яшчэ больш будуць гаварыць і пісаць? Вунь адных колькі тэлеканалаў!..

Я н а. Не-е, гэта не маё. Я не заб'ю. У нашай пародзе забойцаў не было.

Ё н. Нешта я не помню, каб і паэты былі?

Я н а. Я першая.

Ё н. І апошняя?

Я н а. Там паглядзім. Як ты трымаеш кнігу? Я ж нічога не бачу! Радкі скачуць, нібы п'яныя! А мяне, дарэчы, сам ... як гэта яго... пачакай...

прозвішча ж вядомае, паэт слынны… ды няважна….ты яго ўсё роўна не ведаеш…рэкамендаваў! Радок хваліў!.. Сёмая старонка?

Ё н. Яна. Сёмая.

Я н а *(чытае).*Раблюся я дзічэй за звера –

Паэтаў развялося цьма.

А дзе для іх узяць паперу–

Няма паперы больш, няма!

Я заявіць хачу публічна

(Павінен кожны гэта знаць!):

На першы зборнік паэтычны

Ідзе драўніны кубаў пяць.

З гадамі з’явіцца натхненне –

Далей у лес, дык болей дроў.

І на чарговае тварэнне

Драўніны пойдзе – будзь здароў!

Надрукавацца кожны рады,

А ў гэты час знікае гай…

Рэдактар, вось табе парада:

Мяне ты толькі выдавай!

Ё н *( іранізуючы).* Моцная паэзія, моцная. Класіка. Куды Пушкіну!..

Я н а. Я ведаю…

Ё н. У мяне стамілася рука.

Я н а. Вазьмі ў другую.

Ё н. І другая.

Я н а. Ну ў мяне ж, у хворай, язык не стаміўся?

Ён. Ён без касцей.

Я н а. Адбой, пяхота!

*Паўза. Яна набрала нумар тэлефона, і той пачаў расказваць пра гараскоп на ўвесь тыдзень...*

Т э л е ф о н. Астралагічны прагноз на 1 - 7 ліпеня. АВЕН. У пачатку тыдня нехта са сваякоў прапануе вам добрую працу. Сябры дапамогуць патраціць вам заработную плату. РАК. Ах, ну і тыдзень! Будаўніцтва карыслівых планаў, здзяйсненне працоўных подзвігаў і экстравагантных паступкаў, флірт налева і направа. Аднак не забывайце пра галоўнае – пры любых умовах заставайцеся сабой.

Я н а. Як заўсёды – абы-што! Брахня!.. *(Спыніла прагноз).*

Ё н. А я думаў, ты толькі скаргі магла пісаць у партком нашага інстытута... Ажно і вершы крапаеш!..

Я н а. Я тады працавала на такой пасадзе, ведаеш жа, і не магла прайсці міма пахаджэнняў, непрыстойных учынкаў свайго мужа!

Ё н. А якія былі пахаджэнні ў мужа інструктара райкома партыі?

Я н а. Сам прыпомні.

Ё н. Не магу. Не атрымліваецца. Не прыпамінаецца.

Я н а. Паварушы мазгамі, паварушы!...

Ё н. Я разумею, калі пішуць у газеты... Там ганарар даюць. Нават адзін мой знаёмы журналіст жартуе: пад ляжачае пяро ганарар не цячэ...

Я н а. І ўсё?

Ё н. І ўсё. І ўсё. І ўсё! Шкада, не было тады цябе на тым партыйным сходзе... Чаму не папрасілася? Як інструктар?

Я н а. Але ведаю, як ты выкруціўся і там.

Ё н. А ты хацела, каб мяне выключылі з партыі, турнулі з работы? Гэтага хацела?

Я н а. Цябе ж пажурылі б, і ўсё на тым. Я заручылася падтрымкай.

Ё н. Ты любіш стварацць увесь час спектаклі, хоць і ў тэатр не ходзіш.

Я н а. Люблю! А якая жанчына не любіць закруціць нешта такое, каб усе ахнулі? А? Чым я горшая?

Ё н. Але камуністы пра гэта не ведалі. Пра падтрымку...Варта мне было сказаць: «Калі ж прыходжу дамоў, як у райком партыі», і грымнуў такі рогат, што я адразу зразумеў: хлопцы на маім баку. І ўсё было вырашана

на маю карысць. Тады не любілі мы хадзіць у райком партыі… Але б сёння я з задавальненнем туды зайшоў!.. Нават хадзіў бы!..

*Стук у дзверы.*

Я н а. Хто?

Г о л а с. Твая смерць!

Ё н *(энергічна).* Пачакай, я разбяруся!..

Я н а. Але спярша паслухай.

Г о л а с. Адчыняй!

Я н а. Пакажы касу!

Г о л а с. Цяпер смерць з касой не ходзіць.

Я н а. А з чым?

Г о л а с. З касілкай!

Я н а. Навошта з касілкай?

Г о л а с. Каб больш скасіць!

Ё н. Ну, трымайся! *(Памкнуўся на голас).*

Я н а. Тапкі памяняй, Бараўкоў!

Ё н. З тваімі тапкамі!.. *(Не можа патрапіць у іх нагамі).* Панастаўляла тут!.. На цэлую роту!.. *(Нарэшце выбег з тапкамі ў руках).*

*З-за дзвярэй далятае лямант, грукат.*

*Зацямненне.*

## Д з е я д р у г а я

*Усё так, як і ў першай дзеі. Яна ляжыць пад коўдрай, набірае нумар тэлефона.*

Т э л е ф о н. Паслухайце, калі ласка, шаноўныя сябры, на гэты раз не казку, а сапраўдную гісторыю. Напісаў яе для вас пісьменнік Дан Барханаў. Называецца «Павіншаваў!»

Крыху не пашанцавала капітану Бярозкіну: уначы падраздзяленне, якім ён камандуе, было паднята па трывозе, потым – марш, раён вучэнняў,

якія абяцалі зацягнуцца не на адны суткі. Іншы б раз Бярозкін не хваляваўся – ці ж упершыню яму калець разам з салдатамі на тых вучэннях? Хваляваўся ж з аднае прычыны – вось-вось павінна жонка нарадзіць першынца. А тут – трывога, і яна засталася сам-насам са сваімі клопатамі. Суседзі, праўда, памеліся панаглядаць за жонкай, выклікаць, калі спатрэбіцца, «хуткую дапамогу». Гэта трошкі суцяшала, супакойвала афіцэра. А яшчэ камбат прыкамандзіраваў часова да кватэры капітана Бярозкіна радавога Самардака, які толькі што выпісаўся са шпіталя і набіраўся моцы ў казарме. У абавязкі Самардака ўваходзіла: схадзіць, калі будзе патрэба, у краму па прадукты для жонкі камандзіра, вынесці смецце, прапаласосіць, пацікавіцца, патрэбна яшчэ ў чым дапамога ці не. Самардак – салдат паслухмяны, працавіты, дамавіты, і такая служба – прынесці-падаць – яму вельмі спадабалася. А паколькі раней ён жыў на Украіне, то аднаго разу нават прыгатаваў смачны наварысты борш і пачаставаў ім жонку капітана Бярозкіна.

Неўзабаве ў Бярозкіна нарадзіўся сын. Пад акном радзільні радавы Самардак доўга таптаўся з кветкамі, якіх наскуб на клумбе ў гарадку, павіншаваў парадзіху, а потым тая – з акна трэцяга паверха – прадыктавала яму змест тэлеграмы, якую павінен быў Самардак адправіць у Н-скі гарадок капітану Бярозкіну.

Капітан Бярозкін атрымаў тэлеграму наступнага зместу: «Мілы каханы віншую цябе сынам абдымаю цалую радавы Самардак».

Дзякуй за ўвагу.

*Заходзіць Ён. Мяняе тапкі.*

Ё н. Больш да цябе не будуць грукаць у дзверы ні старасць, ні хвароба, ні смерць. *(Падышоў да судніка, наліў у шклянку гарэлкі, моўчкі выпіў).*

Я н а. Ты… ты што з ёй зрабіў, Бараўкоў?

Ё н. Ні з ёй – з імі! З трыма! О! Спі спакойна, дарагая Хрыстафораўна!.. Толькі не забіваў, не-е! У нашай сям’і забойцаў не было, як і ў вашай паэтаў. Але ж у вашай сям’і пачалі з’яўляцца паэты. Тады чаму не могуць з’явіцца ў нашай забойцы?

Я н а. Ты што, і сапраўды яе прыкончыў?

Ё н. Не, адправіў у бальніцу… *(Паказаў каля скроні пальцам).* Хворая.

Я н а. А якое ты меў на гэта права? Хто цябе прасіў рабіць гэта? У цябе якое грамадзянства, каб тут распараджацца, камандаваць? Ты ж чужы!..

Ё н. Хопіць пра грамадзянствы!.. Глупствы!.. Чужы, дзе нарадзіўся, вучыўся, скончыў школу, інстытут, аспірантуру? Тут я чужы?

Я н а. Закон не на тваім баку.

Ё н. На маім баку скула села. Адчуваю, дасці прыкурыць!.. Дык што цяпер?.. Вяртацца дамоў, у Расію, каб мазюкай якой намазалі мне бок?

Я н а. Што там, за дзвярыма, за грукат быў?

Ё н. Суседзі папрасілі за суседку. Суседзі! Быццам бы яна ўбачыла вось у гэтым пакоі, дзе шмат тапак і мала чаго іншага, вядзьмарку... гэта значыць, цябе. Вось чаму старасць. Вось чаму хвароба. І нарэшце – смерць з касілкай...

Я н а. Я нічога не магу зразумець. Падай мне, калі ласка, градуснік. У мяне, адчуваю, зноў скокнула тэмпература. Толькі не ведаю, куды.

Ё н *(падаў).* Калі ласка. Але градуснікам дабрыню, на жаль, і шчодрасць чалавечага сэрца не памерыш. Як шкада! Як шкада, Божа!.. *(Сеў на веласіпед, ездзіць вакол ложка; то разгоніцца, то прытармозіць).* Каб можна было, я б заехаў сёння на край свету!.. *(Спыніўся).*

Я н а (*вярнула градуснік).* Паглядзі, ці ёсць тэмпература?

Ё н *(паглядзеў).* Няма.

Я н а. Што, зусім?

Ё н. Ты халодная, як качка з халадзільніка.

Я н а. Не жартуй так, прашу цябе!

Ё н. У цябе, яшчэ раз паўтараю, няма тэмпературы. Гэта не тэмпература – трыццаць пяць і пяць! Гляджу, усё тут наперакасяк: тэмпературы і той нармальнай няма. Што гэта за тэмпература? Я раней пра такую і не чуў!..

Я н а *(злосна, ледзьве стрымліваючыся).* Выкліч «хуткую». Мне трэба ў бальніцу.

Ё н. Выклічам, праў тых! *(Набірае нумар, але увесь час занята).* О, нарэшце! *(Падаў трубку Хрыстафораўне).* Гавары сама... Адрас... і ўсё астатняе.

Я н а. Запішыце адрас. А-а, пазналі. Я,я. Так. Мне зусім кепска. Чакаю. Чакаю вас. Дзякуй, мае дарагія...

Ё н. Дапамагчы сабрацца?

Я н а. Усё для бальніцы вунь у той сумцы.

Ё н. Зразумела.

Я н а. Укол зробяць, на тым і кончыцца мая бальніца... Як заўсёды, там не будзе месцаў.

*Паўза.*

Ё н. Цябе пазнала адна бабулька....

Я н а. Мяне многія пазнаюць.

Ё н. А вось у дзверы грукаюць не ўсе!

Я н а. Не павышай голасу. Вазьмі, калі ласка, лісток паперы і запішы, што ты сёння павінен зрабіць, калі мяне раптам ўсё ж адвязуць у бальніцу.

Ё н. Узяў. Дыктуй.

Я н а. Заплаці за кватэру. Грошы возьмеш у судніку. Там і на малако. Вынесеш смецце. І абавязкова памый падлогу, бо мне гэта, сам бачыш, зрабіць вельмі складана... немагчыма...ніяк нельга... Запісаў?

Ё н. Запісаў.

Я н а. Нават калі не забяруць мяне, усё роўна зрабі гэта. За кватэру заплаціш у апошнюю чаргу. Сёння субота, і да абеда людзей будзе шмат на пошце і ў ашчаднай касе. Там і там можна плаціць. Акрамя тэлефона.

Ё н. А чаму, колькі я тут, табе ніхто ніводнага разу не пазваніў?

Я н а. Сапраўды сумна. Калі ніхто не звоніць, то ты нікому не патрэбны. А калі ты патрэбны каму, то...

Ё н. ... яны потым грукаюць у дзверы.

Я н а. Грукаюць. Такое выхаванне, нічога не паробіш.

Ё н. Справа ў іншым.

Я н а. У чым жа?

Ё н. Тая жанчына ехала некалі з табой у гарадскім аўтобусе. Людзей было шмат, бітком набіта, і бабульцы ўперадзе, каля шафёра, зрабілася кепска: сэрца пачало спыняцца. Пракацілася людское спачуванне, і нехта папытаў уголас, ці ёсць у каго лекі ад сэрца, нітрагліцэрын ці хоць бы валідол... У той жанчыны былі лекі, яна акурат везла іх сваёй хворай маці, і памкнулася ўжо было расшпіліць сумку, каб дастаць, калі ты паклала сваю руку на яе руку: на ўсіх, маўляў, не напасеш... І тая бабулька памёрла.

Прама ў аўтобусе. Цяпер, здагадваюся, ты ведаеш, хто была яна для звар'яцелай сёння тваёй суседкі?

Я н а. Я пра гэта і не ведала, кажу табе шчыра.

Ё н. То была яе мама... Яна ёй не падала лекі, таму што ты зверху паклала сваю руку на яе руку...

Я н а. Дык ты хочаш сказаць, што я забіла чалавека?

Ё н. Я не суддзя. Даруй. Гэта яшчэ добра, калі аднаго...

Я н а. Прэч! Прэч адсюль, мярзотнік! Ты навошта прыехаў?

Ё н. Сам не ведаю... *(Выходзіць).*

Я н а. Божа! І што за жыццё? Адны непрыемнасці!

*Зноў набрала нумар на тэлефоне, і зачытваецца гараскоп на тыдзень...*

Т э л е ф о н. Астралагічны прагноз на 1 - 7 ліпеня. АВЕН. У пачатку тыдня нехта са сваякоў прапануе вам добрую працу. Сябры дапамогуць патраціць вам заработную плату. РАК. Ах, ну і тыдзень! Будаўніцтва карыслівых планаў, здзяйсненне працоўных подзвігаў і экстравагантных паступкаў, флірт налева і направа. Аднак не забывайце пра галоўнае – пры любых умовах заставайцеся сабой.

*Яна спыніла прагноз.*

*Ён вярнуўся, узяў у судніку грошы, паперку з заданнем, што купіць, і зноў моўчкі выходзіць...*

*Потым зноў шпарка вяртаецца, бярэ веласіпед...*

Я н а. На веласіпед, дарэчы, у мяне тапак няма!..

Ё н. Я для яго куплю!.. Белыя!.. *(Знікае).*

Я н а. Якім ты быў, такім ты і застаўся, Бараўкоў!

Ё н *(прасунуў галаву ў дзверы).* Пакажы мне таго чалавека, які б сябе дурнем назваў!.. *(Зачыніў дзверы).*

Я н а. Ну, і што яму скажаш? Прафесару?

*Моўчкі зноў слухае тэлефон.. Зрэдку паглядае ў кішэннае люстэрка, падбівае прычоску, выскаляе, як разявіць рот, зубы. Пырскае ў рот з інгалятара. Аднойчы нават перахрысцілася...*

Т э л е ф о н. А сёння паслухайце замест казкі нявыдуманую гісторую «Юбілей», якую запісаў для вас, сябры, усё той жа пісьменнік Дан Барханаў.

Пятру Селівонавічу споўнілася пяцьдзесят. Круглая дата. Юбілей. З гэтае нагоды сябры-калегі сабраліся разам у актавай зале, каб павіншаваць свайго кіраўніка. Гучалі палкія прамовы, уручаліся каштоўныя падарункі і прыгожыя кветкі. Браў слова нават сам міністр. А потым, злёгку крэкнуўшы, папрасіўся павіншаваць юбіляра інжынер Ціханчык, мяккі , інтэлігентны з выгляду і сапраўды ціхі чалавек, які раней ніколі на такіх урачыстасцях не падаваў голасу. Ён пэўны час глядзеў у залу, колькі разоў папраўляў на носе акуляры, крактаў і соп, а тады, кінуўшы кароткі позірк на юбіляра, прамовіў:

– Тут шмат гаварылася самых розных слоў. Слоў добрых і шчырых. А як жа ( юбілей… самі разумееце… ага. Трэба. Кіраўнік жа ён наш, Пятро Селівонавіч. Бацька. Таму даруйце, што і я буду хваліць юбіляра. А чым я горшы за іншых? Да ўсяго пачутага тут дадам, што і мужчына ён добры… на вышыні, як кажуць. Арол. Тут вось сядзіць яго палавіна, Генрыета Сяргееўна… яна пацвердзіць. Бачу, бачу: мае словы ў яблычка. Так-так. За ім, нашым шаноўным Пятром Селівонавічам, бегаюць усе нашы жанчыны, а з асобнымі ён заводзіць нават раманы… Службовыя, так сказаць… Як у кіно…

Па зале пракаціўся шумок, людзі павярнуліся да жонкі юбіляра: і трэба ж такое пачуць ёй, гаротніцы, ад нейкага там інжынера Ціханчыка! Выбраў момант, блазнюк. А той, не звяртаючы ні на што ўвагі, сыпаў далей:

– І калі б яму, здавалася, паспець усюды? Работы шмат. Рэканструкцыя. З планам запарка. Новыя тэхналогіі ўкараняем. Аднак – паспявае. Малайчына. Мая жонка, дарэчы, таксама прызналася, што дырэктар наш – сапраўдны мужчына. А жонцы сваёй я веру, яна ніколі не хлусіць. Яна мяне, дарэчы, колькі разоў Пецькам назвала, хоць я ж – усе вы добра ведаеце – па пашпарту Ягор. Так што, шаноўны Пятро Селівонавіч, жадаю вам і надалей карыстацца такой жа павагай у жанчын…

І Ціханчык сеў.

Сядзеў і юбіляр.

У вялікай, як падалося ўсім, лужы.

Дзякуй за ўвагу, сябры!

*З’яўляецца Ён. Але спярша паказаўся веласіпед. Паклаў на стол скруткі, якія прывёз, прыхінуў да сцяны веласіпед.*

Я н а. Дзе тапкі для веласіпеда?

Ё н. Пайшлі гуляць! На вячэрняй прагулцы! Цябе задавальняе адказ?

Я н а. Хаця чаго ж я? Падлогу ты будзеш мыць…

Ё н. Званіў дамоў. Дома ўсё добра.

Я н а. «Дома». *(Цяжка ўздыхнула).*

Ё н. Сын едзе ў Маскву, выклікалі  нарэшце ў ВАК.

Я н а. Кандыдацкую абараняе?

Ё н. Доктарскую.

Я н а. Чаму ж не абараніць, калі такі бацька?

Ё н. Бацька толькі можа заехаць у Маскву і пастаяць пад дзвярыма ў час абароны. Можа толькі пахваляваца. Як самы звычайны бацька.  Заеду і пахвалююся. Так і быць. Заўваж адно: дзеці цяпер намнога разумнейшыя за бацькоў. Асабліва фізікі…

Я н а. Шчасліва табе, Бараўкоў!

Ё н *(мітуслíва).* Дзякуй. Шчасце так не даецца і яго не купіць: яно косіцца, жнецца і ў мартэнах кіпіць… Так, што там у нас? *(Падкасаў рукавы сарочкі).*Засталося памыць падлогу…. і маё дзяжурства скончылася. Калі змена прыбудзе? Хаця, добра… *(Узяў вядро з вадой, намачыў у ім анучу, трэ падлогу, а потым рашуча ўзнімаецца, кідае анучу на падлогу).* Пачакай!.. Пачакай!… А навошта, навошта я раблю ўсё гэта? Бегаю па крамах? Мыю падлогу? Я ж больш за ўсё на свеце не любіў рабіць гэта… мыць падлогу. Таму і збег. Таму і уцёк да той жанчыны, якая падлогу мыла і мые сама!..

Я н а *(рашуча адкінула коўдру, стала на ногі,  здзекліва смяецца).* Ты не любіў мыць падлогу!.. Не любіў!.. Так!.. Я ўвесь час помніла пра гэта і ўсё жыццё хацела, каб ты яе ўсё ж, Бараўкоў,  памыў некалі, падлогу!..

Ё н *(убачыўшы, што  Хрыстафораўна ўвесь гэты час, як ён тут, умела выконвала ролю пакутніцы, прыкутай да ложку, папярхнуўся, трэ пачаргова адно вока, потым другое).* У мяне няма слоў. Язык хоць на месцы? Язык на месцы – не праглынуў.

Я н а. І якраз тую падлогу, якую ты адмовіўся мыць тады, калі ляпнуў дзвярыма!.. Калі знік, як божы адуванчык!

*Ён моўчкі мые рукі, выцірае сваёй чарговай насоўкай.*

Якое сёння чысло, Бараўкоў?

Ё н. Сёння сёмага... «Хуткая» вось-вось прыедзе. І што ты скажаш людзям у белых халатах?

Я н а. Маё любімае чысло! І сёння роўна сорак год, як ты, не дамыўшы падлогу, як не дамыў яе  і сёння, збег. Юбілей. Але той памыты кавалак і гэты, сённяшні, калі іх скласці разам, яшчэ як, шаноўны, пацягнуць яны на добра вымытую падлогу!.. Ты помніш хоць той дзень?

Ё н. Выдатна! Як кожны савецкі чалавек Дзень Перамогі.

Я н а. Вы толькі падумайце! Падлогу памыў для мяне сам доктар навук, прафесар Бараўкоў! А калі быў радавым студэнтам – не пажадаў зрабіць гэтага. Ды дзе памыў? У чужой нават кватэры? У доме, які даўно пайшоў пад знос? (*Здзекліва смяецца).* Дзень удаўся! І яшчэ як удаўся! Сам доктар навук!.. Падлогу!.. Якую не мыў, з-за якой збег!..

Ё н. Не, я недарэмна прыехаў. Я прысутнічаў на тваім сапраўдным пахаванні. Як чалавек, ты памерла даўно... і пераканаўся ў гэтым я сёння яшчэ адзін раз. Цяпер я магу дажываць свой век з чыстым сумленнем – правёў цябе ў апошні шлях. На аднаго жывога чалавека на зямлі стала менш. Прыгажосць! Казка!..

Я н а. Замаўчы! Прыкра слухаць! Паглядзім, хто з нас колькі пражыве!.. Паглядзім, Бараўкоў!..

Ё н. Толькі як я даведаюся? Ты ж сама  не напішаш... што памёрла. За цябе гэтага няма каму зрабіць. На жаль.

Я н а. Памыляешся, шаноўны!.. Памыляешся!..

Ё н. Ці ты загадзя  прышлеш мне паведамленне аб сваёй смерці? За месяц, за год наперад?

Я н а. Канешне, твой партрэт надрукуюць у многіх газетах, пакажуць па тэлевізары... Тут ты мяне, не пярэчу, абскакаў!.. Але я табе ўвесь час хацела даказаць, што і я нешта значу!.. Таму і стала членам Саюза пісьменнікаў!..

Ё н. Стаць членам і стаць паэтам – не адно і тое ж.

Я н а. Замаўчы!

Ё н. Закрывае рот іншаму толькі вельмі слабы чалавек... якому няма чаго сказаць... Замоўк! Ну, і што? Замоўк, замоўк!...

Я н а. Я, я скажу яшчэ сваё слова! Ты пачуеш пра мяне! Пачуеш! Пачуеш!.. Магчыма, і мой некралог дадуць у газеце?.. Паэтаў даюць!..Не ўсіх!.. Але для мяне месца на газетнай старонцы не пашкадуюць!.. Ты пабачыш, Бараўкоў!.. Сачы за газетамі!.. У мяне яшчэ ёсць час!..

*(Забралася на веласіпед, ездзіць вакол ложка, на якім толькі што ляжала, стукнулася ў дзвярны вушак, апынулася на падлозе – якраз на тым месцы, якое не дамыў Ён, і ляжыць нерухома).*

*Ад удару ў вушак зноў загаварыла радыё.*

Р а д ы ё. ... мінула ўжо паўгода, як у ноч на 28 лютага ў аўтамабільнай катастрофе разбіўся вядомы акцёр Мікалай Карачанцаў. Уся краіна па-ранейшаму пільна сочыць за ягоным здароўем. Увесь расійскі народ, а таксама шматлікія прыхільнікі яркага таленту Мікалая Карачанцава ва ўсіх краінах далёкага і бліжняга замежжа, жадаюць яму хутчэйшай папраўкі і вераць, што абавязкова сустрэнуцца з ім яшчэ ў новых ролях на тэатральнай сцэне і ў кіно……

*Ён моўчкі выключыў радыё і выйшаў. Яна ўсё яшчэ ляжыць побач з веласіпедам, і толькі ўздрыгваюць плечы: плача. Потым узнімаецца і нетаропка ходзіць з веласіпедам вакол ложка. Адзін круг, другі... Нарэшце таксама знікае за дзвярыма, якія распахнуў, няйначай, вецер...*

*Мелодыя веласіпеда.*

*З’яўляецца Ён. Прыкметна пастарэлы, увесь сівы, і коціць побач з сабой усё той жа веласіпед. Абышоў з ім вакол ложка адзін круг, другі... Успомніў пра тапкі, хацеў памяняць іх, аднак не хапае сілы... і ён паклаў на падлогу веласіпед, неяк усё ж распрануўся, залез пад коўдру...*

Р а д ы ё. ... Цяпер коратка пра галоўныя падзеі прайшоўшага дня..

Сёння ў Крамлі прэзідэнт Уладзімір Пуцін прыняў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку...

У Магілёве, на беразе ракі Днепр, непадалёк ад гарадского пляжа былі знойдзены рэшткі драўлянай ладдзі.

Марк Шагал названы мастаком адышоўшага XX стагоддзя ў Беларусі...

*Музыка.*

З а с л о н а.

# Д О Ш К І

*П'еса ў дзвюх дзеях*

Д з е й н ы я  а с о б ы:

*Людзі:*

К р у п я н к а.

Я к у ш э н к а .

Ш ы ш.

Н я м к о.

К а ц ь к а.

Б а б у л ь к а.

*Птушкі:*

Б у с е л

*Вясна. Беларуская вёска ў прыфрантавой паласе.*

*Некалькі чырвонаармейцаў атрымліваюць загад зрабіць падлогу ў памяшканні сельскага Савета, дзе будзе размешчаны штаб дывізіёна, прыбыццё якога чакаецца праз двое сутак...*

**Дзея першая**

*Вясковая вуліца. На заднім плане – будынак сельскага Савета і абрысы царквы. Раз-пораз чуваць царкоўны звон: бом!.. бом!.. бом!..*

*З'яўляцца чырвонаармеец Крупянка, ён цягне за сабой дошку. Паклаў яе на зямлю, выцер лоб рукавом.*

К р у п я н к а. Адна! *( Знікае).*

*Таксама з дошкай з'яўляецца чырвонаармеец Якушэнка.*

Я к у ш э н к а *( паклаў дошку на зямлю).* Дзве! *( Знікае).*

*З'яўляецца Крупянка з чарговай дошкай, паклаў яе побач з раней прынесенай.*

К р у п я н к а. Тры! *( Знікае).*

*Прыходзіць з дошкай Якушэнка.*

Я к у ш э н к а. Чатыры! *( Знікае).*

*Каля дошак пэўны час нікога няма. Даносяцца прыглушаныя галасы сваркі, і не цяжка здагадацца, што дошкі няпроста даюцца чырвонаармейцам – мясцовыя жыхары не дазваляюць разбураць вясковыя пабудовы, і таму чуваць воклічы: «Што вы робіце! Пашкадуйце!», «Гэта ж царква!», «Бог не даруе!», «Ён усё бачыць!», «А штаб куды загадаеце – на аблокі?!»*

*З'яўляецца Нямко.*

Н я м к о *(паказвае рукамі на дошкі, незадаволена).* А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Бярэ дошкі і знікае з імі).*

*З'яўляецца Крупянка з чарговай дошкай, разгублена глядзіць на тое месца, дзе павінны б ляжаць раней прынесеныя дошкі.*

К р у п я н к а *(злосна, у адчаі).* Дзесяць! Сто!.. Ды каму яны патрэбны, гэтыя дошкі? Каму? Там не даюць, тут – крадуць! Што з іх – дамавіны рабіць? Дык не ж – нас, салдат, так закопваюць... у зямлю... як бульбіну вясной... толькі глыбей крыху... *(Кліча).* Якушэнка-а! Хахол!

*З'яўляецца Якушэнка з дошкай.*

Я к у ш э н к а. Больш няма дошак. Апошнюю забраў.

К р у п я н к а. Грай, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. А дошкі... дзе?

К р у п я н к а. Грай, сказаў!

Я к у ш э н к а. А хто ты такі, каб мне загадваць? Тым больш – яфрэйтару?

К р у п я н к а. Ці будзеш граць, ці я раскурожу тваю скрыпку? К чортавай матары!..

Я к у ш э н к а. Нельга граць. З'явіцца старшына Гусеў, будзе лаяцца, калі ўбачыць скрыпку.... Сказаў, разламаю... Тут, кажа, вайна, а не кансерваторыя...

К р у п я н к а. Бо ён – дурань. Тамбоўскі.

Я к у ш э н к а. Сам ведаю... хто ён. Але чалавек добры.

К р у п я н к а. Грай, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Не магу. Абяцаў старшыне не граць без яго дазволу...

К р у п я н к а. Бач ты! Граць на скрыпцы – дазвол трэба прасіць? У каго? У бога ці чорта?

Я к у ш э н к а. У старшыны.

К р у п я н к а. Дзе ён, той наш разумны старшына?

Я к у ш э н к а. За цвікамі пайшоў...

К р у п я н к а. Ды гэта я ведаю... Але ўжо можна было прынесці не толькі цвікі, але і сам штаб разам з камандзірам. Гатовы. І рамантаваць сельсавет не трэба было б. А то – падлогу ім рабі. А дзе дошкі? Давайце дошкі – зробім. Гэта ўсё роўна, што аддаць каманду страляць па немцах, а зброю і патроны не выдаць... Страляй – і ўсё! Рабі падлогу – і не кірхай! Я гаварыў, дарэчы, і старшыне Гусеву пра гэта... А ён паслаў мяне, куды трэба. «Не вучы дзядулю кашляць!»

Я к у ш э н к а. А ты, Крупянка, рабіў калі-небудзь падлогу з дошак?

К р у п я н к а. Хм. Жартуеш? Я, Якушэнка, не толькі не рабіў, але і хадзіў па ёй мала... не тое каб!... Зразумеў?. Калі мне было? І не задавай дурных пытанняў!

Я к у ш э н к а. Не буду. Калі не хочаш.

К р у п я н к а. Пакуль няма старшыны Гусева, будзеш слухацца мяне.

Я к у ш э н к а. Не буду. Яфрэйтар –я, а не ты. Субардынацыя ў арміі як-ніяк павінна захоўвацца.

К р у п я н к а. Ведаю. Ты яфрэйтар, а камандзір – я. Гэта дзве вялікія розніцы. Не моршчыся, Якушэнка. Табе далі гэтае званне, каб сушэшыць

тваё самалюбства. Бо ты без лычкі, што даведка без пячаткі. Цешся. І слухай сюды!.. Знайдзі мне таго, хто сцібрыў дошкі. Разумееш?

Я к у ш э н ка. Не буду.

К р у п я н к а. Будзеш! Яшчэ як будзеш! Жывога ці мёртвага сюды яго! Выконваць загад! А я гэтыя, апошнія, пасцерагу… А то прыбудзе старшына Гусеў, то што яму пакажам? Бессаромныя вочы? Во гэта? *(Паказаў дулю).* Двое сутак мы дошкі здабываем, а дзе яны? А заўтра – штаб прыедзе! Нас жа павесяць на першым дрэве! Без суда і следства! Уцяміў, яфрэйтар Якушэнка?

Я к у ш э н к а. Усё роўна цвікоў няма. Чым прыб’еш дошкі?

К р у п я н к а. Не можа быць, каб старшына Гусеў не вярнуўся з цвікамі… Пачакай! Каля царквы лесвіца стаіць, прынясі… Спатрэбіцца… Ты чуеш мяне? Ці аглох?

*Якушэнка моўчкі знікае.*

Б у с е л. А старшыны вашага не відаць. Я б убачыў, калі б ішоў… Эх, салдацікі!.. Там вунь, за вёскай, яшчэ адна дошка ляжыць… Шырокая – як сцежка… Праз раўчук яе добрыя людзі перакінулі, каб на другі бераг пераходзіць… Гэтымі дошкамі, здаецца, можна намасціць дарогу і на неба… куды хочаш… Таму людзі і шкадуюць іх, берагуць, бы каштоўнасць яны маюць… А мне па балоце і так добра хадзіць… Клыпай сабе ды клыпай спакойненька…Дошкі вашыя ёсць, няма… ай!.. Ну, ну, што гэта яны там, людзі, зноў за чубы схапіліся? Без немцаў… самі пазабіваюць адзін аднаго…

*Чуваць гвалт, але нядоўга – як з’явіўся, так і знік.*

*З’яўляецца Нямко з дошкамі, за ім ідзе Якушэнка.*

Я к у ш э н к а. Бяры дошкі, Крупянка.

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. Што ён кажа?

Я к у ш э н к а. А ты ў яго і папытай.

К р у п я н к а. Што, іх не мог сцягнуць хто-небудзь нармальны? Такому і па мордзе не дасі – і так пакрыўджаны лёсам. Ці прыкідваецца?

Я к у ш э н к а. Мусіць, не. Быў бы на фронце.

К р у п я н к а. Так, зараз высветлім… *(Прыняў сур’езны выгляд).* Хто такі?

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. Зразумела. Навошта табе, дзівак, дошкі? Табе яны… навошта? Нам – загад, каманда…разумееш? Іначай… пух-пух…за невыкананне.

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Торкае ў неба рукамі, відаць, паказвае, што адтуль можа быць небяспека).*

К р у п я н к а. Добра. Угаварыў. Кладзі дошкі на зямлю… не трымай, цяжкія ж… і шуруй дамоў. Чуеш мяне? Дамоў!

Я к у ш э н к а. Ён чуе, відаць, толькі Бога…

К р у п я н к а. Чыйго? Нашага ці нямецкага?

Я к у ш э н к а. Мне гэта невядома…

К р у п я н к а. То мне вядома. З нядаўняга часу богаў паболела…падзяліся на два… адзін за іх, другі – за нас… *(Нямко).* Пакладзі, сказаў, дошкі на зямлю. Ну, стой, стой… калі табе так добра. Дурань! Што з яго возьмеш?

Я к у ш э н к а. Крупянка!

К р у п я н к а. Што?

Я к у ш э н к а. Ты ж на скульптара вучыўся…

К р у п я н к а. Вучыўся і вывучыўся. Як мае быць.

Я к у ш э н к а. І скульптуры ў цябе такія грубыя, як ты сам?

К р у п я н к а. Пра скульптуры не скажу… іх бачыць трэба… але калі цябе ляпіць буду, то – гэта ўжо дакладна, і не пратэстуй! -- зраблю без лычак на пагонах. Ці з адной. На адным пагоне… Скажы гэтаму дурню… *(Раптам спахапіўся).* Пачакай! Пачакай, дык гэта ж жывы натуршчык! Чалавек з дошкамі! Чалавек ні ў дошках… ні на дошках, а – з дошкамі!.. Куды ён іх нясе? *(Круціць Нямко і так і гэтак, але той не выпускае дошак з рук).* Вось паглядзі, Якушэнка! Ён нясе дошкі! А з дошак можна зрабіць не толькі падлогу ў штабе! Не! Нямко, дай я цябе пацалую, дай я цябе абдыму! *(Цалуе Нямко, і той нарэшце выпускае дошкі на зямлю, адна з іх балюча шлёпнулася на нагу Крупянку).*

К р у п я н к а. Ё маё!.. Бля!…*(Сцяўся ад болю, хаўкае ротам, выпускаючы разам з парам непрыстойныя, але так хораша падкрэсліваючы ягоны стан, словы: калі сачыць за губамі, то словы тыя лёгка чытаюцца).* Усё ў мяне. Нямко! Нямко! *(Тармосіць яго).*

Н я м к о.А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. У вас гліна ёсць? Гліна? Чырвоная, як памідор! Як шчокі ў сытага чалавека! Як у начальніка! Гліна-а! Разумееш мяне? *(Паказвае жэстамі, што такое гліна).*

Н я м к о.А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

Я к у ш э н к а. Ён сказаў: Бог дае свята, а чорт работу.

К р у п я н к а. Што?

Я к у ш э н к а. Гліна ёсць.

К р у п я н к а. Бачыў?

Я к у ш э н к а. Я люблю гліну... хоць і не скульптар. Яна паслухмяная, як і іншая дзяўчына... ціскай яе, калашмаць, мні... а яна паддаецца... робіцца цёплай... мяккай...

К р у п я н к а. Панесла!..

Я к у ш э н к а. Ага. Панесла.

К р у п я н к а. Скрыпка, я адчуваю, у цябе была – як вуда ў нягеглага рыбака... закінуў – і чакай, пакуль клюне...

Я к у ш э н к а. Клявала. І часта.

К р у п я н к а. Кручок, відаць, добры маеш, гад?

Я к у ш э н к а (*папраўляе).* Смычок. Смычок!

К р у п я н к а. Адна... трасца!.. А то што ж за музыка такі, што ніводнага разу я не чуў, як ты граеш! Прыкідваешся, мусіць? Я ж помню, як папыталі ў нас, калі прызвалі на службу... хто што можа рабіць? Ты што сказаў? Напомніць?

Я к у ш э н к а. Я тады няпраўду сказаў. Схлусіў.

К р у п я н к а. А чаму?

Я к у ш э н к а. Баяўся, што скрыпку прымусяць выкінуць... бо вайна ж... не да музыкі...

К р у п я н к а. Але ж ты сказаў, што можаш граць... на патэфоне. *(Смяецца).* Прыдумаў жа! На патэфоне!.. «Я магу, таварыш камандзір, граць на патэфоне!» Здзівіў увесь белы свет сваім прызнаннем. Малайчына. А што мне тады заставалася сказаць? Люблю ваяць прыгожых жанчын...

Я к у ш э н к а. Валяць?

К р у п я н к а. Ваяць. Ваяць. З гіпсу. А ў такіх умовах, як сёння, – з гліны. З сырога пяску… але ўсё гэта ненадоўга. Зімой магу са снегу. І не толькі дзеда Мароза з торбай за плячыма… і не толькі … Снягурку магу… О, Снягурка!..Чуеш, Якушэнка?

Я к у ш э н к а. І на гліне, пэўна ж…і на снезе… можаш?

К р у п я н к а. Не, ну ты невылечны чалавек. Каму што! Каму што! Уявіце сабе: побач сядзіць музыкант, скрыпач, я ніводнага разу не чуў, каб ён хоць ну самы малюсенькі разочак зайграў… Пакажы, можа ў цябе і зусім пальцы у вузел завязаны?

Я к у ш э н к а. На.

К р у п я н к а. Бачу. Набярэш імі гліны. Пальцы добрыя. Там, дзе бачыў. І адвядзі гэтага нямога… што ён тут будзе стрыгчы вушамі? Чорт яго ведае, што за чалавек! Можа, ён тут маўчыць… а дзе трэба – загаворыць… рот так раскрые, што і гармаце не ўступіць. Адным вухам слухае, другім выпускае. А? Дзейнічай, Якушэнка! *(Нямко).* І ты – шагам …арш!

Я к у ш э н к а. Дык гліну ці лесвіцу?

*Нямко не слухаецца. Крупянка разварочвае яго, дае каленам пад адно месца, але Нямко не ідзе.*

К р у п я н к а. Якушэнка! Будзь другам… забяры і яго з сабой. А гліну ці лесвіцу – рашай сам. *(Раптам).* Лесвіцу!

*Якушэнка і Нямко знікаюць.*

(*Аглядаецца па баках, рашуча).* Падлога ў штабе пачакае. Усё роўна цвікоў няма. *(Робіць з дошак прама на зямлі карыта для замесу гліны).* Сёння сон бачыў… дзівацкі… не інакш… Быццам мяне ў армію прызвалі… і не вайна зусім… а проста служыць… час прыйшоў… Ну, і прысягу прымаць пара… Усе камандзіры ў казарме сядзяць на сталом… пасярод старшына Гусеў… выклікаюць мяне… Першага…Уваходжу страявым крокам… дакладваю, як і мае быць… па статуту: таварышы старыя, чырвонаармеец Крупянка для прыняцця прысягі прыбыў… Сесці не прапанавалі – канешне, старыя, а я – салага… Пытаюць: пісьмы дамоў пішаш? Пішу, адказваю. За перагрузку пошты – дзве банькі… Я адразу адмаўляюся, раблю задні ход: не, таварышы старыя, не пішу… Ага, не пішаш? За непавагу да бацькоў – яшчэ дзве банькі… гэта значыць рамянем па адным месцы…спражкай…А калі сказаў, што сястра ёсць, Марыйка, то пару банек скінулі – будзе, маўляў, старычку жонка пры звальненні…пасля дэмабілізацыі. Колькі разоў усё ж сцебанулі – не ўвярнуўся… *(Памацаў тое месца, па якому сцебанулі)…* баліць… аказваецца, спаў калі, то востры

каменьчык падкаціўся… І Якушэнку дасталося! Яму больш… Бо абхітрыць старыкоў захацеў –  тое месца, па якому лупцуюць, коўдрай абматаў, а наверх  штаны нацягнуў… І ўкаціўся ў казарму, бы снежны ком… Калі Фрыдмана пранесла, то Якушэнку дасталося. Дзе яўрэй прайшоў, там хахлу няма чаго рабіць.

*З ‘яўляецца Якушэнка з лесвіцай.*

Я к у ш э н к а *(злосна).* Калі ж хочацца і хлеб есці і на печы ляжаць! Ледзь зуб не выбілі за гэтую лесвіцу.

К р у п я н к а. А я колькі разоў табе гаварыў: з аўтаматам хадзіць трэба, з аўтаматам! А ты ў кустах яго схаваў.

Я к у ш э н к а. Ён цяжкі…

К р у п я н  к а. Ды не скрыпка!.. А людзі зброі баяцца. Толькі зброі – і больш нічога. А любы звер, нават самы моцны, заўсёды баіцца чалавека. Любы! *(Ускочыў на лесвіцу, якую ледзьве трымае Якушэнка, доўга ўглядаецца, заўважае бусла).* Няма старшыны Гусева… не відаць… Паслухай, Якушэнка, а чаму гэта бусел адзін у гняздзе? Адзін і адзін?

Я к у ш э н к а. Не дакладваў…

К р у п я н к а. Ды я гэта разумею. А можа такое быць, што  ён без жонкі застаўся… без напарніцы? Ці як там у іх?

Я к у ш э н к а. А чаму – ён? А , можа, гэта яна?

К р у п я н к а. Ды пад хвост не глянеш…

Б у с е л. Дзед Шыш да іх ідзе. Гэтыя хлопцы яго не ведаюць, але запомняць. Х-ха-ха-ха: у Шышы не возьмеш ні шыша. Я раней на суседняй ліпе жыў… там было маё гняздо. І кола ляжала добрае… з калёс. Аднак ён пасярод гнязда штыр забіў, каб я сесці не мог… Пераманіў да сябе… А куды мне было падзецца? Усе буслы пры сваіх гнёздах, адзін я са сваёй Надзюшай без  вугла застаўся… З ім, з гэтым дзедам, вуха трэба тарчком трымаць! Каб жа я мог гэтым хлопцам падказаць, то папярэдзіў бы!.. Шкада: абхітрыць… абдурыць… І сваё не аддасці, і чужое забярэ… Хаця хто яго ведае, гэтага дзеда? Можа для іх, для хлопцаў, ён і карысным нечым будзе… Усё ж яны – людзі… паразумеюцца… Гэта нам, птушкам, цяжэй…

*Крупянка злез з лесвіцы, Якушэнка паклаў яе на зямлю.*

К р у п я н к а. За глінай я сам пайду… Можаш не той прынесці.

Я к у ш э н к а. Баба з возу – каню лягчэй.

Б у с е л. Можна падумаць, што ён ведае, дзе ў нас тут добрая гліна? Смех дый годзе! Ямін пачата многа, але «глінкамі» толькі называюць… Гліна за лесам, дзе партызаны цэлую машыну зброі схавалі, а нехта ўкраў… Во там гліна! Яшчэ ёсць гліна, дзе Нямко закапаў швейную машынку «Зінгер», як немцам прыйсці… а забыўся – не можа знайсці. Я бачу, дзе яна, тая машынка… я – ведаю… Але ж дзяўчынка Кацька шыць хоча і апратку лапіць, а Нямко толькі мыкае, а ўспомніць – не успомніць… нібы яго хто даўбнёй якой уходаў па галаве… і выбіў усё, што там было… разам з верхам і дном… Не чуе, а яшчэ і памяць – як рэшата… Адна бяда не ходзіць…

*З'яўляецца Шыш.*

Ш ы ш. Ну, і што мы, хлопцы, тут робім?

Я к у ш э н к а. Выконваем загад камандзіра.

Ш ы ш. Нават так?

К р у п я н к а. Нават… А табе што?

Ш ы ш. Ды мне, уласна кажучы, нічога… Але лесціцу – туды, дзе ўзялі!

К р у п я н к а. Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Ну, чаго табе?

К р у п я н к а. У якім кусце твой аўтамат?

Я к у ш э н к а. Там… *(Махнуў рукой).*

К р у п я н к а. Закруцішся ты тут , галаву табе задураць – і не знойдзеш потым…

Я к у ш э н к а. Знайду.

К р у п я н к а. І пад трыбунал!.. Атрымлівай!.. Пад завязку!.. Як на плечы ўзваліць!..

Я к у ш э н к а. Усіх не патрыбуналяць…

Ш ы ш (*крэкнуў).* Дык гэта самае… лесвіцу.. на ранейшае месца. Ага. Я па ёй на царкву забіраюся… звон даю… А без лесвіцы не дам! Вы чуеце мяне, сапліўцы?!

К р у п я н к а ( *ходзіць вакол дзеда, прыглядаецца).* Пачакай, пачакай… Косць у цябе, дзед , моцная… шырокая…Мне такая і патрэбна… *(Шышу такая ўвага да сябе не падабаецца, ён усяляк ухіляецца ад яго жэстаў).* Нос выразны… Бог семярым нёс… Калі жанчыны з такім носам не назавуць цябе нахабнікам, то потым яны назавуць цябе аслом…

Ш ы ш. Адстань, ірад! Знікні з вачэй!

К р у п я н к а. Скажы, Якушэнка!

*Якушэнка ўзяў лесвіцу, знікае.*

К р у п я н к а. Ты – натура!

Ш ы ш. Ведаю... я натурлівы... як упруся, то мяне і з месца не спіхнеш.

К р у п я н к а. Калі што, дзед, я цябе знайду...

Ш ы ш. Што, нават з-пад зямлі дастанеш?

К р у п я н к а. Там будзе відаць. Але скажу адно: у вас што ні чалавек, то – натура... Жывы матэрыял. Жывы!

Ш ы ш. Ды пакуль, дзякаваць Богу...

*Вяртаецца Якушэнка.*

(*Якушэнку).* Дзякуй, баец.

Я к у ш э н к а. Там на даху дошкі ёсць...

Ш ы ш (*гучна).* Не дам! Не дам! Не дам! Вы ж – грэшнікі! Бог не даруе!

К р у п я н к а. Чый Бог? Наш ці нямецкі?

Ш ы ш. Не бярыце з царквы дошкі... Я ў бацькі вам годны, і дрэннаму вучыць сыноў сваіх не буду...

К р у п я н к а. А камандзіру што на падлогу – салому пасцелем? Як у кароўніку? Як у свінарніку? Дык ён жа не доіцца! І сала не нагульвае! За што такая пашана? За якія заслугі?

*Паўза.*

Ш ы ш. Едзьце, хлопцы, адсюль... Пакіньце нас... Мы жыць хочам... Мы жыць стараемся... *(Выходзіць).*

Я к у ш э н к а. Што гэта ён заладзіў: жыць ды жыць... А хто не хоча? Мы? Не, даруй, дзед... Яшчэ як хочам. Яшчэ як!..

К р у п я н к а *(задумліва).* Цікавы дзед. Цікавы. Сваіх праганяе... што гэта значыць? Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Не разумею таксама.

К р у п я н к а. Можа ён пірог выпякае ў печы, каб іншых салдат сустрэць? Са свастыкай? Для чаго б тады нас гнаў? Дарогу ж трэба

ачысціць. Небяспечны чалавек! У яго, мусіць, Якушэнка, таксама аўтамат у тым кусце, дзе і твой, ляжыць, а?

Я к у ш э н к а. А што з гэтымі дошкамі рабіць будзем? На падлогу ўсе роўна мала…

К р у п я н к а. Дык ты што прапаноўваеш? І гэтыя вярнуць людзям? З боем, можна сказаць, бралі кожную дошку… і вярнуць?

Я к у ш э н к а. Я так не гаварыў…

К р у п я н к а. Але думаў так.

*Паўза.*

Я здагадваюся, дзе ў вёсцы можна дошкі раздабыць. Здагадваюся. Вяскоўцы – народ запаслівы, прадбачлівы, і кожны з іх думае пра свой апошні дзень… і кожны з іх рыхтуецца да яго… Вайна не вайна, а паміраць усе роўна трэба… не толькі ад куль…ад асколкаў… жыццё так выштукавана… Так што будуць цвікі, будзе і падлога! Я за глінай, Якушэнка! *(Знікае).*

Я к у ш э н к а *(глядзіць услед).* У яго з адной губы і горача і сцюдзёна… у Крупянкі, значыць. Так-так-так.

*З'яўляецца Шыш з кошыкам. Узяў у кошыку чыгунок, паставіў на зямлю.*

Ш ы ш. Зварылася. Толькі з печы. Бульба. У мундзірах. Еш, хлопча.

Я к у ш э н к а. Дзякуй.

Ш ы ш. Больш нічога няма. Партызаны ўсё забралі. *(Прысеў каля чыгунка, абірае бульбу).* Частуйся, частуйся. салдат. У маёй дачкі нават боцікі… скураныя… лёгенькія… канфіскавалі. І хто ў іх там, у лесе, фарсіць будзе?

*Якушэнка моўчкі есці бульбіну.*

Калі яшчэ вас прыгоняць багата – што тады будзе? Што пасля вас застанецца? У вас, праўда, хоць кухня будзе…Ёсць кухня?

Я к у ш э н к а. Канешне.

Ш ш ы ш. І апранутыя. Ну, магчыма, дзеці паявяцца…больш будуць на азіятаў падобныя…і толькі. Тут мудрасці вялікай не трэба. Хоць тут і няма з кім… адна Кацька… яе брат Нямко хавае ў бліндажы і ад сваіх, і ад чужых…… Новы замок павесіў на дзверы… Свірнавы… І дзе ён такі замок, цікава, адкапаў?

Я к у ш э н к а (*папярхнуўся, кашляе).* Ад каго… ад каго хавае?

Ш ы ш. Ад вас. У канкрэтным выпадку. Ад каго ж! Ад вас. Яна, праўда, надта ж прыгожая, сцерва!… Глянеш – і вочы, як ад сонца, заплюшчваюцца…Нельга глядзець на яе спакойна… Жылы і ў мяне, у старога, цягне…Кроў прымушае закіпаць.. А больш радзіць ніхто не зможа… старыя ўсе… ды малыя. У жмуркі толькі паміж сабой нашы бабы гуляць і могуць… Паміж сабой ды з дрэвамі… Дрэвы – замест мужчын ім… І кожнай з іх, відаць, здаецца, што яна хоча паймаць з завязанымі вачыма свайго любага, ловіць, ловіць… хапае, прыгортвае да сябе, а то не любы, а – дрэва… Халоднае, нібы прамёрзшае на марозе… Ты еш, еш, салдат.

Я к у ш э н к а. Ем.

Ш ы ш. Бульба ёсць – не акалеем з голаду.

*З'яўляецца Нямко з вядром, высыпаў гліну ў карыта.*

Н я м к о.А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Знікае).*

Ш ы ш. Навошта вам гліна?

Я к у ш э н к а. Адзін Крупянка ведае.

Ш ы ш. Гэта твой напарнік?

Я к у ш э н к а. Я яго. Крупянка – скульптар.

Ш ы ш. Бач ты! Скульптар, кажаш? А што гэта за цукерка такая, з чым ядуць?

Я к у ш э н к а. Яшчэ будзеце ведаць…

Ш ы ш. Добра, хлопцы. Добра… Я разумею: загад… Судзіць будуць, калі не выканаеце… *( Знікае, але перад гэтым доўга і прыдзірліва ўсё аглядае навокал).*

*З'яўляецца з вядром Нямко, высыпаў гліну.*

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

*З'яўляецца Крупянка. Узяў у Нямко вядро, змерыў вядром ягоны рост.*

К р у п я н к а. Малавата. Каб зляпіць мне цябе, Нямко, патрэбна яшчэ… бачыў… колькі вёдраў гліны? Так што калі хочаш стаяць у цэнтры вёскі з выцягнутай наперад рукой і з картузом у ёй -- цягай гліну! Уперад! *(Падштурхнуў Нямко).*

Н я м к о.А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Знікае).*

К р у п я н к а. Я, Якушэнка, чуў дзявочы голас… калі за глінай хадзіў… Голас прасіў аб дапамозе.

Я к у ш э н к а. Чаму ж не дапамог?

К р у п я н к а. Згубіў след. Ішоў на голас, а потым яна перастала прасіць аб помачы… Мне цікава, хто б гэта мог быць? Няўжо тут, у гэтай вёсцы, акрамя нас, яшчэ нехта ёсць, каму таксама аддадзены загад?.. Толькі іншага кшталту. Як думаеш, Якушэнка?

Я к у ш э н к а. Прыгожы голас?

К р у п я н к а. Вельмі.

Я к у ш э н к а. Значыць, і дзяўчына прыгожая.

К р у п я н к а. Значыць, так.

Я к у ш э н к а. Тады ратуй, Крупянка. Сёння прыгажосці на зямлі мала. Вайна таму што. Ратуй, Крупянка.

К р у п я н к а. Адстань!

Я к у ш э н к а. Чаго ты?

К р у п я н к а. А, можа, мне памроілася? Такое магчыма, Якушэнка?

*Паўза.*

Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Я не буду больш дошкі шукаць. Не буду.

К р у п я н к а. Будзеш. А хто будзе?

Я к у ш э н к а. Не ведаю.

К р у п я н к а. Камусьці ж трэба…Можа гэта і лепш, што старшыны Гусева няма… Ён прымусіў бы нас усе дошкі, якія толькі дзе можна садраць, прынесці сюды… Гусеў прымусіў бы! Ён мёртвага заставіць дошкі насіць! Уяўляеш, калі б быў з намі сёння Гусеў, што б было ў гэтай Мадоры?

Я к у ш э н к а. Так. Так точна.

К р у п я н к а. Да старшыны трэба ўмець даслужыцца. Ты не зможаш, хоць і палтаўскі…

Я к у ш э н к а. Мне не трэба гэта.

К р у п я н к а. Хлусіш! Ну хлусіш жа!

Я к у ш э н к а. Сам не магу зразумець – праўду гавару ці хлушу.

К р у п я н к а. Пачакай… Я зараз… *(Знікае).*

Я к у ш э н к а. Вярніся, Крупянка!

*Паўза.*

Усё зразумела: сястра нямога са склепа голас падае. Крупянка не ведае – і добра, што не ведае. А то не выканаем загад. Крупянка можа і забыцца на загад… ён чалавек захапляючы. З ім не прападзеш, але гора цяпнеш.

*З'яўляецца Нямко. Маўчыць.*

Ну, што ў цябе? Як жыццё, хлопча? Схаваў, кажаш, сястрычку надзейна?

Н я м к о.А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

Я к у ш э н к а. Глядзі ж, каб потым не шукаў, як швейную машынку «Зінгер». Уся вёска гамоніць пра твае майстэрства хаваць швейную машынку. Не паўтары фокус.

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

Я к у ш э н к а. Гэта твая справа – слухацца, не слухацца… Ужо дарослы.

*З'яўляецца Крупянка. І выгляд у яго такі, бы ён нечым вельмі ўражаны.*

К р у п я н к а. Якушэнка… слухай сюды, Якушэнка!.. Бяры дзеда Шыша, Нямко бяры… Хаця не: стоп! Я сам… Усю вёску падняць трэба… Можа яны чые сваякі?

Я к у ш э н к а *(падыходзіць да Крупянкі, глядзіць яму прама ў вочы).* Ты пра што?

К р у п я н к а. Не паверыш… У лес звярнуў… Хацеў паглядзець, ці ёсць ужо падснежнікі… А там… а там жудасная карціна, Якушэнка…

Я к у ш э н к а *(нецярпліва)*. Ды гавары ж ты ўжо нарэшце!..

К р у п я н к а. Дык і гавару… На бярозе ікона вісіць… а перад ёй стаяць на каленях людзі…

Я к у ш э н к а. Стаяць… і добра…

К р у п я н к а. Дык яны ж спаленыя!.. А ты… а ты… без аўтамата ходзіш, засранец! Вазьмі аўтамат, я сказаў!

Я к у ш э н к а. Ён у мяне ў рэчавым мяшку.

К р у п я н к а. Павесь на плячо, падла!..

*Якушэнка ўзяў аўтамат, закінуў на спіну.*

Вось так і хадзі. Я, відаць, Якушэнка, усё жыццё гэта буду бачыць... Ікона... і людзі на каленях... спаленыя... Яны як усё роўна з гліны... толькі не з чырвонай – з чорнай... А цяпер пайшлі... Пайшлі, Якушэнка. Пакуль мы там больш патрэбны... А старшына даруе... калі што...

*Якушэнка і Крупянка знікаюць.*

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Доўга глядзіць услед чырвонармейцам).*

*Зацямненне.*

*На тым жа месцы. Вяртаюцца Крупянка і Якушэнка. Якушэнка хавае аўтамат у рэчавы мяшок.*

К р у п я н к а *(строга).* Куды?!

Я к у ш э н к а. Ды хопіць табе, Крупянка! Заікам зробіш... (*Закінуў аўтамат за спіну).*

К р у п я н к а. Чужыя людзі былі... прышлыя... Мусіць, бежанцы... Усе паперкі згарэлі... Нічога пры іх...

Я к у ш э н к а. Можа і так.

К р у п я н к а. Муж і жонка, мабыць. А мне, Якушэнка, чамусьці здаецца, што мужчына – гэта старшына Гусеў..

Я к у ш э н к а. Кінь ты дурное!

К р у п я н к а. Вось і кінь. А боты?

Я к у ш э н к а. У чым толькі людзі цяпер не ходзяць. Садраў з забітага – вось табе і абутак. Боты. Боты яшчэ ні аб чым не гавораць.

К р у п я н к а. Гэта я так, прабач. Старшына не верыць у Бога... ён не будзе перад іконай стаяць.

Я к у ш э н к а. А можа здарыцца такая сітуацыя, што і станеш на калені перад самім д’яблам.

К р у п я н к а. Не, старшына на калені ніколі не стане. Ні перад кім. Ні перад чым.

Я к у ш э н к а. Багата мы ведаем, хто ён такі, старшына Гусеў...

*Кувае зязюля. Раз, другі, трэці... Чырвонаармейцы насцярожыліся.*

К р у п я н к а. Усяго? *(Вытрымаўшы паўзу).* Мала.

Я к у ш э н к а. Лянівая...

К р у п я н к а (*памахаў кулаком зязюлі).* Я табе!.. Пачакай!..

Я к у ш э н к а. Што ёй чакаць? Яна сваю справу зрабіла, а ты думай-гадай, што накувала табе...

К р у п я н к а. А я так разумею: зязюля кувае для ўсіх людзей... для старых і маладых... і ўсе яны аднолькава жыць не могуць... А тэрмін усім адзін адмервае аднолькавы. Вядзьмарка ты, зязюля.

*Раптам затарахцеў будзільнік. Крупянка здзівіўся.*

Я к у ш э н к а *(кінуўся да рэчава мяшка, спрабуе дастаць будзільнік, але спяшаецца і не трапляе рукой у рэчмяшок, тады ён вытрасае ўсё, што там ёсць*). Ну, ты! Глянь, а!... Маўчаў увесь час, а тут голас падаў, нягоднік! Супакойся! Каму гавораць!.. *(Нямала спрыту прадэманстраваў, каб будзільнік замоўк).* Фу-у ты, бачыў! Ледзь спыніў!

К р у п я н к а. Што гэта за певень у цябе такі, Якушэнка? Адкуль?

Я к у ш э н к а. Ды... мой! Будзільнік, скрыпка і дзве кніжкі – усе мае рэчы.

К р у п я н к а. Ну дык і падушку б з сабой насіў, калі будзільнік цягаеш.

Я к у ш э н к а. Не ўлезла... гаспадыні, у якой кватараваў, пакінуў. На памяць. А будзільнік у яе свой быў...

К р у п я н к а.Зразумела. Ты, значыць, настаўнікам працаваў?

Я к у ш э н к а. Быў грэх...

К р у п я н к а *(падняў з зямлі паперку).* Ды і не адзін... Вось тут напісана тлумачальная запіска... на імя дырэктара школы Хадзьковай Вольгі Лявонцьеўны...

Я к у ш э н к а. Вярні!

К р у п я н к а. А што тут такога?

Я к у ш э н к а. Не твая!

К р у п я н к а. Што, і прачытаць нельга?

Я к у ш э н к а. Не для цябе пісалася...

К р у п я н к а. Не для мяне – ведаю. Для дырэктара школы… Ну, Якушэнка! Будзь сябрам! Дай прачытаць,а? Ведаеш, у мяне хвароба такая – чытаць чужыя пісьмы. Як толькі навучыўся чытаць… ні Пушкіна, ні Талстога… а чужыя пісьмы хлебам не кармі, а дай пачытаць. «Который раз давал себе я слово прочесть и Гете и Толстого, но утешает один пример: их не читали ни Данте, ни Гомер…» Дай пачытаць.Ну, такім нарадзіўся я вось чытачом…

Я к у ш э н к а. Відаць, не атрымліваў па карку?

К р у п я н к а. Не. Не было такога выпадку.

Я к у ш э н к а. Тады атрымаеш. Абяцаю.

К р у п я н к а. Скрыпка і бокс – розныя віды спорту. Неяк не ўяўляю цябе, Якушэнка, у бліжнім баі… махаючага кулакамі. Ты ж не народжаны біцца. Я б такіх, як ты , і зусім  на вайну не браў. Ну, якая з цябе карысць? І шкоды быццам бы няма… і карысці таксама…

Я к у ш э н к а. Багата ты наваяваў, гляджу. Толькі гліну месіш. І ўсё тваё геройства.

К р у п я н к а. Гліна глінаю, а скрыпку тваю я яшчэ ніводнага разу так і  не пачуў.

Я к у ш э н к а. І не пачуеш.

К р у  п я н к а. Так катэгарычна?

Я к у ш э н к а. Так і не інакш.

К р у п я н к а. Строгі, аднак!

Я к у ш э н к а. Там, у запісцы, нічога няма такога…

К р у п я н к а. Дык чаму ж тады не хочаш, каб я азнаёміўся з напісаным?

Я к у ш э н к а. Перагарэла… *( Махнуў рукой).*Угаварыў: чытай.

К р у п я н к а. А вось цяпер мне не хочацца. Калі не даюць – прашу, бо вельмі хочацца. А дазволяць – не-е, і не паказвай… адварочвае… Ну яго!.. Сам прачытай… *(Працягнуў паперку Якушэнку, той узяў).*

Я к у ш э н к а. Гэта мне, калі праводзілі  на фронт, дырэктар нашай школы Вольга Лявонцьеўна са шкатулкі сваёй дастала… усміхнулася… і падала. Будзеш, кажа, школу ўспамінаць, Якушэнка, абавязкова… калі тлумачальная табе на вочы патрапіць… Ну, прасыпаў я. Спазняўся на ўрокі. Дзела маладое… А яна, дырэктарка, вымушала мяне тлумачальныя пісаць… у яе багата там, у шкатулцы, засталося маіх тлумачальных… але ці

таму, што ўсе яны падобныя адна на адну, як дзве кроплі вады, ці па іншай прычыне… не ведаю… не магу сказаць… вярнула мне толькі адну. Вось гэтую… На памяць пра школу…

К р у п я н к а *(амаль выхапіў з рукі Якушэнкі паперку, чытае).* «Тлумачальная… Дырэктару… Я, настаўнік музыкі Якушэнка П.А. …» Пятро ты?

Я к у ш э н к а. Пятро.

К р у п я н к а. Вось бачыш, дзякуючы гэтай маленькай паперцы і пазнаёміліся… (*Пацiснулі адзін аднаму рукі).* «…спазніўся сёння на першы ўрок па вельмі важнай прычыне. Справа ў тым, што мой будзільнік дужа стары, 1913 году вырабу…» *(Кіўнуў на будзільнік).* Гэта вось гэты выкапень??

Я к у ш э н к а. Так, так.

К р у п я н к а. А скрыпка ў цябе, выпадкова, не Страдзівары?

Я к у ш э н к а. Каб жа!..

К р у п я н к а. « Завод «Чайка» , горад Масква… тройчы быў у рамонце… Адным словам, адным словам…» На, Якушэнка! Адным словам… Усё ж папера. Дэфіцыт. Дадумацца ж такое напісаць! Галаву трэба мець. Будзільнік вінаваты, што настаўнік спазняцца на ўрок. Ты хоць тут яго нікому не паказвай. Ці зусім выкінь.

Я к у ш э н к а. А хай ляжыць. Есці не просіць.

К р у п я н к а. Яно і праўда: чым гранату насіць – лепш сапсаваны будзільнік: ён лягчэй… Ды, можа якую і бабу ім напалохаеш… рабі, скажа, што хочаш, толькі не падрывай… Разлік дакладны! Снайпер ты, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Ды хопіць табе!.. Навошта глупствы гаварыць?

К р у п я н к а. Ды не глупствы гэта ўсё – жыццё. Ты вось, дзівак, не дазваляў мне тлумачальную запіску прачытаць… А ўяві… Не, не буду… не трэба… лішняе ўсё гэта… толькі душу вярэдзіць…Прамаўчу. Ну хто мяне за язык цягне?

Я к у ш э н к а. Чаму ж? Сказаў «а», скажы і «б».

К р у п я н к а. Калі толькі моцна просіш?

Я к у ш э н к а. Моцна.

К р у п я н к а. Не дай бог, Якушэнка, здарыцца што... і тваe тлумачальныя будуць чытаць усе, хто не палянуецца... Усю душу тваюператрасуць... пералапаюць...

Я к у ш э н к а. Забітаму не сорамна.

К р у п я н к а. Але ж жывому – сорамна?

Я к у ш э н к а. Жывому – так... *(Парвау паперку на шматкі і рассеяў іх над зямлёй).* Жывому і сапраўды ўсё гэта непрыемна... Не магу выспацца, не магу! Ці хворы я, ці здаровы – ну не ведаю!.. Спаў бы і спаў. *(Пазяхнуў).*

К р у п я н к а. Выспімся. Не на гэтым свеце , дык на тым.

Я к у ш э н к а. На тым не трэба. На спіне мы яшчэ наляжымся...

*Гул варожага бамбардзіроўшчыка. Чырвонаармейцы задралі галовы – праводзяць яго.*

К р у п я н к а. Разведчык.

Я к у ш э н к а. Ён...

*Прыбягае Шыш.*

Ш ы ш (*усхвалявана).* Бачылі?! Над Кругліцай тады таксама ... праляцеў... Мусіць нават і гэты... А потым цэлая зграя іх з'явілася...і зраўнялі вёску з зямлёй...Разам са штабам!.. Каб жа так не было ў нас!..

К р у п я н к а. Дзед, ідзі да бабы! Пад спадніцу! Чуеш? Хавайся там, калі памесцішся!..

*Гул паступова знікае.*

Ш ы ш. Куды ісці, да якой бабы? Цьфу! Баба нікуды не дзенецца. Уся і зброя ў мяне – вілы-варсачы. Імі толькі варон палохаць... А вы, хлопцы, сваё атрымаеце. Дагуляецеся. Папомніце дзеда Шыша.

*Даплывае царкоўны звон.*

Хто гэта? Я ж тут... Хто залез? Гэта ж свавольства! Ну, забрыкай цябе камар!.. Бацюшка мне аднаму даверыў... *(Амаль подбегам знікае).*

Я к у ш э н к а. А старшыны Гусева няма... Вось такія справы. Пайду пагляджу на дарогу... з царквы... Адтуль далёка відаць...

К р у п я н к а *(абыякава).* Ідзі.

*Якушэнка знікае.*

Пісьмо дамоў напісаць  ці што? Можна. І трэба. Толькі пра што, аб чым? Як дошкі збіраем? Як людзі ад нас пахаваліся , з хат не выходзяць? Пра дзеда Шыша, у якога… Ды што дзед! Яго якраз і зразумець можна… за людзей хвалюецца … за сваю Мадору… А вунь бусел на дрэве сядзіць… Адзін… Няўжо сірата?

*Даплывае царкоўны звон.*

Не будзеш жа пра буслоў пісаць, калі вайна, калі страляюць, калі забіваюць. А чаму ты адзін, бусел? Чаму? Я ў цябе пытаю! Ты ж не на яйках сядзіш… ты ж толькі прыляцеў…з выраю…… з цёплых краін, дзе, мабыць, зусім ніякой вайны няма… якія яйкі!.. Матуля! У мяне ўсё добра. Выканаю баявое заданне – напішу больш падрабязна… а пакуль – два словы: жывы… здаровы… чаго і табе жадаю…Тату не сустракаў… а дзе яго можна сустрэць, калі ўсё ў вайне? Клубок! Прывет брацiку Валіку і сястрычцы  Верачцы… Абдымаю і моцна цалую… Ваш сын і брат Сяргей Крупянка. *(Дастаў сшытак, піша пісьмо).*

Б у с е л. Гэта ён мне што гаварыў ці не? Быццам бы паблізу нікога няма. Тады – мне… Далёка, то не чуваць… Калі вецер у мой бок --тады добра чую…Што гэта яны, хлопцы, на адным месцы таўкуцца? Што яны сабраліся рабіць? Спярша дошкі цягалі, тады, відаць, прытаміліся і заняліся абы-чым… Ходзяць узад-уперад, рукамі махаюць… Можа, таксама чакаюць каго? Як я сваю Надзюшу… куды яна падзелася? З учарашняга дня няма… як паляцела на балота вячэрaць, і вось чакаю… Горш няма чакаць… А палячу насустрач – размінемся, бывае… О-хо-хо-о!.. Аднак трывожна робіцца, хваляваццa пачынаю… ніколі такога не было раней, каб Надзюша спазнялася, затрымлівалася недзе… Хаця тады не стралялі, самалёты не гулі чужыя… Цяпер асцярожна трэба лётаць… вельмі… Усім, усім… і людзям, і птушкам цяжка стала… А дзед Шыш той то на царкве сядзіць, то пад царквой… непрыкаяны ён нейкі… такое ўражанне, быццам ён месца сабе не знаходзіць… Ідуць, сюды ідуць…

*Буслiны клёкат.*

*З’яўлюцца Шыш і Якушэнка.*

Ш ы ш (*усхвалявана).* Нячыстая сіла… Нячыстая сіла…не інакш… А што яшчэ можна падумаць? Нікога каля званоў няма, а яны  звоняць … як жывыя… Самі па сабе…

Я к у ш э н к а. Праўда, Крупянка. Ён не хлусіць.

Ш ы ш. Хто –я? Я , маладыя людзі, ніколі не хлушу. Я веру ў бога…. мне нельга хлусіць…

Ш ы ш. Госпадзі! *(Перахрысціўся).* Госпадзі!..

К р у п я н к а. Мы будзем калі-небудзь падлогу рабіць ці не? Для штаба? Мы чырвонаармейцы ці хто?

Я к у ш э н к а. Цішэй, дзед Шыш богу моліцца.

Ш ы ш. Госпадзі! Бачыш, як яно атрымліваецца? Дошак нацягалі хлопцы… для штаба… А вораг ужо, відаць, гэта на заметку узяў… зафіксаваў пэўна ж… І неўзабаве шандарахне з усіх ствалоў па нашай Мадоры… будзе, як у Кругліцы… Вось і прашу цябе ад імя і па даручэнню… адвярні, адавярні ствалы варожыя ад нас… І з неба няхай таксама жалезныя камяні не ляцяць… Прашу цябе… малю… ад імя і па дарачэнню… Ну, а хлопцы… што з іх возьмеш… Зусім дзеці…Яны ж не разумеюць, што робяць… ім – загад… Камандзіраў вінаваціць трэба… іх… Заступіся, божухна!.. Паспачувай!..

К р у п я н к а. Прасі, дзед, каб старшына наш хутчэй вяртаўся з цвікамі. Чуеш? Прасі!.. Гусеў яго прозвішча! Гусеў!..

Ш ы ш. Божухна-а-а-а!..

*Зноў наплывае царкоўны звон: бом!..бом!..бом!..*

*Зацямненне.*

**Д з е я д р у г а я**

*На тым жа месцы.*

*Крупянка і Якушэнка сілкуюцца. Яны сядзяць на дошцы, якая служыць чырвонаармейцам і сталом, і табурэтам…*

К р у п я н к а. А там у нас па сто грамаў раздалі…

Я к у ш э н к а. Не, перад боем толькі нальюць.

К р у п я н к а. Нам. Сабе – далі-узялі… камандзіры. І не пярэч. Бой не бой, а выпіць хочацца… Хоць табе ўсё роўна: не п’еш. А давай я за цябе буду, Якушэнка, куляць?

Я к у ш э н к а. Прывыкнеш…

К р у п я н к а. Не прападаць жа дабру! *(Аблізаў лыжку, паклаў у рэчавы мяшок).*

*Прыходзіць Шыш.*

Ш ы ш *(спакойна-лагодна*). Паказвайце, што ў вас за інструменты з сабой?

*Якушэнка выклаў з рэчывага мяшэчка скрыпку, Крупянка – нехаця, неяк лянiва – кельму i кацялок...*

Ш ы ш. I вы гэтымі інструментамі сабраліся падлогу рабіць?!

К р у п я н к а. Не павышаць голасу. Усё ў старшыны Гусева. Ён усё павінен быў прывезці...

Ш ы ш *(буркліва).* Павінен, павінен! Вось што, хлопцы: не дурыце галаву, едзьце у сваю часць і растлумачце, што да чаго. У вас жа нічога няма. Як, чым зробіце падлогу? Ну, дошак вы сабралі трохі з горам папалам... І ў мяне – ні тапара, ні цвікадзёра... ні малатка. Ды і ў людзей вы нічога сёння не возьмеце. Людзі на вас у крыўдзе. За дошкі.

*Нямко прынёс вядро гліны, высыпаў і знік.*

К р у п я н к а. Пакінь нас, дзед. Прашу цябе: пакінь, іначай!... (*Патрос аўтаматам).*

Ш ы ш. А вось гэта не трэба! Зялёны ты мяне яшчэ палохаць, сынок. Зялёны. Я б хацеў , каб вы пакінулі нашу вёску... Вы! Гэта б было вельмі разумна. Вунь, у Круглiцы

К р у п я н к а. Што ты прывязаўся, стары корч, да гэтай Круглiцы! Задзёўб ужо!.. Круглiца, Круглiца!..

Ш ы ш. Таму што там таксама штаб зрабілі... Куды ён падзеўся, не ведаеце? Самалёты цалялі па штабу, а патрапілі больш  па хатах....вёска, лічы, і згарэла... Людзі цяпер вось зіму бадзяліся ў лесе... галадалі, мёрзлі... І гэты штаб ваш, якога пакуль няма, таксама ў паветра паднімуць самалёты... Не пасылайце нам гора на роўным месцы сярод белага дня, салдацікі! Прашу вас! Ад імя!... Па даручэнню!.. А хочаце, я ўсіх жывых прывяду сюды? Хочаце?

К р у п я н к а. Усё ў цябе?

Я к у ш э н к а. Крупянка!

К р у п я н к а. Адстань хоць ты!.. А як жа ты, дзед, хочаш немцаў біць, а самому ўвесь час цэлым і не пашкоджаным заставацца? Біцца, і каб нос не запэцкаць  крывёю ? Так? Рэдкі, гляджу, ты экземпляр! Варты ўвагі!

Ш ы ш. Харош каваль: каваў тапор, а з тапара шыла, а выйшаў пшык... Глядзіце, каб так не было і ў вас.

*Нямко прынёс чарговае вядро гліны, высыпаў і знік.*

К р у п я н к а. Не, ну знойдзецца заўсёды адзін нехта, хто будзе гудзець над вухам, як камар назойлівы! Лічу да трох!.. Раз!..

Я к у ш э н к а. Крупянка! Ты ж – скульптар.

*Шыш моўчкі пайшоў. З’яўляецца Нямко.*

К р у п я н к а. Нямко, хопіць гліну цягаць! Пасля вайны не будзе з чаго печы рабіць!

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

*Крупянка і Якушэнка месяць гліну босымі нагамі, да іх далучаецца Нямко. І робяць гэта ахвотна і доўга...*

Я к у ш э н к а. У нас пячнік Лёха быў... Ён не толькі печы і грубы людзям рабіў, але і дзяцей малодкам... такіх жа віславухіх, як і сам...Майстравы чалавек быў Лёха... Быццам кажуць, што ён ад сырой гліны моцна зараджаўся энергіяй, а куды траціць тую энергію яму было... Перад самай вайной памёр Лёха... хоць і маладым быў чалавекам... а яго сусед і дружок дзядзька Шура схадзіў неяк на пагост, вярнуўся і гаворыць: Лёха і на тым свеце не прападзе... з кожнага крыжа дым валіць... нарабіў, мусіць жа, і там грубак і печаў... І самагон адзін там жлукціць, гад!.. Не, каб перадаць... каб падзяліцца...

Н я м к о.А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. Мой дзед Аўгей у вёсцы жыве...Гута – так называецца. На бераг рэчкі хаты ўзбеглі, рассыпаліся па ўсім беразе, як цацкі, побач – бярэзнік, далей – сасновы бор... Хлапчуком я ў яго і прападаў... То вось ён і прымусіў мяне, сам таго не падазраючы, палюбіць гліну... Цэглу мы разам рабілі... Саломы нарэжам, гліну размесім, перамяшаем, ператрэм... і ў формы гліну... падсохне – і гатовыя цагліны... паспявай толькі штабляваць іх... Цэгла не надта каб моцная была... сырэц... але не палацы будавалі царскія... нам добра была і свая самаробная... не абпаленая... Будавалі шчаслівае жыццё. Пакуль гэтая абразіна з чубам на ілбе не адшукалася на бяду людскую... Можа кабыла якая яго і згубіла... Хвост задрала, напружылася – і шлёпнуўся Адольф пад ногі нам...Не, каб яго адразу растаптаць – і слядоў не знайшлі б!.. Канчай мясіць! *(Выходзіць з гліны, за ім – Якушэнка, адзін толькі Нямко топчацца па гліне).* Закругляйся! *(Паказаў Нямко пальцам круг, каб закругляўся, аднак той, відаць, зразумеў гэта інакш і пачаў наразаць у цесным карыце круг за кругам).*

Н я м к о.А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

*Крупянка і Якушэнка рагочуць. Потым Крупянка выводзіць з адгародкі Нямко, бярэ дошкі, кладзе іх яму на рукі , круціць яго і так і гэтак: стварае аднаму яму толькі вядомы вобраз чалавека з дошкамі...*

К р у п я  н к а  (*пераможна).* Во! Тое, што і трэба! Так і стой!

Н я м к о.А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

*Крупянка наклаў гліны ў кацялок, узяў кельму… і ў гэты час прыбягае Кацька.*

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Убачыўшы дзяўчыну, кінуў дошкі і ўцёк).*

К р у п я н к а (*затрымаў дзяўчыну).* Не пушчу далей! Ні на крок!..

*Кацька спрабуе вырвацца, але дарэмна: Крупянка надзейна перакрыў ёй дарогу – ні назад, ні наперад.*

Якая прыгожая!.. Якушэнка, адвярніся!

*Якушэнка паслухмяна адвярнуўся.*

К а ц ь к а *(разгублена).* Прапусціце мяне! Я мамцы скажу! Мала не будзе!

К р у п я н к а. Яна-а! Яна-а! Гэта яна клікала на падмогу! Я пазнаў голас!

К а ц ь к а. Ну, я.

К р у п я н к а.  А гэты хлопец, Нямко, хто табе?

К а ц ь к а. Брат.

К р у п я н к а. А што ж ты на брата наляцела, як каршун на куранёнка?

К а ц ь к а. Ён ведае – за што… *(Памахала некуды ў бок кулаком).* Атрымаеш!

*Нясмела з'яўляецца Нямко, коса паглядаючы на Кацьку.*

*Якушэнка знікае.*

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Адцягвае Кацьку ад Крупянкі).* А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а (*да Кацькі).* Што ён сказаў?

К а ц ь к а. Баіцца, дурненькі, што мяне чырвонаармейцы ўбачаць і ўкрадуць.

К р у п я н к а. А я не супраць!

К а ц ь к а. Вельмі трэба.

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а (*Нямко).* Дошкі – у рукі! І на сваё месца!

*Нямко не слухаецца.*

(*Кладзе дошкі на рукі Нямко, таму нічога не застаецца, як пазіраваць).* Пакуль рукі ў яго занятыя, я магу, значыць, і паразмаўляць з табой, а, прыгажуня?

К а ц ь к а. Размаўляй.

К р у п я н к а. А пра што?

К а ц ь к а. Спярша варта было б і пазнаёміцца. Кацька.

К р у п я н к а. Пачакай, а як гэта мяне завуць? Добра помню, што Крупянка, што чырвонаармеец... так-так-так... Сяргей я. Фу-у! Ледзь успомніў. Хоць і чаму дзівіцца? На вайне не Сяргеі – чырвонаармейцы, байцы... Кацька, значыць?

К а ц ь к а. Кацька.

К р у п я н к а. А вось калі мой бацька пазнаёміўся з мамай, то не мог запомніць, як яе па-бацьку... запісаў на паперку... як верш... і заглядваў, пакуль не вывучыў..

К а ц ь к а. Цікава!

К р у п я н к а. Паспрачацца магу і з табой, што не запомніш.

К а ц ь к а. Няўжо бываюць такія імёны?

К р у п я н к а. Як бачыш.

К а ц ь к а. Называй.

К ру п я н к а. Агафангелаўна.

К а ць к а. А і праўда: не паўтару. Здаюся.

К р у п я н к а. Пачакай здавацца... А то брат твой дошкамі як махне, змяце нас з зямлі, як хлебныя крошкі са стала...

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. Трымай, трымай! Я цябе, Нямко, увекавечу. І помнік пакіну пасля сябе... я, значыць, паеду... а помнік застанецца ў вашай вёсцы... муэычок такі... Будзе стаяць...

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. Што ён сказаў?

К а ц ь к а. Ён папярэдзіў, каб ты пасля сябе не пакінуў такі помнік, які спярша гаворыць «гу-га», потым пачынае поўзаць … і яшчэ не адразу будзе стаяць…

К р у п я н к а *(строга Нямко).* Размовы-ы! Ацьтваю!.. *(Зноў ўзяў кацялок з глінай, кельму, патрымаў у руках, а потым паклаў усё гэта перад сабой на зямлю*). Чалавек з дошкамі! Нямко! (*Моршчыцца).* Не, не.. не тое… Што ўчора было добра, тое сёння нікуды няварта. Не той эфект. Пакладзі дошкі і пакінь нас удваіх з Кацькай… так будзе лепш і для цябе, і для ўсяго савецкага мастацтва… якое прагне новых формаў і метадаў спасціжэння рэчаіснасці… Ты яшчэ тут, Нямко?

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. Што ён сказаў на гэты раз?

К а ц ь к а. Сказаў, што дошкі яму таксама да аднаго месца… як і скульптура…

К р у п я н к а. Іш!.. І дошкі! І скульптура? Далёка пойдзем, грамадзяне, далёка! З такім рэзусам!.. З адмоўным, прама скажу, рэзусам!.. Пакладзі, Нямко, дошкі, не мучайся…

*Нямко кінуў дошкі на зямлю. Крупянка ўзяў Кацьку за руку, паставіў на тое месца, на якім ён стаяў.*

К р у п я н к а. Новы час – новыя скульптуры!

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а *(здзіўлена).* Ён зноў нешта сказаў?

К а ц ь к а. Ага.

К р у п я н к а. Разгаварыўся. Раскукарэкаўся. Пакуль я буду рыхтавацца, каб пачаць ляпіць твае прывабныя выпукласці… формы, так бы мовіць … ты, Кацька, раскажы што-небудзь… смачненькае!..

К а ц ь к а. А што?

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Цягне Кацьку за руку, тая не паддаецца).*

К р у п я н к а *(Нямко).* Толькі забярэш яе тады, калі сам і паставіш на тое месца, на якім яна стаіць. Усё зразумела?

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. А калі зразумела, то будзь паслухмяным хлопчыкам, і табе ўсміхнецца шчасце... як усміхнулася яно мне... і не бяда, што пакуль адным вокам... і тое прыплюснутым... Усміхнецца, хлопча! Гліна зачарсцвела, як душа ў адной прыгажуні...

*Кацька пырснула смехам.*

І не пратэставаць! *(Падыходзіць да Кацькі, распранае яе ... што не падабаецца Нямко, той насоўвае на сястру ўсё, што здымае чырвонаармеец).* Дам нарад без чаргі! Два нарады!.. Адставіць!..

К а ц ь к а. Брацік! А ты ведаеш, мне і добра. А калі тваёй сястрычцы добра, навошта ёй перашкаджаць, а, харошанькі мой?

К р у п я н к а *(Нямому).* Ты ўсё зразумеў? Спадзяюся.

К а ц ь к а. Не перашкаджай скульптару Сяргею працаваць. У яго такая праца. У кожнага – свая... хто на што здольны.

К р у п я н к а. Плюс вучоба! Важны момант!

К а ц ь к а. А ты лепш пашукай швейную машынку «Зінгер», якуя схаваў ад немцаў і сам не можаш знайсці....

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а *(весела).* Закапаў, кажаш?

К а ц ь к а. Закапаў.

К р у п я н к а. І не можа знайсці?

К а ц ь к а. І не можа...

К р у п я н к а. Дык давай разам пашукаем?

К а ц ь к а. Ты што-небудзь адно рабі... або... або... або... *(мляўка ўздыхнула)* або ляпі...

*Нямко плюнуў, нешта прамумкаў аднаму яму зразумелае, і знік.*

*Нарэшце Кацька стала прывабнай для творчых задумак скульптара. Ёсць за што яму зачапіцца вокам.*

К р у п я н к а *(не зводзіць вачэй з дзяўчыны).* Не магу. Усё анямела... здранцвела... І рука... і пальцы ... усё дыбам стаіць... не магу зачэрпнуць гліну...

К а ц ь к а. А ты прыгожы...

К р у п я н к а. Памаўчы, Кацька, памаўчы… Пакуль нікога няма… Памаўчы…

К а ц ь к а *( быццам бы сама сабе)* У мяне і брат маўчыць, і ты прапаноўваеш памаўчаць. Краіна маўчуноў.

*З ‘яўляецца дзед Шыш.*

Ш ы ш (*здзіўлена, з захапленнем).* Ай-яй-яй!..

*Кацька і Крупянка павярнуліся на голас.*

Ай-яй-яй!..

Б у с е л. «Ай-яй-яй!» Можна падумаць, што ён распранутых баб не бачыў! Таксама скажа гэты Шыш! А то я не падгледзеў, як суседку ў жыце распрануў і камячыў. Трос, як воўк авечку. Летась. Хоць бы мяне, птушкі, пасаромеліся. Дык не – прама во перад носам раскладіся… Столькі жыта спаскудзілі – нібы смерч прайшоў… «Ай-яй-яй!» Цьфу! А цяпер айкае. Канешне, Кацьку з суседкай не параўнаць… мо таму ён і айкае?

К р у п я н к а. Што ты хацеў, Шыш?

Ш ы ш. А шыш яго ведае, што я хацеў! *( Патаптаўся на месцы, хацеў ісці, але нечага перадумаў).* Дружок твой… на царкве сядзіць… Старшыну чакае… тамбоўскага… Я б вам раіў усё ж пайсці…

К р у п я н к а. Куды?

*Паўза.*

Куды, шаноўны?

Ш ы ш. Адкуль прыйшлі – туды…

К р у п я н к а. Туды паспеем…

Ш ы ш. На, чытай… *(Падаў Крупянку кавалачак паперы).*

К р у п я н к а *(чытае).* «Грамадзяне… германскае камандаванне накіроўвае вас у глыбокі тыл, так як чырвонаармейцы вас будуць абстрэльваць з артылерыі і мінамётаў…» *(Гучна, у бок).* Якушэнка! Ты аўтамат будзеш насіць ці не? Паслаў бог вароне кавалак сыру… палтаўскага… Так, чытаем далей… З артылерыі і мінамётаў… Няма ў нас ўсяго гэтага…Так што спіце спакойна, мірныя людзі!.. Прыдумаюць жа!.. «Жадаючы выратаваць вас ад бальшавіцкіх зверстваў, мы эвакуіруем вас у глыбокі тыл. Бярыце з сабой усе рэчы, коней, калёсы, скаціну. Бярыце з сабой кацялкі і лыжкі, так як па дарозе вы будзеце забяспечаны гарачай ежай. Слухайцеся нямецкага салдата, не хавайцеся і не ўцякайце. Кожны, хто паспрабуе схавацца або ўцячы, будзе застрэлены. Выходзьце на вуліцу і

рухайцеся, куды вам пакажуць нямецкія салдаты...» Ну дык што ж, дзед: шчаслівай дарогі! Толькі кацялок не забудзься! І не ўцякай! А то яны такія добранькія, што за гэта прыстрэляць.

Ш ы ш. Ды не пра сябе я думаю! Як вы ўсе не можаце зразумець! Людзі папрасілі... Народ! Грамада!

К р у п я н к а. Тады схадзі з гэтай паперай... сам ведаеш адрас... А не – дык пакінь, я зраблю гэта... І багата смеццяя гэтага ў цябе, дзед?

Ш ы ш. На год курыць...

К р у п я н к а. Бач, што робяць, гады! Намі палохаюць людзей. Чырвонаармейцамі. Арміяй.

Ш ы ш. Каб жа вы хоць  дошкі не бралі...

К р у п я н к а. Што ты прывязаўся да гэтых дошак? Ну, бабу б у цябе забралі! Бабу! Тады б бядаваў! А ён дошак шкадуе! Вялікая каштоўнасць -- дошкі! Колькі ўсяго вунь разварочана, спалена, разбурана, раскурочана!.. Дык не – дошкі!.. Заладзіў, мужык, а!..

Ш ы ш. Ды я б... бабу сваю і так аддаў... і не пашкадаў бы... бо яна ў мяне халера яшчэ тая. А дошкі – не кратаць!

К а ц ь к а. А мне што – свяціць сабой, ці закругляцца, скульптар?

*Раптам аднекуль здалёк даносяцца стрэлы і чалавечы лямант. Усе знерухомелі.*

Прападзём!.. Прападзём!.. З гэтым штабам!.. Маць яго!..   *(Знікае).*

*Прыбягае Нямко з прасцінай і накідвае яе на Кацьку. Прасціна белая, як першы снег...*

*Зацямненне.*

*Цемрадзь ночы распаласоўваюць тугія промні святла, у якіх снуюць туды-сюды людзі. Чуваць іх галасы – накшталт: «За дошкі!», «Ад Бога!», «Казаў жа: не грашыце, людзі!» Равуць варожыя бамбардзіроўшчыкі. Выбух. Другі... І добра відаць, як узлятаюць высока ў неба разам з полымем дошкі...*

*І раптам на зямлю ападае цішыня. Пасярод вясковай вуліцы ляжыць Крупянка. Ён з цяжкасцю адрывае ад зямлі галаву, павольна ўзнімаецца... З той жа цяжкасцю перастаўляючы ногі, падыходзіць да Кацькі, рыўком зрывае з яе прасціну...  І мы бачым замест дзяўчыны, маладой і прыгожай, старую бабульку...*

*Бабулька знікае.*

К р у п я н к а . Якушэнка-а-а-а!

*На дрэве, дзе сядзеў Бусел, боўтаецца на адной струне скрыпка. Крупянка зняў яе, і загучаў чардаш «Монці», які павінен быў бы сыграць Якушэнка, але не паспеў...*

*На вачах Крупянкі блішчаць слёзы.*

Гэта ты граеш, Якушэнка?

Я к у ш э н к а. Я.

К р у п я н к а. Добра. Грай. Мы ўсе паслухаем. Пачакай, а старшына Гусеў там, з табой?

Я к у ш э н к а. Не, не сустракаў.

К р у п я н к а. Тады цвікі ён прынясе. Як жа так – каб старшына, воўк тамбоўскі, ды не прынёс. Быць не можа. Ён прынясе. І тады мы саб'ём дошкі... станем на іх... прыціснем да зямлі... і ніякой больш пачвары не дадзім, каб іх разнялі...нават рыпнуць не дазволім! Рыпнуць! Ведай, Якушэнка! Ведай! А мяне даруй...

Я ку ш э н к а. За што, Крупянка?

К р у п я н к а. За тое, што абяцаў цябе выляпіць у гіпсе без лычак яфрэйтарскіх... на помніку... Не хвалюйся... я ведаю, што гэта значыць -- палтаўскага хлопца выляпіць без лычак... Вышэйшая абраза... гэта яшчэ горш, чым у твар самаму лютаму ворагу плюнуць...

Я к у ш э н к а. Я не хвалююся...

К р у п я н к а. Спускайся.

Я к у ш э н к а. Не ведаю дарогі...

К р у п я н к а. А ты папытай у каго-небудзь.

Я к у ш э н к а. Пытаўся... ніхто не ведае дарогі назад... толькі сюды, на аблокі, усе дарогу ведаюць... А назад – не...

К р у п я н к а. Аўтамат хоць забраў з сабой?

Я к у ш э н к а. Ён там схаваны, дзе і швейная машынка «Зінгер»... Сюды з аўтаматам не пускаюць... Таму гэта адзінае месца, дзе не бывае войнаў... У тых, хто лезе сюды са зброяй, адбіраюць і закідваюць...

К р у п я н к а. Хто?

Я к у ш э н к а. Асілкі з валасатымі рукамі і нахабнымі рыламі... Крупянка!

К р у п я н к а. Чаго табе?

Я к у ш э н к а. А дзяўчына тая, Кацька, дзе?

К р у п я н к а. Згубіў... Як загрымела ўсё – нічога не помню... ачуняў... а вакол – ні душы... Ні бусла на дрэве, ні дзеда Шыша... І Кацькі няма... Чамусьці і мне здаецца, што мяне –таксама няма...

Я к у ш э н к а. Ты – ёсць, калі на зямлі...

К р у п я н к а. Якушэнка, а ты цалаваўся з дзяўчынай?

Я к у ш э н к а. Шчыра?

К р у п я н к а. Так.

Я к у ш э н к а. Не. Ніколі. І ніколі блізка з ёй не быў...

К р у п я н к а. І я.

*Паўза.*

А хваліўся ж!

Я к у ш э н к а. Хваліся і ты.

К р у п я н к а. Пайду Кацьку пашукаю.

*З'яўляецца Бабулька, але яе не заўважае Крупянка – ён хоча ўбачыць тую дзяўчыну, якую пакахаў з першага позірку, а  не старую бабульку, якой Кацька стала праз гады..*

*Бабулька знікае..*

*З'яўляецца Нямко, нясе на выцягнутых руках швейную машынку «Зінгер».*

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а. *(Пакругляў – і знік).*

Кацькі няма. Няма Кацькі... Шукаў, думаеш не? Не паверыш, Якушэнка... перад самай вайной я на танцы хадзіў... Падыходжу, каб дзяўчыну запрасіць, чакаю, калі яна павярнецца да мяне... Яна і павярнулася... Але калі я на яе паглядзеў – увесь аслупянеў... у роце трымала яна соску... якраз такую, якую даюць дзецям. Соску-забаўку... з хвосцікам...

*Якушэнка рагоча.*

Ты што, не верыш?

Я к у ш э н к а. Не!

К р у п я н к а. Ніхто не верыць, каму не скажу. А яна, дзяўчына тая, была з соскай. Прыгожая… з вялікімі на ўздзіў цыцкамі… усё пры ёй… а – з соскай. Нават калі вальс кружыць пачалі, яна соску з роту не выняла… так і кружылі: я – з незразумела якім тварам, з такім жа тварам і яна… Уяўляеш? Дзяўчына – з соскай?

Я к у ш э н к а. Не!

К р у п я н к а. Сяброўка, якая з ёй на танцах была, калі я запрасіў яе на вальс, працягнула руку: давай, кажа, соску патрымаю. Але яна зрабіла выгляд, што не пачула… Так і кружылі… Ты вер мне, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Добра. Буду.

К р у п я н к а. Абед хоць даюць, Якушэнка? Кормяць?

Я к у ш э н к а. Мне не хочацца есці. Няма апетыту.

*Нямко знікае.*

К р у п я н к а. А-а, дык ты і там на дошцы сядзіш, Якушэнка? На той, якую з царквы садраў?

Я к у ш э н к а. Тут усюды дошкі, дошкі, дошкі… І на кожнай чалавек сядзіць…і плыве некуды, плыве… як на дыване-самалёце… А старшыны Гусева не бачу… Няма старшыны!.. Няма-а!..

К р у п я н к а. Кідай сюды дошкі! Там багата, а ў нас – няма! Размяркуй, каб не крыўдна было. Навошта іх на небе столькі? У нас жа загад! Яго ніхто не адмяняў! Заўтра штаб прыедзе!.. Кідай, Якушэнка, дошкі! Чуеш мяне? Без дошак не пераможам!.. Кідай, Якушэнка! Дзякуй, выручыў! Дзякуй, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Ловіш, Крупянка?

К р у п я н к а. А то каб міма мяне што праляцела! Такому не бываць, Якушэнка! Ляцяць дошкі, ляцяць!.. Як птушкі!.. Як зоркі!.. Адна!.. Дзве!.. Тры!.. Пяць!.. Дзесяць!..

Я к у ш э н к а. Калі хопіць – скажаш!

К р у п я н к а. Іх нам багата трэба!.. Дваццаць!.. Сто!.. Колькі дошак!.. Ура-а-а!..

*І Крупянка прыпаў на адно калена, схіліўшы наперад аўтамат, і нібы закамянеў – сам зрабіўся помнікам… А за ім з'яўляюцца Якушэнка, Нямко, Шыш, Кацька і Бабулька з кветкамі.*

Б а б у л ь к а. Дошкі тут павінны недзе быць… Не бачылі, людзі? Хлопчыкі , салдацікі, у вайну гулялі тут з імі, з дошкамі … маладзенькія… прыгожанькія хлопчыкі… Асабліва той, што гліну ў далоньках сваіх песціў… гушкаў камячкі, нібы мамка дзіцятка сваё…нібы калыханку для яе спяваў… як жывая была гліна ў ягоных руках… Дошкі трэба мне… Паплыву я на іх да хлопчыкаў… Ў неба… На спатканне… Да іх… Зачакаліся, родненькія мае… Даўно ж чакаюць…Палячу… Пара… Кветкі гэтыя – ім… Абрадуюцца…

З а с л о н а.

# КВЕТКІ
# І ТАЙНАЕ КАХАННЕ МАКІЗАРА

*Казка для дарослых у дзвюх дзеях*

Д з е й н і ч а ю ц ь:

Людзі:

М а к і з а р, стары.

П о л ь к а, яго старая.

Д а ч н і к.

С т р а л о к.

К у д а н, інструктар ціра.

Кветкі:

Н е з а б у д к а.

Р а м о н к а.

Р у ж а.

Н а р ц ы с.

А д у в а н ч ы к.

С л а н е ч н і к.

Птушкі:

В е р а б е й.

*Час дзеі – нашы дні.*

*Месца – у вёсцы: у кветніку і побач з ім на двары, на вуліцы, а таксама ў гарадскім стралковым ціры.*

**Д з е я п е р ш а я**

*Вясковы двор. Па тым, што ён хораша дагледжаны, адчуваецца: тут жыве моцнай рукі, клапатлівы гаспадар. На падварак глядзяць-усміхаюцца вокны прыгожага дома з блакітнымі аканіцамі, ганак служыць адначасова і альтанкай, дзе іншы раз, улучыўшы момант, можа прысесці адпачыць і сам Макізар. Макізар – гэта з вайны, а чаму, даведаемся траха пазней. Аднак прыляпілася гэтая мянушка да Дзмітрыя Паўлавіча Салаўя вельмі моцна: Мкізар ды Макізар, іншыя, мабыць, і зусім забыліся, якое сапраўднае прозвішча ды імя ў чалавека.*

*Старая ў нашага героя простая вясковая жанчына Полька. Бывае, што ўспыхне, як маланка, але тут жа адыходзіць. «Астывае, як чайнік на пліце», – кажа пра яе, падкручваючы свае вусы, Макізар. Жывуць яны ў ладзе і згодзе, аднак, як і ў кожнай нармальнай сям'і... адным словам, самі разумееце. Бывае ўсяляк. Не без гэтага.*

*Дзеці, дачка і сын, асвойталіся ў вялікім горадзе, наведваюцца не толькі па святах і калі патрэбна гуманітарная дапамога ад бацькоў. Дапамагаюць яны, у першую чаргу, пасадзіць і прыбраць агарод – тут ім не адмовіш: малайцы. Аднак з імі блізка мы так і не пазнаёмімся. Хаця, магчыма, асобныя рысы дзяцей будуць праглядвацца ў кветках...*

*Гонарам жа гэтага падворку, так-так, з'яўляецца кветнік, дзе казачна багата розных кветак. Яны – асабісты клопат Макізара. Цалкам.*

*Пакуль – досыць тлумачэнняў. Усё астатняе – наперадзе. Хаця іншыя ў гэтую гісторыю могуць і не паверыць. А ці трэба? У нашым жыцці так мала казак для дарослых. Няхай хоць на адну стане болей. Згодны?*

*З вялікай садовай лейкай з'яўляецца на двары Макізар.*

М а к і з а р *(углядаючыся ўдалеч).* Сонца прыгожа заходзіць. Чырвоным дыскам. На мой берэт падобнае. *(Спахапіўся).* А...а... а дзе ж

гэта ён? Ага! Ёсць! Далёка не схаваўся!..*(Дастаў з кішэні берэт чырвонага колеру, разгладжвае, апранае. Да кветак).* Не просты берэт – французскі. Фраерскі, можна сказаць. Піжонскі!..*( Шчыра красуецца перад імі).* Ну, і як мы яшчэ, кветачкі? У вас, у вас цікаўлюся? Правільна, усё вы дакладна і граматна заўважылі... Яшчэ можам, можам!.. *(Малайцавата прытупнуў нагой, непасрэдна).* Родныя мае!.. А вы - та думалі!.. Чым не арол стары Макізар? Вы - та ведаеце, усё вы ведаеце... ды сказаць толькі нічога не можаце мне. А паміж сабой, здагадваюся, так гамоніце, так пляткарыце!... Асабліва нявесты... Ды і хлопцы цяпер!... Вунь Нарцыс... *(Нарцыс высока задраў нос, важна паглядзеў па баках).* Круты хлопец, нічога не скажаш!... Та-а-ак!.. У вас свае дзеясловы і назоўнікі... Таму і называецеся... Свой алфавіт... Я, магчыма, пры вас і лішняе што калі ляпну сваім языком, непатрэбшчыну якую, аднак жа вы мяне ніколі, ні на грам не выдасце... хаця і разумееце, нікольківя ў гэтым не сумняваюся, пра што апавядае іншы раз стары Макізар, а сказаць мне нічога не скажаце... І я ж вас, любыя мае, таксама разумею, а як жа!.. Як родных дзяцей... Ды з вамі яшчэ і лягчэй размаўляць, чым з тымі: без капрызаў, без прэтэнзіяў. Паліў вадзічкай – і размоў тых!.. (*Спахапіўся).* Ды чаго ж гэта я стаю і байкі баю? Вас і на самой справе паліць трэба, а то на тры вяршкі ад зямлі вунь вытыркнуліся... Непарадак. Хвалю Нарцыса, а ён скукошыўся ўвесь, як закарэлая ляпёшка з-пад каровы... Расці трэба. Расці. Зямлю радаваць. І нас , людзей... Прыгажосцю сваёй... А як жа!.. Толькі так, і не інакш. Радаваць, дзеці мае! *(Палівае кветкі з лейкі, і тыя спакваля, але разам, дружна падцягваюцца, выпрамляюцца на ўвесь свой рост: Незабудка, Рамонка, Ружа, Нарцыс, а таксама Адуванчык, які ўвесь час хаваецца ад старога за спіну Рамонкі, і прыгажун Сланечнік).* Вось цяпер я магу і адпачыць. Пасяджу на ганку, пачытаю сваю любімую газету «Пенсіянерскую праўду». *(Садзіцца, праглядвае газету, а заадно размаўляе з Полькай, якая шчыруе недзе ў сенцах каля газавай, мусіць жа, пліты).* Полька, га, Полька, ты мяне чуеш?

Г о л а с П о л ь к і. А каго мне яшчэ, акрамя цябе?..

М а к і з а р. Гэта так. Анекдот хочаш новы?

Г о л а с П о л ь к і. Калі не брыдкі толькі...

М а к і з а р. Які прапанавалі. Не сам прыдумаў. А я заўсёды да друкаванага слова адношуся з павагай, калі нават тое слова і кепскага гучання... калі нават і агіднае... Слухай!

П о л ь к а *(паказалася на ганку з гарлачом, налівае у кружку малако).* На, спярша выпі. Свежанькае.

М а к і з а р. Пасля анекдота. Не зарабіў пакуль яшчэ. Так, дзе гэта ён? Ага!..

*Полька  паставіла кружку з малаком на брылёк ганку, села побач з мужам. Як у кіно ці ў тэатры.*

П о л ь к а *( штурхае).* Запрагай!

М а к і з а р. Пачакай, зараз паедзем… тут іх некалькі… Адрэцэнзірую… каб па бярэце не атрымаць. Ага, вось гэты будзе для цябе самы раз. Не брыдкі, не-е… з майго пункту гледжання. *( Чытае).* «Мая другая жонка пазнаёмілася з маёй першай жонкай, а потым яны разам пабілі маю будучую жонку…»

*Полька  хмыкнула.*

М а к і з а р. Згодны: дрэнь, абы-што! Тады вось: «Жонка кажа мужу: «Дарагі, калі ты першы памрэш, я, напэўна, таксама адразу пайду за табой». Муж адказвае: «Не спяшайся. Дай мне  хоць трошкі адпачыць…»

П о л ь к а *(рашуча ўзнялася, схапіла кружку з малаком, выліла яго назад у гарлач).* І не сорамна такое гаварыць?.. Налью малака, калі раскажаш правільны анекдот! *(Знікае ў сенцах).*

М а к і з а р.  Ну, што тут паробіш!.. Не дагадзіў і на гэты раз сваёй бабе! *(Зняў берэт,  павесіў на штыкеціну).* Быццам бы я сам той анекдот прыдумаў… Ну надрукавана ж! Вось тых друкароў і не частуй малаком, антыхрыстаў! А я тут прычым, а? Ну, баба!.. *(Крычыць).* Цябе б, ты чуеш мяне, старая, цэнзарам над газетамі паставіць, то ніводная не выйшла б!.. Бач ты яе, рэдактарша!..Надрукавана ж!.. Нашымі, законнымі літарамі!.. Без акуляраў чытаюцца. Раней дробненькімі  друкавалі, калі аварыя якая дзе ці што… акуляраў на ўсіх не хапала, то і мала ведалі, што, дзе і як. Самалёт разбіўся, а мы песні гарлапанім. Урачыстыя. Ці калі «Камсамолец» затапіўся… Таму што  недасведчанымі былі…. Аднак жа сёняя ўсё стала адным вялікім… вялікім… Ды якая розніца, чым што стала!.. Абы было!.. Літары – во-о!   *( Паказаў, якія сёння літары, махнуў рукой, паправіў берэт на штыкецінe, і ў гэты самы момант на двор асцярожна, нібы крадучыся, заходзіць з радыёпрыёмнікам Дачнік).*

Д а ч н і к *(у захапленні).* Якія у вас кветкі!.. Божа-а!.. Начуты, хлусіць не буду, даўно, а бачу ўпершыню. Так-так, якое ж гэта хараство!.. Як гэта прывабна!.. Няма слоў, няма!… *(Захапляецца кветкамі).* Вы акадэмік, Мічурын у кветкаводчых справах,  дзед Макізар! Без перабольшвання!.. Так-так!.. Чаму, чаму ў вас растуць кветкі, а ў суседзяў, ну вось побач, за гэтым парканам, – толькі бур’ян і лебяда? А вы загадайце ім тую ж лебяду вырошчваць ці той жа бур’ян, і ў іх нічога не атрымаецца: нічога не вырасце, нічога!.. А самасевам – калі ласка!.. Чаму так, шаноўны, а?

*Макізар  адчувае сябе няёмка, не ведае, што  адказаць госцю: не прывык, каб яго так хвалілі.*

Д а ч н і к. Не будзьце такім сціплым. Сціплых людзей не бывае – толькі іншым няма чым пахваліцца!.. Так-так!..

М а к і з а р *(загадкава, з непрыхаваным пачуццём радасці).* Закаханы…

Д а ч н і к. У кветкі, так? Я вас правільна зразумеў?

М а к і з а р. Закаханы… А якая розніца – у каго, у што?

Д а ч н і к. Пераканаўча! Вельмі пераканаўча!.. Выбачайце, гэта я з вамі павітаўся, калі зайшоў? Не помніце?

М а к і з а р. Не так важна. Дробязі, пустэльга… павітаўся не павітаўся.

Д а ч н і к. Не, не вельмі хораша атрымліваецца… Я павінен павітацца… Добры дзень, дзядуля! Лепш, як кажуць, пазней… ага… чым ніколі… Калі ж на кветкі адразу глянуў – і забыўся, здаецца, пра ўсё на свеце… Прыгажосць неапісальная!… Казачна!.. Чароўна!…

*Кветкі паводзяць сябе па-рознаму, і з боку за імі цікава назіраць.*

М а к і з а р. Ну, тады… прывет, Дачнік! З чым да нас завітаў? Што хвалюе, непакоіць? Калі не сакрэт?… Можа, у хату зойдзем?

Д а ч н і к. Не, не! Тут пагамонім, на двары. Паветра якое, а!.. Піў бы і піў!.. Нагбом!..

М а к і з а р *(уздыхнуў).* Калі б яго, паветра, толькі і пілі. А паветра ў нас і сапраўды чыстае і салодкае. Што праўда, тое праўда. Я калі ў горадзе бываю, доўга вытрымаць не магу – хутчэй дамоў! Тут і дыхаецца лягчэй, і на апетыт не паскардзішся. Хораша дома! *(Кіўнуў на прыёмнік).* Радыё слухаеш?

Д а ч н і к. Не. *(Паглядзеў на радыёпрыёмнік).* Гэты апарат не слухаю. У мяне новы ёсць. А «Мерыдыян» табе прынёс. Возьмеш?

М а к і з а р. Мне? А мне навошта?

Д а ч н і к. Слухаць будзеш. Як, а?

М а к і з а р. Калі ж мне слухаць яго, братка дачнік? Калі? Тут за дзень так зморышся, што ледзьве да ложку дапаўзеш. Забываюся, бывае, што баба побач ляжыць, жонка. Заляцаюся вось толькі з імі, з кветкамі… Тут не стамляюся. Шчыра кажу. Але ж і іншых спраў хапае. Так што даруй…

Д а ч н і к. Так гэта яно… так… і сапраўды… А, можа, не кожны дзень так стамляешся? Ёсць жа, мусіць, дні, калі можна і паслухаць? Лёгкія дні?

М а к і з а р. Ёсць, бываюць... Зімой. Дык тады я прырастаю да тэлевізара, як сабака да косткі. Вось каб ты мне раней прэзентаваў гэты апарат, калі вартаваў на кароўніку, – вось гэта быў бы той цымус! А ён, відаць, даўно ў цябе?

Д а ч н і к. Даўно.

М а к і з а р. А чаму ж раней не прынёс?

Д а ч н і к. Тады ў мяне новага не было.

М а к і з а р. А-а-а! А цяпер, дзякуй, не трэба. Позна. Хочаш, я табе і так шкляначку налью?

Д а ч н і к. Не, не, не! Я ж не п'ю. Па святах толькі. А прыёмнік я так аддаю. Бясплатна.

М а к і з а р *(здзіўлена).* Так? Бясплатна?

*Дачнік у знак згоды часта трасе галавой.*

М а к і з а р. А калі бясплатна, тым больш не вазьму. Не такія мы багатыя, каб на гуманітарку кідацца. Ды і папракнеш пры выпадку. Папросіш чаго-небудзь у мяне, а я не дам. І ты скажаш: я яму прыёмнік бясплатна аддаў, а ён, скнара, мне пашкадаваў... ну, да прыкладу, букет кветак... Магчыма такое?

Д а ч н і к. Ды не, напэўна.

М а к і з а р. Заходзь, калі што...

Д а ч н і к. Рэч добрая. Мне на заводзе, калі на пенсію адпраўлялі, новы падарылі, а гэты без справы стаіць. Усе хвалі бярэ, між іншым. І доўгія, і кароткія. Я ўжо пра сярэднія не гавару. Працаўнік. Хоць Лондан, хоць Германію...

М а к і з а р. А-а, наслухаешся і Лонданаў тут, і Германій, калі я нямецкую мову ведаю толькі ў праграме палону... *(Раптам).* А Францыю, Францыю бярэць?

Д а ч н і к *(пытанне застала знянацку).* Францыю, кажаш?

М а к і з а р. Ну так!.. Дзе Клярмон-Ферран!..

Д а ч н і к. З Францыяй, скажу шчыра, не сутыкаўся, аднак, падобна на тое, у ёй ты, дзед, у палоне якраз і не быў? А мова там больш складаная, мабыць. Больш мудрагелістая.

М а к і з а р. Не, ты не маеш рацыі, Дачнік. Гэта пра нямецкую мову я так сказаў... не падумаў, і ляпнуў. Але ж звычайна зносішся не з мовай,

хоць і на мове, а з чалавекам. Па сабе мяркую. Даводзілася… І калі чалавек добры, сардэчы, з душою, пагамоніш з ім у абавязковым парадку, не ведаючы і мовы. Рукі ёсць. Вочы. Вушы. Вось яны і выручаць. Яшчэ ўсмешка на твары… Ведаеш, што такое макізар?

*Дачнік адмоўна круціць галавой: не.*

М а к і з а р.Так што пра Францыю не гавары.. Францыя – гэта, брат, табе не фунт ізюму!..

*Раптам на старога нагарнуліся ўспаміны, і чуваць трасканіна стрэлаў, рэха выбухаў, адчайныя крыкі людзей на чужых мовах, і голас, здаецца, яго, Макізара: «Па кветках не страляйце!.. Па кветках не страляйце!.. Па кветках!...»*

*У гэты час кветкі ў кветніку кветкавода Макізара рэагуюць на ўсё гэта так, як рэагуюць людзі, калі недзе побач ідзе вайна...*

*Дачнік моўчкі знікае. Потым знікае ў сенцах і Макізар.*

А д у в а н ч ы к *(пацягнуўся, задаволена).* Х-хе-хе! Спрытна я прыляпіўся да вас! І мяне паліў вадзічкай ваш гаспадар. Цяпер я пабегаю, дзе пажадаю. Палётаю па ўсёй аселіцы!.. Прыгажосць!..

Р у ж а. Ой, не хваліся, Адуванчык! Дабегаешся! Дзьмухне хто на цябе ці нават ненаўмысна чыхне, і без галавы застанешся.

*Сланечнік смяецца.*

Р у ж а. А ты чаго смяешся, Сланечнік?

С л а н е ч н і к *( нібы і з крыўдай).* А што, нельга? Забаронена?

Р у ж а. Можна, чаму ж… Пакуль Верабей не прыляцеў і не пачаў, нібы цвікі забіваць, здзекліва латашыць сваёй дзюбай па тваёй фізіяноміі.

*Смех.*

Н а р ц ы с. А калі яшчэ і сяброў сваіх прыхопіць – тады, Сланечнік, ты зусім прапаў.

С л а н е ч н і к. Ды хопіць вам! Ды будзе!.. Можа, і не прыляціць…

Р а м о н к а. Сумняваемся мы, аднак.

С л а н е ч н і к. Хто б гаварыў!.. Пачакай, пачакай, вось неўзабаве з’явіцца тут, у кветніку, стары і пачне на табе варажыць: кахае – не кахае… І ўсё твае пялёсткі паляцяць на дол, мне пад ногі…

Р а м о н к а. У мяне пялёсткаў шмат. Няхай варожыць добры Макізар. Яму можна. Тым больш, што яго нехта і недзе кахае... Я здагадваюся.... *(Самотна ўздыхнула).* Нялёгка чалавеку. *(Кліча).* Незабудка!

Н е з а б у д к а *(схамянуўшыся).*А?

Р а м о н к а. Хопіць дрыхнуць. Ноччу што рабіць будзеш?

Н е з а б у д к а. Стаяць і спаць. Як заўсёды. А што?

Р а м о н к а. Вось Незабудка толькі ведае ўсё пра каханне старога Макізара. Толькі яна адна. Раскажы, Незабудка?

Н е з а б у д к а. Не-а. Яшчэ не час.

Р у ж а. Ды хопіць табе, Незабудка! Цікава ж!

А д у в а н ч ы к. Яшчэ як!

*З'яўляецца Верабей.*

Р у ж а *(Сланечніку).* Ну, а я што гаварыла?

С л а н е ч н і к *(адвярнуўся ад Вераб'я, буркліва*). Калі ён ужо нажрэцца?!..

В е р а б е й *( павярнуў за вушы галаву Сланечніка на сябе).* На сонейка! На сонейка!.. Тады семкі хутчэй спеюць. Вось так. І не трымці!..

С л а н е ч н і к *(дагаджаючы).* Добры вечар, панове!

В е р а б е й. Які вечар? Дзе ён? Светла ж!

С л а н е ч н і к. А я калі цябе ўбачу, у мяне ў вачах адразу цямнее.

В е р а б е й. А, зразумела, зразумела, радасць мая. Ну, дык што, прыступаем?

С л а н е ч н і к. Хоць бы амністыю якую нам, сланечнікам!..

В е р а б е й. Пакуль я лятаю пад дахам улады – не дачакаецеся! *( Пачаў апантана кляваць Сланечнік).*

*А кветкі, спачуваючы Сланечніку, моршчацца бы ад уласнага болю, захінаюць твары чым толькі можна, затуляюць вушы...*

В е р а б е й. На сёння досыць. І глядзі ў мяне – на сонейка, на сонейка!.. *(Знікае).*

Н а р ц ы с. Сапраўды, не пазайдросціш табе, Сланечнік.

Р у ж а. Лёс!..

Р а м о н к а. У кожнага з нас ён свой…

Н е з а б у д к а. А ў тым годзе, хіба ж не помніце, яму адразу галаву адкруцілі, Сланечніку. Ён нават і пікнуць не паспеў. Што, забыліся?

Р у ж а. Ды помнім!

Р а м о н к а. Як забыць такі генацыд!

*З'яўляецца Макізар. Звярнуў увагу, што не збярог Сланечнік ад шкоднай птушкі.*

М а к і з а р. Што, зноў гэты пракляты Верабей нашкодзіў? Ах, нягоднік!.. Пачакай у мяне!.. *(Пагладзіў Сланечнік).* Даруй, не збярог. *(Знікае, адразу ж вяртаецца з панчохай, нацягнуў яе на Сланечнік).* Дулю яму, а не семкі! Цяпер парадак!.. *(Падыходзіць да Рамонкі, зрывае адну кветку і варожыць).* Кахае – не кахае, кахае – не кахае… *(Абарваў усе пялёсткі).*

П о л ь к а *(з'явілася на ганку).* Зноў за сваё?! Зусім, гляджу, здзяцініўся ты, Макізар? Ішоў бы лепш што рабіць карыснае. Работы поўна, непачаты край, а ён дурасцю займаецца!..

М а к і з а р *(абараняючыся).* Ды на цябе ж, на цябе варажу. Як ты зразумець не можаш?

П о л ь к а. Я і так ведаю, што любіш толькі мяне. Але ж навошта кветкі псаваць? З чым я на базар паеду?

М а к і з а р. Ды хопіць табе, на базар! Усё трамбуеш, трамбуеш панчоху! З сабой, хіба што, панясеш?

П о л ь к а. Дзеці ёсць. Ці ты ўжо з-за гэтых кветак зусім пра іх забыўся?

М а к і з а р. Помню. Як жа… Дзеці самі пра сябе паклапоцяцца. Не маленькія. І вывучыліся, дзякаваць Богу. За дзяцей не хвалюйся. А кветкі я вырошчваю не дзеля грошай. Запомні гэта раз і назаўсёды. З-за кахання… Гэта я табе шчыра кажу. Адна ты толькі ў кветках прыбытак убачыла… А па мне б!… *(Махнуў абыякава рукой).*

П о л ь к а. Ды па табе!.. Герой!.. І трава не расці!… А Рамонку пакінь у спакоі. Бач ты яго, усю зямлю вакол яе пялёсткамі засеяў!.. Сейбіт!.. Баламут стары!.. Трэба ж, га!.. Падыйдзі да мяне і папытайся, калі табе так цікава… І я адкажу: так, кахаю, кахаю толькі цябе, чорта старога! Каго ж яшчэ? Ды ў нашым Сінічкіне? Ды яшчэ ў мае гады?..

М а к і з а р. Няпраўда.

П о л ь к а. Што... няправда?

М а к і з а р. Пра гады.

П о л ь к а. Ну-ка, растлумачвай!

М а к і з а р. Кахаецца ў любыя годы, калі ёсць каханне...

П о л ь к а. Дзе яно ёсць, тое самае каханне?

М а к і з а р. Недзе пад адзежай.

П о л ь к а. Голы хадзі, каб я бачыла яго!.. *(Знікае).*

М а к і з а р *(цяжка ўздыхнуў).* Эх, Полюшка!.. Калі б я на цябе варажыў!.. Хаця, прызнаюся, прывык і нічога.... здаецца нават, што цябе таксама кахаю... Бывае! *(Знікае).*

А д у в а н ч ы к. Сланечнік, ты жывы?

С л а н е ч н і к *( з нянавісцю).* Я б гэтага Вераб'я!..

Р у ж а. Хрэн рэдзькі не саладзейшы. І Макізар наш адгарадзіў цябе ад белага свету.

С л а н е ч н і к. Атрымаў бы ты пару разоў па сваёй мордзе, тады я паглядзеў бы!.. Няхай лепш ужо так!..

А д у в а н ч ы к. Вы як хочаце, а я пабег.

Р у ж а. Не губляй толькі галаву!..

А д у в а н ч ы к. Здалася вам мая галава!..

Р у ж а. Яна прыгожая ў цябе.

А д у в а н ч ы к. Ды ведаю, ведаю!.. Я хутка вярнуся!... *(Знікае).*

Р у ж а. Ромонка, Незабудка!

Р а м о н к а  і  Н е з а б у д к а. Чаго табе, Ружа?

Р у ж а. Няўжо вам складае цяжкасць задаволіць жаночую цікаўнасць, суцешыць, насыціць, у рэшце рэшт, жаночую дапытлівасць?Варожыць жа на кагосьці наш гаспадар! Вядомая справа, што не на сваю ж старую!..

Н е з а б у д к а. Не, нельга. У нашага Макізара тайнае каханне, і няхай хоць да пэўнага часу, няхай як можна больш будзе заставацца таямніцай ягонае светлае, шчырае пачуццё!..

Р а м о н к а. Гэта, мусіць, і правільна. Што нам ад таго? Ну, даведаемся?.. Адуванчык-Дзьмухавец разнясе па ўсім белым свеце. А калі застаецца тайна хоць у чым, тады цікавей жыць, пагадзіцеся?

Р у ж а. Няма ўжо яго, Адуванчыка.

Р а м о н к а. А ты больш уважліва агляніся вакол сябе. Там недзе, магчыма, новы Адуванчык лезе з зямлі. Як шахцёр які. Распраміць плечы, падаб'е пяцярнёй шавялюру, і скажа: «А вось і я! Дык пра што гэта мы тут, паважаныя цёткі і дзядзькі, размаўлялі? Успамінайце, успамінайце! А я, прабачце, пабег!» Ён можа і пабегчы, таму што вольная птушка, пустазелле, а мы прывязаны да аднаго месца… без гаспадара ні кроку. Так што паберажэм нашага добрага Макізара!..

Р у ж а. Згодна. Няхай будзе і так.

*З'яўляецца Макізар. Узяў на штыкеціне берэт, паглядзеў на неба.*

М а к і з а р. Будзе дождж ці не? *(Кветкам).* Для вас было б някепска. Дажджавая вада смачная. Вы яе любіце, я ведаю. Як мужчыны добрае віно. Хутка цямнее.*(Падышоў да кветак, гладзіць іх, пяшчотна і далікатна, нешта папраўляе).* Вось так… Не крыўдуйце на мяне, калі што не так. Спакойнай ночы вам. І табе, Сланечнік, таксама… Цяпер Верабей цябе не кране… Хаця пачакай!.. *(Зняў панчоху).* Уночы ён не прыляціць, пад страхой спаць будзе, а табе лягчэй дыхаць. Ну, да раніцы!.. *(Знікае).*

*На небе запальваюцца зоркі, зачапіўся над вёскай плюскаты месяц, а ў Макізаравым кветніку перашэптваюцца кветкі… Месяц свеціць так ярка, што хоць іголкі збірай… І ў гэты час з'яўляецца Адуванчык. Без сваёй шавялюры, ці, дакладней, без галавы.*

Р у ж а. А я што табе гаварыла?

Р а м о н к а. А я? Згубіў усё ж галаву?

А д у в а н ч ы к. Так, сябры мае, так! Згубіў! І я шчаслівы, што ўсё так і атрымалася! Закахаўся!.. *(Заняў сваё месца ў кветніку).*

*Паўза.*

Р у ж а. Ну, правільна… Адны губляюць галаву, калі закахаюцца, іншыя, калі здзейсняць які-небудзь недарэчны ўчынак. Але гэта, здаецца, адно і тое ж…

*З'яўляецца Дачнік. Паставіў перад кветкамі радыёпрыёмнік, з якога плыве прыгожая мелодыя… І адразу ж ён знікае.*

*Зацямненне.*

*Раніца наступнага дня. На ганку з'яўляецца Макізар, пацягваецца, а потым падыходзіць да кветак.*

М а к і з а р. Добрай раніцы! Ну, як вы тут? Ружа, ты чаму гэта галаву павесіла? Весялей, весялей будзь! Дзе твая жаноцкасць? Нарцыс, як заўсёды, спіць. Вось ужо любіць!.. Хлебам не кармі!.. У нас, калі служыў, салдат адзін быў... таксама мастак паспаць. Заснуў прама ў часе бою. На перадавой. Немцы ўжо пераскочылі цераз роў, у якім ён, скруціўшыся ў тры пагібелі, высвістваў носам, а тады спахапіўся, за аўтамат і наўздагон... Нясецца і строчыць па фашыстах... А, можа, і па сваіх... адступалі ж... спераду беглі... Усяго было ў першыя дні вайны. Гэта потым мы трошкі мускулы падкачалі, акрэплі ... А байцу таму і ордэн... не, здаецца, медаль «За адвагу» далі. Так што сон, Нарцыс, не заўсёды на шкоду... А бывае, што і наадварот: атрымлівай медаль! За тое, што спаць умееш!.. Гэта, брат, навука,– спаць ў ходзе бою...

*Нарцыс, падалося, пачуў сваё імя, расплюшчыў вочы, часта заміргаў.*

М а к і з а р. Нехта Адуванчыка збіў на горкі яблык. Бачыце, што ад яго засталося? Ножкі ды рожкі... Не галава, а струк... толькі не зразумею, чаго. Без сваёй шавялюры ён зусім ніякі. Прапашчы джэнтльмен. Трэба будзе яго зусім вырваць з карэннем і выкінуць на сметнік....*(Заўважыў прыёмнік).* Прынёс усё ж!.. Настойлівы мужчына гэты Дачнік!.. І паставіў перад кветкамі – каб яны, значыць, пад музыку... пад папсу раслі. Эт, мужык!.. Ну, ну!.. *(Трасе прыёмнік).* Бабарэйкі селі. Зразумелая справа...

Г о л а с П о л ь к і. Сняданак пададзены ў студыю!

М а к і з а р. О, правільна! Каманды падае дакладна па мной напісанаму статуту. Малайчына, старая! Нічога не скажаш. З цябе толк будзе!.. *(Знікае).*

Р у ж а. Адуванчык, ногі ў рукі!.. Чуў?

Р а м о н к а. Праўда, праўда!

С л а н е ч н і к. Чухай, пакуль не позна. Пойдзеш на пустазелле.

А д у в а н ч ы к *(сумна).* Ад сябе не ўцячэш.

*Паўза.*

А д у в а н ч ы к. А куды, а куды мне падзецца? Я ж на чорта стаў падобны!..

Р у ж а. Гэта твае праблемы, Адуванчык.

А д у в а н ч ы к. Сумку хоць якую дайце? Братаны, а?

Р а м о н к а. Шукай. Калі знойдзеш…

А д у в а н ч ы к *(ходзіць па двары, шукае, знаходзіць торбу).* Сумкі няма – торба знайшлася… залапленая пералапленая. Пакуль… Ноччу пастараюся забегчы… Я там у адным месцы прыступкі перад уваходам у падвал прыкмеціў… Вось, здаецца, і спатрэбіліся… Не ўспамінайе ліхам Адуванчыка!..*(Знікае).*

Н е з а б у д к а. Вось так і з'яўляюцца бамжы… Спярша пацалуюць, потым паб'юць, а пазней і з кветніка выпруць… І – гуляй, безгаловы Адуванчык!..

*З'явіўся на двары, лёгка пырхаючы, Верабей. Быццам бы гаспадара не бачна, то можна падбірацца бліжэй да Сланечніка.*

С л а н е ч н і к. Зноў мая смерць паказалася на гарызонце!..

Р у ж а. А куды ж глядзіць Макізар, на самой справе?..

Р а м о н к а. Забыўся нацягнуць яму на морду панчоху сваёй старой!

Н а р ц ы с . Ну, трымайся, хвалько жоўтапузы! *(Передражнівае).* Тук-тук-тук!..

Н е з а б у д к а. І будзеш хадзіць ты, Сланечнік, і ўсім усміхацца незразумела якой усмешкай! Зусім бяззубым ротам. Як уяўлю!..

Р у ж а. І ў мяне ажно мурашы па целе! Ой!.. *(Перасмыкнулася).*

В е р а б е й *( Сланечніку).* Мая ўцеха! Мая радасць! Ну, як спалася? Ну, як жылося? Што ў сне бачыў? А я цябе, цябе, мая радасць!.. Быццам бы нарэшце дабраўся я да цябе, а семкі, як адна, паспелі і чакаюць мяне не дачакаюцца… Ну што ж, за работу!..

С л а н е ч н і к. Пачакай! А я што, толькі адзін ва ўсім свеце?

В е р а б е й. Не зразумеў?

С л а н е ч н і к. На іншых агарадах і кветніках – што, нідзе больш сланечнікі не растуць?

В е р а б е й. Чаму ж, растуць! Растуць, шаноўны! Але ў нас размеркаванне. Галоўны наш штаб размеркаваў усіх Верабеек наступным чынам: разумных да разумнага, а мяне – да цябе. Х-ха-ха!

*З'яўляецца Дачнік, Верабей хаваецца.*

С л а н е ч н і к. Эх, кепска, што мяне чалавек не разумее! Не паскардзішся на гэтага дурня Вераб'я!..

Р у ж а. А, магчыма, і абыдзецца?

С л а н е ч н і к. Каб жа!..

*Дачнік узяў радыёпрыёмнік. Пакруціў яго, пераканаўся, што селі батарэйкі, знік. Верабей радуецца, але нядоўга – на двары паказаўся Макізар з панчохай.*

М а к і з а р. Ну дзе там мой Сланечнік? Зусім забыўся!.. Трэба ж так апраставалосіцца!.. Аднак і  Верабей праспаў!..

*Верабей  злуе, што сняданак сарваўся, аднак нічога не паробіш: пара драпаць. Што ён і робіць.*

М а к і з а р *(нацягнуў на Сланечнік панчоху).* Даруй, ледзьве было не выпусціў цябе з выгляду. Ну, а вы як, кветкі? Гаспадыня мая ў горад збіраецца праз пару дзянькоў… на базар… самі разумееце… Спярша я пратэставаў, пярэчыў ёй, за кожную кветку змагаўся, як на полі бою, а потым здаўся – рукі ўгору, ага!.. Яна мне кажа: «Хто ж кветкі вырошчвае проста так, каб самому толькі імі захапляцца, водарам дыхаць і асалоду атрымліваць? Яны і людзей радаваць павінны». А ўсё ж мае рацыю, высвятляецца!.. Вы – як дарагая, не, нават як самая дарагая і каштоўная рэч у мяне , кветкі… і аддаваць шкада, і трэба. Цяжка ўявіць без вас урачыстасці розныя. На дзень Перамогі ў мяне заўсёды гваздзікі раскашуюць у кветніку, не вам казаць, самі бачыце… Франтавікам раздаю. Вязу кош у горад і раздаю. Ну, старая мая спярша бурчэла, а тады і яна зразумела, што калі б не яны, франтавікі, то і кветкі не раслі б у нас…. Заслужылі людзі, чаго ўжо там!.. Аддавай і не шкадуй. Я правільна кажу, сябры мае? Хвалю, хвалю за паразуменне. Малайцы. Адна вось толькі незабудка ў мяне карэнны жыхар гэтага кветніка. Для сябе трымаю. Яна вялікую радасць прыносіць і светлыя, шчаслівыя ўспаміны… хаця і звязаны яны, не здзіўляйцеся, з вайной. Бывае і так.

Р у ж а *(Незабудцы).* Не чула, як ён да цябе?

Н е з а б у д к а. А, думаеш, мне не хочаццца яшчэ каму, акрамя старога, радасць прынесці? Стол упрыгожыць? Ці прымусіць каго-небудзь мне проста усміхнуцца? Альбо майго водару напіцца,а? *(Ад задавальнення заплюшчыла вочы).*

Р а м о н к а. Фу, там ужо і водар! А на самой справе, за што толькі гаспадар наш так паважае цябе? Каб пісанай прыгажуняй была, дык не ж!…Прама не ведаю!.. Так, драбната!… Фу!..

*Макізар нешта і штосьці папраўляе, перастаўляе з месца на месца, не перастаючы пры гэтым з замілаваннем глядзець на кветкі.*

Р у ж а *(Рамонцы).* Ты б памаўчала, а то нудзіць!.. Моташна ажно робіцца… Сама як убачыш Макізара, дык адразу і распранаешся перад ім, ён яшчэ не паспее і дакрануцца да цябе, а ты і пасыпалася… Стаіш, у чым маці нарадзіла… Не сляпыя. Бачым.

Р а м о н к а. А калі дзед так хоча?

Н е з а б у д к а. Няхай гаворыць. Але я тут прычым? Што ад мяне залежыць?

Р у ж а *(Незабудцы).* Сядзі ўжо!.. На волю табе захацелася, каб патрымаў хто ў руках… пакамячыў… Многім такое было б на радасць… асабліва ў маладыя гады… У Макізара жыць можна. Грэх скардзіцца. Цёпла і ўтульна. К таму ж, у цябе ільгота ёсць. Не ведаю, як і чым ты яе заслужыла, аднак факт застаецца фактам: цябе і трымае ў зацішку, і вадзічкі паболей, і лішнюю жменю угнаенняў сыпане… Мы хіба не бачым?

Н е з а б у д к а. Гэта калі сам Макізар… Згодна. А старая вам дагаджае заўсёды. І я таксама ўсё бачу, не сляпая ж!..

Р у ж а. Ну, старая! Яна тут бывае раз у год!..

Р а м о н к а. Цішэй, нешта Макізар будзе гаварыць. Усе слухаем! Увага!

М а к і з а р. Мая Полька, гэта даўно было, калі яна на ферме даяркай рабіла, аднойчы ў Маскву ездзіла. Гэта чаму ў прыгадаў, мне самому ў горад патрэбна адвярнуцца… тое-сёе купіць у краме… У дэлегацыі была ад усяго раёну. Та-а-ак! Яна ў маладосці ох і ўвішнай была!.. У гэтым плане мне дужа падфарціла, хаця як меркаваць… Але! У Маскву, значыць… А калі ў Маскву, то і ў маўзалей к Леніну…. Доўга, кажа, стаялі ў чарзе, а калі падступілася мая Поля ўже да самых дзвярэй, а міліцыянер пільны хлопец быў, за руку тузель яе: хадзі сюды, каралева фермы! Чаму сумку не здала ў камеру захоўвання? А мая ж нагрэбла жаночых трусоў на ўсю вёску… нават жонцы старшыні калгаса… тады ў нас жаночага полу было на любы густ і манер… і лезе з тымі трусамі к самому Леніну. Дадумацца ж! К Леніну – і з клункам трусоў! Ды яшчэ бабскіх! Нуль розуму!.. Міліцыянер правільна зрабіў, прачытаў мараль і вывеў з чаргі. За вушка і на сонейка… Аднак ён, міліцыянер, не на тую бабу нарваўся!.. Мая адразу падала каманду: «Бабы, захініце мяне ад мужчын!» І ўсе трусы, уявіце толькі, на сябе нацягнула, на свой азадак…. і як яна ў тыя дзверы пралезла з надутым, як, мусіць, гандола, прама на Краснай плошчы задам, розуму не дам! Магчыма, там вароты былі такія, як у нас на ферме? Не скажу. Сам не быў і не бачыў. Не давялося. Аднак, сказаў міліцыянер, такой знаходлівасці, бабуля, паапладыраваць варта. І не пашкадаваў воплескаў. А што яму заставалася рабіць? Во як было!…

*Кветкі таксама паапладыравалі пачутаму, весела і дружна.*

*З'яўляецца Дачнік.*

Д а ч н і к. Сустракаю паштальёна Грубкіна, ён цікавіцца, куды я шлях трымаю. Я кажу: да кветкавода Макізара іду. О, тады перадай яму, калі ласка, вось гэтае пісьмо. Што я і раблю. Вам! *(Аддаў пісьмо, стары моўчкі ўзяў).* Прабач, шаноўны, гэта я павітаўся ці не, калі зайшоў?

М а к і з а р. Няважна. Павітаўся, не павітаўся... Я і так ведаю, што ты добры, выхаваны... нават ужо вельмі выхаваны, чалавек.

Д а ч н і к. Не, ты не тое гаворыш, Макізар. Ёсць нормы... здаецца, я ўсё ж не павітаўся. Добры дзень, дзед Макізар!

М а к і з а р *( не адразу).* Прывет...

Д а ч н і к. Вось цяпер, калі ты з прыветам, я спакойны. Магу ісці з чыстым сумленнем калупацца на дачным участку. Аднак! Дзе ў цябе тут разетка на двары? Батарэек не набярэшся, а ў газеце я вычытаў, што кветкі лепш растуць, калі слухаюць музыку. Яны яе, дарэчы, разумеюць!.. Не здзіўляйцеся!.. Даказана!... Навукай!.. Між іншым!...

М а к і з а р *(абыякава слухае, яму зараз не да Дачніка: звярнуў увагу на зваротны адрас, і пісьмо цалкам завалодала ім).* Пашукай... Павінна быць...

Д а ч н і к. Зразумеў. *(Ходзіць па двары, шукае разетку, а як толькі знайшоў яе, усклікнуў і знік).*

М а к і з а р *(разгубіўся, не ведае, што рабіць з пісьмом; спярша хацеў разарваць канверт, але перадумаў, схаваў канверт у кішэню, зноў дастаў).* Ад яе!.. *(Кветкам паўшэптам).* З Францыі. Знайшла мяне усё ж!! Ну, баба-а!..

*На старога зноў нахлынулі ўспаміны, і чуваць страляніна, крыкі людзей на чужых мовах, і голас, здаецца, яго, Макізара: «Па кветках не страляйце!.. Па кветках не страляйце!.. Па кветках!..»*

*У гэты час кветкі ў кветніку кветкавода Макізара рэагуюць на ўсё так, як рэагуюць людзі, калі недзе побач ідзе вайна...*

М а к і з а р. Калі б яна мяне не шукала, то не снілася б, мяркуй, ці не кожную ноч... Усё к гэтаму, усё к гэтаму ішло!.. Даруй, Паліна, што не ты снілася, даруй... Я цябе і так бачу кожны дзень наяве... Навошта яшчэ сніцца? Праўда ж?.. Ну, вось і я кажу...

*З'яўляецца Полька.*

П о л ь к а. Што гэта на табе твару няма? Рукі трымцяць? Ніяк чужых курэй мацаў?

М а к і з а р (*разгублена).* Было... ага...што і даводзілася мацаць... Як жа!..

П о л ь к а. І хопіць з кветкамі шаптацца! Хай Мірон... А ты ж не п'еш... той як нажлукціцца, з варонамі размаўляе... Ну, і пра што ж вы тут балаболіце? Усё адно як бабы тыя на базары!..

М а к і з а р *(адразу прыняў ваяўнічы выгляд).* А вось гэта не забароніш! Не руш кветкі!.. Не руш!..

П о л ь к а *( адступаючы).* Ой, чаго гэта ты завёўся? Як малатарня? Прама як галодны сабака з ланцуга сарваўся!.. Хай сабе і так будзе, а я ў краму. Табе нічога не трэба купіць?

М а к і з а р. А што мне? Не куру, не п'ю... *(Раптам).* Камсы хачу. Іржавай такой, якая раней у нашай краме заўсёды мелася... у пяцідзесятыя..

П о л ь к а. Цяпер не пяцідзесятыя і не дзевяностыя, не толькі што!...

М а к і з а р. Па «Сітру» таксама сумую. Смачная была вада. Хоць і без градусаў. Э-хе-хе!..

П о л ь к а. Я ж і кажу табе: цяпер і век іншы. Бутэлек шкляных і тых няма. Толькі з воцатам.

М а к і з а р. Воцат пі сама.

*Полька плюнула і пайшла.*

*Макізар разарваў нарэшце канверт, пакуль наважыўся чытаць, доўга вадзіў галавой па баках: ці не шпіёніць хто?*

Г о л а с М а ц і л ь д ы *(з яркім французскім акцэнтам).* «Добры дзень, Дзмітрый! Ты, напэўна, палічыш мяне дзівачкай, аднак я, відаць, такая і ёсць на самой справе... Думаю, ты не забыў яшчэ мяне, хаця з таго часу, калі мы ўпершыню пазнаёміліся і вельмі хораша былі разам, мінула шмат часу. Не ведаю, як ты, але я ўвесь час думала пра цябе... Як ты там, Міця? І ці жывы? Бо столькі прайшло летаў і зім, што страшна падумаць! Хаця што я займаюся пустаслоўем! Канешне, жывы, жывы!.. Я ж ведаю! Цікава, як я адшукала цябе? Прызнаюся, утойваць няма сэнсу... ды і навошта? Нашы людзі ездзілі ў горад-пабрацім Гомель, і я папрасіла сваіх знаёмых навесці пра цябе даведку. А ім ужо памаглі іншыя людзі, твае землякі. Так, дарагі і каханы мой, ты ад мяне нікуды не схаваешся. Сумеснымі намаганнямі, як бачыш, і вывелі мы цябе на чыстую ваду. Жартую. Напішы мне пра сябе. Як завуць жонку, колькі ў цябе дзяцей, чым яны

займаюцца… Я выйшла замуж адразу ж пасля вайны, нарадзіла яшчэ сына… Наша дачка Амелі… не здзіўляйся… наша дачка Амелі…»

М а к і з а р *(выпусціў пісьмо, падняў).* Што… што яна тут сказала? Наша дачка? Амелі? Божа!.. Ну, так, усё можа быць!.. І дачка, і сын!… Маладыя былі, не разбіраліся асабліва… лезлі да жаночага цела, як у бой – на злом галавы…

Г о л а с М а ц і л ь д ы. «Яна хараша ўладкавана ў жыцці і вельмі хоча сустрэцца з бацькам… з таткам… з табой, атрымліваецца так, дарагі мой Дзмітрый, дарагі мой макі, смелы партызан Макізар, як, памятаю, звалі цябе ў атрадзе нашага,французскага, супрацiўлення не як усіх пагалоўна, а толькі цябе з такой асаблівай цеплынёй і пяшчотай… Напішы, ці ты зможаш сам прыехаць ці няхай прыедзе яна да цябе ў госці? Хацела б пабачыцца з табою і я – муж не супраць… Ён, дарэчы, таксама хацеў бы з табой сустрэцца… Хаця, шчыра прызнаюся, я стала друзлай бабулькай, а мне хацелася б, каб ты памятаў мяне ўвесь час такой, якой была я раней… калі тады на сене… Слова «сена» я добра запомніла і ведаю, што гэта такое… гэта нешта вельмі салодкае і смачнае на пах… таму што ў нас ёсць рака Сена… Пасылаю табе на першы выпадак фотакартку, дзе я з нашай Амелі. Побач вельмі не хапае цябе, татка. Фатаграфаваліся мы нядаўна. Дашлі і ты сваю картку…

М а к і з а р *(узяў у канверце фотакартку, разглядвае).* Не, не пазнаў бы, не пазнаў… Вось яе, Амелі, – так, хаця ніколі і не бачыў, а Мацільду ніколі…Нос мой… І рот… Божа, што час робіць!.. Нікога не шкадуе!.. Нікога!.. Нават і прыгажуню Мацільду…. хаця яна і цяпер прыгожая… нават і на картачцы… нават і зараз…

Г о л а с М а ц і л ь д ы. «Кветкі незабудкі, якія ты прынёс мне тады з лесу разам з карэньчыкамі, і сёння растуць у нас каля дому… я калі гляджу на іх, то абавязкова цябе ўспамінаю, непаседлівага і прыгожага… ці як гэта ў вас кажуць – шустрага… Так, так!.. Напішы мне, адкажы, Макізар, прашу цябе… а мы тут прачытаем… за гэта ты не хвалюйся…і паплачам… у нас ёсць людзі, якія добра ведаюць тваю мову, у чым ты мог пераканацца, калі чытаў гэтае пісьмо пад маю дыктоўку… Абдымаю цябе і цалую. Твая Мацільда».

М а к і з а р. Хаваем пісьмо падалей, інакш мая Полька мяне таксама абдыме і пацалуе!.. Так, справы!.. А я ўвесь час уладу, атрымліваецца, абдурваў. Вось дык трапіў у сіло!.. Усюды ж, у розных анкетах пісаў: дзяцей – двое. Трое! Трое! Інтэрнацыянал!.. Ну, прывітанне табе, Мацільда! І я цябе абдымаю і цалую! Заўтра паеду ў горад, сфоткаюся і куплю замежны канверт… Нялёгка мне, адчуваю, дажыць да заўтрашняга дня будзе… *(Паглядзеў на кветкі).* А вы гаварылі!..

*Зацямненне.*

**Д з е я   д р у г а я**

*На двары.*

М а к і з а р *(кветкам).* Я вас калі ўпершыню ўсіх разам у Мацільды ўбачыў, у мяне і дыханне спынілася: як жа прыгожа! Усё ўсяродку перавярнулася – мацней, мусіць, чым у Дачніка… Ды там, за мяжой, не толькі ў Мацільды так было!.. Там – паўсюдна!.. Вайна вайною, а кветкам не перашкаджай расці!.. Вось тады я і вырашыў: калі толькі застануся жыць, размінуся з варожай куляй, абавязкова, родныя мае, вас насаджаю, дзе толькі можна… каб прыгожа было… Дужа моцна вы тады мяне за жывое ўзялі!.. *(Знікае).*

*Кветнік.*

Р а м о н к а. Вось і я дачакалася спакойнага жыцця. А вы пасміхаліся, сяброўкі! Асабліва ты, Ружа. Дарэмна. Дарэмна! Цяпер Макізар ведае, што яго кахае Мацільда, і не будзе зрываць мае пялёсткі: кахае – не кахае. Цярпенне! Усяму – цярпенне, шаноўныя!..

Н а р ц ы с. Хачу куды-небудзь! У любыя рукі! Прагну-у!..Вазьміце-е!..

Р у ж а. З тваім-та здароўем!.. Стаяў бы і маўчаў!..

Н а р ц ы с. Якое ёсць!.. Яно, між іншым, не прадаецца!..

*Крадком з’яўляецца Адуванчык. У яго выгляд, як у бомжа.*

А д у в а н ч ы к *(сіпатым голасам).* Прывет, братва!

Р у ж а *( здзіўлена).* Няўжо гэта ты, Адуванчык?

Р а м о н к а *(жахнулася).* Ой!..

А д у в а н ч ы к. Я. Глытнуць у вас нічога не знойдзецца? Мне? Можна і мацнейшага чаго… там,  за гэтым дваром, навучаць чаго хочаш і чаму хочуць. Дарэмна ўпарціцца. Усмоктвае. Суцэльная дрыгва. Фу-у!.. Калоціць мяне…

Н е з а б у д к а. Станавіся, Адуванчык, побач… Я цябе захіну… калі што. Сёння ў гаспадара добры настрой – ён цябе не пакрыўдзіць… А калі

бабулька будзе корм раздаваць – тым больш, што яна ніколі пустазелле не вырывае... ёй, мусіць, цяжка нахіляцца. Станавіся, станавіся каля мяне! І не бойся!..

А д у в а н ч ы к. Дзякуй, сябры*! (Стаў побач з  Незабудкой).*

*З'яўляецца Макізар. У новым касцюме, пры гальштуку, у новай кепцы. Заўважыўшы яго, усе кветкі ахнулі: «Ух ты-ы!..»*

*Насустрач выходзіць Полька.*

П о л ь к а. Божа! Макізар! Куды гэта ты  прыбраўся?

М а к і з а р. На Кудыкіну гару. У горад еду. Па справах.

П о л ь к а. А што  ты згубіў у тым горадзе? І сабраўся, глянькі на яго, нават не параіўшыся? Ты што, адзін жывеш?

М а к і з а р. За гэта прабач. Віну прызнаю. Заўвага слушная. Уздумалася мне вось – і ўперад і з песняй, як кажуць. А? Хоць раз можна мне, сяржанту запаса, прыняць самастойнае рашэнне?

П о л ь к а. Едзь, едзь – хоць і не вяртайся! Калі дужа разумным стаў! Прыфранціўся, як ўсё роўна жаніцца сабраўся. Ну, ну. *(З папрокам).* Піва там папі... з ракамі.

М а к і з а р. З такой нагоды можна нават і  астаграміцца.

П о л ь к а *(зацікавілася).* З якой гэта такой нагоды?

М а к і з а р. Настрой  у меня добры сёння, Поля. Не псуй. Прашу цябе. Назад, у ранейшую каляіну, яго цяжка будзе вярнуць. Яй-богу.

П о л ь к а. Едзь, едзь – куды хочаш!  Я ж сказала!..*(Знікае).*

М а к і з а р. І не зразумееш: ці тое дазволіла ехаць, ці тое забараніла... Добра, паеду. Конечне, паеду. Я хутка. Туды і назад. *(Знікае).*

Р а м о н к а. А ў маладосці дзед наш нічога быў!

Р у ж а. Хм, скажаш! Мацільда на своего  д'Аратаньяна не памяняла б!..

*Зацямненне.*

*У гарадскім ціры. Тут даволі сціпла. Усе мішэні – акуратныя мініяцюрныя бляшаныя кветкі. Самыя розныя: і ружы, і рамонкі, і*

*незабудкі, і васількі... Спіной да уваходных дзвярэй стаіць Стралок, а інструктар ціра Кудан адлічвае яму пулькі для паветранай вінтоўкі.*

К у д а н. З цябе пяць тысяч, братка.

С т р а л о к. Хто б спрачаўся, мы не будзем. Потым яшчэ дабавім. Апетыт, як гавораць, прыходзіць у час ежы. Адразу і разлічымся.

*Страляе надзіва трапна – кветкі падаюць...*

С т р а л о к. Парадак!.. Парадак!.. Ёсць!.. А-г-га-га-га-а-а!...

*З'яўляецца Макізар.*

М а к і з а р. Маё шанаванне!

К у д а н. Праходзь, дзед, праходзь, успомні маладосць На вайне, выпадкова, не снайперам быў?

С т р а л о к *(не паварочваюся, працягвае страляць).* Гэта наш Макізар. Вы ў яго лепей што-небудзь пра кветкі спытайце. Там ён маэстра!..

К у д а н. А, дык гэта вы! Чуў, чуў!..

М а к і з а р *(строга).* Адбой! Адбой, я сказаў!..

С т р а л о к *(нарэшце павярнуўся да Макізара).* Не зразумеў, зямляк? Які адбой? Спаць, хіба што, тут сабраўся? *(Працягвае страляць па кветках).*

М а к і з а р. Я каму сказаў! Ці ты нашай мовы не разумееш? *(Схапіў за каўнер Стралка).* Кінь вінтоўку! Кінь!..

С т р а л о к. Я нічога не зразумею! Ціршчык! Чаго гэта ён мяне, як шкадлівага шчанюка, га?.. Я што не так зрабіў?

К у д а н. Дзядуля! Не пыхкай! Іначай тут міліцыя пад бокам! А я там служыў раней!.. Табе ўсё зразумела?

М а к і з а р. На тым свеце будзем разбірацца , хто і дзе служыў і працаваў. А пакуль мы на гэтым, то я не дазволю страляць па кветках, па... па... парсюкі вы! Ты сябе падстаў замест іх! Лоб свой! І няхай вось такія стралкі саплівыя па табе самому і паляць!

К у д а н. Ну, ты зусім, гляджу, разбэрсаўся!.. І наогул, кацібся ты адсюль і не перашкаджай народу! У цябе кветкі, у нас – план!.. Зразумела табе, стары корч?

М а к і з а р. Паўтары, што сказаў!

К у д а н. А што чуў! Спадзяюся, не глухі! *(Стралку).* З цябе пяць тысяч.

С т р а л о к *( разгублена*). Зараз, зараз… *(Корпаецца ў кішэнях, аднак не адразу знаходзіць грошы).*

М а к і з а р. Па кветках страляць!.. Дадумацца ж!…Ды я ніводнага разу не бачыў, каб і немцы па іх палілі!.. А вы?!.. Маць вашу!.. А ну-у, расступіцеся!.. *(Разбурае цір).*

К у д а н. Што… што ты робіш?! Апомніся! Спыніся!

М а к і з а р. Ніколі! Толькі да поўнай перамогі! І распішамся, дзе трэба!.. Цвіком ці куляй надрапаем!…

К у д а н *(по тэлефоне).* Міліцыя! Міліцыя! Гэта я, Кудан… тэрмінова ў ціp!.. Нападзенне! Сярод белага дня!..

М а к і з а р *(Стралку).* А ты ж, Пятро Сяргеевіч, фельчарам робіш… а па кветках страляеш? І не сорамна?

С т р а л о к. Дык усе ж страляюць?.. Я і не падумаў нават – кветкі там ці яшчэ што… *(Паклаў грошы перад Куданам).* Я і зайсці да вас збіраўся, дзед Макізар… за парадай… А тут так атрымалася… непрыгожа неяк…

М а к і з а р. Прыходзь.

С т р а л о к. Калі?

М а к і з а р. Хоць сёння вечарам.

К у д а н. Нешта ты, дзед, пасля таго, як набедакурыў тут, а наламаў дроў багата, рана дамоў намыліўся? У пух і пяр’ё разнёс дзяржаўную кропку… дзяржустанову… і дамоў! Бач ты, захацеў! Не, не атрымаецца!..

М а к і з а р *(працягнуў Стралку канверт).* Тады і прынясеш мне яго… А цяпер памажы кветкі сабраць…

*Стралок моўчкі ўзяў канверт, і ў гэты момант раздаецца вой міліцэйскай сірэны…*

*Макізар і Стралок збіраюць кветкі.*

К у д а н. Я б цябе, старая кляча, і сам скруціў! Ды навошта рукі пэцкаць? А раптам што такое?.. Каму яны патрэбны, лішнія праблемы? Не трэба!.. Вось і міліцыя!… Вось і калі ласка!..

М а к і з а р. Рукі, кажаш, пэцкаць боязна? Тады я за цябе!..Сам!.. *(Заехаў кулаком Кудану у твар, той зваліўся на падлогу).*

*Зацямненне.*

*На вясковай вуліцы.*

*З'явілася Полька з поўным вядром, ажно, бывае, вада льецца цераз край. Паставіла вядро, агледзелася па баках, адпачыла і патупала далей.*

*Д а ч н і к выкаціўся аднекуль з тым жа радыёпрыёмнікам, ён у яго па-ранейшаму то чыста выдае музыку, то фальшывіць. Таму Дачнік трасе яго, не перастаючы, і так, і гэтак.*

Д а ч н і к. Прыспасобіўся, інтэлігент тэхнікума-коледжа-акадэміі навук, толькі ноччу чыста працаваць. Для кветак. А ўдзень – ну хоць ты яму мазгі вытрасі! *(Знікае).*

*Адразу ж Макізар прыцягнуў сюды на двухколцы невялікую капу сена, замацаваў двухколку, зрабіў у капе нару, а сена, якога нашморгаў, паклаў горкай перад лазам. Потым, абапершыся на гэтую горку рукамі, стаў на чацвярэнькі і задам, паставіўшы ў нару спярша адну нагу, затым другую, забраўся ў капу. Неўзабаве адтуль тырчэла галава старога, і падобны ён быў на чарапаху ў панцыры.*

М а к і з а р. І не кантаваць!

З'явіўся Дачнік, знерухомеў, не асмельваецца падыйсці бліжэй да капы, пэўны час стараецца сцяміць, што гэта за такое збудаванне вырасла на голым месцы. Але толькі пазначыў сябе шчопацем з трох пальцаў і, азіраючыся па баках, знік.

Прыходзіць Полька.

П о л ь к а *(з дакорам ).* Забраўся ўсё ж? І што ў цябе, у пня старога, у галаве? Клёпак, не інакш, не хапае! Над табой жа людзі смяяцца будуць! Ды што людзі – куры засмяюць!.. Вунь Дачнік ужо валідол глытае і хрэсціцца. Ледзь прытомнасць не згубіў чалавек ад перапалоху, як цябе ўбачыў.

М а к і з а р. Лячыцца буду. Пасля капэзэ мне павінен санаторый. Спіну ломіць, а сена, ды яшчэ лугавое, – лепшы доктар.

П о л ь к а. Хацела б я ведаць, што з тваім сенам будзе тут, на вуліцы? Бясплатны корм. Кожная карова не палянуецца лізнуць хоць бы разок тваю капіцу. Не ўвесь жа час ты будзеш тут сядзець. Хутка пахудзее твой санаторый на колах, яй-бо, на мяне стане падобным, бяспутная твая галава. Гэта ж трэба было столькі пражыць з чалавекам, каб даведацца, які ён дурань!..

М а к і з а р. А што тычыцца кароў, дарагія мае, то яны ў Макізара кукіш пакаштуюць... паказаў бы, ды не магу дастаць... трымаю ў рэзерве.

Як беглі міма майго двара, так і прабягуць. Не адшчыкнуць! Не хвалюйся. Ідзі і не стракачы!.. У мяне сеанс пачаўся, разумееш ты хоць гэта ці не, а ты можаш настрой сапсаваць і нашкодзіш – ўсё лячэнне тады кату, Ваську нашаму, пад хвост... Во, забыўся!.. Трэба будзе распарадак дня павесіць... Прыём, значыць, з двух да пяці!..

П о л ь к а. Тады і я павешу над ложкам: прыём – раз у месяц...

М а к і з а р. Пажартаваў. Што, жартаў не разумееш?..

П о л ь к а. Разумею, няго ж!.. Але дзе гэта ты бачыў, каб сена лячыла? Каб лячыла яно, то не рабілі б таблетак, шпрыцоў, а кожнаму хвораму па стажку сена... усе сядзелі б у стажках.

М а к і з а р. Нічога сабе, размахнулася! На ўсіх, маладзіца, сена не хопіць. Калі ўсе будуць сядзець у сене, то коні і каровы капыты адкінуць.Голад – не цётка!.. А стажок, я табе скажу, – для выбраных: такіх, як я. Ідзі ў хату!..

*Полька  плюнула і знікла.*

*З'яўляецца Дачнік. З сумкай. На гэты раз смела і рашуча.*

Д а ч н і к. Праведаць прыйшоў цябе, дзед Макізар. Паважаю я цябе. І за кветкі. І за цір. *(Выкладае перад  Макізарам скруткі).* Гэта табе.  Калі раней  прафсаюз адпраўляў праведаць хворага, было такое, то пяць рублёў вымяркоўваў. На бутэльку гарэлкі хапала і закусіць. Жылі-і! Маладыя былі, здаровыя. Хвораму крышку, для прыліку, астатняе нам... з той дапамогі. Вось тут мінералка. Заўваж, на самой бутэльцы, на этыкетцы, шмат чаго напісана... ажно не верыцца... ад усіх хвароб лечыць. Хацеў прапанваць табе і сто грамаў, дзед Макізар, у мяне ёсць, як гаворыцца, на чорны дзень, ды, бачу, нельга – ты на працэдурах...

М а к і з а р.  Пацею, землячок, пацею. А мокрая спіна выцягвае лякарствы з сухой травы с небывалай сілай... прама чарадзейнай... Магнітам. Так.

Д а ч н і к. Ну, лячыся. Гэта я, калі падышоў, павітаўся?

М а к і з а р. Было б клопату!

Д а ч н і к. Не, здаецца, забыўся. Як толькі на цябе ў гэтым панцыры глянуў, і на пэўнае імгненне кантроль над усім астатнім страціў... Добры дзень, Макізар!

М а к і з а р. Добры, добры дзень, калі не жартуеш. Я табе адну карысную параду дам, так і быць, хаця ты, здаецца, дзяцюк і так граматны. Не дурань. Павітайся са мной адразу на месяц наперад. А потым у пачатку наступнага месяца – яшчэ наперад... А можаш і на год.

Тваё жаданне. І не трэба будзе  дакараць сябе кожнага разу: гэта я павітаўся ці не?

Д а ч н і к. Гэта я падумаю. Прапанова, у прынцыпе, слушная і заслугоўвае ўвагі. Ну, лячыся. Пайду я.

М а к і з а р *( замахаў рукамі, не на жарт захваляваўся).* Ды ты што! Мне якраз і можна!.. Калі сенам лечышся, яно, халера, яшчэ карысней, калі глытнеш грамульку. Пацееш лепш! А ўвесь сэнс лячэння – у пацэнні. Так што – можна.

*Дачнік  наліў у шклянку і падаў старому. Бутэльку  ж паставіў назад. Стары паднёс пітво да роту, але выпіць яму было вельмі нязручна, давялося павярнуцца на бок.  Аднак не праліў – усё, да кроплі, трапіла па прызначэнню.*

Д а ч н і к. Ну, я пайшоў!

М а к і з а р. Цяпер ідзі.

Д а ч н і к. А то старая бурчэць будзе.

М а к і з а р. Гэта яна ўмее. Але ты не звяртай увагі. К градусу я асабліва таксама, як і ты, не надта ахвочы і схільны… аднак жа бываюць сітуацыі, калі і трэба.. А старая!.. Ды ну яе!.. Мы ж і бярэм іх, старых, каб зумкалі над вухам… гудзелі, яе авадні…

Д а ч н і к. Буду наведваць.

М а к і з а р. Наведвай, шаноўны. Працэс пайшоў! Ух, добра!..

*Дачнік  знікае, а стары зацягнуў песню: «По долинам и по взгорьям шла дивизия вперёд… чтобы с боем взять Приморье – белой армии оплот…»*

*З’яўляецца Полька.*

П о л ь к а. Абед табе прынесла, гора ты маё. *(Усміхнулася*). А ведаеш, і маладосць успомнілася… калі ты ў полі трактарыстам рабіў, а я табе вузельчык з ежай прыносіла… Ці калі касіў на лузе…. Кавалачак сала, агурочкі, хлеб і абавязкова малако… Тады мужчыны больш малако пілі…

М а к і з а р. Так, было!.. І яшчэ яблыкі. Я чамусьці іх тады дужа любіў, яблыкі, з малаком і чорным хлебам. А цяпер хапаюць і прама ў кутузку! Ні за што, ні пра што. Ну,  скажы, старая, на чыім баку праўда? Разнёс у пух і пер’ё цір. Стралкі мне знайшліся! Па кветках!… Будуць

ведаць, з кім звязвацца!.. Стараной будуць абыходзіць!.. Абаронца Радзімы заўсёды правы!.. Пры любых абставінах!..

П о л ь к а *(раптам насцярожылася).* Ты што, п'яны, Макізар?

М а к і з а р *(нават абурыўся).* Адкуль ты ўзяла? Прыснілася табе, ці што?

П о л ь к а. Пахне ж!

М а к і з а р. Эх, старая! У тым і цымус, што сена, калі яго на мокрую спіну, пахне чым заўзгодна – і гарэлкай таксама. Сена ж! Луг!.. Камплект пахаў!.. Набор!.. Саступі дарогу, аптэка!.. Тут табе нос падатруць!.. *(Шморгнуў носам).*

П о л ь к а. Не, ад цябе больш гарэлкай пахне, чым іншым..

М а к і з а р. Ды кінь ты! Ну дзе я тут, у капе гэтай, знайду выпіць?

П о л ь к а. Еш давай, а то парсюку, Кольку, тваю вячэру выверну. Ён хоць парохкае ў знак удзячнасці.

М а к і з а р. Ежа пачакае. Ты бачыла, хто сёння ў цэнтры ўвагі? Я! Уся вёска гаворыць!

П о л ь к а. Так, так! Ужо гаворыць! І вобласць, відаць!

М а к і з а р. Пачакай, не гудзі... Больш скажу табе: не здзіўлюся, калі карэспандэнтаў прышлюць. Я, уласна кажучы, на гэта і разлічваю... У горадзе тады мяне позна выпусцілі, не заходзіў у рэдакцыю... а пра стральбу па кветках я павінен яму, карэспандэнту, расказаць... З вока на вока. Асабіста. Калі сёння расстрэльваем кветкі, якія на магілкі носім, то што заўтра будзем? Што, Поля? Ці каго? А-а, маўчыш!.. Усе маўчыце, як ягнёнкі. Язык у адно месца... пакуль певень не клюне. Ку-ка-ре-ку-у-у!

П о л ь к а. Не, не памылілася: выпіў. Кукарэкае. Ну, і ўяві сабе, герой, прыехаў той карэспандэнт... пранюхаў і прыехаў. А ты вочы заліў і кукарэкаеш!.. Певень!.. *(Махнула рукой і патупала на двор).*

М а к і з а р. І там, у Мацільды пад грушай, пад Клярмон-Ферранам, так сена пахла... Для кароў і для закаханых сена па-рознаму пахне. Толькі лаз там быў, сыходзячы з ваеннага становішча і наяўнасці амуніцыі і самой Мацільды, куды шырэй!.. Палутарка магла заехаць!.. *(Выцягнуў галаву, паглядзеў у той бок, дзе знікла старая).* Убачыла б ты той стажок, у якім я культурна адпачываў разам з Мацільдай! Во то стажок! Пра землятрус чула? Па шкале Рыхтэра? «Кукарэкае». А што больш застаецца сёння рабіць бяззубаму і старому пеўню?! А мо хочаш сказаць, што ў цябе самой ад мяне сакрэту няма? Ды цяпер любы замок і той з сакрэтам!.. *(Засыпае).* Ку-ка-рэ-ку-у... Ку...ка... ку-у...

*З'яўляецца нечым дужа ўсхваляваная Полька. З ручнікам. Энергічна тармосіць Макізара.*

П о л ь к а. Так, дзе пісьмо, бабнік-міжнароднік?

М а к і з а р *(не зразумее, што да чаго).* Я на працэдурах, між іншым!..

П о л ь к а. Вылазь са сваёй нары, я табе свае працэдуры прыпісала! Ну, каму сказала! Я табе пакажу такія працэдуры, што век помніць будзеш!..

М а к і з а р. Ты што? Зусім розуму пазбавілася? Санаторый мой разваліш к чортавай матары! Адстань!

П о л ь к а. Пісьмо дзе? Я ў каго пытаю?

М а к і з а р. Якое... пісьмо?

П о л ь к а. З Францыі. Ад той самай Мацільды, імя якой ты кожную ноч у сне трызніш, а нагу задзіраеш на мяне... а быццам на яе, блазнюк! Дзе пісьмо?

М а к і з а р. Няма! Табе прыснілася!..

П о л ь к а *(выцягнула старога за галаву з капы).* Няма, кажаш? А паштальён Грубкін, значыць, схлусіў мне? Ён жа пацікавіўся, што нам там з Францыі напісалі? Дык што нам напісалі з Францыі? Я ў каго пытаюся?!

М а к і з а р *(бегае вакол капы і атрымлівае ад старой раз-пораз ручніком па спіне).* Ну, скажам не нам напісалі, а мне... асабіста! А, па-другое, я па - французскаму ні бум-бум! Ні шурум-бурум!.. Я і па-нашаму не вельмі!.. Адстань!.. Кыш!..

П о л ь к а. А вось табе, гуляка стары! А вось табе!..

М а к і з а р. Тады я быў не стары! Тады я быў ого-о! Арол! *(Нацягнуў на галаву чырвоны берэт).* Ты на каго, на французскае супрацiўленне? На французскага макі? На мяне, на Макізара?

П о л ь к а. Ды бачу, як ты там супраціўляўся! Бачу!..

М а к і з а р. Як трэба, так і давалі пораху!.. На ўсю катушку!.. А медаль бачыла?.. Ці яна ў такіх, як ты, у разлік не прымаецца? Мне яе, можа, сам генерал Шарль де Голь уручыў! Пад фанфары!

П о л ь к а. Да ты і голым прыкрыешся! ..

М а к і з а р. Хопіць, у мяне дыхання больш няма! Упаду!.. Ляснуся!.. Скажы, каб я спыніўся!..

П о л ь к а. Дзяцей, гад печаны, мае па ўсім белым свеце! На ўсіх мовах гергочуць! А вось табе! А вось!.. За здраду!..

М а к і з а р *(спыніўся).* Стоп! Стоп!..

П о л ь к а *(павісла ў Макізара на руках).* Фу-у, ледзь жывая! Выбегалася ўся.

М а к і з а р. За якую здраду, цікава мне, атрымаў я па спіне? Я каму здрадзіў? Каму? Табе?

П о л ь к а. Атрымліваецца – мне. Каму ж яшчэ!

М а к і з а р. Прабач-даруй. Не атрымліваецца, каб табе. І што ўцякаў, дык гэта я не прачнуўшыся… *(Рашуча і гучна).*Я сонны бегаў!.. Як леташняя муха!.. А тады, калі трапіў з нямецкага палону я у Францыю, цябе, Полюшка, я і зусім не ведаў, не ведаў нават, ты ёсць дзе ці цябе наогул няма… мая прыгажуня. Як жа я табе мог здрадзіць у такім вось казусным становішчы?

П о л ь к а (*супакоілася, здаецца, зусім).* А быццам і твая праўда, Макізар?

М а к і з а р. Макізар не хлусіць ніколі, запомні раз і назаўсёды.

П о л ь к а. Дай хоць пісьмо пачытаць.

М а к і з а р. Не дам. Яно асабіста мне.

П о л ь к а. Дык ты што, смаркач стары, і пісьмо мне не пакажаш?

М а к і з а р. Не пакажу. Сказаў жа: асабістае.

*Полька пускае зноў у ход ручнік, і Макізар, на гэты раз больш забаўляючыся, бегае вакол капы, а потым падлавіў старую і прыціснуў да сябе…*

*Так і стаяць. А што ім, старым, застаецца яшчэ рабіць? Хаця не – схаваліся за капой, і капа, падобна на тое, спярша пахісталася-пахісталася, а потым пакацілася некуды не без іхняй, вядома ж, дапамогі..*

*Зацямненне.*

*На двары. На ганку сядзіць Макізар, выгляд у яго панылы. Полька рыхтуе кветкі на продаж, прыхарошвае іх.*

М а к і з а р. Незабудку не чапаць!

П о л ь к а. Ды ведаю, ведаю! Колькі разоў можна напамінаць! А яе, між іншым, ніхто і не купіць. Прыгажэйшыя кветкі ў нас ёсць. Вось

Ружачка, Рамонка… Чым не прыгажуні! Сланечнік так і стаіць у маёй старай панчосе… Задыхнецца ж!

М а к і з а р. Няхай стаіць. Нічога з ім не здарыцца. Яго час хутка будзе. Унукі прыедуць, тады ён і парадуе іх семкамі – не Вераб'я ж паскудніка карміць. Няхай вунь крошкі на дварэ збірае, зярняткі… Дык не, да майго Сланечніка прывязаўся, свавольнік!..

П о л ь к а. Прыглядай тут за хатай, не забудзься жывёліну напаіць…

М а к і з а р. Не забуду… говорыш так, быццам бы я толькі што на белы свет нарадзіўся… абы аддаць загад! Абы пакамандзірстваваць!..

П о л ь к а *(кветкам).* Ну, прыгажуні мае, пайшлі, пайшлі! Нарцыс, не адставай!

*Полька, Ружа, Рамонка і Нарцыс знікаюць. Макізар устаў, памахаў ім услед.*

*З'яўляецца Стралок.*

С т р а л о к. Прабач, дзед Макізар. Я віноўны, што цябе трое сутак у КПЗ трымалі. Канверт прынёс. І фотакарткі. Ты добра атрымаўся. Малада. Яны выпалі выпадкова з канверта, карткі…і таму мне нічога не заставалася, як палюбавацца імі…

М а к і з а р *(узяў канверт).* Сядай, Стралок!

С т р а л о к. І за стральбу па кветках прабач. Ні я ж прыдумаў.

М а к і з а р. З чым ты хацеў да мяне тады, у ціры, заярнуцца? Давай, звяртайся. Цяпер у нас, як бачыш, зацішак, перапынак паміж баямі, так бы мовіць. Слухаю, слухаю!

С т р а л о к. А ты хіба не здагадваешся, дзед Макізар?

М а к і з а р. Жаніцца, не інакш, вырашыў?

С т р а л о к *(нязграбна трасе галавой).* У яблычка! Так, так!..

М а к і з а р. Жаніся. Я не супраць.

С т р а л о к. Аднак вас у вёсцы Сіноптыкам клічуць, вы, толькі вы можаце прадказаць надвор'е не ў прыродзе, а вось іменна ў такіх справах, як пабрацца шлюбам… Кажуць, ад кветак у вас гэта?..

М а к і з а р. Не ведаю дакладана ад чаго, але… А сам разабрацца не можаш? Ну чым я табе дапамагу, малады чалавек! Паспрабуй, паспрабуй сам. А потым, калі што, крыўдаваць на мяне будзеш, таго і глядзі.

С т р а л о к. Не буду, слова!

М а к і з а р. Ну, калі не будзеш... З кім сабраўся пабрацца шлюбам? Калі не сакрэт?

С т р а л о к. Які сакрэт! З Танькай Каратковай! Прыгожая такая! З тоўстай касой на плячы! Ды вы яе ведаеце!..

М а к і з а р. Ведаю. І, атрымліваецца, лепш, чым ты, калі да мяне за парадай звярнуўся. Хаця і прыгожая. Я таксама ўсё прыгожае люблю. Глядзі сам. Так і быць, выручу. Толькі каб без крыўды. Даеш слова?

С т р а л о к. Ну, дык я ж!..Даю! Навошта б было прыходзіць?

М а к і з а р. Было не было... Хаця і нядобра мне, мужчыне, сівому дзеду, пра гэта. Жаніццца трэба раз і назаўсёды. Ці зараз так не модна?

С т р а л о к. Не, мода захоўваецца. Па магчымасці, канешне.

М а к і з а р. Я вось адну жанчыну люблю ўсё жыццё...

С т р а л о к. Ну, бабулька ў вас, прама скажу, заслугоўвае!..

М а к і з а р. Забыць не магу...

С т р а л о к *(здзіўлена).* Як?! Я ж толькі што з ёй сутыкнуўся на вуліцы!

М а к і з а р (*уздыхнуў).* А людзі яны, Каратковы, не славяцца ў нас... нядобрыя... брыдкія, адным словам. Хоць і прыгожыя з твару. Гэта пакуль ты не прыйшоў да іх зяцем, яны чыста падмятаюць і мякка сцелюць, усміхаюцца і паклоны адбіваюць... Я ж не з пальца высмактаў свой прагноз, не падумай... Маюцца назіранні-супастаўленні-параўнанні... А як жа!... Перад гэтым з Танькай тваёй шлюбам браўся сын аднаго дачніка...

С т р а л о к *(здзіўлена).* Яна ж нічога не гаварыла пра гэта мне!..

М а к і з а р. Мякка слалі, ох і мякка! А на наступны дзень гасцям з гораду, якія на вяселле прыехалі, і палячыць галовы не далі чым. Тыя самі ў краму бегалі... Вось так яны ўважылі людзей. Ды на такое люты вораг не пойдзе! А на вяселле ж пароўну складваліся, з двух бакоў. Гэта ўсё роўна што селядцамі накарміць людзей, а ваду схаваць. Кепска. Надта кеска! Потым яны той гарэлкай два гады гароды абраблялі. Нават больш скажу: яны зяцёў сваіх зусім за людзей не лічаць... Абы толькі дзвак збыць... Выпіхнулі – і дзверы на зашчапку! Каб маглі дзяцей не ў капусце знаходзіць, а нараджаць, як і трэба... Свае хлопцы не дурні – ніводнай не ўзялі, хоць з твару, як ты кажаш, ваду піць можна... Але ж душа патрэбна, душа!.. Вунь у маіх кветак вазьмі!.. А-а!.. Я табе, фельчар, прызнаюся, так і быць: гэта людзі папрасілі мне сказаць табе ўсю праўду пра Каратковых, як толькі Танька пачала хвастом круціць перад табою...Упрасілі. Уламілі.

Маць іх!.. Не адбіўся. Гэта не мой прагноз. Шкадуюць цябе… Таму што ты чалавек добры. І нават калі б ты не завітаў, то я б знайшоў прычыну пабачыць цябе… Вось толькі за кветкі трэба было б табе вушы надраць.

С т р а л о к. Ды я і не прыдаў гэтаму неяк спярша значэння.

М а к і з а р. Зрабі ўрок. Стары чалавек цябе кепскаму не навучыць. Так што калі ты не паслухаешся маіх землякоў, будзеш ты і алкаголікам, хаця гарэлку будзеш піць не ты, а Танькіны браты, і гультаём, і яшчэ багата кім. У гэтым накірунку яны шмат слоў ведаюць. Але – будзеш! Сапсуюць рэпутацыю. Як двойчы два. Прабач, калі што не так… даруй за прагноз… Паколькі ён бабскі… жаночага роду… на плётку падобны… Усё, больш прагнозаў не выдаю! Амба!.. Задаволены?

С т р а л о к *(моўчкі кіўнуў у знак удзячнасці, моўчкі патрос руку Макізару і накіраваўся да дзвярэй. Потым спыніўся, паказаў на Незабудку ).* Незабудка?

М а к і з а р. Яна. Так. Незабудка.

С т р а л о к. Я не люблю гэтыя кветкі! Ненавіджу! Не люблю!..*(Знікае).*

М а к і з а р. А мы з Мацільдай любім. Гэта наша кветка!.. Наша-а!..

*Зацямненне.*

*Калі набярэцца святло, мы бачым Макізара ўсё на тым жа ганку. З'яўляецца Полька з Нарцысам. Той схуднеў, завяў і ледзьве цягне ногі, галава боўтаецца ў розныя бакі.*

П о л ь к а. Стаў Нарцыса ў кадушку с вадой, а то зусім завяне. Ніхто на яго нават і не глянуў.*(Нарцысу).* Ух, вырадак!..

М а к і з а р. У нас на агародзе месца шмат. Няхай расце і далей. *(Прынёс кадушку, наліў вады ў яе, а Нарцыса пасадзіў на табурэт, дапамог яму паставіць ногі ў кадушку).*

П о л ь к а. А Ружу і Рамонку выгадна прадала. *(Нарцысу – грозна).* А ты прыходзь у сябе, дахляк! *(Схавалася ў сенцах).*

М а к і з а р. Акрыяеш, ты не першы раз з базару цыркулем ідеш. Кашку, кашку трэба есці! А ты больш з дзеўкамі языком мянціш! Зрабі рэзюме!..Слухай, што табе Макізар раіць, і не прападзеш!.. *(Схаваўся ў сенцах).*

*Нарцыс, здаецца, не падае прыкмет жыцця, але раптам павольна ўзнімаецца галава... ён неяк адразу распраміўся, павесялеў, усміхнуўся...*

Н а р ц ы с. Зноў паганая кома!..*(Вытрымаў паўзу, заспяваў: «По долинам и по взгорьям шла дивизия вперёд... чтобы с боем взять Приморье – белой армии оплот...»).* Сланечнік, а ты як тут?

С л а н е ч н і к. Нармальна.

Н а р ц ы с. Па мардасах не атрымаў сёння ад Вераб'я, а?

С л а н е ч н і к. Сляпы, ці што? У процівагазе стаю.

Н а р ц ы с. А-а! Бачу. Ты адзін?

С л а н е ч н і к. Адуванчык адкінуўся... З галадухі схапіў, відаць, адразу багата, і заварот кішак атрымаўся...

*Прагучала жалобная музыка.*

Н а р ц ы с. Не пашанцавала хлапцу. Усё, а мне можна ў кветнік. *(Зрабіў размінку рукамі, некалькі разоў прысеў і стаў на сваё месца).* А дзяўчынкі ўдала ўладкаваліся. Ружа сёння будзе на канцэрце ўручана Піліпу, а Рамонка нейкаму крутому дасталася. Увесь у золаце. Толькі ў наздры няма. Я, кажа, братаны, сёння з ёй буду на такім прыёме, дзе ўсе будуць толькі на Рамонку і безікі вылупліваць! Вось так!..

С л а н е ч н і к. А ў нас, дарэчы, таксама жыць можна. Замест Адуванчыка новы лезе на тым жа самым месцы... сапе, крэкча і лае камень, які яму абыходзіць даводзіцца. Але, здаецца, нахабнік яшчэ той!.. Вылезе!..

Н а р ц ы с. Фу-у, трэба ведаць, як стаміўся я ад таго горада! Ніколі б там не жыў!.. Шум, гам. Цьфу!.. Базар, адным словам!..

*Вечарэе. На небе запаліліся зоркі. Макізар палівае кветкі з лейкі, і тыя спакваля, але разам, дружна падцягваюцца, выпрамляюцца на поўны рост – добра знаёмыя нам ужо Ружа і Рамонка, а таксама Адуванчык, які увесь час хаваецца за спіну Рамонкі.*

М а к і з а р *(кветкам).* Чулі ж, што Мацільда мне, былому французскаму партызану, макізару, значыць, напісала? Чулі, справа вядомая. І што параіце рабіць? Сітуацыя – цяжэй не прыдумаць. Ехаць у тую Францыю? Лёгка сказаць... у мае годы. Самалёты б'юцца, ліха іх матары!.. Цягніком яшчэ не даедзеш, сканаеш у дарозе... Гэта раней, у вайну, неяк прасцей усё было: наступаць – адступаць, у атаку, рукі ўгору, адным словам... І прывет, Францыя!.. Пабачыцца хацелася б, канешне... і ў першую чаргу з дачкой Амелі... Амелі ці як гэта яе там? (*Зазірнуў у пісьмо).* Не, правільна: Амелі. Аднак хто ж мяне пусціць у той Клярмон-Ферран?

П о л ь к а *( паказалася на ганку).* Я!

М а к і з а р *(здзіўлена).* Ты?

П о л ь к а. Бяры грошы, якія я сабрала за твае кветкі… Мацярыў, колькі лаяў мяне за тое, што прадаю… Куды, маўляў, грошы, каму? А вось і спатрэбіліся!.. *(Паставіла на стол трохлітровы слоік, набіты грашыма).* Абмяняй на валюту – і едзь. Толькі спярша пашпарт атрымай… Касцюм у цябе і гэты добры… Сыдзе… Нечага асабліва фарсіць… Берэт новы там купіш… Не саромся з гэтым…

М а к і з а р. Ты гэта… сур’ёзна, Полюшка?

П о л ь к а. Не ведаю, сур’ёзна ці не, але калі б у мяне нават у Амерыцы быў мужчына, якога я кахала б так, як цябе, чорта старога, дык паляцела б без самалёта, на сваіх крылах!.. Дзіцёнак жа ў цябе там!..

М а к і з а р *(абняў старую, прыгарнуў да сябе).* Не, не магу паехаць… Не таму што далёка… Ды зусім і недалёка гэтыя чужыя краіны… атрымліваецца. Блізка яны. Побач. Як і на глобусе.

П о л ь к а. А чаго ж тады натапырыўся?

М а к і з а р. А кветкі на каго я пакіну, галуба мая? На цябе? На цябе надоўга не магу – прападуць… Прабач і не крыўдуй.

П о л ь к а *(пакрыўджана).* Ды люблю, люблю і я не меней твайго кветкі, Макізар! З кім, кажуць, павядзешся!.. *(Светлы сум на шчаслівым твары).* Не хацела я толькі цябе радасці пазбаўляць гэтай… з кветкамі нянчыцца, шчыраваць каля іх… Няхай, думаю, корпаецца… няхай, думаю, радуецца…

М а к і з а р. Ты не супраць будзеш, Полюшка, калі я іх, сваіх французскіх кабецін, сюды запрашу, да нас?

П о л ь к а. Чаго ж гэта я буду супраць? Гэта раней была б супраць…А цяпер запрашай хоць усіх іх, баб… хоць усю Францыю! Сустрэнем. Пачастуем. Каму ты, бяззубы, сёння ўжо трэба, акрамя мяне? *(Схіліла галаву на грудзі старому).*

М а к і з а р. А вось і трэба, калі адшукала Мацільда. Толькі баюся, што не паедуць яны… закапрызяць…

П о л ь к а. А ты запрасі, запрасі! Хораша, прыгожа запрасі. А там відаць будзе. І хіба ж яны таксама не людзі, і якія ж яны капрызныя, жанчыны французскія, калі нават ад нашых мужыкоў здатны нарадзіць?.. Даруй, Макізар!.. Цьфу, дурная баба!..

М а к і з а р. А то не па справядлівасці атрымліваецца: я, значыць, быў у іх, а яны ў мяне… у нас… не. Калі ласка, значыць, і вы да нас!.. А?.. Абмен дэлегацыямі. А фотакартку і запрашэнне пашлю. Толькі трэба нам з табой, Поля, у горад выбрацца разам як-небудзь у бліжэйшы час…

П о л ь к а. Сапраўды так, аднаго я цябе баюся адпускаць цяпер… яшчэ разнясеш там што-небудзь у пух і прах. Пасадзяць надоўга. А як тады я адна з кветкамі спраўлюся? Ды, горш таго, раптам так атрымаецца, што дзеўкі твае з Францыі прыедуць, а мне давядзецца тады іх адной забаўляць, а калі дазволяць, то самой і да цябе весці ў КПЗ? Каб цябе паказаць ім. Гора ты маё!..

М а к і з а р. Ат, заладзіла!.. Ведай меру!.. Справа не ў тым… На фотакартцы я адзін… А трэба, каб мы разам былі… Як і ў жыцці… Як вось і цяпер…

*Сталі плячом да пляча.*

П о л ь к а. Хораша так стаяць… разам…

М а к і з а р. А давай сфатаграфуемся з кветкамі, а? Дзяцей паблізу няма, а яны вось побач…

П о л ь к а. А хто ж нас сфоткуе?

Д а ч н і к *(паказаўся на двары).* Я! *(Выцягнуў з сумкі фотаапарат).* Якасць гарантую! Усе будзеце значна прыгажэйшымі, чым у жыцці!

М а к і з а р. Ну вось, бачыш…

П о л ь к а. А нам гэта толькі і трэба! Калі ў тых цырульнях бываць? Дзе яны? Торкніце пальцам!..

М а к і з а р. А тое ж і праўда – паедзь у той горад… нарвешся зноў на якіх нягоднікаў!.. Цікава, цір яны адрамантавалі ці не?

П о л ь к а. Стой ужо, цір!..

М а к і з а р. Ёсць стаяць!..

*Дачнік рыхтуецца сфатаграфаваць старога і старую разам з кветкамі. Нават Адуванчык прымасціўся побач. Толькі Верабей трымаецца крыху паводдаль, баючыся падыйсці.*

Д а ч н і к. Гэта я з вамі павітаўся сёння ці не? Калі ж разам убачыў вас такіх шчаслівых – разгубіўся ажно ад нечаканасці і забыўся, здаецца? На ўсялякі выпадак, не дачакаўшыся адказу: добры дзень вам!

П о л ь к а. Прыміце, спадар Дачнік, і ад нас прывітанне.

М а к і з а р. Давай і ты, Верабей, да нас! Для Францыі!.. Але потым каб і духу твайго каля Сланечніка не было!.. Зразумеў?

В е р а б е й. Пытаеш, гаспадар! *(Скокнуў на Сланечнік, той падхапіў яго).*

*Шчаўчок затвора, і на задніку ўспыхвае здымак, на якім усе, каго толькі што фатаграфаваў Дачнік. Нейкім чынам і ён сам ухітрыўся аказацца побач з Макізарам... І радок зверху фотакарткі: «Запрашаем вас да сябе ў Сінічкіна! Калі ласка, Мацільда і Амелі!»*

*Ці, наогул, можна абыйсціся і без гэтага радка...*

*Стары і старая стаяць, абняўшыся. Да іх падыходзяць і ўсе астатнія. На паклон.*

*Вось так і закончылася гэтая казка пра кветкі і тайнае каханне кветкавода Макізара.*

Заслона.

**ЖАНОЧЫ ВУЛЕЙ**

*Камедыя ў дзвюх дзеях*

Д з е й н ы я  а с о б ы:

М а м к і н.

М а м к і н а.

Д о к т а р.

І г а р а ў н а.

П я т р о ў н а.

С ц я п а н а ў н а.

А р к а ш к а (конь).

М і л і ц ы я н е р.

П ч а л я р.

П е р ш ы  с а н і т а р – ён жа Міліцыянер.

Д р у г і  с а н і т а р – ён жа Пчаляр.

*Нашы дні. Калідор. Асноўнае дзеянне адбываецца ў бальнічнай палаце.*

**Д з е я  п е р ш а я**

*Перш, чым набярэцца святло, чуваць нечалавечы крык, іржанне каня. І галасы...*

1-ы  г о л а с. Куды яго?

Р э х а . Куды яго? Куды яго? Куды яго-о-о?..

2-г і  г о л а с. У пекла!

1- ы  г о л а с. Ён жа ад Івана Іванавіча!

2 - г і  г о л а с. А-а-а, тады ў рай!

Р э х а. У рай! У рай! У рай-й-й!..

1.

*Шум. Гоман. Стогн... Нарэшце успыхвае святло...*

*Калідор у алергалагічным аддзяленні бальніцы. Два с а н і т а р ы ўносяць на насілках хворага.*

П е р ш ы  с а н і т а р. Куды яго? Прымайце папаўненне! Ёсць хто жывы?

Д р у г і  с а н і т а р. Чалавек памірае!

П е р ш ы  с а н і т а р. Між іншым!..

*З'яўляецца Д о к т а р, малады, прыгожы.*

Д о к т а р. Чаму раскрычаліся? Не на вуліцы ж. У нас ціхая гадзіна. Таксама – між іншым…

Д р у г і  с а н і т а р. Цяжкаваты як-ніяк. Куды несці?

П е р ш ы  с а н і т а р. Як чамадан з цэглай.

Д о к т а р. Спакойна. Аб усім па парадку.Слухаю вас.

Д р у г і  с а н і т а р. Што, хіба не ўсё сказалі?

Д о к т а р. Хвіліначку! (*Пільна ўглядваецца ў твар хворага*). Хвілі!.. Дык гэта ён?

С а н і т а р ы  р а з а м. Ён-н-н!..

Д о к т а р. Цікавы выпадак. Вельмі цікавы. І рэдкі, прызнаюся. У маёй медыцынскай практыцы – першы.

Д р у г і  с а н і т а р. Яшчэ б! Рой пчол напаў на небараку. Конь загінуў, а чалавек – жывы! Як? А?

П е р ш ы  с а н і т а р. Каб конь столькі выпіў, і яго б ніякая трасца не ўзяла.

Д о к т а р. Я з вамі згодны. Цалкам. Так-так.

Д р у г і  с а н і т а р. Дык куды яго, Доктар?

Д о к т а р. Першую дапамогу яму аказалі. Так?

П е р ш ы  с а н і т а р. Вядомая справа!

Д р у г і  с а н і т а р. Нашпігавалі лекамі што трэба. Тыдзень спаць будзе.

П е р ш ы  с а н і т а р. Клі не болей…

М а м к і н (*бездапаможным, кволым голасам*). Дык я ўжо што… багата дзён сплю? А, маладыя людзі?

*Пачуўшы голас М а м к і н а, санітары ад здзіўлення ледзьве не ўпусцілі насілкі з хворым.*

Д о к т а р *(падтрымлівае насілкі).* Асцярожней, асцярожней! Акуратней!..

П е р ш ы  с а н і т а р. Дзівосы, аднак!

Д р у г і  с а н і т а р. Жыў курылка!

П е р ш ы  с а н і т а р. Дык куды яго, Доктар? Што вы гумку цягніце?! Цяжкі ж!

Д о к т а р. Вось і я думаю, куды яго. Усе палаты запоўнены. Бітком. У калідоры пакласці не магу – самі бачыце… цесната. (*Рашуча).* Было не было. Рызыкнём! Пойдзем на эксперымент! За мной!

*С а н і т а р ы з хворым знікаюць.*

2.

*У палаце. Тры жанчыны – С ц я п а н а ў н а, П я т р о ў н а, І г а р а ў н а – заняты хто чым. Адна прыхарошваецца перад люстэркам, другая наладжвае транзістар, трэцяя папраўляе калготкі і любуецца сваёй нагою, якую агаліла даволі высока.*

П я т р о ў н а. А калі шчыра, калі шчыра, жанчынкі, то ўжо і мужычка захацелася… пабачыць.

С ц я п а н а ў н а. Выдумаеш таксама. Лячыцца трэба. Не надта хворых баб мужычкі і любяць, дарагая мая.

П я т р о ў н а. А хто сказаў, што я хворая? Ты, Ігараўна?

І г а р а ў н а. Не, я нічога такога не гаварыла.

П я т р о ў н а. Бачыш, Сцяпанаўна? Яна не гаварыла. Так што не выдумляй бязглуздзіцу. Адпачыць рашыла Пятроўна. Адпачыць! Усяго-наўсяго! Ад сям’і. Ад мужа п’яніцы. Паглядзець захацелася, як яны там без мяне. А то, бач ты, то гэтае ім не так, то іншае. Уселіся на маёй шыі, як сабакі зімой на каналізацыйны люк. Цёпла! Утульна! І не баба я яшчэ, між іншым, а жанчына бальзакаўскага ўзросту. Прашу не блытаць!

С ц я п а н а ў н а. Калі ў мяне муж да слова пачынае прыдзірацца, як даішнік да машыны, я ўжо ведаю: выпіць хоча, паразіт!

І г а р а ў н а. Добра, гляджу, вам, жанчыны. Ёсць з кім паспрачацца, ёсць каго можна і захацець… распілаваць на дробныя часткі. Ёсць каго і на шыю пасадзіць.

П я т р о ў н а. А хто табе, Ігараўна, сказаў, што мне такога мужычка захацелася, якога ты маеш на ўвазе? Маўчыш? Чаму ж ты маўчыш, дзяўчын-ка?

С ц я п а н а ў н а *(збівае рытм гаворкі).* Жанчыны! Хопіць вам! Дагаворыцеся да істэрыкі, як учора.

П я т р о ў н а. Муж… ён нікуды не дзенецца. Тым больш мой. Ён бутэльку так моцна абхапіў рукамі, што не адарвеш. Сплю і бачу яго. Тыдзень ляжу ў бальніцы, а ён і носа не паказаў. А куды папрэшся з п’янай мордай?

*З’яўляецца Д о к т а р.*

Д о к т а р. Падрыхтуйцеся, жанчыны. Сюр-прыз! Заносьце, заносьце, хлопцы!

*С а н і т а р ы заносяць хворага.*

С ц я п а н а ў н а. Ёшкіна маць!.. *(Успляснула рукамі).* Мужыка! Бабы, мужыка к нам! Ці можа гэта… жанчына? Не-не, дакладна: ён! Аднаго на ўсіх!

П я т р о ў н а. Не можа быць ?!

С ц я п а н а ў на. Я што, зусім таго? Зірні, Пятроўна! Зірні, зірні!

Д о к т а р. Можа. Можа быць усё у наш час.

С ц я п а н а ў н а. Шанцуе ж некаторым жанчынам. Вось яна, Марк Аскаравіч, Пятроўна наша, засумавала па дому… па му… па мужычку свайму… ёй і падалі. Як адбіўную на скавародцы. Можна хоць на яго паглядзець, Марк Аскаравіч? Зблізку?

П я т р о ў н а (*прымаючы гульню).* Мне падалі, а яна разглядваць будзе. Не атрымаецца. Прэч! Прэч!

С ц я п а н а ў н а. А мне і адсюль добра відаць. *(Падцягнула галаву).*

П я т р о ў н а *(разглядвае хворага, зморшчылася).* Хіба ж гэта мужык? Куды інваліда падсоўваеце, Доктар? У нябожчыка твар намнога лепшы.

С ц я п а н а ў н а *(моршчыцца).* І я б так сказала: нічога харошага. Фу!

Д о к т а р. Вось таму я да вас яго, жанчыны, і размеркаваў. Месцаў няма. Акрамя як у вас. Зразумейце правільна. Так што любіце і шануйце.

П я т р о ў н а. Хм, было б каго любіць!

С ц я п а н а ў н а. Я ўжо сваё слова сказала.

П я т р о ў н а. Фядот, ды не тот!..

Д о к т а р. Так і быць, дамовіліся: дзянёк-другі няхай у вас паляжыць. За гэты час ён не акрыяе. Так што не бойцеся. Спіце спакойна. Не нашкодзіць.

П я т р о ў н а. А калі набедакурыць, а, Марк Аскаравіч?

С ц я п а н а ў н а. Куды бегчы? Дзе ратавацца?

П е р ш ы  с а н і т а р *(амаль губляючы прытомнасць)*. Доктар!!!

Д р у г і  с а н і т а р *(моршчыцца, як ад болю)*. Р…ратуйце!!!..

Д о к т а р. А чаго вы стаіце? Вось на гэты ложак кладзіце хворага. Хіба ж самі не бачыце? А потым  мы яму падшукаем месца. Транзітам у вас ён, жанчыны, так-так.

*С а н і т а р ы  пераклалі хворага на ложак. Уздыхнулі.*

П е р ш ы  с а н і т а р *(усміхнуўшыся)*. І шанцуе ж некаторым. Сярод такіх прыгажунь уладкаваўся!

Д р у г і  с а н і т а р *(да Доктара)*. Пытанні да нас ёсць?

Д о к т а р. Вы свабодныя ...

*С а н і т а р ы  выходзяць.*

Д о к т а р *(да жанчын)*. А ў вас да мяне?

С ц я п а н а ў н а. Пытанні, адчуваецца, усе наперадзе.

Д о к т а р. Магчыма, магчыма. Не будзем апераджаць падзеі. *(Выходзіць)*.

П я т р о ў н а. Не будзем. Так і быць. *(Глыбока ўздыхнуўшы)*. Паслаў нам Божа кавалак сыру.

С ц я п а н а ў н а. А прычым тут Божа? Доктар, Доктар паслаў. А шмандэлак гэтага сыру ладны. Паглядзіце на яго нос…

П я т р о ў н а. Нос можа хлусіць…

С ц я п а н а ў н а. … на губы растапыраныя…

П я т р о ў н а. Не губы – цадзілкі…

С ц я п а н а ў н а. А вочы – як у кітайца. Кіташа ты наш! У-цю-цю-цю-цю-ю!..

П я т р о ў н а. Таксама скажаш, Сцяпанаўна. Як у японца вочы. І не пярэч мне.

С ц я п а н а ў н а. А якая розніца, не разумею, паміж японцам і кітайцам?

П я т р о ў н а. І дзе ён, цікава, з тымі пчоламі сустрэўся? Такая зямля вялікая!.. А не размінуліся…

С ц я п а н а ў н а. Няма дзе той нектар ім збіраць. Грэчку не сеяць. Усё астаняе атруцілі. Во і падвярнуўся ім дзядзька пасля дужа салодкага віна… пчолы і не разабраліся, мусіць, што да чаго. І накінуліся.

І г а р а ў н а *(мякка)*. Спіць?

С ц я п а н а ў н а. А, і ты тут, Ігараўна?

І г а р а ў н а. А дзе ж?

С ц я п а н а ў н а. Спіць. Добра яшчэ, што не храпе.

П я т р о ў н а. Хай бы паспрабаваў!

*М а м к і н захроп.*

П я т р о ў н а. Чулі? Захроп! Ды каб яму!.. Дайце што ў рукі! Дайце якую-небудзь паклю!.. Я яму рот заканапачу!.. У каго ёсць ануча якая-небудзь, бабы?

І г а р а ў н а. Не трэба. Няхай спіць. Ён хворы.

П я т р о ў н а. У бальніцы ўсе хворыя… *(Успомніла, паправілася)*… акрамя мяне.

С ц я п а н а ў н а. І я, здаецца, паправілася?

І г а р а ў н а. Тады памаўчыце! Калі мужчына спіць, усе павінны хадзіць на кончыках пальцаў…

П я т р о ў н а. Гляньце на яе! Як загаварыла! Ніяк голас прарэзаўся?

І г а р а ў н а. І прарэзаўся. А чаму б і не? Штуршок дадзены…

С ц я п а н а ў н а. Калі ж і трэба чамусьці прарэзацца… Не перашкаджай ёй, Пятроўна.

І г а р а ў н а. Я яго буду тармасіць, калі захрапе. Вось так. *(Тармаснула, хворы замоўк)*. Бачыце? І ўсё добра… і не трэба злавацца. А біць – нельга. Хворых не б'юць.

П я т р о ў н а. Наколькі мне вядома, не б'юць ляжачых.

І г а р а ў н а. Ён жа і ляжачы. І хворы. Ён і так, бедалажка, хапіў ліха.

С ц я п а н а ў н а. Ці не твой ён знаёмы, Ігараўна?

І г а р а ў н а. Дзесьці бачыла, а не помню дзе.

С ц я п а н а ў н а. Такія ўсе на адну фізіяномію… Адна і тая ж у іх грымаса! Фу-фу-фу! Фа-а! *( Паказала, якая грымаса, на сабе).*

П я т р о ў н а. Нічога, нічога – усё паправіма… Пазнаёміцца ніколі не позна. Тым больш, я бачу, ты блізка да мэты. Накірунак узяла правільны.

І г а р а ў н а. Ніякіх мэт я не ставіла. Проста шкада… Жывое ж… Дыхае… Пасопвае, як дзіця… Чуеце, пасопвае?…

*Усе прыслухоўваюцца. Свіст такі, што хоць вушы затуляй.*

С ц я п а н а ў н а. Пашкадуй, пашкадуй. Потым локці кусаць будзеш: не адвяжацца. Мужчыны яны такія.

І г а р а ў н а *(насцярожана*). Ты пра што гэта, Сцяпанаўна?

С ц я п а н а ў н а. Потым даведаешся. Ну паглдядзіце, паглядзіце, на што яны падобныя, гэтыя мужчыны? Ні твару, ні глянцу на шчоках. Яшчэ, чаго добрага, паветра сапсуе. *( Здзівілаяся і сама свайму пытанню).* Бабы, а і праўда, калі пасля ўсяго выпітага... пукне? Гэта ж будзе другі Чарнобыль.

*П я т р о ў н а і С ц я п а н а ў н а адыходзяць падалей ад хворага.*

П я т р о ў н а. Перахрысціся, Сцяпанаўна! Перахрысціся!

*Ж а н ч ы н ы аздобілі сябе знаменнем. Акрамя І г а р а ў н ы.*

П я т р о ў н а. Я... я ўцякаю. Гаварыце, кабеты, што каму трэба: бягу ў краму.

І г а р а ў н а. Мне.. а што мне трэба?

С ц я п а н а ў н а. Тое, што табе трэба, у нашых крамах не прадаецца.

П я т р о ў н а. Да пары да часу.

І г а р а ў н а. Мне – нічога.

С ц я п а н а ў н а. Ведаем цябе. А тады будзеш глядзець на нас і слінкі пускаць. Як вярблюдзіца. Глядзі, Ігараўна, не прамахніся.

І г а р а ў н а. Худаць буду.

П я т р о ў н а. Худаць? Ну дае! Ну заявачкі! Ды ў цябе ж і так, акрамя цыцок па кулачку, нічога няма. Скура ды косці, даруй Госпадзі!...

І г а р а ў н а. Мне добра.

П я т р о ў н а. А мне, можна падумаць, ад таго, што табе добра, кепска? Ну, а табе, Сцяпанаўна, што? Заказвай. Ды хутчэй вы, хутчэй! Думайце-е!

С ц я п а н а ў н а *(вытрымаўшы паўзу).*Як тады.

П я т р о ў н а. Зразумела. Дык што, на дваіх? Ігараўна, будзеш?

*Паўза.*

П я т р о ў н а. Трэцяй, апошні раз пытаю... потым будзеш шкадаваць... трэцяй, будзеш?

І г а р а ў н а *(падае Пятроўне грошы).* Ды ўжо і ўгаварылі. Далучаюся. Толькі калі сухое віно будзе... чырвонае... царкоўнае...

П я т р о ў н а. Зразумела: бярэм “Кагор”. Калі ў царкве можна прычасціцца, чаму ў бальніцы нельга?.. Чакайце. Як бы вы без мяне? *(Выходзіць).*

С ц я п а н а ў н а. Ты, здаецца, сёння, Ігараўна, дзяжурная?

І г а р а ў н а. Здаецца, я.

С ц я п а н а ў н а. Дык у чым справа?

І г а р а ў н а. Што, ужо?

С ц я п а н а ў н а. Ужо, ужо. А то, як заўсёды, будзеш корпацца ўвесь вечар… Пачынай стол сервіраваць. Бачу, заглядзелася на гэтага мужыка?

І г а р а ў н а. Дык я ж незамужняя, можа быць?

С ц я п а н а ў н а. А ён, можа быць, і нежанаты?

І г а р а ў н а *(весела, блазнуючы).* Жонка не сцяна – можна і пасунуць.

С ц я п а н а ў н а *(смяецца*). Ой, трымайце мяне! Умарыла! Багата, гляджу, ты пасунула, што адна жывеш. *(Задрала нагу, апранае новыя калготкі, любуецца сваімі шчадротамі, і хворы павольна падымае галаву, захапляецца таксама).* Ну, і як мая абнова?

М а м к і н. Проста… цуд! *(Апусціў галаву).*

С ц я п а н а ў н а *(здзіўлена*). Хто сказаў «проста цуд»? Які кот сказаў “мяў”?

І г а р а ў н а *( не адразу, але ахвотна*). Ён… ён сказаў.

С ц я п а н а ў н а. Будзе жыць, паразіт! Можа рана мы яго спісалі з Пятроўнай?

І г а р а ў н а *(сарамліва).* Мужык жа… дзейнічае… яго вылечыць можна, відаць, жаночым целам?

С ц я п а н а ў н а. Не кожным. Не кожным, Ігараўна. Маім – так. Але іншым можна і забіць. Напавал.

І г а р а ў н а *(аглядае сябе і чырванее*). Не так ужо і можна… гэта дрэнна толькі, што аддзяленне ў нас такое, што душыцца нельга. Алергалагічнае.

С ц я п а н а ў н а. Хто хоча, той душыцца.

І г а р а ў н а *(паказвае на сябе, бы пырскае*). Духамі… так-так… духамі… мінуючы пятлю.

С ц я п а н а ў н а *(нагадвае).* Пра стол забылася, між іншым.

І г а р а ў н а *(спахапілася).* Ой, забылася! Я зараз. Зараз. Зараз. *(Накрывае стол).* Дапамагай, Сцяпанаўна. Хутчэй будзе.

С ц я п а н а ў н а. Я так і ведала, што без маёй дапамогі табе ну ніяк!.. *(Дапамагае).*

*Неўзабаве стол серверы сервіраваны, а П я т р о ў н ы  няма.*

С ц я п а н а ў н а. Затрымліваецца нешта наша Пятроўна.

І г а р а ў н а. Звычайна – на першай касмічнай.

Г о л а с  П я т р о ў н ы. Хто сказаў, што я затрымліваюся? (*З'яўляецца).* Калі такое было? Ды ніколі! І ніколі не будзе! Там, дзе Пятроўна, там поўны ажур, там усё цвёце і пахне. (*Выстаўляе на стол бутэльку віна)* Не бачу шклянак.

І г а р а ў н а *(спахапілася*). Ой, і праўда! *(Ставіць на стол шклянкі).* Крышталёвыя.

П я т р о ў н а. А ў крышталёвых віно і гарэлку доўга трымаць нельга. Крышталь вылучае атруту. Наліў – выпіў. Каб не атруціцца.

С ц я п а н а ў н а. Выпіў – наліў.

П я т р о ў н а. За стол!

І г а р а ў н а. А доктар… не загляне?

П я т р о ў н а. І яму нальём.

І г а р а ў н а. Ён адмовіцца.

П я т р о ў н а. Сцяпанаўна, ты багата ведаеш мужчын, якія б адмаўляліся?

С ц я п а н а ў н а. Ніводнага. Ні-вод-на-га-а!

П я т р о ў н а. Траплялія, праўда, што нічога не маглі зрабіць, але за дзела браліся з вялікім жаданнем і высокай баявой гатоўнасцю. Ігараўна, ты забываеш, што сёння дзяжурная. Што з табой, маладая ды незамужняя?

І г а р а ў н а. Ой, і праўда! *(Напаўняе шклянкі*). Калі ласка!

Ж *а н ч ы н ы  ўзялі шклянкі.*

С ц я п а н а ў н а. За што?

І г а р а ў н а. А што, хіба яшчэ ёсць за што? Не ведаю… за ўсё, здаецца, ужо пілі?

П я т р о ў н а. Можа, і пілі. Можа, і не. *(Раптам).* А чаму б нам не выпіць за адзінага мужчыну? Які-ні-які, а  ўсё ж – мужчына.

С ц я п а н а ў н а. Я не супраць. Ад мяне не ўбудзе, мне і не прыбудзе. Хоць за чорта.

І г а р а ў н а. Ой, і праўда! За яго… за мужчыну.

П я т р о ў н а. Акрыяе, ачухаецца, то, магчыма, і спатрэбіцца. Ігараўна, падпусціш?

Р а з а м. За мужчыну!

*Выпіваюць. М а м к і н прыўзняўся, а потым апусціў галаву на падушку. Крэкнуў.*

П я т р о ў н а. Добра, добра пайшло… На цукеркі, як заўсёды,грошай не хапіла… Таму, мае шаноўныя, бярыце агурочкі, агурочкі бярыце. Свае. І памідорчыкі. Прыязджаю на дачу, глянула на агарод, а мне і дурна стала: усё зарасло. І калі ж я, думаю, упраўлюся са сваім агародам. Не пазнаць, дзе і што пасаджана. Ага, здагадваюся: каларадскія жукі дзе поўзаюць— значыць, там бульба. І памідоры. Накапала я так - сяк бульбы, наварыла, натрэскалася… і заснула. А калі прадрала вочы, глянула на гадзіннік: «Ого! Дык ужо і на поезд пара!» І пабегла. А ўсё вырасла. Ну, не так, каб… але мне хапіла.

*Ж а н ч ы н ы смяюцца.*

І г а р а ў н а. А ў мяне няма дачы.

С ц я п а н а ў н а. Шчаслівая.

П я т р о ў н а. Яшчэ якая шчаслівая!

С ц я п а н а ў н а. Ні мужа, ні дачы. Не, ты вельмі шчаслівая, Ігараўна.

І г а р а ў н а. А я вам зайдрошчу. Праўда. Асабліва калі грам вып’ю. Як вось цяпер.

С ц я п а н а ў н а. Ну, калі я вып’ю, то ўвогуле нікому не зайдрошчу. Мне здаецца тады, што ўсе павінны мне зайдросціць.

П я т р о ў н а. Ты, Ігараўна, зайдросціць зайдросць… не забараняецца, але ж не забывайся і крышталёвыя шклянкі напаўняць.

І г а р а ў н а. Ой, і праўда! *(Напаўняе).*

П я т р о ў н а *(ківае на Мамкіна).* Што, зноў за гэтага хмыра?

С ц я п а н а ў н а. Яшчэ не хапала! Замнога будзе.

І г а р а ў н а. А я б выпіла.

С ц я п а н а ў н а. І выпі.

П я т р о ў н а. Давайце за наша здароўе. Няхай яго будзе яшчэ больш.

І г а р а ў н а. Таксама добры тост.

С ц я п а н а ў н а. Пятроўна кепскіх тостаў гаварыць не ўмее.

П я т р о ў н а. Усё жыццё сваё свядомае, дарагія мае жанчынкі, на грамадскай працы. Усё жыццё. А гэта многае значыць. Асабліва, як вы заўважылі, навучылася тосты  выдаваць і бегаць у гастраном. Камсамол, прафсаюз, ліга жанчын і тэ дэ і тэ пэ.

М а м к і н. Бацька Махно застрэліў начальніка станцыі Жмерынка за доўгі тост…

І г а р а ў н а *(выпусціла з рук шклянку, тая ўпала на падлогу, але не разбілася*). Ой!.. *(Падняла шклянку, зацірае на падлозе пляму ад віна).*

С ц я п а н а ў н а. Будзе жыць!

П я т р о ў н а. Фу -у, напалохаў. *(Узяла ў Ігараўны шклянку, капнула віна, падала ёй).* Ігараўна, мацней у руках шклянку трымаць трэба.  А то яшчэ што-небудзь скажа… пад руку.

*Выпілі. Закусваюць. І г а р а ў н а  схавала  ў тумбачку бутэльку. Заходзіць Д о к т ар.*

Д о к т а р *(энергічна).* Ну, як тут наш хворы?

П я т р о ў н а *(абыякава).* А, вы пра гэтага? *(Ківае на Мамкіна).* Варушыцца патрохі…

Д о к т а р. Гэта ўжо добра. Зрухі ёсць.

С ц я п а н а ў н а. Ад яго, адчувем, хутка запішчым, пяты вугал шукаць будзем.

Д о к т а р. Пакуль да гэтага справа дойдзе, мы яго ад вас забярэм. Не хвалюйцеся.

С ц я п а н а ў н а *(інтымна).* А калі прывыкнем? А калі нам без яго будзе, як без паветра?

П я т р о ў н а. Што тады, Доктар?

Д о к т а р *(строга).* Вы гэтыя кепскія думкі выкіньце з галавы. Выкіньце і забудзьце. *(Раптам – здзіўлена).* Што гэта ў вас твары такія чырвоныя? Ціск, можа, высокі?  Дык  чаму адразу  ва ўсіх ,а?

П я т р о ў н а. Не, здаецца… ніхто не ціскаў…нас.

С ц я п а н а ў н а *(кіўнула на Мамкіна).* Гэты хіба на што здольны?

Д о к т а р *(сядае да стала).* Трэба памерыць ціск. Абавязкова. Сядайце , жанчыны. Ну, хто першы?

*П я т р о ў н а  села. Доктар змерыў ціск.*

Д о к т а р. Ды не, у норме.

П я т р о ў н а. Хоць у космас!

С ц я п а н а ў н а. Ну, а ў мяне? *(Села).*

Д о к т а р. І ў вас у норме. *(Ігараўне).* А цяпер сядайце вы.

*Ігараўна стаіць, нібы не чуе.*

Д о к т а р. Сядайце, сядайце. Я вас доўга не затрымаю.

І г а р а ў н а *(адчувае сябе ніякавата).* Хіба ж я дурная, паабедаўшы, з вамі побач садзіцца?

*П я т р о ў н а і С ц я п а н а ў н а пырскнулі смехам.*

*Рашучым крокам заходзіць М а м к і н а.*

М а м к і н а *(агрэсіўна*). Дзе ён?!

*Усе, бы па камандзе, усталі.*

П я т р о ў н а. Хто? І куды вы, жанчына, уварваліся?

С ц я п а н а ў н а. У нас абход. Не бачыце?

М а м к і н а. Я шукаю свайго мужа! Мне сказалі, што ён тут. Гэта праўда?

С ц я п а н а ў н а. Паглядзі, ваш твой ці не?

П я т р о ў н а. Нейкага абшчыпанага падкінулі... Па інвентарнай ведамасці праходзіць, здаецца... Другі ў спісе вось за гэтым табурэтам... *(Піхнула нагой табурэт).*

Д о к т а р. Вы, калі не памыляюся, жонка Мамкіна?

М а м к і н а. Жонка. А хто ж? Палюбоўніца хіба будзе насіцца з торбамі па ўсёй бальніцы і шукаць яго?

*С ц я п а н а ў н а і П я т р о ў н а ледзь прыкметна хмыкнулі.*

М а м к і н а. Жонка, жонка!

*П я т р о ў н а варсанула пад нос І г а р а ў н е кукіш.*

М а м к і н а. І чаму ён тут, сярод жанчын? Што за парадкі такія? Я ў вас пытаюся, таварыш Доктар?

Д о к т а р. Не было з чаго выбіраць. Выбіралі паміж трупярняй і нашым аддзяленнем. Аддзяленне перапоўнена. Калідоры вузкія... Што вы яшчэ хочаце ад мяне пачуць? І чаму, не разумею, вы такая незадаволеная? Мужа вашага, можна сказаць, з таго свету вярнулі. І вось дзякуючы ім, жанчынам... таксама.

М а м к і н а *(уважліва прыглядаючыся да жанчын).* Я... я не пацярплю. Гэта ж самае што ні ёсць абы што – пусціць казла ў агарод вартаваць капусту. Вы ж яго кінулі ў рай!

Д о к т а р. Калі з пекла, то і добра.

М а м к і н а. Не перабівайце. У тое гняздо кінулі, дзе ён можа навыводзіць Мамкіных бясконцую колькасць! А, маўчыцё? А што вы скажаце? Я лепш ведаю свайго мужа, чым вы ўсе разам узятыя.

*М а м к і н нешта блюзніць, махае раз-пораз рукамі на жонку, каб тая знікла.*

М а м к і н а. Во, во, ён ужо і мяне гоніць. Бачылі? Не, вы, Доктар, толькі паглядзіце на гэтага заклапочанага тыпа. Дачакалася. Фінал. Сямейныя алімпійскія гульні. Рым-Сеул.

П я т р о ў н а. Паралімпійскія, можа? Гэта калі інваліды спаборнічаюць…

М а м кі н а. Ах, якая разумная!

Д о к т а р. Не хвалюйцеся, жанчына. Што ваш Мамкін можа?

М а м к і н а *(амаль жалобна).* Хаця праўда… што ён, Мамкін, можа? Але ж усё роўна шкада: законны муж! Што паспела ўхапіць, то і маё. На дзве пенсіі, да таго ж, лягчэй пражыць.

Д о к т а р. Пакуль мы яго будзем калоць. Давайце пройдзем у ардынатарскую, там пагаворым.Няхай жанчыны адпачываюць. І ваш муж разам з імі.

М а м к і н а. Я ж і кажу: пусцілі казла ў агарод…Дык ён есці хоць здольны? Сківіцамі шаўкаць можа?

Д о к т а р. Есці ўсе мужыкі могуць, у якіх зубы ёсць.

П я т р о ў н а. Хоць спераду.

М а м к і н а. Не ў вас пытаюць!

Д о к т а р. З лыжачкі. Там у нас халадзільнік у фае, пакіньце ежу… А кампот…

*Пачуўшы пра кампот, М а м к і н прыўзняў галаву.*

Д о к т а р. …кампот пакіньце тут. Толькі без мёду. Ваш муж на мёд цяпер доўга глядзець не будзе.

М а м к і н а *( выстаўляе на стол слоікі*). Дык ён што, і не гаворыць? Язык таксама пакусалі?

С ц я п а н а ў н а. Шаптаў трохі… але вас убачыў – і зусім, здаецца, мову згубіў.

Д о к т а р. Так, так. Яна мае рацыю. Толькі слухаць можа.

М а м к і н а. Толькі слухае?

Д о к т а р. Так, так. Толькі слухае.

М а м к і н а. Тады слухай, слухач! Глядзі ў мяне, Мамкін! Поўным каб дамоў вярнуўся. Праверу: усю тваю гаспадарку у ванну апушчу. Будзе плаваць – галаву адкручу.

*Ж а н ч ы н ы смяюцца. Д о к т а р і М а м к і н а выходзяць.*

П я т р о ў н а *(таямніча-загадкава).* Ба-бы! Мне, здаецца, усё зразумела? Цяпер я ведаю, чаму ён, Мамкін, жывы, а конь капыты адкінуў. За - гар-та-ва-ны-ы! Што там рой нейкіх замучаных, заморaных пчол супраць ягонай жонкі? Бачылі гэтае стварэнне?!

С ц я п а н а ў н а. Цаца дык цаца. Можа нават, ён умысна морду і падставіў ім, пчолам, як пад струмень паветра, каб адпачыць ад яе, ад бабы сваёй? А? Бабы!

І г а р а ў н а. Шанцуе ж некаторым. А тут адна…

П я т р о ў н а. Не прыкідвайся дзівачкай: адна! А куды ж твае хлопчыкі-дзевачкі падзеліся? Нараджала, хоць сама яшчэ і дзяўчынка…

С ц я п а н а ў н а. І сёння спаць іх будзеш укладваць?

І г а р а ў н а *(сумна)*. І сёння. І заўтра. І паслязаўтра… Вось так, жанчыны. А больш… і радней у мяне нікога няма. Адна я. *(Узяла ў тумбачцы лялькі хлопчыка і дзяўчынкі, паклала на падваконнік, нібы на ложак).* Верка і Мішутка мае. *(Пачаргова пацалавала іх).*

П я т р о ў н а. Такіх дзяцей добра мець. Яны заўсёды… і ў шторм і ў штыль паслухмяныя. У любы час сутак, удзень і ноччу.

С ц я п а н а ў н а. І есці не просяць. А цяпер пракарміць – я табе дам! Цукеркамі, бачу, песціш… якім, пэўна ж, больш год, чым самой.

П я т р о ў н а. І не смецяць. Прыгажосць!

І г а р а ў н а. А чаго, жанчыны? Я і шчаслівая з імі. Вярнуся з работы ў сваю халодную аднапакаёвую кватэру, а Верка з Мішам і сустракаюць мяне. Як брацік з сястрычкай.

П я т р о ў н а. І ў садзік не трэба за імі перціся на злом галавы. І ў школу не выклікаюць, як мяне – па тры разы на тыдзень. Цьфу!

С ц я п а н а ў н а. І форму купляць не трэба. І сшыткі. І падручнікі. Паслухай, Ігараўна, а ты разумнейшая за нас з Пятроўнай, разам узятых. Чэснае слова.

І г а р а ў н а. Ёсць з кім пагаварыць. Ёсць і каму паскардзіцца.

П я т р о ў н а. Толькі няма на каго.

*П я т р о ў н а і С ц я п а н а ў н а ўкладкоўваюцца на начлег.*

І г а р а ў н а. Ёсць з кім параіцца. *( Лялькам).* Спіце, мае родненькія, мае любыя. Спакойнай ночы. І я лягу, ваша мама, побач. Няхай вам прыгожы, харошы сон прысніцца.

П я т р о ў н а *(забралася пад коўдру).* Я сваіх вундэркіндэраў так хутка і лёгка ніколі не магла спаць ўкласці.

М а м к і н *(просіць).* Піць, піць, піць!

П я т р о ў н а *(нервова).* Пачалося!

С ц я п а н а ў н а. У царкву не ходзіце, грэшнікі,– атрымлівайце цяпер усяночную.

І г а р а ў н а. Я, я падам! *(Поіць Мамкіна з бутэлькі).*

С ц я п а н а ў н а. А хто ж яму падасці тое, куды гэтая вада потым павінна выліваца?

*Паўза.*

С ц я п а н а ў н а. Таксама ты, Ігараўна?

П я т р о ў н а. У суседняй палаце бабулька ляжыць. Трэба ў яе, мусіць, адзін памперс купіць?

С ц я п а н а ў н а. Ты хіба будзеш яму ў трусах той памперс прыспасабляць?

І г а р а ў н а *(паўшэптам*). Усім спакойнай ночы… Да раніцы… Спакойнай ночы!..

П я т р о ў н а *(ціха, але выразна).* І нас убаюкала, шэльма!

*Усе, акрамя М а м к і н а, соладка пазяхаюць.*

3.

*Раніца наступнага дня. У палаце, акрамя хворых, Д о к т а р. Ж а н ч ы- н ы ўсё яшчэ пад коўдрамі.*

Д о к т а р. Як спаў ваш новы сусед?

П я т р о ў н а (*пазяхаючы*). Як дзіцёнак, які толькі што нарадзіўся на свет белы. Нешта прамумкаў сабе пад нос – і суцішыўся. А потым ужо як дарослы храпці пачаў…

С ц я п а н а ў н а. А я і не чула.

Д о к т а р *(нахіліўся над Мамкіным ).* Хворы Мамкін! Вы мяне чуеце? Спіць. І няхай. Яму цяпер, акрамя лекаў, і цішыня патрэбна. Лекамі мы яго, вядомая справа, забяспечым, спакоем і цішынёй, спадзяюся,– вы.

П я т р о ў н а. Марк Аскаравіч, адвярніцеся. Мы апранаемся.

С ц я п а н а ў н а. Саромеемся… чамусьці.

*Д о к т а р адвярнуўся. Ж а н ч ы н ы апранаюцца.*

С ц я п а н а ў н а. Яшчэ хвіліначку! Яшчэ!… Так, так. Можна.

*Д о к т а р павярнуўся да жанчын.*

П я т р о ў н а. Ігараўна!

І г а р а ў н а. Ну, чаго табе?

П я т р о ў н а. Вось яна, Марк Аскаравіч, нясе поўную адказнасць за пчаляра Мамкіна. Хопіць ёй з лялькамі забаўляцца. Пара ўжо звярнуць увагу і на ляльку больш высокай вагавай катэгорыі.

Д о к т а р. Толькі асцярожна звяртайце ўвагу. Мая вам парада. Беражыцеся… каго – ведаеце… Я сваё ўжо атрымаў. Спаўна. Абяцала і напісаць куды-небудзь…

П я т р о ў н а. Яна можа. Па ёй відаць.

С ц я п а н а ў н а. Ды пайшла яна! Не такіх бачылі!..І не тут.

Д о к т а р. Мая справа вам даць параду. Карысную. Дарослыя – не маленькія. *(Выходзіць).*

С ц я п а н а ў н а. А навошта нам, Пятроўна, той Мамкінай берагчыся? Хіба ж гэта мы вока на яе мужа паклалі? Вось яна, загадчыца дзіцячага садзіка, няхай і думае… *(Паказала на Ігараўну).*

І г а р а ў н а. А чаму… я? Калі я незамужняя, то на мяне і ўсе шышкі, так? Мала таго, што ўсе суседкі да сваіх мужчын раўнуюць, дык і тут, у бальніцы, той жа сіндром.

С ц я п а н а ў н а. Той дром -тром, той!

П я т р о ў н а. Усе людзі аднолькавыя. Выключна.

І г а р а ў н а. Я ўжо пачынаю разумець, што ўсе людзі…

П я т р о ў н а. Не расказвай, не расказвай, мы і так ведаем, хто яны такія.

М а м к і н *(гучна).* Піць!

І г а р а ў н а *(спахапіўшыся).* Зараз, зараз! *(Поіць Мамкіна).*

П я т р о ў н а. Не, тут без памперса не абыдземся.

*З'яўляецца М а м к і н а.*

М а м к і н а. Стоп! Стоп, стоп! Без пабочных! Дай сюды! *(Вырывае бутэльку ў Ігараўны).* А жонка навошта? .

П я т р о ў н а. Ну, калі толькі мужа з соскі паіць?..

М а м к і н а. Глядзі ты! Адкармілася тут на казённых харчах! За словам у кішэню не палезеш.

П я т р о ў н а. А няма кішэняў. І ў Сцяпанаўны таксама. Усе словы ў мяне на кончыку языка... *(Паказала язык).* А? *(Дэманстратыўна паставіла на табурэт нагу, папраўляе калготкі...)* А будзеце з намі так размаўляць – мы за сябе не ручаемся . Так, дзеўкі?

С ц я п а н а ў н а. Жэнім! Запраста!

*М а м к і н уважліва глядзіць на шчадроты П я т р о ў н ы.*

М а м к і н а. Пакуль вы яго тут жэніце, я яго прыб'ю, гада! *(Злёгку ўдарыла мужа па галаве).* Ляжаць! Піць яму, нягодніку! Ледзь жывы, а ўсё ў той агарод цаляеш, паразіт. *(Пятроўне).* А ты выбірай месца, дзе можна свяціць галёнкамі, дзе – не.

П я т р о ў н а *(нахабна).* Няхай паглядзіць. Твае яму абрыдлі, а мае, бачыш, паварочваюць шыю на сто восемдзесят градусаў. Магу і вышэй... Падняць?

М а м к і н *(трасе галавой, махае рукамі).* Так, так, давай, давай! *(За што зноў атрымаў па галаве).*

М а м к і н а. Ля-жаць! Ляжаць, сказала! Дык мне што, нягоднік, тут і сядзець каля цябе?

М а м к і н. Не трэба! Не-не!

М а м к і н а. Звольніцца і дзяжурыць? Вартаваць?

М а м к і н. Хто сказаў?

М а м к і н а. Каравул выставіць? Маўчыш? Глухім прыкідваешся? Глухім і нямым? Перад жонкай?

М а м к і н . Дык гавару ж! Нешта...

М а м к і н а. А як толькі што блісне... хапаеш, нібы сарока тая. Напіўся? Хопіць, а то бяды наробіш. *(Паставіла бутэльку на тумбачку).*Я вярнуся, пацікаўлюся, як ты тут жывеш - пажываеш. На працу збегаю. Адзначуся... Але запомні: у блуд не пойдзеш у мяне, Мамкін! Высячы на лбе! І не мылься. Не дам. Не дазволю, Мамкін! *(Знікае).*

С ц я п а н а ў н а *(уздыхнула).* Цяжкая ў цябе задача, Ігараўна. Ад гэтай бабы не адарвеш тое, што ёй належыць. Не адгрызеш.

М а м к і н. Не, не, можна!

П я т р о ў н а. Зубы паламаеш. Хоць, магчыма, там няма чаго і адгрызаць? Гэта глянуць трэба. Праверыць...

І г а р а ў н а. Дзе?

*Ж а н ч ы н ы смяюцца.*

П я т р о ў н а *(сказала на вуха Ігараўне – дзе).* Скажы, скажы і ты ёй, Сцяпанаўна.

С ц я п а н а ў н а. Ды што гаварыць? Ты ж, Ігараўна, відаць, яшчэ і не любіла ніколі? Ці было?..

І г а р а ў н а. Ды хопіць вам, жанчыны! *(Адвярнулася да акна).* Завялі размову.

М а м к і н. Працягвайце, працягвайце! Я слухаю!..

П я т р о ў н а. Не перабівай, калі жанчыны гамоняць. А Ігараўна, між іншым, праўду кажа. Зусім мы, бабы, з розуму выжылі. І што на нас найшло? Хіба ж ласкі, дабрыні ў нас паменела? Дык не ж. Усё гэта быццам бы пры нас. Як у салдата – аўтамат і падсумак. А ўсё пра адно і тое ж… як галодныя пра ежу.

С ц я п а н а ў н а. А больш няма пра што і пакалякаць. Пра кухню? Абрыдла тая кухня. Пра мужыка, які п'яны, бывае, прыпаўзае такі, што, здавалася б, раздавіла, як прусака? Ну, а пра што яшчэ нам пагаварыць, бабы, нам? Хто падкажа? Пра каго?

М а м к і н. Пра што хочаце, пра тое і пагаварыце. Аднак мужчын, прашу вас, пакіньце ў спакоі. Ім і так дастаецца. Калі вайна якая, калі навальніца – каго порах нюхаць пасылаюць? Вас? Калі б не так!

С ц я п а н а ў н а. І мужчынам дастаецца. І жанчынам. Усім хапае.

П я т р о ў н а. Што праўда, тое праўда. Іншы раз і паспрачаемся… з-за якой-небудзь дробязі. А ці варта, калі задумацца, было адзін аднаму настрой псаваць, нервы? Помню, таксама паспрачаліся. Можа, дзесяты раз на дні. Даўно было. Ну, ці ж мала з-за чаго маглі пацапацца маладыя муж і жонка? Не размаўляем. Надзьмуліся. А раніцай жа дамаўляліся паехаць у лес па грыбы. Прачнулся амаль адначасова – спалі ж, вядома, на розных ложках. Алег паставіў чайнік на пліту, пачаў галіцца. Я таксама моўчкі зрабіла некалькі бутэрбродаў, унесла з кладоўкі боты – дзве пары. Гумавыя. «Чай піць будзеш?» – асцярожна папытаў Алег. «Буду», – адказала я, не падкрэсліваючы прымірэння. Пілі чай моўчкі. Моўчкі сабраліся і ў лес. У дызелі больш глядзелі ў акно. Неўзабаве лес праглынуў нас абодвух. Першы паклікаў Алег: «Ва-ля!» Я адказала: «Я тут!» І на душы хораша, неяк цёпла – праўда! – зрабілася. Потым я паклікала: «Алеж-ка!» А тады толькі і было чуваць у тым лесе: «Ва-ля! Алеж-ка!» Ды так часта, што ўжо і людзі… рэдкія грыбнікі, відаць, пачалі здзіўляцца: чаго гэта яны, як маленькія? Ці не падурнелі зусім?

І г а р а ў н а. Шчаслівая ты, Пятроўна.

П я т р о ў н а. Я ведаю. Не схлушу, калі скажу: іншы раз спяваць хочацца.

С ц я п а н а ў н а. А чаму – іншы? А калі вось прама цяпер? А? Хто не дазваляе?

І г а р а ў н а. У бальніцы нельга.

П я т р о ў н а. Можна. Калі з галавой – усё можна, Ігараўна. Калі не моцна. *(Заспявала. І песню падхапілі ўсе – кволы голас падаў нават Мамкін).*

*У палаце адзін М а м к і н. Ён спрабуе ўстаць. З цяжкасцю, але атрымалася. Зрабіў некалькі крокаў. Чалавек і гэтаму рады.*

М а м к і н *(радасна, гучна).* Жывы-ы-ы! Жывы-ы, людзі! *(Успомніў).* А конь Аркашка? Дзе конь?

*Чуваць іржанне к а н я.*

М а м к і н. Жывы? І конь жывы? Няўжо? А на яго ж спярша рой, а потым, здаецца, на мяне? Ці як было?

*З'яўляецца А р к а ш к а.*

М а м к і н. Жывы?!

А р к а ш к а. «Жывы». Як жывы? Я на аблоках. Вышэй за мяне толькі касманаўты.

М а м к і н. А як ты тут, на зямлі, апынуўся?

А р к а ш к а. Ты ж паклікаў, а я пачуў. Навошта зваў?

М а м к і н. Проста… цікава стала, што з табой. Нічога не помню. Памяць адбіла. Іншы раз нічога не помню пасля ўчарашняга… Толькі помню рой пчол… і гул… гу-гу-гу-гу-гу-гу-гу… і як кудысьці праваліўся..

А р к а ш к а. Яны ж спярша на цябе накінуліся.

М а м к і н. Як? А не на цябе?

А р к а ш к а. На мяне потым, пасля таго, як ты дыхнуў на іх вiном… не ўсім спадабалася віно… і накінуліся, шэльмы!

М а м к і н. Даруй, Аркашка. Ты мяне выручыў.

А р к а ш к а *(глыбока ўздыхнуў).* А калі я цябе не выручаў, гаспадар? Калі? Эх, ты! І п'янага прывозіў дамоў, і пабітага на горкі яблык. Помніш, як цябе мужыкі адчыхвосцілі? Задраўся ты.

М а м к і н. Ага. Помню. А як жа. Такое, Аркашка, лепш не ўспамінаць.

А р к а ш к а. Дрэнь ты, калі вып'еш, гаспадар. Гэта я табе, конь, гавару.

М а м к і н. Ну, ну, не так строга. Мы ж дружылі. Карміў цябе, паіў.

А р к а ш к а *(смяецца).* Чым карміў? Аўсом?

М а м к і н. Аўсом – не, няма аўса.

А р к а ш к а. Сенам. Зрэдку буракамі… а калі б карміў добра, дык я б ад пчол адбіўся. Абавязкова.

М а м к і н. Усе ж так кормяць.

А р к а ш к а. Як корміце, так і жывяце. Не сорамна так жыць?

М а м к і н. Ты ў мяне пытаешся?

А р к а ш к а. У людзей.

М а м к і н. А чаму гэта ты раней  не размаўляў, Аркашка? І мне весялей было б з табой. Пагаварылі б іншы раз. За жыццё.

А р к а ш к а. Ты б мяне тады ўгаварыў выпіць раз, другі… і пайшло-паехала-паімчалася б…. Выцвярэзнікі, лячэбніцы…

М а м к і н. А вось гэта – дулю. На гарэлку я скупы. Самому заўсёды мала. Чаму ты, Аркашка, не гаварыў раней, а, галава твая садовая? Шкада, шкада…

А р к а ш к а. Коні не размаўляюць.

М а м к і н. Ты ж размаўляеш.

А р к а ш к а. Толькі таму, што табе, майму быламу гаспадару, захацелася мяне бачыць і слухаць. Бог выканаў тваю просьбу.

М а м к і н *(здзіўлена).* Бог? Вось дзе, аказваецца, у нас блат ёсць?! І ты – малайчына! Малайчына, Аркашка! Разумны ты. А я і ведаў, што Аркашка мой – конь што трэба. Добры конь. Золата!

А р к а ш к а. Ну што табе яшчэ сказаць, чалавек?

М а м к і н *(паціснуў плячыма, развёў рукамі).* Скажы што-небудзь. Калякні.

А р к а ш к а. Не што-небудзь, я скажу табе тое, што трэба.  Я хачу цябе паставіць на калені. Прагну.

М а м к і н. Фантазіруеш? Дурыш? Я ж хворы.

А р к а ш к а. Вытрымаеш.

М а м к і н. Ніколі! Ні за што!

А р к а ш к а *(строга).* Лічу да трох! Р… раз!

М а м к і н. А што… а што будзе, калі не стану я на гэтыя самыя, ага… на маслы свае? Што будзе? Дыктуй умовы. Прапаноўвай.

А р к а ш к а. Тады ўбачыш. Замаўчы.

М а м к і н. Не, ты давай да канца… да фіналу рухайся… каб ведаў. Што, значыць, будзе са мной, калі не стану?

А р к а ш к а. Нічога пэўнага не будзе. Проста я прагну цябе паставіць на калені – і ўсё, і кропка.

М а м к і н. І толькі? І гэта – усяго?

А р к а ш к а. А што – мала?

М а м к і н. Стану, стану абавязкова, Аркашка. Твая воля. Толькі не сёння. Пакуль не магу. Павер. Зжалься. Ну, хворы, хворы я! Ты можаш зразумець мяне? Можаш увайсці ў маё становішча?

А р к а ш к а. А багата ты ўваходзіў у маё, калі я быў жывы, рваў жылы перад тваімі капрызамі?

М а м к і н *(скрыжаваў рукі на грудзях, прыгнечаным голасам).* Даруй сваволыніка. Дурасліўца... даруй. Па руках?

А р к а ш к а. Былі б у мяне рукі. Так і быць, гаспадар: папраўляйся. А я вярнуся. Глытай таблеткі. Сядай на іголку.

М а м к і н. Не-не-не-не! Я – пас! Без наркотыкаў, без наркотыкаў! Ну, у цябе і жартачкі, Аркашка. Гляджу, не думай. І рэкламу таксама.

А р к а ш к а. Бывай, гаспадар. Хацеў я табе вушы нацерці, аднак, бачу, з цябе сапраўды нічога сёння не возьмеш. Акрамя аналізу. Адны вочы ды нос...

М а м к і н *(часта трасе галавой).* Ага, бывай. Прыходзь, прыходзь, Аркашка. Я табе заўсёды рады. Я цябе, Аркашка, буду помніць. Буду помніць, пакуль і жыву... Не забуду, як маму родную!

А р к а ш к а. Я на гэта і разлічваю. Забыць мяне ты не зможаш. Значыць, будзем сустракацца: я буду прыходзіць да цябе кожны раз, калі ты мяне ўспомніш. *(Знікае).*

М а м к і н. Ды пайшоў ты! Узляцеў на неба – і сядзі там. Дык не!..

*А р к а ш к а вярнуўся.*

А р к а ш к а. Зноў паклікаў, гаспадар?

М а м к і н *(апантана махае на Аркашку рукамі).* Не-не-не-не-не-е-е!

*А р к а ш к а знік.*

М а м к і н. А калі жонку ўспомню, што, і яна з'явіцца? Не-не-не-не-не-е-е! Не! Толькі не яе! Толькі не яго! Хопіць ліха на маю галаву. Ох! Ух! Фу-у!

*З'яўляецца І г а р а ў н а. М а м к ін спрабуе хадзіць. І раптам яму зрабілася кепска, каб не ўпасці, павісае на шыі ў І г а р а ў н ы. Так і стаяць.*

І г а р а ў н а. Віншую

М а м к і н. З ... з чым, дарагая?

І г а р а ў н а. З першымі крокамі.

М а м к і н. Насустрач табе?

І г а р а ў н а. Не гаварыце глупстваў.

М а м к і н. Маўчу, маўчу. А за тое, што не дазволілі пляснуцца, што падтрымалі – дзякуй. Вялікі, сардэчны мужчынскі дзякуй. Дзякуй!

І г а р а ў н а. Вы нарэшце зрабілі першыя… першыя… першыя крокі… пасля…

М а м к і н. Нараджэння?

І г а р а ў н а. Не, пасля смерці.

М а м к і н. А мне, прызнацца, і хараша… і цудоўна! Так і стаяў бы. Стаяць і стаяць! *(Матлянуў кулаком).* Да канца! Да перамогі! Да поўнай дэмакратызацыі! Стаяць, ядрона вош! І ніякіх!

І г а р а ў н а. Вы цяжкі. Надта. Для мяне.

М а м к і н. Палічыць не паспеў, але было іх каля тысячы…

І г а р а ў н а. Каго… было? Жанчын у вас?

М а м к і н. Ды не – пчол.

І г а р а ў н а. А-а-а!

М а м к і н. А пасля пчол яшчэ пацяжэў.

І г а р а ў н а. Цікава, а якім жа вы былі да нападу пчол? Не ўяўляю.

М а м к і н. Усё гэта дробязі… мне цёпла з вамі… каля вас. Як на дачы каля печы. Вы, здаецца, добрая?

І г а р а ў н а *(адштурхоўвае Мамкіна ад сябе, але не груба)* Ды хопіць вам! Хопіць у рэшце рэшт! Я хто вам – нянька?

М а м к і н *(упаў, спрабуе падняцца).* Вышэй бярыце. Бярыце вышэй.

І г а р а ў н а *(дапамагае стаць на ногі Мамкіну).* Яшчэ чаго не хапала.

М а м к і н. Вы – багіня. Вы – сама Афрадыта. З усёй палаты… я заўважыў… а вока ў мяне трапнае…

І г а р а ў н а. Яно і бачна – торгаецца увесь час. Цікае.

М а м к і н. Заўважыў… так-так… вы самая прыгожая… абаяльная…

І г а р а ў н а *(падхапіла Мамкіна, які нахіліўся ў яе бок).* Ды стойце ж вы! Як падгніўшая статуя!

М а м к і н. Стаіць статуя… пасярод… так-так… пасярод плошчы… І глядзіць сваімі безікамі абы - куды…. А мне не ляжыцца і не стаіцца… Эх! Мне б!..

І г а р а ў н а. Чаго… чаго вам бы? А?

М а м к і н. Хутчэй бы прыйсці ў сябе. Ажыць. Ачухацца.

І г а р а ў н а. Вы і так вельмі хутка…

М а м к і н *(пратэстуе).* Не-не! Не ўсё варушыцца…

І г а р а ў н а. Вас, можа, пакласці… на ложак?

М а м к і н *(уздыхнуў).* А што гэта дасць?

І г а р а ў н а. А што вам трэба?

М а м к і н. Ну, што… ну, што мне, Мамкіну, трэба?

І г а р а ў н а. Рэкламная паўза?

М а м к і н. Вось іменна: рэкламная паўза!

*Заходзіць М а м к і н а.*

М а м к і н а. Хто, хто аб'явіў рэкламную паўзу? Гэта ты – Якубовіч?

М а м к і н *(яшчэ мацней абхапіў Ігараўну).* Не аддавай мяне! Не карай смерцю! Я… я жыць хачу! Жыць! Пчолы не даканалі, дык вось яна… жонка даб'е-дадушыць. Я жыць хачу-у-у-у-у!

М а м к і н а *(адрывае мужа ад Ігараўны).* Вярні мне мужа, мымра!

І г а р а ў н а. Бярыце… усяго бярыце. З вантробамі. Чаго ты учапіўся ў мяне, як клешч інцэфалітны? Адпусціце мяне-е!

М а м к і н. Не аддавайце-е! Заступіцеся! Ратуйце! Адплачу! Аддзячу!

М а м к і н а. Чым гэта ты, цікава мне, галадранец, аддзячыш? Што ў цябе калі было, акрамя кашля? Чмыхаўка!

М а м к і н. Галаву… галаву адвінціце!

М а м к і н а. Чым такую галаву мець, лепш без яе жыць!

І г а р а ў н а. А мая… а мая прычым тут галава?

М а м к і н. Вытрымаеш, абармот!

М а м к і н. Апошнія валасы павырываеце, бабы! Мацу вашу так!… Жыць! Мамкін жыць хоча! Аднясіце мяне на ложак!

М а м к і н а. Не, я цябе пакладу на такі ложак, што табе ўсё жыццё мулка спаць будзе, паразіт!

М а м к і н. Ратуйце! Толькі не яна! Толькі не мая швабра! *(Вырваўся, упаў на ложак).* Спакойна ночы, малышы! Дайце спакойна памерці. Бабы!

М а м к і н а. Бачыш… «бабы». У яго ўжо гарэм баб. Хутка ты па крутой сцяжынцы павіляў, кабель лысы! А я яму прыпёрла торбу… ледзьве рукі не паабрывала. Пі - еш. Вось! Дулю! А дзе астатнія?

І г а р а ў н а. Вы… вы ў каго пытаеце?

М а м к і н а. Ён што – праўду скажа? У, гад! *(Замахнулася на мужа).*

І г а р а ў н а. Калі вам так цікава, то ўсе нашы… астатнія… на працэдурах.

М а м к і н а. У вас, я бачу,  працэдуры ідуць поўным ходам. Удзень і ноччу. У любы час сутак. Вахтавым метадам.

І г а р а ў н а. Так, так…

М а м к і н а. А я што кажу? Ну, і колькі ж ты тут ляжаць будзеш, труцень?

М а м к і н. Паступіць каманда – выканаю…

М а м к і н а. Каманда паступіць у бліжэйшы час. Чакай. Не дазволю, каб цябе зусім, цалкам усмактала  дрыгва гэтага баб'я. Не дазволю! Чуеш мяне?

М а м к і н *(перапалохана)*. А як жа! А каго ж?

*М а м к і н а  выходзіць.*

М а м к і н *(падняў галаву)*. Пайшла?

І г а р а ў н а *(амаль злосна)*. Ды пайшлі б вы разам!.. Тут лячыцца трэба, а з тваёй жонкай хвароб начапляеш на сябе і такіх, пра якія  ніколі і не чула.

М а м к і н. Галоўнае – не хвалявацца. Галоўнае – спакой і цішыня.

І г а р а ў н а. Вы, мне здаецца, ужо амаль  і вылечыліся.

М а м к і н. Дзякуючы вам, жанчынам. Дзякуючы вам. Усе пілюлькі і мікстуры я калекцыянірую. Мяне лечаць зусім іншыя лекі… Вашы ўсмешкі… цёплыя словы… вашы абрысы…*( дэманструе)…* у гармоніі… і не пратэстуйце, не будзіце ў мяне альпініста: ад вас я ў горы не пайду. Ніколі.

І г а р а ў н а *(паставіла нагу на табурэтку, агаліла яе вышэй калена, аглядае тое месца, дзе алергія)*. Мне зараз добра знаёма, што вас, мужчын, лечыць, а што калечыць.

М а м к і н *(усміхаючыся)*. Так, так… у першую чаргу… так-так!.. Заменіць усе лекі адразу… Стойце, стойце так! Не варушыцеся! Не хавайце! Не рабіце глупстваў! Гэта… прыгожа! Вельмі нават!

І г а р а ў н а. Толькі дзеля вашай хутчэйшай папраўкі, Мамкін. Ну, хопіць? Чым не пагрэбуеш, каб чалавек быў у добрым настроі, арлом? Нагледзеўся?

М а м к і н *(рашуча махае рукамі)*. Не-не-не! Яшчэ! Мне мала! Гэта не надакучвае. Не наб'е аскоміну… не наб'е!..

*З'яўляюцца М а м к і н а і Д о к т а р.*

М а м к і н а *(Доктару)*. Ну, бачылі? А што я гаварыла? *(Строга)*. Вы, пытаюся, бачылі, чым яны тут займаюцца? Эротыкай! Гэта – удзень. А ноччу? Вы стаіце каля іх ноччу, доктар?

І г а р а ў н а. Няхай не тарашчыць вочы. Я не прымушаю вашага мужа пікіраваць вачамі на мае ножкі.

М а м к і н а. «Ножкі». Тут не ножкі – кумпякі.

Д о к т а р. Разбярэмся, спадарыня Мамкіна. Разбярэмся. Да таго, пра што вы думаеце, не дойдзе.

М а м к і н а. Упэўнены?

Д о к т а р. Верце мне. *(На вуха Мамкінай).* Я даю яму таблеткі, каб не хацелася…

М а м к і н а. А як праверыць, яны дзейнічаюць ці не?

Д о к т а р. У суботу… Не ў гэтую – у наступную. Папраўіцца – і, калі ласка, на выхадныя…

М а м к і н а. Столькі чакаць? Вы нічога больш разумнага прыдумаць не маглі?

Д о к т а р. Больш нічым вам дапамагчы пакуль не магу. Прабачце.

М а м к і н а *(строга).* А калі, нарэшце, яго перавядзеце ў іншую палату?

Д о к т а р. Абяцаю: заўтра. Заўтра. Выпісваецца ў нас адзін хворы.

М а м к і н а. Да заўтрашняга дня ён можа наламаць тут шмат дроў. Дрывасек яшчэ той. На ўсю зіму нарыхтуе паліва…

Д о к т а р. Ну, а што вы параіце?

М а м к і на. Я? Я б яго хутка вылечыла! Я б яму паказала, дзе ракі зімуюць! *(Грукнула кулаком па стале).* Ух, абразіна-а!..

Д о к т а р. Дазваляю – забірайце яго дадому. Хоць зараз.

М а м к і н *(прастагнаў).* Не-не-не-не-е-е! Не забівайце! Пашкадуйце-е! Змілуйцеся-я!

Д о к т а р *(Мамкінай).* Ну, вось… Чулі?

М а м к і н а. Ды ён прыкідвацца майстар.

Д о к т а р. Просіць жа хворы. Што я магу парабіць? Такая ў мяне работа – заўсёды быць на баку хворых. Прабачце. *(Выходзіць).*

М а м к і на *(услед).* Вы аб гэтым пашкадуеце! Успомніце мяне!

М а м к і н *(гучна).* Ідзі дамоў!!!

М а м к і н а. Але не думай, што тут ты будзеш распутнічаць. І не мылься. Усе сродкі задзейнічаю, каб за табой сачыць. Помні! *(Выходзіць).*

І г а р а ў н а. Я вам не зайдрошчу. Пчолы пакусалі – гэта, высвятляецца, паўбяды… вылечыць можна.

М а м к і н. Пчолы – гэта дробязі, так -так.

І г а р а ў н а. У гэтым я таксама пераканалася.

М а м к і н . Тут адна пчала ненажэрная грызе ўжо трыццаць гадоў, і чаму я жывы яшчэ – розуму не прыкладу?

І г а р а ў н а. І я.

М а м к і н. Не, ну шчыра – як жыву? Адкуль сокі бяру? Энергію? Моц? Хто... хто падкажа? Шапніце, людзі! Буду ўдзячны.

І г а р а ў н а. Я затрудняюся...

М а м к і н. Што прыдумаць?

І г а р а ў н а. Мне здаецца, прыдумваць ужо нешта позна. Дзеці ёсць?

М а м к і н. Не пустацвет. Сын і дачка. Лёня і Люся.

І г а р а ў н а. А ў мяне Вера і Міша... *(Паставіла нагу на табурэтку, гладзіць хворае месца).*

М а м к і н *(захапляецца).* Жыць... жыць... жыць!!! Да д’ябла пчолы! Няхай яны жывуць самі па сабе, а мы – самі! Ура-а-а! Няхай жыве і квітнее жаночы вулей!

І г а р а ў н а. Цішэй, цішэй. Не так гучна. Жонка ваша, крый Божа, пачуе – і будзе тут як тут. Сабе ж нашкодзіце, а не пчолам.

М а м к і н. Вы, як заўсёды, маеце рацыю, чорт пабяры! А вас, прабачце, як зваць-велічаць?

І г а р а ў н а. А гэта вам абавязкова?

М а м кі н. Хацелася б... як-ніяк – суседзі па палаце, але ж... Будзе што ўспомніць.

І г а р а ў н а. Ігараўна. Усюды і ўсе мяне называюць так. Іншы раз – Юліяй.

М а м к і н. О! Ю-лі-я! Юлей... вулей... Вулей... Юлей... Пчолы недзе побач ці не? Вулей-Юлей... Прэч! Прэч! (апамятаўшыся). «... потому что наша Юлька наш комсорг и наша первая любовь». Чула гэтую песню, Юля?

І г а р а ў н а. Чула. І спявала. Сама пра сябе.

М а м к і н. А я – Валік.

І г а р а ў н а. Вельмі прыемна.

М а м к ін. І мне.

І г а р а ў н а. Ну, і што далей?

М а м к і н. А што?

І г а р а ў н а. І мне цікава... што?

М а м к і н. А дзе ўсе астатнія?

І г а р а ў н а. Пятроўна са Сцяпанаўнай?

М а м к і н. Так -так! Зразумела! Цвет нашай палаты! Цвет нацыі!..

І г а р а ў н а. Яны, хутчэй за ўсяго, пайшлі на працэдуры.

М а м кі н. Раскажы пра сябе, Юля.

І г а р а ў н а. Навошта?

М а м кі н. Мне цікава.

І г а р а ў н а. А мне пра цябе – ніколечкі.

М а м к і н. Крыўдзіш. Хворага чалавека крыўдзіш. Як можна, Юля?

І г а р а ў н а. Не ўвесь жа час мне нагу агаляць... ад вялікай дозы лекаў атруціцца можна...

М а м к і н. Ад гэтых... не-не. Ад гэтых – ніколі. Раскажы пра сябе, Юля.

І г а р а ў н а. Не бачу сэнсу! *(Выходзіць).*

М а м к і н *(услед).* Ды ўсе вы аднолькавыя, бабы-ы! Вам бы толькі злопаць мужыка. З вантробамі. Ам-ам-ам! І выплюнуць!..

5.

*Калі набярэцца святло, бачым у палаце ўсіх ж а н ч ы н. Яны займаюцца хто чым. М а м к і н ляжыць.*

М а м к і н. На працэдурах былі?

П я т р о ў н а. Так. .

М а м к і н. Новая, ці што, працэдура? Нешта доўга...

*Ж а н ч ы н ы гучна смяюцца. Акрамя І г а р а ў н ы.*

С ц я п а н а ў н а *(Мамкіну).* Першакласнік!

П я т р о ў н а. Двоечнік! Скажы дзякуй пчолам, пчаляр: дзякуючы ім ты пачынаеш пазнаваць сапраўднае жыццё.

С ц я п а н а ў н а. Хочаш, Мамкін...

І г а р а ў н а *(з папрокам).* Яго, між іншым, Валікам завуць. Валянцінам.

С ц я п а н а ў н а *(глыбока ўздыхнула).* Будзем ведаць. Хочаш, Валянцін-Валік, я табе скажу нешта.

М а м к і н. А як жа! Канечне!

С ц я п а н а ў н а.  Пчолы, між іншым – па легендзе – пайшлі ад каня: стары ехаў на кані, той упаў у возера, і замест каня з'явіліся пчолы, якія імгнення рассяліліся па ўсёй зямлі…

М а м к і н. Сама прыдумала?

П я т р о ў н а.  Сцяпанаўна ў нас усё ведае. Але ты, Мамкін, дужа не хвалюйся: табе нічога не будзе, паколькі каля той дарогі, дзе ты ехаў, і блізка возера не было…

М а м к і н. Ды не падаў я з канём ні ў якое возера. Не наводзьце цень на пляцень. А што, і на самой справе так было?

С ц я п а н а ў н а. Чытала ў газеце.

М а м к і н. Ехаў, значыць, стары на кані, тая ўпала ў возера, а замест каня з'явіліся пчолы, якія, заразы, рассяліліся па ўсёй зямлі. Амаль як пра мяне. Але не пра мяне. Я ж не стары, не дзед, праўда?

П я т р о ў н а. А хто цябе ведае.

М а м к і н *(прыўзняўся, глядзіць на жанчын доўгім і нямым позіркам).* А… а… а… мая таксама часта ляжыць у бальніцы. Што, і яна ходзіць на гэтыя працэдуры, якія бываюць падоўгу?

*Ж а н ч ы н ы  смяюцца. Акрамя І г а р а ў н ы.*

П я т р о ў н а. А ты, Валянцін, у яе папытай.

С ц я п а н а ў н а. Хто ж прызнаецца? Ды мяне муж няхай калёным жалезам дапытвае – маўчаць буду, як рыба.

М а м к і н *(прастагнаў, нібы ад болю).* Сцер-вы-ы! *(Лёг).*

П я т р о ў н а. А будзеш, грамадзянін Мамкін, зняважаць, выкацім цябе разам з ложкам у калідор. Выселім. Гэтага дабіваешся?

М а м к і н. Не, не! Яшчэ чаго! Яшчэ чаго! Выдумаеце!

С ц я п а н а ў н а. Глядзі ў нас. Мы такія.

П я т р о ў н а. За намі не стане.

І г а р а ў н а. Чаго гэта вы да чалавека прычапіліся? Не сорамна?

П я т р о ў н а. Гляньце, яна ўжо перабегла ў лагер пакусанага і знявечанага пчаліным роем.

І г а р а ў н а. І перабегла. А чаму – нельга?

С ц я п а н а ў н а. Можна і перабегчы. Толькі небяспечна. У розных вагавых катэгорыях ты з яго жонкай, Ігараўна. Затопча. Як слон чарапаху.

І г а р а ў н а. Няхай паспрабуе!

М а м к і н. Прашу пра Юлю… *(Ігараўне)…* як Вас па-бацьку?

І г а р а ў н а. Ды памаўчы ўжо хоць ты!

М а м к і н *(яршыцца).* Не, не буду! Я не такі! Не дазволю!

С ц я п а н а ў н а. Ды мы ўжо ведаем, наглядзеліся, які ты.

П я т р о ў н а. Смелы, сказаць няма чаго.

С ц я п а н а ў н а. Ад пчол, і тых не адбіўся.

М а м к і н. Трапіліся б вам яны! Хацеў бы паглядзець!..

*І г а р а ў н а рашуча выходзіць.*

М а м к і н. Давялі жанчыну, даканалі. Эх вы, жанчыны, дочкі - мамы!

П я т р о ў н а. Слухай, Мамккін, ты пакінеш нас у спакоі ці не? Матай на вус: дзе больш баб, там аднаму мужчыне няма чаго рабіць. Вырвем, як пустазелле. З корнем. Ты гэтага хочаш?

М а м к і н. Я не дамся. Прынцыпова не пайду.

С ц яп а н а ў н а. Пашчакочам – сам пабяжыш. З прыскокам.

П я т р о ў н а. Можа, цяпер? Навошта марудзіць? *(Вось-вось накінецца на Мамкіна).*

С ц я п а н а ў н а. Не трэба: ляманту наробіць. Ну яго! Пакінь.

*П я т р о ў н а пераапранаецца. М а м к і н прыўзняўся, назірае.*

П я т р о ў н а *(Мамкіну).* Глядзі, глядзі… напаўняйся лякарствамі, таму што таблеткі адмянілі. Лячыся, сурок!

С ц я п а н а ў н а. Уколы, чула, таксама. .. адмянілі.

П я т р о ў н а. Адным словам, лячыся, пакуль мы ёсць. Бясплатныя.

М а м к і н. Ага. Ага. Я вось іншы раз думаю…

С ц я п а н а ў н а. А думаць трэба заўсёды.

М а м к і н. Не пра тое. Не пра тое. Я вось іншы раз думаю, чаму так прыцягваюць нас, мужчын… вашы… так, так… шчадроты… канфігурацыі? Чым бяруць?

П я т р о ў н а. Калі ты мужчына, то павінен ведаць.

С ц я п а н а ў н а. А пытаецца ў нас, а?

П я т р о ў н а. Дзівакі гэтыя мужчыны. Прастафілі.

С ц я п а н а ў н а. Не кажы, Пятроўна. Усё жыццё чамусьці вучацца, вучацца…

П я т р о ў н а. … а паміраюць дурнямі. Ай-яй-яй-яй!

М а м к і н *(агрэсіўна).* Ну-ну! Паасцярожней, я б сказаў, на паваротах. Не пасміхайцеся. Не трэба. Што, працэдуры няўдала прайшлі, таму агрэсіўныя, як тыгрыцы? Тады паўтарыце. Ці ў іншым прычына?

П я т р о ў н а. Ды пайшоў ты… казёл!

С ц я п а н а ў н а *(Мамкіну).* Бачыш, давёў Пятроўну? Злой стала. Нервовай. Твая работа, Ва-лян-цін! Твая!

М а м к і н. Я нічога не магу сказаць кепскага вам… Даруйце і выбачайце..

П я т р о ў н а. Сцяпанаўна, можна мне гэтую блузку апрануць? *(Паказвае блузу).*

М а м к і н. Апранайце і не думайце. І не сумнявайцеся. Самы раз будзе. Якраз да твару. Пятроўна, паслухайся мяне. Паслухайся мяне, старога ваўка!

*Асцярожна заходзіць М а м к і н а.*

П я т р о ў н а. З намі пажывеш – калготкі насіць пачнеш, Мамкін. І хустку.

С ц я п а н а ў н а. Што там калготкі і хустка! І ліфчык. Пяты памер. Мой.

М а м к і н. Не да месца, між іншым, жарт. А блузку, Пятроўна, гэтую… так… так… так… У ёй ты будзеш маладзейшай гадоў на дваццаць.

П я т р о ў н а. А хто сказаў і каму, што мне дваццаць? Мне усяго-наўсяго дзевятнаццаць. А?

М а м к і н. Ат, жартаўніца! Ат, чараўніца - вядзьмарка!

М а м к і н а *(паказвае наручнікі).* А вось гэтая рэч, між іншым, Мамкін, вельмі добра падыходзіць да твайго нахабнага і здрадніцкага твару. Ён ужо, вы толькі паглядзіце, парады дае розным разбэшчаным асабам, што апранаць. Спецыяліст! Юдашкін! Ка мне! *(Агрэсіўна падкаціла ложак Мамкіна да батарэі, прышпільвае Мамкіна за дзве рукі да трубы).* Так табе лепш будзе. І мне больш спакойна. Няхай яны цябе і кормяць цяпер з лыжачкі. Па чарзе. Калі ты іх абслугоўваеш, чаму яны цябе не могуць?

М а м к і н. Генацыд! Гэта генацыд! Хто не ведае!.. Людзі! Ёсць паблізу дзе нармальныя-я-я?..

М а м к і н а. Будзеш крычаць, як недарэзаны, то знайду мех і на тваю дурную галаву насуну. Чуў? Так што не рыпайся, Мамкін! Не рыпайся! Успомні, куды ты трапіў! Агляніся! Задумайся!.. *(Выходзіць).*

М а м к і н *(крычыць услед).* Не! Не возьмеш! Буду стаяць насмерць!..*(І рашуча апусціў падбароддзе на грудзі – як забіты).*

## Д з е я   д р у г а я

6.

*У палаце. М а м к і н усё яшчэ прышпілены да трубы. Ж а н ч ы н ы ляжаць на ложках. І г а р а ў н а корміць з лыжачкі М а м к і н а.*

С ц я п а н а ў н а. Смачна, Мамкін?

М а м к і н. Мамкіну заўсёды смачна.

І г а р а ў н а. Не перашкаджайце нам вячэраць.

П я т р о ў н а. А што, ужо вечар?

М а м к і н. Вечар. Вон і зоркі на небе… Прыгажосць! А раней былі … зоркі… на небе? Не помню… нешта не помню. Прызнаюся, як на духу.

С ц я п а н а ў н а. А чаму гэта ты не помніш? Што, у падвале сядзеў?

І г а р а ў н а. Еш, не круціся. Нямай.

М а м к і н *(стараецца адказаць Сцяпанаўне).* Не, у гэты час я заўсёды дома… *(Аднак Ігараўна не дала дагаварыць– запіхнула кашу ў рот).*

С ц я п а н а ў н а. Зразумела, зразумела: кашку-малашку ем?

П я т р о ў н а. Далей, Мамкін, можаш не працягваць.

М а м к і ін. Што, вячэраць?

С ц я п а н а ў н а. А вячэраць – як пажадаеш.

М а м к і н *(нервова).* І вячэраць не жадаю! *(Адштурхнуў ад сябе Ігараўну).* Сапсавалі настрой. Убярыце гэтую кашу! Хопіць! Глядзець на яе не магу! Сыты!

І г а р а ў н а *(жанчынам).* Памаўчаць можаце? Хоць бы ў час трапезы? Ён жа другі дзень нічога не есці.

П я т р о ў н а. Кармі не кармі, а ўсё роўна прывязаны. Якая ад яго карысць, ну скажы?

І г а р а ў н а. Жанчыны! Як вам не сорамна?

С ц я п а н а ў н а. Я сорам згубіла дваццаць гадоў назад.

П я т р о ў н а. Мы з табой, Сцяпанаўна, равесніцы.

І г а р а ў н а. Не звяртай, Валянцін, на іх увагі. Давай, давай.

П я т р о ў н а. Нямай, нямай, дружок.

С ц я п а н а ў н а. За папку… за мамку… за суседа дзядзю Лёшу… за суседку цётку  Глашу мы… опа!… уплятаем дружна кашу. Ну, яшчэ лыжачку. Вось малайчына. Вось дзякуй табе.

І г а р а ў н а. Калі вы яго кармілі, між іншым, я не перашкаджала!

П я т р о ў н а. А тут, Іграўна, дзве  вялікія розніцы: мы кармілі, а ты подкормліваеш… як гаспадыня  кныра. Хру-хру-хру-у!

М а м к і н *(Ігараўне)* Не звяртай увагі. Прашу цябе. Не трэба. Распусніцы.  Іх, зразумей мяне правільна, не пераробіш. Памінай, як звалі!

І г а р а ў н а.  А есці  будзеш? Я ў каго пытаюся?

М а м к і н. Так і быць, угаварыла. Адну лыжачку агораю. Давай. Толькі смаку і ад той, адзінай лыжачкі, не адчую.

С ц я п а н а ў н а. Бач ты, ён яшчэ і смаку хоча!

М а м к і н. А чаму і не?! А чаму?!.. Я таксма, між іншык, не кныр! Адшпіліце мяне! Дзе мая старая каструля? Хто скажа?

П я т р о ў н а. Нам пара на серыял, Сцяпанаўна. Ты ідзеш? У Ігараўны я не пытаюся…

С ц я п а н а ў н а *(мітуслівa).* А праўда ж! Глядзіце, не шалапутнічайце тут. *(Жартаўліва пагразіла пальцам Ігараўне і Мамкіну).*

*П я т р о ў н а  і  С ц я п а н а ў н а  выходзяць. Паўза.*

М а м к і н. Што, так і будзем маўчаць?

І г а р а ў н а. Так і будзем.

М а м к і н. Дзеці ёсць?

*І г а р а ў н а  круціць галавой: няма.*

М а м к і н. А ў мяне  ёсць.

І г а р а ў н а. Я ўжо чула.

М а м к і н. Ах, так! Прабач. Праўда ж, гаварыў, гаварыў.  Люблю пахваліцца тым, што маю, да чаго прычасны. Загана. Недахоп. Згодны.

І г а р а ў н а. Табе добра.

М а м к і н. А мне здаецца – табе.

І г а р а ў н а. Памыляешся. Адной жыць цяжка. Няпроста адной.

М а м к і н. А я зайдрошчу тым, хто адзін жыве.

І г а р а ў н а. Дзівак ты.

М а м к і н. Я ведаю.

І г а р а ў н а . Еш. Ну, хоць бы яшчэ крышачку. А каша на самой справе вельмі смачная.

М а м к і н. А давай разам? Адну лыжку ты, адну – я. Давай?

І г а р а ў н а *(усміхнуўшыся).* З каго пачнем?

М а м к і н. З цябе.

І г а р а ў н а. Не. З цябе.

М а м к і н. Не-не!

І г а р а ў н а. З цябе! І не капрызнічай!

М а м к і н. Ну, толькі ўлічваючы тое, што ты – жанчына. Прабач, а замужам ты… была?

І г а р а ў н а. Была. Зусім мала. Паспытала гэтага шчасця…

М а м к і н *(агрэсіўна).* Гад трапіўся?!

І г а р а ў н а. Не, чалавек ён якраз і добры. Але хворы.

М а м к і н. Дык і я ж хворы.

І г а р а ў н а. Пчаліны яд, кажуць, карысны.

М а м к і н. Карысны?

І г а р а ў н а. Так кажуць.

М а м к і н. Гэта кажа той, каго пчолы не кусалі. Я б хацеў паслухаць тых разумнікаў пасля таго, калі б яны пабывалі на маім месцы.

*Ядуць кашу: лыжку І г а р а ў н а, лыжку – М а м к і н.*

М а м к і н. І ўсё ж, калі не сакрэт, чым хварэў муж? Дзе вірус узяў?

І г а р а ў н а. Сакрэт. Не скажу.

М а м к і н. Па нашай частцы?

І г а р а ў н а. Не даб’ешся.

М а м к і н. Цікава ж. Распаліла, раскачагарыла, можна сказаць, мужчыну, а сама маўчок, так? А сама, значыць, у кусты? *(Заляцаецца).*

І г а р а ў н а. Ты думаеш… Не, не буду… не трэба. Хворы чалавек ён і ёсць хворы. Хоць і вылечны.

М а м к і н. Гавары, чаму ж! Сказала «а», скажы і «б».

І г а р а ў н а. І больш мне нікога не трэба, Валянцін.

М а м к і н. Не разумею. Як можна адмаўляцца да таго, што можна ўзяць? Цапнуць? Што само ляжыць на паверхні, як алмаз, як каштоўны камень? Як?

І г а р а ў н а. Адной хоць і цяжка, ды ўсё ж лягчэй, чым іншы раз удвух.

М а м к і н. Не скажы! Не скажы, Ігараўна! Гледзячы з кім. А вось з табой я б на край свету… нам бы з табой хораша было б. Закадычна. А?

І г а р а ў н а. Ты ж жанаты. Дзяцей маеш.

М а м к і н. А я – верыш? – і забыўся пра жонку і дзяцей… як цябе убачыў. Забыўся, ага-а!

І г а р а ў н а. І ясі ты мала. Значыць, і работнік такі…

М а м к і н *(энергічна).* Хто? Гэта я слаба ем? Дзе каша? І першую лыжку мне, і другую – таксама! Варушыся, Ігараўна! Варушыся, Юлія!

І г а р а ў н а *(смяецца і корміць з лыжкі Мамкіна).* Не так хутка. Пачакай, выпэцкаешся. Дзівак ты, Валянцін. Асцярожней: яшчэ ўдавішся,тады будзе!..

М а м к і н. Не хопіць кашы, патрасем торбу. Я дакажу! Я слаба ем? Ды хто табе сказаў, Ігараўна? Хто наплёў такіх глупстваў? Пакажы мне яго! Падай! Задушу вось гэтымі рукамі, як толькі вырвуся на волю! Кашы Мамкіну! Кашы-ы!

7.

*У палаце, акрамя ж а н ч ы н і М а м к і н а, Д о к т а р.*

Д о к т а р. Дык што з табой рабіць будзем, Мамкін?

М а м к і н. А тут зробіш, калі прышпілены? На ланцугу. Як кот каля дуба. Шукайце жонку. Ключ у яе.

Д о к т а р. Шукалі. Тэлефон маўчыць. Яна што, дома не жыве?

*Паўза.*

М а м к і н. Не жыве… дома? Як не жыве? А дзе?

Д о к т а р. Ну, магчыма ў вас дача ёсць?

М а м к і н. Яна на яе не ездзіць. Яна гарадская.

Д о к т а р. Тэлефануем другі дзень – цішыня. Мабільнік у яе ёсць?

М а м к і н. Ні ў яе, ні ў мяне. Навошта ён нам?

Д о к т а р. Дык дзе ж яе шукаць?

М а м к і н. Вы мне, доктар, задачку задалі.

Д о к т а р. Рашайце, рашайце. А ў шостай палаце вас чакае месца.

С ц я п а н а ў н а. Мы ўжо прывыклі да яго.

П я т р о ў н а. Няхай з намі ляжыць. Ці паміж нас. Ён нам не перашкаджае. Тым больш на ланцугу… як і сапраўды кот  каля дуба.

Д о к т а р. А вы што скажаце, Мамкін?

М а м к і н. Мне заўсёды добра сярод добрых людзей.

П я т р о ў н а. Ну, чулі?

Д о к т а р. Не распутнічай, Мамкін. Вы што, жадаеце, каб мяне з работы папрасілі? Прабачце. Не знойдзем ключ,  паклічам выратавальную службу. Ці нашых слесараў. Хаця і шкада наручнікаў, але што паробіш? Распілім.

М а м к і н. Не, не, не! Я прывык. Мне добра.  І да чаго толькі не прывыкне гэтая мярзотная істота, як чалавек? Я і… прывык, таму што – чалавек. Мяне не крыўдзяць. Мяне кормяць.  І ўсё астатняе… так,так!.. у поўным ажуры. Грэх скардзіцца. Не магу.  Поўны соцпакет. Бачыце, і жанчыны не супраць, каб я, значыць, лячыўся? Яны мяне нават у свой саюз прынялі.

Д о к т а р. Што у вас тут за саюз  такі?

*П я т р о ў н а  і  С ц я п а н а ў н а  паказваюць М а м к і н у жэстамі, каб маўчаў.*

М а м к і н (*крэкнуў).* Саюз, гаворыце? *(Вытрымаўшы паўзу*). А саюз якраз і развалі́ўся… у пушчы… у Віскулях… Прапілі саюз. Каюк. Не чулі? Ты мне таварыш, я табе брат. Ага. Што, думаеце, я б у іншай палаце паправіўся так хутка? Не думаю. Сумняваюся.

Д о к т а р. Добры вы чалавек, Мамкін. Аднак трэба ведаць і меру. Меру, Мамкін! *(Выходзіць).*

М а м к і н *(буркліва).* «Меру», «меру»… Чыя чарга мяне карміць?

С ц я п а н а ў н а *(неахвотна).* Ды мая, мая. І калі ты ўжо нажрэшся?

І г а р а ў н а. Мая!

П я т р о ў н а. Сцяпанаўна, саступі. Не гняві Ігараўну. Тут нешта больш сур’ёзнае, чым каша. Разумееш?

С ц я п а н а ў н а *(настойліва).* А чарга – мая.  Я праўду люблю. Я і буду карміць. Не ўступлю. Хаця і  апастылеў мне гэты Мамкін са сваім хаўканнем. Цьфу!

І г а р а ў н а. Мая!

М а м к і н. Што, Сцяпанаўна, хочаш сказаць, у мяне зубоў няма?

С ц я п а н а ў н а. Не заглядвала табе ў рот. Але адчуваю горшае…

П я т р о ў н а. Сцяпанаўна, саступі! Будзе міжнародны канфлікт. Мамкін, чыя чарга цябе карміць сёння з лыжачкі? Скажы, дзіця маё. Ціха! Як ён скажа, так і будзе.

М а м к і н *(торкнуў пальцам у бок Ігараўны).* Яе! І толькі яе! Яна смачна корміць.

С ц я п а н а ў н а. Ты што, ужо паспеў паспрабаваць? Дык прывязаны быццам?

М а м к і н. Яе чарга.

П я т р о ў н а. Ну, і чаго ж ты хочаш, Мамкін?

М а м к і н. Каб на нас напалі грошы, а мы не адбіліся.

С ц яп а н а ў н а. Як ад пчол.

*М а м к і н у роспачы плюнуў. І г а р а ў н а выходзіць.*

С ц я п а н а ў н а. Патрусіла. За кашай.

П я т р о ў н а. Закруціла-завярцела сваімі батонамі.

М а м к і н *(строга).* Прашу не абражаць!

П я т р о ў н а. А што я такое сказала? Падумаеш! І ў мяне батоны ёсць. Магу паказаць. *(Прайшлася).* Бачыў? А калі ёсць, чаму б і не пахваліцца?

М а м к і н. У яе лепшыя... Намнога.

П я т р о ў н а. Лепшыя? У яе? І не сорамна?

С ц я п а н а ў н а. А я рыхтавалася, Мамкін, пакарміць цябе з лыжачкі. Ноч не спала. Даўно я нікога не карміла з лыжачкі. Дзеці дарослыя... ну, не зусім... а ядуць, праўда, самі... як і муж. А іншы раз настальгія па мінулым так моцна возьме ў свае абдымкі... як у маладыя гады каханы чалавек. Прыемна ўспомніць! *(Мляўка пацягнулася).* Ну што, Пятроўна, на працэдуры?

П я т р о ў н а. Ранавата. Паснедаць спярша трэба. Пабеглі ў сталоўку.

С ц я п а н а ў н а. Слухаюся.

*Выходзяць.*

М а м к і н *(гучна).* А хто... а хто, апошні раз пытаюся, хаця і першага не было, каня мне купіць? Хто верне? Чые пчолы былі? Дзе той пчаляр засраны? Паўтараю: хто мне, грамадзяніну Мамкіну Валянціну Юр’евічу, верне каня?

*З’яўляецца Аркашка.*

А р к а ш к а. А вось і я, гаспадар. Клікаў?

М а м к і н *(аслупянеў).* Не, не, не клікаў. І быць такога не магло. Цябе ж няма. Ты – мёртвы. Ты – там... *(Паказвае вачыма на столь).*

А р к а ш к а. Памыляешся. Зацугляць мяне не зацугляеш... хамут паберажы для іншага каня-дурня. Калёсы, плуг, барану няхай цяпер ён пацягае. А ў мяне быў час добранька падумаць, узважыць і пераканацца...

М а м к і н *(няўпэўнена, дрыжачым голасам).* І што ж ты ўзважыў? У чым пераканаўся?

А р к а ш к а. Дарэмна пацеў. Не на таго чалавека спіну гнуў. Трэба было сачкаваць. Гультаям лягчэй пражыць.

М а м к і н. Не скажы.

А р к а ш к а. Памаўчы.

М а м к і н. Як загадаеш.

А р к а ш к а. А цябе, я бачу, прыцiснулі. Што, добра так?

М а м к і н. Не. Кепска. Горш не прыдумаеш.

А р к а ш к а. А я ўвесь час так і жыў. Нават на ноч ты ленаваўся хамут з мяне зняць.

М а м к і н. Хто, кажуць, старое памяне...

А р к а ш к а. ... таму вока вон.

М а м к і н. Правільна. Вока...

А р к а ш к а. А вочы мне ўжо не трэба. За мяне Бог на белы свет глядзіць. З-за воблака. Мне ўжо нічога не трэба. Хаця душа і жыве. Але выказацца дай!

М а м к і н. Не забараняю. Толькі дарэмна ты на мяне так агрэсіўна накінуўся.

А р к а ш к а. А на каго трэба?

М а м к і н. На іх...

А р к а ш к а. Іх – шмат...

М а м кі н. Разумею, разумею: аднаго лягчэй біць. А ці трэба? А за што? Што, думаеш, мне шкада было табе аўсу? Няма. Няма аўсу. З моды выйшаў авёс. Звялі. Калі шчыра, я і не бачыў яго, аўсу, колькі і жыву.

А р к а ш к а. А бізуном сцябаў?

М а м к і н. Ну, было... На тое і бізун. Не вісець жа яму без справы. Для чаго стрэльба? Каб страляць. Вось і я... значыць.

А р к а ш к а. Падковы не падбіў, я і паслізнуўся...

М а м к і н. Вухналёў не знайшоў.

А р к а ш к а. І ты мяне за гэта – бізуном?

М а м к і н. Пагарачыўся. Даруй.

А р к а ш к а. А мне пагарчыцца можна?

М а м к і н. У якім сэнсе?

А р к а ш к а. А вось у гэтым. *(Сячэ Мамкіна бізуном).*

М а м к і н *(выгінаецца, як уюн*). Хто дазволіў? Самадурства! Дзе гэта было бачана, каб розныя жывёліны seклі людзей бізунамі? У якой Афрыцы? Па якому праву? Хто ж з нас конь, а хто чалавек? Ратуйце-е-е!

А р к а ш к а. Ніхто цябе не пачуе. А Бог ёсць. Ён прымушае плаціць за ўсё. І за добрае, і за брыдоту… *(Знікае).*

*З'яўляюцца П я т р о ў н а, С ц я п а н а ў н а і І г а р а ў н а.*

І г а р а ў н а. Што, што здарылася? *(Падняла бізун).* Хто цябе, Валік?

С ц я п а н а ў н а. А мы думалі, зноў пчолы напалі.

П я т р о ў н а. Роем.

М а м к і н. Яшчэ раз прашу вас, жанчыны, прашу і малю: не нагадвайце мне пра пчол! Усё зразумела?

С ц я п а н а ў н а. Тады не крычы, быццам цябе рэжуць.

П я т р о ў н а. Змірыся са сваім лёсам, Мамкін.

С ц я п а н а ў н а *( Ігараўне).* Ты з намі на працэдуры не ідзеш?

М а м к і н *(гучна ).* Не-е-е! Яна – не-е-е!..

С ц я п а н а ў н а. Усё зразумела.

П я т р о ў н а. Як двойчы два.

С ц я п а н а ў н а. Шчаслiва заставацца, маладажоны.

*П я т р о ў н а і С ц я п а н а ў н а ўзялі неабходныя рэчы і знікаюць.*

М а м к і н. Больш пра каня Аркашку і ўспамінаць не буду. Яго ўжо не вернеш, а на сухары дастанецца.

І г а р а ў н а. Ад каго?

М а м к і н. Ад каня. Ад Аркашкі.

І г а р а ў н а. Як гэта?

М а м к і н. Проста. Успомню – ён і з'яўляецца. Толькі ўяўлю галаву ягоную, маргалы… і адразу…

І г а р а ў н а. Неверагодна! *(Прыклала руку да лба Мамкіна).* Усё зразумела – гарачы.

М а м к і н. Я заўсёды гарачы. Усе роўна як на вуглях падсмажаны. З усіх бакоў. Круцілі, як шашлык на шампуры.

І г а р а ў н а. Яно і відаць. І як я адразу не здагадалася?

М а м к і н. Няхай конь з’явіўся. Няхай.  Але ж адкуль бізун у яго ўзяўся? Я ж пра яго не ўспамінаў… і не думаў нават.

І г а р а ў н а. Абвалаклі цябе, бедалагу, наручнікі, бізуны…

М а м к і н.  Паскудства align рознае бы магнітам прыцягваю. З чаго б?

І г а р а ў н а *(сур’ёзна).* Лячыцца трэба!

*Заходзіць М і л і ц ы я н е р.*

М і л і ц ы я н е р. Мамкін тут ляжыць?

І г а р а ў н а *(ківае).* Тут. Вунь ён.

М і л і ц ы я н е р *(Мамкіну).* Размаўляць можаце?

І г а р а ў н а. Гледзячы з кім. З вамі – не ведаю…

М і л і ц ы я н е р. У мяне мёртвы загаворыць.

І г а р а ў н а. Чула. Загаворыць. Мне выйсці?

Мі і л і ц ы я н е р. А гэта ваша справа. Хочаце – прысутнічайце, хочаце – не. Тады – на свежае паветра.

І г а р а ў н а. Мне  апошняе лепш падыходзіць. *(Выходзіць).*

М і л і ц ы я н е р. Мамкін, вы мяне чуеце?

М а м к і н. На адно вуха. Другое заплыло.

М і л і ц ы я н е р. А чаму гэта ў вас наручнікі? Што за форма? Вы што – хуліганілі? Быццам бы я вас не прышпільваў. Ці, можа, учора? Я не быў тут учора?

*Мамкін круціць галавой: не.*

М і л і ц ы я н е р. Дык у чым тады справа?

М а м к і н. У мяне дома таксама міліцыянер жыве.Трэба будзе на дзень нараджэння ёй пагоны падараваць – такія, як у вас: лейтэнанцкія. Яе работа. Жонкі.

М і л і ц ы я н е р. Разбярэмся. Ну, а цяпер усё па парадку. Мамкін?

М а м к і н. Мамкін.

М і л і ц ы я н е р. Валянцін Юр’евіч?

М а м к і н. Ён самы.  Разам з кепкай і сандалетамі.

М і л і ц ы я н е р. Адказваць коратка. Без каментарыеў. Год нараджэння?

М а м к і н. Тысяча дзевяцьсот пяцідзесяты.

М і л і ц ы я н е р. Адрас у нас запісаны.

М а м к і н. Не-не, адрас хачу памяняць.

М і л і ц ы я н е р. Прапісаны на вуліцы авіяканструктара Сухога? Дом два, кватэра пяць?

М а м к і н. Там, там.

М і л і ц ы я н е р. Дык што вы мне галаву марочыце? Расказвайце!

М а м к і н. Пра... што?

М і л і ц ы я н е р. Пра пчол.

М а м к і н *(прастагнаў).* Зноў пра пчол, пра драбязу тую? Не ўспаміналі б, а? І каня шкада... Такі конь у мяне быў! Паслухмяны, вынослівы. Такі конь!..

*З'яўляецца А р к а ш к а.*

А р к а ш к а. І-го-го-го-го-о-о! Я, гаспадар! Я! Сумуеш, бачу, па мне.

М а м к і н (*азвярэла).* Не-е-е-е-е!

М і л і ц ы я н е р *(разгубіўшыся*). Што з вамі? Дзе, дзе я? Куды трапіў?

М а м к і н *(торкае пальцам на каня*). Конь. Мой конь.

М і л і ц ы я н е р. Гэты?

М а м к і н. Так. Так. *(Аркашку).* Прэч! Не перашкаджай нашай глыбокапаважанай міліцыі весці допыт! Прэч!

А р к а ш к а. Як пажадаеш, гаспадар. Я магу падняцца на нябёсы... да сябе... у свой закануралк... Там мне добра.

М а м к і н. Так, так! Туды!..

М і л і ц ы я н е р *(Аркашку).* Затрымайцеся. Мне ты якраз і патрэбны. Дапрашу. А тады куды хочаш. Бачыш, як пашанцавала. Дзівосы – не інакш. Вачам не веру. Ну, расказвай.

А р к а ш к а. Пра што?

М і л і ц ы я н е р. Пра ўсё па парадку. Як прачнуўся, як паснедаў, як паставіў цябе ў аглоблі гаспадар... біў ці не...

*М а м к і н паказвае жэстамі А р к а ш к у, каб той не вельмі шчыраваў.*

М і л і ц ы я н е р. Слухаю, слухаю, гняды.

А р к а ш к а. Спаў, як заўсёды, стоячы.

М і л і ц ы я н е р (*Мамкіну).* А цікава, праўда? Як так можна – стаяць і спаць? Хаця было ў мяне… на першым пасту ў арміі ахоўваў сцяг палка… Стаяў з аўтаматам і спаў… Ну, ну, далей…

А р к а ш к а. Снедаў? А ці снедаў я? Гаспадар, не памятаеш?

М а м к і н. Ты што, ядрона вош, забыўся? Выветрыла? А хто табе карзіну буракоў прыносіў? З неба ўпалі?

А р к а ш к а. А-а, правільна. Былі, былі буракі ў рацыёне. Тыя, якія ты на калгасным полі краў, а я, дурань, цягнуў воз з крадзеным. Даравац сабе не магу.

М а м к і н. Во хлусіць, а? Во дае! Яго паслухаць!..

М і л і ц ы я н е р. Цікава, цікава. Так і запішам: снедаў крадзенымі буракамі. Коні не крадуць. Крадуць іх гаспадары. Мамкін, цябе датычыць.

М а м к і н. Ды каго вы слухаеце, таварыш міліцыянер? Лухта! Паўнейшая!

М і л і ц ы я н е р. Не перашкаджайце. Гавары, гавары далей, конь.

А р к а ш к а. Ну, пасля буракоў запрог ён мяне ў калёсы, і паехалі мы з гаспадаром на ферму. Там яго знаёмы вартуе малако. Зачэрпнуў ён вядро смятаны…

М а м к і н. Во дае! Во хлусіць! Затыкніся, гад! Адкуль там смятана?

М і л і ц ы я н е р *(Мамкіну).* Не перашкаджаць! Давай, давай, конь, давай. *(Аркашку).* А цябе, дарэчы, як ён звычайна называў?

А р к а ш к а. Быдла. Абжора. Крэцін. Якая мянушка вам найбольш спадабаецца, тую і выбірайце. Хоць па пашпарту я – Аркашка.

М а м к і н. Не верце. Аркашкам і зваў- велічаў. Толькі так.

М і л і ц ы я н е р. Я вас не пытаю, Мамкін. На штраф нарываешся. Слухай, Аркашка.

А р к а ш к а. Ну, а тады, значыць, адвезлі мы тое вядро са смятанай… мне б той смятанкі хоць язычком лізнуць… дачніцы адной…цётцы Гулі…

М і л і ц ы я н е р. Так і запішам: цётцы Гулі. А прозвішча яе не памятаеш?

А р к а ш к а. Не. Аднак магу паказаць, дзе яе дача.

М і л і ц ы я н е р. Пакажаш.

М а м к і н. А хто бачыў? Сведкі ёсць?

М і л і ц ы я н е р. Будуць. Знойдзем. Ну, ну, Аркашка.

А р к а ш к а. Яна, цётка Гуля, дала за смятану тры бутэлькі віна.

М і л і ц ы я н е р. Каму?

А р к а ш к а. Не мне ж. Вось яму, гаспадару.

М а м к і н. Хто даваў, хто даваў, мярзотнік? Не было ніякога віна. Хлусіць, таварыш міліцыянер. Напрапалую. Ад пачатку да канца хлусіць. І ўмець жа трэба!

А р к а ш к а. Ён адразу ж і выпіў усё віно. А потым заспяваў і пацягнуў мяне ў лес. Каб набраць дроў і загнаць якой-небудзь удаве. А далей я нічога не помню…

М і л і ц ы я н е р. І пчол не помніш?

М а м к і н *(застагнаў).* Не чапайце, прашу вас, пра пчол! Колькі можна?! У мяне ад іх мурашкі па целе поўзаюць. У-у-у-у-у-у-у!

М і л і ц ы я н е р. Дзякуй, Аркашка. Дзякуй. *(Працягнуў яму пратакол допыту)*. Падпішы.

А р к а ш к а. Чым? Капытом?

М і л і ц ы я н е р *(разгублена)*. А як жа быць? Пратакол… такая форма, такі парадак… абавязкова павінен быць падпісаны.

Ар к а ш к а. А хто мяне, у якой гімназіі, пісаць вучыў? Яшчэ не хапала! Калі б і коні былі граматнымі, то хто б гэтых дурняў вазіў? *(Кіўнуў на Мамкіна).*

М а м к і н. Ну,ну, распаясаўся, бачу!

А р к а ш к а. Не было б каму і плуг цягаць, і барану. Вымерлі б Мамкіны. Як маманты.

М і л і ц ы я н е р. Кажаш ты ўсё правільна і разумна, а як жа нам з подпісам быць?

А р к а ш к а. Твае праблемы, мент.

М і л і ц ы я н е р. Што ж, тады, можа, хоць капытом удаставерыш?

А р к а ш к а. Капытом магу ляснуць.

М і л і ц ы я н е р. Давай!

*А р к а ш к а прыставіў да пратаколу капыт.*

М і л і ц ы я н е р *(падзьмуў на тое месца, дзе пакінуў след конь).* Парадак. У кожнай справе, сябры мае, павінен быць парадак. Абавязкова, Мамкін! Падпішы цяпер ты.

М а м к і н. Не буду. Не згодны. *(Адвярнуўся).*

М і л і ц ы я н е р. А з кім гэта ты не згодны?

М а м к і н. Конь Аркашка нахлусіў. *(Аркашку).* Брахунец!

М і л і ц ы я н е р. Тады давай мані і ты. Што было, як? Мані.

М а м к і н. Добра. Угаварыў. Давай пратакол.

М і л і ц ы я н е р. Вось гэта іншая справа.

*М а м к і н падпісаў пратакол. Хоць і няпроста было яму зрабіць гэта: прышпілены ж.*

М і л і ц ы я н е р. Цяпер гэта сур'ёзны дакумент. Важны.

М а м к і н. Мяне што, можа, яшчэ і прыцягнуць?..

М і л і ц ы я н е р. Калі ёсць артыкул, што за рой пчол, якіх ты знішчыў...

М а м к і н *(здзіўлена).* Я? Пчол?

М і л і ц ы я н е р. Безумоўна, ты. А хто ж?

М а м к і н. Бачылі? Чулі? Каня майго на той свет загналі, мяне ледзьве было услед за ім не адправілі...

А р к а ш к а. Не, не! Хоць там, за воблакамі, пажыву без цябе, гаспадар, хоць адпачну. Папраўляйся. Жыві.

М а м к і н *(Міліцыянеру).* А хто мне каня верне?

М і л і ц ы я н е р. Каня? А пчаляр патрабуе, каб ты яму пчол вярнуў... ці заплаціў за рой.

М а м к і н. Што, і ў яго, таго нахабнага пчаляра, сур'ёзныя аргументы маюцца?

М і л і ц ы я н е р. У таго, хто лыжкамі мёд есці, заўсёды аргументы знойдуцца.

М а м к і н. Людзі! Куды ідзём! Куды паўзём?

А р к а ш к а. На могілкі.

М а м к і н *(Аркашку).* Знікні, аблезлы! Згінь! Гаў!

А р к а ш к а. Калі ласка! *(Знікае).*

М а м к і н *(зморшчыўся, бы ад болю).* Падай, таварыш міліцыянер, поліэтыленавую бутэльку... без горла... двухлітровую... А? Выручы. Пад ложкам стаіць.

М і л і ц ы я н е р. Бутэльку? Пад ложкам? Я што, у санітары наняўся? Чакай, Мамкін. Цярпі. Знайду тваю жонку, зніму наручнікі. Так і быць, выратую. Можа, і мне калі вядро смятаны прывязеш? *(Знікае).*

*М а м к і н стогне.*

*У палаце адзін* М а м к і н. *Звесіў галаву, пахропвае. Заходзіць* Д о к т а р.

Д о к т а р. Жонка знайшлася?

М а м к і н. Дзякаваць Богу – не. Нават не сніцца.

Д о к т а р. А што ж нам рабіць з тваімі наручнікамі?

М а м к і н. Яны не мае.

Д о к т а р. На тваіх руках – значыць, твае.

М а м к і н. А што хочаце, тое і рабіце. Але калі б вы не пераводзілі мяне ў іншую палату, я б сказаў вам вялікі чалавечы і мужчынскі дзякуй. Ад чыстага сэрца.

Д о к т а р. Нельга, нельга, Мамкін. Парушаем парадак.

М а м к і н. Я ўжо прывык тут. З жанчынамі добра.

Д о к т а р. Сам ведаю. Але – рыхтуйся. Пара перабірацца. Што-небудзь прыдумаем. Вось-вось павіншуем цябе з наваселлем.

М а м к і н. Я, доктар, чалавек просты... сціплы... зорак не хапаю. Ды і навошта яны мне, зоркі? Сеў на адзін стул – на ім і сядзець павінен. Пакуль стул не зломіцца. Лёг на адзін ложак – на ім і ляжаць павінен, і мне цудоўна на ім ляжаць. Узяў адну жонку – і навякі, і буду, відаць, яе рабом, пакуль не здохну... пакуль у дамавіну не запіхнуць.

Д о к т а р. Разумею, разумею. Толькі не атрымаецца дастукацца да мяне. Не, Мамкін. Хоць і прывыклі вы да наручнікаў, як да стула і сваёй жонкі, аднак прыйдзецца іх зняць. Любым спосабам. *(Выходзіць).*

М а м к і н. Адзін? Адзін застаўся. На ўсю палату. А здаецца, на ўвесь белы свет адзін. І – дажыўся... На каго падобны я, Мамкін? *(Слёзна).* Жонка зусім здурнела, здаецца... *(З'яўляецца жонка, моўчкі стаіць каля дзвярэй).* А я? А сам я? Ну, і навошта я Ігараўне? *(З'яўляецца Ігараўна).* Навошта ёй лысы, аблезлы, як мой конь Аркашка, якому я ніводнага разу не даў аўса? *(З'яўляецца Аркашка).* А гэтыя распутныя Пятроўна і Сцяпанаўна? *(З'яўляюцца Пятроўна і Сцяпанаўна).* Няхай і распусныя, бегаюць на працэдуры і радуюцца, калі усміхнецца там ім які-небудзь прыгожы і цвярозы мужчына, вядомая справа, але ж адстаялі, не аддалі мяне ў суседнюю палату, к мужыкам. Добрыя, аказваецца, жанчыны. А міліцыянер халера гэтая... *(З'яўляецца Міліцыянер ).* Допыт наладзіў. А вось гэта бачыў! *(Паказаў кукіш).* Так і возьмеш мяне, Мамкіна! Абпалішся! Ты пчаляра прыцягні да адказнасці. Пчаляра! *(З'яўляецца Пчаляр).* Няхай, нягоднік, сочыць за сваімі пчоламі, пасвіць іх. *(Гул пчол, адбіваецца ад іх).* Не! Не! Не! Толькі не яны! Я ўжо не п'ю! Завязаў! Толькі чай!

*М а м к і н а моўчкі зняла з мужа наручнікі, кінула іх на падлогу.*

М а м к і н. Гаварыў жа, гаварыў: не турбуйце пчол! Хто, хто іх патрывожыў?

*Гул знікае.*

М а м к і н. І доктар наш чалавек добры. *(З'яўляецца Доктар).* Цікава, а самі дактары, якія нас лечаць хварэюць? А?

*Паўза.*

П ч а л я р *(трымае на руках збанок з мёдам).* Мамкін, гэта вы Мамкін?

М а м к і н. Я. А вы хто такі?

П ч а л я р. Пчаляр. Наведаць вас рашыў. Мёду прынёс.

М а м к і н *(кідаецца на Пчаляра, але шлях перакрыла жонка).* Пусціце мяне, я сказаў! Пусціце! *(Вырваўся, абняў Пчаляра, цалуе).* За ўсё табе дзякуй. За ўсё. А мёд забяры… аднясі назад… аднясі туды, адкуль і прынёс.

М а м к і н а *(узяла збанок у Пчаляра).* Так мы яму і дазволім аднесці мёд назад! Іншы раз хочацца і мёду! Ад нашага салодкага жыцця!.. Жанчыны, Доктар, лыжкі!

*І ўсе, як па камандзе, ускідваюць над сабой рукі з лыжкамі – драўлянымі і наўздзіў вялікімі.*

*І ўсе танчаць. Нетаропка і шумна. Вакол М а м к і н а і збанка з мёдам.*

*Паступова гасне святло…*

*І раптам той жа, што і раней, адчайны чалавечы крык, іржанне каня. І галасы…*

1- ы г о л а с. Куды яго?

Р э х а. Куды яго? Куды яго? Куды яго-о-о?..

2-г і г о л а с. У жаночы вулей!

1- ы г о л а с. Ён жа ад Івана Іванавіча!

2- г і г о л а с. А-а-а, тады – дамоў! Да жонкі!

Р э х а. Да жонкі! Да жонкі! Да жонкі-і-і!..

К а н е ц.

# СТРАКАЗА І МУРАШЫК,

## або ЗАБЛЫТАНЫЯ СЦЕЖКІ

*Сучасная казка для школьнікаў, студэнтаў і ўсіх дарослых у дзвюх дзеях*

Вершы Алеся Бардоўскага

Д з е й н і ч а ю ц ь:

С т р а к а з а.

М у р а ш ы к.

Ж у к.

Д о к т а р А й б а л і т.

С т а р а я С т р а к а з а, яна ж – Ф е я.

**Д з е я п е р ш а я**

1. НАРАДЖЭННЕ

*Лета. Лес. На палянцы стаіць збан. І неўзабаве з яго пачынае выбірацца Страказа. Спярша паказалася адно крыло, потым – другое, ногі і нарэшце – уся.*

С т р а к а з а *(атрэслася).* Фу-у! Я, здаецца, нарадзілася? *(Прыдзірліва абмацвае сябе).* Ура-а! У мяне з'явілася жыццё!

*Падыходзіць Фея.*

Ф е я. А ты хоць ведаеш, што гэта такое – жыццё?

С т р а к а з а. Не-а. Я нават не ведаю, хто я.

Ф е я. Ты – Страказа.

С т р а к а з а. Стра-ка-за?

Ф е я. Так.

С т р а к а з а. Каб жа хоць не забыцца. Запісаць няма чым?..

Ф е я. Не забудзеш. А я добрая Фея.

С т р а к а з а *(сама сабе).* “Добрая”? Сама сябе хваліць. Адкуль я ведаю, якая ты?..

Ф е я. А цяпер слухай мяне ўважліва.

С т р а к а з а. Так, так. Ага.

Ф е я. Ты нарадзілася ў рэчцы, паблізу ад лесу, тут будзеш і жыць. Запомні на ўсё жыццё, і старайся гэтаму ніколі не здраджваць: дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся. Паўтары!

С т р а к а з а. Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся.

Ф е я. Тройчы! Яшчэ два разы.

С т р а к а з а. Так, так, зразумела. Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся. Два... Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся. Тры... Ці яшчэ?

Ф е я. Хопіць. Думаю, запомніш...

С т р а к а з а. У, ды ў мяне яшчэ галава зусім пустая, так што не хвалюйся *(Паляпала па галаве: бом-бом-бом!)* – бачыш? Там месца яшчэ і не такому хопіць!..

Ф е я. Гэта пакуль... Не спяшайся. Наб’ецца ў тваю галаву неўзабаве рознага друзу, і сама не заўважыш як...

С т р а к а з а. Абы-што у свой макацёр я не пушчу, не-е, такому не бываць!

Ф е я. Усё, канечне, залежыць толькі ад цябе самой...

С т р а к а з а. Ну, тады прашу не хвалявацца! Я хоць і толькі што нарадзілася, але не прападу.

Ф е я. Аднак я павінна сказаць табе наступнае...

С т р а к а з а. Ну, ну. Першая лекцыя ў маім жыцці. Так, я слухаю.

Ф е я. Акружаюць цябе дрэвы і розныя кветкі, пазней ты сама даведаешся, як яны называюцца... Усё прыйдзе да цябе паступова...не

адразу. Тым больш, што стракозы спярша вучацца чытаць, а потым толькі нараджаюцца.

С т р а к а з а. Адзнач таксама: я адразу і паляцела! *(Паказвае, як паляцела).* Цыр-р-р-р!…

Ф е я. Так, яшчэ! У лесе і вакол ракі жыве шмат жывёл і птушак, мноства самых розных кузюрак… Спадзяюся, з імі ты агульную мову знойдзеш…. Пасябруеш.

С т р а к а з а. Жывёлы? Птушкі? Цікава! Я не адна, значыць?

Ф е я. "Адна"… Бач ты яе, чаго захацела! Гэты свет набіты рознымі жывымі істотамі, як мех крупамі.

С т р а к а з а. Блін, во папалася! Заляцела дык заляцела!

Ф е я. І вось табе на першы час спадчына ад тваіх бацькоў, якія не дачакаліся твайго нараджэння: тут самыя розныя залатыя ўпрыгожванні, грошы на першы выпадак, а потым навучышся сама зарабляць, і пашпарт, што ты сёння нарадзілася і з'яўляешся паўнапраўным жыхаром гэтага прыгожага краю.

С т р а к а з а *( узяла ўсё ад Феі).* Вось гэта іншая справа!

Ф е я. Удачы табе, Страказа! *(Знікае).*

С т р а к а з а. Здорава! Адразу ўсяго так многа! А што гэта яна, добрая Фея, яшчэ пакінула тут? *(Узяла торбачку, дастае з яе люстэрка).* А гэта што такое? *(Чытае).* Люс-тэр-ка? І хто гэта ў ім? *(Крыўляецца).* Я? Страказа? Так, так, гэта я! Я!Я! Я! Я самая прыгожая!!!.. *(Апошняе слова адзываецца рэхам).*

Г о л а с Ф е і. Не спяшайся так хваліцца, дзяўчынка. Ты яшчэ нідзе не была і нічога не бачыла, май на ўвазе.

С т р а к а з а. Хм! Падумаеш! А то я хіба не бачу, хто я такая? Будзеш мяне тут вучыць! Пайшла дык пайшла. Сама разбяруся. *(Дастала расчоску. Не адразу здагадалася, што з ёй рабіць. Нарэшце запусціла яе ў валасы).* Добра, хай будзе і гэтая рэч…. А, дык гэта ж расчоска! Тут вось напісана. Можа калі і прычашуся. *(Дастала цюбік памады).* Памада? Так, так. Усё гэта мне спатрэбіцца. Дзякуй, тата! Дзякуй, мама!.. *(Спявае).*

Дзякуй, тата! Дзякуй мама,
Дзякуй, сонейка, таксама!
Будзе шчасце, будзе лета –
Як я ўдзячна вам за гэта!

Дзякуй, мама! Дзякуй, тата!

Прыгажуняй буду я!
Жыць прыгожа і багата –
Мара першая мая!

## 2. ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА

*Гул машыны.*

С т р а к а з а *(углядаецца).* О! Што гэта за прынц да нас едзе?

*З'яўляецца Жук на іншамарцы. Ён шыкоўна апрануты, увесь з сябе. Асабліва добра гэта відаць, калі ён выбраўся з салона. Страказа разгубілася. Яна ўспомніла раптам пра расчоску, памаду, стаіць спіной да Жука і прыхарошваецца. Жук кашляе, каб звярнуць на сябе ўвагу.*

Ж у к. Мадам! Так, між іншым, гасцей не сустракаюць.

С т р а к а з а. Пачакайце хвіліначку. Не бачыце, занята?

Ж у к (аглядае Страказу, задаволены яе постаццю). Чакаю, чакаю. Хаця і спяшаюся.

С т р а к а з а. І куды,калі не сакрэт, вы спяшаецеся?

Ж у к. Пакуль не бачу, з кім размаўляю, сказаць не магу.

*Страказа павярнулася да Жука, і той пырскнуў смехам: уся яна размаляваная памадай, а прычоска – " я ў мамы..."*

С т р а к а з а. Вось і я!

Ж у к. Ды бачу.

С т р а к а з а. Што скажаце?

Ж у к. Тут паблізу рэчка – памыйцеся, чым хутчэй, тым лепш.

С т р а к а з а. Ну, вось яшчэ... а я так старалася...

Ж у к. Навошта, маленькая дурнічка?

С т р а к а з а. Хацела стаць яшчэ больш самай-самай прыгожай Страказой.

Ж у к. Ты і так самая прыгожая.

С т р а к а з а. Праўда?!

Ж у к. Праўда. Але змый з твару гэты бруд... Табе яшчэ рана карыстацца памадай.

С т р а к а з а. Я зараз! *(Знікае).*

Ж у к. Зусім дзяўчо. Малако на вуснах яшчэ не высыхла. Але нічога, я пачакаю... Не забыць бы толькі гэтае мястэчка ў лесе! *(Знікае).*

## 3.АДЗІНОТА. СУМ

С т р а к а з а. Ну, і гэта, скажыце, жыццё? Сум… суцэльны сум!.. Адны і тыя ж дрэвы і пні… адны і тыя ж птушкі спяваюць… *(Затуляе вушы).* Надакучыла ўсё! Абрыдла! Хачу новага жыцця-я-я! Я ўжо стала амаль дарослай, а нічога так і не змянілася ў маім жыцці. І Жук больш не прыязджае.

*Гул машыны.*

Ён мяне пачуў! Пачуў! Пачуў!

*Зяўляецца Жук. Страказа адвярнулася: капрызіць.*

Ж у к. Мадам Страказа, добры дзень! Што здарылася, чаму ты маўчыш?

С т р а к а з а. З якога часу гэта мы перайшлі на “ты”?

Ж у к. Вось з гэтай хвіліны. А ты хіба супраць?

С т р а к а з а. Куды едзеце, туды і едзьце.

Ж у к. А можа я наўмысна да цябе прыехаў?

С т р а ка з а *(павярнулася да Жука, радасна).* Так, да мяне? Спецыяльна?

Ж у к. Да цябе, да цябе. Толькі нядобра так сустракаць важнага госця… Другі раз прыязджаю, і любуюся вашым… прабачце… як бы тут сказаць… Ну, тым месцам, на якім сядзіце…

С т р а к а з а. Скажаце таксама!

Ж у к. Можа ўсё ж на “ты” будзем?

С т р а к а з а. Ну, як вам зручней…

Ж у к. Нам, нам так будзе зручней – не толькі мне. Дык вось, за той час, што я тут не быў, ты падрасла, папрыгажэла, і, спадзяюся, памудрэла.

С т р а к а з а. Усё добра, усё так, але сумна… Нутода, хоць плач!

Ж у к. Каб табе не было сумна, вось табе наутбук…інструкцыя па карыстанні… займіся. Я пастараюся вярнуцца. Хаця і не абяцаю – я Жук заняты. Але гавару ж: пастараюся. *(Знікае).*

С т р а к а з а. Гэта ён што… гэта ён ужо паехаў? Як крыўдна!..

## 4. ПОГЛЯД У СВЕТ

*Страказа перад наутбукам.*

С т р а к а к а з а. А самае крыўднае, што яно, тое прыгожае жыццё, ёсць. Ну, чым не рай? Гляньце толькі! Калі б хто сказаў – ніколі б не паверыла. А то ж сама бачу! Сама! Жывуць жа некаторыя….каб ім!... П’яюць, ядуць і нічога не робяць. А калі што і робяць, дык толькі цалуюцца: цмок-цмок-цмок!.. Цьфу! А тут памрэш і згнееш недзе сярод вось гэтага прэлага рыжага лісця, а тады яшчэ які мядзведзь наступіць і растопча… ці кучу на цябе шлёпне… замест надгробнай пліты… *(Раптам схамянулася).* Што… што гэта я запанікавала, зусім нос павесіла, нюні распусціла? Вышэй галаву, Страказа! Шырэй крок! *(У руху).* Мы павінны быць там, дзе п’юць, ядуць і цалуюцца! Што, ім адным такое можна? Што, ім адным такое дазволена? А вось гэта бачылі?! *(Тыцнула кукіш).* Без мары нельга жыць, Страказа! Я даб’юся свайго, чаго б гэта мне не каштавала!... *(Прыхарошваецца перад люстэркам).* І вядзі сябе, Страказа… Вядзі сябе крышачку… ну нават не крышачку – а вельмі нахабна…і хітра… і не дазваляй адразу лапаць… абдымацца… Яны там усе такія… бачыла – з ходу… а потым толькі пытаюцца: а як цябе зваць?.. У мяне такое не пройдзе – майце на ўвазе, жанішкі!.. *(Спявае).*

Жыць хачу я без турбот
Кожны дзень і цэлы год –
У блін я распляшчуся,
А свайго даб’юся!

І няхай мне жук не пара –
Разумею добра я –
Каб збылася мая мара
Я на ўсё гатовая.

5. ЖУК і СТРАКАЗА

*З’яўляецца Жук.*

Ж у к. Маё шанаванне, мадам!

С т р а к а з а. І маё… стра… стра…казёл…

Ж у к. Як… як ты сказаала?

С т р а к а з а. Ніяк.

Ж у к. Зразумела… Страказёл – гэта, мусіць, у цябе так мужа будуць зваць. Стра-ка-зёл. А што – гучыць! *(Спрабуе пацалаваць ручку Страказы).* Я – сэр Жук!

С т р а к а з а *(не дае).* Яшчэ чаго не хапала! Другі раз убачыў, і ўжо дай яму тое, што належыць мне. Не лапаць! Сэр!..

Ж у к. Сапраўды, другі раз… і тое – праездам. Хаця магу і затрымацца… Х-хм! Час маю. У тым лесе, куды я еду, пачакаюць… А? *(З намёкам).* Дык што, мне затрымацца? Ці гоніш?

С т р а к а з а *(зацікаўлена).* А што ў тым лесе? Альбо сакрэт? Мо важнасць якая?

Ж у к. Ды не, які сакрэт. Але пра гэта я пакуль асабліва не распаўсюджваюся. Згодна з міжнародным дагаворам. Там, дзе пахне вялікімі грашыма, язык трэба трымаць… разумееш дзе?

С т р а к а з а. Так, так: за зубамі.

Ж у к. Хвалю за знаходлівасць. Ты хоць раз поўную сумку даляраў трымала?

С т р а к а з а. Не, я і наогул не бачыла іх, даляраў.

Ж у к. Пабачыш і патрымаеш. Той, хто хоць раз патрымаў мільён такіх грошай у руках, таму ўжо цяжка жыць без такіх практыкаванняў. *(Некалькі разоў падняў і апусціў уяўляемую торбу з грашыма).*

С т р а к а з а *(гэтак зрабіла і яна, і такое ўражанне , што апынулася на мяжы страты прытомнасці).* Грошы… мільён… грошы… мільён…

Ж у к. Добра. Бачу, ты не ў настроі, Страказа?.. Магчыма і сустрэнемся…

С т р а к а з а *(у бок).* Можа я залішне строгая, прынцыповая з ім?

Ж у к *(дастаў з кішэні калькулятар, робіць выгляд, што падлічвае рахункі, нешта мумкае сабе пад нос).* Наутбук жа глядзіш?

С т р а к а з а. Я без яго зусім ад суму памёрла б! Адзін ён і выратавальнік мой… *(Мляўка).* Ды што наутбук – ён хоць і добрая рэч, але ж не жывая істота…

Ж у к. Глядзі, глядзі наутбук. Пакуль…*(Знікае).*

С т р а к а з а *(крадком памахала ўслед Жуку, уздыхае).* Прыгожы які! Не менш прыгожае і аўто! Відаць, і сапраўды багаты! “Пахне вялікімі грашыма…” (*Нюхае паветра).* Цікава, а назад па гэтай дарозе ён будзе ехаць? Ну а па якой жа? Па гэтай не па гэтай, а нас, жанчын, кахаюць не толькі таму, што мы прыгожыя, а яшчэ больш – што дагледжаныя.

### 6. СТРАКАЗА, ЖУК і МУРАШЫК.

*Мурашык, сагнуўшыся ў тры пагібелі, нясе бервяно і спявае:*

Паднімаю бервяно,
Хоць і цяжкае яно –
Няма часу балаваць,
Трэба хатку будаваць…

Час нядоўгі прабяжыць –
Горблюся не марна я:
Будзе ў ёй са мною жыць

Страказа каханая.

*Страказа наводзіць марафет, робіць розныя кульбіты, дэфілюе… і раз-пораз прыхарошваецца перад люстэркам, таму ледзь не сутыкнулася з Мурашыкам.*

С т р а к а з а. Ну, блін!.. А паасцярожней нельга?

М у р а ш ы к. А, гэта ты?

С т р а к а з а. Я, я. А хто ж яшчэ?

М у р а ш ы к. Прывітанне, Стракозачка!

С т р а к а з а *(адразу перамянілася ў твары).* Як, як ты мяне назваў? А ну паўтары.

М у р а ш ы к. Стра-ко-зач-ка.

С т р а к а з а. О, дзякуй! Я вельмі кранута і расчулена. Мяне яшчэ так ніхто і ніколі не называў: Стра-ко-зач-ка. Прыемна, прыемна.

*Танчыць.*

М у р а ш ы к. І мне прыемна… Ой! Што гэта? *(Бервяно раскручвае Мурашыка).*

С т р а к а з а. Э-э, паасцярожней з бервяном! Ты што, Мурашык, такое задумаў?!

М у р а ш ы к. Калі ж яно надта цяжкае. І не слухаецца.

С т р а к а з а. Пакладзі на зямлю. Пакладзі, пакладзі, а то заб'еш зусім мяне. Чуеш, цыркач,што я табе сказала? А ў мяне, можна сказаць, толькі жыццё пачынаецца…ні сёння заўтра… Чуеш?

М у р а ш ы к. Ды чую! Але ж і пакласці яго не так проста… Стараюся – не атрымліваецца.

С т р а к а з а. Што б ты без мяне рабіў? *(Дапамагла Мурашыку пакласці бервяно на зямлю).*

М у р а ш ы к. Адзін не справіўся б, сапраўды.

С т р а к а з а. З-за такіх мурашак, як ты, і па лесе не пагуляеш! Туды-сюды носіцеся, як не ведаю хто! Во, во – і зараз бервяно пёр большае, чым сам. Глядзі, не надарвіся! І наогул, вы можаце калі-небудзь угаманіцца ці не, мурашкі?

М у р а ш ы к. Не-а. Ніколі.

С т р а к а з а. Дзякуй за шчырасць. Цябе ўжо не перавыхаваеш…позна!

М у р а ш ы к. Мы працавіты народ, май гэта на ўвазе, Страказа! *(Сеў на бервяно, выцер узмакрэлы лоб насоўкай).*

С т р а к а з а. Ды маю, маю. Хто ж гэтага не ведае? Знайшоў чым здзівіць мяне.

М у р а ш ы к. І зусім не збіраўся здзіўляць… Вельмі трэба.

С т р а к а з а. А ну-ка!.. *(Сагнала Мурашыка, і ходзіць па бервяне як гімнастка).* Ідзеш дык ідзі, чаго рассеўся?

М у р а ш ы к. Стаміўся. *(Сеў на зямлю).* Адпачну трошкі. І на цябе пагляджу.  Можна?

С т р а к а з а. Глядзі. Мне не шкада.

*Мелодыя кахання.Страказа дэфілюе на бервяне.*

М у р а ш ы к. Прыгожая ты.

С т р а к а з а. Сама… сама ведаю ведаю. Ой! Ледзь не зляцела!..

М у р а ш ы к. Фігурка ў цябе харошая.

С т р а к а з а. Дыету захоўваю…

М у р а ш ы к. Можа… можа…

С т р а к а з а *(саскочыла з бервяна).* Ой, гора! Ды кажы што надумаўся. Ці язык праглынуў?

М у р а ш ы к. Ёсць… Маецца…

С т р а к а з а. Дык у чым справа?

М у р а ш ы к ( у бок). Было не было! *(Да Страказы).* Можа,  будзем сябраваць?

С т р а к а з а *(здзіўлена, смяецца).* Сябраваць? З табой? Ой, не магу! Трымайце мяне!.. Думай, што гаворыш!.. Лепей бы ўжо і сапраўды маўчаў… Мурашык – і жаніх? Яшчэ не хапалаа! Х-ха-ха-а-а-а! Я і ты? Смешна! Яшчэ калі-небудзь такую лухту скажаш, і я ўпаду, дзе стаю … Пашкадуй. А бервяно пакінь. Я буду паставу сваю на ім падтрымліваць. Як я выглядаю на тваім бервяне, Мурашык? *(Зноў ускочыла на бервяно).*

*М у р а ш ы к паказаў язык. Адвярнўся.*

С т р а к а з а. Ой! Зноў ледзь утрымалася. Але нічога –  навучуся!..

М у р а ш ы к *(роспачна).* А я-та  думаў…

С т р а к а з а. Ён думаў! *(Смяецца).* Індык думаў, ды ў суп трапіў.

М у р а ш ы к. Не пашанцавала яму…

С т р а к а з а. Можна падумаць, што табе пашанцвала. (Саскочыла з бервяна).

М у р а ш ы к. А ты… а ты куды сабралася, Страказа, калі не сакрэт? Гляньце на яе – намазалася!

С т р а к а з а *(смяецца).* Гуляю. “Куды ж я сабралася?”Свежым паветрам дыхаю. Танчу і спяваю. Ты што, байку Крылова не чытаў?

М у р а ш ы к. А, зразумела.

С т р а к а з а. Ну, а сам ты, Мурашык, што сабраўся рабіць?

М у р а ш ы к. Як – што? Зіма ж набліжаецца, неўзабаве снег пойдзе, а ў мяне яшчэ хаткі няма. Будаваць хатку буду.

С т р а к а з а. О як! Ну будуй, будуй. А я пагуляю. Эх, люблю пагуляць-павесяліцца – ды так, што іншым і ў сне не прысніцца!..

М у р а ш ы к. Глядзі сама… гуляй… спявай… пабачым, што потым з гэтага атрымаецца…

С т р а к а з а. За мяне не хвалюйся, Мурашык! Я не прападу! (Танчыць).

М у р а ш ы к. У кожнай жывой істоты павінна быць свая хатка… свой домік…

С т р а к а з а. Павучы, павучы шчэ мяне!

М у р а ш ы к. Ды бачу, бачу: ты надта разумная. Ну-ну. А што далей будзе? Потым? Калі завіруха завые, мароз цісканe?

С т р а к а з а. Ідзеш дык ідзі! Правальвай! Ну, каму сказала? А бервяно пакінь.

М у р а ш ы к. Як жа я пакіну яго, калі дом будую?

С т р а к а з а. Можна падумаць, адно бервяно справу вырашыць?

М у р а ш ы к. Курачка па зярнятку клюе…

С т р а к а з а. Усё ты знаеш, усё ты ведаеш! Глядзі, састарышся рана.

М у р а ш ы к. Ну, я пайшоў…

С т р а к а з а. Будуй, будуй сваю хатку, будаўнік!…

М у р а ш ы к *(спрабуе падняць бервяно, але не можа).* Нешта яно цяжкім зрабілася? Падымаў жа… І нёс. Дзіўна.

С т р а к а з а. Гора ты, Мурашык!

М у р а ш ы к. Лепш дапамагла б падняць… чым языком мянціць…

С т р а к а з а. Хы! Яшчэ не хапала! То знімі, то падымі. Знайшоў рабыню.

М у р а ш ы к. Якая ты ўсё ж лянівая!..

С т р а к а з а. Гэта як сказаць… Кожнаму – сваё… Вунь наутбук не лянуюся глядзець… Вось дзе жыццё!

М у р а ш ы к. Добра там, дзе нас няма.

С т р а к а з а. Ну, чаго вочы на мяне вытрашчыў? Першы раз бачыш?

М у р а ш ы к. Прыгожая ўсё ж ты…

С т р а к а з а. Але мая прыгажосць не табе належыць. Дайшло, хіляк? Тупай, тупай далей.

М у р а ш ы к. Ды разумею… Эх! *(Падняў нарэшце бервяно).* Прабач, Страказа… зіма на носе… Некалі мне… Час прыспешвае…

*Гул машыны.*

С т р а к а з а *(радасна пляскае ў ладкі).* Жук, Жук едзе! Мне б з ім пазнаёміцца бліжэй! Вось гэта жанішок! Аўто! Наутбук! Грошы!... Я з ім, між іншым, на “ты”.

*Зяўляецца Жук. Мурашык таксама зацікавіўся госцем.*

Ж у к. Прывітанне, лясная глухамань!

С т р а к а з а. Рады бачыць, Жучок, цябе зноў у нас!.

М у р а ш ы к. А сам адкуль прыпоўз?

Ж у к. Гэта хто – я прыпоўз? Ты што, мой лексус-350 не бачыш?

*І раптам Мурашык не ўтрымаў раўнавагу, бервяно пачало круціцца разам з ім і зачапапіла Жука. Той упаў.*

Ж у к. Не зразумеў? (Не адразу падняўся, чухаецца). Што гэта на мяне ўпала? Метэарыт?

С т р а к а з а. Ды не! Гэта ж Мурашык сваім бервяном агрэў цябе… па кумпалу… Хвіліначку! Я побач! *(Выцірае твар Жуку сваёй насоўкай).*

Ж у к. Ды я цябе зараз, нягоднік, раздаўлю, мокрага месца не пакіну!

.М у р а ш ы к. Не вінаваты я. Бачыце ж. Бервяно само мяне пацягнула ў той бок, дзе ты, Жук, стаяў…

Ж у к. Вось дык сустрэча?!

М у р а ш ы к. Прабач, Жук! Не хацеў.

Ж у к. Ну і што пасля ўсяго гэтага я павінен з табой зрабіць?

С т р а к а з а. Дай яму! Дай яму, Жучок!

Ж у к. Маё пакаранне будзе наперадзе. Я прыдумаю, што яму зрабіць такое, каб ён ажно піскнуў!..

С т р а к а з а. Хуліган, а! Бандзюк!

М у р а ш ы к. А цябе, Страказа, не чапаюць.

С т р а к а з а. Зачапіў бы толькі – мала не было б.

*І раптам Мурышык зноў не ўтрымаў раўнавагу, бервяно пачало круціцца разам з ім і зачапапіла на гэты раз Страказу. Тая пляснулася вобзем..*

С т р а к а з а. Мяне? Страказу?

*Жук рагоча.*

М у р а ш ы к. Цябе, атрымліваецца… вось… Прабач таксама. Я не хацеў…

С т р а к а з а. Ты, Мурашык, забыўся хіба, што я табе толькі што гаварыла? “Прабач таксама. Не хацеў”. Прабачэнні прасіць, бачу, ты вялікі аматар. А рукі распускаеш!..

М у р а ш ы к. Гэта ж не я – ну бервяно вінаватае. Што, слоў не разумееце? Не слухаецца зусім чамусьці мяне яно… Бервяно вініце. *(Апусціў нарэшце бервяно).*

С т р а к а з а. Хопіць апраўдвацца. Нясі, куды нясеш нарэшце свой будаўнічы матэрыял!

М у р а ш ы к. Паспрабую зноў падняць… І чаму яно, цікава, перастала слухацца мяне – не зразумею. Раней ніколі такога не здараался з ім.

Ж у к. Сустрэлі, гляджу, мяне выдатна. Бервяном па галаве. Ну, дзякуй. Малайцы.

С т р а к а з а. Гэта не я! Сам жа бачыў хто…

Ж у к. Добра, добра. Да вяселля зажыве.

С т р а к а з а *(запляскала ў ладкі).* А да якога вяселля? З кім, а, ты вырашыў пабрацца шлюбам? Ці сакрэт на ўвесь свет?

Ж у к *(важна змерыў Страказу вачыма).* Хы-эм! А хоць бы і з табой, а?

С т р а к а з а. Я… я… я…

Ж у к. Так, бліжэй да справы.

С т р а к а з а. Слухаю!

Ж у к. Ну, як тут пажывае лясная глыбінка? Чым пахваліцеся?

С т р а к а з а *(надзьмулася).* А я думала, цябе больш цікавіць, як я пажываю?

Ж у к. І ты, і ты, канечне. Бачу, нявесела тут у вас. Мураш вунь бервяно некуды цягне… што, больш заняцца няма чым?

С т р а к а з а. Гэта ён будаваць сабе хатку сабраўся.

Ж у к. Хатку будаваць? Сам? Ты што гэта, Мураш, зусім звар’яцеў?

С т р а к а з а. Вось і я яму пра тое ж самае…

Ж у к. А бабры навошта? Гэта ж іх справа будаваць хаткі… Не адбірай у баброў хлеб.

М у р а ш ы к. А мне што рабіць загадаеш – цэлымі днямі спаць? Ды такую хатку, якую пабудую я, ніводны бабёр не зробіць.

С т р а к а з а. Кажу яму: гуляй таксама – як і я, дзівак! Не слухаецца. Хаця работа дурняў любіць.

М у р а ш ы к. Кожны сам для сябе павінен хатку будаваць. Мядзведзь, Ліса…

Ж у к. Эх, Мурашык, Мурашык! Можна ж зусім хаткі не будаваць і жыць шыкоўна. Не ведаеш ты, што такое салодкае жыццё…

С т р а к а з а *(хітравата-зацікаўлена).* І я, мусць, таксама не ведаю? А… а якое яно, Жук, тое салодкае жыццё? А? Падстаўлю вушка.

Ж у к. Яно, Страказа, – цуд! Дзе я быў толькі што…

С т р а к а з а *(нецярплівa і лісліва).* А дзе ты быў, шаноўны?

Ж у к. Дзе я быў, там вас няма. За мяжой. У многіх краінах адразу. Там гэтых сувеніраў… чуеш, Мурашык?.. *(Раздае “заморскія” сувеніры).*

М у р а ш ы к. Чую, чую. Не глухі. *(Неахвотна ўзяў сувенір).*

Ж у к. …на кожным кроку. Бяры, бяры: у новай хатцы спатрэбіцца. На сцяну павесіш.

С т р а к а з а *(Жук накінуў ёй на плечы шалік).* Ой, а мне за што такая ўвага?

Ж у к. Для такіх прыгажунь не шкада!

С т р а к а з а *(адразу ж павязала шалік на шыю).* Ну, як я?

Ж у к. Цуд! Цяпер цябе ніхто не пазнае!

*Мурашык пырскнуў смехам, адвярнуўся.*

С т р а к а з а. Дзякуй за камплімент..

Ж у к. Дык вось…

С т р а к а з а. Ну, ну. Што там далей? Уяўляю!..

Ж у к. Дык я ж і кажу: там гэтых хатак – заходзь  і жыві. Выбірай любую хатку. На свой густ. І амаль бясплатна. Іх там – у-у-у!.. А ў крамах!.. А якія каруселі!.. Не, вам мяне не зразумець: мяне зразумее толькі той, хто там пабывае. Заўтра еду зноў за мяжу! Не магу я жыць у гэтым цёмным лесе і дня! Абрыд ён мне, гэты лес!..

С т р а к а з а. І мне, і мне абрыд! Вазьмі мяне з сабой, Жук? А? Вазьмі!

Ж у к *(аглядае Страказу яшчэ больш уважліва, ацэньваючы).* Цябе? З сабой?

С т р а к а з а. Так. Мяне. З сабой. *(Скокнула на бервяно.Дэфілюе).*

Ж у к. Можна.  Гэта можна. Так-так-так. А што ты ўмееш яшчэ рабіць, Страказа?

С т р а к а з а. Магу спяваць і танцаваць не толькі на бервяне. Бяру любую ноту. *(Бярэ ноты не зусім удала).*

Ж у к. Жадаю  паглядзець на твае таленты глыбей. Ну, давай, давай, паказвай!..

*Страказа спявае.*

Ж у к *(паапладыраваў).* Брава, брава! А танец жывата ўмееш?

С т р а к а з а. Аб’яўляю: танец жывата! *(Паказвае танец).*

Ж у к. Брава! Брава! Буду мець цябе на ўвазе. *(Каб не пачула Страказа).* Там танец жывата пойдзе на “ура”. *(Да Страказы).* І ўвогуле ты мне падабаешся… *(Ціха, на вуха Страказе).* А муж цябе шукаць не стане?

С т р а к а з а. Х-ха-ха-ха-а-а!.. Які можа быць муж у незамужняй, маладой і прыгожай  Страказы? Х-ха-ха-а-а!…

Ж у к. Гэта мне падабаецца яшчэ больш. Мурашык!

М у р а ш ы к. Ну, што табе?

Ж у к. Адказваеш за Страказу. Каб з яе ніводная валасінка не ўпала.

М у р а ш ы к. Ды не магу я… я дом будую…

Ж у к. Пацерпіць твой дом.

С т р а к а з а. Слухай, лапаць, што табе разумны Жук гаворыць!

Ж у к. Вось-вось.  А я хутка вярнуся – у мяне неадкладныя справы: трэба аднесці пашпарт для афармлення чарговай візы. І дамоўлюся наконт цябе, Страказа.

С т р а к а з а *(ляпае ў ладкі).* Я прагну за мяжу! Я так моцна хачу туды – каб хто ведаў як!.. Ух, здорава!..

Ж у к.  Усё будзе ў ажуры! Ведай, з кім пасябравала!  Наутбук у тваім рапараджэнні. На ўвесь час. Прэзент. Падарунак. А?

*І Мурашыка зноў занесла з бервяном, і ён зачапіў аўто Жука.*

*Выбух эмоцый.*

С т р а к а з а. Ой! Што будзе?!..

Ж у к. Што ж… што ты нарабіў, мужык? На каго лапу падняў? Ды я цябе зараз у парашок сатру! “Мара”. Чуў пра такі? *(Наступае на Мурашыка, той не можа саўладаць з бервяном, і пад яго трапляюць адразу Страказа і Жук).* Ды ён… ды ён спецыяльна так робіць! Каб нашкодзіць мне! Ён здекуецца з нас!

С т р а к а з а. І мне! Што гэта ў мяне на лбе… шышка?

Ж у к. А то!

С т р а к а з а. Шышка! У мяне на лбе шышка!!! *(Тупае, плача).* Цяпер куды я годная з такім тварам?!

М у р а ш ы к. Я не хацеў! Я не жадаў!… *( І зноў бервяном зачапіў аўто).*

Ж у к. Заб’ю! Знявечу!

С т р а к а з а. Гэта ён так глядзіць, каб з мяне ніводная валасінка не ўпала!

М у р а ш ы к. Заб’е… знявечыць… Гэта дакладна…*(Уцякае, пакінуўшы бервяно).*

*Страказа і Жук прыходзяць ў сябе, нібы пасля вялікай бойкі. Охоюць і ахаюць. Трымаюцца за балячкі.*

Ж у к. Хай скажа дзякуй, што уцёк. Але мы сустрэнемся з табой, Мураш! Чуеш?

Г о л а с М у р а ш ы к а. Чую, чую!..

Ж у к. Гэта я Мурашыка палохаю толькі. Навошта ён мне? Не хачу лапкі мараць. А машына? Ды я магу іх пяць купіць!..

С т р а к а з а. І мне купіш?

Ж у к. А як жа!.. Абавязкова!

С т р а к а з а. Калі я з табой, і шышка мая зусім не баліць…здаецца?..

Ж у к. А то! Ведай, з кім!

*Жук сядае ў машыну і імгненна знікае.*

С т р а к а з а. Які ён усё ж прыгожы, гэты Жук! Надзейны. З ім, відаць, нічога не страшна? Мужчына!

*Страказа глядзіць наутбук, захапляецца, жыва рэагуе на ўбачанае.*

*Перад яе вачыма стракочуць кадры салодкага жыцця…*

*Мурашык вярнуўся, моўчкі пацягнуў бервяно, знікае.*

С т р а к а з а. Жывуць жа людзі! Мне б хутчэй туды! Мне б!.. Мне б паглядзець Парыж і памерці!..

Ж у к *(вярнуўся).* Харошага патрошкі. Ну як – падабаецца?

С т р а к а з а. Скажаш! Я на сёмым небе ад шчасця!

Ж у к. У мяне праблемы. Нечаканыя. Але – часовыя, спадзяюся. Астатняе там дагледзім. Прабач, забіраю наутбук…*(Забраў наутбук).* Прыйдзецца наутбук здаць у ламбард. Таксама часова. Не, не, ты не хвалюйся: неўзабаве ён будзе тваім. Ты мне верыш?

С т р а к а з а. Хутчэй вязі мяне з сабой, Жук! Я згараю ад нецярпення!..

Ж у к. Чакай! *(Знікае).*

С т р а к а з а. Чакаю, мілы. *(Пасля паўзы).* Жывуць жа людзі!

*Мурашык з'яўляецца з новым бервяном. Ажно крэкча.*

С т р а к а з а. Больш кашы есці трэба, Мурашык!

М у р а ш ы к. Няма каму кашу гатаваць.

С т р а к а з а. Знайдзі повара!

М у р а ш ы к. А ты?..

С т р а к а з а. Ну, па-першае, дзе ты бачыў Страказу на кухні, а, па-другое, зноў кажу, калі запомніць не можаш: я табе не пара.

*Песня "Дэльфін і Русалка" (Н.Каралёва).*

М у р а ш ы к *(задумліва).* Шкада. А то б разам пабудавалі хатку ды і жылі…

С т р а к а з а. Хм, хатку! Прыдумаў! Буду я надрывацца, калі заўтра паеду за мяжу за прыгожым жыццём! Яшчэ пастаць сваю сапсую, лапкі запэцкаю – што нічым не адмыеш. *(Летуценна).* Хопіць, што ўжо шышка ёсць…

М у р а ш ы к. З перцам.

С т р а к а з а. Не перашкаджай марыць і атрымліваць асалоду.

М у р а ш ы к. Шышка з перцам.

С т р а к а з а. Крамы! Атракцыёны! Цырульні шыкоўныя, не тое, што ў нас! Шопінгі! Хаткі, кажа, на любы густ! Заходзь і жыві! А што ты тут збудуеш, Мураш? Ні малатка ж, ні цвіка ў цябе…Будаўнік! Ну-ну, давай-давай, будуй!.. *(Пацягнулася).* Жывуць жа!…

М у р а ш ы к. Тады, можа, хочаш паслухаць, што я табе скажу?

С т р а к а з а *(здзіўлена).* Цябе? Паслухаць?

М у р а ш ы к. Мяне.

С т р а к а з а.  Ой, не смяшы! *(Раптам).* Хаця – кажы! Гавары, гавары! Слухаю! У нас свабода слова.

М у р а ш ы к. Запомні, Страказа: там добра жыць, дзе нас няма.

С т р а к а з а. І гэта ўсё, што ты хацеў сказаць?

М у р а ш ы к. Толькі ў родным краю, як у раю.

С т р а к а з а. Усё ў цябе, правакатар?!

М у р а ш ы к. На чужой старане і на печы холадна.

С т р а к а з а. Прэч з маіх вачэй, нягоднік! Прэч!

*Мурашык падняў  бервяно і панёс яго далей.*

7.ЧАКАННЕ

*Раніца наступнага дня. Страказа ходзіць па лясной палянцы ў чаканні Жука. Нервуецца. Але не забывае раз-пораз прыхарошвацца перад люстэркам, крыўляецца.*

С т р а к а з а. Я і  там, за мяжой, не інакш першай прыгажуняй буду! Канешне, першай! А хто ж, калі не я?  Ну дзе  гэты Жук? Колькі яго чакаць можна? Няўжо… няўжо ён мяне кінуў?

*Падкаціў на аўто Жук.*

Ж у к. Прабач, затрымаўся.

С т р а к а з а *(какетліва).* Я прама ўжо зачакалася ўся!  Ну, Жук! З табой папсуеш усю нервовую сістэму!..

Ж у к. Нічога, нічога. Я ж прыехаў.

С т р а к а з а. Нарэшце. *(Цягне руку, каб той пацалаваў, і Жук убачыў на пальцах залатыя ўпрыгожванні,  на запясці такі ж бранзалет, а таксама завушніцы і кулон).*

Ж у к. О! Пярсцёнак? Бранзалет? Завушніцы? Кулон? І ўсё залатое. Багата жывеш, Страказа!

С т р а к а з а. А ты думаў!

Ж у к. Зайдрошчу.

С т р а к а з а. Але я хачу жыць яшчэ лепш!

Ж у к *(няпэўна).* Ну, калі добра пастарацца…

С т р а к а з а. Мне альбо табе?

Ж у к *(ухіляецца ад прамога адказу).* Усё залежыць… усё залежыць і ад цябе самой…

С т р а к а з а. Тады я не бачу праблем!

Ж у к. Ну, і ад мяне ж, вядома. На тое і жук, каб пабываць у кучы і цэлым і непашкоджаным выпаўзці з яе…Але ёсць адна ўсё ж праблема, дарагая Страказа. За мяжу нельга перавозіць усе твае ўпрыгожванні.

С т р а к а з а. Як гэта нельга?! Чаму?!

Ж у к. Такі парадак. Закон.

С т р а к а з а. Яны ж мае! Што, сваё – і не магу з сабой узяць? Нешта ты не тое гаворыш, Жук.

Ж у к. Тое, тое, дарагуша. На мытні забяруць. Адымуць. І не спытаюць.

С т р а к а з а. А што… а што ж зрабіць, каб не забралі?

Ж у к. Даверся мне. Давай знімай усе ўпрыгожванні, я надзейна схаваю іх у сябе, ніхто і ніколі не знойдзе. Ведай, напамінаю ў чарговы раз, з кім маеш справу! Мяне на мытні ўсе ведаюць. Я там свой жук.

*Страказа зняла ўсе ўпрыгожванні, аддала Жуку.*

С т р а к а з а. Глядзі ж не згубі!

Ж у к. Што ты, што ты! І гэта, прабач, ўсе твае рэчы?

С т р а к а з а. А што, і футра трэба браць? І сукенкі?

Ж у к. Канечне! Абавязкова! А раптам маразы ў дарозе захопяць? Ды ты ж надоўга, а мо і назусім едзеш, дарагая. Не на адзін жа дзень. Думаць трэба.

С т р а к а з а. Я… я на ўсялякі выпадак і хацела сабраць чамадан. Але ж ты сам казаў: там рознага багацця хапае, я так зразумела…вочы разбягаюцца… то навошта, рашыла, цягнуць мае старыя транты туды?

Ж у к. На першы час, на першы час трэба ўзяць усё. Пакуль дабярэмся… гэта ж дарога… усё можа быць… а ўсё сваё яно і ёсць сваё… лепш сагравае і суцяшае… Разумееш?

С т р а к а з а. Дык што мне, бегчы за астатнімі рэчамі?

Ж у к. Канечне! І чым хутчэй, тым лепш!

С т р а к а з а. Глядзі ж, без мяне не з’едзь!

Ж у к. Што ты, што ты! І гэта… і гэта грошы вазьмі… я свае там атрымаю, за мяжой… потым я цябе завалю імі, грашыма…азалачу… Чуеш, любая? І машыну табе падару. Яшчэ лепшую, чым у мяне.

С т р а к а з а. Чую, любы! *(Знікае).*

Ж у к. Усё ідзе па плану! *(Знікае).*

## 8. МУРАШЫК ШКАДУЕ СТРАКАЗУ

*Страказа перад сукаватым дрэвам. Зрывае з яго рэчы і ўкладвае ў чамадан.*

С т р а к а з а. Футра! Сукенка! Джэмпер! Бюстгалтар!.. Усё? Быццам.

*З'яўляецца Мурашык.*

М у р а ш ы к. Усё ж едзеш?

С т р а к а з а. А табе якая справа, еду я ці іду? *(Працягвае ўкладваць рэчы ў чамадан).* Трусікі…

М у р а ш ы к. Ды я не супраць…

С т р а к а з а. Яшчэ б ты быў супраць? Майка…І наогул, хто ты такі, каб даваць мне ўказанні і вучыць, як жыць??

М у р а ш ы к. Пішы хоць…

С т р а к а з а. Дробным почыркам?

М у р а ш ы к. Як пажадаеш.

С т р а к а з а. Пастараюся.

М у р а ш ы к. Усё ж мы суседзі…

С т р а к а з а. Былі, былі суседзямі! Пераязджаю! І, мусіць, назаўсёды! Патрэбен мне гэты лес! *(Разглядвае старыя трусікі).* А гэтыя трусікі ўжо парваліся… пара выкідваць… *(Падышла да Мурашыка, выцерла яму імі нос).*

М у р а ш ы к *(гучна шморгнуў носам).* Ну добра, пайду я.

С т р а к а з а. Цалавацца не будзем.

М у р а ш ы к. Толькі мне здаецца, што Жук цябе…

С т р а к а з а. Чаму замоўк? Сказаў "а", кажы і "б".

М у р а ш ы к. Жук цябе абдурыць. Выкарыстае і выкіне на сметнік… як непатрэбную рэч.

С т р а к а з а *(нервова).* Не здолей так гаварыць больш! Не здолей!

М у р а ш ы к. А можа я і сапраўды памыляюся?

С т р а к а з а. А калі ты не памыляўся?!

М у р а ш ы к. Не ведаю і сам чаму, але нешта мне цябе стала шкада…

С т р а к а з а. І наогул, ты – зайдроснік! Ты не жадаеш мне шчасця! Я цябе бачу наскрозь, паскуднік! Згінь з маіх вачэй! Бачыць цябе не хачу!..

*Мурашык знікае.*

## 9. БОЙКА МУРАШЫКА З ЖУКОМ

*Жук захапляецца залатымі ўпрыгожваннямі Стракозы.*

Ж у к. Пакуль ёсць такія вось лёгкадумныя стракозы – будзем жыць не тужыць! Ух, які пярсцёнак! Ух, які бранзалет!.. Ух, а завушніцы!..

*У гэты час з'яўляецца Мурашык.*

Ж у к. Ляпаць трэба! *(Мітуслівa хавае рэчы Стракозы).*

М у р а ш ы к. А дзверы адчынены былі. Насцеж. І ты, канечне, чакаеш Стракозу?

Ж у к. А што, мне яе нельга чакаць, так выходзіць?

М у р а ш ы к. Навошта ты ёй наабяцаў залатыя горы і кісельныя берагі?

Ж у к *(прытворна-здзіўлена).* Я? Наабяцаў?

М у р а ш ы к. Так, ты.

Ж у к. Кінь глупствы казаць, Мурашык!

М у р а ш ы к. Я ж ўсё чуў.

Ж у к. Нічога я ёй не абяцаў! Ніколі! Нідзе і ніколі! А калі табе нешта прыснілася, то пры чым тут я? Ці прачысці вушы.

М у р а ш ы к. Стракоза там прападзе, павер мне, Жук.

Ж у к. Ну, уявім… яна і сапраўды, Стракоза, апынулася за мяжой… А яна туды рвецца сама, як не знаю куды…

М у р а ш к а. Рвецца, я ведаю.

Ж у к. Вось і ты сам кажаш: рвецца.

М у р а ш ы к. Але ж ты можаш ўсё зрабіць, каб яна засталася дома.

Ж у к. Супраць яе волі, прабач, пайсці не магу. Стракоза ўжо дарослая, мае пашпарт… так што яна сама можа вырашаць, што і як… Даруй, мне таксама пара збірацца. Чаму ты так на мяне глядзіш, Мураш?

Ну не магу ж я пайсці супраць выбару Страказы? Я, здаецца, табе ўсё растлумачыў?

М у р а ш ы к. Жук ён і ёсць жук!

Ж у к *(пагрозліва).* Ну-ну, паасцярожней!  Прашу не абражаць!

М у р а ш ы к. Можа і ты дзе шыю зламаеш? Я б вельмі хацеў гэтага!

Ж у к. Ты на каго качаргой замахваешся, а, недароблены будаўнік?

*Жук накідваецца з кулакамі на Мурашыка. Завязалася бойка. Ніхто з іх так і не перамог. Разыходзяцца.*

## 10. ПЕРАД АДЛЁТАМ

*На паляне Жук. Спявае:*

Не адзін я такі –

Ўсе такія жукі.

Грошы трэба любіць,

І з нічога рабіць.

Грошы трэба рабіць…

Толькі ў гэтым жыцці

Чым з разумным згубіць,

Лепей з дурнем знайсці…

*З'яўляецца Страказа з  чамаданам на калёсіках.*

С т р а к а з а. А вось і я!

Ж у к. Малайчына, Страказа! Шустрая ты, аднак!

С т р а к а з а. Фу, ажно ўспацела! А я такая.  Фу-у! *(Абмахвае сябе веерам).*

Ж у к. Нічога не забылася?

С т р а к а з а. Здаецца, не.

Ж у к. Грошы   ўсе забрала?

С т р а к а з а. І грошы ўсе пры мне.

Ж у к. Давай! Хутчэй! У мяне кішэні глыбокія.

С т р а к а з а. Трымай.  *(Аддае грошы).* Апошнія. Пад падушкай трымала. Усё ленавалася ў горад з'ездзіць і крыдытку ў банку атрымаць.

Ж у к *(з падтэкстам).* З'ездзіш, атрымаеш…На першы час грошай хопіць. А пашпарт?

С т р а к а з а. Узяла, узяла і пашпарт. *(Аддада Жуку).*

Ж у к. Цудоўна! Цяпер – на аэрадром!..

С т р а к а з а. Я кахаю цябе, любы!.. Пачакай, Жук!

Ж у к. Што такое?

С т р а к а з а. А прысесці перад дарогай? На ўдачу, а?

Ж у к. Няма калі рассядацца! Чуеш, самалёт?… *(Пацягнуў Страказу за сабой).*

*Гул самалёта.*

Зацямненне.

## 11. ЗА МЯЖОЙ

*Замежны горад зіхаціць агнямі. Незразумелая мова. Сірэны і візгат машын. У адной з іх едуць Жук і Страказа.*

С т р а к а з а. Якая прыгажосць! Я на сёмым небе ад шчасця!

Ж у к. А далей усё залежыць толькі ад цябе самой.

С т р а к а з а. Я разумею, мілы!

Ж у к. Шоу-балет, хосцес, танцор go-go. Аплата высокая, грошы на харчаванне кожны дзень, за жыллё плаціць не трэба, усяго да 6 выхадаў за вечар па 7 хвілін. 42 хвіліны ў дзень – ну дзе ты такую працу яшчэ магла знайсці, каб не я? А, Страказа?

С т р а к а з а. Я самая шчаслівая Страказа!!! Дзякуй, Жук!

*Зацямненне.*

*Мелодыя чужога шчасця.*

## 12. ПЕРШАЕ РАЗАЧАРАВАННЕ

*Зала, дзе стаіць гул тых, хто назірае за Страказой, якая вырабляе розныя выкрутасы на шасце.*

Галасы адабрэння:

–Брава!
–Біс!

–Страказа – лепшая!..
–Страказа – самая прыгожая!.
–Брава-а-а!
–Біс!

*Страказа нарэшце спускаецца з подыума, дзе яе чакае Жук. Галасы і воплескі не заціхаюць.*

Ж у к. Чуеш, цябе яшчэ патрабуюць? На “Біс” выклікаюць. Давай, давай назад!

С т р а к а з а *(нервова, злосна).* Я стамілася! Я больш не магу!

Ж у к. Як гэта не можаш? А гэта бачыш? *(Трасе пукам папер).* Я ж падрыхтаваў новыя кантракты. Разумееш?

С т р а к а з а. Сам і круціся на тым праклятым шасце! Абрыд ён мне! Як і ты, дарэчы, Жук!

Ж у к *(падлагоджваецца).* Ну прыгажунька мая, ты ж разумніца. Вось, бачыш, новыя кантракты? Выпі таблетку… і давай, давай ідзі на подыум… *(Амаль сілком запіхнуў Страказе ў рот таблетку, даў запіць з бутэлькі).* Цяпер лепш?

С т р а к а з а. Усё, хопіць! Надакучыла такое жыццё! Дзень і ноч працую, а што бачу, акрамя нахабных п’яных твараў? “Шэсць выхадаў па сем хвілін”. Так гаварыў?

Ж у к. Гаварыў тое, што гаварылі і мне.

С т р а к а з а. Дамоў хачу!

Ж у к. Пачакай! Зусім забыўся! Вось табе новае футра. *(Накінуў Страказе на плечы футра).* Бачу, незадаволена?

С т р а к а з а. А дзе абяцанае аўто? Піжо дзе?

Ж у к. Ах, так-так, зусім вылецела з галавы. Ключы, а? Трымай, трымай. *(Уручыў Страказе ключы).* Цяпер падпісвай новыя кантракты, прыгажуня…

С т р а к а з а. Ну, добра… Лічы, ўгаварыў. *(Падпісвае).* Але каб апошні раз я з цябе выцягвала сваё, рвучы жылы!

Ж у к. Я ўсё зразумеў. Больш шкодзіць не буду. А цяпер – к шасту! К шасту, мая дарагая!..

*Страказа з шастом. Гул. Свіст. Воплескі. Кветкі.*

ооо

*Начны горад. Гірлянды агнёў. Працяжны рып тармазоў… Грукат. Лязгат.*

Г о л а с. Аварыя!… Аварыя!.. Аварыя!…

*Зацямненне.*

## Дзея другая

### 13. АВАРЫЯ. БАЛЬНІЦА

*Бальнічная палата. Тут Жук і Доктар Айбаліт. Страказа ляжыць у ложку. Яе не пазнаць – увесь твар загіпсаваны, толькі вочы і рот.*

Ж у к *(нецярпліва).* Ну што, што вы скажаце, Доктар?

С т р а к а з а *(квола).* Піць… Піць…Піць…

Ж у к *(гучна).* Дык што вы скажаце, Доктар? Які прагноз?

Д о к т а р А й б а л і т. Жыць будзе, а танчыць і спяваць – не.

Ж у к. Вы мяне, Доктар, зарэзалі без нажа! У мяне ж кантракты! Разумееце?! Кантракты! Я прапаў! Прапаў! Божа! Мяне ж жывым не пакінуць! Я ж у такой кучы апынуся, у якой яшчэ ніколі не бываў!.. Вы гэта разумеце?

Д о к т а р А й б а л і т. Я ўсё вам сказаў. Маліце Бога, што пасля такой аварыі Страказа засталася жыць.

С т р а к а з а *(трызніць).* Мурашык, ты чуеш мяне? А, табе няма калі слухаць – усё сваю хатку будуеш… бярвенцы цягаеш… Ты харошы, Мурашык… Не тое, што гэты паскуднік Жук… А я далёка… я на самалёце лячу, лячу, лячу… Ён у той бок, мусіць, ляціць, дзе наш лес…. дзе наш луг… дзе наша поле… У кожнага, канечне ж, ёсць родная матуля… І ў мяне ёсць… Толькі я сваю маму не ведаю… Дзе яна, ты мне скажаш, Мурашык? Маўчыш. Пакрыўдзіўся ты на мяне, я здагадваюся. Даруй, Мурашык. Піць… Піць…Піць…

Д о к т а р А й б а л і т. А цяпер пакіньце хворую. Ёй прынясуць вады і дадуць укол, каб заснула і не трызніла.

С т р а к а з а *(квола).* Піць… Піць… Піць…

Ж у к. Як жа быць?… Як жа?.. Куды…. Куды ўцякаць?.. Мне тут заставацца нельга… ні ў якім разе… Мой бізнес лопнуў!.. Жах і крах!.. Крах і жах!.. Я ж крэдытаў у банках набраў!.. Кантрактаў назаключаў!..А чым аддаваць?… Чым?… Мама родная, ратуй мяне!.. Ратуй, мама… Ратуй…

*Доктар Аўбаліт падштурхоўвае Жука да дзвярэй. Выходзяць.*

### 14. МУРАШЫК-БУДАЎНІК

*Мурашык ўсё яшчэ будуе сваю хатку. Будуе і слухае канцэрт па радыёпрыёмніку, які стаіць на пяньку.*

Р а д ы ё. А зараз, таваршы, перадаём тэрміновае паведамленне. Учора ў Парыжы разбілася на сваёй аўтамашыне шырока вядомая ў вузкіх колах наша зямлячка Страказа, якая праславілася тым, што зрывала апладысменты ў начных клубах на шасце, а таксама ўдзельнічала ў шоу-балеце. Стан яе цяжкі, але стабільны… Працягваем навіны…

М у р а ш ы к *(выключыў радыё, хліпае: ледзь плача).* Я ж казаў… Я ж гаварыў… Не паслухалася… Чым жа мне дапамагчы табе, Стракозачка мая каханая? Так, так: я кахаю яе, як і кахаў… хоць ад яе ніколі не было ўзаемнасці… О, прыдумаў! Я пашлю ёй у бальніцу букет нашых самых прыгожых кветак! (Збірае кветкі). Цудоўны букет, праўда ж? Цудоўны! І пах прыемны! Страказа абрадуецца вельмі, я ўпэўнены. Гэтыя кветкі – як лекі… Пабягу на пошту. Чым хутчэй, тым лепш! *(Знікае).*

## 15. КВЕТКІ АД МУРАШЫКА

*Страказа спрабуе рабіць прысяданні і даставаць рукамі падлогу.*

С т р а к а з а. Ой! Ой! Спіна! Баліць!

Д о к т а р А й б а л і т. Смялей, смялей трэба. Запомні раз і назаўсёды: толькі смелым пакараюцца моры і акіяны.

С т р а к а з а. Што, і я змагу яшчэ пакарыць Парыж?

Д о к т а р А й б а л і т. Хлусіць не буду: ну, калі толькі падмятаць вуліцы зможаш… дворнікам працаваць…

С т р а к а з а *(нервова).* Не хачу дворнікам! Не хачу з мятлой хадзіць!..

Д о к т а р А й б а л і т. Я сказаў табе ўсё, што і павінен быў сказаць, мая мілая.

С т р а к а з а. Што, я дзеля гэтага сюды ехала хіба?!

Д о к т а р А й б а л і т. Не ведаю, за чым ты сюды ехала, а мая справа паставіць цябе на ногі.

С т р а к а з а. Дык я ўжо амаль на нагах!

Д о к т а р А й б а л і т. Стаіш. Бачу. Але не так трэба ўставаць… Хутчэй, больш энергічна, рашуча! *(Гучна, строга).* Устаць! Сесці! Устаць! Сесці!

*Страказа выконвае каманды, хоць войкае ад болю.*

Устаць! Сесці!

С т р а к а з а. Я што – у турме?

Д о к т а р А й б а л і т. Амаль так. На сёння хопіць.

С т р а к а з а. Я не жадаю так жыць. Лепш памерці…

Д о к т а р А й б а л і т. Ну-ну, памерці… Выкінь з галавы такія думкі. А ўсё астатняе залежыць цяпер ад цябе. Толькі фіззарадка кожны дзень! Толькі яна!

С т р а к а з а. А Жука вы не бачылі, Доктар Айбаліт?

Д о к т а р А й б а л і т. Пачакай! Як ты мяне назвала?

С т р а к а з а. Доктар Айбаліт.

Д о к т а р А й б а л і т. Першы раз чую, каб да мяне так зваярталіся.

С т р к а к а з а. Гэта казка такая ёсць. Карнея Чукоўскага пра Доктара Айбаліта.

Д о к т а р А й б а л і т. Не ведаю я такога пацыента і ведаць не жадаю…

С т р а к а з а. Ды ён не пацыент – ён пісьменнік. Вы, можа, і Пушкіна не ведаце, і Льва Талстога, і Янку Купалу?

Д о к т а р А й б а л і т. Задурыла ты мне галаву. Я доктар, а не чытач кніг. Мне грошы зарабляць трэба. Разумееш?

С т р а к а з а. Гэта… сапраўды цікава. А каго ж вы тады тут усе ведаеце?

Д о к т а р А й б а л і т. Так, не тлумі мне галаву, дзяўчынка. Пытанні яшчэ да мяне ёсць?

С т р а к а з а. А Жука вы не бачылі, Доктар Айбаліт?

Д о к т а р А й б а л і т. Ім не цікавіўся. Аднак, заўважу: усё грошы, што ты, Страказа, зарабіла ў шоу-бізнесе, клуб пералічыў у маю паліклініку за тваё лячэнне. Да клуба пытанняў няма.

С т р а к а з а. А як жа мне цяпер жыць?

Д о к т а р А й б а л і т. Папраўляйся! *(Выходзіць).*

С т р а к а з а. А як жа мне цяпер жыць?! За што?! Я есці хачу-у-у!.. *(З цяжкасцю ходзіць, спрабуе махаць рукамі, але толькі моршчыцца ад болю).* Ой! Ай! Як мне цяжка – каб хто ведаў! Я не хачу жыць… Тут ёсць дзе акно?.. Зараз. Зараз я… Чым так мучыцца… Адно імгненне, і ўсё скончана… *(Узбіраецца на падаконнік).*

*Доктар Айбаліт неўзабаве вяртаецца. З букетам.*

Д о к т а р А й б а л і т. Табе, Страказа. *(Падае букет).*

С т р а к а з а *(здзіўлена).* Мне?

Д о к т а р А й б а л і т. Табе, табе. *(Дапамагае ёй злезці з падаконніка).*

С т р а к а з а. Вы, напэўна, памыліліся?

Д о к т а р А й б а л і т. Не можа быць.

С т р а к а з а. Так? Не можа?..

Д о к т а р А й б а л і т. Тут і запісачка маецца. Ад Мурашыка.

С т р а к а з а. Ад Мурашыка?!

Д о к т а р А й б а л і т. Падобна на тое…

С т р а к а з а. Ён не забыў мяне?!

Д о к т а р А й б а л і т. Дык ты бярэш кветкі ці не?

С т р а к а з а. Так! Бяру, бяру! *(Узяла букет).* Дзякуй вам, Доктар!

Д о к т а р А й б а л і т. Айбаліт? Так? Правільна?

С т р а к а з а. Так, так. Вы – Доктар Айбаліт. Дзякуй вам.

Д о к т а р А й б а л і т. У дадзеным выпадку гэта не мне належыць “дзякуй”… *(Выходзіць).*

С т р а к а з а. Мне так даўно ніхто кветак не дарыў! А пахнуць як! Якія прыгожыя кветкі! Ага, тут жа і запіска.. “Добры дзень, мая Стракозачка!..” Толькі адзін ён мяне Стракозачкай называе. “Даведаўся, што з табой здарылася бяда. Высылаю букет кветак, рамонкаў… Ты іх любіш… Жадаю хутчэйшай папраўкі! І вельмі хачу з табой пабачыцца… Твой Мурашык…” Мой Мурашык. Даруй, Мурашык, што я табе розныя глупствы казала… Даруй… *(Варожыць на рамоку).* Кахае… Не кахае… Кахае… Не кахае… Кахае… Не кахае… Кахае!!! *(Спявае).*

На рамонках варажыла –
Галаву маю кружыла
Думка шкодная такая:
Ён кахае? Не кахае?

Аказалася ўсё проста
І так лёгка стала мне,
Бо ніводнага пялёстка
Не было са словам “не”.

*І яна забылася пра свае балячкі, танчыць і робіць кульбіты, як і раней.*

*Потым збірае рэчы і пакідае бальніцу.*

## 16. АДЗІНОТА. РОСПАЧ.

*Страказа ідзе па горадзе. Настрой выдатны. Яна з кожным стрэчным вітаецца.*

С т р а к а з а. Добры дзень вам!

*Ёй ніхто не адказвае.*

С т р а к а з а. Добры дзень! Скажыце, як прайсці на вуліцу?…

*Ёй ніхто не адказвае.*

С т р а к а з а. Калі ласка, дзе тут у вас наш консул?

*Ёй ніхто не адказвае.*

С т р а к а з а. Цікава, мне ніхто не адказвае. Усе бягуць-спяшаюцца некуды міма, ім не да мяне… Тут усе чужыя… Тут кожны, мусіць, думае толькі пра сябе… Не падкажаце, людзі добрыя, дзе ў вашым горадзе сталоўка для жабракоў? Я есці хачу!

А Жук, нягоднік, уцёк. Пакінуў мяне адну. Што ж рабіць? Як быць? Каб выбрацца на Радзіму, патрэбны грошы. А дзе іх ўзяць? Можа, паспрабаваць жабраваць? А ў мяне нават і капялюшыка няма, каб пакласці перад сабой. Ды і сорам які! Страказа-жабрачка! Убачыць хто, разнясуць па ўсім белым свеце.

*Песня жальбы.*

*Страказа ледзьве цягне ногі. Куды ідзе – і сама не ведае.*

С т р а к а з а. Мурашык, я думаю пра цябе і зайдрошчу табе. У цябе ёсць свая хатка, якую ты, спадзяюся, ужо пабудаваў. А я галодная і халодная. Начую пад голым небам… сярод чужых людзей жыву, якія не ведаюць маёй мовы, а я іхняй… Сумна і пакутліва тут… Ты мне сніўся, Мурашык, усё часцей і часцей…

*І раптам заўважае стары капялюшык, бярэ яго, сядае і чакае міластыню.*

*У гэты час з'яўляецца Старая Страказа. Апусціла ў капялюшык грошы.*

С т р а к а з а. Дзякуй.

С т а р а я  С т р а к а з а *(насцярожылася).* Пачакай, дзетка!

С т р а к а з а. Вы мне?

С т а р а я  С т р а к а з а. Табе. Ты, аказваецца, размаўляеш на той самай мове, на якой размаўляю і я?

С т р а к а з а. Так.

С т а р а я  С т р а к а з а. Тады бяры свой капялюшык і пайшлі са мной. Галодная, мусіць?

С т р а к а з а. Вельмі.

С т а р а я  С т р а к а з а. Нічога не гавары мне больш. Я па тваіх вачах усё бачу… Я накармлю цябе і дапамагу вярнуцца дамоў, на сваю Радзіму.

С т р а к а з а. Я…я… я вас ніколі не забуду… *(Закінула капялюшык).*

С т а р а я  С т р а к а з а. Добра, там відаць будзе… Хто табе яшчэ дапаможа ў гэтым чужым горадзе, калі не я? А ў мяне такога чалавека, на жаль, у свой час не знайшлося…Ды ты не трымці так, мая харошая. Не хвалюйся. Дам я табе грошай на білет даляцець дадому на самалёце. Бо не хачу, каб ты паўтарыла маё жыццё… Я таксама некалі была маладой і прыгожай дурніцай… А цяпер бачыш, якой стала? Ну, і чаго мы стаім? Пайшлі, дзіцятка… А па дарозе я табе пра сваё жыццё раскажу…

*Старая Страказа і Страказа знікаюць.*

## 17. ЖУК НЕ МОЖА ЎТАЙМАВАЦЦА

*Новая хатка Мурашыка. Яна вабіць вока.*

М у р а ш ы к *(спявае):*

Паднімаў я бервяно,
Хоць і цяжкае яно –
Не меў часу баляваць,
Будаваць – дык будаваць!

Час нядоўгі прабяжыць –
Горбіўся не марна я:
Будзе ў хатцы са мной жыць
Страказа каханая.

*Мурашык знікае.*
*З’яўляецца Жук.*

Ж у к *(захапляецца хаткай).* Вось гэта дык хатка! Мурашык майстар, аднак, нічога не скажаш. Не горш за баброў выштукаваў сабе жытло. А што, калі?… *(Задумаўся).* Так-так-так! Гэта ж ідэя! Што, ён за так мяне бервяном па галаве агрэў? Так проста і “тачку” маю памяў? За ўсё плаціць трэба, дружа. Вось калі я з ім разлічуся… паквітаюся… і не шчаўшчкамі па лбе, а больш сур’ёзна… Ну, ну. Пакуль Мурашык недзе бегае, мы вось што зробім…*(Дастаў з рукзака ліст паперы, маркер).* Была хатка Мурашыка, а будзе лазня Жука. Прыватызуем. Цяпер гэта модна. *(Прымацаваў на хатку шыльдачку: ЛАЗНЯ).* Зусім іншы выгляд. Наштампую білетаў, устанаўлю кошт за адну памыўку – і калі ласка, лясныя жыхары, у лазню! Прашу!.. А з Мурашыкам паступім наступным чынам. Яны, мурашкі, наколькі я ведаю, ходзяць па адной і той жа сцежцы…. Дзе тут гэтая сцежка? Ага, знайшоў. Вось яна. Наліваем гудрону са слоіка…. *(Налівае).* Цяпер парадак. Уліпне Мурашык і яму будзе не да сваёй хаткі. Я, канешне, адшукаю Страказу. І сілком, пад прымусам дастаўлю яе за мяжу. Не прападаць жа кантрактам, а гэта значыць – маім грашам. А на лазню пастаўлю свайго жука. І будзе мне барыш! Заб’ю адразу двух зайцоў. *(Насцярожыўся).* Ідзе, здаецца? Ідзе! Хаваемся. *(Схаваўся).*

*З’яўляецца Мурашык з кошыкам. І тут адбываецца тое, на што і разлічваў Жук: Мурашык уліп. Спрабуе выбрацца з гудрону, але не можа.*

М у р а ш ы к *( нарэшце кліча).* Памажыце-е-е!

Ж у к *(выйшаў са схованкі).* Ніхто табе не паможа, акрамя мяне.

М у р а ш ы к. Вярнуўся?

Ж у к. Як бачыш.

М у р а ш ы к. А Страказа дзе?

Ж у к. Страказа? Якая Страказа?

М у р а ш ы к. Страказа, мая суседка.

Ж у к *(хітруе).* Я, прабач, ужо і забыўся, што яна недзе жыла-была.

М у р а ш ы к. Зразумела. І гэта твая, значыць, работа?

Ж у к. Ну а чыя ж? Канечне, мая. А, дарэчы, дзе яна, Страказа, і сапраўды? Не бачыў? Нічога не чуў пра яе?

М у р а ш ы к. Гадкі ты Жук!

Ж у к. Гадкі ці не, аднак я магу хадзіць, а ты не можаш. Адчуваеш розніцу?

М у р а ш ы к. Бачыць цябе не жадаю!

Ж у к. А прыходзіцца.

М у р а ш ы к. Што табе трэба ад мяне?

Ж у к. Чытай, што напісана на тваёй хатцы?

М у р а ш ы к. “Лаз-ня”.

Ж у к. Усё зразумеў?

М у р а ш ы к. Гэта не лазня, гэта мая хатка! Я сам яе пабудаваў! Сам!

Ж у к. Баюся, табе яна больш не спатрэбіцца… Уліп ты моцна, на гэтай сцежцы і закончыцца тваё слаўнае бясслаўнае жыццё… А вось калі ты мне дабравольна аддасі сваю хатку і скажаш, дзе Страказа, я цябе вызвалю з гэтай пасткі… Дамовіліся?

М у р а ш ы к. Лепш памру, але не прадамся табе!

Ж у к. Вось як! Ну-ну, паглядзім, што ты далей заспяваеш.

М у р а ш ы к. Ты… гэта ты абрабаваў Страказу…я ведаю… і недзе пакінуў яе адну ў бядзе…

Ж у к. Дык ты што, Страказу не сустракаў?

М у р а ш к а. А хоць бы і сустрэў, так я і сказаў бы табе.

Ж у к. Табе, бачу, хораша ў гудроне па вушы сядзець?

М у р а ш ы к. За ўсё заплаціш, Жук!

Ж у к *(спявае):*

А я жук яшчэ той!
На шляху маім не стой –
Налячу! Растапчу!
Быць багаценькім хачу!

За багаццем бягу...
Ні адняць, ні дадаць –
Я за грошы магу
Нават мамку прадаць!

Ж у к. А Страказу я знайду! Абавязкова! *(Знікае).*

М у р а ш ы к. Дапамажыце-е-е!

*Прыбягае Страказа.*

С т р а к а з а. Што з табой, Мурашык?!

М у р а ш ы к. Вярнулася?!

С т р а к а з а. Вярнулася. Я цябе зараз вызвалю... Пачакай крышачку... не хвалюйся... *(Выцягвае Мурашыка з гудрону).* Вось так. Парадак.

М у р а ш ы к. Дзякуй.

С т р а к а з а. Як гэта ты ў такую пастку трапіў? Пад ногі ж глядзець трэба.

М у р а ш ы к. Гэта твой Жук усё...

С т р а к а з а. Мой?

М у р а ш ы к. Твой.

С т р а к а з а. Які ён мой?! Калі б сустрэла – сама не ведаю, што з ім зрабіла б! Эх ты, Мурашык! Раўнуеш, бачу?

М у р а ш ы к *( саромеецца, адвярнуўся).* Вось яшчэ не хапала!..

С т р а к а з а. Раўнуеш, раўнуеш.

М у р а ш ы к. Вельмі трэба...

С т р а к а з а. А калі шчыра?

М у р а ш ы к. Ну калі можа трошкі...

*Страказа прыгарнулася да Мурашыка.*

*Мелодыя дружбы.*

*Мурашык зрывае шыльду “Лазня”.*

М у р а ш ы к. Заходзь у госці, Страказа.

С т р а к а з а. З вялікім задавальннем!

М у р а ш ы к. А хочаш, і жыві са мной.

С т р а к а з а. Жыць? З табой?

М у р а ш ы к. Так. Са мной.

С т р а к а з а *(набівае сабе цану).* Дай… дай падумаць…

М у р а ш ы к. Думаеш?

С т р а к а за. Ага.

М у р а ш ы к. Усё яшчэ думаеш?

С т р а к а з а. Згодна!!!

М у р а ш ы к. Я спадзяюся, байкар Крылоў нас зразумее і даруе…

С т р а к а з а. Я таксама думаю: ён нам даруе… Бо не абавязкова ж мне чакаць зімы, замёрзнуць да касцей, каб прасіцца пагрэцца ў Мурашыка… Тым больш, што я стала іншай, усё зразумела… і ўзялася за розум… Буду гатаваць табе кашку, Мурашык!

### 18. ЖУК ВЯРТАЕЦЦА

*І ў гэты час з’яўляецца Жук.*

Ж у к. Вось ты дзе! Я ведаў, што ты тут і будзеш! Збірайся, паехалі назад! Ну, каму сказаў?!

С т р а к а з а. Адстань! *(Абняла Мурашыка).*

Ж у к. У нас кантракты! Іх трэба адпрацоўваць! На іх твае подпісы! Ты што, у турму хочаш?!

С т р а к а з а. Хопіць з мяне твайго замежжа! Я сытая ім!..

М у р а ш ы к. Яна нікуды не паедзе!

Ж у к. А гэта хто тут квакае?

М у р а ш ы к. Квакаюць жабы, а я Мурашык.

Ж у к. Зноў ты?! А ну пастараніся, Мурашка замарашка! Гэць! Я сілком яе завязу! *(Даганяе Страказу).* Не ўцячэш!

С т р а к а з а. Гэта Мурашык мяне вылячыў! Ён, ён мне кветкі прыслаў, а не ты!

Ж у к. Будзеш мне тут вякаць! Шчасце вялікае кветкі!..

С т р а к а з а. Так, шчасце. Калі б не яны, я б ніколі не паправілася.

М у р а ш ы к. Трымайся, Страказа! *(Выцягнуў з хаткі бервяно, і ўдарыў ім Жука. Жук ўпаў).*

С т р а к а з а. Які ты дужы, Мурашык!

М у р а ш ы к. Гэта калі мы разам…

*Жук тым часам папоўз падалей ад граха. Знік.*

## 19. НОВАЕ ЖЫЦЦЁ

С т р а к а з а. Толькі шкада, хатку сваю ты напалову разбурыў…

М у р а ш ы к. Удвух мы яе хутка адрамантуем, паспеем да халадоў.

С т р а к а з а. Тады за працу!

*Рамантуюць хатку.*

*А тым часам загуў у лесе халодны вецер, з неба пачалі падаць сняжынкі.*

*Мелодыя зімы.*

М у р а ш ы к. Добры дзень, зіма! Мы чакалі цябе. Бачыш, якую добрую хатку пабудавалі? Нам ў ёй будзе вельмі цёпла! Мне і Страказе!

*А вецер гудзе. Скуголіць завіруха.*

*Страказа і Мурашык танчаць.*

С т р а к а з а. Дзякуй табе, Мурашык, за дабрыню тваю!

М у р а ш ы к. Я ж табе яшчэ раней казаў, Стракозачка мая: на чужой старане і на печы холадна.

С т р а к а з а. Цяпер я ўжо на ўсё жыццё запомню словы добрай Феі: дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся.

Р а з а м. Толькі ў родным краю, як у раю.

*Спяваюць. Тэкст гэтай песні Артура Вольскага.*

С т р а к а з а. Любоў!

Любоў – пільнуе нас усюды,
Ніякіх не чакаючы нагод.
Любоў да нас прыходзіць светлым цудам.

М у р а ш ы к. А часам … і зусім наадварот.

С т р а к а з а. Любоў!

Любоў!

І радуе і мучыць.

Трывог нямала з ёю і турбот.

Любоў два сэрцы назаўсёды злучыць

М у р а ш ы к. А часам… і зусім наадварот.

С т р а к а з а. Любоў!

Любоў!

І ўсё наўкол так міла.

Нястрымна кліча нас яна ў палёт.

Любовь дае анёльскія нам крылы.

М у р а ш ы к. А часам … і зусім наадварот.

С т р а к а з а. Любоў!

Любоў!

І хутка заспявае

Ды загудзе вясельны карагод.

Р а з а м. Любоў адна на ўсё жыццё бывае.

Ах, каб толькі … не наадварот!…

Канец.

# З м е с т